УДК 82-3
ББК 84
К26

Шрифты предоставлены компанией «ПараТайп»

**Карповіч Лявон**
К26 Біблейскія гісторыі Старога Запавету, ілюстраваныя паштовымі маркамі : Знаёмства са зьместам Бібліі і яго адлюстраваньнем у мастацтве / Лявон Карповіч. — [б. м.] : Издательские решения, 2021. — 344 с.
ISBN 978-5-0053-2627-0

Кніга «Біблейскія гісторыі Старога Запавету, ілюстраваныя паштовымі маркамі» — вынік жаданьня спазнаць сэнс зьместу Бібліі пры дапамозе мастацкіх твораў, выявы якіх разьмешчаны на паштовых марках розных краін сьвету. Чаму на паштовых марках? Бо адначасова ствaралася філятэлістычная калекцыя «Біблейскія гісторыі». І мэтад паралельнага вывучэньня дае добрыя вынікі. У кнізе каля дзевяноста артыкулаў. І яшчэ спроба маіх разважаньняў над зьместам Бібліі. Спроба зразуменьня яе зьместу…

**УДК 82-3**
**ББК 84**

16+ В соответствии с ФЗ от 29.12.2010 №436-ФЗ

ISBN 978-5-0053-2627-0 

Майму дзеду
Баніфацыю Жураўка
і маёй бабе
Эміліі Жураўка,
якія былі мне як бацькі;

маёй маме Браніславе;

маёй каханай жонцы Валянціне,
якая заставалася
маім спадарожнікам
на працягу ўсяго жыцьця
і падарыла мне
цудоўных дачок;

маім любімым дочкам
Жане, Алёне і Натальлі;

маім цудоўным унукам
Дзімітрыю, Антону і Мікіце

прысьвячаю



# Біблія і філятэлія

*Наказваю вам: любіце адзін аднаго. (Яна 15:17)*
*Усё Пісаньне боганатхнёнае і карыснае для навучаньня, для выкрыцьця, для выпраўленьня, для настаўленьня ў праведнасьці, каб быў дасканалы Божы чалавек, да ўсякае добрае справы падрыхтаваны. (Другое да Цімафея 3:16,17)*

Кнігі Сьвятога Пісаньня, якое складаецца з Старога і Новага Запаветаў, маюць агульную назву «Біблія». Назва паходзіць з грэцкай мовы і азначае ў перакладзе «кніга», якая зьяўляецца найбольш важнай з усіх кніг, проста «Кніга Кніг». Сапраўды, Біблія зьяўляецца адной з найважнейшых кніг у гісторыі сьвету, і не толькі ў сэнсе духоўным, але і літаратурным, гістарычным і сацыяльным. Няма ніякіх сумневаў, што для многіх людзей Біблія зьяўляецца свайго роду жыцьцёвай інструкцыяй, своеасаблівай кнігай псыхалягічнай, філязофскай, унівэрсальнай. Для мільёнаў людзей Біблія была і застаецца крыніцай вечнай ісьціны і мудрасьці, вучыць любіць і дараваць.

Сьвятое пісьмо зьмяшчае праўду пра Бога і праўду пра чалавека і паказвае дзеі чалавецтва праз адносіны з Богам.

Па дадзеных Сусьветнага Альянсу Уікліф на кастрычнік 2019: «У сьвеце налічваецца прыблізна 7097 „жывых“ моў. Сьвятое Пісаньне, у поўным або частковым складзе, існуе на 3384 зь іх».

Ужо ў трэцім стагодзьдзі да Р.Х. быў зроблены першы пераклад Старога Запавету — Сэптуагінта. У Сэптуагінце было ўжыта слова Пантакратар для перакладу габрэйскага назвы Эль-Шаддай (Бог). Спас Вобраз Уседзяржыцеля, або Пантакратара (ад грэч.: παντοκράτωρ — Усеўладны, Усемагутны) стаў цэнтральным вобразам у іканаграфіі Хрыста, які ўяўляе Яго як Нябеснага Цара і Судзьдзю. На мазаіцы з Сіцыліі Кніга ў левай руцэ Хрыста Панкратара раскрыта на старонцы з тэкстам «Я-сьвятло сьвятла. Хто ідзе за Мною, той не будзе хадзіць у цемры, але будзе мець сьвятло жыцьця» (Паводле Яна 8:12), напісаным на лацінскай і грэцкай мовах.




Хрыстос Пантакратар. Мазаіка сабора ў Чефалу, Сіцылія (1140). Марка пошты Италіі, выдадзеная ў 1987 годзе

Пасьля ўзьнікненьня хрысьціянства стандартным перакладам Бібліі на лацінскую мову стала Вульгата, пераклад, зроблены Сьвятым Еранімам у 382 — 406 гадах. Сьвяты Еранім стаў міфам і

легендай яшчэ пры жыцьці. У самай прыгожай і самай вядомай гісторыі пра Ераніма ён дастае стрэмку з лапы льва, які потым аддана ідзе за ім. Некалькі самых вядомых эўрапейскіх мастакоў адлюстроўвалі яго са львом на працягу стагодзьдзяў. Сьвяты Еранім таксама быў адлюстраваны ў выглядзе пустэльніка, які трымаў Біблію і чэрап, і ў выглядзе кардынала, апранутага ў афіцыйнае кардынальскае адзеньне. Яму прысьвечаныя дзясяткі паштовых марак.




Сьвяты Геранім за працай (1440—1470). Нікало Антоніа Калянтоніё (1420—1460). Нэапаль, Музэй Кападымонтэ. Марка пошты Руанды, выдадзеная ў 1973 годзе

«Я жадаў бы, каб Пісаньня пераклалі на ўсе мовы, каб іх чыталі і разумелі ня толькі шатляндцы і ірляндцы, але таксама туркі і сарацыны. Мне хацелася б, каб араты сьпяваў вершы зь Пісаньня, ідучы за плугам, ткач паўтараў іх пад гудзеньне чаўнака і падарожнік забаўляўся Эвангельскімі апавяданьнямі падчас сумнага падарожжа» — так пісаў вялікі галяндзкі навуковец Эразм Ратэрдамскі ў 1516 годзе.

Гэта стала магчымым, калі зьявілася першая друкаваная Біблія — гэта Біблія, надрукаваная ў 1452 — 1455 гады ў Майнцы Іяганам Гутэнбэргам. Вынаходніцтва Іягана Гутэнбэрга — друкарня зьмяніла палітычны, сацыяльны і культурны ляндшафт яго часу. Network прызнала Іягана Гутэнбэрга самым уплывовым чалавекам другога тысячагодзьдзя. Таму і маркі, прысьвечаныя яму, выдаюцца многімі краінамі сьвету.




Іяган Гутэнбэрг — друкарня. Марка пошты Камбоджы, выдадзеная ў 2001 годзе

На пачатку было Слова, запісанае ў Кнігу, а Кніга была супраць выяваў: «Не рабеце сабе куміраў і выяваў, і слупоў ня стаўце ў сябе, і камянёў з выявамі не кладзеце ў зямлі вашай, каб кланяцца перад імі, бо Я Гасподзь, Бог ваш» (Лявіт 26:1). Не магло быць іначай сярод паганцаў, якія пакланяліся ідалам і прыносілі ім ахвяры. Абраны народ павінен быў быць верным Нябачнаму. І яўрэі не стварылі ніводнай выявы Бога. Першыя сцэны біблейныя паўсталі ў Рымскай імпэрыі. Гэта былі ілюстрацыі Сэптуагінты — грэцкага перакладу Старога Запавету. Стары Запавет забараняў тварыць выявы, а Новы Запавет не зьнімаў гэтай забароны. Але зьявіўся Богачалавек, Ісус,

«выява Бога Нябачнага». Гэта давала мажлівасьць стварэньня вобраза Бога. Яшчэ доўга цягнуліся споры, хоць многія казалі «аб вялікім пажытку ад выяваў біблейных».

Наш зямляк Францыск Скарына з Полацку арганізаваў ў Празе друкарню, пераклаў на тагачасную беларускую мову, напісаў прадмовы і за 1517 — 1519 гады надрукаваў 22 кнігі Бібліі.

Беларуская пошта зрабіла некалькі выданьняў, прысьвечаных Францыску Скарыну. У тым ліку і першая Беларуская паштовая марка, выдадзеная Урадам Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе.




Францыск Скарына. Беларуская паштовая матка №1, выдадзеная ў 1918 годзе

Скарына друкаваў Біблію як з рэлігійнымі так і з асьветніцкімі мэтамі, пра што піша ў прадмове: «Дедтем малым початок всякое доброе наукы, дорослым помножение в науце, мужем моцное утверьжение». Біблію Скарына ўпрыгожыў 52 гравюрамі яго выкананьня.

«Што чытаньне дае вушам, тое маўклівае малярства ставіць перад вачамі» казаў Сьвяты Базыль у 379 годзе, а ягоны брат Сьвяты Георгій з Нысы сказа, што абразы замяняюць кніжкі, прыносячы гледачу тыя самыя карысьці. Але яшчэ доўгі час Кніга і выява не знаходзілі шляху да паяднаньня. Выявы зьявіліся пасьля Нікейскага (325 ад Р.Х.) і Халкедонскага (451 ад Р.Х.) царкоўных салбораў і расквітнелі ў Італіі эпохі Адраджэньня.

Матывы Біблейныя можна знайсьці ў творах знакамітых мастакоў і скульптараў, паэтаў і пісьменьнікаў, творах, якія сабраныя ў знакамітых музэях, галерэях і бібліятэках усяго сьвету. Біблія аказала вялікі ўплыў на мову, якой размаўляем, на творчасьць музычную. Мы жывём у сьвеце, які ў значнай ступені стаў упарадкаваны праз культуру Біблейную.

Выдадзена мноства кніг, дзе сабраныя самыя знакамітыя творы мастакоў, ілюструючых Біблію. Здавалася б, навошта займацца зьбіраньнем і апісаньнем, як паштовая марка ілюструе Біблейскія сюжэты. Дзьве прычыны. Вывучаць Біблію ня проста. Калі мы чытаем Пісаньне, калі не зьвяртаем пільнай увагі і не адкрываем сэрца і розум на тое, што Бог сапраўды кажа, мы бачым толькі тое, што хочам бачыць. Мне дапамог мэтад паралельнага вывучэньня. Чытаньне Бібліі стымулявала пошук марак для філятэлістычнай выставы, а знойдзеныя мініяцюры патрабавалі знаёмства з адпаведным тэкстам Бібліі. А яшчэ, з дапамогай паштовых марак кожны жадаючы можа напісаць «сваю кнігу» з біблейскімі сюжэтамі, якая будзе рукатворнай і непаўторнай, бо немагчыма сабраць усе паштовыя маркі на Біблейскую тэму. Штодня паяўляюцца ўсё новыя выдань-

ні, а папярэднія становяцца ўсё больш недаступнымі. Праца па складаньню калекцыі пакліча ў пошук, пашырыць круг знаёмых і сяброў, паспрыяе пазнаваньню зьместу Кнігі, яго асэнсаваньню, прывядзе да веры або ўмацуе ў ёй. Такая праца прывяла мяне да напісаньня гэтай кнігі.

Першай паштовай маркай, тэматычна зьвязанай з Біблiяй, зьяўляецца марка пошты Італіі, выдадзеная ў 1852 годзе. На марцы Герб Папы Рымскага — залатыя і срэбныя ключы, якія Хрыстос перадаў Апосталу Пятру.




Герб Папы Рымскага. Марка №1 пошты Італіі, выдадзеная ў 1852 годзе

У наступныя гады колькасьць выдадзеных марак на Біблейскую тэму расла ў геамэтрычнай прагрэсіі. І хоць не ўсе тэмы раскрытыя, варта зрабіць спробу, паказаць з дапамогай паштовых марак доўгія дзеі збаўленьня, якія папярэдзілі нараджэньне, жыцьцё, дзейнасьць, сьмерць і паўстаньне зь мёртвых Ісуса Хрыста. Гэта ня толькі для таго, каб з цікавасьці разгледзець мініяцюрныя малюнкі, якія пошты розных краін абралі для сваіх выданьняў, але, каб як мага больш даведацца аб тым, што яны паказваюць, што нам хацеў сказаць аўтар. Толькі тады марка ня толькі забаўляе, але вучыць і выхоўвае.

Наступным было выданьне пошты Мальты па карціне Густава Доры — «Сьвяты Павал пасьля караблекрушэньня». За Сьвятым Паўлам ў вогнішчы зьмяя. Падзея адбылася пазьней, калі Апостал грэўся ля вогнішча і на яго напала зьмяя. «Але ён, абтросшы зьмяю ў вагонь, не зазнаў аніякае шкоды» (Дзеі 28:5).




Апостал Павал. Караблекрушэньне. Марка пошты Італіі, выдадзеная ў 1899 годзе

Мяне вельмі ўразілі словы, на жаль я згубіў кім сказаныя: «Царква прыгожая, калі знаходзіцца ў будынку, але яшчэ больш уражлівая, калі ажывае праз Яго народ у паўсядзённым жыцьці. Няхай Слова Божае ажыве праз вас, і вы будзеце Яго рукамі і нагамі ў страчаным і паміраючым сьвеце, маяком Яго надзеі ў цемры».

«Хіба ня ведаеце, што вы храм Божы, і Дух Божы жыве ў вас?» (Першае да Карынфянаў 3:16).

## Трымiленiюм

4 верасьня 1995 году пачалiся ўрачыстасьцi, прысьвечаныя трохтысячагодзьдзю Ерусалiма, якiя працягвалiся 16 месяцаў. Яны былi насычаныя разнастайнай культурнай праграмай.

З гэтай нагоды пошта Палаў выпусьцiла прыгожы марачны лiст. У загалоўку марачнага лiста напiсана: «Па Нашаму Вобразу i Падабенству. Дасьледаваньнi пэрсанажаў Бiблii для Iерусалiмскага Трымiленiюма».




Пэрсанажы Бiблii. Гай Роў (1894–1969). Марачны лiст пошты Палаў, выдадзены з нагоды Ерусалiмскага Трымiленiюма ў 1996 годзе

На гэтым марачным лiсьце вiдарысы 30 розных Бiблейскiх пэрсанажаў, намаляваных мастаком Гаем Роў (1894–1969). Аб гэтым сьведчыць надпiс пад малюнкамi ў нiзе лiста:

«Рэпрадукцыi разьмешчаныя з дазволу нашчадкаў Гая Роў, з карцiн, першапачаткова апублiкаваных у кнiзе „Па Нашаму Вобразу i Падабенству“: Дасьледаваньнi пэрсанажаў са Старога Запавету; выбрана з вэрсii „Кiнг Джэймс“ Х'юстана Хартэ (Выдавецтва Оксфардзкага унiвэрсытэта, 1949)».

Пачынаючы зьлева направа i зьверху ўнiз разьмешчаныя малюнкi з наступнымi назвамi: 1. Стварэньне. 2. Адам i Ева. 3. Ной i яго жонка. 4. Абрагам. 5. Дабраславеньне Якава. 6. Якаў становiцца Iзраiлем. 7. Iосiф i яго браты. 8. Майсей i Неапалiмая Купiна. 9. Майсей i скрыжалi. 10. Валаам. 11. Iсус Наваў. 12. Гiдэон. 13. Ефтай. 14. Самсон. 15. Рут i Наэмiнь. 16. Саўл Памазаны. 17. Саўл. Асуджэньне. 18. Давiд i Ёнатан. 19. Давiд i Натан. 20. Давiд смуткуе. 21. Саламон молiцца. 22. Саламон судзiць. 23. Iльля. 24. Елiсей. 25. Ёв. 26. Iсая. 27. Ерамiя. 28. Езэкiiль. 29. Сон Навухаданосара. 30. Амос.

Пра гэтых i iншых пэрсанажаў Бiблii, пра Бiблейскiя гiсторыi гэта кнiга. Яна можа зацiкавiць як маленькага чытача так i дарослага, калекцыянэра i таго, хто ўлюбёны ў мастацтва i таго, каму не абыякавая Бiблiя... Магчыма некаму прыйдзецца да спадобы мэтад паралельнага дасьледаваньня i ён прыменiць яго зусiм у iншых тэмах...

# Стварэньне Сьвету і страта Раю

## Стварэньне Сьвету

*І ўбачыў Бог усё, што Ён*
*стварыў, і вось, добра вельмі.*
*(Быцьцё 1:31)*

Першая Кніга Бібліі Быцьцё пачынаецца апісаньнем Стварэньня Сьвету. Бог шэсьць дзён стварае Сьвет.



Стварэньне Сьвету. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1965 годзе

На шасьці марках ў стылізаваным выглядзе адлюстраваны кожны наступны дзень Стварэньня Сьвету. Пад маркамі знаходзяцца прывескі з тэкстам абазначэньнем дня Стварэньня на габрэйскай і францускай мове.

Апісаньне гэтага дзеяньня ў Бібліі пераканаўчае і вельмі прыгожае. Яно стала натхненьнем для многіх аўтараў мастацкіх твораў.

Першы дзень. «На пачатку стварыў Бог неба і зямлю» (Быцьцё 1:1). «І сказаў Бог: хай будзе сьвятло. І сталася сьвятло. І ўбачыў Бог сьвятло, што яно добра, і аддзяліў Бог сьвятло ад цемры» (Быцьцё 1:3,4).




Аддзяленьне сьвятла ад цемры. Мікеланджэла (1475—1564). Фрагмэнт фрэскі. Сікстынская капэла (1508—1512). Ватыкан. Марка пошты Мікранезіі, выдадзеная ў 2012 годзе

Сціснуты рамай архітэктурнага збудаваньня, Бог змагаецца з навакольным хаосам. Неймаверным высілкам ён разьдзяляе цяжкую цемру і аблокі. Яшчэ адно намаганьне — і мэта дасягнутая: на зьмену сьвету «нябачнаму і пустому і

цемры над безданьню» (Быцьцё 1:2) прыходзіць першая раніца Сусьвету.

«І назваў Бог сьвятло днём, а цемру ноччу. І быў вечар, і была раніца: дзень адзін» (Быцьцё 1:5).




Хай будзе сьвятло. Марка пошты Ватыкану, выдадзеная ў 1974 годзе

Другі дзень. «І стварыў Бог цьвердзь, і аддзяліў ваду, якая пад цьвердзю, ад вады, якая над цьвердзю. І сталася так.




Аддзяленьне цьвердзі ад вады. Мікеланджэла (1475—1564). Фрагмэнті. Сікстынская капэла (1508—1512). Ватыкан. Марка пошты Мікранезіі, выдадзеная ў 2012 годзе

І назваў Бог цьвердзь небам. І быў вечар, і была раніца: дзень другі» (Быцьцё 1:7,8).

Трэці дзень. «І сказаў Бог: хай уродзіць зямля зеляніну, траву, каб сеяла насеньне, дрэва плоднае, каб радзіла паводле роду свайго плод, у якім насеньне яго на зямлі. І сталася так. І ўтварыла зямля зеляніну, траву, што сеяла насеньне паводле роду яе, і дрэва, што радзіла плод, у якім насеньне паводле роду ягонага. І ўбачыў Бог, што гэта добра. І быў вечар, і была раніца: дзень трэці» (Быцьцё 1:11—13).




Стварэньне Сьвету, або шэсьць дзён сьветабудовы. Гравюра з Бібліі Скарыны, 1519. Праект маркі

Трэці дзень «Стварэньне сушы, травы, дрэў» на гравюры знаходзіцца ў другом радзе левы малюнак. Марачны ліст, прысьвечаны 500-годзьдзю перакладу Бібліі Скарыны і 500-годзьдзю Беларускага кнігадрукаваньня, ня быў прыняты для друку Белпоштай і выдадзены ў выглядзе налепак Міжнародным Грамадзкім Аб’яднаньнем «Згуртаваньне Беларусаў сьвету „Бацьувўшчына“» і Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва (Нью-Ёрк).

Чацьвёрты дзень. «І стварыў Бог два сьвяцілы вялікія: сьвяціла большае, каб

кіраваць днём, і сьвяціла меншае, каб кіраваць ноччу, і зоркі; і паставіў іх Бог на цьвердзі нябеснай, каб сьвяціць на зямлю, і кіраваць днём і ноччу, і аддзяляць сьвятло ад цемры. І ўбачыў Бог, што гэта добра. І быў вечар, і была раніца: дзень чацьвёрты» (Быцьцё 1:16—19).




Стварэньне сьвяціл. Мікеланджэла (1475—1564). Фрагмэнт. Сікстынская капэла (1508—1512). Ватыкан. Марка пошты Індыі, выдадзеная ў 1975 годзе

Мастак намагаўся перадаць наступныя словы Бібліі: «І назваў Бог сушу зямлёю, а збор вады назваў морамі. І ўбачыў Бог, што гэта добра « (Быцьцё 1:10).

Пяты дзень. «І стварыў Бог рыб вялікіх і ўсякую душу жывёл паўзуноў, якіх утварыла вада, паводле роду іх, і ўсякую птушку крылатую паводле роду яе. І ўбачыў Бог, што гэта добра. І дабраславіў іх Бог, кажучы: пладзецеся і множцеся, і напаўняйце воды ў морах, і птушкі хай множацца на зямлі. І быў вечар, і была раніца: дзень пяты» (Быцьцё 1:21—23).

У зьзяньні залатога сьвятла, якое высьлізгвае з цемры, яшчэ часткова ахутваючай толькі што створаную зямлю, Бог-Бацька як быццам лунае ў паветры ў акце тварэньня. Жывёлы рухаюцца наперад перад і за Ім, а птушкі і рыбы стромка ляцяць у паветры і па вадзе, як стрэлы, выпушчаныя зь Яго рукі.




Стварэньне жывёл (1551—52). Тынтарэта (1518\1519 —1594). Галерэя Акадэміі, Вэнэцыя. Блёк пошты Мальтыйскага Ордэну, выдадзены ў 2014 годзе

Валявымі ўзмахамі рук Творца пасылае на неба сьвяцілы, дае жыцьцё раслінам, уціхамірвае водную стыхію…




Стварэньне жывёл (1518−19). Рафаэль Санці (1483—1520). Фрэска лёджыі Рафаэля. Блёк пошты Грэнады, выдадзены ў 1983 годзе

Бог-Творца ходзіць сярод дзівоснай калекцыі жывёл і птушак. Яго жэст і

позірк выказваюць задаволенасьць і пацеху.

На марцы намалявана першая надрукаваная Біблія на армянскай мове, а на сувенірным аркушы — ілюстрацыя «Стварэньне свету» з Кнігі Быцьця.




Біблія. Блёк пошты Арменіі, выдадзены ў 2016 годзе з нагоды 350 гадавіны Першай Бібліі на армянскай мове

На блёку, выданым поштай Гішпаніі ў 1980 годзе, зьмешчана рэпрадукцыя знакамітага «Габэлену Стварэньня». Габэлен «Стварэньня сьвету» — адзін з самых загадкавых помнікаў эпохі эўрапейскай раманікі. Гэта незвычайна каштоўны і прыгожы твор мастацтва, які захоўваецца ў катэдры гішпанскага месца Верона. Узор у выглядзе круга паказвае розныя сцэны Стварэньня Сьвету і чалавека. Зьмяшчае таксама цытаты на лацінскай мове з Кнігі Быцьця. Круг у сярэдзіне зьмяшчае выяву Бога Стваральніка. Вакол круга надпіс: «І сказаў Бог: хай будзе сьвятло. І сталася сьвятло» (Быцьцё 1:3). Над цэнтральным кругам на 11 гадзін самы цёмны сэктар, прысьвечаны «цемры над безданьню» перад пачаткам Стварэньня. Наступны сэктар (на 12 гадзін) Дух Божы над водамі. Справа ад яго — Стварэньне Сьвету. Сымэтрычныя сэктары па «экватары»: «хай будзе цьвердзь» і «аддзяліў ваду». Самы большы ніжні сэктар — Стварэньне істот водных і птушак. Па бакам гэтага сэктару — Стварэньне жывёл і чалавека і Стварэньне жанчыны.




Габэлен Стварэньня, 11 ст. Блёк пошты Гішпаніі, выдадзены ў 1980 годзе

Гэты твор унікальны як сваёй велічынёй, так і сваёй іканаграфічнай праграмай, якая арыгінальна аб'ядноўвае ў сабе Біблейскую гісторыю Стварэньня Сьвету, касмаграфічны каляндар і легенду аб Сапраўдным Крыжы.

Стваральнікі габэлену выказалі ня толькі падзіў справай Стварэньня Сьвету, але падкрэсьлілі яе гармонію. Дзякуючы пошце Габэлен Стварэньня стаў больш вядомым, выклікаючы пачуцьці ўсьведамленьня велічы падзеі.

## Стварэньне чалавека

*І стварыў Гасподзь Бог чалавека з пылу зямнога і ўдыхнуў у твар ягоны дыханьне жыцьця, і зрабіўся чалавек душою жывою.*
*Быцьцё 2:7*

Пяць дзён займаўся Бог стварэньнем сьвятла, вады і неба, сушы і расьлін, сьвяцілаў, птушак, рыб і зьвяроў... Уся справа стварэньня Сусьвету, зямлі, азоранай пяшчотным сонцам, напоўненай жывымі істотамі і расьлінамі, неба, блакітнага днём і зорнага ноччу, была прадвызначана для чалавека, як вынікае з Кнігі Быцьцё. Чалавек — карона Боскай справы.




Стварэньне Адама. Барэльеф — скульптара Якопа дэла Кверча (Jacopo della Quercia ок. 1374—1438). Базыліка Сан-Пятронія ў Балоньі. Марка пошты Італіі, выдадзеная ў 1974 годзе

Пяць дзён для чалавека ствараляся месца існаваньня ў адзінстве з Богам.

«І сказаў Бог: створым чалавека паводле вобразу Нашага, паводле падабенства Нашага; і хай валадараць яны над рыбамі марскімі, і над птушкамі нябеснымі, і над быдлам, і над усёю зямлёю, і над усімі гадамі, што поўзаюць па зямлі» (Быцьцё 1:26). Створаны чалавек атрымаў імя Адам (іўр.: אָדָם — Сын Землі ці чалавек).

Падзея стварэньня чалавека знайшла адлюстраваньне ў многіх творах мастацтва. Адзін з найпрыгажэйшых знаходзіцца ў Ватыкане ў Сыкстынскай капэле сярод фрэсак, якія стварыў Мікеланджэла ў 1508—1512 гадах. Гэты шэдэўр стаў адным з сымбаляў мастацтва. Фрэска адлюстравана на марках многіх краін. Адам намаляваны як сымэтрычнае адлюстраваньне Творцы. Далонь Бога і далонь Адама амаль злучаюцца, выражаючы пачуцьці ўзаемнай міласьці і любові. Джорджа Вазары пісаў пра Адама на фрэсцы, што ён намалёваны «такім выдатным, у такім становішчы, з такімі абрысамі, што здаецца, быццам ён зноў створаны вышэйшым і першапачатковым Стваральнікам сваім, а не пэндзьлем і па задуме чалавека».




Стварэньне Адама (1511). Мікеланджэла Буанароці (1475—1564). Сыкстынская капэла, Ватыкан. Марка пошты Ватыкану, выдадзеная ў 1994 годзе

Апрануты ў простую ружовую туніку, Бог праносіцца над створаным сьветам у акружэньні анёлаў без крылаў. Нека-

торыя дасьледчыкі лічаць, што Мікеланджэла адлюстраваў Творцу як крыніцу розуму. Фон разам з анёламі абрысамі нагадвае мозг. Жаночая постаць справа ад Яго — Ева, яна яшчэ чакае гадзіны свайго стварэньня, але ўжо задумана Богам. Падчас палёту Бог паварочваецца, накіроўваецца насустрач Адаму і падае яму руку. Рукі амаль сустракаюцца. Энэргія Бога перадаецца руцэ чалавека. Гэта імгненьне нараджэньня Душы…

«І сказаў Гасподзь Бог: нядобра быць чалавеку аднаму; створым яму памочніка, адпаведнага яму» (Быцьцё 2:18). «І стварыў Гасподзь Бог з рабрыны, узятай у чалавека, жанчыну, і прывёў яе да чалавека» (Быцьцё 2:22).




Стварэньне Евы. Карціна невядомага мастака з царквы Сьвятога Стэфана ў Лісабоне. Марка пошты Партугаліі, выпушчаная ў 2012 годзе

З правага боку маркі цытата з Кнігі Быцьця: «І стварыў Бог чалавека паводле вобразу Свайго, паводле вобразу Божага стварыў яго; мужчыну і жанчыну стварыў іх. І дабраславіў іх Бог, і сказаў ім Бог: пладзецеся і множцеся, і напаўняйце зямлю і валодайце ёю, і валадарце над рыбамі марскімі, і над птушкамі нябеснымі, і над усякай жывёлаю, што поўзае па зямлі» (Быцьцё 1:27,28).

Рафаэль стварыў сэрыю з 52 карцін, якую называюць Бібліяй Рафаэля. Адна зь іх паказана на марцы Парагваю.




Стварэньне Евы з рабра Адама (1519). Рафаэль Санці (1483—1520). Лёджыі Рафаэля. Музэі Ватыкану (фрэскі), Ватыкан. Марка пошты Парагваю, выдадзеная ў 1982 годзе

Цікава, як Мідраш (тлумачэньне вершаў Торы) апісвае стварэньне жанчыны: «… калі Усявышні ствараў жанчыну, то ўвесь час паўтараў, што яна павінна быць сьціплая. Таму не зрабіў яе з вачэй, каб яна не глядзела, куды ня трэба, з рук, каб не чапала, чаго ня трэба, з ног, каб не хадзіла, куды ня варта, з мовы, каб не казала лішняга. А рабро заўсёды закрытае рукой, ёсьць самае сьціплае месца ў целе чалавека».

Бог-Бацька немаладога выгляду з доўгай барадой укладвае «дыханьне жыцьця» у толькі што створаную Еву

на фоне сельскага пэйзажу, дзе бачныя і фігуркі некаторых жывёл.




Стварэньне Евы (1575—1580). Паола Вэранэзе (1528—1588). Чыкага. Мастацкі інстытут. Марка пошты Манамы, выпушчаная ў 1971 годзе

З нагоды 500-годзьдзя адкрыцьця фрэсак Сыкстынскай капэлы пошта Гамбіі выпусьціла блёк з выявай фрэсак Мікеланджэла. Сярод іх-Стварэньне Евы.




Стварэньне Евы. Мікеланджэла Буанароці (1475—1564). Сыкстынская капэла, Ватыкан. Марка пошты Гамбіі, выдадзеная ў 2012 годзе

У 1977 годзе пошта Ватыкану выпусьціла сэрыю марак з матывамі барэльефаў са старахрысьціянскіх саркафагаў. На адной з марак паказаны фрагмэнт верхняй левай часткі, дзе знаходзіцца самая раньняя вядомая скульптура Сьвятой Тройцы: Бога Айца, Сына і Духа Сьвятога. Сьвяты Дух стаіць за тронам Бога Айца (на марцы адсутнічае). Бацька кладзе правую руку на плячо Сына, які знаходзіцца ў акце стварэньня Евы. Паводле Біблейскага апавяданьня, Адам ляжыць на зямлі і сьпіць. Першыя хрысьціяне разумелі, што справа стварэньня чалавека была справай Божай любові.




Стварэньне мужчыны і жанчыны. Барэльеф саркафагу, 300 да Р.Х. (фрагмэнт). Латынскія музэі Ватыкану. Марка пошты Ватыкану, выдадзеная ў 1977 годзе

Кожны чалавек створаны па вобразу Божаму. Гэта падабенства ў першую чаргу знаходзіцца ў душы, бо душа зьяўляецца несьмяротнай. Справа чалавека захаваць гэта падабенства, ня зьнішчыць душу бязбожным жыцьцём. «І стварыў Бог чалавека паводле вобразу Свайго, паводле вобразу Божага стварыў яго; мужчыну і жанчыну стварыў іх» (Быцьцё 1:27). Яшчэ раз аб гэтым гаворыцца ў Бібліі.

Імя мужчыны — Адам — сын зямлі, імя жанчыны — Ева — жыцьцё — маці ўсіх людзей. Яны выйшлі з творчых рук Госпада прыгожымі і шчасьлівымі, абласканымі Божай любоўю і магчымасьцю зносін з Богам. Бог аддаў Адаму і Еве ўсё створанае, але і даручыў адказнасьць

за сьвет, які паклікаў да існаваньня для чалавека.

## Рай

*І пасадзіў Гасподзь Бог рай*
*у Эдэме на ўсходзе, і зьмясьціў*
*там чалавека, якога стварыў.*
*(Быцьцё 2:8)*

«І ўзяў Гасподзь Бог чалавека, якога стварыў, і пасяліў яго ў садзе Эдэмскім, каб урабляць яго і захоўваць яго» (Быцьцё 2:15). Гэта першая праява адносін Бога да чалавека. Сад Эдэма апісаны ў Бібліі як ідэальнае месца, дзе Адам і Ева былі забясьпечаны ўсім неабходным. Іх жыцьцё было простым і нявінным і для іх былі ўсе шчадроты Эдэмскага саду.




Чатыры стыхіі-Зямля (Рай зямны), 1607—1608. Ян Брэйгель Старэйшы (1568—1625). Люўр, Парыж. Маркі пошты Конга, выдадзеныя ў 1973 годзе

Мастак Ян Брэйгель Старэйшы атрымаў мянушку «Аксамітны» з — за незвычайнай прыгажосьці яго палітры, а «Райскі» — таму што напісаў больш за сто прац з райскімі краявідамі. У Брэйгеля Бог не глядзіць на зямлю з далёкіх нябёсаў, а знаходзіцца ў кожнай частачцы аднінага мэханізму Сусьвету. На першай марцы бачым постаці Адама і Евы, якім Бог паказвае сад у Эдэме — месца вечнага дасканалага жыцьця ў таварыстве з Богам, у шчасьці, у гармоніі з прыродай, некранутага часам і сьмерцю. На другой марцы гіена корміцца расьлінамі, таму ёй ня трэба забіваць іншых зьвяроў. На трэцяй марцы пантэра лашчыцца зь ільвом.

Ужо некалькі гадоў філятэлістычная служба Ізраіля выдае маркі на аснове дзіцячых малюнкаў.

У выніку зьявілася сэрыя марак «Дзеці малююць Біблію», на адной зь якіх «Адам і Ева».




Адам і Ева. Ітай Коэн. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1994 годзе

Людзі задаюцца пытаньнем, дзе знаходзіўся Эдэмскі сад? Выказваюцца розныя варыянты. Але трэба разумець, што Рай — гэта сымбаль жыцьця разам з Богам, у Яго таварыстве. Настрой сумеснага жыцьця з Богам цудоўна адлюстрава-

ны на адным з габэленаў з 16 веку «Гісторыя раю», на якім адлюстраваныя сцэны: Стварэньне Адама, Стварэньне Евы, Забаронены плод, Бог знаёміць Адама і Еву з Раем, Першародны грэх, Выгнаньне з Раю.




Бог знаёміць Адама і Еву з Раем. Фрагмэнт габэлену, 16 век. Вавельскі замак, Кракаў. Марка пошты Польшчы, выпушчаная ў 1970 годзе

Бог у выглядзе пачцівага старца па — прыяцельску размаўляе з Адамам і Еваю, паказваючы Дрэва Жыцьця.

Вітраж з выявай Дрэва Жыцьця ў францысканскай капліцы ў Сарбуре — самае вялікае Вітражнае акно, выкананае Маркам Шагалам у Эўропе (вышыня 12 мэтраў, шырыня 7,5 мэтраў; вагою 900 кг, 13 000 кавалачкаў шкла). Марк Шагал казаў: «Вітраж зьяўляецца празрыстай сьцяной паміж маім сэрцам і сэрцам сьвету». Аснову ўсёй кампазыцыі вітража складае велізарнае маляўнічае Дрэва Жыцьця, больш падобнае на пышны букет кветак.

Шагал робіць акцэнт на незвычайнай прыгажосьці Райскага дрэва, якое, паводле Сьвятога Пісаньня, зьяўляецца цэнтрам Раю: «І выгадаваў Гасподзь Бог зь зямлі кожнае дрэва прыемнае з выгляду і добрае ў ежу, і дрэва жыцьця пасярод раю, і дрэва спазнаньня дабра і зла» (Быцьцё 2:9).




Сьвет. Фрагмэнт вітражу (1974—1976). Францысканская капліца ў Сарбуры. Марк Шагал (1887, г. Віцебск, Беларусь — 1985, Сэн-Поль-дэ-Ванс, Францыя). Блёк пошты Францыі, выдадзены ў 2017 годзе

На фоне Дрэва Жыцьця на блёку дзьве маркі. На верхняй — выява Адама і Евы з гэтага ж вітражу.

Але, акрамя выгадаў, Адам і Ева атрымалі даручэньне: «І ўзяў Гасподзь Бог чалавека, якога стварыў, і пасяліў яго ў садзе Эдэмскім, каб урабляць яго і захоўваць яго» (Быцьцё 2:15). І забарону: «І наказаў Гасподзь Бог чалавеку, кажучы: з кожнага дрэва ў садзе ты будзеш есьці; а з дрэва спазнаньня дабра і зла, ня еж зь яго; бо ў дзень, калі ты пакаштуеш зь яго, сьмерцю памрэш» (Быцьцё 2:16,17).

На ніжняй марцы блёку фрагмэнт карціны Марка Шагала Рай (1961). Адам і Ева, моцна абняўшыся і, як быццам утвараючы адзінае цела з двума рукамі і трыма нагамі, вось-вось парушаць забарону, зьведаюць забаронены плён Дрэва спазнаньня дабра і зла, што павінна зробіць іх «роўнымі» Богу.

Між волі прыходзяць на думку словы прыгожага Псальму 8: «Калі я гляджу на нябёсы Твае, — твор Тваіх рук, на месяц і зоркі, якія Ты паставіў, што ёсьць чалавек, якога Ты памятаеш, і сын чалавечы, якога наведваеш Ты? Нядужа Ты зьменшыў яго перад анёламі: славаю, гонарам увянчаў яго; паставіў яго ўладаром над творамі рук Тваіх; пад ногі паклаў яму ўсё: валоў і авечак усіх, і польных зьвяроў гэтак сама, птушак нябесных і рыбін марскіх, усё, што праходзіць марскімі шляхамі. Госпадзе Божа наш! Якое велічнае імя Тваё па ўсёй зямлі!» (Псалтыр 8:4—10).

Зло ўвайшло ў гэты цудоўны сьвет у выглядзе зьмея, які прывабіў Еву, кідаючы выклік забароне, есьці плод з Дрэва пазнаньня. Пакараньне за гэты ўчынак было хуткім і жорсткім. «Бог стварыў чалавека для нятленьня і зрабіў яго чынам вечнага быцьця Свайго; але зайздрасьцю д'ябла ўвайшла ў сьвет сьмерць, і зазнаюць яе якія належаць да надзелу яго» (Кніга Прыпавесцяў Саламонавых 2:24).

## Грэх

*А таму, як праз аднаго чалавека грэх увайшоў у сьвет, і праз грэх — сьмерць, так і сьмерць перайшла ва ўсіх людзей, бо ў ім усе зграшылі. (Да Рымлянаў 5:12)*

Зьмясьціўшы людзей у Эдэмскім садзе Бог устанавіў маральны парадак, акрэсьліў, што ёсьць добрае і што ёсьць злое. Ён асьцерагае іх, што зьмена ўсталяваных правіл прывядзе да згубы. «І наказаў Гасподзь Бог чалавеку, кажучы: з кожнага дрэва ў садзе ты будзеш есьці; а з дрэва спазнаньня дабра і зла, ня еж зь яго; бо ў дзень, калі ты пакаштуеш зь яго, сьмерцю памрэш» (Быцьцё 2:16,17). Але ў парушэньне ўсталяванага парадку ўступае Сатана.

На полі марачнага ліста ва ўсёй сваёй красе намаляваны Райскі сад. Яго прыгажосьць як бы вобразна паказвае, ад чаго рызыкуюць адмовіцца Адам з Еваю.




Адам і Ева. Марачны ліст пошты Ізраілю з сэрыі «Біблейскія гісторыі», выдадзены ў 2010 годзе

Сатана ў выглядзе зьмея спачатку сее сумнеў у праўдзівасьці забароны, дадзенай Богам: «І сказаў зьмей жанчыне: ці

сапраўды сказаў Бог: ня ежце ні зь якога дрэва ў раі?» (Быцьцё 3:1). Атрымаўшы адказ, зьмей ня толькі падвяргае сумненьню дабрату Бога, але стараецца зьмяніць сутнасьць уяўленьня аб Богу ў Евы. «І сказаў зьмей жанчыне: не, не памраце; але ведае Бог, што ў дзень, калі вы скаштуеце іх, адамкнуцца вочы вашыя, і вы будзеце, як багі, якія ведаюць дабро і зло» (Быцьцё 3:4,5). Сатана замест падпарадкаваньня Богу абяцае «свабоду». Спакуса пачынае дзейнічаць.



Адам і Ева (1509—1511). Фрагмент фрэскі. Рафаэль Санці (1483—1520). Станца дэла Сеньятура, Ватыкан. Марка пошты Парагваю, выдадзеная ў 1982 годзе

Зьмей, абкруціўшыся вакол «Дрэва пазнаньня дабра і зла», ператвараецца ў верхняй частцы ў падабенства чалавека, каб улатвіць выкананьне сваёй задумы. Адам і Ева як бы абмяркоўваюць прапанову зьмея... Адам і Ева яшчэ ня вырашылі, што рабіць зь яблыкам, але зьмей упэўнены, што яго задума спрацавала.

Падзея, якая зьмяніла лёсы чалавецтва, стала адной з найпапулярнейшых тэмаў для мастацтва.

Лукас Кранах Старэйшы стварыў каля 50 малюнкаў гэтага сюжэту, яны захоўваюцца ў галерэях Лёндана, Бэрліна, Прагі, Антвэрпэна. Ева ўпэўнена трымае яблык, але Адам чамусьці чухае галаву... Штосьці ня так. Зьявіўся сорам голага цела, таму ў руках Адама і Евы галінкі, якімі яны прыкрываюцца.




Адам і Ева (1528). Дыпціх (фрагмэнт). Лукас Кранах Старэйшы (1472—1553). Уфіцы, Флярэнцыя. Марка пошты Парагваю, выдадзеная ў 1973 годзе

Па праўдзе ў Бібліі не гаворыцца, што забаронены плод гэта яблык, як і не названыя імёны першых людзей. Гэта плён чалавечай фантазіі, спроба зразумець і ўявіць тыя падзеі, што апісаныя ў Бібліі. Так сталася, што ў хрысьціянстве яблык — забаронены плод з Дрэва Пазнаньня дабра і зла — стаў сымбалям спакусы, недазволенага (забароненага) плёну і дзеі.

Пошта Мікранэзіі, рыхтуючыся да Міжнароднай выставы марак «Ізраіль» 98» — Тэль — Авіў, выпусьціла шэраг ма-

ляўнічых блёкаў на тэму: «Ізраіль — Старазапаветныя гісторыі».



Адам і Ева. Блёк пошты Мікранэзіі з сэрыі «Ізраіль-Старазапаветныя гісторыі», выдадзены ў 1998 годзе

«Грэхападзеньне» Хуга ван дэр Гуса — частка Венскага дыптыху «Грэхападзеньне і выратаваньне чалавека».




Грэхападзеньне (1470). Хуга ван дэр Гус (1420—40 — 1482). Музэй гісторыі мастацтваў. Вена. Марка пошты Манамы, выдадзеная ў 1973 годзе

Зьмей з жаночым тварам і целам яшчаркі з нецярпеньнем чакае фіналу яго пляну. Паводле апакрыфічнага Эвангельля Сьвятога Варнавы, калі спакусьнік быў праклятым, Сьвяты Міхаіл адрэзаў яму рукі і ногі, тым самым атрымаўшы вядомую сёньня зьмяю без канечнасьцей. Бог таксама адабраў у яго сілу чалавечай гаворкі, раскалоўшы яго язык, так што пасьля гэтага ён мог толькі шыпець.

У Яна Брэйгеля намаляваны момант непасрэдна перад ужываньнем забароненага плёну. Адам і Ева пад Дрэвам пазнаньня дабра і зла. Малпа, якая кусае яблык, сымбалізуе грэх. і Вінаград у лістоце ззаду Адама і Евы сымбалізуе сьмерць Хрыста на крыжы і віно, як Яго кроў. На карціне шмат розных сымбалічных жывёл, якіх няма на марцы.




Эдэмскі сад з грэхападзеньнем чалавека (1615). Дэталь. Ян Брэйгель Стары (1568—1625) і Піцер Паўль Рубенс (1577–1640). Мастацкі музэй Маўрыцхейса ў Гаазе, Нідэрлянды. Марка пошты Парагваю, выдадзеная ў 1978 годзе

У сьвятле, колеру слановай косьці спакойная сцэна пары прыгожых людзей. Але Ева тут — увасабленьне спакусы: яна прыціскаецца да Дрэва пазнаньня, а яе рукі працягваюць лінію да

зьмея, які спускаецца зьверху. На заднім пляне, справа, сцэна трагічнага эпілёгу чалавечага непадпарадкаваньня Боскай волі.




Адам і Ева (1550). Тынтарэта (1519—1594). Галерэя Акадэміі ў Венецыі. Марка пошты Манамы, выдадзеная ў 1971 годзе

У далечыні бачым вогненнага Анёла, які гоніць Адама і Еву ў далёкія пустынныя пагоркі і раўніны. Зь Евай адбываецца згубная перамена: «І ўбачыла жанчына, што дрэва добрае для ежы, і што яно прыемнае вачам і панаднае, бо дае веды; і ўзяла пладоў зь яго і ела; і дала таксама мужу свайму, і ён еў» (Быцьцё 3:6). У Эдэмскім садзе нічога не зьмянілася, але ў Адама і Евы зьмяніўся стан душы.

На карціне Якаба Ёрданса не выглядае, што зьмею цяжка было спакусіць Еву і Адама. Адам працягнуў руку да галінкі з яблыкамі, якую падае зьмей разам з Еваю. Хоць выраз твару ў яго трывожны. І нішто ня сьведчыць аб тым, што ў гэтае імгненьне вырашаецца лёс чалавецтва.




Падзеньне чалавека (1630). Якаб Ёрданс (1593—1678). Музэй выяўленчых мастацтваў, Будапэшт. Марка пошты Манамы, выдадзеная ў 1971 годзе

Ева хоча пакаштаваць яблык.




Адам і Ева (1597). Пітэр Паўль Рубенс (1577—1640). Музэй Рубенса, Антвэрпэн. Марка пошты Парагваю, выдадзеная ў 1976 годзе

Але Адам на карціне Рубенса зусім не такі ўпэўнены, што гэта правільна. Яго жэст выказвае засьцярогу.

На карціне Лукаса Кранаха Старэйшага Адам і Ева знаходзяцца ў Эдэмскім садзе каля Дрэва пазнаньня. Ева ўжо сарвала яблык і падае яго Адаму. Адам бярэ, але ў задуменьні чухае патыліцу. Што рабіць?




Адам і Ева. 1526 г. Лукас Кранах Старэйшы. Галерэя Інстытута Курта, Лёндан. Марка пошты Манамы, выдазеная ў 1971 годзе

Сорак шэсьць мэдальёнаў, кожны зь якіх зьмяшчае мініяцюрныя ілюстрацыі гісторый з Бібліі, разьмешчана на блёку пошты Ізраілю, эмітаваным у 1985 годзе. Марка ў левым ніжнім куце паказвае Адама, Еву і зьмея на «Дрэве пазнаньня дабра і зла». На блёку ў першым радку зьверху наступныя мэдальёны: Адам і Ева і зьмей; Адама і Еву выгналі з Раю; Каін, які забівае Авэля; Ноеў каўчэг; Ной пасадзіў вінаграднік; Вавілонская вежа. Радок другі: Зьнішчэньне Садома і Гаморы; Абрагам ахвяруе Ісаака; Ісаак дабраславіў Якуба; Ісаў вяртаўся з пагоні; Сон Якуба; Якаў змагаецца з Анёлам. Габрэйскія літары ў сярэдзіне ўтвараюць слова «Bereszit», што значыць «На пачатку». Гэта першыя словы Кнігі Быцьця, а значыць і ўсёй Бібліі. Увесь блёк гэта рэпрадукцыя старонкі ілюстраванага выданьня Бібліі з 13 веку, створанай у Германіі. Біблія носіць назву «Biblia Schockena» і знаходзіцца ў інстытуце Шокена ў Ерусаліме.




Біблія Шокена (1290). Ілюстрацыя. Блёк пошты Ізраілю, выдадзены ў 1985 годзе

Варта бачыць розьніцу паміж першародным грахом нашых прабацькаў Адама і Евы і першародным грахом, які атрымалі ў спадчыну ўсе мы. У першым выпадку гэта — зьдзейсьнены першародны грэх, а ў другім — атрыманы. Першародны грэх, у якім нараджаюцца ўсе людзі, — гэта стан пазбаўленасьці першароднай сьвятасьці і праведнасьці.

Гэты грэх атрыманы намі, а не зьдзейсьнены; гэта — стан ад нараджэньня, а не асабісты ўчынак. Па прычыне адзінства роду чалавечага, ён перадаецца ад Адама да нашчадкаў разам з чалавечай прыродай, не перайманьнем, але працягам роду. Гэтая перадача застаецца таямніцай, якую мы не можам да канца зразумець.

«Ніжэй намалявана, як Адам у адказ на ўгаворы напоўжанчыны — напоўзьмяі прымае праз яблык уласную і нашу пагібель. Там жа намалявана выгнаньне яго і Евы з раю, і ў постаці анёла паказана, з якой веліччу і высакароднасьцю выконваецца загад разгневанага ўладара, а ў позе Адама і горыч зробленага граху, і страх сьмерці, у той час як у жонкі яго сорам яе, прыніжэньне і раскаяньне бачныя ў тым, як яна абхапіла сябе рукамі, як яна прыціскае пальцы да далоняў, як яна паварочвае галаву да анёла, апусьціўшы шыю сваю да грудзей, бо страх адплаты відавочна перамагае ў ёй надзею на Боскую Міласэрнасьць» — напісаў Джорджа Вазары — італьянскі жывапісец, архітэктар і пісьменьнік, аўтар знакамітых «Жыцьцяпісаў».




Спакуса і выгнаньне з Раю. Фрэска Сыкстынскай капэлы (1508—1512). Мікеланджэла (1475 — 1564). Блёк пошты Грэнады Карыаку і Пці — Марцінікі, выдадзены ў 2014 годзе

На фрэсцы Мікеланджэла велічная ў сваёй пераможнай прыгажосьці Ева ў сцэне «Грэхападзеньня», з накіраваным да Дрэва пазнаньня поглядам, і якая яна скурчаная, прыгнечаная, зьнябожаная — у «Выгнаньні з раю». Віна не ўскладзена толькі на Еву. Адам таксама цягнецца да забароненага плёну Дрэва пазнаньня дабра і зла.

## Вынікі парушэньня Запаведзі Божай

*І выгнаў Адама, і паставіў на ўсходзе каля саду Эдэмскага херувіма і палымяны меч, які сам паварочваўся, каб ахоўваць дарогу да дрэва жыцьця. (Быцьцё 3:24)*

Адразу пасьля парушэньня Божай забароны Адам і Ева пераканаліся, што засталіся падманутымі. «І адамкнуліся вочы ў іх абаіх, і ўведалі яны, што голыя, і сшылі смакоўныя лісьціны, і зрабілі сабе апаяскі». (Быцьцё 3:7). Нагата сымбалізуе прыніжэньне і зьнеслаўленьне... Перад правіннасьцю Адам і Ева адчувалі сябе шчасьлівымі і ў прысутнасьці Бога. Цяпер, пачуўшы крокі Бога, Адам схаваўся. Бог шукае яго і навязвае зь ім размову. Адам паводзіцца зусім не па — мужчынску, перакладаючы ўсю віну на Еву. Ева паводзіцца лепей, яна з шкадаваньнем прызнае сваю віну: «зьмей змусіў мяне, і я ела» (Быцьцё 3:13).

Наступае пакараньне. Першая кара зьмею. «І сказаў Гасподзь Бог зьмею: за тое, што ты зрабіў гэта, пракляты ты перад усім быдлам і перад усімі жывёламі польнымі; ты будзеш хадзіць на чэраве тваім, і будзеш есьці пыл ва ўсе дні жыцьця твайго» (Быцьцё 3:14). Затым

пакараньне атрымлівае жанчына: «Жонцы сказаў: множачы памножу скруху тваю ў цяжарнасьці тваёй; у хворасьці будзеш нараджаць дзяцей; і да мужа твайго цяга твая, і ён будзе валадарыць над табою» (Быцьцё 3:16). Без пакараньня не застаўся і Адам: «У поце твару твайго будзеш есьці хлеб, пакуль ня вернешся ў зямлю, зь якое ты ўзяты; бо пыл ты і ў пыл вернешся» (Быцьцё 3:19).

На марцы Чэхаславакіі зьмешчана рэпрадукцыя фрагмэнту іконы 16 веку з музэю ў Бардэюве. Адам і Ева выслухваюць прыгавор Бога.




Выгнаньне прабацькоў з Раю. Ікона 16 в. Марка пошты Чэхаславакіі, выдадзеная ў 1970 годзе

Але найбольшым пакараньнем выгнаньня з Раю стала немагчымасьць далейшага знаходжаньня ў таварыстве з Богам.

Марка Парагваю паказвае фрагмэнт фрэскі Мікеланджэла з Капліцы Сыкстынскай: «І выгнаў Адама, і паставіў на ўсходзе каля саду Эдэмскага херувіма і палымяны меч, які сам паварочваўся, каб ахоўваць дарогу да дрэва жыцьця» (Быцьцё 3:24).

Адам абараняе сябе ад чароўнага мяча Анёла, адкідваючы рукі назад, і зьнябожылася ў адчаі Ева...




Выгнаньне з Раю. Фрэска Сыкстынскай капэлы (1508—1512). Мікеланджэла (1475 — 1564). Картмаксімум пошты Парагваю, выдадзены ў 1975 годзе

Гэтага Анёла бачым на блёку Гамбіі.




Стварэньне Сьвету і Выгнаньне з Раю (1445). Джавані дзі Паола (1403—1482). Музэй Мэтрапалітэн. Блёк пошты Гамбіі, выдадзены ў 1995 годзе

Зьмест карціны супадае з бачаньнем Раю, апісанага флярэнтыйскім паэтам

Дантэ ў «Боскай камэдыі». Сусьвет паказаны як нябесны глёбус з Зямлёй у цэнтры, акружанай канцэнтрычнымі коламі ў адпаведнасьці з канцэпцыяй Пталямея. Творца, Якога нясуць серафімы над Райскім садам, паказвае на створаны ім Сусьвет. Прырода Раю сымбалізуе чысты і беззаганны стан чалавека да грэхападзеньня. Адам і Ева выганяюцца з Райскага саду Анёлам, чыё чалавечае аблічча сымбалізуе яго спачуваньне.

Пасьля сур'ёзных прац можа варта зьвярнуць увагу на маляўнічы блёк, больш падобны на кадар з мультфільму.




Выгнаньне Адама і Евы з Раю. Блёк пошты Мікранэзіі з сэрыі «Ізраіль-Старазапаветныя гісторыі», выдадзены ў 1998 годзе

Поўнай сымбаляў і загадак зьяўляецца карціна Еранімуса Босха «Воз сена». Левая створка трыпціха прысьвечана тэме грэхападзеньня Адама і Евы. Яна ўключае чатыры эпізоды з Кнігі Быцьця. У верхнім левым куце Бог стварае жанчыну з рабра Адама. У цэнтры — Дрэва пазнаньня дабра і зла. Яго ствол абвівае зьмей, які падае Еве забаронены плён. Унізе Архангел з мячом выганяе Адама і Еву з Раю. Босх зьвязаў грэхападзеньне Адама і Евы з зрыньваньнем збунтаваных паўшых анёлаў. Уверсе створкі намаляваныя зіхатлівыя нябёсы, зь якіх сыплюцца, нібы дождж, анёлы. Па меры таго, як яны падаюць, у іх застаецца ўсё менш анёльскага — яны ператвараюцца ў насякомых, у саранчу. Ад гэтага і Эдэм ужо не выглядае такім райскім.




Воз сена (1500—1502). Іеранімус Босх (1450—1516). Музэй дэль Прада ў Мадрыдзе. Блёк Лібэрыі, выдадзены ў 2017 годзе

Пэйзаж выклікае трывогу. У сцэне з Арханёлам Ева, гатычны выгнутая, з падоўжанымі прапорцыямі, ужо адвярнулася ад нябеснага вечнага жыцьця і

глядзіць на цэнтральную частку трыпціха. Яна, нібы рыхтуючыся прыняць свой зямны лёс, бачыць усе наступствы першароднага граху, паколькі справа, вакол воза з сенам, разгорнутая ўсёабдымная панарама чалавечага вар'яцтва.

Творца не пакінуў чалавецтва без надзеі. Ён вымавіў прароцтва аб тым, што семя жонкі ўразіць галаву зьмея: «і варожасьць пакладу паміж табою і паміж жанчынаю, і паміж семем тваім і паміж семем яе; яно будзе біць цябе ў галаву, а ты будзеш джаліць яго ў пяту» (Быцьцё 3:15).

На пярэднім пляне Анёл прыступіў да Божага пляну пазбаўленьня чалавецтва ад наступстваў спадчыннага граху. Але ў цёмнай далечыні за крыламі Анёла дзьве маленькія фігуркі, якіх гоніць Анёл — напамін аб выгнаньне з Раю Адама і Евы.




Дабравешчаньне. Марка пошты Латвіі, выдадзеная ў 2003 годзе

Мы можам пазбавіцца ад наступстваў спадчыннага граху і атрымаць тое, што страцілі Адам і Ева, — вечнае жыцьцё. «Бо так палюбіў Бог сьвет, што аддаў Сына Свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, а меў жыцьцё вечнае» (Паводле Яна 3:16).

У хрысьціянстве раскрываецца новы сэнс Раю, як «Валадарства нябеснага», угатаванага ад пачатку сьвету, страчанага з-за грэхападзеньня людзей, і зноў адкрытага ўсім людзям у выніку перамогі Ісуса Хрыста над пеклам.

Ватыканская марка з нагоды набліжэньня Юбілейнага году, які агалашаецца праз кожныя 25 год, паказвае крыж Хрыста, як новае Дзерава жыцьця. З-пад крыжа, як у Садзе Эдэмскім, выцякаюць чатыры ракі. Маюць напаўняць жывою вадою збаўленьне, прынесенае праз мукі, сьмерць і паўстаньне з мёртвых Ісуса. Дзьве сарны каля крыжа адсылаюць да Псалтыры: «Як сарна імкнецца да водных патокаў, так душа мая імкнецца да Цябе, Божа!» (Псалтыр 42:2)




Дзерава жыцьця. Мазаіка. Базыліка Сьвятога Яна на Латэране. Марка пошты Парагваю, выдадзеная ў 1974 годзе

Першапачатковае мінулае і канчатковая будучыня злучаюцца ў ідэі Раю. Можна сказаць, што гэта Рай пасьля пекла, пасьля вопыту зла і свабоднага адхіленьня спакусы. Дастойныя ўспад-

куюць Рай пасьля зямной сьмерці і ўваскрасеньня ў новай сьветабудове, не ведаючы ні хвароб, ні тугі, ні ўздыханьня, адчуваючы няспынную радасьць і шчасьце. «І ўтрэ Бог кожную сьлязіну з вачэй іхніх, і сьмерці ня будзе ўжо; ні плачу, ні енку, ні хваробы ўжо ня будзе; бо ранейшае прайшло» (Адкрыцьцё 21:4).

## Каін і Авель

> *...калі ня робіш добрага, дык пад дзьвярыма грэх ляжыць; ён вабіць цябе да сябе, але ты пануй над ім. (Быцьцё 4:7)*

Ішоў час жыцьця Адама і Евы па-за Раем. «Адам спазнаў Еву, жонку сваю; і яна зачала, і нарадзіла Каіна, і сказала: здабыла я чалавека ад Госпада» (Быцьцё 4:1). Гэта значыць, што Бог непасрэдна ўдзельнічае ў нараджэньні новага чалавека: як тлумачыць старажытная традыцыя, ужо ў той момант, калі ў целе маці толькі завязваецца «кропелька» новага жыцьця, Бог удзімае ў гэтую «кропельку» новую душу, і гэтая, здаецца, яшчэ зусім неаформленая, аморфная «кропелька» ёсьць душою жывою з пункту гледжаньня рэлігійнай сьвядомасьці, і забіваць яе, нават на самых раньніх стадыях цяжарнасьці, — цяжкі грэх перад Богам. Такім чынам, кожнае дзіця, што зьяўляецца на сьвет, ёсьць у высокім сэнсе дзіцём Божым, і кожнаму Бог дае душу, здольную процістаяць злу.

З першымі дзецьмі зьвязаная найвялікшая трагедыя першай чалавечай сям'і — сумны вынік адыходу ад Бога. Першавобразам сьвядомага злачынства і амаль абсалютнага граху і становіцца ў Бібліі Каін.

«І яшчэ нарадзіла брата ягонага, Авеля. І быў Авель пастух авечак, а Каін быў земляроб» (Быцьцё 4:2).




Першыя працы Адама і Евы (1650—52). Алонса Кано (1601 — 1667). Поллак-хаўс, Глазга. Марка пошты Гвінеі, выдадзеная ў 2012 годзе

Навукоўцы — біблiёлягі ў адзін голас сьцьвярджаюць, што прыпавесьць пра Каіна і Авеля — адзін з найцяжэйшых для тлумачэньня тэкст Пісаньня. Бо ўсе падзеі, якія ў ёй адбываюцца, ня маюць мэтавага тлумачэньня. Не даюць адказу на пытаньне: чаму?

У левай частцы карціны Адам «у поце твару» працуе, сын Адама — Каін у цэнтры, апрануты ў ружовае, а Ева — у правай з Авелям на каленях на фоне цудоўнага пэйзажу. Але гэта ня Рай!

«Празь некаторы час Каін прынёс ад пладоў зямлі дар Госпаду; і Авель таксама прынёс ад першародных статку свайго і ад тлушчу іхняга. І прыхінуўся Гасподзь да Авеля і да дару ягонага; а да Каіна і да дару ягонага не прыхінуўся. Каін моцна засмуціўся, і панік твар ягоны» (Быцьцё 4:3—5). Чаму Бог «прыхінуўся» да дару Авеля і «не прыхінуўся да дару Каіна? Можам толькі здагадвацца,

што ахвяра аднаго была шчырай, а другога не. Каін павінен быў раскаяцца, але замест гэтага Каіна апанавала зайздрасьць. Бог папярэджвае: «калі робіш добрае, дык ці не падымаеш твару? а калі ня робіш добрага, дык пад дзьвярыма грэх ляжыць; ён вабіць цябе да сябе, але ты пануй над ім» (Быцьцё 4:7).

Бог судзіць нас толькі за нашы ўчынкі; пакуль ты яшчэ нічога не зрабіў, але цьмяныя і дрэнныя думкі пачынаюць адольваць цябе, ты яшчэ можаш выбраць шлях дабра, ухіліцца ад зла… «Вераю Авель прынёс Богу ахвяру лепшую, ніж Каін; ён атрымаў сьведчаньне, што ён праведны, як засьведчыў Бог пра дары ягоныя; ёю ён і пасьля сьмерці гаворыць яшчэ» (Да Габрэяў 11:4).

На малюнку маркі два ахвярнікі. Бог прыняў ахвяру Авеля, — дым ад яе ўзьнёсься да неба. Ахвяра Каіна не прынята і дым ад яе слаўся па зямлі.




Не забі. Каін і Авель. Франчэска Трэвізані (1656—1746). Марка пошты Нікарагуа з сэрыі «Дзесяць Запаведзяў», выдадзеная ў 1971 годзе

Але Каін ня можа панаваць над грахом. Наадварот, грэх яго апанаваў. «І сказаў Каін Авелю, брату свайму: хадзем у поле. І калі яны былі ў полі, паўстаў Каін на Авеля, брата свайго, і забіў яго» (Быцьцё 4:8).

Так, біблейскі тэкст сьцьвярджае, што асновай па сутнасьці ўсіх наўмысных злачынстваў — ад малога да вялікага — зьяўляецца зайздрасьць.

Абмяркоўваючы пытаньне пра Адама, што ён быў створаны адзін, мудрацы Талмуду вынесьлі вэрдыкт: «Чалавек — гэта цэлы сьвет, і той, хто зьнішчае хоць адну душу — зьнішчае цэлы сьвет, а той, хто ратуе хоць бы адну душу, ратуе цэлы сьвет». Найстрашэньнейшая віна Каіна: забіўшы брата, ён забіў усіх ненароджаных яго дзяцей і нашчадкаў, зьнішчыў цэлы сьвет.

У жудаснай сцэне першага ў сьвеце забойства паднятая Каінам дубіна, каб нанесьці ёй удар па брату, бездапаможна балансуючым на ўскрайку каменя, здаецца абрынецца на нас. І, менавіта, абрынулася на нас. Бо першае забойства выклікала ланцуговую рэакцыю, якая не канчаецца…




Каін і Авель (1542—1544). Тыцыян (1480/85—1576). Царква Санта Марыя дэла Салютэ. Блёк пошты Уганды, выпушчаны ў 1988 годзе

Бог ізноў распачынае дыялёг з Каінам, і на гэты раз у надзеі на пакаяньне. Ні адзін чалавек не згублены перад Тварам Божым, калі ён здольны пакаяцца.

Вось чаму Бог пытаецца ў Каіна: «Дзе Авель, брат твой?» (Быцьцё 4:9). Выраз «Дзе Авель, брат твой?» стаў крылатым: гэта формула адказнасьці аднаго чалавека за другога, бо ўсе людзі — браты, гэта формула адказнасьці за ўсё, што адбываецца навакол. Каін не хоча несьці адказнасьць: «Не ведаю! Хіба я вартаўнік брату майму?» (Быцьцё 4:10). У гэтых словах упіканьне Самому Богу: гэта ж Ты — галоўны Гаспадар і Вартаўнік сьвету; чаму ж Ты не выратаваў Авеля, чаму дазволіў мне забіць яго? Зазначым, што гэта таксама тыповая мадэль паводзінаў многіх людзей: ухіліцца ад адказнасьці, схавацца за тое, што сьвет такі недасканалы, што ў рэшце рэшт ва ўсім вінаваты Сам Бог, калі Ён ёсьць...

Забойства Авеля разьмясьціла на сваёй марцы пошта Тога. Гэта адна з дзесяці марак, на каторых пры дапамозе ілюстрацый розных біблейных эпізодаў прадстаўлена Дзесяць Запаведзяў.




Каін і Авель. Не забі. Марка пошты Тога з сэрыі «Дзесяць Запаведзяў», выдадзеная ў 1982 годзе

Пачуўшы адказ Каіна, Бог вымаўляе страшныя і жорсткія словы: «І сказаў Гасподзь: што ты зрабіў? голас крыві брата твайго крычыць Мне зь зямлі; і сёньня пракляты ты ад зямлі, якая разьзявіла вусны свае прыняць кроў брата твайго ад рукі тваёй...» (Быцьцё 4:10,11).

У арыгінале слова «кроў» стаіць у множным ліку. Бо маецца на ўвазе не толькі кроў Авеля, але і ўсіх яго ненароджаных нашчадкаў. Каін — першы чалавек, пракляты Богам. Адам і Ева не былі праклятыя, бо яны зрабілі памылку, а не злачынства. Пракляты быў зьмей, праз якога грэх увайшоў у душу чалавека. Каін таксама пракляты як чалавеказабойца.




Каін забівае Авеля (1608—09). Пітэр Паўль Рубенс (1577—1640). Інстытут мастацтваў Курта, Лёндан. Марка пошты Грэнада Грэнадынас, выдадзеная ў 1982 годзе

Кожны раз кожнаму чалавеку, кожнаму пакаленьню Бог дае волю выбіраць паміж дабром і злом. Грэх Каіна такі жудасны, што падлягае толькі суду Божаму, і Бог карае Каіна непрыкаянасьцю (вельмі сымбалічна супадзеньне ў гучаньні

гэтых слоў у славянскіх мовах; а можа, гэтае «непрыкаяны» і ёсьць вытворнае ад «Каін»? ), немагчымасьцю поўнага пакаяньня (бо не захацеў гэтага сам Каін), адсутнасьцю душэўнага спакою і гармоніі, адчужанасьцю ад людзей. Ці можа быць пакараньне цяжэйшым? Можа, гэта горш за сьмерць?

На трох марках Партугаліі, выданых у 1967 годзе, зьмешчаны дзьве каменныя пліты Запавету. Майсей атрымаў на іх дзесяць Запаведзяў Божых. Пятая Запаведзь: «Не забі».




Не забі. Марка пошты Партугаліі, выпушчаная ў 1967 годзе

Запіс на марках на лацінскай і партугальскай мовах. Маркі выпушчаныя з нагоды забароны кары сьмерці.

Імёны Каіна і Авеля назаўсёды ўвайшлі ў сьвядомасьць людзей той цывілізацыі (ці нават некалькіх), што пабудаваная на Бібліі. Першы забойца і першая ахвяра... Каін назаўжды стаў не проста архетыпам забойцы, але перадусім прататыпам чалавека, які жыве пераважна матэрыяльным, залішне прывязанага да гэтага сьвету. Авель — прататып чалавека духоўнага, які не ставіць мэтай жыцьця набыцьцё багацьця, які імкнецца аддаць лепшае Богу і людзям, для якога апрача зямнога, матэрыяльнага існуе сьвет будучы, Царства Божае. Ужо ў старазапаветных апокрыфах Авель паўстае як першы Сьвяты, як першамучанік.

Чаму ж, калі гэта так, у новых пакаленьнях зноў і зноў праяўляецца «сындром Каіна»? Чаму варожасьць да падобнага сабе не пакідае чалавека? Сындром гэты такі незразумелы, часта такі нематываваны, што нават арнітолягі, якія назіраюць, як выштурхвае адно птушаня з роднага гнязда другое (пры тым, што абодвум даволі ежы і цяпла), назвалі гэты фэномэн «сындромам Каіна». Дык можа, ён закладзены ў чалавека? Можа, гэта наканаваньне? Адплата за першародны грэх? Аб усіх гэтых пытаньнях прымушае разважаць прыпавесьць пра Каіна і Авеля — адна з самых знакавых у Бібліі.

Людзі змагаюцца за адмену сьмяротнага пакараньня. Але ня ўсе краіны яго адмянілі.




150 гадоў адмены сьмяротнага пакараньня ў Партугаліі. Маркі пошты Партугаліі, выдадзеныя ў 2017 годзе

Калі Бог не пакараў Каіна сьмерцю за забойства брата, то людзкая справядлівасьць павінна насьледаваць справядлівасьць Божую. «Бо такое зьвеставаньне, якое вы чулі ад пачатку, — каб мы любілі адно аднаго, ня так, як Каін, які быў ад зламысьніка, і забіў брата свайго» (Першае Яна 3:11,12).

# Сусьветны патоп і яго наступствы. Ноеў Завет

## Патоп

*Дабрашчасны той муж, што ня ходзіць на раду бязбожных, і не стаіць на дарозе грэшных, і не сядзіць на зборні распустаў...*
*(Псалтыр 1:1)*

Адам і Ева не змаглі ўтрымацца ад адзінай спакусы — пладоў Дрэва пазнаньня. Іх нашчадкі, папаўшы ў «Сад зямных асалодаў», напоўнены спакусамі, паддаліся гэтым спакусам. Біблія папярэджвае, што з-за чалавека могуць сказіцца ўсе законы прыроды і ўся зямля можа разбэсьціцца: «Але зямля разбэсьцілася прад абліччам Божым і напоўнілася зямля злачынствамі. І паглядзеў Гасподзь Бог на зямлю, і вось, яна разбэшчаная: бо ўсякая плоць скрывіла дарогу сваю на зямлі» (Быцьцё 6:11,12).

Бог перажывае роспач і раскаяньне ад таго, што найлепшае Яго стварэньне, якому Ён падараваў свабоду волі, аказваецца нявартым гэтага высокага дару: «і пашкадаваў Гасподзь, што стварыў чалавека на зямлі, і засмуціўся ў сэрцы Сваім» (Быцьцё 6:6).

Слова «пашкадаваў» ужываецца ў сэнсе: «зьмяніў стаўленьне», «зьмяніў кіраваньне». Ад кіраваньня, заснаванага толькі на міласьці, любові, Бог перайшоў да кіраваньня з дапамогай суда і пакараньня. Але, Ён сьвядома ратуе праведніка Ноя і яго сям'ю, спадзеючыся на адраджэньне і духоўнае абнаўленьне чалавецтва на новым узроўні — Запавету зь Ім. Імя Ноах азначае на іўрыце «той, хто суцяшае». Ною загадана будаваць Каўчэг. У тэксьце Бібліі дакладна ўказаныя яго парамэтры: «І зрабі яго так: даўжыня каўчэга трыста локцяў; шырыня яго пяцьдзесят локцяў, а вышыня яго трыццаць локцяў» (Быцьцё 6:15).




Будаўніцтва Ноева каўчэга (1519). Рафаэль Санці (1483—1520). Музэі Ватыкану (фрэскі). Марка пошты Грэнады, выпушчаная ў 1993 годзе

Старажытнаўсходні «локаць» складае прыкладна 45 см; такім чынам Ноеў каўчэг меў сто трыццаць пяць мэтраў у даўжыню, дваццаць два з паловаю мэтры ў шырыню і трынаццаць з паловаю мэтраў у вышыню. Гэта было гіганцкае збудаваньне, бо ў ім, адпаведна задуме Божай, павінны былі ўратавацца не толькі Ной і яго сям'я, але і прадстаўнікі ўсяго жывёльнага сьвету, наогул — усяго жывога.

Як паведамляе Мідраш, будавалі карабель 120 гадоў. Увесь час Ной заклікаў народ да пакаяньня. Але над ім толькі сьмяяліся. Пасьля ста дваццаці гадоў, дадзеных людзям на выпраўленьне, ба-

чачы, што ніхто не пакаяўся, апрача Мафусаіла (дзед Ноя) і Ноя, Бог даў чалавецтву яшчэ сем дзён (гэта час жалобы па Мафусаілу, які памёр перад самым патопам). Але і гэта не мела ніякага выніку. «Што тычыцца Ашэма (Ашэм, дакладней — га-Шэм, — замена ў юдэйскай традыцыі невымаўляльнага Тэтраграматону — Сьвятога Імя Бога), то Ён правёў гэтыя сем дзён у смутку, аплакваючы чалавецтва, якое адмовілася скарыстаць усё тое хараство, якім Ён хацеў яго абдарыць. Пасьля сямі дзён жалобы Бог канчаткова вырашае пакараць чалавецтва: «І сказаў Гасподзь: вынішчу з улоньня зямлі людзей, якіх Я стварыў, ад чалавека да быдла, і гадаў і птушак нябесных вынішчу; бо Я пашкадаваў, што стварыў іх» (Быцьцё 6:7).




Будаўніцтва Ноева каўчэга (1608). Гвідо Рэні (1575—1642). Дзяржаўны Эрмітаж, Санкт-Пецярбург. Блёк пошты Гранады Карыака і Петыт Марцінікі, выдадзены ў 2003 годзе

Ною Бог сказаў: «Але з табою Я станаўлю запавет Мой, і ўвойдзеш у каўчэг ты і сыны твае, і жонка твая і жонкі сыноў тваіх з табою. Увядзі таксама ў каўчэг з усіх жывёл, і ад кожнае плоці па пары, каб яны засталіся з табою жывыя; мужчынскага полу і жаночага хай яны будуць. З птушак паводле роду іхняга, і з быдла паводле роду іхняга, і з усіх паўзуноў зямных паводле роду іхняга, з усіх па пары ўвойдуць да цябе, каб засталіся жывыя» (Быцьцё 6:18—20).




Жывёлы Ноевага каўчэга. Марачны ліст пошты Лібэрыі, выдадзены ў 1998 годзе

«І ўвайшлі да Ноя ў каўчэг па пары ад усякай плоці, у якой ёсьць дух жыцьця... (Быцьцё 7:15).

Патоп абрынуўся на грэшнае чалавецтва нечакана менавіта таму, што яно абсалютна не ўсьведамляла сваю разбэшчанасьць. Лівень не адступаў сорак дзён і сорак начэй. Пад вадой аказаліся самыя высокія горы, а каўчэг плаваў па паверхні вады. Лівень не спыняецца і хутка на зямлі не застанецца ні аднаго астраўка. Людзі ў жаху робяць спробы ўратавацца. Але ўсе спробы людзей выжыць марныя. «Зьнішчылася кожная

істота, якая была на паверхні; ад чалавека да быдла, і гадаў і птушак нябесных, усё зьнішчылася зь зямлі: застаўся толькі Ной, і што было зь ім у каўчэгу. А вада мацнела на зямлі сто пяцьдзесят дзён» (Быцьцё 7:23,24). І ў той жа час складваецца адчуваньне, што род чалавечы выжыве і не зьнікне.



Сусветны патоп (1512). Мікеланджэла Буанароці (1475—1564). Сыкстынская Капэла. Картмаксімум пошты Парагваю, выдадзены ў 1975 годзе

Чамусьці аўтар Блоку прысьвяціў яго не крумкачу і не голубу, як апісана ў Бібліі, а Чарнаногай Чайцы Кітывейцы.




Каўчэг на гарэ Арарат. Блёк пошты Лібэрыі, выдадзены ў 1998 годзе

«І спыніўся каўчэг на сёмым месяцы, на сямнаццаты дзень месяца, на гарах Арарацкіх. Вада спакваля ўбывала да дзясятага месяца; у першы дзень дзясятага месяца паказаліся вярхі гор. Праз сорак дзён Ной адчыніў зробленае ім акно ў каўчэгу і выпусьціў крумкача, які, вылецеўшы, адлятаў і прылятаў, пакуль не абсохла зямля ад вады» (Быцьцё 8:4—7).

Потым Ной выпусьціў голуба, але голуб, як і крумкач, вярнуўся на каўчэг. Праз сем дзён Ной зноў выпусьціў голуба. «Голуб вярнуўся да яго вечаровай парою, і вось, сьвежы аліўкавы ліст у дзюбе ў яго: і Ной даведаўся, што вада сышла зь зямлі» (Быцьцё 8:11). Голуба з аліўкавым лістом бачым на марцы Ватыкану.




Ноеў каўчэг, вясёлка і галубок. Мазаіка. Марка пошты Ватыкану, выдадзеная ў 1974 годзе

Да каўчэга вяртаецца голуб з аліўкавым лістом.

Яшчэ праз сем дзён Ной ізноў выпусьціў голуба, і цяпер той знайшоў сабе месца для гнязда і не вярнуўся. «І сказаў Бог Ною: выйдзі з каўчэга ты і жонка твая, і сыны твае і жонкі сыноў тваіх з табою; выведзі з сабою ўсе жывёлы, якія з табою, ад усякае плоці, з птушак, і быдла, і ўсіх гадаў, якія поўзаюць па зямлі: хай разыдуцца яны па зямлі, і хай плодзяцца і множацца на зямлі» (Быцьцё 8:15—17).

У 1968 годзе Ізраіль выпусьціў набор з пяці марак, якія сымбалічна ўяўляюць гэтую вялікую катастрофу. Першая марка паказвае нарыхтоўку дрэў, Ноя і каўчэг, які будуецца. На другой — сям'я Ноя і пары жывёл, што ідуць у каўчэг.




Будаўніцтва Ноева каўчэга. Жывёлы ідуць на каўчэг. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1968 годзе

На прывесках марак цытаты з Бібліі. «Зрабі сабе каўчэг з дрэва гофэр...» (Быцьцё 6:14). «І ўвайшлі да Ноя ў каўчэг па пары ад усякай плоці...» (Быцьцё 7:15).

Потым «І доўжылася на зямлі паводка сорак дзён...» Быцьцё 7:17) — прадстаўлена трэцяй маркай з гіганцкімі хвалямі і сполахамі маланкі.




Патоп. Пасланьне голуба. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1968 годзе

Праз сорак дзён Ной паслаў крумкача, а потым голуба тройчы, з перапынкам у сем дзён, як паказвае чацьвёртая марка. На прывесках марак цытаты з Бібліі. «...і каўчэг плаваў па паверхні водаў» (Быцьцё 7:18). «Потым выпусьціў ад сябе голуба...» (Быцьцё 8:8). Першы раз голуб вярнуўся да каўчэга з пустой дзюбай, бо зямля ўсё яшчэ была пад вадой. У другі раз ён вярнуўся з аліўкавым лістом і Ной даведаўся, што вада спадае. У трэці раз голуб не вярнуўся.

На апошняй марцы — вясёлка — знак Божага запавету з чалавекам пасьля патопу. На прывесцы цытата: «...дык явіцца вясёлка ў воблаку» (Быцьцё 9:14).




Знак Божага Запавету. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1968 годзе

Блёк Ізраілю каранаваны вясёлкай.




Ноеў каўчэг. Блёк пошты Ізраілю, выпушчаны ў 2008 годзе

Голуб з аліўкавай галінкаю, сям’я Ноя і зьвяры выходзяць з каўчэгу...

Гэта быў вельмі шчасьлівы момант для ўсіх істот, якія знаходзіліся ў зьняволеньні каля цэлага году и выходзілі з каўчэгу, каб засяляць бязьлюдны сьвет. У загалоўку блоку цытата на ангельскай мове: «І ўспомніў Бог пра Ноя, і пра ўсю жывёлу» (Быцьцё 8:1).




Выхад на сушу з каўчэга Ноя. Марачны ліст неіснуючай краіны Тонга, выдадзены ў 1987 годзе

У 1889 годзе Іван Айвазоўскі напісаў карціну «Ной спускаецца з гары Арарат».




Ной спускаецца з гары Арарат (1889). Іван Айвазоўскі (1817—1900). Нацыянальная галерэя Армэніі, Ерэван. Блёк пошты Армэніі, выдадзены ў 1992 годзе

Ной вяртаецца на зямлю пасьля сусьветнага патопу. Разам зь ім з Арарацкіх гор спускаюцца яго сыны, жонка, жонкі сыноў і шматлікія жывёлы, якія выратаваліся ад патопу дзякуючы каўчэгу.

Ной адразу будуе ахвярнік і прыносіць Богу ахвяру ўсеспаленьня, як знак яго гатоўнасьці да служэньня Богу.




Ахвярапрынашэньне Ноя (1508—1512). Мікеланджэла Буанароці (1475—1564). Сыкстынская Капэла, Ватыкан. Марка пошты Гранады Карыака і Петыт Марцінікі, выдадзены ў 2014 годзе

Сьмерць жывёліны сымбалізуе сьмерць жывёльнага пачатку ў чалавеку, яго падпарадкаваньне пачатку духоўнаму. За гэтую шчырую падзяку Бог і дае «у сэрцы Сваім» абяцаньне не праклінаць зямлю за чалавека і не караць больш так жорстка чалавецтва.

Новая старонка чалавечай гісторыі пачнецца з дабраславеньня Божага Ною і яго нашчадкам, з усталяваньня новага Саюзу-Запавету з усім чалавецтвам. «І сказаў Гасподзь у сэрцы Сваім: ня буду больш праклінаць зямлю за чалавека, бо намысел сэрца чалавечага — зло ад маладосьці ягонай; і ня буду болей пабіваць усё жывое, як Я зрабіў...» (Быцьцё 8:21).

Пасьля гісторыі паводкі быў усталяваны шэраг сымбаляў, якія сталі

неад'емнай часткай культурнай спадчыны. Так вясёлка стала выразам надзеі і абяцаньня на лепшую будучыню, а голуб, які нясе ў дзюбе аліўкавую галінку, стаў сымбалям міру.

«Я кладу вясёлку Маю ў воблаку, каб яна была азнакаю запавету паміж Мною і паміж зямлёю» (Быцьцё 9:13) напісана на выданьні пошты Сэнт-Вінсэнту.



Ноеў каўчэг. Марачны ліст пошты Сэнт-Вінсэнту, выдадзены ў 2015 годзе

Калі мы думаем пра жорсткасьць Божага пакараньня, то павінны ўспомніць, што Ісус, «быўшы забіты ў целе, але ажылы духам, якім Ён і духам, што ў цямніцы былі, сышоўшы, прапаведаваў; яны калісьці непакорлівыя былі Божаму доўгацярпеньню, што іх чакала, у дні Ноя, у часы будаваньня каўчэга...» (Першае Пятра 3:18—20). Гэта значыць, што тыя душы, якія не пакаяліся за 120 гадоў, дадзеных чалавецтву для пакаяньня перад патопам, знайшлі пакаяньне, дзякуючы Хрысту.

Запаветз Ноем змацоўвае саюз паміж Богам і чалавекам. Дуга вясёлкі перакліkaецца з выгібам цела сьпячага Ноя, чыё імя ў перакладзе з іўрыту азначае «адпачынак» або «суцяшэньне». Жоўты Анёл, які ўяўляе сабой Боскае слова, падкрэсьлівае цудоўную прыроду вясёлкі. Яе дзіўнай белізной Шагал паказвае, што белы зьяўляецца сумай усіх колераў. Анёл абвяшчае дабраславеньне, абяцанае Запаветам, і паказвае сцэны будучага дастатку (яны прадстаўлены ў верхняй частцы карціны), а таксама беды габрэйскага народу, намаляваныя ўнізе палатна (як апісаныя Прарокамі ў Бібліі, так і тыя, якія габрэям сапраўды прыйшлося перажыць у ходзе гісторыі). Упершыню сьмяротнае пакараньне стала часткай чалавечага быцьця і ўсе забойцы з тых часоў павінны былі быць пакараныя.




Першы Запавет. Марк Шагал (1887—1985). Марка пошты Грэнады, выдадзеная ў 1986 годзе

«Ці спраўдзіў наш, Другі, сьвет надзею Бога? Ці не пахіснуў яе яшчэ больш? Ці навучыўся ён чаму-небудзь на прыкладзе таго, Першага, што назаўсёды згінуў пад хвалямі патопу? Невядома. Але цяпер на старонках Бібліі гэты малады пасьляпатопны сьвет толькі робіць першыя крокі, і Ной чакае голасу Божага». Галіна Сініла.

## П'яны Ной

*Глядзеце ж за сабою, каб сэрцы вашыя не абцяжарваліся абжорствам і п'янствам і клопатам будным, і каб дзень той не застаў вас зьнянацку... (Паводле Лукаша 21:34)*

У Бібліі слова «віно» сустракаецца больш за сто разоў і першы раз у сувязі з Ноем.

«Сыны Ноя, якія выйшлі з каўчэга, былі: Сім, Хам і Яфэт. А Хам быў бацька Ханаана. Гэтыя трое былі сыны Ноевыя, і ад іх насялілася ўся зямля. Ной пачаў урабляць зямлю і пасадзіў вінаграднік...» (Быцьцё 9:18—20).

На ўспамінаным раней блёку пошты Ізраілю з рэпрадукцыяй старонкі ілюстраванага выданьня Бібліі — «Biblia Schockena» з 13 веку, створанай у Германіі, малюнак у верхнім куце другі зьлева паказвае, як Ной садзіць вінаграднік. Але Ной навучыўся ня толькі вырошчваць вінаград, але і рабіць віно і ня змог разумна гэта выкарыстаць.

Зьлева — Ной капае вінаграднік. У цэнтры сьпіць аголены Ной; Хам, які стаіць сьпіной да нас, паказвае пальцам на бацьку, якога Сім і Яфэт накрываюць.

«І выпіў ён віна, і ап'янеў, і ляжаў голы ў намёце сваім. І бачыў Хам, бацька Ханаанаў, сарамату бацькі свайго і, выйшаўшы, расказаў двум братам сваім» (Быцьцё 9:21,22).

«Немагчыма перадаць, як выдатна намаляваная гісторыя Ноя, дзе ён, ап'янелы віном, сьпіць, аголены, і тут жа прысутнічаюць адзін з сыноў, які над ім сьмяецца, іншыя, якія яго затуляюць; гісторыя гэтая і майстэрства мастака не параўнальныя ні з чым, і перасягнуць яго мог бы хіба толькі ён сам» Вазары.




Ап'яненьне Ноя (1508—1512). Мікеланджэла (1475—1564). Сыкстынская Капэла. Марка пошты Гамбіі, выдадзеная ў 2013 годзе

Сцэна з п'яным Ноем паказана на марцы пошты Тога з сэрыі, прысьвечанай Дзесяці Запаведзям. Бачым Сіма і Яфэта, прыкрываючых бацьку. Біблейны эпізод тут выкарыстаны для ілюстрацыі Запаведзі: «Шануй бацьку твайго і маці тваю, каб падоўжыліся дні твае на зямлі, якую Гасподзь, Бог твой, дае табе» (Выхад 20:12).

Нядобры ўчынак Ноя справакаваў другі нядобры ўчынак яго сына, які стаў насьміхацца над бацькам. Яму не хапіла ў гэтым выпадку сыновай любові. Сім і Яфэт прыпынілі нядобры ход падзей. «А Сім і Яфэт узялі вопратку, і паклаўшы яе на плечы свае, пайшлі адвярнуўшыся і накрылі галізну бацькі свайго; твары іх былі абернуты назад, і яны ня бачылі сараматы бацькі свайго» (Быцьцё 9:23).

Нядобры пачатак і далей вёў нядобрай дарогай. Бо, калі Ной працьверазеў і даведаўся аб усім, то пакараў Хама і пахваліў Сіма і Яфэта. П'янства працягвае быць злом. Але калі сын высьмейвае ба-

цьку, гэта яго ўласная ганьба, не яго бацькі.




Ап'яненьне Ноя. Марка пошты Тога, выдадзеная ў 1982 годзе

Гэта яшчэ зварот увагі на тое, што трэба быць цярплівым і верыць у чалавека, які заўсёды мае шанс выправіцца.




Ной праклінае Хама (1852). Ксенофонтов Іван (1817—1875). Бурацкі Рэспубліканскі мастацкі музэй імя Сампілава, Улан-Удэ. Пэрсанальная марка, выдадзеная ў 2014 годзе поштай Ізраілю

Жыў Ной пасьля патопу трыста пяцьдзесят гадоў. І памёр ва ўзросьце 950 гадоў. А яго сыны Сім, Хам і Яфэт сталі прабацькамі ўсяго цяперашняга чалавецтва.

## Вавілонская вежа

*«І расьсеяў іх Гасподзь адтуль па паверхні ўсёй зямлі; і яны перасталі будаваць горад». (Быцьцё 11:8)*

Кнізе Быцьця распавядаецца, што ў сыноў Ноя Сіма, Хама і Яфэта было мноства патомкаў. Ад іх расьсяліліся народы па зямлі пасьля патопу.

«На ўсёй зямлі была адна мова і адна гаворка. Рушыўшы з усходу, яны знайшлі ў зямлі Сэнаар раўніну і пасяліліся там. І сказалі адно аднаму: наробім цэглы і абпалім агнём. І стала ў іх цэгла замест камянёў, а земляная смала замест вапны. І сказалі яны: збудуем сабе горад і вежу, вышынёю да нябёсаў, і зробім сабе імя, перш чым расьсеемся па ўлоньні ўсёй зямлі» (Быцьцё 11:1—4).




Будаваньне Вавілонскай вежы. Ілюстрацыя. Біблія Шокэна (1290). Блёк пошты Ізраілю, выдадзены ў 1985 годзе

Памылка людзей была ў тым, што яны задумалі вежу і ідала на вяршыні вежы зрабіць сымбалям яднаньня і пакланеньня замест Бога.

Сюжэт пра Вавілонскую вежу распаўсюджаны ў хрысьціянскай іканаграфіі — у шматлікіх мініяцюрах, рукапісных і друкаваных выданьнях Бібліі (напрыклад, у мініяцюры англійскага рукапісу XI стагодзьдзя); а таксама ў мазаіках і фрэсках сабораў і цэркваў (напрыклад, мазаіка сабора Сан-Марка ў Венецыі, канец XII — пачатак XIII ст.).

У эўрапейскім жывапісу найбольш знакамітай карцінай на гэты сюжэт зьяўляецца палатно Пітэра Брэйгеля Старэйшага «Вавілонскі гармідар» (1563). На фоне «Вавілонскай вежы» Партрэт Пітэра Брэйгеля. Гэта адна з трох алейных карцін Пітэра Брэйгеля Старэйшага. Першая зь іх, напісаная ў той час, калі Брэйгель быў у Рыме, страчаная.




Вавілонская вежа (1563). Пітэр Брэйгель Старэйшы (1564—1638). Музэй гісторыі мастацтваў. Вена. Аўстрыя

Старажытны Вавілон апісаны ў працах Арыстоцеля і Герадота. Апошні пісаў: «Вежа падымалася да неба гіганцкімі тэрасамі, яе складалі сем вежаў, пастаўленых адна на адну. Падстава вежы было шырынёй 90 мэтраў, і столькі ж вежа мела ў вышыню. На першы паверх даводзілася 33 мэтра вышыні, на другой — 18 мэтраў і на астатнія чатыры — па 6 мэтраў. Верхні паверх вышынёй 15 мэтраў, пакрыты золатам і абліцаваны блакітнай паліванай цэглай гарэў на сонцы сіне — залатым агнём і быў бачны за многія кілямэтры».

На наступнай марцы трэцяя карціна Пітэра Брэйгеля Старэйшага. Марка выданая ў спалучэньні з сымбалем Эсперанта — штучнай мовы, створанай Людвікам Заменхофам (1859—1917) з надзеяй, што стане яна міжнароднай мовай. Над недабудаванай вежай лунае вясёлка — сымбаль Божай апекі.




Вавілонская вежа (1563). Пітэр Брэйгель Старэйшы. Музэй Бойманса — ван Бенінгена, Ратэрдам. Марка пошты Бельгіі, выдадзеная ў 1982 годзе

Шэраг вучоных — біблеістаў прасочвае сувязь паданьня пра Вавілонскую вежу з будаўніцтвам у Двурэччы высокіх веж-храмаў, якія зваліся зікуратамі. Вяршыні вежаў служылі для адпраўленьня рэлігійных абрадаў і астранамічных назіраньняў. Самы высокі зікурат (вышынёй 91 м, адна прамавугольная ступень і сем сьпіральных — усяго 8) знаходзіўся менавіта ў Вавілоне. Зікурат зваўся Этэменанкі, што азначае «дом, дзе сыходзяцца нябёсы з зямлёю». Невядома, калі менавіта было распачата будаўніцтва гэтай вежы, але яна ўжо існавала падчас кіраваньня Хамурапі (1792–1750 да Р.Х.). Асірыйскі цар Сінахерыб у 689 г. да Р.Х.

разбурыў Вавілон і Этэменанкі. Зікурат быў адноўлены Навухаданосарам II.

На марцы Іраку намаляваны варыянт карціны «Вавілонская вежа», які захоўваецца ў музэі Ратэрдама, а таксама меркаваны выгляд зікурата ў Барсіпе альбо Бірс Німруд.




Вавілонская вежа і зігурат у Барсіпе. Марка пошты Іраку, выдадзеная ў 1998 годзе

«І сышоў Гасподзь паглядзець горад і вежу, што будавалі сыны людзкія. І сказаў Гасподзь: вось, адзін народ, і адна ў іх мова; і вось, што пачалі яны рабіць, і не адстануць ад таго, што задумалі рабіць; сыдзем жа і зьмяшаем там мову іхнюю, так каб адзін не разумеў гаворкі другога. І расьсеяў іх Гасподзь адтуль па паверхні ўсёй зямлі; і яны перасталі будаваць горад. Таму дадзена яму імя: Вавілон, бо так зьмяшаў Гасподзь мову ўсёй зямлі, і адтуль расьсеяў іх Гасподзь па ўсёй зямлі» (Быцьцё 11:5—9).

На марцы Вэнгрыі з сэрыі «Сем цудаў сьвету», паказаны Зікурат у славутых Садах Семіраміды ў Вавілоне. Паказана таксама геаграфічнае становішча Вавілону — на поўнач ад Пэрсідзкага заліву.




Вісячыя сады Семіраміды Вавілону. Марка пошты Вэнгрыі, выдадзеная ў 1980 годзе

Падзел людзей на рознамоўныя плямёны — бяда гэта ці ласка Божая? Да чаго вяло тое, «што задумалі рабіць»? Ніжэйшае пагражала пазбавіць будучыні вышэйшае. Людзі апынуліся б у «аднадумстве зла» (Прамудрасці Саламона 10:5). Першы грэх, які апісваецца Бібліяй, і грэх будаўнікоў вежы ў істоце адзін і той жа: самаабагаўленьне чалавека. На шмат пакаленьняў наперад чалавечае грамадзтва засталося б адным і тым жа і не магло б адчуваць іншых магчымасьцяў разуменьня сьвету і жыцьця ў сьвеце. Разбурэньне Богам Вавілонскай вежы расчысьціла дарогу для чалавечай гісторыі.

Вернемся да карціны Пітэра Брэйгеля Старэйшага «Вавілонская вежа». Узрушае маштаб будаўніцтва, прысутнасьць вялікай колькасьці людзей і будаўнічай тэхнікі. Ля падножжа вежы разьмясьціўся горад з ажыўленым портам. Намаля-

ваныя на карціне людзі — рабочыя, каменячосы — здаюцца вельмі маленькімі і нагадваюць сваёй стараннасьцю мурашак. Значна большай намалявана фігура Німрода — легендарнага заваёўніка Вавілона ў II тысячагодзьдзі да Р.Х., які па традыцыі лічыцца кіраўніком будаўніцтва Вавілонскай вежы, і яго сьвіты ў левым ніжнім куце карціны. Яму сьпяшаюцца вызваліць дарогу, каменячосы падаюць ніцма, сьвіта дрыгатліва ловіць выраз твару фанабэрыстага ўладара… Ля падножжа вежы кіпіць праца. Але яна ніколі не будзе завершана. Адчуваньне бессэнсоўнасьці ўсяго пачынаньня, асуджанасьці намаганьняў чалавечых не пакідае гледача. Ад вежы вее закінутасьцю, ад карціны — безнадзейнасьцю: гордая задума людзей ўзьнесьціся да нябёсаў не даспадобы Богу.




Вавілонская вежа (1563). Пітэр Брэйгель Старэйшы (1564—1638). Музэй гісторыі мастацтваў, Вена. Марка пошты Аўстрыі, выдадзеная ў 2011 годзе

Само па сабе адзінства людзей не ёсьць абсалютнае зло ці абсалютная карысьць. Пытаньне ў тым — у імя чаго гэта адзінства. Узьяднаньне розных народаў і моў адбылося ў Ерусаліме ў Новазапаветныя часы. Сьвяты Дух сыходзіць на апосталаў і навучае прапаведаваць на незнаёмых ім мовах. Па сьведчаньні апостала Паўла: «А плод Духа: любоў, радасьць, згода, доўгая цярплівасьць, добрасьць, міласэрнасьць, вера…» (Да Галятаў 5:22).

Такім чынам, Біблія вучыць, што адзінства людзей зьяўляецца дабром, калі яно грунтуецца на служэньні дабру, і зьяўляецца злом, калі яно становіцца супольнасьцю багаборцаў.

Вавілонская вежа стала тэмай нават для коміксаў.




Вавілонская вежа. Марка пошты Выспа Норфалк, выдадзеная ў 2001 годзе

Аднак, падобна слухаць Бога мы ніяк не хочам. Яшчэ тлее галавешкамі чарговая рухнуўшая Вавілонская вежа — пабудова сьветлай камуністычнай будучыні, а зямляне ўжо рушылі ў новыя праекты падобнага кшталту.

# Аўрагамаў Завет. Патрыярхі Абранага народу

## Божая місія. Пакліканьне Абрама

*...ён стаўся бацькам усіх веруючых...* (*Да Рымлянаў 4:11*)

На пачатку гісторыі чалавецтва Бог не пазбаўляў людзей Сваёй прысутнасьці. Але зло таксама не пакідала людзей. Людзі лёгка паддаваліся спакусам і пакланяліся паганскім ідалам. Да Абрагама былі людзі, якія верылі ў Адзінага Бога і нават заключалі зь ім Запавет, як, напрыклад, Ной. Але з Абрагамам зьвязана ўзьнікненьне народа Божага. Адносіны з Богам сталі перадавацца іншым пакаленьням. Але ўсё пачалося з пакліканьня.




Зікурат ў Уры (каля 2047 года да Р.Х.). Сучасная рэканструкцыя. Марка пошты Іраку, выдадзеная ў 1967 годзе

У Мэсапатаміі ў халдэйскім горадзе Ур нарадзіўся хлопчык Абрам, малодшы сын Тары, дзясятага патрыярха па прамой лініі ад Сіма, сына Ноя. Жывучы сярод паганцаў Абрам верыў ў адзінага Бога, апосталам якога ён стаў. За гэта яго падвяргалі ганеньням суайчыньнікі. Знаёмячыся з жыцьцём Абрама мы ўступаем у абсяг гісторыі, бо дакладна можам даведацца дзе і калі ён жыў. Абрам жыў каля 1850—1750 году перад нараджэньнем Хрыста, ці каля 4000 тысяч гадоў таму. Роднай мясьцінай Абрама быў Ур на пагранічча паміж сучаснымі Іракам і Кувэйтам на поўнач ад Персыдзкай затокі. Адлюстравана гэта месца на марцы Цэнтральна-Афрыканскай Рэспублікі, прысьвечанай Месапатамскай цывілізацыі, дзе кругам вылучаны Ур.




Месапатамская цывілізацыя. Марка пошты Цэнтральна-Афрыканскай Рэспублікі, выдадзеная ў 2015 годзе

Там Абрам пачуў голас Бога: «І сказаў Гасподзь Абраму: ідзі зь зямлі тваёй, ад радзіны тваёй і з дома бацькі твайго ў зямлю, якую Я пакажу табе; і Я выведу

ад цябе вялікі народ, і дабраслаўлю цябе, і праслаўлю імя тваё, і будзеш ты ў дабраславенстве. Я дабраслаўлю тых, што дабраслаўляюць цябе, і тых, што ліхасловяць цябе, пракляну; і дабраславяцца ў табе ўсе плямёны зямныя» (Быцьцё 12:1—3).

Тут важна вылучыць два моманты. Чаму Бог выбраў Абрама? Напэўна Абрам адпавядаў тым якасьцям і патрабаваньням Бога, каб прызначыць яго пачынальнікам Абранага народу. Сярод габрэяў жыве такая легенда, якую расказваюць усім дзецям у Ізраільскай школе, што Фара, бацька Абрама меў лаўку фігуркаў бажкоў. Аднойчы, пры адсутнасьці бацькі, Абрам парубаў усе фігуркі акрамя найбольшай, якой уклаў у руку сякеру. На пытаньне разззлаванага бацькі Абрам сказаў, што бажкі пасварыліся і пазабіваліся і таму ім нельга маліцца, бо яны не ў стане абараніць самы сябе.




Абрам, які пакідае Ур. Уільям Брэсі Хоул (1846—1917) Месцазнаходжаньне невядома. Пэрсанальная марка, выдадзеная ў 2014 годзе поштай Ізраілю

На 75 годзе жыцьця Абрам мусіў пакінуць радзіму, накіраваўшыся цераз Эўфрат у зямлю Ханаанскую, якую абяцаў Бог яму й ягоным нашчадкам.

Марка Аўстрыі прысьвечана Дзесятаму Кангрэсу Міжнароднай Арганізацыі Вывучэньня Старога Запавету. Выява Абрама зьяўляецца ілюстрацыяй да кнігі «Божы зварот да Абрама».




Абрам. Эрнст Дэгаспэры (1927—2011). Марка пошты Аўстрыі, выдадзеная ў 1980 годзе

Чаму Абрам без ваганьня пакінуў дом, месца, дзе нарадзіўся і пражыў 75 гадоў, суседзяў і блізкіх і накіраваўся ў доўгую і небясьпечную дарогу? Абрам, маючы дасканалую веру, безумоўна прымае Боскую задуму і падпарадкоўваецца ва ўсім волі Божай. «Бо што кажа Пісаньне? „Паверыў Абрагам Богу, і гэта залічылася яму ў праведнасьць“» (Да Рымлянаў 4:3). З патрыярха Абрагама пачынаецца гісторыя народа, зь якога адбылася Найсьвяцейшая Дзева Марыя, якая нарадзіла Збаўцу сьвету.

Прайшоўшы прыблізна 1700 кілямэтраў караван Абрама вайшоў у зямлю Ханаанскую да Сіхему (Наблус), да дубровы Марэ. «І явіўся Гасподзь Абраму і сказаў: нашчадкам тваім аддам Я зямлю гэтую. І паставіў там ахвярнік Госпаду, Які явіўся яму» (Быцьцё 12:7).

Шлях Абрама з Сіхему на поўдзень пралягаў па горнай мясцовасьці, вядомай яшчэ, як Дарога Патрыярхаў.




Сіхем (Наблус). Гравюра Луі Хаге па карціне Дэвіда Робертса зь яго падарожжа ў 1839 годзе. Марка пошты Палестыны, выдадзеная ў 2002 годзе

Абрам разбіў свой шацёр на ўзгорку паміж Вэтылем і Гаем, пабудаваў там ахвярнік і заклікаў імя Госпада. Затым ён пайшоў далей на поўдзень міма Хэўрона ў вобласць Негеў, што азначае «паўднёвая» і «сухая».




Пустыня Негеў. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1988 годзе

У беларускім перакладзе Бібліі няма назвы Негеў. Але параўнаем адпаведныя вершы з беларускага і польскага перакладу.

«І падаўся Абрам далей і пайшоў на поўдзень» (Быцьцё 12:9).

«Zwinąwszy namioty, Abram wędrował z miejsca na miejsce w stronę Negebu» (Rdz 12.9).

У беларускім перакладзе назва пустані Негеў падаецца як «поўдзень» — напрамак руху, а ў польскім, як геаграфічная назва. Сапраўды, Абрам рухаўся на поўдзень да пустыні Негеў. Там Аўрам быў празваны «га-гіўры», што азначала: прыбылы з таго берагу ракі, адкуль і пайшла назва — габрэй. Потым з прычыны голаду Абрагам рушыў у Егіпет.




Сара (1950). Абель Пан (1883 -1963). Картмаксімум пошты Ізраілю, выдадзены ў 1972 родзе

У Бібліі Сара ўпамінаецца як старая кабета, але мастак намаляваў прыгожую маладую дзяўчыну. Напэўна кіраваўся словамі Бібліі: «І было, калі Абрам прыйшоў у Егіпет, Егіпцяне ўбачылі, што яна жанчына даволі прыгожая; убачылі яе і вяльможы фараонавыя і пахвалілі яе фараону; і была яна ўзятая ў дом фараонаў» (Быцьцё 12:14,15). У Егіпце Абрам выдаў Сару за сваю сястру, каб Егіпцяне, убачыўшы прыгажосьць Сары, не забілі

яго. Цнатлівастць Сары было захавана Богам праз пакараньне фараона..

Абрам з сямейством, атрымаўшы вялікія дары ад фараона, вярнуўся ў Ханаан. «І быў Абрам вельмі багаты быдлам і срэбрам і золатам» (Быцьцё 13:2). Тут Абрам і яго пляменьнік Лот падзялілі гаспадарку і разышліся: Лот да Садому, а Абрам да Хэўрону.




Хэўрон. Гравюра Луі Хаге па карціне Дэвіда Робертса зь яго падарожжа ў 1839 г. Марка пошты Палестынскай Аўтаноміі, выдадзеная ў 1997 годзе

«...І пасяліўся каля дубровы Мамрэ, што ў Хэўроне; і паставіў там ахвярнік Госпаду» (Быцьцё 13:18).

## Сустрэча Абрама і Мелхісэдэка

*Бо Мелхісэдэк, цар Саліма, сьвятар Бога Ўсявышняга [...] цар праўды, а потым і цар Саліма, што азначае — цар сьвету... (Да Габрэяў 7:1,2)*

Пасля вяртаньня Абрама зь Егіпту «Абрам пачаў жыць на зямлі Ханаанскай; а Лот пачаў жыць у гарадах навакольля і раскінуў намёты да Садомы» (Быцьцё 13:12).

Падчас царскіх войнаў пляменьнік Абрама Лот трапіў у палон да цара Кедарлаамэра. «І прыйшоў адзін з ацалелых і паведаміў Абраму Габрэю, які жыў тады каля дубровы Мамрэ, Амарэяніну, брату Эшколу і брату Анэру, якія былі спрымірэнцы Абрамавыя» (Быцьцё 14:13). Тут упершыню ўжываецца ў Бібліі слова «Габрэй». Абрам, даведаўшыся пра гэта, узброіў сваіх рабоў, перамог цара і вярнуў Лота і ўсю яго маёмасьць.




Сустрэча Абрама і Мелхісэдэка. Пітэр Паўль Рубенс (1577—1460). Музэй Рінглінга Сарасота. Марка пошты Рэспублікі Чад, выдадзеная ў 1978 годзе

«Калі ён вяртаўся пасьля паразы Кедарлаамэра і цароў, якія былі зь ім, цар Садомскі выйшаў яму насустрач у даліну Шавэ, што сёньня даліна царская; і Мэлхісэдэк, цар Салімскі, вынес хлеб і віно, — ён быў сьвятар Бога Ўсявышняга, — і дабраславіў яго і сказаў: дабраславёны Абрам ад Бога Ўсявышняга, Уладара неба і зямлі; і дабраславёны Бог Усявышні, Які аддаў ворагаў тваіх у рукі твае. Абрам даў яму дзясятую частку з усяго» (Быцьцё 14:17—20).

Абрам у дасьпехах стаіць на чале сваёй групы салдат і з удзячнасьцю прымае хлеб ад Мэлхісэдэка.

Свой погляд на гэту падзею выказаў на сваёй карціне мастак Дыэрых Бутс (Dieric Bouts). Цар Салема (будучага Ерусаліма) Мелхісэдэк сустракае Абрама хлебам і віном. Абрагам, апрануты ў дасьпехі пасьля пасьпяховай бітвы пры Сідыме, становіцца на калені перад Мелхісэдэкам. На заднім пляне — вяртаньне войскаў Абрама.




Сустрэча Абрама і Мелхісэдэка. Алтар Сьвятой Камуніі (1464—1467). Дыэрых Бутс (1420—1475). Сінт-Пітэрскерк, Лювэн. Марка пошты Мальдзіваў, выдадзеная ў 2014 годзе

Пачынаючы з XIII стагодзьдзя было цалкам нармальна адлюстроўваць біблейскіх і гістарычных асоб у сучасных дасьпехах. Каб навучыць непісьменных людзей падзеям, якія адбыліся стагодзьдзі раней, гэта быў звычайны спосаб перанесьці іх у біблейскія часы, каб ім было лягчэй суперажываць рэлігійнай падзеі, якая адбывалася ў тыя далёкія часы. І мастак, нават каб хацеў, ня мог дабрацца да першакрыніц, якія паказвалі б сапраўдную вопратку часоў Абрама.




Сустрэча Абрама і Мелхісэдэка (1620). Рубенс (1577—1460). Люўр, Парыж. Блёк пошты Гвінеі, выдадзены ў 2015 годзе

«Мэлхісэдэк, цар Салімскі, вынес хлеб і віно, — ён быў сьвятар Бога Ўсявышняга» (Быцьцё 14:18).




Мехілсэдэк. Сценапіс Земенскай царквы, XIV ст., Заходняя Баўгарыя (Земен). Марка пошты Баўгарыі, выдадзеная ў 1976 годзе

Мелхісэдэк «дабраславіў яго і сказаў: дабраславёны Абрам ад Бога Ўсявышняга, Уладара неба і зямлі...» (Быцьцё 14:19).

Імя Мелхісэдэк складаецца з габрэйскіх слоў: «мелех» — цар і «цадзік» —

праведнік; і значыць «цар праўды»; слова «Салім» значыць «мір». Зьяўленьне Мелхісэдэка да часоў Закона, паказвае, што ён сьвятар Божы, непасрэдна ад Бога. Ён стаіць ля вытокаў гісторыі народаў і рэлігій. Для хрысьціянства Мелхісэдэк — гэта правобраз Хрыста, Яго валадараньня і Яго сьвятарства. Як Мелхісэдэк быў разам сьвятаром і царом, так і Ісус Хрыстос ёсьць Першасьвятар і Цар. Ісус Хрыстос даў нам пад выглядам хлеба і віна цела і кроў сваю, так і Мелхісэдэк прынёс Абраму хлеб і віно і дабраславіў яго.

## Сара і Агар

Ішлі гады. Абрам і яго жонка старыліся, а дзяцей у іх усё не было. А ў тыя часы існаваў звычай, па якім спадарыня, якая не мае дзяцей, магла даць свайму мужу ў жонкі служанку. Дзіця, народжанае служанкай, станавілася спадчыньнікам гаспадара. У Сары была рабыня Егіпцянка Агар, якую Сара і аддала ў жонкі Абраму. У Бібліі гэта запісана так: «Ён увайшоў да Агары, і яна зачала. А ўбачыўшы, што зачала, яна пачала пагарджаць гаспадыняй сваёй. І сказала Сара Абраму: у крыўдзе маёй ты вінаваты; я аддала служанку маю ва ўтробу тваю; а яна, угледзеўшы, што зачала, пачала пагарджаць мною; Гасподзь хай будзе судзьдзя паміж мною і табою. Абрам сказаў Сары: вось, служанка твая ў тваіх руках; рабі зь ёю, што табе заўгодна. І Сара пачала ўціскаць яе, і тая ўцякла ад яе» (Быцьцё 16:4—6).

На карціне Рубенса «Агар пакідае дом Абрама» на парозе дома сівабароды старац Абрам, побач зь ім Сара, яго жонка. Яна настолькі злая, што гатовая ўдарыць Агар і ўжо занесла руку. Сабака заліваецца брэхам, скаліцца на Агар. Ён відавочна не любіць Агар. Толькі Абрам чамусьці захоўвае спакой. Але пазірае неяк вінавата. Агар сыходзіць. Сыходзіць у нікуды. У невядомасьць.




Агар пакідае дом Абрагама (1615—1617). Пітэр Паўль Рубенс (1577—1640). Эрмітаж, Пецярбург. Блёк пошты Грэнады, выдадзены ў 2003 годзе

Агар сыходзіць, уцякае. Уцякае ў пустыню. Яна страшна пакрыўджаная. Яна стамілася, прысела на нейкія камяні. Уся вада выпіта, пусты збан валяецца ў баку. Яна ня ведае, што будзе далей. Але ўсё скончылася шчасна: Анёл Гасподні знайшоў Агар у пустыні, угаварыў яе вярнуцца да Сары.

Першапачаткова лічылася, што карціна адлюстроўвае першую сустрэчу Агар з Анёлам у пустыні, куды тая зьбегла цяжарнай ад прыгнёту Сары. Аднак падчас адной з рэстаўрацыяй быў выдалены пацямнелы пласт лаку ў правай частцы карціны, за якім хаваўся посуд з вадой, — так стала зразумела, што карціна адлюстроўвае больш позьні сюжэт туляньня Агары з сынам па пустыні, калі Анёл ратуе паміраючага ад смагі

Ізмаіла, вывеўшы яго з маці да крыніцы.




Зьява анёла Агары (1643). Карэл Фабрыцыус (1622—1654). Марка пошты Нідэрляндаў, выдадзеная ў 2004 годзе

Агар нарадзіла сына, яму далі імя Ізмаіл (Бог чуе) і жыла ў доме Абрама. Праз 13 гадоў зьявіўся Бог Абраму і сказаў: «Я — вось запавет Мой з табою: ты будзеш бацька мноства народаў, і ня будзеш ты болей звацца Абрамам, а будзе табе імя Абрагам, бо Я зраблю цябе бацькам мноства народаў...» (Быцьцё 17:4,5). «І сказаў Бог Абрагаму: Сару, жонку тваю, не называй Сараю, а хай будзе імя ёй: Сарра; Я дабраслаўляю яе і дам табе ад яе сына; дабраслаўляю яе, і пойдуць ад яе народы, і цары народаў пойдуць ад яе. І ўпаў Абрагам на аблічча сваё, і сказаў сам сабе: няўжо ад стогадовага будзе сын? і Сарра, дзевяностагадовая, няўжо народзіць? І сказаў Абрагам Богу: о, хоць бы Ізмаіл быў жывы прад аблічам Тваім! А Бог сказаў: менавіта Сарра, жонка твая, народзіць табе сына, і ты дасі яму імя: Ісаак; і пастанаўлю запавет Мой зь ім запаветам вечным, нашчадкам ягоным пасьля яго. І пра Ізмаіла Я пачуў цябе: вось, Я дабраслаўляю яго, і выгадую яго, і вельмі, вельмі памножу; дванаццаць князёў народзяцца ад яго; і Я выведу ад яго вялікі народ. Але запавет Мой пастанаўлю зь Ісаакам, якога народзіць табе Сарра ў гэты самы час на другі год» (Быцьцё 17:15—21).




Сям'я Абрагама. Ілюстрацыя з Бібліі Нікаласа. Пэрсанальная марка, выдадзеная ў 2014 годзе поштай Ізраілю

І было другое выгнаньне Агары, ужо без вяртаньня ў дом Абрагама. «І ўбачыла Сарра, што сын Агары Егіпцянкі, якога яна нарадзіла Абрагаму, насьміхаецца, і сказала Абрагаму: выгані гэтую рабыню і сына яе, бо ня спадкуе рабынін сын гэты з сынам маім Ісаакам. І здалося гэта Абрагаму даволі няпрыемным дзеля сына ягонага. Але Бог сказаў Абрагаму: не засмучайся за хлопчыка і рабыню тваю; ва ўсім, што скажа табе Сарра, слухайся голасу яе, бо ў Ісааку назавецца табе семя; і ад сына рабынінага Я выведу, бо ён семя тваё. Абрагам устаў з самае раніцы, і ўзяў хлеба і мех вады, і даў Агары, паклаўшы ёй на плечы, і хлопчыка, і адпусьціў яе. Яна пайшла і заблудзілася ў пустыні Вірсавіі; і ня стала вады ў меху, і яна пакінула хлопчыка пад адным кустом і пайшла, села зводдаль, на аддалі аднаго стрэлу з лука. Бо яна сказала: не хачу бачыць сьмерці хлопчыка. І яна села насупраць, і заенчыла, і плакала...» (Быцьцё 21:9—16).




Агар ў пустыні (1870). Георге Татарэску (1820—1894). Нацыянальны мастацкі музэй Румыніі. Марка пошты Румыніі, выдадзеная ў 2015 годзе

«І пачуў Бог голас хлопчыка; і анёл Божы зь неба паклікаў Агар і сказаў ёй: што з табою, Агар? ня бойся; Бог пачуў хлопчыкаў голас адтуль, дзе ён быў» (Быцьцё 21:17).




Анёл, які суправаджае Агар (1732). Дэталь. Джавані Батыста Т'епола (1696—1770). Скуола Сан-Рока, Вэнэцыя. Канвэрт пошты Італіі, выдадзены ў 1975 годзе

Твар прыгожай жанчыны з дзіцём на руках павернуты да Анёла, які зьявіўся, каб іх ўратаваць. «Устань, падымі хлопчыка і вазьмі яго за руку, бо Я выведу зь яго вялікі народ. І Бог адкрыў вочы яе, і яна ўбачыла калодзеж з вадою, і пайшла, наліла ў мех вады і напаіла хлопчыка. І Бог быў з хлопчыкам; і ён вырас, і пачаў жыць у пустыні, і зрабіўся лучнікам» (Быцьцё 21:18—20).

Які далейшы лёс Агары і Ізмаіла? Многія юдэйскія аўтары мяркуюць, што праз шмат гадоў пасьля сьмерці Сарры, яна зноў сустракаецца з Абрагамам і становіцца яго жонкай. Цяпер яе імя Хэтура, пахучая. Гэта ўжо зусім іншая жанчына. Яна шукае любові і нараджае Абрагаму яшчэ многа дзяцей. Хэтура прыносіць духмянасьць хатняга агмені, мір і спакой стомленаму жыцьцём Абрагаму.

Магамет называе Ізмаіла Праракам (Каран, 19, 55). У якасьці Прарока ён валодаў дарам зьдзяйсьняць цуды, дзякуючы чаму і схіліў многіх язычнікаў да пакланеньня Богу. У Ізмаіла было 12 сыноў, з якіх Кедар лічыцца прамым продкам Магамета. У Мецы да гэтага часу існуе сьвяты камень, пад якім, паводле паданьня, пахаваныя Ізмаіл і Агар.

## Гасьціннасьць Абрагама

У Старым Запавеце ёсьць аповед пра тое, як у паўдзённую сьпёку дзевяноста дзевяцігадовы Абрагам сядзеў каля свайго намёту пад зелянінай Мамрыйскай дубровы. Раптам ён убачыў трох змучаных падарожнікаў. Гаспадар запрасіў вандроўнікаў адпачыць і падсілкавацца, а жонцы Сарры загадаў напячы хлеба. Сам гаспадар дома абраў лепшае цяля і загадаў закалоць яго і прыгатаваць пачастунак не чакаючы ніякай аплаты. Аказалася, што частаваў Абрагам Самога Бога.

Гэты ўзрушаючы эпізод стаў тэмай блёку пошты Ватыкану, эмітаванаму ў

1990 годзе з нагоды «40-годзьдзя з дня заснаваньня Карытас (міласэрнасьць) Інтэрнацыяналіс». На блёку чатыры маркі з рэпрадукцыямі дэталей старажытнага малярства з Базылікі Маці Божай Большай (Santa Maria Maggiore).




Зьява Абрагаму Анёлаў і гасьціннасьць Абрагама. Мазаікі з базілікі Санта Марыя Маджорэ (432—440), Рым, Італія. Аўтар невядомы. Блёк пошты Ватыкану, выдадзены ў 1990 годзе

На першай марцы бачым падарожнікаў і Абрагама, які сьпяшаецца ім насустрач. На другой марцы — трое гасьцей. На трэцяй — Абрагам і Сарра рыхтуюць пачастункі. Чацьвёртая марка прысьвечана спажываньню ежы. Бог у вобразе Тройцы стаў зьместам ікон, найбольш знакамітай зь якіх зьяўляецца «Троіца», напісаная Андрэем Рублёвым і вядомая ва ўсім сьвеце. «Троіца» Рублёва напісана на той самы Біблейскі сюжэт з Старога Запавету, па якому да Абрагаму прыйшлі трое Вандроўнікаў-Анёлаў. Найбольш набліжанай датай стварэньня «Троіцы» Андрэя Рублёва называюць 1411 або 1425—27 гады.




Сьвятая Троіца (1411). Ікона. Андрэй Рублёў (1375/80—1428). Дзяржаўная Трацьцякоўская галерэя, Масква. Марка пошты СССР, выдадзеная ў 1991 годзе

Трое Анёлаў, якія ўвасабляюць трыадзінства Бога (Айца, Сына, Сьвятога Духу), сядзяць вакол стала. У своеасаблівым крузе, які яны ўтвараюць, разьмяшчаецца напоўненая чаша. Традыцыйна круг зьяўляўся сымбалям аб'яднаньня. Сьвятая Чаша, вакол якой сядзяць Анёлы, сымбалізуе пакуты Хрыста — унутры сабрана кроў, што капала зь яго ран, калі ён быў укрыжаваны. Сілуэт дрэва можа азначаць Дрэва пазнаньня з саду Эдэма, адначасова з гэтым — дуб, пад якім адпачываў Абрагам. А будынак — царкву альбо ўваход у Абрагамаў дом. Гара ж, разьмешчаная ў правым верхнім куце, становіцца сымбалям Галгофы. Анёлы

апранутыя ў простыя адзеньні, за іх сьпінамі — крылы, у руках — тонкія кіі, вакол галоў — сьвецяцца арэолы.




Троіца (15—16 ст.). Наўгародзкая школа. Наўгародзкі дзяржаўны мастацкі і гісторыка-архітэктурны музэй-запаведнік, Ноўгарад, Расія. Блёк пошты СССР, выдадзены ў 1988 годзе

Часам з «Троіцай» Рублёва параўноўваюць шагалаўскае палатно «Абрагам і Тры анёлы», і гэта справядліва, але толькі ў частцы абраньня аднолькавага сюжэту. Рублёў, наўмысна прыбіраючы з сюжэту Абрагама і Сарру, раскрывае ў сваёй іконе тэму траічнасьці, алегарычна адлюстроўваючы свайго роду партрэт Усявышняга: Бога-Айца, Бога-Сына і Бога-Сьвятога Духа.

Іншымі словамі, Рублёў прысьвяціў сваё палатно Богу, а Шагал — чалавеку, які мае зносіны з Богам. Хоць у карціне «Абрагам і Тры Анёлы» Анёлы займаюць цэнтральнае месца, як і ў іконе Рублёва, але Абрагам і Сарра зьяўляюцца паўнавартаснымі ўдзельнікамі падзеі. Магчыма, таму Анёлы разгорнутыя мастаком унутр палатна і зьвернутыя тварам да прабацькі. Гасьціннасьці ў старажытных габрэяў надавалася асаблівае значэньне. Яго трэба было аказваць кожнаму чужаземцу і падарожніку, такі быў Закон. У адпаведнасьці з Законам, Абрагам прыняў невядомых яму гасьцей. Шагал адлюстроўвае гэту падзею, падрабязна абстаўляючы яе дэталямі. Тут і накрыты стол, і Сарра, якая сьпяшаецца да гасьцей з стравай у руках, і сам Абрагам, гатовы выконваць жаданьні гасьцей. На ярка пунсовым фоне зьзяюць белыя, жоўтыя, сінія фарбы крылаў і вопраткі Анёлаў, а іх прасьветленыя аблічча быццам працятыя ўнутраным духоўным сьвятлом. Аднак тое, што Абрагама наведалі не простыя падарожныя, ведаюць толькі гледачы карціны, сам Абрагам знаходзіцца яшчэ ў недасьведчанасьці.




Абрагам і тры Анёлы (1966). Марк Шагал (1887—1985). Нацыянальны музэй «Біблейскае пасланьне Марка Шагала», Ніца. Блёк пошты Гранады, выдадзены ў 1986 годзе

Будучы ў гасьцях у Абрагама, незвычайныя госьці апошні раз, перад прыняцьцем важнага рашэньня, правяралі яго. Упэўніўшыся, што яны зрабілі правільны

выбар і менавіта гэты чалавек варты быць першым Патрыярхам Абранага Богам народу, яны адкрыліся яму. У правай верхняй частцы палатна ў мэдальёне Шагал адлюстраваў гэту галоўную падзею ў жыцьці Абрагама, што адбылася ўсьлед за вячэрай. Гэта падзея зьмяніла жыцьцё Абрагама-Бог заключыў зь ім вечны саюз і абяцаў у валоданьне зямлю Ханаанскаю (Ханаан — «краіна, Палаючая барвяным»; ці не адсюль гэты чырвоны калярыт карціны?). А яшчэ Бог абяцаў Абрагаму, што менавіта ад яго адбудзецца шматлікае нашчадзтва.




Дабравешчаньне Сары (1969). Хасэ Гурвіч (1927—1974). Марка поштаў Ізраілю і Уругваю, выдадзеная ў 2013 годзе

Абрагам зьдзівіўся, бо Абрагаму ў той час было 99 гадоў, а Сары 90 і яна была бясплодная. Каб падкрэсьліць зьмены, якія адбыліся ў Абрагама, Бог зьмяніў яго імя: ён атрымаў імя Абрагам — «айцец мноства». У мэдальёне Шагал як раз і паказаў ператварэньне Абрагама. Са звычайнага чалавека ён ператварыўся ў першага і старэйшага Ізраільскага Патрыярха Абрагама.

«І сказаў Бог Абрагаму: Сару, жонку тваю, не называй Сараю, а хай будзе імя ёй: Сарра (маці мноства); Я дабраслаўляю яе і дам табе ад яе сына; дабраслаўляю яе, і пойдуць ад яе народы, і цары народаў пойдуць ад яе» (Быцьцё 17:15,16).

Мастак Хасэ Гурвіч менавіта гэтай падзеі аддаў перавагу ў сваім творы, назваўшы яго «Дабравешчаньне Сарры». Хасэ Гурвіч нарадзіўся ў Літве, вырас у Уругваі, памёр у ЗША і пахаваны ў Ізраілі, што робіць яго сапраўды ўнівэрсальным чалавекам.

«Сарра ўнутрана засьмяялася, сказаўшы: ці мне, калі я пастарэла, мець гэтую ўцеху? і гаспадар мой стары» (Быцьцё 18:12).




Зьяўленьне Анёла перад Саррай (1726—1728). Джавані Батыста Тьепола (1696—1770). Фрэска. Арцыбіскупскі палац, Удына, Італія. Марка пошты Італіі, выдадзеная ў 1996 годзе

Джавані Батыста Т'епола адлюстраваў на твары Сарры зьдзіўленьне, радасьць і ў той жа час — недавер. «І сказаў Гас-

подзь Абрагаму: чаго гэта засьмяялася Сарра, сказаўшы: няўжо я сапраўды магу нарадзіць, калі я пастарэла? Ці ёсьць што цяжкае Госпаду? У назначаны час буду Я ў цябе на другі год, і будзе ў Сарры сын. А Сарра ня прызналася, а сказала: я не сьмяялася. Бо яна спалохалася. Але Ён сказаў: не, ты сьмяялася» (Быцьцё 18:13—15).

## Драматычнае выпрабаваньне веры

*І спраўдзілася слова Пісаньня: вераваў Абрагам Богу, і гэта залічылася яму ў праведнасьць, і ён названы прыяцелем Божым. (Якава 2:23)*

«І паглядзеў Гасподзь на Сарру, як сказаў; і зрабіў Гасподзь Сарры, як казаў. Сарра зачала і нарадзіла Абрагаму сына ў старасьці ягонай у час, пра які казаў яму Бог; і даў Абрагам імя свайму сыну, які нарадзіўся ў яго, якога нарадзіла яму Сарра: Ісаак...» (Быцьцё 21:1—3). Абрагам вельмі любіў сына Ісаака і бярог яго, як зрэнку вока, таму што ведаў, што менавіта ён — корань будучага Абранага народу. Але аднойчы, каб праверыць паслухмянасьць Абрагама, Бог запатрабаваў прынесьці Ісаака ў ахвяру. «Бог сказаў: вазьмі сына твайго, адзінага твайго, якога ты любіш, Ісаака; і ідзі ў зямлю Морыя і там прынясі яго на цэласпаленьне на адной з гор, пра якую Я скажу табе» (Быцьцё 22:2).

Патрыярх накалоў дроў, пагрузіў іх на асла, узяў нож, двух хлопчыкаў і адправіўся на месца, названае яму Богам. «Бог спакушаў Абрагама» (Быцьцё 22:1), гэта значыць правяраў. Але самае дзіўнае — гэта тое, што, зьбіраючыся падняцца на гару, дзе Абрагам плянаваў зьдзейсьніць ахвярапрынашэньне Ісаака, ён быў упэўнены, што ўсё будзе добра. Сьвятое Пісаньне абвяшчае: «І сказаў Абрагам падлеткам сваім: застаньцеся тут з аслом; а я і сын пойдзем туды і паклонімся, і вернемся да вас» (Быцьцё 22:5). Іншымі словамі, Абрагам зьбіраўся вярнуцца разам з сынам.




Ахвярапрынашэньне Ісаака (1716). Джавані Батыста Т'епола (1696—1770). Арцыбіскупскі палац, Удына. Блёк пошты Сэнт Вінсэнт і Грэнадыны, выдадзены ў 1997 годзе

Калі ж Ісаак спытаў Абрагама: «бацька мой! ...дзе ж ягня на цэласпаленьне? Абрагам сказаў: «Бог нагледзіць сабе ягня на цэласпаленьне, сыне мой. І прыйшлі на месца, пра якое сказаў яму Бог; і зладзіў там Абрагам ахвярнік, расклаў дровы і, зьвязаўшы сына свайго Ісаака, паклаў яго на ахвярнік паўзьверх дроў» (Быцьцё 22:7—9).

У 1997 годзе пошта Ізраілю выпусьціла сэрыю марак, прысьвечаных Патрыярхам і Сьвяту Суккот. На марцы бачым Ісаака і Арагама, які прыгатаваўся да выкананьня волі Божай. На што ж спадзяваўся Абрагам у такой страшнай сытуацыі? Ён спадзяваўся на Слова Божае, бо добра памятаў абяцаньне Госпада, што менавіта ад Ісаака адбудзецца вялікі народ. Што адбылося далей, вядома. Анёл адвёў Абрагамаву руку з нажом ад Ісаака і падаў для ахвярапрынашэньня барана.




Ісаак. Невядомы мастак. Мячэць рабіна Эмануэля ў Вэнгрыі (1844—1854). Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1997 годзе

Гэты сюжэт папулярны сярод мастакоў, якія разважаюць над тэксамі Бібліі, яшчэ з часоў раньняга хрысьціянства. Традыцыйна Ісаака малявалі зьвязаным, напрыклад, у карціне Караваджа. Каб падкрэсьліць страх маладога чалавека перад будучыняй, твар яго пісалі скажоным ад жаху ці ўвогуле з завязанымі вачыма. У сваю чаргу, твар Абрагама малявалі суровым, як бы пераадольваючым пакуты, ці нават жорсткім перад прыняцьцем рашэньня — пазбавіць жыцьця ўласнае дзіця, якое так цяжка дасталася.

«І падняў Абрагам руку сваю і ўзяў нож, каб закалоць сына свайго» (Быцьцё 22:10).




Ахвяраваньне Ісаака Абрагамам. Фрэска Мікелонскай царквы (2002). Івет Дэтшэвэры. Марка пошты Сен-Пер і Міквэлон, выдадзеная ў 2013 годзе

У Бібліі прама сказана, што Бог не плянаваў забіць Ісаака. І адбываецца цуд.




Ахвяраваньне Ісаака Абрагамам (1716). Фэдэрыко Бэнковіч (1677—1753). Галярэя Даўніх Майстроў, Загрэб. Марка пошты Югаславіі, выдадзеная ў 1970 годзе

«Але анёл Господні заклікаў яго зь неба і сказаў: Абрагаме! Абрагаме! Ён сказаў: вось я. Анёл сказаў: не падымай

рукі тваёй на хлопчыка, і не рабі зь ім нічога; бо цяпер Я ведаю, што баішся ты Бога і не пашкадаваў сына твайго, адзінага твайго, дзеля Мяне» (Быцьцё 22:11,12).

Ахвярны Ісаак з звязанымі рукамі ляжыць там, дзе праз хвіліну павінна загарэцца ахвярнае вогнішча. Рука бацькі закрывае адкінуты твар сына. Гэтым перадаецца адчайная рашучасць Абрагама і яго бязьмерны жаль да сына, які не павінен бачыць рукі, яго забіваючай. Абрагам павярнуўся да Анёла, які спыняе руку бацькі, з якой выпадае кінжал.




Ахвярапрынашэньне Ісаака (1635). Рэмбрант (1606—1669). Эрмітаж, Петраград. Марка пошты СССР, выдадзеная ў 1983 годзе

даўся волі Усявышняга, як і Ісаак цалкам аддаў сябе ў рукі свайго бацькі Абрагама.

Абрагам з нажом у руцэ, узьнятым, каб забіць свайго сына Ісаака ў той момант, калі ўмешваецца Анёл. У Біблійным апавяданьні няма намёку на тое, што Абрагам меў сумневу ў тым, каб не паслухацца або чымсьці палегчыць долю любімага сына. Хіба таму твар Абрагама на карціне Паола Веранэзэ не выпраменьвае ні цені пакуты або болю, наадварот, ён здаецца нават некалькі наіўным у сваёй пакоры і адданасьці Богу.




Ахвярапрынашэньне Ісаака (1588). Паолё Веранэзэ (1528—1588). Музэй Прада. Блёк Манамы, выдадзены ў 1972 годзе

Аднак Абрагам — гэта не фанатык, які сьлепа падпарадкоўваецца лёсу, а глыбока веруючы чалавек. Ён гранічна шчыры і адкрыты сэрцам да Бога, а яго вочы, зьвернутыя да Анёла, шырока расчыненыя і поўныя даверу. Усявышні не памыліўся ў Абрагаме, і таму мастак малюе Абрагама як чалавека, вернага Боскаму запавету да канца. Ён спакойна выконвае тое, аб чым прасіў Бог. Думаецца, што ў гэтым глыбокі сэнс! Абрагам цалкам ад-

Пасланьне да Габрэяў так тлумачыць веру Абрагама: «Бо ён думаў, што Бог моцны і зь мёртвых уваскрэсіць, таму і атрымае яго са сьмерці» (Да Габрэяў 11:19). Бяз веры ў уваскрэсеньне немагчыма паслухацца Бога нават у маленькім. Але калі верыць ва ўваскрэсеньне, тады аддаць Богу і жыцьцё няцяжка.

У трактаце на старонцы 17а Вавілонскага Талмуду гаворыцца, што гук шофару — старажытнага інструмэнту з рога —

нагадвае пра сілу веры Абрагама, які быў гатовы прынесьці ў ахвяру свайго сына, і міласьць Божую, бо Ён даў барана для Абрагама, каб прынесьці яго ў ахвяру замест сына.

«І ўзьвёў Абрагам вочы свае і ўбачыў: і вось, за табою баран, які заблытаўся ў гушчобе рагамі сваімі. Абрагам пайшоў, узяў барана і прынёс яго на цэласпаленьне замест сына свайго» (Быцьцё 22:13).

Шчасьлівыя бацька і сын пяшчотна абнімаюць адзін аднаго. Побач прызначаны на ахвяру баран, які заблытаўся рагамі за вецьце.




Марка пошты Ізраілю, прысьвечаная шафару, выдадзеная ў 2010 годзе

Узнагародаю за веру стала канчатковае пацьверджаньне абяцаньня патомства: «Я дабраслаўлю цябе і дам табе нашчадзтва такім шматлікім, як зоркі на небе і як пясок пясок на беразе мора» (Быцьцё 22:17). Ілюструе гэтыя словы марка Ізраіля. На карціне, намаляванай мастаком Эфраімам Мошэ Ліліенам, Абрагам заглядзеўся на зоркі — сымбаль мноства яго патомства. На прывесцы цытата з Бібліі на габрэйскай і ангельскай мовах: «...і дам табе нашчадзтва такім шматлікім, як зоркі на небе...» (Быцьцё 22:17).




Абрагам. Эфраімам Мошэ Ліліэн (1874—1925). Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1997 годзе

Гара, дзе адбылося Зьвязваньне Ісаака, называецца Морыя. На гэтай гары быў пабудаваны царом Саламонам па загаду Божаму Ерусалімскі Храм.




Храм Саламона. Кампутарная рэканструкцыя. Блёк пошты Ізраілю, выдадзены ў 1998 годзе

На месцы Храма Саламона паміж 687 і 691 гадамі 9-м халіфам Абд аль-

Малікам пабудаваны Купал Скалы — ісламская Сьвятыня ў Ерусаліме. Скала ў цэнтры Купалу лічыцца мусульманамі месцам, зь якога Мухамед узьнёсься праз нябёсы да Бога ў суправаджэньні Анёла Гаўрыіла, а таксама тут стаяў Каўчэг Запавету ў часы першага Храма і зь якога, па габрэйскай традыцыі, пачалося Стварэньне сьвету.

Пячора Махпэла — склеп Патрыярхаў у Хэўроне, у якім, паводле Бібліі, пахаваныя Абрагам, Сарра, Ісаак, Рэбэка, Якаў і яго жонка Лія. Згодна з габрэйскай традыцыяй, тут таксама спачываюць целы Адама і Евы. У юдаізме шануецца як другое па сьвятасьці месца пасьля Храмавай горы, таксама шануецца хрысьціянамі і мусульманамі.




Купал Скалы. Марка пошты Абу Дабі, выдадзеная ў 1972 годзе




Ахвярапрынашэньня Абрагама. Храм над Пячорай Махпэла. Блёк пошты Каралеўства Емэн, выдадзены ў 1969 годзе

Айцы касьцёла бачаць у сюжэце «Ахвярапрынашэньне Ісаака» прароцтва пакут і ўваскрэсеньня Хрыста. У сярэднявечнай «Бібліі бедных» прыводзілася такое параўнаньне: Ісаак гэтак жа, як Ісус Хрыстос, пакорліва ішоў на месца ахвяры. Як Ісус Хрыстос нёс на сабе крыж, так і Ісаак на сабе нёс дровы для ахвярапрынашэньня.

Абрагам і Сарра дажылі да глыбокай старасьці. Сарра памерла ва ўзросьце 127 гадоў у Кірыят-Арбе (Кір'ят-Арбе) каля Хэўрона і была пахаваная Абрагамам у пячоры Махпэла («Падвойная пячора») у Хэўроне. Абрагам купіў гэта месца ў Эфрона за 400 шэкеляў срэбра. Абрагам памёр ва ўзросьце 175 гадоў і быў пахаваны ў пячоры Махпэла яго сынамі Ісаакам і Ізмаілам.

Магчыма ў цяперашні час да Абрагама адносіліся б, як да грэшніка. Але ацэньваць асобу трэба ва ўсёй паўнаце. Уся 4 глава Пасланьня да Рымлянаў прысьвечана Абрагаму, як прыклад, што чалавек можа стаць праведны перад Богам толькі па веры, а не па справах. «Калі Абрагам апраўдаўся дзеямі, ён мае пахвалу, але не перад Богам. Бо што кажа Пісаньне? «Паверыў Абрагам Богу, і гэта залічылася яму ў праведнасьць» (Да Рымлянаў 4:2,3). «Так і Давід называе шчасным чалавека, якому Бог залічвае праведнасьць незалежна ад дзеяў: «дабрашчасныя, каму беззаконьні дараваныя і чые грахі пакрытыя; дабрашчасны той чалавек, якому Гасподзь не залічыць грэху»» (Да Рымлянаў 4:6—8).

## Спрэчка Абрагама з Богам аб Садоме

*Вось, у чым была беззаконнасьць Садомы, сястры тваёй і дачок яе: у ганарлівасьці, перасычанасьці і гультайстве, і яна рук беднага і ўбогага не падтрымлівала, І заганарыліся яны і рабілі мярзоты перад абліччам Маім, і, убачыўшы гэта, Я адкінуў іх. (Езэкііль 16:49,50)*

Прайшло каля 400 гадоў пасьля сусьветнага патопу, калі адбылася катастрофа чатырох гарадоў: Садом, Гамора, Адма і Севаім былі зьнішчаны агнём зь неба. Чалавечае правасудзьдзе ў гэтых гарадах было бясьсільна перад злачыннасьцю і распустай, і, як гэта бывае ў такіх выпадках, у справу ўступіла правасудзьдзе Боскае.

Калі Бог паведаміў Ною пра патоп і загадаў яму будаваць каўчэг, Ной моўчкі выканаў гэта загад. Але не так паступіў Абрагам, калі даведаўся аб маючым адбыцца зьнішчэньні Садомы.

Гэта першы выпадак спору чалавека з Богам, які стаў характэрнай рысай юдаізму.

Глава 19 Кнігі Быцьця апавядае аб двух Анёлах, якія пад выглядам людзей наведваюць Садому. Пляменьнік Абрагама Лот сядзеў каля брамы Садомы. Ён пакланіўся падарожнікам да зямлі і запрасіў іх у дом. Неўзабаве жыхары Садомы атачылі дом Лота і патрабавалі аддаць ім падарожнікаў. Лот прасіў іх не рабіць зла і гатовы быў аддаць натоўпу на гвалтаваньне сваіх дачок. Анёлы ўразілі натоўп сьлепатой і тыя не маглі выканаць свой злочын.



Садамія. Джэймс Цісот (1836—1902). Гуаш на блясе. Пэрсанальная марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 2014 годзе

«І падышоў Абрагам і сказаў: няўжо ты загубіш праведнага зь бязбожным? магчыма, ёсьць у гэтым горадзе пяцьдзесят праведнікаў? няўжо Ты загубіш і не пашкадуеш месца гэтага дзеля пяцідзесяці праведнікаў? ня можа быць, каб Ты зрабіў так, каб Ты загубіў праведнага зь бязбожным, каб тое самае было з праведнікам, што і зь бязбожнікам, ня можа быць ад Цябе! Ці ж Судзьдзя ўсёй зямлі ўчыніць неправасудна?» (Быцьцё 18:23—25).

Падобна Абрагам бараніў і злачынцаў, бо інакш ён прасіў бы літасьці толькі для добрых людзей. Але ён прасіў зьберагчы ўсіх. Абрагам кажа: даруй усё месца дзеля праведнікаў у ім. Такім чынам, згодна з канцэпцыяй Абрагама, праведнік павінен не проста выратавацца сам; наяўнасьць праведнікаў ратуе горад.

Сьледам за Абрагамам юдаізм лічыць легітымным абмяркоўваць справядлівасьць ці несправядлівасьць дзеяньняў Усявышняга; больш за тое, кніга Ёва спэцыяльна прысьвечана гэтай тэме. Але падобныя пытаньні будуць канструктыў-

нымі, калі чалавек задае іх, каб умацаваць сваю сувязь з Богам. Наадварот, яны стануць дэструктыўнымі, калі яны выкарыстоўваюцца як падстава для разрыву гэтай сувязі. Габрэі лічаць, што спрэчка Абрагама з Богам аб Садоме — шлях набліжэньня да Бога, а не аддаленьня.

У Садоме не знайшлося праведнікаў, акрамя Лота, і лёс горада быў вырашаны.

«Калі ўзышла зара, анёлы пачалі прысьпешваць Лота, кажучы: устань, вазьмі жонку тваю і дзьвюх дачок тваіх, якія ў цябе, каб не загінуць табе за беззаконьні горада.

І як што ён марудзіў, дык мужы тыя, зь літасьці да яго Гасподняй, узялі за руку яго і жонку і дзьвюх дачок ягоных, і вывелі яго, і паставілі яго па-за горадам» (Быцьцё 19:15,16).




Лот з дочкамі, якія пакідаюць Садому. Пітэр Паўль Рубенс (1577—1640). Музэй Рынглінга, Сарасота. Блёк пошты Гвінэі, выдадзены ў 2007 годзе

Анёлы настойліва выводзяць сям'ю Лота далей ад горада, які ўжо палае. І ўжо ў такой сытуацыі, калі горад гіне і выратаваць яго нельга, Анёлы загадваюць: «не азірацца». Гэтая забарона застаецца загадкай. Адна васьмідзесяцігадовая жанчына пры агучваньні гэтай загадкі гідам сказала: «Хіба вам незразумела? Калі вы ўвесь час аглядваецеся назад, вы становіцеся неарганічнымі». «А жонка Лотава за ім азірнулася і зрабілася саляным слупам» (Быцьцё 19:26).




Пажар у Садоме. Людавіка Карачы (1555—1619). Нацыянальны музэй выяўленчых мастацтваў, Асунсьон. Марка пошты Парагваю, выдадзеная ў 1972 годзе

На трагедыю жонкі Лота паэтка Ахматава адгукнулася вершам:

«Праведнік верыў пасланьнікам Бога,
Вялікі і сьветлы, ён мусіў цярпець.
А жонку мацней ахапляла трывога:
Ня позна яшчэ,
можаш хоць паглядзець
На вежы і любыя месцы Садома,
Дзе песьні сьпявала,
да крыніцы хадзіла,
На вокна пустыя сямейнага дома,
Дзе любаму мужу дзяцей нарадзіла.
І глянула.
Тут жа скавана нястрымнай больлю
І вочы ўжо болей глядзець не маглі,
Зрабілася цела празрыстаю сольлю,
А хуткія ногі да скал прырасьлі.
Ці гэту жанчыну аплакваць хто будзе?
Ці большая гэта за тысячы страт?
Хай сэрца маё яе боль не забудзе,
Што жыцьцё аддала
за погляд назад».

Верш Ахматавай «Лотава жонка» (1922—1924). (Пераклаў Л. К.)

Вунь там удалечыні, жонка Лота ўжо стала слупам з солі, таму што азірнулася на родны горад і дом… А Лот і дзьве дачкі, пасьля таго як іх папярэдзілі пасланцы самога Бога, узялі самае неабходнае і сыходзяць. Іх папярэдзілі і таму Дзюрэр намаляваў, што яны не бягуць голыя або напаўголыя, як нярэдка традыцыйна пісалі гэтую сцэну іншыя аўтары.




Уцёкі Лота (1496). Дзюрэр, Альбрэхт (1471—1528). Блёк пошты Каморскіх выспаў, выдадзены ў 1978 годзе

Лотава жонка сымбалізуе чалавека, які ня здолеў своечасова зрабіць правільны духоўны выбар і які вагаецца паміж каштоўнасьцямі зямнога і нябеснага быцьця. Трансфармацыя зла ў дабро — праграма нашага будучага. Самотны салянай слуп каля Мёртвага мора — гэта душа жонкі Лота. Сотні стагодзьдзяў жывёлы прыходзяць і зьлізваюць з гэтай «статуі» соль. У гэтым і складаецца яе выпраўленьне. Ерусалімскі Талмуд піша, што так будзе працягвацца да ўваскрашэньня мёртвых. І тады ажыве і статуя, якая сымбалізавала духоўную сьлепату — стане відушчым і абудзіцца да вечнага жыцьця. Гэта наказ і нам: калі Гасподзь ратуе нас ад граху, трэба ўцякаць ад яго, не азірацца, не затрымлівацца і не шкадаваць пра яго. Аб гэтым напамінае Эвангеліст Лукаш: «Але ў дзень, калі Лот выйшаў з Садомы, праліўся зь неба дождж агнявы і серны і вынішчыў усіх: так будзе і ў той дзень, калі Сын Чалавечы адкрыецца. У той дзень, хто будзе на даху, а рэчы ягоныя ў доме, той ня сыходзь узяць іх; і хто будзе на полі, таксама не вяртайся назад; успамінайце жонку Лотаву» (Паводле Лукаша 17:29—32).




Скала «Лот» і Пік «Жонка Лота». Выспа Сьвятой Алены. Марка пошты Выспы Сьвятой Алены, выдадзеная ў 1934 годзе

Пасьля катастрофы Лот і яго дачкі схаваліся ў горадзе Сігор.

Але на іх не глядзелі, як на ўратаваных, а як на адзіных жыхароў праклятага горада, і ніхто не хацеў ажаніцца на дачках Лота. Тады, выйшаўшы з Сігора, Лот пасяліўся ў пячоры пад гарой разам са сваімі дачкамі.

Карціна Веранэзе нясе шмат інфармацыі. У далечыні палае Садома, маленькая белая фігурка на дарозе — жонка Лота, якая ператварылася ў соль, дачкі бягуць уперадзе, за імі ледзьве пасьпявае забіты горам Лот. Ня пярэднім пляне Лот з дачкамі, хіба, прыселі паабедаць. Але нешта павінна здарыцца, бо ў правым куце гуляюць

два амуры і адзін зь іх чамусьці ў масцы…




Лот і яго дачкі (1545). Баніфацыё Веранэзе (1487—1553). Музей мастацтваў Крайслера. Картмаксімум пошты Нідэрляндаў, выдадзены ў 2015 годзе

Спалоханы стары бацька яшчэ не зусім разумее, што адбываецца. Але яго вочы, гэта вочы загнанага ў кут чалавека, які ведае што ён нікуды не дзенецца. А гэта яго нявінныя дачкі намагаюцца ўвесьці яго ў грэх, ахвяруючыся дзеля аднаўленьня племені.




Лот і яго дачкі. Франчэска Фурыні (1603—1646). Прада. Мадрыд. Блёк пошты Сьера Леонэ, выдадзены ў 2000 годзе

Дачкі, якія засталіся без мужоў, вырашылі напаіць свайго бацьку і пераспаць зь ім, каб нарадзіць ад яго нашчадкаў і аднавіць сваё племя, у адпаведнасьці з старазапаветным прадстаўленьнем аб родавай бесьсьмяротнасьці. «І сказала старэйшая малодшай: бацька наш стары, і няма чалавека на зямлі, каб увайшоў да нас паводле звычаю ўсёй зямлі…» (Быцьцё 19:31).




Лот і яго дачкі (1616). Хендрык Гольцыус (1558-1616-1617?). Блёк пошты Сьера Леонэ, выдадзены ў 2001 годзе

Спачатку так паступіла старэйшая, на наступны дзень — малодшая; абедзьве зацяжаралі ад свайго бацькі. Лісічка, якая стаіць справа ў глыбіні, сымбалізуе хітрасьць дачок. Каля лісічкі, ператвораная ў такі вось, як дрэва, саляны слуп, жонка Лота. Правей палае Садома.




Лот і яго дачкі. Якаб Адрыянс Бэкер (1609 –1651). Марка пошты Парагваю, выдадзеная ў 1990 годзе

Чаму ў гэтай трагічнай гісторыі зьнішчэньня гарадоў мастакі выбіралі эпізод, калі дачкі вырашылі зацяжарыць ад свайго бацькі? Можа мастакам хацелася зьвярнуцца да далікатнай тэмы з голымі дзяўчынамі, а Біблія давала ім набожнае апраўданьне?

У інтэрпрэтацыі Ота Дыксам біблейскай гісторыі Лота, разбураны і спалены горад Дрэздэн становіцца цэнтральным фонам маральнай дылемы, з якой сутыкаюцца Лот і яго дачкі.




Лот і яго дачкі (1939). Ота Дыкс (1891–1969). Музэй Людвіга, Аахен, Германія. Марка пошты Парагваю, выдадзеная ў 1974 годзе

Старэйшая дачка нарадзіла сына, названага Маавам (імя азначае «ад бацькі»). Ён стаў родапачынальнікам маавіцянаў — шматлікага народа, што жыў на ўсходзе Ярдана. Ад другой дачкі нарадзіўся Амон («сын майго народа»), бацька аманіцянаў. Гэтыя народы былі ідалапаклонцамі і вызначыліся ў гісторыі асаблівай жорсткасьцю, бессаромнасьцю і разбэшчанасьцю нораваў. А Маавіцяне яшчэ і выключнай нянавісьцю да народу Ізраіля. Але габрэйскія мудрацы ўбачылі тут намёк на двух вялікіх жанчын з Бібліі: на Маавіцянку Рут, гісторыя якой апісана ў аднайменнай Кнізе Бібліі, і Аманіцянку Нааму. Аманіцянка Наама стала жонкай цара Саламона і маці цара Юдэі Раваама. Рут далучылася да габрэйскага народу і, стаўшы жонкаю Ваоза, нарадзіла яму сына Авіда, у якога, у сваю чаргу, нарадзіўся сын Эсэй, будучы бацька Давіда. Такім чынам, Рут Маавіцянка, якая вядзе сваё паходжаньне ад старэйшай дачкі Лота, была прабабуляй цара Давіда. Атрымалася, што ў выніку падзей у Садоме «знайшоўся» Давід, які стаў не толькі родапачынальнікам царскай дынастыі, але і роду Мэсіі-Збавіцеля.

Вось чаму Біблію трэба чытаць да канца.

## Рэбэка

*...ад Госпада прыйшла гэтая дзея... (Быцьцё 24:50)*

У Сьвятым пісьме неаднаразова падкрэсьліваецца вялікае значэньне шлюбу і сямейнага жыцьця. Біблейныя шлюбныя сувязі даюць прыгожыя прыклады ўдалых шлюбаў.

Абставіны ўступленьня Рэбэкі ў шлюб з Ісаакам і іншыя выпадкі з яе жыцьця займаюць адну з самых прыгожых і кранальных старонак Бібліі.

У Кнізе «Быцьцё» падрабязна апісваецца заклапочанасьць Абрагама і Сарры пошукам жонкі для іх сына Ісаака. Бацькі ня хочуць мець нявестку з паганскага роду. І Абрагам пасылае свайго слугу Эліязэра ў Мэсапатамію, дзе ў горадзе Нахора ён павінен знайсьці жонку Ісаа-

ку: «Гасподзь, Бог неба [...]. Ён пашле анёла Свайго перад табою, і ты возьмеш жонку сыну майму адтуль...» (Быцьцё 24:7).

Прарабіўшы доўгі шлях з Ханаана, Эліязэр узмаліў Бога пазначыць яму жонку для Ісаака з тых дзяўчат, у якіх ён папросіць вады, і якая зь іх таксама прапануе ваду і для яго вярблюдаў.




Слуга Абрагама сустракае Рэбэку (1896—1902). Джэймс Цісо (1836—1902). Габрэйскі музэй, Нью-Ёрк. Пэрсанальная марка, выдадзеная поштай Ізраілю ў 2009 годзе

Адказ не замарудзіў. «Яшчэ не перастаў ён гаварыць, і вось, выйшла Рэбэка, якая нарадзілася ад Ватуіла, сына Мілкі, жонкі Нахора, брата Абрагамавага, і збанок яе на плячы ў яе...» (Быцьцё 24:15).



Эліязэр сустракае Рэбеку. Блёк пошты Мікранэзіі, выдадзены ў 1998 годзе

Дарэчы, імя Эліязэр значыць «Бог бацькі майго быў мне дапамогай».

«І пабег раб насустрач ёй і сказаў: дай мне выпіць крыху вады са збанка твайго. Яна сказала: пі, гаспадару мой. І адразу апусьціла збанок свой на руку сваю і напаіла яго. І, калі напаіла яго, сказала: я пачну чэрпаць і вярблюдам тваім, пакуль не нап'юцца ўсе» (Быцьцё 24:17—19).

На маляўнічым блёку Мікранэзіі ўсё адпавядае біблейскаму апавяданьню: Рэбэка з збаном вады, Эліязэр з вярблюдам і Анёл, які сьпяшаецца на дапамогу.

Сустрэча Эліязэра з Рэбэкай стала папулярнай у мастакоў.




Эліязэр і Рэбэка ля студні (1653). Якаў Хогерс (1614 — 1660). Эрмітаж. Марка пошты Грэнады Карыяку і Петыт-Марцінікі, выдадзеная ў 2003 годзе

Біблейская сцэна, напісаная Джавані Пьяцета нагадвае пастырскую ідылію, слуга Абрагама Эліязэр сустракае Рэбэку ля студні. Яна прапануе яму ваду, а потым непрыкметна прымае падарункі, якія Абрагам паслаў разам з Эліязэрам для сваёй будучай нявесткі. Джавані Пьяцета акцэнтаваў наступны момант біблейскай гісторыі, калі Элзіязэр падарыў Рэбэцы завушніцы і запясьці, тым самым паведаміўшы ёй волю Бога на яе шлюб з Ісаакам.



Рэбэка і Эліязэр ля калодзежа (1740). Джавані Батыста Пьяцета (1683—1754). Мастацкі музэй Брэра ў Мілане (Італія). Марка пошты Сан-Марына, выдадзеная ў 2004 годзе

«Яна сказала: пі, гаспадару мой. І адразу апусьціла збанок свой на руку сваю і напаіла яго. І, калі напаіла яго, сказала: я пачну чэрпаць і вярблюдам тваім, пакуль не нап'юцца ўсе» (Быцьцё 24:18,19).



Рэбэка і Эліязэр (1660). Барталамэ Мурыльё (1617—1682). Музэй Прада. Картмаксімум пошты Руанды, выдадзены ў 1967 годзе

Эліязэр пакланіўся Богу, Які прывёў яго да патрэбнага месца. У доме, дзе жыла Рэбэка, Эліязэр распавёў пра жыцьцё Абрагама і навошта ён прыйшоў.

«І паклікалі Рэбэку і сказалі ёй: ці пойдзеш з гэтым чалавекам? Яна сказала: пайду. І пусьцілі Рэбэку, сястру сваю, і карміцельку яе, і раба Абрагамавага, і людзей ягоных. І дабраславілі Рэбэку і сказалі ёй: сястра наша, хай родзяцца ад цябе тысячы тысяч, і хай валодаюць нашчадкі твае жытлішчамі ворагаў тваіх...» (Быцьцё 24:58—60). Эліязэр зрабіў усім багатыя падарункі і на наступны дзень павёз яе да Абрагама і Ісаака.

Дома іх чакаў Ісаак. З першай сустрэчы яны пакахалі адзін аднаго.



Габрэйская нявеста (1665). Рэмбрант (1606—1669). Рейксмузэум, Амстэрдам. Нідэрлянды. Картмаксімум пошты Бурундзі, выдадзены ў 1968 годзе

«Габрэйская нявеста» — адна з апошніх і самых загадкавых карцін Рэмбрандта. Адзеньне персанажаў падобнае на старадаўнюю, біблейскую, таму ў якасьці назвы прапаноўваліся «Артаксеркс і Эсфір», «Якаў і Рахіль», «Абрам і Сарра», «Ваоз і Рут». Але канчаткова абрана была назва «Ісаак і Рэбэка». «Габрэйская нявеста», лірычная і рамантычная, пяшчотная і загадкавая, паказвае ўсяго толькі адносіны сямейнай пары, поўныя пачуцьця і ласкі.

Вінцэнт Ван Гог казаў, што аддаў бы дзесяць гадоў свайго жыцьця за магчымасьць праседзець два тыдні перад гэтай карцінай з адным толькі боханам хлеба.

Сустрэўшы Рэбэку, Ісаак ажаніўся на ёй. Атрымаўшы каханую жонку, суцешыўся Ісаак у смутку па сваёй маці (Быцьцё 24). Рэбэка выйшла замуж за Ісаака і тры цуду, якія адбыліся пры жыцьці Сарры, былі адноўленыя. Калі Рэбэка запальвала сьвечкі ў пятніцу ўвечары, то яны гарэлі цэлы тыдзень; хлеб, які яна пякла, заставаўся сьвежым ад тыдня да тыдня; і воблака славы парыла над яе шатром.

Сюжэт наступнай карціны нагадвае Біблейскую гісторыю.

Быў голад і Ісаак перасяліўся ў царства Авімэлэха, цара Філістымскага, у Герар.




Рэбэка і Ісаак. Блёк пошты Мікранэзіі, выдадзены ў 1998 годзе

«Жыхары месца таго спыталіся пра жонку ягоную, і ён сказаў: „гэта сястра мая“, бо баяўся сказаць: „жонка мая“, каб не забілі мяне, думаў ён, жыхары месца гэтага за Рэбэку, бо яна прыгожая з выгляду. Але калі ўжо шмат часу ён там пражыў, Авімэлэх, цар Філістымскі, паглядзеў у акно, убачыў, што Ісаак гуляе з Рэбэкаю, жонкаю сваёю. І паклікаў Авімэлэх Ісаака і сказаў: вось, гэта жонка твая: як жа ты сказаў: яна сястра мая? Ісаак сказаў яму: бо я думаў, каб жа не памерці мне дзеля яе. Але Авімэлэх сказаў: што гэта ты зрабіў з намі? адзін з народу ледзь не злучыўся з жонкаю тваёю, і ты ўвёў бы нас у грэх. І даў Авімэлэх загад усяму народу, сказаўшы: хто кране гэтага чалавека і жонку ягоную, той аддадзены будзе сьмерці» (Быцьцё 26:7—11).

Сказаныя Рэбэцы словы на дарогу, калі яна адпраўлялася з бацькоўскага дома ў дом Ісаака, «сястра наша, хай родзяцца ад цябе тысячы тысяч» (Быцьцё 24:60), да гэтага часу паўтараюцца рабінамі нявестам на габрэйскіх вясельлях.

## Падман

*...дык, зграшыўшы і зрабіўшыся вінаватым, ён павінен аддаць узятае, што ўкраў... (Лявіт 6:4)*

Ісаак і Рэбэка мелі двух сыноў-блізьнюкоў. Першым нарадзіўся Ісаў. «Потым выйшаў брат ягоны, трымаючыся рукою сваёю за пяту Ісава; і дадзена яму імя: Якаў. Дзеці вырасьлі; і стаў Ісаў чалавекам спрытным у ловах зьвера, чалавекам палёў; а Якаў чалавекам рахманым, жыхаром намётаў. Ісаак любіў Ісава, бо дзічына была да смаку яму; а Рэбэка любіла Якава» (Быцьцё 25:26—28).

І здарылася адна з тых «брыдкіх» гісторый, якімі мае шмат Сьвятое Пісаньне. Аднойчы, калі стомлены і галодны Ісаў вярнуўся дадому, ён убачыў, што Якаў зварыў чырвоную сачыўку, і папрасіў у брата трохі гэтай сачыўкі. «А што

ты мне дасі наўзамен, калі я дам табе сачыўкі? Прадай мне цяпер жа сваё першародзтва» (Быцьцё 25:31). Відавочна, паляваньне ў гэты дзень у Ісава не была пасьпяховым і ня было чым заплаціць брату за страву. Ісаў у адказ засьмяяўся — і толькі?! Ён быў малады і рашучы, удачлівы ў паляваньні і ва ўсіх справах; ён не сумняваўся, што заўсёды зможа здабыць сабе пражытак і жыць на тое, што здабудзе сам, і няма ў яго неабходнасьці чакаць бацькоўскай спадчыны, і бацька яшчэ здаровы і паміраць не зьбіраецца... А цяпер ён жудасна галодны... Ды прападзі яно — гэта права першародзтва! І Ісаў прадаў сваё права першародзтва брату за міску чырвонай сачавічнай поліўкі. Пра гэты выпадак ведала Рэбэка і яна яго выкарыстала разам з Якавам, калі надышоў час дабраслаўленьня. Рэбэка вырашыла падмануць мужа і зрабіць спадчыньнікам любімага сына — Якава.

Стары, сьляпы і нямоглы Ісаак паклікаў Ісава і папрасіў яго згатаваць бацьку добры абед з дзічыны і тады ён атрымае бацькоўскае баслаўленьне. А Рэбэка паклікала Якава і загадала яму як мага хутчэй прынесьці двух маладых ягнят з бліжэйшага статка, хутка прыгатавала зь іх страву, якую хацелася зьесьці Ісааку, і загадала Якаву аднесьці гэтую страву бацьку, і сказаць, што ён — Ісаў, які прыйшоў з паляваньня і падрыхтаваў любімую страву бацькі. Якаў спалохаўся і «сказаў Рэбэцы, маці сваёй: Ісаў, брат мой, чалавек касматы, а я чалавек гладкі; можа стацца, абмацае мяне бацька мой, і я буду ў вачах у яго ашуканец і навяду на сябе праклён, а не дабраславеньне. Маці ягоная сказала яму: на мне хай будзе праклён твой...» (Быцьцё 27:11—13). «Не бойся, сынок» — сказала Рэбэка — «мы апранем цябе ў вопратку Ісава, а рукі і шыю абгорнем скурай казьлянят: бацька памацае, і паверыць, што гэта валасатыя рукі і шыя Ісава».




Дабраславеньне Якава Ісаакам (1638). Гаверт Флінк. Рыксмузэум, Амстэрдам. Блёк пошты краіны Антыгуа і Барбуда, выдадзены ў 2000 годзе

На карціне Гаверта Флінка намаляваны момант падману Якавым сьляпога бацькі. Падбадзёрваны маткаю, ён атрымлівае дабраславеньне, а разам з тым і спадчыну, ад паміраючага Ісаака.




Ісаак Благаслаўляе Якава (1642). Гербранд ван дэн Экхаут (1621 — 1674). Музэй мастацтваў Метраполітэн, Нью-Ёрк. Марка пошты Нікарагуа, выдадзеная ў 1971 годзе

Якаў стаіць на каленях ля ложка свайго сьляпога бацькі Ісаака пад пільным

вокам маці Рэбэкі, калі ён атрымлівае дабраславеньне замест брата Ісава. Якаў апрануты ў «лепшую куртку» свайго старэйшага брата (якая занадта вялікая), а яго рукі і шыя пакрытыя казінай шкурай. На сьпіне ў яго паляўнічы калчан са стрэламі, але на падлозе ляжыць лук, цеціва якога аслаблена, што паказвае на тое, што ён не паляўнічы. На бакавым століку, пакрытым дыванам, нацюрморт з сурвэткай, сальніца і пляшка з віном. Гэта смачная казьляціна нібы прыгатаваная Якавам. Прадмет на стале — збан Амстэрдамскай гільдыі срэбных спраў майстроў, які адпавядае бацькоўскай тэме. Бацька Ван Экхаута быў членам Гільдыі срэбных спраў майстроў і збан мог быць адным зь яго твораў.

Пазьней Якава дабраславіў Бог, нягледзячы, што той быў хітры. Чаму? Інтрыган Якаў меў дзьве адкупляльныя якасьці. У атрыманай спадчыне ён цаніў духоўнае дабраславеньне і ведаў сілу малітвы. Падман Рэбэкі і Якава ўдаўся! Але ўсё далейшае жыцьцё Якаў вымушаны быў расплачвацца за гэты падман.

## Загадкавы сон Якава

*І калі мы не спасьцігглі таямніцу Пісаньня, то які быў сэнс у тым, што ён выліў алей на камень?*
*Яўсевій Сафроній Еранім*

Пазьбягаючы помсты брата Ісава, які выказаў сваё жаданьне яго забіць, Якаў, па радзе сваёй маці Рэбэкі, павінен быў уцякаць і пераадолець доўгі шлях у Мэсапатамію. Ён меў з сабой толькі адзін дарожны посах, а галаву для сну схіляў на камянях. Дайшоўшы да Харану, што на пагранiччу сучасных Турцыі і Сірыі, змучаны, затрымаўся на начлег. І тут пачынаецца шэраг загадак. Якаў знайшоў пляскаты камень і паклаў яго сабе замест падушкі. Далей Якаву сьніцца загадкавы сон.




Сон Якава (Лесьвіца Якава). Фрэска. Лоджыі Рафаэля. Музэі Ватыкану, Рым. Марка пошты Грэнады, выдадзеная ў 1983 годзе

Бачыць ён у сьне лесьвіцу ад зямлі да неба, а па ёй спускаюцца і падымаюцца Божыя анёлы. «І вось, Гасподзь стаіць на ёй і кажа: Я Гасподзь, Бог Абрагама, бацькі твайго, і Бог Ісаака. Зямлю, на якой ты ляжыш, Я дам табе і нашчадкам тваім; і будуць нашчадкі твае, як пясок зямны; і пашырышся да мора і на ўсход, і на поўнач і на поўдзень; і дабраславяцца ў табе і ў семені тваім усе плямёны зямныя: і вось, Я з табою; і захаваю цябе ўсюды, куды ні пойдзеш; і вярну цябе ў гэтую зямлю; бо Я не пакіну цябе, пакуль ня выканаю таго, што Я сказаў табе» (Быцьцё 28:13—15).

Так Якаў атрымаў пацьверджаньне абяцаньня, якое раней дадзена было Абрагаму і Ісааку.

Многіх мастакоў натхніў на працу загадкавы сон Якава.




Лесьвіца Якава (1737). Хрыстафор Жафаровіч (1710—1753). Кляштар Боджані. Марка пошты Югаславіі, выдадзеная ў 1970 годзе

У 1990 годзе ў Тэль-Авіве адбылася выстава «Дзеці і моладзь малююць Біблію». Малюнкі зь якой сталі зьместам сэрыі марак.




Сон Якава. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1994 годзе ў сэрыі «Дзеці і моладзь малююць Біблію»

На лілова-бэзавым фоне, які згушчаецца да цёмна-фіялетавага, Шагал зьмясьціў знакамітую лесьвіцу Якава. Якаў бачыць у сьне анёлаў, якія падымаюцца і спускаюцца па лесьвіцы, сымбалізуючы яго шматлікіх нашчадкаў. Анёлы танчаць, як акрабаты, вакол лесьвіцы, нагадваючы цырк, які любіў Шагал, і падкрэсьліваючы «сваяцтва» сакральных і мірскіх сюжэтаў.




Сон Якава (1963). Фрагмэнт. Марк Шагал. Ніца. Нацыянальны музэй Біблейскага пасланьня Марка Шагала. Пэрсанальная марка, выдадзеная поштай Украіны ў 2018 годзе

У правай частцы палатна, якая не разьмешчана на марцы, Шагал адлюстраваў Серафіма, які трымае Мэнору. За крылатым Серафімам Шагал адлюстроўвае ўкрыжаванага Хрыста, і гэта не выпадкова. У сярэднія стагодзьдзі сон Якава атаясамляўся з узьнясеньнем Хрыста.

Да гэтага сымбалічнага сну зьвяртае ўвагу сваіх вучняў Ісус Хрыстос на пачатку Сваёй грамадзкай дзейнасьці: «…ад сёньня будзеце бачыць неба адчыненае і анёлаў Божых, якія ўзыходзяць і

сыходзяць да Сына Чалавечага» (Паводле Яна 1:51).




Сон Якава. Невядомы мастак (1844—1854). Мячэць рабіна Эмануэля, Вэнгрыя. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1999 годзе ў сэрыі «Наведваньне патрыярхаў, Суккот».

Існуе многа варыянтаў тлумачэньня загадкавага сну Якава. Мне падабаецца хіба самы просты і зразумелы. Лесьвіца — гэта сымбаль сувязі чалавека з Богам. Бог сыходзіць да кожнага з нас, дзе б ты ня быў і які б ты ня быў, і заклікае да выкананьня тваёй місіі, пракладае дарогу да Сябе і дапаможа па ёй падняцца, калі ты прыкладзеш да гэтага намаганьні.

«Якаў прачнуўся са сну свайго і сказаў: сапраўды Гасподзь прысутны на месцы гэтым; а я ня ведаў. І спалохаўся я і сказаў: якое страшнае месца гэтае! гэта ня што іншае, як дом Божы, гэта — брама нябесная. І ўстаў Якаў з самае раніцы, і ўзяў камень, які ён паклаў сабе пад галаву, і паставіў яго як помнік, і выліў алей на верх яго. І даў імя месцу таму: Бэт-Эль: а ранейшае імя таго горада было: Луз» (Быцьцё 28:16—19).




Шабат. Нэльсан Рамэра (1951 — 2012). Марка пошты Уругваю, выдадзеная ў 1998 годзе

Дзіўны вокліч Якава: «сапраўды Гасподзь прысутны на месцы гэтым; а я ня ведаў». Як і ў выпадку з Агар. Мы не распазнаем блізкасьць Госпада да кожнага з нас, самі выдаляемся ад яго сваім неадчуваньнем Яго любові і зноў набліжаемся да яго, абнятыя Яго клопатам і ласкай.

## Якаў на службе ў Лавана

Ратуючыся ад гневу брата-блізьнюка, Якаў адпраўляецца ў Харран (у Мэсапатаміі) да свайго дзядзькі Лавана, дзе сустракае Рахіль. «Калі Якаў убачыў Рахіль, дачку Лавана, брата маці сваёй, дык падышоў Якаў, адваліў камень ад вусьця калодзежа і напаіў авечкі Лавана, брата маці сваёй» (Быцьцё 29:10).

У многіх краінах, у тым ліку ў Ізраілі, можна замовіць асабістыя паштовыя

маркі. Гэта прыклад такой пэрсанальнай маркі на заказ з малюнкам з Бібліі Піліпа Медхерста.




Якаў сустракае Рахіль (1920). Гаральд Копінг (1863—1932). Пэрсанальная марка, выдадзеная ў 2009 годзе поштай Ізраілю

Якаў палюбіў малодшую дачку Лавана прыгажуню Рахіль і, каб атрымаць яе ў жонкі, працаваў на Лавана 7 гадоў. Але Лаван падманам даў яму ў жонкі Лію, старэйшую дачку, якая Якаву не падабалася. Падмен нявесты магчымы дзякуючы звычаю ўводзіць маладых у шлюбны пакой пад покрывам. Каб ажаніцца на Рахіль, Якаў згадзіўся працаваць на Лавана яшчэ 7 гадоў, але палічыў справядлівым перахітрыць Лавана. Ён папрасіў у пасаг для сваіх жонак авечак і коз з плямкамі і пярэсьцінамі. Большасьць жывёл было белых, і Лаван з радасьцю пагадзіўся.

«І ўзяў Якаў сьвежых дубцоў тапалевых, міндальных і яваравых, і выразаў на іх белыя палосы, акарыўшы да белага, якое на дубцах; і паклаў дубцы з нарэзкаю перад быдлам у вадапойных кадаўбах, зь якіх быдла прыходзіла паіцца, зачынала перад дубцамі. І зачынала быдла перад дубцамі, і нараджалася быдла пярэстае, і з плямкамі, і зь пярэсьцінамі» (Быцьцё 30:37—39).




Якаў з стадам Лавана (12 ст.). Царква Сьвятога Марціна, Зіліс. Картмаксімум пошты Швайцарыі, выдадзены ў 1967 годзе

Якаў адпачывае пад дрэвам.




Якаў са статкам Лавана (1638). Фрагмэнт. Хусэпэ дэ Рыбера (1591 — 1652). Музэй Серральбо, Мадрыд. Марка пошты Гішпаніі, выдадзеная ў 1963 годзе

У вадзе ляжаць драўляныя дубцы, вычышчаныя ад кары. Якаў будзе паіць авечак вадою, настоянай на гэтых дуб-

цах. Праз некаторы час большасьць статка стала «з плямкамі і зь пярэсьцінамі і чорных». Большасьць статка стала ўласнасьцю Якава і ён стаў багатым. Якаў вырашыў, што настаў час, каб памірыцца з братам. Для гэтага трэба было ўсёй сям'ёй вярнуцца на радзіму.

У Рахілі доўга не было дзяцей. Але малітва Рахілі была пачута. «Яна зачала і нарадзіла сына, і сказала: зьняў Бог ганьбу маю. І дала яму імя Язэп, сказаўшы: Гасподзь дасьць мне і другога сына» (Быцьцё 30:23,24).




Рахель і маленькі Язэп. Ёханэс Адольф Тылак (1861—1948). Персанальная марка, выдадзеная поштай Ізраілю ў 2009 годзе

Пасьля нараджэньня Язэпа Якаў рушыў ў Ханаан.

## Загадкавае змаганьне Якава

*І сказаў: ад сёньня імя тваё будзе ня Якаў, а Ізраіль, бо ты змагаўся з Богам, і людзей адольваць будзеш. (Быцьцё 32:28)*

Ад двух дачок Лавана і ад іх двух служанак у Якава нарадзіліся дванаццаць сыноў, родапачынальнікаў дванаццаці плямёнаў Ізраілявых, і дачка. Пасьля доўгіх гадоў службы ў Лавана Якаў разам з усім сваім нашчадствам вырашае вярнуцца дадому. Якаў вельмі баіцца сустрэчы з сваім братам, але і марыць аб прымірэньні і моліць аб гэтым Бога. Астанавіўшыся на начлег з жонкамі, дзецьмі, рабамі і быдлам, перавёў усіх праз паток. «І застаўся Якаў адзін.




Барацьба Якава з Анёлам (1659). Рэмбрант ван Рэйн (1606—1669). Берлінская карцінная галерэя. Марка пошты Цэнтральна-Афрыканскай Рэспублікі, выдадзеная ў 1981 годзе

І змагаўся Нехта зь ім, пакуль настала зара; і ўбачыўшы, што не адольвае яго, крануўся суглоба сьцягна ягонага і пашкодзіў суглоб сьцягна ў Якава, калі ён змагаўся зь Ім. І сказаў: пусьці Мяне, бо ўзышла зара. Якаў сказаў: ня пушчу Цябе, пакуль не дабраславіш мяне. І сказаў: як імя тваё? Ён сказаў: Якаў. І сказаў: ад сёньня імя тваё будзе ня Якаў, а Ізраіль, бо ты змагаўся з Богам, і людзей адоль-

ваць будзеш» (Быцьцё 32:24—28). Што гэта за загадкавы бой? У Кнізе Прарока Асіі ёсьць такія словы аб гэтым начным бою: «Яшчэ ў чэраве ў маці запыняў ён брата свайго, а ўзмужнеўшы змагаўся з Богам. Ён змагаўся з Анёлам — і перамог; плакаў і благаў Яго; у Віфлееме Ён знайшоў нас і там гутарыў з намі» (Асія 12:3,4). Сам Бог сыходзіць да Якава ў вобразе Анёла, але чалавек на самай справе не ў стане цалкам зразумець сутнасьць Боскасьці.

Зьявіліся разнастайныя тлумачэньні гэтай сцэны. Бо зьдзіўленьне і ўнутраны супраціў выклікае сытуацыя, калі чалавек мае перавагу над Усемагутным Богам. Адно з самых распаўсюджаных, што Якаў такім чынам наблізіўся да Бога, праўдзіва зразумеў сваё прызначэньне. Ці не навяртае гэта падзея да загадкавага сну з лесьвіцай? Бог спусьціўся, каб падняць?

Згодна з царкоўнай традыцыяй, гэтая барацьба зьяўляецца сымбалям малітвы, барацьбы веры і перамогі настойлівасьці. Цяжкасьць змаганьня Сьвяты Аўгустын паясьняе наступным чынам: «тое, што атрымана з лёгкасьцю, людзі лёгка губляюць, і наадварот адбываецца з тым, што патрабуе працы і намаганьняў».

Бог прымусіў змагацца Якава з Анёлам. У асобе гэтага Анёла, гэта сам Гасподзь вёў бой і дазволіў Сябе трымаць не ад слабасьці, а з міласэрнасьці. У Патрыярха заплюшчаныя вочы, мы не бачым ягоных рук, мала намёкаў на тое, што ён вядзе драматычную барацьбу. Рука на шыі Якава можа счытвацца як жэст пяшчоты і клопату. Толькі левая рука Анёла, якая абапіраецца на сьцягно, нагадвае аб калецтве. Баявыя фігуры, разьмешчаныя на фоне пэйзажу, змагаюцца пад разгалістымі дрэвамі. Анёл не спрабаваў вырвацца з хваткі Якава, які пратрымаў Яго ўсю ноч, дамагаючыся дабраславеньня. Відаць, як напружаныя мышцы Якава, які спрабуе ўтрымаць Анёла, і як Анёл не стараецца выкарыстаць сваю сілу супраць Якава. Лязо кінутай дзіды накiравана ў бок патрыярха, што яшчэ больш падкрэсьлівае вастрыню канфлікту і накіроўвае погляд гледача ў цэнтар падзеі. Тазасьцегнавы сустаў будзе вывіхнуты, чалавек будзе адзначаны калецтвам, але ж яго патрабаваньне будзе выканана.




Барацьба Якава з Анёлам (1861год). Фрагмэнт. Фердынанд Дэлякруа (1798—1863). Царква Сьвятога Сюльпіцыя, Парыж. Марка пошты Францыі, выдадзеная ў 1963 годзе

Змаганьне Якава з Анёлам ня першы прыклад непаслухмянасьці Богу. Абрагам без запярэчаньня гатовы ахвяраваць сына па загадзе Бога, але ўступае ў спор у выпадку з Садомам і Гаморай. Якаў змагаецца з Богам фізычна.

Выявы, якія адносяцца да адной і той жа падзеі, зьяўляюцца прыкладам індывідуальнага падыходу мастакоў да тэксту Бібліі.




Якаў змагаецца з Анёлам. Фрагмэнт. Хасэ Марыі Сэрт (1874—1945). Марка пошты Гішпаніі, выдадзеная ў 1966 годзе

Невядомы дабраславіў Якава і даў яму новае імя — Ізраіль («які змагаецца з Богам»). З таго часу імёны Якаў і Ізраіль сталі выкарыстоўвацца ў адносінах да Патрыярха і Габрэйскага народу, як узаемазамяняемыя.

Хіба кожны чалавек перажываў у сваім жыцьці этап барацьбы з Богам. Магчыма кожны з нас быў Якавам, які змагаўся ў цемры. Магчыма, барацьба суправаджалася нейкім блюзьнерскім пэрыядам. Хто з нас не меў такіх момантаў у жыцьці, што выкрыкваў Богу ўласнае бясьсільле, адчуваньне закінутасьці, тугі звыш сіл і горыч? Хаваем гэта ў сабе. Біблія паказвае шмат такіх пэрсанажаў: Якава, Ёва, сясьцёр Лазара. Вера не ёсьць спакойным ручаём, але ўнутранай спрэчкай чалавека пра сябе, свайго блізкага і свайго Бога. Мастакі рэагуюць на гэта сваімі творамі. Мастацтва — гэта запіс духоўнай сытуацыі. Не ёсьць гэта зразумелым, што да драбязі...




Якаў змагаецца з Анёлам. Бодзіл Каалунд (1930—2016). Ілюстрацыя з новай дацкай Бібліі. Марка пошты Даніі, выдадзеная ў 1992 годзе

Ня гледзячы на ўсе хібы, у равіністычнай літаратуры прабацька Якаў разглядаецца як сымбаль габрэйскага народа, узор цноты і справядлівасьці. «Дык вось, калі ты прынясеш дар твой да ахвярніка і ўспомніш там, што брат твой мае нешта супроць цябе, пакінь там дар твой перад ахвярнікам, і ідзі сьпярша памірыся з братам тваім, і тады прыйдзі і прынясі дар твой» (Паводле Мацьвея 5:23,24).

Адбылася сустрэча Якава з Ісавам і яны цёпла і сардэчна разышліся, ня трымаючы зла.

«Якаў сказаў: не, калі я здабыў упадабаньне ў вачах тваіх, прымі дарунак мой з рукі маёй; бо я ўгледзеў аблічча тваё, як бы хто ўбачыў аблічча Божае, і ты быў прыхільны да мяне...» (Быцьцё 33:10).

Пад дубам каля Сіхему (Ханаан) Якаў зьнішчае ўсіх ідалаў, а ў Вэтылі, дзе яму зьявіўся Бог, ставіць Богу ахвярнік.



Прымірэньне Якава і Ісава (1624). Рубенс (1577—1640). Дзяржаўная галерэя Шлейсхайм, Мюнхен. Пэрсанальная марка, выдадзеная поштай Ізраілю ў 2014 годзе

## Магіла Рахілі

*...як Рахіль і як Лію, якія абедзьве заснавалі дом Ізраілеў... (Рут 4:11)*

Калі Рахіль, каханая жонка Якава, нараджала другога сына, Веньяміна, яна памерла. У Бібліі аб гэтым напісана так: «І памерла Рахіль, і пахавана на дарозе ў Эфрату, гэта значыцца, Віфлеем. Якаў паставіў над магілай яе помнік. Гэта магільны помнік Рахілі да гэтага дня» (Быцьцё 35:19,20). У габрэйскай традыцыі яна стала ўвасабленьнем любячай маці.

У 2013 годзе поштай Ізраілю выпушчана марка і канвэрт першага дня (КПД), прысьвечаныя Рахілі. На марцы намаляваная магіла Рахілі, гістарычны купальны будынак і сымбалічны партрэт Рахілі. На прывесцы маркі дэталь унутранай часткі грабніцы і надпіс на габрэйскай і англійскай мовах: «Рахіль плача па дзецях сваіх...» (Ерамія 31:15). На полі канвэрту малітоўная заля дабудаваная да магілы Рахілі і надпіс на габрэйскай і англійскай мовах: «Утрымай голас твой ад галашэньня і вочы твае ад сьлёз, бо ёсьць узнагарода за працу тваю, і вернуцца сыны твае ў межы свае» (Ерамія 31:16).



Рахіль і яе грабніца. Канвэрт першага дня, выдадзены поштай Ізраілю ў 2013 годзе

Грабніца Рахілі, Матрыарха габрэяў, была прызнана ў яе цяперашнім месцазнаходжаньні недалёка ад раёна Гіла, на мяжы паміж Ерусалімам і Віфлеемам, на працягу 1700 гадоў. У старажытнасьці тут было ўсталявана надмагільле, якое складалася з 12 камянёў, сымбалізуючых сыноў Якава. Пазьней быў узьведзены купал, які абапіраецца на чатыры калёны, а ў 17 стагодзьдзі грабніца Рахілі была пераўтвораная ў закрытае збудаваньне. У 1841 годзе сэр Мозэс Монтэфьёрэ прыбудаваў яшчэ адзін пакой да магілы Рахілі.

Калектыўная Габрэйская памяць пра Рахіль, Матрыярха, мае два аспэкты — асабісты і Нацыянальны. Першы — трагічная і сумная гісторыя яе жыцьця, апісаная ў Кнізе Быцьця. Другі — прароцтва Ераміі пра суцяшэньне, у якім Рахіль, Матрыярха, апісаная як маці, якая плача над сваімі сынамі, і як тая, чые крыкі разарвалі браму нябёсаў, і якая пасьля

прывядзе на шлях да адкупленьня, да зьбіраньня выгнаньнікаў і да вяртаньня народа Ізраіля на сваю зямлю. Гэта аснова нацыянальнай габрэйскай ідэнтыфікацыі з Рахіль.




Грабніца Рахілі. Марка Палестыны, выпушчаная ў 1928 годзе

Мільёны габрэяў наведвалі гэтае месца на працягу пакаленьняў, молячыся і заклікаючы да Рахілі, Матрыярха, каб яна зьвярнулася да Бога з просьбай пра здароўе, плодзе чэрава, сродках да існаваньня, а таксама аб нацыянальным і агульным выратаваньні. Прастата гэтага месца зачароўвала мінакоў, качэўнікаў і паломнікаў на працягу многіх гадоў. Яны запісвалі апісаньне грабніцы, звычаяў месца і вопыту, які разьвіўся вакол яе, першапачаткова ў пісьмовай форме, а затым з дапамогай малюнкаў і фатаграфій. Грабніца адлюстроўваецца на працягу многіх гадоў у габрэйскім мастацтве, у сьвятых кнігах і на марках. Пра самую Рахіль напісаныя паданьні і легенды, вершы і богаслужбовыя тэксты, апавяданьні і п'есы. Імя Рахілі застаецца адным з найбольш папулярных габрэйскіх імёнаў, якім бацькі называюць сёньня сваіх дзяцей.

## Дванаццаць сыноў Якава

*Вось усе дванаццаць каленаў Ізраілевых; і вось, што сказаў ім бацька іхні; і дабраславіў іх, і даў ім дабраславеньне, кожнаму сваё. (Быцьцё 49:28)*

Якаў, чыё імя ад часу змаганьня з Богам было Ізраіль, дачакаўся дванаццаці сыноў. Але ці была яго сям’я сапраўднай, ці была яна шчасьлівай?

Якаў любіў Рахіль, а Лія была «нелюбка». Убачыўшы гэта, Бог «адчыніў нутробу яе». Рахіль ж заставалася бясплоднай. Аднак Лія хацела не толькі дзіцяці, але і любові свайго мужа. Яна бачыла, зь якой пяшчотай Якаў зьвяртаецца да Рахілі, і ёй станавілася вельмі горка. І ўсё ж Лія не губляла надзеі заваяваць любоў мужа і нарадзіла яму сына. Яна назвала хлопчыка Рувім, што азначае «глядзі: сын», разважаючы такім чынам: «Гасподзь угледзеў маё гароцтва; бо цяпер будзе кахаць мяне муж мой» (Быцьцё 29:32). Але Якаў не палюбіў яе. Не палюбіў ён яе і тады, калі яна нарадзіла яму другога сына. Лія назвала сына Сымон, што азначае «чуе». Яна падумала «Гасподзь пачуў, што я нелюбка, і даў мне і гэтага» (Быцьцё 29:33).

Дванаццаць сыноў Якава паказала на марках, выдадзеных у 1973 годзе поштай Ізраілю. На іх рэпрадукцыя прыгожых вітражоў, выкананых Маркам Шагалам, габрэйскім мастаком, народжаным у Віцебску ў Беларусі. Знаходзяцца яны ў вокнах сынагогі ў Цэнтры Мэдычным у Айн Карэм на заходным прадмесьці Ерусаліма.

Першы вітраж ясна нябескага колеру прасьвечаны Рувіму, першароднаму сыну Якава. На версе запісана цытата з Кнігі Быцьця: «Рувім, першынец мой! ты бушаваў, як вада» (Быцьцё 49:3,4). Гэта намёк на гвалтоўны характар Рувіма.




Рувім. Сымон. Вітражы. Марк Шагал (1887—1985). Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1973 годзе

Другі вітраж сіняга колеру прысьвечаны Сымону. Яго імя напісанае па-габрэйску ў памаранчавым коле ў версе з правага боку. У нізе цытата: «праклён гневу іхняму, бо ён жорсткі, і лютасьці іхняй, бо шалёная» (Быцьцё 49:7). Гэта намёк на крывавую помсту, якую зьдзейсьнілі Сымон і Левій за ганьбу іх сястры.

Бог «пачуў» Лію-гэта значыць, яна малілася пра сваё гора. Мяркуючы па ўсім, яна была верным чалавекам. Аднак яна не пазбавілася ад душэўнага болю, нават нарадзіўшы трэцяга сына. Лія дала яму імя Левій, што азначае «прыхільнасьць», патлумачыўшы: «вось цяпер прылепіцца да мяне муж мой, бо я нарадзіла яму трох сыноў (Быцьцё 29:34). Але пачуцьці Якава да яе не зьмяніліся. Верагодна, Лія зьмірылася з гэтым, паколькі ў імя яе чацьвёртага сына ўжо не гучыць надзея на тое, каб хоць неяк падпаліць сэрца Якава. Яна назвала гэтага сына Юда, што азначае «усхваляемы». Так Лія выказала сваю падзяку Богу, сказаўшы: «вось цяпер я праслаўлю Госпада» (Быцьцё 29:35).




Левій. Юда. Вітражы. Марк Шагал (1887—1985). Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1973 годзе

Трэцяя яскраважоўтая марка прысьвечана Левію. Яго імя відаць над Зоркай Давіда. У нізе вылучаюцца дзьве табліцы Майсея з 10 Запаведзямі. Маісей, які паходзіў з калена Левія, атрымаў іх ад Бога на гары Сінай. Надпіс узяты з дабраслаўленьня Майсея: «вучаць законам Тваім Якава і запаведзям Тваім Ізраіля» (Другі закон 33:10). Чацьвёртая пурпуровая марка прысьвечана Юдзе. Яго імя над узьнесенымі да Бога рукамі. Надпіс гучыць: «Малады леў Юда, са здабычы, сыне мой, ты вяртаесься» (Быцьцё 49:9).

Лія працягвала пакутаваць, але і Рахілі было не лягчэй. Яна ўмольвала

Якава: «дай мне дзяцей; а калі не, я паміраю» (Быцьцё 30:1). У Рахілі была любоў Якава, але яна хацела дзяцей. У Ліі былі дзеці, але яна хацела любові. Кожная прагнула таго, што было ў іншай, і ні адна не была шчасьлівая. Абедзьве любілі Якава і хацелі нарадзіць яму дзяцей. І тую, і іншую разьдзірала зайздрасьць. Якой няпростай была жыцьцё гэтай сям'і!

У тыя часы бясплодзьдзе было вялікім горам для жанчыны. Бог абяцаў Абрагаму, Ісааку і Якаву, што праз іх «нашчадкаў» дабраславяцца «усе народы зямныя» (Быцьцё 26:4). Але Рахіль была бясплоднай. Якаў лічыў, што толькі Бог можа даць Рахілі сыноў і толькі Ён можа даць ёй такія дабраславеньні. Аднак Рахілі не хапала цярпеньня. «Яна сказала: вось служанка мая Вала: увайдзі да яе; хай яна родзіць на калені мае, каб і я мела дзяцей ад яе» (Быцьцё 30:3).

Нам цяжка зразумець паводзіны Рахілі. Аднак са старажытных тэкстаў шлюбных дагавораў, знойдзеных на Блізкім Усходзе, відаць, што існуючы тады звычай дазваляў бясплоднай жанчыне аддаваць свайму мужу служанку, каб тая нарадзіла спадчыньніка. У некаторых выпадках дзеці служанкі разглядаліся як дзеці жонкі.

Калі Вала нарадзіла хлопчыка, Рахіль узрадавалася і ўсклікнула: «наканаваў мне Бог, і пачуў голас мой, і даў мне сына» (Быцьцё 30:6). Яна назвала яго Дан, што азначае «судзьдзя». Як відаць, яна таксама малілася аб сваім горы. Калі Вала нарадзіла другога сына, Напталіма, што азначае «мая барацьба», Рахіль сказала: «я з усіх сіл змагалася з сястрой і перамагла!» (Быцьцё 30:8).

Пятая нябескага колеру марка прысьвечана Дану. Пасярэдзіне намалёваны вуж, абвіты вакол падсьвечніка. Гэтым малюнкам Шагал ілюстраваў словы Якава аб Дане: «Дан будзе зьмеем на дарозе, асьпідам на шляху» (Быцьцё 49:17).




Дан. Напталім. Вітражы. Марк Шагал (1887—1985). Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1973 годзе

Шостая марка жоўтага колеру — вітраж Напталіма. Яго імя напісана ў правым верхнім куце. Ніжэй адпачывае касуля — спасылка на дабраславенства Якава Напталіму: «Напталім — вольная касуля» (Быцьцё 49:21).

Магчыма, даючы Валу Якаву, Рахіль думала, што дзейнічае ў згодзе са сваімі малітвамі, але Бог хацеў ёй даць дзяцей іншым шляхам. У гэтым урок для нас. Калі мы просім аб нечым Бога, то не павінны губляць цярпеньня. Ён можа адказаць на малітвы нечаканым для нас чынам і тады, калі мы менш за ўсё гэтага чакаем.

Каб не страціць сваёй перавагі, Лія таксама дала Якаву сваю служанку, Зілфу. Тая нарадзіла Гада, затым Асіра (Быцьцё 30:9—13).

Цёмназялёны вітраж прысьвечаны Гаду. Колер непакою адпавядае словам Якава аб Гадзе: «Гад, — натоўп будзе цясьніць яго, але ён адцісьне яго па пятах» (Быцьцё 49:19). Аб Асіры Якаў сказаў «ён будзе дастаўляць царскія прысмакі» (Быцьцё 49:20), таму колер вітражу аліўкавы. Аліўкі Сьвятой Зямлі гэта сымбаль багацьця.




Гад. Ашэр. Вітражы. Марк Шагал (1887—1985). Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1973 годзе

Яскравы прыклад суперніцтва паміж сёстрамі — выпадак з мандрагорамі, якія знайшоў сын Ліі Рувім. Лічылася, што мандрагоры спрыяюць зачацьцю. Рахіль папрасіла ў Ліі гэтых пладоў, але тая рэзка адказала: «Няўжо мала табе — завалодаць мужам маім, што ты дамагаесься і мандрагораў сына майго?» (Быцьцё 30: 15). Гэтыя словы наводзяць на думку, што Якаў бываў з Рахільлю часьцей, чым з Ліяй. Відавочна, Рахіль адчула справядлівасьць гэтых папрокаў, таму сказала Ліі: «дык няхай ён ляжа з табою гэтай ночы, за мандрагоры сына твайго». Калі Якаў прыйшоў дадому, Лія сказала яму: «увайдзі да мяне, бо я купіла цябе за мандрагоры сына майго. І лёг ён зь ёю тае ночы» (Быцьцё 30:16).

Лія нарадзіла пятага і шостага сына: Ісахара (што азначае «адплата») і Завулона. Тады яна ўсклікнула: «Бог даў мне цудоўны дар: цяпер будзе жыць у мяне муж мой, бо я нарадзіла яму шэсьць сыноў» (Быцьцё 30: 17—20).




Ісахар. Завулон. Вітражы. Марк Шагал (1887—1985). Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1973 годзе

Зялёны колер вітража Ісахара сымбалізуе дастатак і спакой. Якуб сказаў аб сваім сыне: «І ўбачыш ты, што спакой табе добры і зямля корміць» (Быцьцё 49:15). На чырвонай марцы Завулона намаляваны карабель поўны рыбы, таму што Якаў сказаў: «Завулон каля берага марскога будзе жыць і каля прыстані карабельнай» (Быцьцё 49:13).

Мандрагоры не дапамаглі Рахілі. Тым не менш праз шэсьць гадоў замужжа Рахіль зацяжарала і нарадзіла Язэпа. Але гэта адбылося дзякуючы таму, што Гасподзь «успомніў» пра яе і адказаў на яе малітву. І толькі тады Рахіль магла ска-

заць: «зьняў Бог ганьбу маю» (Быцьцё 30:23). Рахіль памерла падчас другіх родаў на шляху з Бэт-Эля ў Эфрат, у Бэт-Леxеме; паміраючы, яна назвала свайго другога сына Бэн-яны («сын маёй пакуты»), аднак Якаў даў яму імя Веньямін.

У двух вокнах разьмясьціў Шагал сыноў Рахілі.




Язэп. Веньямін. Вітражы. Марк Шагал (1887—1985). Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1973 годзе

Маляўнічы вітраж, прысьвечаны Язэпу, напамінае пра каляровае ўбраньне Язэпа, якое падарыў яму Якаў і якое стала прадметам зайздрасьці братоў, а таксама пра тлустых і галодных кароў з далейшага жыцьця Язэпа ў Егіпце.

Нябескі колер вітражу Веньяміна гэта намёк на спакой, які, аднак, патрабуе высілкаў. Майсей, дабраслаўляючы Ізраілітаў перад сваёй сьмерцю, зьвяртаючыся да племені Веньяміна, сказаў: «Любасны Госпаду жыве ў Яго ў бясьпецы, Бог спрыяе яму кожны дзень, і ён пакоіцца паміж плячамі Ягонымі» (Другі закон 33:12).

У 1962 Марк Шагал расьпісаў 12 вокнаў у сынагозе мэдыцынскага цэнтра Хадаса ў Эйн-Карэм у Ерусаліме. Вокны былі створаны ў Францыі, а затым ахвяраваныя бальніцы. Праца заняла два гады і ў дзень 50-годзьдзя бальніцы ў лютым 1962 вітражы былі ўрачыста асьвячоныя. У рэчаіснасьці гэта не вітражы, а росьпісы. «Увесь час, пакуль я працаваў, — распавядаў Марк Шагал, — я адчуваў, што мой бацька і мая маці глядзяць з-за майго пляча, а за імі — тыя мільёны габрэяў, якія зьніклі нядаўна і тысячы гадоў таму назад». З той пары тысячы людзей наведалі сынагогу ў Айн Карэм і засталіся зачараванымі прыгажосьцю твораў Шагала. Дванаццаць цудоўных вітражоў, якія апісваюць дванаццаць каленаў Ізраілевых, паказваюць глыбокую любоў мастака да габрэйскага народу і чалавецтва ў цэлым. Для поўнага разуменьня сэнсу і значэньня кожнага вітража, трэба іх разглядаць, зыходзячы з пачуцьця поўнай датычнасьці майстра да гісторыі габрэяў, зь іх трагедыямі і перамогамі, зь яго асабістым мінулым, зьвязаным з Віцебскам — месцам, у якім ён нарадзіўся і вырас.

## Сымбалі дванаццаці сыноў Якава

*...ён мае вялікую і высокую*
*сьцяну, мае дванаццаць брамаў і*
*на іх дванаццаць анёлаў,*
*на брамах напісаны імёны*
*дванаццаці каленаў сыноў*
*Ізраілевых... (Адкрыцьцё 21:12)*

Якаў быў адзіным Патрыярхам, чые дзеці ўсе да аднаго рушылі ў сьлед рэлігіі

і традыцыям свайго бацькі. Габрэйскія мудрацы кажуць: «Якаў не памёр. Да тых часоў, пакуль жывыя яго дзеці, працягваючы ісьці яго шляхам, ён таксама жывы». Праўдзівая жыцьцё не вымяраецца даўжынёй дзён чалавека. Яно вымяраецца каштоўнасьцямі яго жыцьця і здольнасьцю перадаць гэтыя каштоўнасьці будучым пакаленьням.

Ад дванаццаці сыноў Якава паходзяць дванаццаць кален народу Ізраіля. Кожны старажытны Ізраільцянін ведаў, зь якога калена ён паходзіць. Таму сыны Якава часта ўспамінаюцца на старонках Сьвятога Пісьма, а пра вялікіх герояў веры даецца інфармацыя аб іх прыналежнасьці да патомства аднаго з сыноў Якава.

Ужо напачатку адраджэньня краіны Ізраіль у 1955—56 гадах пошта Ізраіля выпусьціла дзьве сэрыі марак з імёнамі сыноў Якава і сымбалямі родаў.




Сымбаль роду Рувіма мандрагора. Картмаксімум пошты Ізраілю «Імёны дванаццаці каленаў сыноў Ізраілевых», выдадзены ў 1955 годзе

На першай марцы з сэрыі 1955 году сымбаль роду Рувіма мандрагора. Мандрагора згодна з паданьнямі спрыяла цяжарнасьці. Рувім знайшоў мандрагору і прынёс сваёй маці Леі. Лея перадала мандрагору Рахілі і яна неўзабаве зацяжарала і нарадзіла Якаву доўгачаканага сына.

Пад паштовымі маркамі разьмешчаны так званыя прывескі. На прывесках тэксты на іўрыце з Кніг біблейскіх, якія характэрныя для дадзенага пакаленьня.

На другой марцы брама Сыхему — сымбаль роду Сымона, як напамін аб крывавай помсьце Сымонам і Левіем жыхарам Сыхема за згвалтаваньне сястры Дзіны сынам «Эмора Эвэяніна, князя зямлі той» (Быцьцё 34:2).

Трэцяя марка прысьвечана Левію. На ёй малюнак двайнога чатырохвугольнага нагрудніка з 12 каштоўнымі камянямі (па ліку плямёнаў Ізраілевых). Патомкамі Левія былі Майсей і Аарон, зь якіх пачалася лінія служыцеляў у Храме Ерусалімскім.




Сыны Леі. Сымбаль роду Сымона. Сымбаль роду Левія. Сымбаль роду Юды. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1955 годзе

Чацьвёртая марка з відарысам льва — сымбаля Юды. Калі Якаў благаслаўляў Юду, то сказаў наступныя словы: «Малады леў Юда, са здабычы,

сыне мой, ты вяртаешся» (Быцьцё 49:9). І далей «Не адыдзе скіпэтар ад Юды і заканадаўца ад сьцёгнаў ягоных, пакуль ня прыйдзе Прымірэнец, і Яму пакорлівасьць народаў» (Быцьцё 49:10). Згодна з гэтай запаведзьдзю Юда стаў Прабацькам галоўнага ізраільскага роду. З гэтага роду паходзіць Давід і заложаная ім дынастыя, якая кіравала да 587 году да Р.Х. аж да Вавілонскага выгнаньня. З роду Юды паходзіць Язэп, муж Дзевы Марыі і апякун Ісуса Хрыста.

На пятай марцы, прысьвечанай Дану, вагі — сымбаль справядлівага вырашэньня спраў. «Дан будзе судзіць народ свой, як адно з каленаў Ізраіля…» (Быцьцё 49:16).




Сыны Валлы. Сымбалі родаў Дана і Напталіма. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1955 годзе. Сыны Зелфы. Сымбалі родаў Гада і Ашэра. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1956 годзе

Відарыс касулі на шостай марцы, прысьвечанай Напталіму — спасылка на дабраславенства Якуба: «Напталім — вольная касуля, гаварыцьмеш прыгожыя словы» (Быцьцё 49:21).

У 1956 годзе Пошта Ізраіля працягнула выпускаць сэрыю марак, якія паказваюць астатніх сыноў Якуба.

Сёмая марка паказвае сымбаль роду Гада, а менавіта намёт, які падкрэсьлівае характар Гада, як воіна.

Восьмая марка ў гонар роду Асіра. Яго сымбаль — дрэва. Дрэва на Блізкім Усходзе зьяўляецца сымбалям урадлівасьці, дастатку і багацьця.

Дзявятая марка прысьвечана роду Ісахара. Яго сымбаль сонца і зоркі. У першай кнізе летапісе сказана, што нашчадкі Ісахара адрозьніваліся глыбокім разуменьнем часу і «якія ведалі, што калі належала рабіць Ізраілю» (Першая Летапісаў 12:32). Сонца і зоркі — вобразнае стаўленьне да гэтага.




Сыны Леі. Сымбаль роду Ісахара. Сымбаль роду Забулона. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1956 годзе. Сыны Рахелі. Сымбаль роду Язэпа. Сымбаль роду Веньяміна. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1956 годзе

Дзясятая марка адлюстроўвае сымбаль роду Завулона — карабель. Гэта вельмі дзіўна, улічваючы, што старажытныя Ізраільцяне былі людзьмі пустыні і рэдка выходзілі ў далёкія марскія выправы. Але менавіта род Завулона павінен быў стаць выключэньнем. «Завулон каля берага марскога будзе жыць і каля прыстані карабельнай, і межы яго да Сідона» (Быцьцё 49:13).

Адзінаццатая марка паказвае сноп пшаніцы, сымбаль Язэпа. Сымбаль спасылаецца на сон Язэпа (Быцьцё 37:7), які ўяўляў сабой прадвесьце яго незвычайнага ўзвышэньня ў Егіпце. Сон, у якім сноп Язэпа падняўся і снапы яго братоў аддаюць яму паклон, стаў першапрычынай яго няшчасьця: Язэп быў прададзены братамі ў Егіпет.

Апошняя, дванаццатая марка з сэрыі, адлюстроўвае ваўка, сымбаль Веньяміна, наймалодшага сына Якава і Рахілі. Сымбалем Веньяміна зьяўляецца воўк, бо бацька кажа пра яго: «Веньямін драпежны воўк, раніцай будзе есьці лавітву і ўвечары будзе дзяліць здабычу» (Быцьцё 49:27).

Якаў перад сваёй сьмерцю ўсынавіў Яфрэма і Манасію, сыноў Язэпа. У выніку замест аднаго калена Язэпа, стала два (Быцьцё 48:5), так што ўсіх каленаў было 13. Аднак пры падзеле зямлі Хананэанскай лічылі толькі 12 каленаў, бо калена Левія, аддзеленае для сьвятарскага служэньня, не атрымала ніякага надзелу.

Пошта Уганды ў 2003 годзе выпусьціла марку з фрагмэнтам карціны галяндзкага жывапісца Рэмбрандта ван Рэйна «Якаў дабраслаўляе сыноў Язэпа Манасію і Яфрэма». Якаў, шаноўны Патрыярх, паказаны са стрыманай, велічнай годнасьцю, у той час як Язэп і яго жонка назіраюць за ім з пакорай і набожнай павагай. Рэмбрант абраў не самы эфэктны, але вельмі значны эпізод біблейскага аповеду. Язэп, падводзячы сваіх сыноў да састарэлага Якава для дабраслаўленьня, ставіць старэйшага, Манасію, справа ад бацькі, а малодшага, Яфрэма, — зьлева. Аднак асьлеплы Якаў ускладае правую руку на галаву малодшага ўнука, маючы намер дабраславіць яго першым. Язэп вырашае, што адбылася прыкрая памылка. Ён спрабуе аднавіць належны парадак і перакласьці правую руку бацькі на галаву свайго першынца, але Якаў пярэчыць: «...ведаю, сыне мой, ведаю; і ад яго пойдзе народ, і ён будзе вялікі; але меншы яго брат будзе большы за яго, і ад семені яго пойдзе шматлікі народ» (Быцьцё 48:19).




Якаў бласлаўляе сыноў Язэпа Манасію і Яфрэма (1656). Рэмбрант ван Рэйн (1606—1669). Дзяржаўны музэй Касьсель. Марка пошты Уганды, выдадзеная ў 2003 годзе

Менавіта гэты момант прадстаўлены на карціне: лядашчы старац дакранаецца да залатых кучараў Яфрэма, а Язэп спрабуе асьцярожна перакласьці руку бацькі на галаву Манасіі. Галоўны герой карціны, цэнтар яе духоўнасьці — сьляпы стары. Над чырвоным покрывам, якое займае ўсю ніжнюю частку палатна, зьзяюць яго белыя адзеньні. Сьвятло, зыходзячы з рукі старца, выліваецца на хлопчыка. «І сказаў Ізраіль Язэпу: вось, я паміраю; і Бог будзе з вамі і верне вас у зямлю бацькоў вашых...» (Быцьцё 48:22).

Сымбалі дванаццаці каленаў захаваліся на працягу стагодзьдзяў. Іх крыніца — дабраслаўленьне Якавам дванаццаці сыноў Язэпа, а таксама некалькіх іншых тэкстаў Старога Запавету, якія вызначаюць спэцыфічныя асаблівасьці радоў і іх прабацькаў.




Менора і сымбалі 12 каленаў Ізраілю.
Марка пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1952 годзе

Дванаццаць сыноў Якава — гэта слупы Ізраіля часоў Старога Запавету. Іх адпаведнікам у Новым Запавеце было дванаццаць апосталаў, выбраных Ісусам і спадарожных яму ў яго жыцьці, якія затым сталі сьведкамі Яго Ўваскрэсеньня.

## Гісторыя Язэпа

*Язэп-галіна пладаносная.*
*(Быцьцё 49: 22)*

Гісторыя Язэпа настолькі цікавая, насычаная «фантастычнымі» падзеямі і павучальная, што зь яе кароткага аповеду ў Кнізе Быцьця можна напісаць вялізную рамантычную кнігу. Гэту ідэю ажыцьцявіў нямецкі пісьменьнік Томас Ман. У ракавыя для сваёй краіны гады, з 1933 па 1943, ён стварыў манумэнтальны раман «Язэп і яго браты». У той час, калі ўсе дасягненьні цывілізацыі, здавалася, назаўжды адступалі пад напорам хаосу, гісторыя Язэпа дапамагла пісьменьніку здабыць надзею на выратаваньне: у сваім рамане ён распавёў пра станаўленьне маральнага пачатку ў чалавеку, зараджэньне маралі на сьвітанку гісторыі, пра тое, што ў аснове сьветабудовы ляжыць стваральны пачатак.

Язэп («Яхве дадасьць» на іўрыце) — перадапошні сын біблейскага Прааййца Якава ад каханай жонкі Рахілі (яго называюць таксама Язэп Выдатны). Напэўна гэта было адной з прычын, чаму Язэп быў любімым сынам Якава, які адкрыта выказваў гэтую сваю любоў. Такі стан рэчаў не мог падабацца братам Язэпа і яны яго неўзлюбілі. І бацька і сын сваімі паводзінамі толькі пасільвалі гэту нелюбоў і ператваралі яе ў нянавісьць.

Так аднойчы Язэпу прысьніўся сон, што ён разам з братамі вязаў снапы. І раптам яго сноп падняўся, а снапы братоў сталі адбіваць яму паклон. У другім сьне ўжо сонца, месяц і адзінаццаць зорак аддавалі палон Язэпу.

Язэп стаіць перад братамі, якія ў задуменьні слухаюць яго. У верхняй частцы намалёваныя ў двух кругах сонца, зоркі і месяц вакол Язэпа і снапы, якія пакланіліся снапу Язэпа. Язэп расказаў свае сны бацьку. «І сказалі яму браты ягоныя: няўжо ты будзеш цараваць над намі? Няўжо будзеш валодаць намі? І зь

ненавідзелі яго яшчэ больш за сны яго і за словы ягоныя» (Быцьцё 37:8).




Язэп тлумачыць сны сваім братам. Рафаэль (1483—1520). Фрэска лоджыі Рафаэля ў Ватыкане. Марка пошты Грэнады, выдадзеная ў 1983 годзе

Дзесяцігадовы кучаравы хлопчык Язэп — вельмі ўсхваляваны і імкнецца як мага дакладней перадаць падрабязнасьці сваіх цудоўных сноў, цьмяна прадказваючых, што ён, Язэп, узвысіцца над усімі роднымі.




Язэп распавядае свой сон сям'і (1638). Афорт. Рэмбрант. Нацыянальная мастацкая галерэя, Вашынгтон. Марка пошты Польшчы, выдадзеная ў 2009 годзе

Язэп ведае, што сны яго прарочыя. Пра гэта ж здагадваюцца дванаццаць слухачоў, якія сядзяць па баках ад Язэпа тварам адзін да аднаго — зьлева сівабароды бацька Якаў, справа — малодшы брат Язэпа, Веніямін, які падняў галаву ад кнігі, слухаюць: бацька — у глыбокім роздуме, Веніямін — з чыста дзіцячай цікаўнасьцю. Адна толькі хворая маці Язэпа — Рахіль, якая ляжыць у глыбіні зьлева, ахопленая трывожнымі прадчуваньнямі, прыпадняла галаву, у той час як старэйшыя браты Язэпа насьмешліва перашэптваюцца, шумяць, абменьваюцца непрыстойнымі жартамі і пырхаюць. Але на самой справе яны вельмі ўважлівыя, хоць і недаверлівыя. За іх увагай хаваецца бясконцая, якая зьядае іх душы, зайздрасьць.




Язэп і яго браты. Блёк пошты Мікранэзіі з сэрыі «Ізраіль-Старазапаветныя гісторыі», выдадзены ў 1998 годзе

Апошняй кропкай для братоў стала, калі бацька купіў Язэпу прыгожы рознакаляровы халат. Калі Язэп у сваім убраньні прыйшоў да братоў у поле, яны вырашылі яго забіць. Але старэйшы брат Рувім, які нёс адпавядальнасьць за ўсіх малодшых, адгаварыў братоў ад забойства. У выніку Язэпа кінулі ў глыбокаю

яміну. Калі Рувім адлучыўся да статка, браты ўбачылі караван купцоў і Іуда прапанаваў прадаць Язэпа. Браты пагадзіліся і прадалі Язэпа за 20 срэбраніка.

На блёку тры маркі з надпісамі на ангельскай мове і адпаведнымі малюнкамі: Браты дамаўляюцца прадаць Язэпа; Язэп у сваім рознакаляровым халаце; Ісмаіліты забіраюць Язэпа.

Пасьля продажу браты вымазалі кроўю казьляняці адзеньне Язэпа і паказалі бацьку, які вырашыў, што Язэпа зьеў драпежны зьвер.

Купцы прыбылі ў Егіпет і прадалі Язэпа начальніку аховы фараона. Язэп заставаўся ў апецы Бога, таму ён стаў кіраўніком гаспадаркі ў доме царадворца Паціфара. Але здарылася нечаканае. Язэп быў вельмі прыгожы (адна зь яго назваў такая і ёсьць — Язэп Прыгожы) і ў яго закахалася жонка гаспадара дому Паціфара. Яна пачала спакушаць Язэпа.




Язэп і жонка Паціфара (1555). Якопа Тынтарэта (1518—1594). Музэй Прада. Марка пошты Парагваю, выдадзеная ў 1970 годзе

Бліскучы прыклад адлюстраваньня спакушэньня Язэпа — карціна Якопа Тынтарэта «Язэп і жонка Паціфара». Быццам бура праносіцца па палатне — бура нездаволенага жаданьня. Цела жанчыны і юнака выцягнутыя па дыяганалі карціны, кожнае зь іх да таго ж выгінаецца, закручваецца сьпіральлю. Аголенае цела спакусьніцы нібы зараджае паветра нейкай агнявой энэргіяй, і складкі пунсовай заслоны на фоне пазалочанай столі здаюцца перапалахамі полымя.

Сто гадоў пазьней за Тынтарэта да тэмы пра Язэпа зьвярнуўся Рэмбрант. У 1655 г. ён піша два варыянты карціны «Язэп і жонка Паціфара». На палатне, якое захоўваецца ў Бэрліне, Рэмбрант малюе ня сцэну ўцёкаў Язэпа ад юрлівай Егіпцянкі, а момант абвінавачваньня юнака перад Паціфарам.



Жонка Паціфара, якая абвінавачвае Язэпа (1655). Рэмбрант (1606—1669). Дзяржаўны музэй, Бэрлін. Блёк пошты Уганды, выдадзены ў 2003 годзе

Замест высланага каштоўнымі тканінамі ложа белая не зьмятая пасьцель, замест руху цел — характэрныя асобы і красамоўныя жэсты рук. На палатне, якое захоўваецца ў Бэрліне, юнак падняў руку з раскрытай далоньню, сьведчачы сваю невінаватасьць. Захопленая сваім ілжывым расповедам, жанчына «праўд-

зіва» прыціскае руку да сэрца. Магчыма Паціфар не паверыў жонцы, але не пакараць Язэпа не дазваляў гонар царадворца. Язэп быў пасаджаны ў цямніцу. Але Бог не пакінуў вернага яму маладога чалавека. Неўзабаве лёс яго павінен быў зьмяніцца. У турме Язэп растлумачыў сны сваіх таварышаў па няшчасьці — чашніка і пекара фараона. Першаму прысьнілася вінаградная лаза, у якой было тры галінкі. Лаза зацьвіла і з кветак вырасьлі і дасьпелі ягады. Чашнік сабраў ягады, выціснуў сок і падаў чашу з сокам фараону. «І сказаў яму Язэп: вось тлумачэньне яго: тры галінкі — гэта тры дні; праз тры дні фараон узьнясе галаву тваю і верне цябе на месца тваё» (Быцьцё 40:12,13).




Язэп тлумачыць сны ў турме. Джавані Батыста Ланджэці (1625—1676). Музэй выяўленчых мастацтваў, Будапэшт. Картмаксімум пошты Вугоршчыны, выдадзены ў 1970 годзе.

Падавальшчык хлеба расказаў свой сон, што ў яго на галаве стаялі тры кашы. У верхнім было ўсё, што пяклі фараону, а птушкі наляталі і ўсё дзяўблі. «І адказваў Язэп і сказаў: вось тлумачэньне яго: тры кашы — гэта тры дні. Праз тры дні фараон здыме зь цябе галаву тваю і павесіць цябе на дрэве, і птушкі будуць дзяўбці плоць тваю зь цябе» (Быцьцё 40:18,19).




Язэп тлумачыць сны ў турме. Ота Семлер з гравюры Карольсфельда. Пэрсанальная марка, выдадзеная поштай Ізраілю ў 2014 годзе

Прадказаньне Язэпа збылося.

Толькі праз два гады чашнік успомніў пра Язэпа. А здарылася гэта таму, што на гэты раз сны прысьніліся фараону. У першым сьне стаіць фараон ля ракі і выйшлі з ракі сем сытых кароў і сталі пасьвіцца. Сьледам выйшлі з ракі сем худых кароў і паелі сытых. Фараон прачнуўся і зноў заснуў. І сьніцца яму другі сон. З адной сьцяблінны вырасла сем каласоў поўных. Радам вырасьлі сем каласоў худых, якія зьелі поўныя каласы. Ніхто ў Егіпце ня мог разгадаць гэтыя сны. Тады чашнік успомніў пра Язэпа, які працягваў сядзець у турме. Ён расказаў фараону пра Язэпа і яго здольнасьць разгадваць сны.

Язэп вытлумачыў фараону сны аб худых каровах, паеўшых сытых, і аб каласах, прадказаўшы, што адбудзецца.

«Вось настаюць сем гадоў багацьця на ўсёй зямлі Егіпецкай; пасьля іх настануць сем гадоў голаду: і забудзецца ўсё тое багацьце на зямлі Егіпецкай, і зблажыць голад зямлю...» (Быцьцё 41:29,30).




Язэп тлумачыць сны фараону (1655—1660). Антоніа дэль Касціла Сааведра (1616—1668). Нацыянальны музэй Прада. Марка пошты Грэнады Грэнадзінас, выдадзеная ў 1992 годзе

На другім пляне статкі сытых і худых кароў.




Язэп тлумачыць сны фараону. Рафаэль Санці (1483–1520). Лоджыі Рафаэля. Марка пошты Грэнады, выдадзеная ў 1983 годзе

Над галавой фараона ў двух кругах намаляваныя худыя і сытыя каровы, худыя і поўныя каласы. І парадзіў Язэп фараону: «Хай загадае фараон паставіць над зямлёю наглядчыкаў і зьбіраць у сем гадоў багацьця пятую частку зь зямлі Егіпецкай; хай яны бяруць усякі хлеб гэтых будучых добрых гадоў і зьбяруць у гарадах хлеб пад руку фараона на ежу, і хай ашчаджаюць; і будзе гэтая ежа запасам для зямлі на сем гадоў голаду, якія будуць у зямлі Егіпецкай, каб зямля не загінула ад голаду» (Быцьцё 41:34—36).

«І сказаў фараон Язэпу: як бо Бог адкрыў табе ўсё гэта, дык няма такога разумнага, як ты; ты будзеш над домам маім, і твайго слова трымацца будзе ўвесь народ мой; толькі тронам я буду большы за цябе. І сказаў фараон Язэпу: вось, я пастаўлю цябе над усёю зямлёю Егіпецкаю» (Быцьцё 41:39—41).




Слава Язэпа. Джэймс Жозэф Жак Тіссье (1836—1902). Габрэйскі музэй, Нью-Ёрк. Пэрсанальная марка, выдадзеная поштай Ізраілю ў 2014 годзе

Ушанаваны Язэп сем ураджайных гадоў назапашваў збожжа на сем галодных гадоў. «І насталі сем гадоў голаду, як сказаў Язэп. І быў голад ва ўсіх землях, а ва ўсёй зямлі Егіпецкай быў хлеб» (Быцьцё 41:54). Так Язэп з Божай дапамогай дасягнуў становішча намесьніка фараона найбагацейшай краіны старажытнага сь-

вету, якую ён выратаваў ад голаду сваёй мудрай прадбачлівасьцю.




Іосіф і фараон. (1874). Альма-Тадэма (1836—1912). Прыватная калекцыя. Егіпецкая паштоўка — картмаксімум, выдадзеная ў 1903 годзе

На картмаксімуме маркі, выпушчаныя поштай Егіпту ў 1888—1902 гадах.

Праз сем гадоў на ўсёй зямлі стаў голад. У Егіпет пацягнуліся зусюль караваны, каб купіць збожжа. Двойчы браты Язэпа прыбывалі ў Егіпет, каб купіць хлеб. Яны не пазналі Язэпа, Язэп жа адразу пазнаў сваіх братоў. Ён вырашыў зрабіць ім выпрабаваньні, каб даведацца, ці раскаяліся яны ў сваім злым учынку, прадаўшы яго ў рабства. Апошнім было выпрабаваньне з чараю. «І загадаў Язэп правадыру дома свайго, кажучы: напоўні мяшкі гэтых людзей ежаю, колькі яны могуць несьці, і срэбра кожнага пакладзі ў мяшок ягоны; а чару маю, чару срэбраную, пакладзі ў мяшок малодшаму, разам са срэбрам за куплены хлеб. І зрабіў той паводле слова Язэпа, якое сказаў ён» (Быцьцё 44:1,2).

Калі браты адышлі, Язэп паслаў ім уздагон «правадыра дома свайго», ка ён абшукаў. «Ён абшукаў, пачаў са старэйшага і скончыў малодшым; і знайшлася чара ў мяшку Веньямінавым» (Быцьцё 44:12). Цяпер згодна з умовай Веньямін павінен быў застацца рабом Язэпа ў Егіпце. Італьянскі мастак Якопа Амігоні адлюстраваў той момант, калі браты раскайваюцца ў сваім мінулым учынку і просяць Язэпа не забіраць Веньяміна, бо стары бацька не перажыве ўтраты другога каханага сына.




Чара ў мяшку Бенджаміна. Якопа Амігоні (1682—1752). Нацыянальны музэй Прада. Блёк пошты Сьера Леонэ, выпушчаны ў 2000 годзе

Калі гнаныя голадам браты Язэпа зноў прыбылі ў Егіпет, Язэп адкрыўся ім і прымірыўся зь імі. Затым ён перасяліў увесь свой род, з прывезеным братамі па просьбе Язэпа састарэлым Якавам на чале, у Егіпет, дзе фараон адвёў ім для паселішча акругу Гешам. «Дык вось, ня вы паслалі мяне сюды, а Бог, Які і паставіў мяне бацькам фараону і гаспадаром ва ўсім доме ягоным і валадаром ва ўсёй зямлі Егіпецкай. Ідзеце хутчэй да бацькі майго і скажэце яму: так кажа сын твой Язэп: Бог паставіў мяне гаспадаром над усім Егіптам: прыйдзі да мяне, не марудзь; ты будзеш жыць у зямлі Гесэм і будзеш блізка ад мяне, ты і сыны твае, і сыны сыноў тваіх, і дробнае і буйное быдла твае, і ўсё тваё; і пракармлю цябе там, бо голад будзе яшчэ пяць гадоў, каб

не зглелеў ты і дом твой і ўсё тваё» (Быцьцё 45:8—11).




Язэп і яго браты. Блёк Мікранезіі, выпушчаны ў 1998 годзе.

Пошта Гаяны выпусьціла маляўнічы марачны ліст «Гісторыя Язэпа».




Гісторыя Язэпа. Марачны ліст пошты Гайяны, выдадзены ў 1994 годзе

На лісьце ў выглядзе чатырохмарачных блёкаў адлюстравана шэсьць эпізодаў з жыцьця Язэпа. Пад імі цытата з Бібліі на ангельскай мове: «І сказаў Язэп братам сваім: падыдзеце да мяне... Я — Язэп, брат ваш, якога вы прадалі ў Егіпет; але цяпер не маркоцьцеся... бо паслаў мяне Бог перад вамі, каб захаваць вам жыцьцё...» (Быцьцё 45:4,5).

Язэп, калі прыходзіць яго тэрмін, памірае і наказаўшы сваім нашчадкам, калі Гасподзь зьвядзе іх зь Егіпта, не пакідаць яго цела ў Егіпце. Язэп памёр ва ўзросьце 110 гадоў, пакінуўшы пасьля сябе двух сыноў — Яфрэма і Манасію.

Гісторыя Язэпа паказвае, што жыцьцё біблейскіх герояў не было лёгкім і мірным, наадварот, яно напоўнена цяжкасьцямі, праблемамі, канфліктамі з роднымі, утрымлівае ў сабе як перамогі, так і паразы. Асоба Язэпа далёкая ад дасканаласьці. Але Бог ператварае свае пляны праз недасканалых людзей. Разуменьне гэтага дапамагае нам лепш зразумець саміх сябе і нашу ролю ў жыцьці.

## Патрыярхі Ізраіля і іх жонкі

Найвялікшая фігура Пяцікніжжа, Абрагам, праз давер і безгранічную паслухмянасьць Божай волі, стаў родапачынальнікам Ізраільцян і Арабаў. Таксама ён зьяўляецца Прабацькам усіх, хто верыць у адзінага Бога і насьледуе тую ж веру, якую ён вызнаваў і насьледуюць яго ў нязломнасьці, якую ён праявіў. З гэтых прычын яго называюць Патрыярхам. Па-грэцку pater значыць бацька, arche — пачатак.

Патрыярхамі таксама зьяўляюцца сын Абрагама Ісак і яго ўнук Якаў. Усе трое заўсёды былі вернымі Богу і насуперак шматлікім перашкодам зьдзяйсь-

нялі Божы плян выратаваньня. Сапраўднымі памагатымі ў гэтым былі іх жонкі: Сарра ў Абрагама, Рэбэка ў Ісака, Рахіль і Лея ў Якава.

Патрыярхі і іх жонкі адлюстраваныя на двух сэрыях паштовых марак, выданых у Ізраілі. На кожным паказана тое, што найдакладней апісвае жыцьцё і дасягненьні гэтай асобы.

Патрыярхам прысьвечаныя тры маркі, выдадзеныя ў 1978 годзе.

На першай бачым Абрагама, які прытуліў да сябе Ісака пасьля таго, як Анёл затрымаў руку Абрагама, занесеную над сынам, каб прынесьці яго ў ахвяру, як яму загадаў Бог. Побач заблыталася рагамі ў кустоўе ягня, якое стане ахвярнай жывёлай.




Патрыярхі: Абрагам, Ісак, Якаў. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1978 годзе

Другая марка прысьвечана Ісаку. Ілюстрацыя на марцы паказвае прыбыцьцё будучай жонкі Ісака Рэбэкі, якая набліжаецца да яго на вярблюдзе.

На трэцяй марцы малодшы сын Ісака Якаў, Прабацька Ізраільцянаў. На марцы адлюстраваны сон Якава: лесьвіца ў неба, па якой спускаюцца і падымаюцца Анёлы.

У 1977 г. выданая сэрыя марак, прысьвечаных жонкам патрыярхаў.

Спачатку бачым Сарру, якая прыгатавала пачастунак для трох вандроўнікаў (Тройца Старазапаветная), якія прарочылі ёй нараджэньне сына.

На наступнай марцы жонка Ісака Рэбэка. Яшчэ ў дзявоцтве сустракае яна слугу Абрагама Эліязэра, які шукае нявесту для сына свайго гаспадара.




Сарра. Рэбэка. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1977 годзе

Яшчэ дзьве маркі прысьвечаныя двум жонкам Якава.

На першай — малодшая каханая жонка Рахіль, ажаніцца на якой Якаў дамагаўся некалькі год цяжкай працай.

На другой — старэйшая жонка Лія, маці шасьці сыноў, якіх мы бачым на малюнку.




Лія. Рахіль. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1977 годзе

Для габрэяў Патрыярхі не зьяўляюцца гістарычнымі фігурамі з далёкага міну-

лага, а часткай штодзённага рэлігійнага жыцьця. Малітва Аміда, якая чытаецца тройчы на дзень, пачынаецца словамі: «Дабраслаўлёны Гасподзь, Бог наш, Бог бацькоў нашых, Бог Абрагама, Бог Ісака і Бог Якава».

Патрыярхі пражылі незвычайна доўгія жыцьці: Абрагам 175 год, Ісак 180, а Якаў 147. Рабі Гюнтар Плот заўважыў, што гэтыя лікі ўтвараюць геамэтрычную прагрэсію:

175 = 7 x 52; 180 = 5 x 62; 147 = 3 x 72.

Гісторыя сям'і Патрыярхаў не вольная ад чалавечых недахопаў і нават грахоў, хлусьні, махлярства (Быцьцё 20,1—13; 26,6—11; 27; 29—31), кровазьмяшэньня (Быцьцё 19,30—38), нянавісьці і помсты (Быцьцё 37). Чытаючы, аднак, іх гісторыю, мы можам заўважыць, што чалавечая слабасьць і гнеў не ў стане перакрэсьліць Божага дзеяньня. Бог можа пісаць прама на крывых лініях чалавечага жыцьця. Лепшым прыкладам тут лёс прададзенага ў Егіпет Язэпа, які пасьля многіх гадоў дараваў братам, кажучы: «але цяпер не маркоцьцеся і не шкадуйце пра тое, што вы прадалі мяне сюды, бо паслаў мяне Бог перад вамі, каб захаваць вам жыцьцё...» (Быцьцё 45:5).

вечую спадчыну духу і культуры. Паслужылі для ўтварэньня многіх сымбаляў, якія маюць непераходнае значэньне для ўсіх людзей плянэты Зямля, а не толькі для веруючых. Вельмі характэрным доказам гэтага служыць знакамітая сымбалічная скульптура Яўгена Вучэціча «Перакуем мячы на аралы», створаная ў 1957 годзе і падораная Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.




Перакуем мячы на аралы. Скульптура Вучэціча (1957). Марка пошты СССР, выдадзеная ў 1960 годзе

## Сымболіка пачатку Біблейскай гісторыі

Першыя разьдзелы кнігі Быцьця апавядаюць аб найдаўнейшым пачатку гісторыі сьвету і чалавека. Апавяданьні аб Стварэньні сьвету, аб Адаме і Еве, аб Райскім садзе і грэхападзеньні, аб Каіне і Авэлю, аб патопе, Ною і яго сынах, аб Вавілонскай вежы... ёсьць настолькі ўзрушаючымі, што ўвайшлі ў агульначала-

Скульптура ўстаноўлена перад будынкам ААН у Нью-Ёрку як заклік да міру і як сьведчаньне міралюбівай палітыкі СССР. Але, ці ведаў хто ў самай атэістычнай краіне, што выраз «перакуем мячы на аралы» узяты з Кнігі прарока Ісаі: «І будзе Ён судзіць народы, і выкрые многія плямёны; і перакуюць мячы свае на аралы, і дзіды свае — на сярпы; не падыме народ на народ меча, і ня будуць болей вучыцца ваяваць» (Ісая 2:4). Але гучыць ён тут не як

заклік да міру, а як прароцтва пра будучыню. Паштовую марку з скульптурай Яўгена Вучэціча «Перакуем мячы на аралы» выдавалі ў СССР некалькі разоў. Першы раз у 1960 годзе.

У 1961 годзе пошта Ізраілю выпусьціла марку з Знакамі Задыяку. На прывесцы маркі разьмешчаны на габрэйскай і францускай мовах надпіс з Вавілонскага Талмуду: «...дванаццаць сузор'яў я стварыў на нябесным зборы...» (Беракот 32б:19). Гэтым надпісам падкрэсьліваецца, што ўсё створана Богам. «Калі я гляджу на нябёсы Твае, — твор Тваіх рук, на месяц і зоркі, якія Ты паставіў...» (Псалтыр 8:4).




Знакі Задыяку. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1961 годзе

У Яго усе зоркі палічаны і названыя: «Вылічвае колькасьць зорак; усіх іх называе імёнамі іхнімі» (Псалтыр 147:4).

Сымбалем стварэньня чалавека стала фрэска Мікеланджэла з Сыкстынскай Капэлы. У 1962 годзе пошта Бэльгіі выпусьціла марку з нагоды ўганараваньня «Дэкларацыі правоў чалавека».




Дэкларацыі правоў чалавека. Марка пошты Бэльгіі, выдадзеная ў 1962 годзе

Справа ад постаці Адама разьмешчаны малюнак зямнога шара і разарваных кайданоў — сымбалю вызваленьня ад рабства і прыніжэньня.




Дэкларацыі правоў чалавека. Марка пошты Бэльгіі, выдадзеная ў 1962 годзе

На марцы Ватыкану відарыс райскага Дрэва жыцьця злучанага з выяваю ўкрыжаванага Ісуса Хрыста. Апостал Павал, а за ім хрысьціяне лічылі Ісуса як «дру-

гога Адама». Як Адам ля Дрэва жыцьця страціў блізасьць з Богам, так Хрыстос на дзераве крыжа вярнуў яе назад.

Мноства твораў мастацтва, якія паказваюць канец біблейскага патопу, малююць вясёлку.

Вельмі прыгожая і красамоўная марка Бразыліі, выдадзеная ў 1987 годзе на Нацыянальны Дзень Удзячнасьці. Голуб, выпушчаны з далоняў, на фоне вясёлкі. Значэньне гэтай сымболікі вельмі глыбокае: усякая добрая справа гэта супраца чалавека (далоні) і Бога (вясёлка).




Дзень Удзячнасьці. Марка пошты Бразыліі, выдадзеная ў 1962 годзе

Вясёлка — гэта знак міру і гармоніі, але гэта таксама напамін пра тое, што Гасподзь Бог мае ў сваёй руцэ зброю, якая стане прыладай пакараньня для тых, хто пасьля часоў Ноя парушыць натуральны парадак у сьвеце пасьля Патопу. І з тых жа часоў Ноя белы голуб і вясёлка сталі сымбалям міру і прымірэньня. (Голуб прыносіць Ною аліўкавую галінку — знак таго, што воды патопу апусьціліся.)

Адным з самых вядомых сымбаляў стала «Галубка Пікаса».




Партрэт Пікаса і Галубка Пікаса. Блёк пошты СССР, выдадзеным ў 1981 годзе з нагоды 100-годзьдзя з дня нараджэньня Пікаса

Пошта Бразыліі выпусьціла марку «40-годзьдзе існаваньня ААН».




Саракагодзьдзе ААН. Марка пошты Бразыліі, выдадзеная ў 1985 годзе

Голуб узносіцца над сымбалічнымі сьцягамі розных краін і, як пасьля патопу, абвяшчае сьвету надыход новай эры.

«Галубка Пікаса» стала «частым госьцем» на марках розных краін сьвету, як сымбаль міру.

Пад малюнкам Пікаса «Голуб будучыні» стос паламанай зброі, якая ніколі ўжо ня будзе ўжытай для вайны, над малюнкам — сонца, як знак міру і дастатку.




Голуб будучыні. Марка пошты Бераг Слановай Косьці, выдадзеная ў 1982 годзе

У Новым Запавеце голуб становіцца яшчэ сымбалям Сьвятога Духу.




Сьвяты Дух. Марка пошты Ватыкану, выдадзеная ў 1983 годзе

Біблейскае «будаўніцтва Вавілонскай вежы» сымбалізуе пыху, ганарыстасьць, манію велічы чалавека, які хоча з дапамогай сваіх зямных сродкаў без сувязі з Богам пакараць неба. Гэтыя спробы паўтараюцца ўвесь час. Спробай пераадолець зьмешваньне моў зьяўляецца сусьветная (штучная) мова Эспэранта.

Вавілонская вежа, голуб міру і сымбаль Эспэранта адлюстраваныя на марцы рэспублікі Куба.




Кангрэс Эсперанта. Марка пошты Кубы, выдадзеная ў 1990 годзе

Аўтар «Вежы III Інтэрнацыяналу» Татлін спрабаваў узнавіць гэты штурм нябёсаў у XX стагодзьдзі. Пыху, ганарыстасьць, манію велічы чалавека добра ілюструюць словы Маякоўскага: «Гэй, вы, Неба, зьніміце капялюш, я іду!.». І «Молат разгневаны неба праб'е».

Гасподзь пакінуў нам дзьве кнігі: Кнігу Пісаньня і Кнігу тварэньня. Кніга тварэньня-гэта ўсё, што нас акружае, і яе трэба ўмець чытаць. Бог хоча, каб Яго Слова было зразумелым усім: дзіцяці і старому, непісьменнаму, так і навукоўцу. Выяўленчае мастацтва выкарыстоўвае мноства знакаў для перадачы складаных і глыбокіх сэнсаў Старога Запавету. Біблейская сымболіка мастацкімі сродкамі толькі дапамагае раскрываць вялікія ісьціны для кожнага чалавека, падносячы іх на зразумелай мове і ў мастацкім увасабленьні, якое ўзьдзейнічае на ўсіх, хто іх бачыць.

# Майсееў Завет — галоўны Завет Бога з Ізраілям

## Цудоўнае выратаваньне немаўляці Майсея

*І ня было больш у Ізраіля прарока такога, як Майсей, якога Гасподзь знаў тварам да твару... (Другі закон 34:10)*

Кніга «Быцьцё», якая завяршаецца апавяданьнем пра сьмерць і пахаваньне Язэпа, вельмі адрозьніваецца ад наступных чатырох частак Пяцікніжжа. У кнізе «Зыход» замест паданьняў пра лёс многіх пакаленьняў перад намі жыцьцяпіс толькі аднаго чалавека, Майсея.

Бог, Які ў кнізе «Быцьцё» толькі часам пасылаў людзям знакі, цяпер увесь час уяўляе сваю прысутнасьць у сьвеце. Чатыры кнігі Маісеевыя ахопліваюць пэрыяд, па біблейскіх маштабах вельмі кароткі, усяго ў 120 гадоў — тэрмін жыцьця Майсея. Аднак таго, што давялося перажыць і зьдзейсьніць першаму сярод біблейскіх прарокаў, хапіла б і на тры жыцьці. Уласна, ён і пражыў тры жыцьці, кожны даўжынёй у 40 гадоў. Першае — бліскучае жыцьцё егіпецкага вяльможы, прыёмнага сына дачкі фараона; другое — мірнае жыцьцё пастуха і сем'яніна; трэцяе — поўнае розных цудаў жыцьцё правадыра і заканадаўцы, які вызваліў свой народ ад егіпецкага рабства і быў яго правадыром у шматгадовых туляньнях па пустыні.

Прайшло многа часу. Ня стала ні Якава, ні яго сыноў. У Егіпце зьмяняліся фараоны. Ня ўсе памяталі і дацэньвалі заслугі Язэпа. Настаў час, калі наступны фараон убачыў, што ізраільцяне становяцца шматлікім і моцным народам. Ён палічыў гэта небясьпечным. Народ ізраільскі сталі прыгнятаць, зьнясільваць на працах, мардаваць. Але гэта не прывяло да жаданых вынікаў. І фараон аддае загад, каб кожнае немаўля, якое нарадзіцца ў ізраільцянкі, кідалі ў раку. Адна маці вырашыла даручыць Божай волі лёс свайго немаўляці, бо моцна верыла ў адзінага Бога. З малітвай яна паклала дзіця ў асмолены кошык і апусьціля яго з малітвай у трысьнёг каля берага Ніла. Па беразе гуляла дачка фараона са сваімі служанкамі. Яны пачулі плач дзіцяці і знайшлі немаўля.




Знаходжаньне Майсея (1560). Тынтарэта (1518—1594). Музэй Мэтрапалітэн. Нью-Йорк. Блёк пошты Уганды, выдадзены ў 2000 годзе

Прынцэсе дзіця так спадабалася, што яна вырашыла ўзяць яго на выхаваньне. Гэта бачыла сястра хлопчыка. «І сказала

сястра яго дачцэ фараонавай: ці не схадзіць мне і ці не паклікаць да цябе кармілельку з Габрэек, каб яна мамчыла табе немаўля? Дачка фараонава сказала ёй: схадзі. Дзяўчына пайшла і паклікала маці немаўляці. Дачка фараонава сказала ёй: вазьмі гэтае немаўля і мамчы яго мне; я заплачу табе. Жанчына ўзяла немаўля і мамчыла яго. І вырасла немаўля, і яна прывяла яго да дачкі фараонавай, і ён быў у яе за сына, і дала яму імя: Майсей, бо, казала яна, я з вады дастала яго» (Выхад 2:7—10).

У 1990 годзе ў Тэль-Авіве праходзіла выстава «Дзеці і моладзь малююць Біблію». З гэтай выставы поштай Ізраілю былі адабраны чатыры малюнкі для сэрыі марак. Адна з марак зьмяшчае малюнак «Майсей у чароце», які прысьвечаны ўратаваньню Майсея з вод Нілу.




Майсей ў чароце. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1994 годзе

Гэты эпізод выразна пераклікаецца з Эвангельскім выратаваньнем Ісуса ад сьмяротнай небясьпекі. Цар Ірад, падобна Егіпецкаму фараону, загадаў забіваць усіх габрэйскіх першынцаў і бацькі Ісуса выратавалі свайго нованароджанага сына, схаваўшыся ў Егіпце. Нядзіўна, што мастакі, асабліва ў XVI — XVII стагодзьдзях, ахвотна зьвярталіся да тэмы выратаваньня Майсея.

## Майсей — абаронца пакрыўджаных і слабых

Будучы вызваліцель Габрэяў рос як Егіпецкі прынц. Гэта мела прынцыповае значэньне. Бо калі б ён рос у рабстве, то наўрад быў бы здольны ўзьняць свой народ на паўстаньне. У бразільскай біблейскай тэленавеле «Дзесяць Запаведзяў» Майсей выхоўваецца побач з фараонам Рамсэсам і супернічае зь ім за любоў Нефертары.

«Праз доўгі час, калі Майсей вырас, сталася, што ён выйшаў да братоў сваіх і ўбачыў цяжкую працу іхнюю; і ўбачыў, што Егіпцянін б'е аднаго Габрэя з братоў ягоных. Паглядзеўшы туды і сюды і бачачы, што няма нікога, ён забіў Егіпцяніна і схаваў яго ў пяску» (Выхад 2:11,12).

На другі дзень ён убачыў, як Габрэй крыўдзіць Габрэя, і спрабаваў іх прымірыць, але крыўдзіцель сказаў: «хто паставіў цябе начальнікам і судзьдзёю над намі? ці ня думаеш ты забіць і мяне, як забіў Егіпцяніна?» (Выхад 2:14).

«І пачуў фараон пра гэтую справу і хацеў забіць Майсея; але Майсей уцёк ад фараона і жыў у зямлі Мадыямскай і сеў каля калодзежа» (Выхад 2:15).

Здарылася так, што Майсей стаў ініцыятарам яшчэ адной бойкі. «У сьвятара Мадыямскага сем дочак. Яны прыйшлі, начэрпалі вады і напоўнілі карыты, каб напаіць авечак бацькі свайго. І прыйшлі пастухі і адагналі іх. Тады ўстаў Майсей і

абараніў іх, і напаіў авечак іхніх» (Выхад 2:16,17).




Майсей абараняе дачок Ётора. Нікаля Пусэн (1594—1665). Люўр. Марка пошты Францыі, выдадзеная ў 1994 годзе

Гэтыя тры выпадкі зьвязаныя паміж сабою. У кожным Майсей дэманструе глыбокую, амаль апантаную, рашучасьць змагацца з несправядлівасьцю, не маючы ніякіх уласных інтарэсаў.




Майсей і дачкі Ётора (1524). Фрагмэнт. Россо Фіярэнціна (1494—1540). Галерэя Уфіцы, Флярэнцыя. Марка пошты Парагваю, выдадзеная у 1973 годзе

На марцы Парагваю, выдадзенай у 1973 годзе, паказаны фрагмэнт карціны, намалёванай мастаком Росса Фёранціна 1495—1540). На марцы адна з сёстраў — Сэпфора, якіх Майсей бараніў ля крыніцы і якая стала яго жонкай. 40 гадоў пасьля гэтага Майсей пасьвіў статак свайго цесьця і даглядаў сям'ю.

## Божае пакліканьне з палаючага куста

Аднойчы, калі Майсей пасьвіў статкі ў пустынным месцы, яму зьявіўся Анёл Божы ў выглядзе палаючага, але незгараючага куста. Сымбаль гэтага цуда мае вялікае значэньне. У сьвеце, дзе чалавек пакланяецца сілам прыроды, Бог паказвае, што Ён правіць прыродай.




Майсей і Палаючы куст. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1981, 1999 г.

На першай марцы за кустом знаходзіцца сымбалічны малюнак гары Сінай. На прывесцы на габрэйскай і англійскай мовах зьмешчаны надпіс: «...цярновы куст гарыць агнём, але куст не згарае» (Выхад 3:2).

У 1999 годзе пошта Ізраілю выпусьціла сэрыю марак «Наведваньне Патрыярхаў, Суккот», прысьвечаных праведным продкам: Абрагаму, Ісааку, Якаву, Майсею, Аарону і Давіду. На марцы з відарысам Майсея намалёваны цярновы куст, які гарыць агнём, але не згарае.

Зацікаўлены Майсей наблізіўся да куста і пачуў: «Майсею! Майсею! Ён сказаў: вось я! І сказаў Бог: не падыходзь сюды: здымі абутак твой з ног тваіх, бо месца,

на якім ты стаіш, ёсьць зямля сьвятая» (Выхад 3:4,5).

У 1971 годзе пошта Нікарагуа выпусьціла сэрыю марак з відарысамі карцін знакамітых мастакоў, кожная з каторых прысьвечана адной з Дзесяці Запаведзяў. Адной з асаблівасьцей гэтай сэрыі зьяўляецца тое, што на адваротным баку іх, пад клеем, утрымліваецца канкрэтная Запаведзь і аповед пра вобраз друку, мастака, і музэй, дзе знаходзіцца карціна. Першая марка ў сэрыі паказвае Майсея, які наблізіўся да куста.




Выпрабаваньні і пакліканьне Майсея. Фрэска (1481—82), фрагмэнт. Сандра Батычэлі (1444—1510). Сікстынская Капэла, Ватыкан. Марка пошты Нікарагуа, выдадзеная ў 1971 годзе

На полі маркі надрукаваныя словы «Любіць Бога ва ўсіх рэчах».

Голас, які прамаўляў да Майсея, прадставіўся яму: «Я Бог бацькі твайго, Бог Абрагама, Бог Ісаака і Бог Якава» (Выхад 3:6). Далей Майсей пачуў: «Я ўбачыў пакуты народа Майго ў Егіпце і пачуў енк яго ад прыстаўнікаў ягоных; Я ведаю смуткі яго і іду выратаваць яго ад рукі Егіпцянаў і вывесьці яго зь зямлі гэтай у зямлю добрую і прасторную, дзе цячэ малако і мёд» (Выхад 3:7,8).




Пчала, соты і кветкі. Марка Ізраілю, выдадзеная ў 1983 годзе

На прывесцы маркі выпісаны словы: «...у зямлю добрую і прасторную, дзе цячэ малако і мёд...» (Выхад 3:8).

Захапіўшы такім цудоўным чынам увагу Майсея, Бог казаў далей: «Дык вось ідзі: Я пашлю цябе да фараона; і выведзі зь Егіпта народ Мой, сыноў Ізраілевых» (Выхад 3:10). Патрабаваньне было неверагодным. Як просты пастух, які ўцёк ад пакараньня фараона, мог нешта ў яго патрабаваць? І Майсей пярэчыць Богу: «Майсей сказаў Богу: хто я, каб мне ісьці да фараона і вывесьці зь Егіпта сыноў Ізраілевых?» (Выхад 3:11). Але Бог настойвае. І тады Майсей кажа: «І сказаў Майсей Богу: вось, я прыйду да сыноў Ізраілевых і скажу ім: Бог бацькоў вашых паслаў мяне да вас. А яны скажуць мне: як Яго імя? Што я скажу ім?» (Выхад 3:13). Бог кажа: «Я — Сутны. І сказаў: так скажы сынам Ізраілевым: Сутны паслаў мяне да вас» (Выхад 3:14). Цяжка было гэты адказ зразумець. Але Майсей атрымаў адказ для сябе і ніколі не тлумачыў гэта іншым... Бо Бог ёсьць тое, што Ён ёсьць для кожнага асобнага чалавека.

У вясну 1481 года Батычэлі, разам з іншымі флярэнтыйскімі мастакамі, Даменіка Гірландаё і Казіма Расьселі, П'ет-

ра Перуджына, прыступілі да працы ў Сікстынскай капэле. Тэмай росьпісу стала паралель паміж гісторыямі Майсея і Ісуса Хрыста, як сымбаль пераемнасьці паміж Старым і Новым Запаветам, а таксама пераемнасьці паміж Законам, дадзеным Майсею і Пасланьнем Ісуса.




Выпрабаваньні і пакліканьне Майсея. Фрэска (1481—82). Сандра Батычэлі (1444—1510). Сікстынская Капэла, Ватыкан. Марка пошты Ватыкану, выдадзеная ў 2000 годзе

На фрэсцы намаляваныя некалькі эпізодаў з жыцьця Майсея, апісаных у Кнізе Выхад. Справа Майсей забівае егіпецкага наглядчыка, які зьдзекаваўся над габрэямі, і сыходзіць у пустыню (як паралель з перамогай Ісуса над д'яблам на фрэсцы на сьцяне насупраць). У цэнтры Майсей дапамагае дочкам Ётора (у тым ліку сваёй будучай жонцы Сэпфоры), прагнаўшы пастухоў, якія не пускалі дзяўчат да калодзежа. У левым верхнім куце захаваная сцэна, дзе Майсей здымае абутак і чуе загад Бога вярнуцца ў Егіпет і вызваліць свой народ. У левым ніжнім куце фрэскі Майсей вядзе яўрэяў у Зямлю Абяцаную. Ва ўсіх эпізодах Майсей лёгка пазнаваемы па сваёй жоўта-зялёнай вопратцы, на астатніх фрэсках капэлы ён апрануты так сама.

Майсей зразумеў пакліканьне і ўпэўніўся ў падтрымцы Бога. Тады ён разьвітаўся з цесьцем і рушыў у Егіпет.




Падарожжа Майсея ў Егіпет і абразаньне яго сына Эліезэра (1482). Фрэска. П'етра Перуджына (1446 -1524). Сікстынская Капэла, Ватыкан. Марка пошты Ватыкану, выдадзеная ў 2002 годзе

На фрэсцы намалявана некалькі эпізодаў: на далёкім пляне — разьвітаньне Майсея (апрануты ў жоўтыя і зялёныя адзеньні, як і ў іншых эпізодах) і Сэпфоры з Ёфорам; на другім пляне — вяртаньне Майсея з сям'ёй у Егіпет; зьлева — сустрэча з Анёлам-пасланцам Бога; справа — сцэна абразаньня.

## «Адпусьці народ Мой...»

*адпусьці народ Мой, каб ён учыніў Мне служэньне...*
*(Выхад 7:16)*

Верагодна, самым вядомым палітычным патрабаваньнем у гісторыі стала тое, зь якім Маісей павінен быў зьвярнуцца да фараона. У адной з самых знакамітых песьняў гучыць: «... And tell old Pharaoh, To let my people go!» (Ідзі Майсей, ідзі ў Егіпет і скажы старому фараону, адпусьці мой народ!»).

Пакліканьне Майсея і абяцаньне Божай падтрымкі — адзін з найпрыгажэйшых і найважнейшых эпізодаў Старога Запавету. Таямнічасьць сцэны маляўніча перадаў у сваім творы Марк Шагал. Вясёлка над палаючым кустом — сымбаль сувязі паміж Богам і зямлёй.




Майсей перад палаючым кустом. Марк Шагал (1887—1985). Музэй Шагала ў Ніцы. Францыя. Марка пошты Грэнады, выдадзеная ў 1986 годзе

Майсей да апошняга спрачаецца з Богам і знаходзіць яшчэ адзін аргумэнт: «І сказаў Майсей Госпаду: о, Госпадзе! чалавек я не гаваркі, і такі самы быў і ўчора і заўчора, і калі Ты пачаў гаварыць з рабом Тваім: я цяжка гавару і гаркавы» (Выхад 4:10). Так-так, Майсей — адзін з галоўных дзеючых асоб Старога Запавету быў коснаязыкі, меў дэфэкт вымаўленьня. На што атрымаў гнеўны адказ. «І загарэўся гнеў Госпадні на Майсея, і Ён сказаў: хіба няма ў цябе Аарона брата, Лявіцяніна? Я ведаю, што ён можа гаварыць, і вось, ён выйдзе насустрач табе і, убачыўшы цябе, зарадуецца ў сэрцы сваім; ты будзеш яму гаварыць і ўкладваць словы ў вусны ягоныя, а Я буду пры вуснах тваіх і пры вуснах ягоных і буду вучыць вас, што вам рабіць; і будзе гаварыць ён замест цябе да народу; дык вось, ён будзе тваімі вуснамі, і ты будзеш яму замест Бога...» (Выхад 4:14—16).

Майсей і Аарон прыйшлі да фараона і сказалі яму: «...так кажа Гасподзь: адпусьці народ Мой, каб ён учыніў Мне сьвята ў пустыні» (Выхад 5:1).




...let my people go... (Выхад 5:1). Майсей і Аарон перад фараонам. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1981 годзе

Але фараон запярэчыў: «І сказаў ім цар Егіпецкі: навошта вы, Майсей і Аарон, ухіляеце народ ад справаў ягоных? ідзеце да сваёй працы» (Выхад 5:4). І загадаў фараон наглядчыкам як найбольш загружаць габрэяў працай. Стан габрэйскага народу яшчэ больш пагоршыўся. Тады Майсей зьвінаваціў Бога. «І зьвярнуўся Майсей да Госпада і сказаў: Госпадзе! навошта Ты паддаеш народ гэты такому бедзтву, навошта паслаў мяне? бо з таго часу, як я прыйшоў да фараона і пачаў гаварыць ад імя Твайго, ён пачаў горш абыходзіцца з народам гэтым; вызвалі ж, — Ты ня вызваліў народу Твайго» (Выхад 5:22,23).

У адказ Бог пацьвердзіў сваё абяцаньне. «Дык вось, скажы сынам Ізраілевым: Я Гасподзь, і выведу вас з-пад ярма Егіпцянаў, і выбаўлю вас зь няволі іхняй, і выратую вас рукою працягнутаю і судамі вялікімі...» (Выхад 6:6).

З 1960 гадоў словы Майсея сталі лёзунгам міжнароднага руху пратэсту супраць становішча габрэяў у СССР.



«Адпусці мой народ». Канвэрт пошты Ізраілю, пагашаны штэмпелем з датай 7.3.1972.

На марцы Ізраілю на чатырох мовах (іўрыце, арабскай, рускай і ангельскай) напісаны словы «адпусьці мой народ», якая разам з надрукаванымі з такім жа надпісам налепкамі стала часткай кампаніі «адпусьці мой народ» (Shalach Et Ami) за свабоду габрэйства, каб мець магчымасьць пакінуць Савецкі Саюз і іміграваць у Ізраіль. Налепкі служылі для збору сродкаў у дапамогу эмігрантам.

## Дзесяць бедзтваў

Фараон не адпусьціў габрэяў. Тады кажа Гасподзь: «І над усімі божышчамі Егіпецкімі ўчыню суд. Я Гасподзь» (Выхад 12:12). На Егіпет былі абрынутыя 10 бедзтваў, прычым, кожны раз пасьля новай адмовы фараона адпусьціць габрэяў, было чарговае бедзтва: Воды Ніла пераўтвараюцца ў кроў. Нашэсьце жаб. Нашэсьце насякомых. Напад дзікіх зьвяроў. Мор жывёлы. Язвы і нарывы. Гром, маланкі і вогненны град. Нашэсьце саранчы. Незвычайная цемра (цемра Егіпецкая). Сьмерць першынцаў.



Пакараньне градам. Ілюстрацыя. Малітоўнік Залатая Агада (1300). Гішпанія. Калекцыя Рубінштэйна з бібліятэкі Унівэрсітэта Дзюка. Пэрсанальная марка, выдадзеная поштай Ізраілю ў 2009 годзе

Бог наслаў град, агонь і гром на Егіпет, і град пабіў увесь ураджай на палях і разьбіў кожнае дрэва. На малюнку град — чырвоныя і белыя кропкі — падаюць на дрэва, калі пастух і яго козы туляцца пад ім. Градавыя буры былі незвычайнымі ў засушлівых рэгіёнах, такіх як Егіпет, і таму надзвычай палохалі. Майсей справа прасіць Бога, каб спыніў шторм.

Бог паказвае і свайму народу, і Егіпцянам, што паганскія багі, якім Егіпцяне прыпісвалі ўладу над зьявамі прыроды — несапраўдныя.

Але пры кожным пакараньні ў Егіпцян ёсьць магчымасьць пакаяцца і пазьбегнуць бедзтва. Напрыклад, перад па-

караньнем градам Бог словамі Майсея папярэджвае аб гэтым загадзя: «Вось, Я пашлю заўтра, у гэты самы час, град вельмі моцны, падобнага на які ня было ў Егіпце з дня заснаваньня яго да сёньня: дык вось, пашлі сабраць статкі твае і ўсё, што ёсьць у цябе ў полі: на ўсіх людзей і быдла, якія застануцца ў полі і не зьбяруцца ў дамы, упадзе град і яны памруць» (Выхад 9:18,19).

Прыйшоў час апошняга, самага страшнага пакараньня. «А Я гэтай самай ночы прайду па зямлі Егіпецкай, і паб'ю кожнага першынца ў зямлі Егіпецкай, ад чалавека да быдла, і над усімі божышчамі Егіпецкімі ўчыню суд. Я Гасподзь» (Выхад 12:12). Але яго таксама можна было пазьбегнуць, дастаткова памазаць вушакі дзьвярэй ахвярнай крывёю ў знак веры і паслушэнства Богу. Божы наказ ізраільцяне выканалі, а егіпцяне спакойна паляглі спаць. У гэтай гісторыі мы бачым, што Бог прыходзіць на дапамогу прыгнечаным, і, сутыкаючыся з упартым, жорсткім злом і супрацівам, зьдзяйсьняе праведны суд, хоць і пры гэтым адкрывае магчымасьць выратаваньня.

«Апоўначы Гасподзь пабіў усіх першынцаў у зямлі Егіпецкай, ад першынца фараона, які сядзеў на троне сваім, да першынца вязьня, які быў у цямніцы, і ўсё першароднае з жывёлы.

І ўстаў фараон уначы сам і ўсе рабы ягоныя і ўвесь Егіпет; і пачаўся вялікі енк у зямлі Егіпецкай, бо ня было дома, дзе ня было б мёртвага» (Выхад 12:29,30).

На картмаксімуме» Дзесяць караў егіпецкіх: сьмерць першынца фараона» маркі, выпушчаныя поштай Егіпту ў 1888—1902 гадах, з відарысам Егіпецкіх пірамід, як сымбалю непасільнай працы ізраільскіх працаўнікоў.




Дзесяць караў егіпецкіх: сьмерць першынца фараона. Альма-Тадэма (1836—1912). Егіпецкая паштоўка 1903 года

Пасьля гэтага яшчэ ноччу фараон, паклікаўшы Майсея і Аарона, сказаў: «... устаньце, выйдзіце з асяродзьдзя народу майго, як вы, так і сыны Ізраілевыя, і ідзеце, учынеце служэньне Госпаду, як казалі вы...» (Выхад 12:31).

## Пасхальная ноч і Выхад зь Егіпту

Егіпцяне прасілі, каб народ ізраільскі як мага хутчэй пакінуў Егіпет, бо, як казалі яны: «Мы ўсе памром».

З Рамсеса ў Сакхоф рушылі каля шасьцісот тысяч пешых ізраільцян і мноства іншаплямянцаў разам зь імі. З цеста, якое не пасьпела закіснуць, напяклі яны праснакоў і гэта была першая Пасха, што азначае «мімаходзь» (Гасподзь прайшоў міма дамоў, азначаных крывёю ягняці) і «пераход» (пераход праз Чэрмнае (Чырвонае) мора). З той пары вясной кожнага году габрэі сьвяткуюць Сьвята Пасху, як памяць пра выхад зь Егіпту і вызваленьня з няволі. Як выкананьне наказу з Кнігі Выхад: «Калі

ўвойдзеце ў зямлю, якую Гасподзь дась-цьвам, як Ён казаў, захоўвайце гэта слу-жэньне. І калі скажуць вам дзеці вашыя: што гэта за служэньне? скажэце: гэта пасхальная ахвяра Госпаду, Які прайшоў міма дамоў сыноў Ізраілевых у Егіпце, калі караў Егіпцянаў, і дамы нашыя вы-бавіў. І схіліўся народ і пакланіўся» (Вы-хад 12:25—27).

Пасха і яе сьвяткаваньне паказанае на трох марках пошты Ізраілю.




Выхад. Марка пошты Ізраілю, выдадзе-ная ў 1972 годзе

На прывесцы словы: «...бо ў месяцы Авіве выйшаў ты зь Егіпта» (Выхад 34:18).

Падчас Седэра (Пасхі), называюць па парадку кожную з Дзесяці пошасьцей і кроплю віна са свайго кубка капаюць на талерку. Робячы гэта, кажуць «мы вы-знаем, што наша ўласная радасьць па-мяншаецца і зьяўляецца няпоўнай. Бо наша выкупленьне павінна было адбыц-ца праз пакараньне іншых людзей. Няг-ледзячы на тое, што гэта пакараньне за злыя ўчынкі, як сказана: «Ня радуйся, калі ўпадзе вораг твой; і хай не весяліц-ца сэрца тваё, калі ён спатыкнецца» (Вы-слоўі 24:17). У Новым Запавеце таксама гаворыцца: «...калі твой вораг галодны, накармі яго...» (Да Рымлянаў 12:20).




Выпечка прэснага хлеба. Сьвята Пасхі. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1972 годзе

На прывесках словы: «Сем дзён ежце прэсны хлеб...» (Выхад 12:15). «...няхай учыняць яе паводле ўсіх пастановаў пра Пасху...» (Лікі 9:12).

## Цудоўны пераход праз Чырвонае мора

Ізраільцяне выйшлі зь Егіпту і рушы-лі да зямлі Абетаванай.

Падчас вандраваньня Бог быў пры-сутны пры сваім народзе ў выглядзе воб-лачнага слупа ў дзень і вогненнага слупа ў начы.

Калі фараон Рамсэс II, як лічаць нека-торыя гісторыкі, усьвядоміў, што страціў такую вялікую колькасьць танных работ-нікаў, то вырашыў вярнуць назад із-раільцян. Яго войска на калясьніцах ру-шыла ў пагоню.

Уцекачы, убачыўшы перад сабой мора і ззаду егіпецкае войска, упалі ў роспач «і сказалі Майсею: хіба няма магілаў у Егіпце, што ты прывёў нас паміраць у пустыні? што гэта ты зрабіў з намі, вывеўшы нас зь Егіпта?» (Выхад 14:11). Майсей адказаў: «… ня бойцеся, стойце — і ўбачыце выратаваньне ад Госпада, якое Ён дасьць вам і сёньня, бо Егіпцянаў, якіх вы бачыце сёньня, больш ня ўбачыце ва век…» (Выхад 14:13).

Заклік «Ня бойцеся!» падаваў сваім вучням у час небясьпекі Ісус Хрыстос… У наш час з гэтым заклікам зьвяртаўся да вернікаў папа Ян Павал II. Заклік «Ня бойцеся!» не перастае быць актуальным для ўсіх людзей добрай волі.



Рамсэс II ў калясьніцы ў бітве пры Кадэшы. Фрэска ў храме Абу-Сымбэл (прыкладна 1298—1213 да Н.Х). Канвэрт першага дня, выдадзены поштай Францыі ў 1976 годзе

«І прасьцёр Майсей руку сваю на мора, і гнаў Гасподзь мора моцным усходнім ветрам усю ноч і зрабіў мора сушаю; і расступіліся воды» (Выхад 14:21).

«І пайшлі сыны Ізраілевыя сярод мора па сухім: а воды былі ім сьцяною з правага і зь левага боку» (Выхад 14:22).

«Алілуя. Калі выйшаў Ізраіль зь Егіпта, дом Якава — з народу іншапляменнага…» (Псалтыр 114:1).

На марцы малюнак Узі Коэна на абложцы кнігі «Выхад з Егіпту».




«…і расступіліся воды». Узі Коэн. Марка пошты Гамбіі, выдадзеная ў 2005 годзе

Дзіцячы малюнак на блёку пошты Ізраілю.




Выхад з Чырвонага мора. Авіталь Цэзар. Блёк пошты Ізраілю, выдадзены ў 1994 годзе

На малюнку на першым пляне намаляваныя дзеці з радаснымі тварамі з на-

годы ўратаваньня. Ізраільцяне ідуць праз мора, а егіпцяне з зьдзіўленьнем назіраюць гэты цуд. На полі блёку на ангельскай і габрэйскай мовах напісаныя словы: «А сыны Ізраілевыя прайшлі па сушы сярод мора» (Выхад 14:29).

Гэтая ж цытата разьмешчана на прывесцы маркі пошты Ізраілю, выдадзенай у 1981 годзе ў сэрыі, прасьвечанай выхаду зь Егіпту. Малюнак маркі ў алегарычнай форме паказвае пераход ізраільцян праз мора на фоне гары Сінай.




Пераход людзей па сушы праз Чырвонае мора. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1981 годзе

Апамятаўшыся, егіпцяне кінуліся ў сьлед за ўцекачамі. Але Бог «зьнярухоміў колы ў калясьніцах іхніх, так што яны валаклі іх зь цяжкасьцю. І сказалі Егіпцяне: пабяжым ад Ізраільцянаў, бо Гасподзь змагаецца за іх супроць Егіпцянаў. І сказаў Гасподзь Майсею: працягні руку тваю на мора, і хай павернуцца воды на Егіпцянаў, на калясьніцы іхнія і на верхаўцоў іхніх» (Выхад 14:25,26).

На 24 марках адлюстравана выхад габрэяў па сушы паміж сьценамі вады, якія спадаюць на егіпцян.




Пераход праз мора. Марачны ліст пошты Гайяны, выдадзены ў 1994 годзе

Кадар з фільму «Дзесяць Запаведзяў».




Чарльтон Хестон ў ролі Майсея. Фільм Сесіля Блаўнта Дэ-Міля «Дзесяць Запаведзяў» (1956). Блёк пошты Сьера Леонэ, выдадзены ў 1996 годзе

«І прасьцёр Майсей руку сваю на мора, і пад раніцу вада вярнулася ў сваё месца; а Егіпцяне беглі насустрач. Так

патапіў Гасподзь Егіпцянаў сярод мора. І вада вярнулася і пакрыла калясьніцы і верхаўцоў усяго войска фараонавага, якія ўвайшлі за імі ў мора; не засталося ніводнага зь іх» (Выхад 14:27,28).



Пераход праз Чырвонае мора. Даменіка Гірландая, Козіма Расельлі, Бьяджо д Антонїё. Фрэска (1482). Сікстынская капэла, Ватыкан. Марка Ватыкыну, выдадзеная ў 2001 годзе

На фрэсцы з Сыкстынскай капэлы справа егіпецкія салдаты, апранутыя і ўзброеныя тыпова для Італіі эпохі Адраджэньня, тонуць у водах Чырвонага мора. У цэнтры хмарны слуп, які сымбалізуе прысутнасьць Бога. Праз хмары прабіваюцца прамяні сонца і Вясёлка служаць сымбалямі ўгоды Бога з сваім народам. На беразе габрэі, якія ўжо перасеклі мора пад кіраўніцтвам Майсея, убранага ў жоўтыя і зялёныя адзеньні. Іх працэсія працягваецца на заднім пляне і зьнікае ў глыбінях пэйзажу. Побач з Майсеем яго сястра, прарочыца Мірыям, якая грае на струнным інструмэнце.

Так у той дзень Гасподзь выратаваў свой народ. З вуснаў народа і яго правадыра Майсея палілася ўрачыстая ўдзячная песьня. «І ўзяла Марыям прарочыца, сястра Ааронавая, у руку сваю бубен, і выйшлі за ёю ўсе жанчыны з бубнамі і радасьцю. І засьпявала Марыям перад імі: сьпявайце Госпаду, бо высока ўзьнёсься Ён, каня і верхаўца ягонага ўкінуў у мора» (Выхад 15:20,21). Марыям была адказнай за ваду. «Калодзеж Мірыям» — гэта крыніца, якую стварала Мырыям у пустыні на стаянках.




Мырыям з жанчынамі радуюцца цудоўнаму ўратаваньню і выказваюць падзяку Богу. Марка Ізраілю, выдадзеная ў 2007 годзе ў сэрыі «Жанчыны Бібліі»

На прывесцы маркі цытата: «...і выйшлі за ёю ўсе жанчыны з бубнамі і радасьцю» (Выхад 15:20).

Але існуе равінская легенда, што, калі анёлы на нябёсах сталі сьпяваць хвалы Богу за ўратаваньне габрэяў, Бог раздражнёна сказаў: «Мае тварэньні тонуць, а вы тут песьні пяеце».

## Падарожжа праз пустыню да гары Сінай

### Манна нябесная

Пасьля цудоўнага ацаленьня пры Чырвоным моры Ізраільцяне рушылі далей на полудзень да гары Сінай. Падарожжа

праз пустыню вялікай колькасьці людзей было для іх вельмі небясьпечным. Не было чаго піць і есьці. І людзі сталі наракаць на Майсея і казаць, што лепей было б, каб яны засталіся ў Егіпце. Але Бог не пакідаў абраны народ. «І сказаў Гасподзь Майсею: вось, Я пашлю вам хлеб зь неба, і хай люд выходзіць і зьбірае штодзённа, колькі трэба на дзень, каб Я выпрабаваў яго, ці будзе ён рабіць паводле закона Майго, ці не...» (Выхад 16:4).




Ізраільцяне, якія збіраюць манну ў пустыні (1626—1627). Пітэр Паўль Рубенс (1577—1640). Дэталь. Музэй мастацтваў акругі Лос-Анджэлес Сіні аловак. Блёк пошты Гамбіі, выдадзены ў 1996 годзе

Твор зьяўляецца кардонам габэлена. На першым пляне ў чырвоным плашчы Майсей, зьвернуты да неба, насупраць яго маладая жанчына, якая выносіць напоўнены маннай кошык, у той час як яе супляменьнікі ўсё яшчэ зьбіраюць манну нябесную. Гэтая праца ўваходзіць у сэрыю «Трыумф Эўхарыстыі» (усяго 21 кардон), выкананую Рубенсам па замове эрцгерцагіні Ізабэлы, дачкі гішпанскага караля Філіпа II. Шпалеры прызначаліся для манастыра кармэлітак у Мадрыдзе.

«І наказаў Гасподзь Майсею сказаць: Я пачуў нараканьні сыноў Ізраілевых; скажы ім: увечары будзеце есьці мяса, а раніцай насыціцеся хлебам — і ўведаеце, што Я Гасподзь, Бог ваш. Увечары наляцелі перапёлкі і пакрылі табар, а раніцай ляжала раса наўкола табара; раса паднялася, і вось, на паверхні пустыні нешта дробнае, падобнае на крупы, дробнае, як іней на зямлі. І ўбачылі сыны Ізраілевыя і казалі адзін аднаму: што гэта? Бо ня ведалі, што гэта. І Майсей сказаў ім: гэта хлеб, які Гасподзь даў вам на ежу: вось, што загадаў Гасподзь: зьбірайце яго кожны па столькі, колькі яму зьесьці; па гаморы на чалавека, па колькасьці душ, колькі ў каго ў намёце, зьбірайце» (Выхад 16:11—16).




Майсей у Пустыні — збор Манны (1730). Андрэ Гонсалвес (1685—1762). Царква Сьвятой Кацярыны ў Лісабоне. Марка Партугаліі, выдадзеная ў 2012 годзе

На марцы справа цытата: «І сказаў Гасподзь Майсею: вось, Я пашлю вам хлеб зь неба, і хай люд выходзіць і зьбірае штодзённа, колькі трэба на дзень, каб Я выпрабаваў яго, ці будзе ён рабіць паводле закона Майго, ці не...» (Выхад 16:4).

«Сыны Ізраілевыя елі манну сорак гадоў, пакуль ня прыйшлі ў зямлю абжытую: манну елі яны, пакуль ня прыйшлі да межаў зямлі Ханаанскай» (Выхад 16:35).

### Майсей здабывае ваду са скалы

Хлеба было ўдоваль. Але не было вады. І людзі сталі наракаць зноў. І зноў Майсей зьвярнуўся да Бога. «І сказаў Гасподзь Майсею: прайдзі перад людзьмі, і вазьмі з сабою некаторых старэйшынаў Ізраільскіх, і посах твой, якім ты ўдарыў па вадзе, вазьмі ў руку тваю, і ідзі; вось, Я стану перад табою там на скале ў Харыве, і ты ўдарыш у скалу, і пойдзе зь яе вада, і будзе піць народ. І зрабіў так Майсей на вачах у старэйшынаў Ізраільскіх» (Выхад 17:5,6).




Майсей, высякае ваду са скалы (1960—1966). Марк Шагал (1887—1985). Музэй Шагала ў Ніцы. Францыя. Марка пошты Грэнады, выдадзеная ў 1987 годзе

Тры вялікіх палатна на столі: жывая вада — «Майсей, высякае ваду са скалы», хлеб надзённы — «Манна нябесная» і сіла духу, якая пераадольвае хваробы і сьмерць — «Медны зьмей» — адпавядаюць мэце Скуолы — палёгка патрэб тых, хто пакутуе і галадае.




Майсей высякае ваду са скалы (1577). Тынтарэта (Tintoretto) (1518—1594). Скуола Сан-Рока, Венецыя. Блёк пошты Уганды, выдадзены ў 2000 годзе

Майсей назваў тое месца «Маса і Мэрыва», што ў перакладзе азначае «спакуса і дакараньне», бо там Ізраільцяне дакаралі і спакушалі Госпада, кажучы: «Ці ёсьць Гасподзь сярод нас, ці не?»

Боская прысутнасьць у выглядзе яркага сьвятла дазваляе Майсею зьдзейсьніць цуд і высечы са скалы ваду, якая багата льецца на радасьць народу.

### Бітва з Амалікіцянамі

Падчас падарожжа па пустыні на ізраільцян увесь час рабілі напады Амалікіцяне. Прычым нападалі на аслабелых, на тых, хто адставаў і заставаўся ззаду. Аб гэтым ёсьць запіс у Кнізе Другі закон: «Памятай, як зрабіў з табою

Амалік у дарозе, калі вы ішлі зь Егіпта: як ён сустрэў цябе па дарозе і пабіў за табою ўсіх аслабелых, калі ты зьнямогся і стаміўся, і не пабаяўся ён Бога…» (Другі закон 25:17,18).

Марка прысьвечана Рабі ці Шарга, вядомага, як праведны і сьвяты чалавек. У адсутнасьць якога-небудзь партрэта Рабі была абраная ілюстрацыя з рукапісу «Муса-Нама» На ілюстрацыі намаляваная бітва Ізраіля з Амалікіцянамі, а ў верхняй правай частцы — партрэты Майсея, Аарона і Гурыя, якія назіраюць за падзеямі.




Бітва Ізраілю з Амалікіцянамі. Ілюстрацыя з рукапісу «Муса-Нама» (Іран, 1686 год (?)). Марка Ізраілю, выдадзеная ў 1999 годзе

Вышэй і ніжэй прыведзены цытаты з Кнігі Выхад: «І прыйшлі Амалікіцяне і ваявалі зь Ізраільцянамі ў Рэфідыме. Майсей сказаў Ісусу: выберы нам мужоў і ідзі біцца з Амалікіцянамі: заўтра я стану на вяршыні пагорка, і жазло Божае будзе ў руцэ маёй. І зрабіў Ісус, як сказаў яму Майсей, і пайшоў біцца з Амалікіцянамі; а Майсей і Аарон і Ор узышлі на верх пагорка. І калі Майсей падымаў рукі свае, адольваў Ізраіль, а калі апускаў рукі свае, адольваў Амалік; але рукі Майсеевыя ацяжэлі, і тады ўзялі камень і падклалі пад яго, і ён сеў на ім, а Аарон і Ор падтрымлівалі рукі ягоныя, адзін з аднаго, а другі з другога боку. І былі рукі яго паднятыя аж да заходу сонца. І скінуў Ісус Амаліка і народ ягоны лязом мяча» (Выхад 17:8—13). На ўкладцы маркі намалявана будынак, у якім знаходзіцца грабніца Рабі або Шаргі ў Йезьдзе, Іран.

## Запавет на гары Сінай

### Майсей размаўляе з Богам

Праз сем тыдняў пасьля выхаду ізраільцяне прыйшлі да гары Сінай. «Майсей узышоў да Бога, і заклікаў яго Гасподзь з гары, кажучы: так скажы дому Якава і абвясьці сынам Ізраіля: вы бачылі, што Я зрабіў Егіпцянам, і як Я насіў вас на арліных крылах, і прынёс вас да Сябе; дык вось, калі вы будзеце слухацца голасу Майго і шанаваць запавет Мой, дык будзеце Маім скарбам з усіх народаў, бо Мая ўся зямля, а вы будзеце ў Мяне царствам сьвятароў і народам сьвятым; вось словы, якія ты скажаш сынам Ізраілевым» (Выхад 19:3—6).

Майсей пераказаў народу слова Бога і адказаў народ: «усё, што сказаў Гасподзь, выканаем» (Выхад 19:8). Надышоў той час, калі Бог першы і адзіны раз зьвярнуўся да ўсяго народу. Усе адзелі чыстае ўбраньне і атрымалі загад не пераходзіць устаноўленую граніцу, каб не загінуць падчас зьяўленьня Бога.

Словы «Я насіў вас на арліных крылах» знаходзяцца на прывесцы маркі Ізраіля, выпушчанай для ўганараваньня Міжнароднага Дня Ўцекачоў.




«Я насіў вас на арліных крылах». Марка Ізраілю, выдадзеная ў 1960 годзе

«На трэці дзень, як занялася раніца, былі грымоты і маланкі, і густая хмара над гарою і трубны гук даволі моцны: і затрымцеў увесь народ, які быў у табары. І вывеў Майсей людзей з табара насустрач Богу, і сталі каля падножжа гары. А гара Сінай уся дымілася ад таго, што Гасподзь сышоў на яе ў агні; і падымаўся ад яе дым, як дым зь печы, і ўся гара моцна хісталася: і гук трубны рабіўся мацнейшы і мацнейшы. Майсей гаварыў, і Бог адказваў яму голасам» (Выхад 19:16—19).

Нарэшце ўсё сьціхла і Бог прамовіў для ўсяго народа: «Я Гасподзь, Бог твой, Які вывеў цябе зь зямлі Егіпецкай, з дома рабства; хай ня будзе ў цябе іншых багоў перад абліччам Маім. Не рабі сабе куміра і ніякай выявы таго, што на небе ўгары, і што на зямлі ўнізе і што ў вадзе ніжэй зямлі; не пакланяйся ім і ня служы ім, бо Я Гасподзь, Бог твой, Бог руплівец, Які карае дзяцей за віну бацькоў да трэцяга і чацьвёртага роду, што ненавідзяць мяне, і Які чыніць мілату тысячам родаў, што любяць Мяне і шануюць запаведзі Мае. Не вымаўляй імя Госпада, Бога твайго, марна, бо Гасподзь не пакіне без пакараньня таго, хто вымаўляе імя Яго марна» (Выхад 20:2—7).




Маісей падымаецца на гару Сінай. Фрэска царквы Нотр-Дам-дэ-Ardillies Міквэлон, (d'Yvette Detcheverry). Марка пошты Сен-Пэр і Міквэлон, надрукаваная ў 2013 годзе

«Але памятай дзень суботні, каб сьвяціць яго; шэсьць дзён працуй і рабі ўсякія дзеі твае, а дзень сёмы — субота Госпаду, Богу твайму: не рабі ў гэты ніякай працы ні ты, ні сын твой, ні дачка твая, ні раб твой, ні рабыня твая, ні быдла тваё, ні прыхадзень, які ў брамах тваіх; бо за шэсьць дзён стварыў Гасподзь неба і зямлю, мора і ўсё, што ў іх, а ў дзень сёмы спачыў; таму дабраславіў Гасподзь дзень суботні і асьвяціў яго. Шануй бацьку твайго і маці тваю, каб падоўжыліся дні твае на зямлі, якую Гасподзь, Бог твой, дае табе. Не забівай. Ня чыні пералюбу. Ня крадзь. Не кажы ілжывага сьведчаньня на блізкага твайго. Ня прагні дому блізкага твайго; ня прагні жонкі блізкага твайго, ні раба ягонага, ні рабыні ягонай, ні вала ягонага, ні асла ягонага, нічога, што ў блізкага твайго» (Выхад 20:8—17).

Народ і старэйшыны сталі прасіць Майсея, каб ён стаў пасярэднікам паміж імі і Богам. Майсей пагадзіўся. «І стаяў народ спадалёк, а Майсей уступіў у змрок, дзе Бог. І сказаў Гасподзь Майсею: так скажы сынам Ізраілевым: вы бачылі, як Я зь неба казаў вам; не рабеце перад Мною багоў срэбраных, альбо багоў залатых не рабеце сабе: зрабі мне ахвярнік зь зямлі і прынясі на ім цэласпаленьні твае і мірныя ахвяры твае, авечак тваіх і валоў тваіх; на кожным месцы, дзе Я ўчыню памяць імя Майго, Я прыйду да цябе і дабраслаўлю цябе...» (Выхад 20:21—24).




Майсей на гары Сінай. Анкер Элі Пэтэрсан (1959). Марка пошты Фарэраў, прысьвечаная паэту Янусу Джурхуусу (1881—1948), выдадзеная ў 2004 годзе

На наступны дзень была прынесена ахвяра і народ пакляўся выконваць усе Запаведзі Бога, перададзеныя Майсею.

**Скрыжалі Запавету**

Ізраільцяне раскінулі свае палаткі ля гары Сінай, а Майсей зноў падняўся на гару і прабыў там сорак сутак. «і слава Гасподняя асяніла гару Сінай; і пакрывала яе воблака шэсьць дзён, а ў сёмы дзень Гасподзь усклікнуў Майсею зь сярэдзіны воблака. А выгляд славы Гасподняй на вяршыні гары быў перад вачыма сыноў Ізраілевых, як агонь паглынальны» (Выхад 24:16,17).

У Танзаніі да 100-годзьдзя кіно быў апублікаваны блёк, які паказвае амэрыканскага акцёра Тэадора Робертса ў вобразе Майсея ў фільме «Дзесяць Запаведзяў», які дэманстраваўся ў 1923 годзе. Майсей бачыць, як Бог піша Запаведзі на каменных плітах.




Дзесяць Запаведзяў. Кадр з фільму. Блёк пошты Танзаніі, выдадзены ў 1995 годзе

Каменные Скрыжалі з тэкстам Дзесяці Запаведзяў зьмешчаныя на марцы блёку пошты Малі, прысьвечанаму 100-годзьдзю кіно. Тэкст на скрыжалях напісаны мовай старакананейскай, якая ўжывалася ў часы Майсея. На марцы Чарльтон Хестон ў ролі Майсея ў фільме Сесіля Б. Дэ-Міля «Дзесяць Запаведзяў» (1956), які зьяўляецца адным з самых ка-

савым фільмаў у сьвеце. На полі блёку сцэна пераходу праз Чырвонае мора.




Чарльтон Хестон ў ролі Майсея. Фільм Сесіля Б. Дэ-Міля «Дзесяць Запаведзяў» (1956). Блёк пошты Малі, выдадзены ў 1994 годзе

Майсей доўга не вяртаўся і многія зь ізраільцян вырашылі, што ён загінуў і ня вернецца. Майсей у гэты час атрымліваў ад Бога скрыжалі Запавету.




Майсей атрымлівае Скрыжалі. Блёк пошты Ангільлі, выдадзены ў 1983 годзе

«Калі народ убачыў, што Майсей доўга ня сыходзіць з гары, дык сабраўся да Аарона і сказаў яму: устань і зрабі нам бога, які ішоў бы перад намі; бо з гэтым чалавекам, з Майсеем, які вывеў нас зь зямлі Егіпецкай, ня ведаем, што зрабілася. І сказаў ім Аарон: здымеце залатыя завушніцы, якія ў вушах у вашых жонак, вашых сыноў і вашых дочак, і прынясеце мне. І ўвесь народ зьняў залатыя завушніцы з вушэй сваіх і прынесьлі Аарону. Ён узяў іх з рук іхніх, і зрабіў зь іх літае цяля, і абрабіў яго разцом. І сказалі яны: вось бог твой, Ізраіле, які вывеў цябе зь зямлі Егіпецкай!» (Выход 32:1—4). І народ стаў пакланяцца залатому цяльцу.




Майсей атрымлівае Скрыжалі (1966). Марк Шагал (1887—1985). Дэталь. Музэй Шагала, Ніца. Марка пошты Грэнады, выдадзеная ў 1986 годзе

Майсей, апрануты ў белае і з праменямі сьвятла, якія струменяць з галавы (асаблівы знак, згаданы ў Бібліі толькі пасьля яго сустрэчы з Богам на гары Сінай), прымае Скрыжалі Запавету. Зьлева ад Майсея адна частка габрэяў чакае Майсея, а іншая адвярнулася ад яго і пакланяецца залатому цяляці. Справа цар Давід з сямісьвечнікам. Тады Бог сказаў Майсею: «Пасьпяшайся сысьці, бо разбэсьціўся народ твой, які ты вывеў зь

зямлі Егіпецкай; хутка ўхіліліся яны ад шляху, які Я наказаў ім: зрабілі сабе літае цяля і пакланіліся яму, і прынесьлі яму ахвяры і сказалі: вось бог твой, Ізраіле, які вывеў цябе зь зямлі Егіпецкай!» (Выхад 32:7,8).

Бог сказаў Майсею, што гатоў зьнішчыць няверны народ і запачаткаваць новы. Але Майсей стаў прасіць Бога: «…хай не ўспалымняецца, Госпадзе, гнеў Твой на народ Твой, які Ты вывеў зь зямлі Егіпецкай сілаю вялікаю і рукою моцнаю, каб Егіпцяне не казалі: на пагібель Ён вывеў іх, каб забіць іх у горах і вынішчыць іх з улоньня зямлі; адхілі палымяны гнеў Твой і адмяні зьнішчэньне народу Твайго…» (Выхад 32:11,12). Бог пачуў просьбу.




Майсей атрымлівае Скрыжалі Закону на гары Сінай. Гравюра Лукаса Кранаха Старэйшага (1472–1553). Марка пошты Германіі, выпушчаная ў 1979 годзе

Тэкст на марцы: «450 гадоў Катэхізісу Марціна Лютэра».

Майсей сышоў з гары. «Калі ж ён наблізіўся да табара і ўбачыў цяля і скокі, тады ён запаліўся гневам і кінуў з рук сваіх скрыжалі і разьбіў іх пад гарою; і ўзяў цяля, якое яны зрабілі, і спаліў яго ў агні, і сьцёр на пыл, і рассыпаў па вадзе, і даў яе піць сынам Ізраілевым» (Выхад 32:19,20).




Майсей, разбіваюць Скрыжалі Запавету (1659 г.). Рэмбрант (1606—1669). Берлінская карцінная галерэя. Марка пошты Нікарагуа, выдадзеная ў 1971 годзе

Чаму Майсей разьбіў Скрыжалі? Майсей вырашыў, што трэба працягваць навучаць людзей, рабіць «моцнымі», гэта значыць людзьмі сьвядомымі, здольнымі несьці веру ў адзінага Бога далей, сьцьвярджаючы яе сваімі справамі і ў сваіх словах. Майсей зразумеў, што калі людзям з такім нізкім узроўнем сьвядомасьці цяпер даць Закон, калі яны яшчэ не натанцаваліся перад ідалам, то яны адразу пачнуць і вакол Скрыжаляў вытанцоўваць гэтак жа, як нядаўна яшчэ вытанцоўвалі вакол цяляці.

Бог загадаў Майсею зрабіць дзьве каменныя Скрыжалі замест разьбітых і прадыктаваў тыя словы, якія Майсей павінен быў на іх запісаць.




Майсей атрымлівае Закон на гары Сінай.
Марка Ізраілю, выдадзеная ў 1983 годзе

На прывесцы маркі выпісаны словы: «...і дзьве скрыжалі адкрыцьця былі ў руцэ ў Майсея...» (Выхад 34:29)».

Ілюстрацыяй да цэлага апавяданьня можа быць фрэска Казіма Расьселі. У цэнтры зьверху намаляваны Майсей, які атрымлівае Скрыжалі Запавету ад Бога, Які зьявіўся ў яскравым воблаку і акружаны анёламі. Побач з Майсеем сьпіць Ісус Навін. На пярэднім пляне зьлева Майсей прыносіць Скрыжалі ў лягер габрэяў. У цэнтры на заднім пляне намаляваны алтар з залатым цялём, некаторыя з габрэяў пакланяюцца яму (яны паказаны са сьпіны, што звычайна для адмоўных пэрсанажаў, як, напрыклад, Іуда Іскарыёт у «тайнай вячэры»). На пярэднім пляне Майсей, прыйшоўшы ў лютасьць, разьбівае Скрыжалі. На заднім пляне справа Майсей на чале лявітаў карае ідалапаклоньнікаў. Будучы пераемнік Майсея, Ісус Навін, намаляваны побач у сіне — жоўтай вопратцы. Левы бок фрэскі адлюстроўвае эпізод атрыманьня і ўручэньня біблейскаму народу другіх Скрыжаляў, якія сталі аб'ектам сьвяшчэннага пакланеньня спачатку ў Скініі, а затым у храме ў Ерусаліме. З галавы Майсея струменіць зьзяньне, якое зьявілася пасьля атрыманьня другіх Скрыжаляў.




Скрыжалі Закону з залатым Цялём
(на гары Сінай), Казіма Расьселі (1481—82) з памочнікамі. Фрэска, Сікстынская капэла, Ватыкан. Марка Ватыкану, выдадзеная ў 2000 годзе

На фрызе фрэскі надпіс: «PROMULGATIO * LEGIS * SCRIPTE * PER * MOISEM» (абнародаваньне Майсеем Закону).

**Дзесяць Запаведзяў**

Не гледзячы на тое, што Дзесяць Запаведзяў зьяўляюцца асновай Юдэйскай і Заходняй маралі, большасьць людзей ня могуць пералічыць іх усе. Таму пералічым іх усе, маючы на ўвазе, што пералік Дзесяці Запаведзяў у габрэйскай, праваслаўнай і пратэстанцкай, каталіцкай і лютэранскай традыцыі некалькі адрозьніваецца.

«Я Гасподзь, Бог твой, Які вывеў цябе зь зямлі Егіпецкай, з дома рабства.

Не рабі сабе куміра.

Не вымаўляй імя Госпада, Бога твайго, марна, бо Гасподзь не пакіне без пакараньня таго, хто вымаўляе імя Яго марна.

Але памятай дзень суботні, каб сьвяціць яго;

Шануй бацьку твайго і маці тваю.

Не забівай.

Ня чыні пералюбу.

Ня крадзь.

Не кажы ілжывага сьведчаньня на блізкага твайго.

Ня прагні дому блізкага твайго; ня прагні жонкі блізкага твайго, ні раба ягонага, ні рабыні ягонай, ні вала ягонага, ні асла ягонага, нічога, што ў блізкага твайго» (Выхад 20:2—17).




Дзесяць Запаведзяў. Юльян Васаргелій (Gyula László Vásárhelyi) (1929—2013). Марачны ліст пошты Лесота, выдадзены ў 1984 годзе

Юдэйскія знаўцы Торы выказваюць думку, што дзьве з Дзесяці Запаведзяў перакладзены няправільна. Шостая Запаведзь на іўрыце складаецца з двух слоў: Lo tirtzakh. Але правільны пераклад на іх думку: «Не рабі зьверскага забойства». Бо «калі хто прыйшоў цябе забіць, забей яго першы» (Санхедрын, 72а). Трэцюю Запаведзь яны перакладаюць наступным чынам; «Не выкарыстоўвай Бога дзеля выпраўданьня сваіх асабістых матываў».

Дзесяць Запаведзяў — фундамэнт жыцьця чалавека і чалавецтва. «Я, Гасподзь, Бог твой».

Дзесяць Запаведзяў, або загадаў, якія Бог даў свайму народу, дакладна паказваюць, што павінен рабіць чалавек і чаго пазьбягаць дзеля любові да Бога і блізкіх. Але яны паказваюць дарогу жыцьця ня толькі ізраільцянам, а ўсяму чалавецтву.

Гэтыя Запаведзі катэгарычныя, іх захаваньне не зьвязана зь якім-небудзь месцам, дзяржавай, крымінальным правам, бо не пазначана пакараньне за іх парушэньне. Мяркуецца Боская кара за грэбаваньне імі. Запаведзі канкрэтныя: зварот не да ўсёй супольнасьці, а да кожнага канкрэтнага чалавека, як прадстаўніка гэтай супольнасьці. Жыцьцё на Зямлі адбываецца пад непасрэдным іх уплывам.

Запаведзі былі напісаныя на дзьвюх Скрыжалях, хутчэй за ўсё гэта мела пэўнае значэньне. Яны падзяляюцца на дзьве часткі: першая кажа пра стаўленьне чалавека да Бога — на адной Скрыжалі, другая — пра стаўленьне чалавека да чалавека — на другой Скрыжалі.

На старонках Старога Запавету ёсьць шмат прыкладаў, калі Запаведзі не выконваліся. І было пакараньне. Чытаем іх як папярэджаньне ад падобных учынкаў.

На марках пошты Тога, выдадзеных у 1982 годзе, Дзесяць Запаведзяў ілюстраваныя падзеямі з Старога Запавету.

На першай марцы ілюструецца першая Запаведзь: «хай ня будзе ў цябе іншых багоў перад абліччам Маім» (Выхад 20:3). На малюнку бачым Майсея, які здымае сандалі перад кустом, які гарыць, але не згарае. Майсей задаў прыклад абсалютнай веры адзінаму Богу і прыклаў вялікія намаганьні каб яго народ пераймаў гэты прыклад.




Дзесяць Запаведзяў. Маркі пошты Тога, выдадзеныя у 1982 годзе

Другая марка адсылае да другой Запаведзі: «Не вымаўляй імя Госпада, Бога твайго, марна» (Выхад 20:7). Ілюстрацыяй зьяўляецца эпізод з Кнігі Судзьдзяў (11:30,31).

«І даў Ефтай абяцаньне Госпаду і сказаў: калі ты аддасі Аманіцян у рукі мае, дык, як вярнуся зь мірам ад Аманіцянаў, што выйдзе з варотаў дома насустрач мне, будзе Госпаду, і прынясу гэта на цэласпаленьне». Калі ж пасьля перамогі Ефтай вярнуўся, то з варот дому выйшла яму насустрач дачка. Так неабдуманае абяцаньне Богу абярнулася Ефтаю страшнай трагедыяй.

Трэцяя марка ілюструе Запаведзь «Але памятай дзень суботні, каб сьвяціць яго...» (Выхад 20:8). Ілюстрацыя ўзятая не з Бібліі. Намаляваны Сьвяты дамініканін Ферэра, вялікі прапаведнік з Вероны.

На чацьвёртай марцы намаляваны Ной, які ап'янеў ад віна, і двух яго сыноў Сіма і Хама. Хам насьмяяўся над бацькам і быў пакараны. Ілюструецца тут Запаведзь: «Шануй бацьку твайго і маці тваю» (Выхад 20:12).

На пятай марцы пешае зьверскае братазабойства: Каін забівае Авеля. Пятая Запаведзь кажа: «Не забівай» (Выхад 20:13).

Шостая марка ілюструе Запаведзь «Ня чыні пералюбу» (Выхад 20:14). Ілюстрацыяй служыць выпадак з Язэпам, ілжыва абвінавачаным жонкай Паціфара, калі ён адмовіў яе заляцаньням.

«Ня крадзь» (Выхад 20:15) тэма сёмай маркі. Ілюстрацыяй служыць ня выпадак матэрыяльнай кражы, але крадзеж Якавам бацькоўскага дабраславеньня ў старэйшага брата Ісава.

У апокрыфе «Даніїл» ёсьць апавяданьне пра Зузану і двух старцаў. У той час як Зузана аголеная купалася ў сваім садзе, за ёй падглядвалі два старцы — паважаныя старэйшыны, якія габрэямі былі абраныя судзьдзямі. Яны, пагражаючы абвінаваціць яе ў блудзе, спрабавалі дамагчыся ад яе сукупленьня. Зузана адмовілася задаволіць жаданьне старэй-

шын і была імі ілжыва абвінавачаная і прысуджаная за гэта да сьмерці. Але ў апошнюю хвіліну, дзякуючы прароку Даніілу, які дапытаў старцаў паасобна, была выратавана. Ілжэсьведкі былі абвінавачаныя ў хлусьні і пакараныя. Малюнак на гэтую тэму стаў ілюстрацыяй Запаведзі «Не кажы ілжывага сьведчаньня на блізкага твайго» (Выхад 20:16) на восьмай марцы.

«Ня прагні жонкі блізкага твайго» (Выхад 20:17) патрабуе дзявятая Запаведзь. Малюнак на марцы апавядае пра гісторыю граху Давіда, калі ўбачыў ён Вірсавію.




Дзесяць Запаведзяў. Маркі пошты Тога, выдадзеныя у 1982 годзе

Дзесятая Запаведзь «Ня прагні нічога, што ў блізкага твайго» (Выхад 20:17). На малюнку цар Ахаў намагаецца забраць вінаграднік Навутэя.

Дзесяць Запаведзяў Божых сталі канстытуцыяй жыцьця Біблейскага Ізраіля, а затым усяго чалавецтва. Увесь зьмест Дэкалёгу скіраваны да Запаведзі любові. Запаведзь любові да бліжняга — «Любі блізкага твайго, як самога сябе» (Лявіт 19:18), выдрукаваная на каменнай пліце, паказана на марцы пошты Ізраілю.




«Любі блізкага твайго, як самога сябе» (Лявіт 19:18). Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1958 годзе

На прывесцы маркі Запаведзь любові запісана на пяці мовах: французскай, ангельскай, гішпанскай і расейскай, вэртыкальна справа — кітайскай. Гэта пяць афіцыяльных моваў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Марка выдадзена з нагоды гадавіны абвяшчэньня ААН Хартыі Правоў Чалавека. Біблейская Запаведзь любові да бліжняга зьяўляецца яе фундамэнтам.

**Пачатак Божай службы**

На гары Майсей атрымаў ад Бога Законы, па якім павінен быў жыць Абраны народ, і загад зрабіць Скінію — рухомы храм, як месца для малітваў і ахвярапрынашэньня, і «Зрабеце каўчэг з дрэва

сітым» (Выхад 25:8—10). Бог хацеў, каб яго народ аказваў Яму асаблівую павагу, робячы ахвяраваньні і чытаючы малітвы. Ізраільцяне павінны былі збудаваць пераносны санктуарыюм, званы Скініяй або Намётам Спатканьня, і яго абсталяваньне, неабходнае для вядзеньня службы. Каўчэг Запавету і Скінія разам складаюць свайго роду паходную Сьвятыню, неабходную ў падарожжы па пустыні.

У Каўчэгу ляжалі прынесеныя Майсеем скрыжалі са словамі Бога. Скінія была зробленая разборнай, а Каўчэг пераносным. Калі воблака вакол Скініі зьнікала, то пара было рухацца ў шлях. Людзі разьбіралі і ўкладвалі палотнішчы Скініі, устаўлялі доўгія жэрдкі ў залатыя кольцы, прымацаваныя да кутоў Каўчэга Запавету, і несьлі яго на плячах.

Скінія называецца ў Бібліі таксама «Скініяй адкрыцьця» і «Скініяй сходу», так як народ зьбіраўся вакол яе для набажэнства.

У сэрыі з чатырох марак пошты Ізраіля зьмешчаны відарысы найважнейшага рыштунку для Скініі. Дакладныя ўказаньні, які выгляд яны павінны былі мець знаходзяцца ў Кнізе Выхад (25 — 31).

На першай марцы бачым Каўчэг Запавету, зроблены з дрэва акацыі, пакрыты золатам як унутры, так і звонку. Вечка каўчэга з двума херувімамі была цалкам з чыстага золата, вылепленага з суцэльнага кавалка. «І будуць херувімы з паднятымі ўгору крыламі, пакрываючы сваімі крыламі вечка, а тварамі сваімі будуць адзін да аднаго» (Выхад 25:20. У Каўчэгу захоўваліся Скрыжалі Запавету, дадзеныя Богам Майсею. На прывесцы маркі цытата: «Зрабеце каўчэг з дрэва сітым» (Выхад 25:10).

На другой марцы падсьвечнік Мэнора. Выкавана з аднаго кавалка золата. Мэнору ўпрыгожвалі 22 чарачкі, 11 яблык, 9 кветачак і іншыя элемэнты. На прывесцы цытата: «І зрабі сьвяцільню з золата чыстага» (Выхад 25:31).




Начыньня Скініі: Каўчэг Запавету з херувімамі, Мэнора. Сэрыя марак пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1985 годзе

На трэцяй марцы Стол для хлябоў.




Начыньня Скініі: Стол і рама для хлеба і Ахвярнік з ладанам. Сэрыя марак пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1985 годзе

Стол стаяў у Скініі. Ён быў зроблены з дрэва акацыі і пакрыты золатам. На стале ляжала выпечка ад адной суботы да іншай. На прывесцы маркі цытата: «І зрабі стол з дрэва сітым» (Выхад 25:23).

На чацьвёртай марцы Ахвярнік пахошчаў. На прывесцы маркі цытата: «I зрабі ахвярнік для прынашэньня дымленьня, з дрэва сітым зрабі яго...» (Выхад 30:1).

Сьвятар для службы павінен быў мець асаблівае адзеньне, апісанае ў Бібліі. «I зрабі сьвяшчэнную вопратку Аарону, брату твайму, дзеля славы і аздобнасьці» (Выхад 28:2). Дэтальна апісаны нагруднік сьвятара: «ён павінен быць чатырохкутны, падвойны, на пядзю ў даўжыню і на пядзю ў шырыню: і ўстаў у яго апраўленыя камяні ў чатыры рады; побач рубін, тапаз, смарагд — гэта адзін рад; другі рад: карбункул, сапфір і адамант: трэці рад: карунд, агат і амэтыст; чацьвёрты рад: хрызаліт, анікс і ясьпіс; у залатыя гнёзды павінны быць устаўлены яны. Гэтых камянёў павінна быць дванаццаць, па колькасьці, паводле імёнаў іх; на кожным, як на пячатцы, павінна быць выразана па адным імю зь ліку дванаццаці плямёнаў» (Выхад 28:16—21).




Племя Нафталі. Аметыст (Чырвонае Віно). Марка пошты Ізраілю з сэрыі «Нагруднік першасьвятара», выдадзеная ў 2012 годзе

На працягу 500 гадоў Скінія служыла цэнтрам пакланеньня габрэйскага народа Богу. Ён ішоў за ёй у яго падарожжах па пустыні, прыйшоў зь ёй у зямлю запаветную і зьвяртаўся да Бога ў ёй, пакуль Саламон не пабудаваў Храм.

## Выведнікі ў Ханаане

Калі Ізраільцяне падышлі зусім блізка ад зямлі Ханаанскай, Майсей выслаў дванаццаць выведнікаў з наказам: «...ідзеце ў гэтую паўднёвую краіну, і падымецеся на гару, і агледзьце зямлю, якая яна, і народ, які жыве на ёй, ці моцны ён, ці слабы, ці малы ён лікам, ці вялікі? і якая зямля, на якой ён жыве, ці добрая яна, ці благая? і якія гарады, у якіх ён жыве? ці ў намётах ён жыве, ці ва ўмацаваньнях? і якая зямля, ці тлустая яна, ці пустая? ці ёсьць на ёй дрэвы, ці няма? будзьце адважныя і вазьмеце ад пладоў зямлі» (Лікі 13:18—21).

Сорак дзён выведнікі аглядалі зямлю і прыйшлі да высновы, што народ там мацнейшы за іх і нельга зь ім ваяваць.

«I Ісус, сын Наваў, і Халеў, сын Ефаніін, з тых, што аглядалі зямлю, разадралі вопратку на сабе і сказалі ўсяму супольству сыноў Ізраілевых: зямля, якую мы праходзілі дзеля агляду, вельмі, вельмі добрая; калі Гасподзь літасьцівы да нас, дык увядзе нас у зямлю гэтую і дасьць нам яе — гэтую зямлю, у якой цячэ малако і мёд; толькі супроць Госпада не паўставайце і ня бойцеся народу зямлі гэтай, бо ён дастанецца нам у наедак: абароны ў іх ня стала, а з намі Гасподзь; ня бойцеся іх» (Лікі 14:6—9).

Ісус Навін і Халеў верылі абяцаньням Бога. Яны прынесьлі ў стан такую вялізную гронку вінаграду, што вымушаныя былі нясьці яе ўдвох, як паказана на фэ-

стывальнай марцы Ізраілю з сэрыі «Радасныя Сьвяты 5715».




Зямля малака і мёду. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1954 годзе

На прывесцы маркі цытата: «прыйшлі да даліны Эсхол, і зрэзалі там вінаградную галінку з адной гронкаю ягад, і панесьлі яе на жардзіне двое» (Лікі 13:24).

Але народ быў вельмі напалоханы. «І сказалі адзін аднаму: паставім сабе правадыра і вернемся ў Егіпет» (Лікі 14:4). А Ісуса Навіна і Халева хацелі пабіць камянямі. І Бог прамовіў да Майсея: «...дакуль будзе дражніць Мяне народ гэты? і дакуль ён будзе ня верыць Мне пры ўсіх азнаках, якія рабіў Я сярод яго? пакараю яго пошасьцю і зьнішчу яго і выведу ад цябе народ болей шматлікі і мацнейшы за яго» (Лікі 14:11,12). Зноў Майсей стаў прасіць дараваць народу. Бог адказаў, што толькі нашчадкі ўвойдуць у Абяцаную зямлю і Ісус Навін і Халеў за іх непарушную веру. «Па ліку сарака дзён, у якія вы аглядалі зямлю, вы панесяце кару за грахі вашыя сорак гадоў, год за дзень, каб вы спазналі, што значыцца быць пакінутым Мною» (Лікі 14:34).

## Пакараньне Карэя, Дафана і Авірона

Ня гледзячы на тое. Што Бог выбраў Майсея на кіраўніка народу і на загад Бога ва ўсім слухацца Майсея, у ізраільскім стане адбылося паўстаньне. «Карэй, сын Ісаараў, сын Каатаў, сын Лявіін, і Датан і Авірон, сын Эліяваў, і Аўнан, сын Фалетаў, сыны Рувімавыя, паўсталі на Майсея, і зь імі з сыноў Ізраілевых дзьвесьце пяцьдзесят мужоў, правадыры супольства, якіх клічуць на сходы, людзі знакамітыя» (Лікі 16:1,2).

«І сказаў Майсей: з гэтага даведаецеся, што Гасподзь паслаў мяне рабіць усе дзеі гэтыя, а не па сваёй самахоці я раблю гэта: калі яны памруць, як паміраюць усе людзі, і спасьцігне іх такая кара, як і ўсіх людзей, дык не Гасподзь паслаў мяне; а калі Гасподзь учыніць нязвычайнае, і зямля разьзявіць вусны свае і праглыне іх і ўсё, што ў іх, і яны жывыя сыдуць у апраметную, дык ведайце, што людзі гэтыя пагардзілі Госпадам. Толькі ён сказаў словы гэтыя, як расьселася зямля пад імі; і разьзявіла зямля вусны свае і праглынула іх і дамы іхнія, і ўсіх людзей Карэевых і ўсю маёмасьць...» (Лікі 16:28—32). Падзея адлюстравана на фрэсцы Бацічэлі. Асноўным зьместам фрэскі зьяўляецца бунт лявітаў супраць праўленьня Майсея і Аарона. Справа на пярэднім пляне намаляваныя Майсей, мяцежнікі, якія спрабуюць пабіць яго камянямі, і Ісус Навін, які заступае ім шлях. У цэнтры Аарон ва ўборы вярхоўнага жраца і папскай тыяры і Майсей

выганяюць Карэя і іншых змоўшчыкаў. Зьлева зямля расступаецца і паглынае правадыроў змовы. Надпіс на арцы Канстанціна ў цэнтры абвяшчае: «ніхто не адважваецца браць на сябе гонар ахвярапрынашэньня, калі ён не заклікаsucceeded ны Богам, як Аарон». Мастаком праводзіцца відавочная паралель паміж Старазапаветным першасьвятаром Ааронам, імпэратарам Канстанцінам, які першы надаў хрысьціянству статус афіцыйнай рэлігіі, і Папам Рымскім — кіраўніком сучаснай Царквы.



Пакараньне Карэя і пабіцьцё камянямі Майсея і Аарона. Сандра Батычэлі 1481—82. Фрэска. Сікстынская Капэла, Ватыкан. Марка пошты Ватыкану, выдадзеная ў 2001 годзе

Выпрабаваньні на гэтым ня скончыліся.

## Медны зьмей

Шлях па пустыні быў доўгім і небясьпечным. Народ не вытрымліваў выпрабаваньняў і зноў пачаў наракаць на Бога і супраць Майсея. «І паслаў Гасподзь на народ ядавітых зьмеяў, якія джгалі народ, і памерла мноства народу зь Ізраілевых» (Лікі 21:6).

Тады толькі раскаяліся людзі і сталі прасіць Майсея памаліцца за іх, што той і зрабіў. «І сказаў Гасподзь Майсею: зрабі сабе зьмея і выстаў яго на сьцяг, і ўкушаны, зірнуўшы на яго, застанецца жывы» (Лікі 21:8).




Медны зьмей. Рубенс Пітэр Паўль (1577—1640). Нацыянальная галерэя, Лёндан. Марка пошты Экватарыяльнай Гвінэі, выдадзеная ў 1978 годзе

Так усё і здарылася. Кожны ўджалены зьмяёй, зірнуўшы на меднага зьмея, заставаўся жывым.

Нядаўна народ маліўся залатому цяльцу і быў пакараны. Цяпер замест залатога цяльца быў медны зьмей, які ратаваў. Чаму так?

Залаты цялец — гэта вобраз ідалапаклонства і прыхільнасьці да граху, А медны зьмей — гэта сымбаль пакаяньня, пакаяньня моцнага і шчырага, якое, па словах Ізраільскіх мудрацоў, здольная прынесьці адкупленьне любому нават самому страшнаму граху. Хрысьціянам лёгка перакінуць масток да слоў з Эвангельля ад Яна, якія Збаўца сказаў Нікадзіму: «...і як Майсей падняў зьмяю ў пустыні, так мае быць падняты Сын Чалавечы, каб кожны, хто верыць

у Яго, не загінуў, а меў жыцьцё вечнае» (Паводле Яна 3:14,15).

## Валаамская асьліца

Акрамя зьмея, спакушаўшага Еву, яшчэ адной шырока вядомай у Бібліі жывёлай зьяўляецца асьліца, якая магла гаварыць і бачыць Анёла Божага.

Ізраільцяне, пад правадырствам Майсея завалодваюць землямі за Ярданам. Пасьля гэтага яны зьбіраюць узброеныя сілы для захопу зямлі Ханаанскай, якую абяцаў ім Бог.

«...і збаяліся Маавіцяне сыноў Ізраілевых. І сказалі Маавіцяне старэйшынам Мадыямскім: гэты народ зьядае цяпер усё вакол нас, як вол зьядае траву палявую. А Валак, сын Сэпфораў быў царом Маавіцянаў у той час. І паслаў ён паслоў да Валаама, сына Вэоравага, у Пэтор, што на рацэ Еўфраце, у зямлі сыноў народу яго, каб паклікаць яго і сказаць: вось, народ выйшаў зь Егіпта і пакрыў улоньне зямлі, і жыве ён каля мяне; дык вось, прыйдзі, пракляні мне народ гэты, бо ён мацнейшы за мяне: можа, тады я змагу разьбіць яго і выгнаць яго зь зямлі; я ведаю, што каго ты дабраславіш, той дабраславёны, і каго ты праклянеш, той пракляты» (Лікі 22:3—6).

Валааму, аднаму з самых знакамітых язычніцкіх прарокаў, зьяўляецца Бог і забараняе яму праклёны. Аднак цар Валак прапануе ўсё больш выгадныя ўмовы і Валаам пускаецца ў шлях. На шляху ў зямлю цара Валака Валаамава асьліца ўбачыла Анёла Божага, які быў нябачны для людзей, і здабыла дар прамовы. «Асьліца, убачыўшы Анёла Госпадняга, легла пад Валаамам. І запалаў гнеў Валаама, і пачаў ён біць асьліцу кіем. І разамкнуў Гасподзь вусны асьліцы, і яна сказала Валааму: што я табе зрабіла, што ты б’еш мяне вось ужо трэці раз? Валаам сказаў асьліцы: за тое, што ты паглумілася зь мяне; калі б у мяне ў руцэ быў меч, дык я цяпер ужо забіў бы цябе. А асьліца сказала Валааму: ці ня я твая асьліца, на якой ты езьдзіў з пачатку да гэтага дня? ці мела я звычку так рабіць з табою? Ён сказаў: не. І адкрыў Гасподзь вочы Валааму, і ўбачыў ён Анёла Госпадняга, які стаяў на дарозе з аголеным мечам у руцэ, і пакланіўся, і ўпаў на аблічча сваё» (Лікі 22:27—31).




Прарок Валаам і асьліца (1626). Рэмбрант (1606—1669). Музэй Каньяк-Ж, Парыж. Марка пошты Цэнтральна-Афрыканскай Рэспублікі, выдадзеная ў 2011 годзе

Цікавая дэталь карціны Рэмбрандта — вочы Валаама. Яны выглядаюць пустымі, сьляпымі, няздольнымі бачыць Анёла і «Боскую ісьціну».

Ужо ў чацьвёртым стагодзьдзі гэты біблейскі матыў зьявіўся на сьценах ка-

такомбаў Віа лаціна ў Рыме. Далей многія мастакі намалявалі свае карціны з Валаамавай асьліцай.

Анёл дазволіў Валааму працягваць шлях, але з умовай: «толькі кажы тое, што Я буду казаць табе» (Лікі 22:35).

Валаам прыбыў да цара Валака, але яго вусны не праклiналі, а дабраслаўлялі ізраільскі народ.

## Сьмерць Майсея

*і ніхто ня ведае месца пахаваньня яго нават да гэтага дня. (Другі закон 34:6)*

Дванаццаць вершаў, якія завяршаюць Пяцікніжжа, зьмяшчаюць запіс аб сьмерці Майсея. Ён падняўся на вяршыню Фасгі, адкуль адчыняўся выгляд на зямлю Абетаваную. «І сказаў яму Гасподзь: вось зямля, за якую Я прысягаў Абрагаму, Ісааку і Якаву, кажучы: „семені тваймy дам яе“; Я дам табе пабачыць яе вачыма тваімі, але ў яе ты ня ўвойдзеш» (Другі закон 34:4).

«І памёр там Майсей, раб Гасподні, у зямлі Маавіцкай, паводле слова Гасподняга; і пахаваны ў даліне ў зямлі Маавіцкай насупраць Вэтэгора і ніхто ня ведае месца пахаваньня яго нават да гэтага дня» (Другі закон 34:5,6).

Філёсаф Вальтэр Каўфман піша: «Майсей пайшоў, каб памерці ў адзіноце, каб ніхто ня ведаў, дзе яго магіла, каб не пакланяліся гэтаму і не прыдавалі якой — небудзь значнасьці яго сьмяротнаму целу. [...] Тое, што ён ніколі ня быў абагатвораны, зьяўляецца адным з самых значных фактаў у ўяўленьнях аб Богу і чалавеку, паданых у Старым Запавеце».




Завяшчаньне і сьмерць і Майсея (1480—1482). Лука Сіньёрэлі (1445 (50?) — 1523). Фрэска. Сікстынская Капэла, Ватыкан. Марка пошты Ватыкану, выдадзеная ў 2002 годзе

Апошнія эпізоды з жыцьця Майсея намаляваныя на фрэсцы Лукой Сіньёрэлі ў Сікстынскай Капэле. Дзьве сцэны на пярэднім пляне і тры на заднім. У кожнай сцэне Майсей лёгка пазнаваемы дзякуючы сваёй жоўта-зялёнай вопратцы. На заднім пляне Майсей на гары Нэво атрымлівае ад Анёла жазло ўлады, якое дазваляе правадырыць габрэямі на шляху ў зямлю Запаветную. Ніжэй Майсей спускаецца з гары з жазлом у руках. Справа на пярэднім пляне 120-гадовы Майсей зьвяртаецца да натоўпу з жазлом і кнігай у руках, ад яго галавы зыходзяць прамяні сьвятла. Каля яго адкрыты Каўчэг Запавету, у ім скрыжалі Запавету і посуд з маннай. Зьлева ўкленчанаму Ісусу Навіну ўручаюць жазло ўлады і абвяшчаюць яго пераемнікам Майсея. Трэці чалавек зьлева, брунэт у сінім, глядзіць на гледача, — гэта аўтапартрэт Лукі Сіньёрэлі. На заднім пляне зьлева намалявана цела Майсея, акружанае тужлівымі габрэямі.

У 1983 годзе пошта Ватыкану выпусьціла марку, на якой дэталь фрэскі Лукі

Сіньёрэлі «Майсей чытае завяшчаньне». Прадчуваючы хуткую сьмерць, Майсей склікаў народ разьвітацца і перадаць завяшчаньне. Ён сядзіць на ўзвышэньні. Вакол галавы — зьзяньне. Здаецца, што гэта рогі. Так малявалі тады зьзяньне з — за няслушнага перакладу — сьвятло і рог — адно слова — карнайім. У руках — завяшчаньне і жазло — сымбаль улады, у нагах — Каўчэг Запавету. У ім бачныя посуд з маннай нябеснай і каменныя Скрыжалі Запавету з Дзесяцьцю Запаведзямі. Майсей чытае завяшчаньне. Людзі ўважліва слухаюць.




Майсей чытае завяшчаньне. Лука Сіньярэлі (1445 (50?) — 1523г.). Фрэска. Дэталь. Сікстынская Капэла, Ватыкан. Марка пошты Ватыкану, выдадзеная ў 1983 годзе

Грозны. Гэтае слова першым прыходзіць на розум, калі мы глядзім на велічную статую Мікеланджэла. «Майсей» — мармуровая статуя старазапаветнага прарока вышынёй 235 см, якая займае цэнтральнае месца ў скульптурнай грабніцы папы Юлія II у Рымскай базыліцы Сан-П'етра-ін-Вінколі. Над гэтай скульптурай з 1513 па 1515 год працаваў Мікеланджэла. Яго Майсей — сапраўды Звышчалавек, тытан, надзелены неверагоднай духоўнай і фізычнай сілай. Створаны вобраз Мікеланджэла абсалютна пераканаўчы. Так, гэта ён: той, каго «Гасподзь знаў тварам да твару»; той, каму слухаліся стыхіі. Гэтыя вочы маглі кідаць маланкі, гэтыя вусны маглі бясстрашна патрабаваць ад егіпецкага ўладара: «адпусьці мой народ!». Гэтыя мускулістыя рукі маглі павярнуць назад марскія хвалі, маглі высекчы са скалы крыніцу, але яны ж маглі і разьбіць каменныя Скрыжалі, атрыманыя на Сінаі. Майсей сядзіць, абапёршыся рукой на Скрыжалі.




Майсей (1515 — 1516). Мікеланджэла. Фрагмент статуі грабніцы папы Юлія II у Рымскай базіліцы Сан-П'етра-ін-Вінколі. Марка пошты Рэспублікі Малі, выдадзеная да 500-годзьдзя мастака ў 1976 годзе

Гісторыкі мастацтва ўжо якое стагодзьдзе вядуць бясконцыя спрэчка аб тым, у які менавіта момант скульптар адлюстраваў прарока. Адны мяркуюць — Майсей раптам убачыў, што ў той час, пакуль ён быў на Сінаі, людзі збудавалі сабе ідала — залатое цяля і пакланяюцца яму. Ахоплены гневам, ён вось-вось ра-

заб'е Скрыжалі Запавету. Іншыя лічаць, што Майсей намаляваны ў той момант, калі ён ужо ўтаймаваў свой гнеў.

«Калі сыходзіў Майсей з гары Сінай, і дзьве скрыжалі адкрыцьця былі ў руцэ ў Майсея пры зыходзе яго з гары, дык Майсей ня ведаў, што аблічча яго пачало зьзяць праменямі ад таго, што Бог гаварыў зь ім» (Выхад 34:29).

Прамені на галаве Майсея Мікеланджэла выявіў у выглядзе выступаў, якія напамінаюць рожкі.

Прарок падтрымлівае рукой Скрыжалі, нібы засьцерагаючы іх. Магчыма ў гэтай працы наогул не зафіксаваны нейкі пэўны момант. Скульптура Мікеланджэла — абагульнены вобраз, так бы мовіць, уяўны партрэт Майсея, а Скрыжалі — яго характэрны атрыбут, сымбаль Закону, які ён даў людзям.

Майсей, без перабольшаньня, ключавая фігура Старога Запавету. Ён атрымаў ад Усявышняга на гары Сінай Запаведзі, якія ляглі ў аснову чалавечай маралі. У сьвет, дзе язычнікі пакланяліся ідалам, дзе чалавечае жыцьцё не мела ніякай каштоўнасьці, ён прынёс веру ў адзінага Бога і ўяўленьне аб маральнасьці. Першыя пяць кніг Старога Запавету (Пяцікніжжа) называюць кнігамі Майсея, бо, паводле паданьня, менавіта ён перадаў кнігу, створаную Госпадам, чалавецтву.

Усявышні надзяляе Майсея здольнасьцю тварыць цуды, ён кажа Яго вуснамі, карае і мілуе яго рукой. Народ, які ў паданьнях аб патрыярхах ніяк сябе не выяўляў, выходзіць на авансцэну гісторыі: Майсей стварае з імпульсіўнага натоўпу нацыю, якая паважае Закон.

І яшчэ гісторыя Майсея вучыць нас пакоры. Як трэба прымаць усе цяжкасьці, небясьпекі і пазбаўленьня. Так, як гэта рабіў Майсей. І хоць ён дазваляў сабе спрачацца з Богам, яго называюць самым пакорным чалавекам на зямлі.

## Дабраславенства народу — узнагарода за вернасьць Богу

Саракагадовае падарожжа па пустыні спавадавала ў ізраільцян мару аб спакойным жыцьці ў дастатку. Бог паабяцаў ім гэта, але пры ўмове, што і ва ўмовах свабоды будуць Яму верныя. «Усе запаведзі, якія я наказваю вам сёньня, старайцеся выконваць, каб вы былі жывыя і множыліся, і пайшлі й завалодалі зямлёю, даць якую запрысягнуўся Гасподзь бацькам вашым. І памятай увесь шлях, якім вёў цябе Гасподзь, Бог твой, па пустыні, вось ужо сорак гадоў, каб упакорыць цябе, каб выпрабаваць цябе і даведацца, што ў сэрцы тваім, ці будзеш шанаваць запаведзі Ягоныя, а ці не; Ён упакорваў цябе, таміў цябе голадам і карміў цябе маннаю, якое ня ведаў ты і ня ведалі бацькі твае, каб паказаць табе, што не адным хлебам жыве чалавек, а ўсякім словам, якое сыходзіць з вуснаў Госпада, жыве чалавек; вопратка твая ня зношвалася на табе, і нага твая ня пухла, вось ужо сорак гадоў. І ведай у сэрцы тваім, што Гасподзь, Бог твой, вучыць цябе, як чалавек вучыць сына свайго. Дык вось шануй запаведзі Госпада, Бога твайго, хадзі шляхамі Ягонымі й баючыся Яго. Бо Гасподзь, Бог твой, вядзе цябе ў зямлю добрую, у зямлю, дзе патокі водаў, крыніцы і азёры выходзяць з далінаў і гор» (Другі закон 8:1—7).

Узнагародаю за вернасьць будзе трывалае дабраславенства, якое пра-

явіцца ў добрым ураджаі і дастатку. «Калі вы будзеце слухаць наказы Мае, якія пераказваю вам сёньня, любіць Госпада, Бога вашага, і служыць Яму ад усяго сэрца вашага і ад усёй душы вашай, дык дам зямлі вашай дажджу ў свой час, раньняга і позьняга, і ты зьбярэш хлеб твой і віно таваё і алей твой...» (Другі закон 11:13,14).

У Біблейскім тэксьце дакладна апісваецца незвычайная прыгажосьць і ўнікальнасьць Зямлі Запаветнай. Сем пладоў, якімі Усявышні дабраславіў зямлю Ізраіля, вылучаныя Торай як асноўныя сымбалі ўрадлівасьці Сьвятой Зямлі: пшаніца, ячмень, вінаград, інжыр, гранат, масьліны і фінікі, прадстаўленыя ў сэрыі Ізраільскіх марак.




Пшаніца, ячмень, вінаград. Маркі пошты Ізраілю, выпушчаныя ў 1958 годзе

Пшаніца і ячмень, два выгляду злакаў сярод «сямі расьлін», зьяўляюцца галоўнымі для нас. За імі ідуць пяць садавін нашага духоўнага меню, якія дадаюць густ і водар да асноўных, каб разьвіваць жывёльную і Божую душы. Надпіс на прывесцы кожнай маркі, мае сваю крыніцу натхненьня ў арыгінальным тэксьце, які зьмяшчаецца ў пятай Кнізе Бібліі: «у зямлю, дзе пшаніца, ячмень, вінаградныя лозы, смакоўніцы і гранатавыя дрэвы, дзе аліўныя дрэвы і мёд» (Другі закон 8:8).




Гранат, аліўкі, інжыр, фінікі. Маркі пошты Ізраілю, выпушчаныя ў 1958 годзе

Сэрыя з трох марак пошты Израіля ілюструюць дабраславенства за вернасьць Богу. На кожнай марцы намалявана адна расьліна: збожжа, лаза і вінаград, аліўкі і разьмешчаны фрагмэнт тэксту з Бібліі па — габрэйскі.




«...і ты зьбярэш хлеб твой і віно тваё і алей твой...» (Другі закон 11:13,14). Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1993 годзе

На ўкладцы знаходзяцца інструмэнты, якія выкарыстоўваліся для апрацоўкі расьлін: млын для мукі, вінны прэс і

алейны прэс і фрагмэнт тэксту з Бібліі на ангельскай мове. Гэтыя тры віды ежы можна лічыць асноўнымі прадуктамі харчаваньня ізраільцян у біблейскія часы. Чалавек, які меў усе гэтыя тры стравы, лічыўся дабраславёным, адсюль і іх месца ў старажытнагабрэйскім набажэнстве ў храме: хлеб з мукі, Мэнора, асьветленая аліўкавым алеем і віно, якое вылівалася на алтар.

Пасьля разбурэньня Храма ў габрэйскім доме ўсталяваўся звычай падзякі за дабраславеньне зямлі. Тры асноўных стравы займаюць бачнае месца ў штотыднёвай цырымоніі прывітаньня суботы: дабраслаўляюцца суботні хлеб, запальваюцца сьвечкі (раней лямпы з аліўкавым алеем), п'ецца віно.

## Сьвята Тыдняў

Як штогадовыя ўрачыстасьці на Сьвята Пасхі былі прысьвечаны выхаду ізраільцянаў зь Егіпту, так атрыманьню на Сінаю Дзесяці Запаведзяў і Закону прысьвечана Сьвята Шавуот ці Сьвята Тыдняў. Сьвяткуецца яно на наступны дзень пасьля сямі поўных нядзель, якія праходзяць пасьля Сьвята Пасхі. Таму гэта Сьвята мае яшчэ назву Сьвята Пяцідзесятніцы. Прыпадае яно на травень або пачатак чэрвеня падчас збору ўраджаю збожжа ў Ізраілі, таму яшчэ мае назву «Дзень Зялёных Сьвят».

Тры маркі Ізраіля ў сэрыі 1971года прысьвечаныя Сьвяту Тыдняў і распрацаваныя ў выглядзе ілюстраваных габрэйскіх рукапісаў. На прывесцы кожнай маркі надрукавана назва Сьвята на ідыш, а вакол яе цытата на ангійскай мове. Гэтая ж цытата разьмешчана на самой марцы на габрэйскай мове.

На першай марцы і прывесцы словы: «І напісаў Майсей на скрыжалях словы Запавету, Дзесяціслоўе» (Выхад 34:28).

На другой марцы і прывесцы цытата: «Пачаткі пладоў зямлі тваёй прынось» (Выхад 23:19). Гэта напамін аб загадзе складаць ахвяру Богу з першых пладоў зямлі, якія зьбіраюцца вясной.




Сьвята Тыдняў. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1971 годзе

На трэцяй марцы і прывесцы цытата: «І сьвята сяміцаў спраўляй» (Выхад 34:22). Гэты загад выконваецца і цяпер, бо Сьвята Тыдняў, як і Сьвята Пасхі і Сьвята Намётаў — найважнейшыя ў рэлігіі габрэйскай.

Сьвята Шавуот выказвае глыбокую ідэю аб тым, што фізычнае вызваленьне ад рабства і нават заваёва палітычнай свабоды не маюць асаблівага значэньня да таго часу, пакуль не дасягнутая Свабода духоўная, заснаваная на прызнаньні адзінай улады — улады Усявышняга і яго Запаветаў.

Менавіта на Сьвята Тыдняў, якое сьвяткавалі Апосталы ў Вячэрніку, адбылося Спасланьне Духа Сьвятога. Бог, які даў ізраільцянам Закон на Сінаю, абдараваў вучняў Ісуса сілаю, робячы іх

здольнымі да мужнага вызнаньня веры і выкананьня сваёй місіі, надаць сэнс жыцьця ўсім народам.




Спасланьне Сьвятога Духу. Алтар Віта Ствоша. Касьцёл Усьпеньня Найсьвяцейшай Дзевы Марыі, Кракаў. Марка пошты Польшчы, выдадзеная ў 1960 годзе

## Уваход у Зямлю Абетаваную

### Дабраславеньне Ісусу Навіну

*Будзь цьвёрды і мужны; бо ты народу гэтаму перадаеш у валоданьне зямлю, якую Я прысягаўся бацькам іхнім даць ім... (Ісус Нав 1:6).*

Ісус Наваў, сын Наваў, паходзіў з магутнага калена Яфрэма і быў з юнацтва асабістай даверанай асобай Майсея і яго верным сябрам. Гасподзь выбраў яго пераемнікам Майсея ў якасьці правадыра сыноў Ізраілевых. «І сказаў Гасподзь Майсею: вазьмі сабе Ісуса, сына Нава, чалавека, у якім ёсьць Дух, і пакладзі на яго руку тваю, і пастаў яго перад Эліязэрам сьвятаром і перад усім супольствам, і дай яму настаўленьне перад вачыма іхнімі...» (Лікі 27:18,19).

Бліскучы воін, Ісус Наваў рана стаў камандуючым Ізраільскімі войскамі і сваёй тактычнай доблесьцю неўзабаве перамог амалікіцян. Яго мудрасьць, аднак, не абмяжоўвалася ваеннымі пытаньнямі, бо ён хутка разьвіў у сабе якасьці дзяржаўнага дзеяча, выканаўшы ўскладзены на яго Боскі давер. Аднак толькі пасьля сьмерці Майсея і падыходу да зямлі Ханаанскай Гасподзь даў Ісусу сваё дабраславеньне.

У 1982 годзе пошта Ізраіля выпусьціла сэрыю з чатырох марак, прысьвечаную дзейнасьці Ісуса Навіна. На малюнку першай маркі бачым Ісуса Навіна перад Ізраільскім народам.




Перад Зямлёй Абетаванай. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1982 годзе

На прывесцы першай маркі словы Бібліі: «Будзь цьвёрды і мужны; бо ты народу гэтаму перадаеш у валоданьне зямлю, якую Я прысягаўся бацькам іхнім даць ім...» (Ісус Нав 1:6).

Калі Майсей памёр, Гасподзь зьявіўся Ісусу і сказаў: «Майсей, раб Мой, памёр;

дык вось, устань, перайдзі цераз Ярдан гэты і ўвесь народ гэты, у зямлю, якую Я даю ім, сынам Ізраілевым. Любое месца, на якое ступяць ступакі ног вашых, Я даю вам, як Я сказаў Майсею ад пустыні і Лівана гэтага да ракі вялікай, ракі Еўфрата, усю зямлю Хэтэяў; і да вялікага мора на захад сонца будуць межы вашыя. Ніхто ня ўстоіць перад табою: не адступлюся ад цябе і не пакіну цябе. Буду цьвёрды і мужны; бо ты народу гэтаму перадаеш у валоданьне зямлю, якую Я прысягаўся бацькам іхнім даць ім; толькі будзь цьвёрды і вельмі мужны, і старанна захоўвай і выконвай увесь закон, які наказаў табе Майсей, раб Мой; ня ўхіляйся ад яго ні направа, ні налева, каб чыніць разумна ва ўсіх пачынаньнях тваіх» (Ісус Нав 1:2—7).

### Пераход Ярдана па сухой зямлі

Першым лёсавызначальным учынкам Ісуса Навіна пасьля прыняцьця ўлады Майсея быў пераход Ярдану. Напярэдадні пераходу Ярдану Бог сказаў Ісусу Навіну: «у гэты дзень Я пачну праслаўляць цябе на вачах ва ўсяго Ізраіля, каб яны ўведалі, што як Я быў з Майсеем, так буду і з табою...» (Ісус Нав 3:7).

Загадаўшы сьвятарам, паводле слова Госпада, несьці Каўчэг Запавету перад Ізраільцянамі да ракі, Навін загадаў ім спыніцца на імгненьне, як толькі іх ногі закрануць вод Ярдану. Тады Ісус Навін прарочыў: «І як толькі ступакі ног сьвятароў, што нясуць Каўчэг Госпада, Уладара ўсёй зямлі, ступяць у ваду Ярдана, вада Ярданская высахне, а вада, якая цячэ зьверху, спыніцца сьцяною» (Ісус Нав 3:13).

Пасьля таго як народ перайшоў праз асушанае рэчышча ракі, Ісус Наваў выбраў дванаццаць чалавек, па адным ад кожнага племені, і распавёў ім аб Божай Запаведзі: «вазьмеце сабе адсюль, зь сярэдзіны Ярдана, дзе стаялі ногі сьвятароў нерухома, дванаццаць камянёў, і перанясеце іх з сабою, і пакладзеце іх на начлезе, дзе начавацьмеце гэтай ночы» (Ісус Нав 4:3).




Каўчэг Запавету пераносіцца праз Ярдан. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1982 годзе

На прывесцы маркі словы Бібліі: «Скажэце сынам вашым: „Ізраіль перайшоў празь Ярдан гэты па сухім“...» (Ісус Нав 4:22).

Камяні пазьней былі ўстаноўленыя ў Галгале, першым лягеры за ракой, як вечны помнік. «Калі спытаюцца ў вас у будучым сыны вашыя і скажуць: „навошта ў вас гэтыя камяні?“ вы скажаце ім: „у памяць таго, што вада Ярдана падзялілася перад Каўчэгам Запавету Госпада; калі ён пераходзіў празь Ярдан, тады вада Ярдана падзялілася“; такім чынам камяні гэтыя будуць сынам

Ізраілевым помнікам навекі» (Ісус Нав 4:6,7).

### Падзеньне сьцен Ерыхону

Перабраўшыся праз Ярдан, ізраільцяне разьмясьціліся табарам у Галгале непасрэдна на ўсход ад агароджанага сьценамі горада Ерыхон і адсьвяткавалі там Пасху. Ерыхон быў пабудаваны сярод пальмаў на ўрадлівай і багатай вадой зямлі і непрыступны.

Але Гасподзь зноў загаварыў з Ісусам: «Вось, Я аддаю ў рукі твае Ерыхон і цара яго, і магутаў ягоных; ідзеце вакол горада ўсе здольныя ваяваць і абыходзьце горад адзін раз; і рабі гэтак шэсьць дзён; і сем сьвятароў няхай нясуць сем труб юбілейных перад каўчэгам; а на сёмы дзень абыдзеце горад сем разоў, і сьвятары няхай трубяць у трубы; калі затрубіць юбілейны рог, калі пачуеце гук трубы, тады ўвесь народ няхай гукне моцным голасам, і гарадзкі мур абваліцца да зямлі, і народ пойдзе кожны са свайго боку» (Ісус Нав 6:1—4).




Падзеньне сьцен Ерыхону. Фрэдэрык Лейтан (1830—1896). Пэрсанальная марка, выдадзеная поштай Ізраілю ў 2014 годзе

«На сёмы дзень усталі рана, як толькі занялася зара, і абышлі такім самым чынам вакол горада сем разоў; толькі ў гэты дзень абышлі сем разоў» (Ісус Нав 6:14). Тады Навін загадаў народу закрычаць. «Народ закрычаў, і затрубілі ў трубы. Як толькі пачуў горад голас трубы, усклікнуў народ гучным і моцным голасам, і абваліўся мур да самай зямлі, і народ пайшоў у горад, кожны са свайго боку, і ўзялі горад» (Ісус Нав 6:19).




Сьцены Ерыхона падаюць. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1982 годзе

На прывесцы маркі словы Бібліі: «...усклікнуў народ гучным і моцным голасам, і абваліўся мур да самай зямлі...» (Ісус Нав 6:19).

Ерыхон быў цалкам зьнішчаны. Усе каштоўнасьці былі зьмешчаны ў скарбніцу, а жывёлы, мужчыны, жанчыны і дзеці былі забітыя. «А Рааў блудніцу і дом бацькі яе і ўсіх, хто ў яе быў, Ісус пакінуў жывых, і яна жыве сярод Ізраіля да сёньня, бо яна схавала пасланцаў, якіх пасылаў Ісус на агледзіны Ерыхона» (Ісус Нав 6:24).

Абвал муроў Ерыхону намаляваны на полі блёку пошты Экватарыяльнай Гвінэя, з маркай, прысьвечанай Самсону. На полі блёку тэкст: «А народу Ісус даў загад і сказаў: ня гукайце і не давайце чуць голасу вашага, і каб слова ня выходзіла з вуснаў вашых да таго дня, пакуль я не скажу вам: „выгукніце!“ і тады гукнеце» (Ісус Нав 6:9). Ніжэй: «Сьцены Ерыхона былі зрынуты».




Самсон. Біблія. Блёк пошты Экватарыяльнай Гвінэі, выпушчаны ў 2011 годзе

Сучасны стан Ерыхону.




Ерыхон. Картмаксімум з маркай пошты Чаду, выдадзенай у 1999 годзе

Археалягічныя раскопкі выкрылі працяглую гісторыю Ерыхону, як аднаго з першых паселішчаў у сьвеце, якое датуецца прыблізна 9000 годам да Р. Х. На марцы, надрукаванай у Чадзе ў выпуску «Цуды забытых культур», паказана тое, што засталося ад Ерыхону.

**Бітва з Амарэямі**

Біблейскі вобраз старажытных габрэяў зусім не прывабны. Іх самым відочным недахопам было частае ўпаданьне ў пакланеньне ідалам, на што значна ўплывалі народы Ханаана. Каб захаваць веру ў адзінага Бога, трэба было пазбавіцца ад спакусьлівых народаў−суседзяў. Хіба толькі так можна зразумець ваяўнічую маральнасьць, якую прапаведуе Стары Запавет: «А ў гарадах гэтых народаў, якія Гасподзь, Бог твой, дае табе ў валоданьне, не пакідай жывымі ніводнай душы, а пракляні іх: Хэтэяў і Амарэяў, і Хананэяў і Фэрэзэяў, і Габрэяў і Эвусэяў, як загадаў табе Гасподзь, Бог твой, каб яны не навучылі вас рабіць такія самыя мярзоты, якія яны рабілі дзеля багоў сваіх, і каб вы не грашылі прад Госпадам, Богам вашым» (Другі закон 20:16—18).

Чацьвёртая марка сэрыі, прысьвечанай дзейнасьці Ісуса Навіна, зьяўляецца ілюстрацыяй Бітвы з Амарэямі.

«І сказаў Гасподзь Ісусу: ня бойся іх, бо Я аддаў іх у рукі табе: ніхто зь іх ня ўстоіць перад абліччам тваім. І прыйшоў на іх Ісус раптоўна, бо ўсю ноч ішоў ён з Галгала. Гасподзь наслаў на іх разгубленасьць, калі ўбачылі Ізраільцянаў, і яны пабілі іх у Гаваоне моцным разгромам, і гналі іх па дарозе да ўзвышшаў Вэтарона, і білі іх да Азэка і да Македа» (Ісус Нав 10:8—10). Але дзень канчаўся, а во-

раг ня быў да канца разгромлены. І тады Ісус Навін памаліўся Богу, каб сонца не заходзіла да заканчэньня бітвы: «Ісус заклікаў Госпада ў той дзень, у які аддаў Гасподзь Амарэяў у рукі Ізраілю, калі пабіў іх у Гаваоне, і яны былі пабітыя перад абліччам сыноў Ізраілевых, і сказаў перад Ізраільцянамі: стой, сонца, над Гаваонам, і месяц, над далінаю Аялонскаю!» (Ісус Нав 10:12).




Бітвы з Амарэямі. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1982 годзе

На прывесцы маркі словы Бібліі: «Стой, сонца, над Гаваонам, і месяц, над далінаю Аялонскаю!» (Ісус Нав 10:12).

«І спынілася сонца, і месяц стаяў, пакуль народ помсьціў ворагам сваім. Ці ж ня гэта напісана ў кнізе Справядлівага: стаяла сонца сярод неба і не сьпяшалася на захад амаль цэлы дзень? І ня было такога дня ні раней, ні пасьля таго, у які Гасподзь слухаў бы голас чалавечы. Бо Гасподзь змагаўся за Ізраіля» (Ісус Нав 10:13,14).

Хрысьціянскі абразок з тэракоты адлюстроўвае выявы Ісуса Навіна і Халева і ілюструе эпізод Кніга Ісуса Нава, паказваючы момант, калі Ісус Навін спыняе Сонца над Гаваонам і месяц над далінаю Аялонскаю перад вялікай перамогай ізраільцян над амарэямі. Гэты абразок — адно з найважнейшых археалягічных адкрыцьцяў на тэрыторыі Македоніі.




Ісус Навін і Халеў. Абразок (6—7 ст.). Марка пошты Македоніі, выдадзеная ў 1996 годзе

Пасьля заканчэньня войнаў Ісус Навін падзяліў Запаветную зямлю паміж 12-ю каленамі ізраільскімі і памёр ва ўзросьце 110 гадоў, наказаўшы народу захоўваць Закон Майсееў. «І пахавалі яго ў межах яго надзелу ў Тамнат-Сараі, што на гары Яфрэмавай, на поўнач ад гары Гааша» (Ісус Нав 24:30).

## Сьвята Намётаў

Сорак гадоў працягвалася вандроўка Ізраільцян зь Егіпту да Зямлі Абетаванай. За гэты час вымерла пакаленьне,

якое выйшла зь няволі і нарадзілася, вырасла і захавалася новае пакаленьне. Падчас вандраваньня Бог цярпліва і настойліва зьмяняў люд нявольнікаў у сьвядомы таго, кім насамрэч ёсьць і быць павінны народ. Гэтаму доўгаму падарожжу штогод прысьвячаецца і адзначаецца Сьвята Намётаў. Па — габрэйску Сьвята называецца Суккот, што значыць Палаткі ці Намёты.

Гэтаму Сьвяту пошта Ізраілю прысьвяціла не адно выданьне. Пяцімарачная сэрыя, прысьвечаная Суккоту, выдадзена поштай Ізраілю ў 1971 годзе.




Сьвята Намётаў. «І радуйся ў Сьвята тваё» (Другі закон 16:14). «У намётах жывеце сем дзён» Лявіт 23:42). Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1971 годзе

На прывесках тэкст на габрэйскай і ангельскай мовах. Поўны тэкст верша: «і радуйся ў сьвята тваё ты і сын твой і дачка твая, і раб твой і рабыня твая, і лявіт і прыхадзень, і сірата і ўдава, якія ў селішчах тваіх...» (Другі закон 16:14).

Згодна з гэтым наказам ізраільцяне робяць сымбалічныя намёты ў двары, а, нават, на бальконе ці ў вакне... У намётах прымаюць гасьцей, спажываюць ежу і сьпяць. Тым самым не зьнікае сувязь паміж продкамі, якія вандравалі па пустыні, і наступнымі пакаленьнямі.

Цудоўна ілюструе гэта марка з сэрыі «Успаміны дзяцінства».




Успаміны дзяцінства. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 2015 годзе

«Успаміны дзяцінства. Як толькі Ём Кіпур скончыўся, у гэты вечар усе дзеці пачыналі будаваць Сукку на падворку ці на бальконе, сьпяваючы песьню: „Цьвік, малаток, нам дапамог, Сукку будаваць і хлопчыкам, дзяўчынкам разам песьню сьпяваць! Ля, ля ля...“ „Суккот — час нашай радасьці“ — гэтыя словы былі ўпісаны ў нашы сэрцы і сьвядомасьць» Доктар Дов Герман. Ём-Кіпур — Дзень адкупленьня — у юдаізьме самае важнае са сьвятаў, дзень посту, пакаяньня і адпушчэньня грахоў. Адзначаецца ў дзясяты дзень месяца тышрэй, завяршаючы Дзесяць дзён пакаяньня.

Шмат правілаў вызначаюць, як Сукка павінна быць пабудавана і як яна павінна быць пакрытая галінкамі... Звычайна ўся сям'я ўдзельнічае ў будаўніцтве і ўпрыгожваньні Суккі. «Каб ведалі роды вашыя, што ў намётах пасяліў Я сыноў

Ізраілевых, калі вывеў іх зь зямлі Егіпецкай» (Лявіт 23:43).




Будаўніцтва Суккі. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 2017 годзе

На трэцяй марцы з сэрыі 1971 года словы: «Кожны тубылец Ізраільцянін павінен жыць у намёце…» (Лявіт 23:42).




Суккот. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1971 годзе

На чацьвёртай марцы тэкст з Бібліі падкрэсьлівае сувязь Сьвята Суккот з земляробствам: «Калі вы зьбіраеце творы зямлі…» (Лявіт 23:39).

У Палестыне толькі дзьве пары года: сухая і дажджлівая. І ў дажджлівую пару трэба назапасіць ваду, без якой немажлівы ўраджай. Таму вада называецца «хэрака» = дабраславеньства. Дождж лічыцца канкрэтным выразам дабраславеньня Госпада, які забясьпечвае далейшае існаваньне і бясьпеку. «Дык Я дам вам дажджы ў свой час…» (Лявіт 26:4) — напісана на пятай марцы.

Сьвятарскае дабраслаўленьне каля Заходняй сьцяны падчас Суккоту.




Сьвятарскае дабраслаўленьне падчас Суккоту. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 2005 годзе

На прывесцы намаляваныя рукі коэна, з зложанымі згодна з Законам пальцамі, пры Сьвятарскім дабраслаўленьні. (Коэны — Сьвятары з роду Аарона).

Тора загадвае сьвятару Аарону і яго нашчадкам дабраслаўляць ізраільцян так: «Хай дабраславіць цябе Гасподзь і

захавае цябе! хай паглядзіць на цябе Гасподзь сьветлым тварам Сваім і ўмілажаліцца зь цябе! хай паверне Гасподзь твар Свой да цябе і дасьць табе спакой!» (Лікі 6:24—26).

У час ранішняй малітвы Сьвята Суккот дабраслаўляюцца чатыры віды расьлін, якія згадваюцца ў Торы і маюць дачыненьне да Суккот: «...у першы дзень вазьмеце сабе галінкі прыгожых дрэў, галінкі пальмавыя і галінкі дрэў шыракалістых і вербаў рачных, і весялецеся прад Госпадам» (Лявіт 23:40).




Сукккот. Нашэньне Лулаў. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 2012 годзе

Гэты звычай называецца «нашэньне Лулаў» (пальмавых галінак), таму што пальмавая галінка зьяўляецца самай вялікай і найбольш прыкметнай сярод чатырох відаў ужытых расьлін.

Чатыры віды расьлін, над якімі зьдзяйсьняецца дабраславеньне Суккот, этрог (цытрон), лулаў (галінка фінікавай пальмы), хадас (міртавыя галінкі) і арава (галінкі вярбы) пад белай зоркай Давіда ўпрыгожваюць марку Ізраілю з той асаблівасьцю, што прывеска маркі разьмешчана збоку. На прывесцы біблейскі верш: «...сьвяткуй, Юдэя, Сьвяты твае» (Навум 1:15).




Чатыры віды расьлін. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1950 годзе

У канцы Суккота адзначаецца Сімхат Тора — «Радасьць Торы» — адно з самых вясёлых габрэйскіх Сьвятаў.




Другі Акафот. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 2017 годзе

У сынагогах ладзяць Акафот — урачыстае шэсьце са скруткамі Торы вакол узвышэньня ў цэнтры сынагогі, на якім чытаецца Тора. Акафот суправаджаецца танцамі і ўсеагульнай радасьцю, якімі габрэі выказваюць веру і любоў да Твор-

цы. Падчас Акафоту Ізраільцяне выказваюць сваю салідарнасьць з габрэямі, якія жывуць у краінах расьсейваньня і пачынаюць сьвяткаваць Сімхат Тору як раз у гэты час. «Другі Акафот» ладзяць таксама на гарадзкіх плошчах і ў іншых публічных месцах. Моладзь захоплена сьпявае «Народ Ізраіля жывы!».

Штогадовае Сьвята Намётаў гэта ня толькі ўдзячнасьць за прысутнасьць і дапамогу Бога, але і нагода да просьбы працягваць гэтую дапамогу ў тым ліку праз дабраславенства для зямлі.

## «Шма, Ісраэль» — «Слухай, Ізраіль»

> *Слухай, Ізраіле: Гасподзь, Бог наш, Гасподзь адзіны ёсьць; і любі Госпада, Бога твайго, усім сэрцам тваім і ўсёю душою тваёю і ўсімі сіламі тваімі. І хай будуць словы гэтыя, якія Я наказваю табе сёньня, у сэрцы тваім; і перадавай іх дзецям тваім і кажы пра іх, седзячы ў доме тваім і йдучы дарогаю, і кладучыся і ўстаючы... (Другі закон 6:4—7)*

Падчас падарожжа па пустыні Майсей з дапамогай Бога цярпліва пераўтвараў людзей з нявольнікаў і ўцекачоў у сапраўдны народ, які пазнаваў, кім ён ёсьць і якія яго абавязкі перад Богам. Гэта было складана, бо гады несвабоды прывучылі да пакоры, боязьні і страху, а вольнасьць, якую атрымалі, вымагала адказнасьці і зьмяненьня. Толькі дзякуючы ўнутранаму зьмяненьню, асэнсаваньню, што значыць быць вольным, чалавек становіцца вольным у выбары і набывае здольнасьць змагацца за дабро супраць зла. І гэта было самае цяжкае заданьне, цяжэйшае за за ўсе небясьпекі доўгага падарожжа па пустыні. Толькі вера ў адзінага Бога магла дапамагчы ў гэтым і гарантавала Божую дапамогу, каб папярэдзіць спакусу стаць такімі, як іншыя людзі, якія пакланяліся ідалам і жылі ў распусьце. У Кнізе Другі Закон запісаныя напаміны і заклікі да вернасьці адзінаму Богу. Іх сарцавінай ёсьць такое вызнаньне веры: «Слухай, Ізраіле: Гасподзь, Бог наш, Гасподзь адзіны ёсьць...» (Другі закон 6:4). Па — гэбрэйску першыя словы гучаць так: «Шма, Ісраэль» — «Слухай, Ізраіль». «Слухай, Ізраіле: Гасподзь, Бог наш, Гасподзь адзіны ёсьць...» (Другі закон 6:4). Гэта найбольш базавы выраз усёй веры габрэйскага народу. Знойдзем у ім усё, што сапраўды найважнейшае: заклік да паслушэнства Богу («слухай»), напамін, кім ёсьць Богам абраны народ і якая яго годнасьць («Ізраіль»), імя Бога Яхве, якое габрэі не вымаўляюць, заменена словам «Гасподзь», прызнаньне прыналежнасьці да Бога («Бог наш») і прызнаньне Яго адзінасьці («адзіны ёсьць»). Гэтаму найважнейшаму вызнаньню веры прысьвечана марка Ізраіля, выданая для ўшанаваньня Герояў і Мучанікаў вынішчэньня габрэяў, дакананага падчас II Сусьветнай вайны.

Паказаны на марцы пламень агню ўтвораны з габрэйскіх літар першых слоў вызнаньня веры «Шма Ізраіль». Яго колеры напамінаюць пра полымя крэматорыяў у лягерах сьмерці, дзе гінулі габрэі з гэтым вызнаньнем веры на губах. Гэтыя самыя словы на габрэйскай і ан-

глійскай мовах надрукаваныя на прывесцы маркі.




Слухай, Ізраіль. Марка пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1962 годзе

Шма Ізраіль — гэта найважнейшая габрэйская малітва, наказаная непасрэдна Торай. Яна складаецца з трох урыўкаў з Торы: Другі Закон 6: 4—9, 11: 13—29 і Лікі 15: 37—41.

Паводле Біблейскага наказу (Другі Закон 6,7), яна зьяўляецца неад'емнай часткай ранішняй малітвы (Шахарыт) і вячэрняй малітвы (Маарыў); звычай яе адмаўленьня называецца «чытаньне Шма» (Кір'ят Шма).

Габрэйская нацыя ў Ізраілі і за яе межамі ніколі не забудзе ні пра Галакост, ні пра гераізм тых, хто падняўся на абарону Ізраіля. 27-ы дзень Нісана быў усталяваны законам Кнесэта (парлямэнту Ізраіля) як Дзень памяці мучанікаў і герояў. У гэты дзень нацыя памятае ахвяр Галакосту і герояў, якія ахвяравалі сваім жыцьцём, асьвячаючы імя Ізраіля. Гэтаму прысьвечана другая марка пошты Ізраіля з гэтай сэрыі.




Такіх я памятаю. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1962 годзе

На прывесцы гэтай маркі напісана: «Такіх я памятаю» (Псальмы 42: 5). У беларускім перакладзе: «Калі ўспамінаю пра гэта» (Псалтыр 42:5).

Ушанаваньне 1,5 мільёна дзяцей, чые жыцьці былі «выкінутыя» ў Халакост…




Халакост. Дзеці. Марка пошты Канады, выдадзеная ў 1995 годзе

# Час судзьдзяў

## Ізраільскія судзьдзі

*І ставіў Гасподзь судзьдзяў, якія ратавалі іх ад рук рабаўнікоў іхніх… (Кніга Судзьдзяў 2:16)*

На працягу 450 гадоў пасьля прыходу ў Ханаан Ізраільцяне ня мелі адзінай улады. Кожнае калена мела сваіх старэйшын і сьвятароў. «У тыя дні ня было цара ў Ізраіля; кожны рабіў, што яму здавалася правільным» (Кніга Судзьдзяў 17:6). Увесь народ лучыла толькі вера ў адзінага Бога, якая ўвесь час спакушалася з боку суседніх народаў. Ізраільцяне многа ваявалі, як з суседнімі народамі, так і паміж сабою, пападалі ў залежнасьць, стамляліся і ўпадалі ў ідалапаклонства. Бог наказваў Свой народ, але і дапамагаў, вылучаючы «судзьдзяў, якія ратавалі іх ад рук рабаўнікоў іхніх…». Усіх судзьдзяў у гісторыі Ізраільцян было дванаццаць. Пасьля судзьдзямі былі яшчэ першасьвятар Ільля і прарок Самуіл.

## Дэвора

*Не засталося насельнікаў у селішчах у Ізраіля, ня стала, пакуль не паўстала я, Дэвора, пакуль не паўстала я, маці ў Ізраілі. (Кніга Судзьдзяў 5:7)*

Дэвора («пчала»), жонка Лапідота, адзіная жанчына — судзьдзя Ізраілю. Прарочыца і аўтар вытанчаных вершаў, яна праславілася сярод судзьдзяў, сваімі рашэньнямі прыблізна ў 1250 г. да Р.Х. «Яна жыла пад Пальмаю Дэворынаю, паміж Рамаю і Вэтылем, на гары Яфрэмавай; і прыходзілі да яе сыны Ізраілевыя на суд» (Кніга Судзьдзяў 4:5).




Прарочыца Дэвора і пераможная бітва. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1975 годзе

У часы Дэворы народ Ізраільскі знаходзіўся пад прыгнётам Явіна, «цара Ханаанскага, які цараваў у Асоры; военачальнікам у яго быў Сісора». Дэвора заклікала воіна Варака ад імя Бога ўсту-

піць у бітву з войскам Сісары, у якога было дзевяцьсот калясьніц, на гары Фавор. Адказ Варака паказвае, якое значэньне надавалі прарокам у той час: «Варак сказаў ёй: калі ты пойдзеш са мною, пайду; а калі ня пойдзеш са мною, не пайду» (Кніга Судзьдзяў 4:8).

«Пайсьці пайду з табою; — згадзілася Дэвора, але яна не абмінула паказаць несправядлівасьць палавой дыскрымінацыі, якая панавала ў асяродзьдзі Варака. — Толькі не табе ўжо будзе слава на шляху гэтым, куды ты ідзеш; а ў рукі жанчыне аддасьць Гасподзь Сісару» (Кніга Судзьдзяў 4:9).

Бітва адбылася ў сэзон дажджоў і калясьніцы Сісары заселі ў гразі. Варак атрымаў перамогу.

Песьня пра перамогу Дэворы і Варака, запісаная ў 5 разьдзеле Кнігі Судзьдзяў, вядомая ўжо больш за 3000 гадоў.

«Таго дня засьпявалі Дэвора і Варак, сын Авінаамаў, такімі словамі: Ізраіль адпомшчаны, народ паказаў руплівасьць, праслаўце Госпада! Слухайце, цары, уважайце, вяльможы: я Госпаду сьпяваю, я граю, Богу Ізраілеваму» (Кніга Судзьдзяў 5:1—3).

Гімн хвалы і падзякі Госпаду зьяўляецца высокамастацкім творам. Заканчваецца песьня Дэворы словамі; «Так няхай прападуць усе ворагі Твае, Госпадзе! а хто любіць Яго, няхай будзе, як сонца, што ўзыходзіць у поўнай моцы сваёй! — І сьцішылася зямля на сорак гадоў» (Кніга Судзьдзяў 5:31).

Сісара ўцякаў пешшу і знайшоў прытулак у намёце Яілі, жонкі Хэвэра Кенэяніна: бо паміж Явінам, царом Асорскім, і домам Хэвэра Кенэяніна быў мір. Яіль вітала Сісару. Ён папрасіў вады, і яна дала яму малака; калі ён заснуў пасьля бою, «Яіль, жонка Хэвэрава, узяла кол ад намёта, і ўзяла малаток у руку сваю, і падышла да яго ціхенька, і ўбіла кол у скроню яму так, што прыкалола да зямлі; а ён спаў стомлены і памёр» (Кніга Судзьдзяў 4:21).




Яіль і Сісара. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 2007 годзе

«Хай будзе дабраславёная сярод жанчын Яіль, жонка Хэвэра Кенэяніна, сярод жанчын у намётах хай будзе дабраславёная!» (Кніга Судзьдзяў 5:24).

## Гедэон

*І сказаў яму Гасподзь: Я буду з табою, і ты паб'еш Мадыяніцянаў, як аднаго чалавека. (Кніга Судзьдзяў 6:16)*

Сорак спакойных гадоў кіраваньня Дэворай скончыўся і ізраільцяне моцна

цярпелі ад уварваньняў Мадыяніцян, Амалікіцян і іншых качавых плямёнаў з усходу ад Ярдану. Яны зьяўляліся кожны раз у мірныя вёскі ў той час, калі пачыналася жніво. «І зьнішчаюць створанае зямлёю да самай Газы, і не пакідаюць на пракорм Ізраілю ні авечкі, ні вала, ні асла» (Кніга Судзьдзяў 6:4). Зьнішчалі, рабавалі і забівалі, а потым хутка адступалі за раку.

Біблія апавядае, як Гедэона, пакуль ён «малаціў тады пшаніцу ў чавільні, каб схавацца ад Мадыяніцянаў» наведаў Анёл. Анёл загадаў Гедэону «развалі ахвярнік Ваала, які ў бацькі твайго, і сьсячы сьвяшчэннае дрэва, якое каля яго...» (Кніга Судзьдзяў 6:25).

На марцы відарыс Ваала з стэлы, знойдзенай у старажытным горадзе Угарыце. Ваал трымае ў правай руцэ зброю, а ў левай — маланку ў форме квітнеючай дзіды.




Ваал. Марка, выдадзеная Палестынскай адміністрацыяй у 1998 годзе

Гедэон зьнішчыў ахвярнік Ваала і распаліў ахвярны агонь, а потым паставіў на тым самым месцы алтар.

Анёл «сказаў: ідзі з гэтаю сілаю тваёю і выратуй Ізраіля ад рукі Мадыяніцянаў; Я пасылаю цябе» (Кніга Судзьдзяў 6:14). «Гедэон сказаў яму: гаспадару мой! калі Гасподзь з намі, дык чаму спасьцігла нас усё гэта? і дзе ўсе цуды Ягоныя, пра якія расказвалі нам бацькі нашыя, кажучы: „зь Егіпта вывеў нас Гасподзь“? цяпер пакінуў нас Гасподзь і аддаў нас у рукі Мадыяніцянам» (Кніга Судзьдзяў 6:13).

Гедэон падвергнуў сумневу той факт, што Бог быў зь Ізраілем, улічваючы, якія напаткалі іх бедзтвы. І ўсё ж праблема была не ў тым, што Бог не быў зь імі, а ў тым, што яны не былі з Богам.

Тым часам мадыяніцяне зьбіраліся ў даліне Ізрээльскай. Гедэон сабраў армію ў 32 тысячы, маючы намер напасьці на ворага. Але Бог хацеў, каб Ізраільцяне ўбачылі, што Ён — БОГ, Бог, здольны даць перамогу, якім бы шматлікім ні быў вораг. Таму ён загадаў Гедэону скараціць войска. Загадана было Гедэону, каб прывёў войска да вады і назіраў, як хто будзе піць.

«І было тых, што хлябталі ротам сваім з рукі трыста чалавек; а ўвесь засталы народ кленчыў і піў ваду. І сказаў Гасподзь Гедэону: трыма сотнямі тых, што хлябталі, Я выратую вас і аддам Мадыяніцянаў у рукі вашыя, а ўвесь народ няхай ідзе кожны ў сваё месца» (Кніга Судзьдзяў 7:6,7).

Гедэон ноччу рушыў у атаку на шматлікага ворага з трымастамі воінамі, узброенымі... трубамі, сьвяцільнямі і збанамі. «І затрубілі тры атрады ў трубы, і разьбілі збаны, і трымалі ў левай руцэ сьвяцільні, а ў правай руцэ трубы, і трубілі, і крычалі: меч Госпада і Гедэона!» (Кніга Судзьдзяў 7:20). Трыста паходняў раптоўна засьвяціліся вакол ля-

гера, заблытаўшы Мадыяніцянаў, якія ў паніцы пачалі ўцякаць.

Перамога над вялізным войскам трымастамі воінамі была забясьпечаны ўзаемадзеяньнем Бога і Гедэона, як выканаўцы Яго задум.




Перамога Гедэона. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1975 годзе

«Так упакорыліся Мадыяніцяне сынам Ізраіля і не падымалі ўжо галавы сваёй, і сьцішылася зямля на сорак гадоў у дні Гедэона» (Кніга Судзьдзяў 8:28).

«І што яшчэ скажу? Ня хопіць мне часу, каб распавядаць пра Гедэона, пра Варака, пра Самсона і Яфая, пра Давіда, Самуіла і (іншых) прарокаў...» (Да Габрэяў 11:32).

## «Ефтай Галаадыцянін быў чалавек адважны...»

*Не вымаўляй імя Госпада, Бога твайго, марна, бо Гасподзь не пакіне без пакараньня таго, хто вымаўляе імя Яго марна. (Выхад 20:7)*

«Дачка Ефтая» — гэта адна з карцін, якую Дега напісаў па Біблейскім сюжэце. У ім гаворыцца аб тым, што жыў у дзясятым стагодзьдзі да Р.Х. судзьдзя, які быў дзявяты па ліку ў Ізраілі. Ён таксама быў военачальнікам. Народжаны ён быў ад маці блудніцы. Калі яго зводныя браты адмовілі яму ў спадчыне, ён кінуў усё і пайшоў жыць у Пустыню Тав. Там ён зьвязаўся з шайкай і стаў іх правадыром. Але яго душа балела за радзіму, якая пакутавала ад прыгнёту аманіцянаў. Не вытрымаўшы гэтага прыгнёту, народ Ізраіля вырашыў зьвярнуцца да Ефтая і папрасіць аб дапамозе. «Старэйшыны Галаадскія сказалі Ефтаю: таму мы цяпер прыйшлі да цябе, каб ты пайшоў з намі і біўся з Аманіцянамі і быў у нас за правадыра ўсім жыхарам Галаадскім» (Кніга Судзьдзяў 11:8). Па-ранейшаму пакрыўджаны, Ефтай пагадзіўся, але толькі пры ўмове, што калі «Гасподзь аддасьць мне іх, — дык ці застануся я ў вас за правадыра?» (Кніга Судзьдзяў 11:9). Старшыні абяцалі.

«І даў Ефтай абяцаньне Госпаду і сказаў: калі ты аддасі Аманіцян у рукі мае, дык, як вярнуся зь мірам ад Аманіцянаў, што выйдзе з варотаў дома насустрач мне, будзе Госпаду, і прынясу гэта на цэласпаленьне» (Кніга Судзьдзяў 11:30,31).

Неўзабаве перамогу атрымаў Ефтай, вызваліўшы народ Ізраіля.




Перамога Ефтая. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1975 годзе

Да няшчасьця, пасьля яго перамогі і вяртаньня на радзіму, першая істота, якая радасна пабегла яму насустрач, была яго любімая і мілая дачка, яго адзінае дзіцё. Ефтай распавёў сваёй дачцэ аб лёсавызначальнай клятве, якую яна паслухмяна прыняла і папрасіла затрымкі на два месяцы: «я пайду, узыду на горы і аплачу дзявоцтва маё зь сяброўкамі маімі» (Судзьдзяў 11:37).

«Як прайшло два месяцы, яна вярнулася да бацькі свайго, і ён выканаў над ёю абяцаньне сваё, якое даў, і яна ня зьведала мужа. І ўвайшло ў звычай Ізраіля, што кожны год дочкі Ізраіля хадзілі аплакваць дачку Ефтая Галаадыцяніна, чатыры дні ў год» (Кніга Судзьдзяў 11:39,40).

На марцы надрукаваны тэкст другой Запаведзі: «Не вымаўляй імя Госпада, Бога твайго, марна» (Выхад 20:7).




Дачка Ефтая (1859 — 1960). Эдгар Дэга (1834–1917). Мастацкі музэй каледжа Сміт, Нортхэмптан. Марка пошты Нікарагуа, выпушчаная ў 1971 годзе

Дадзены эпізод Бібліі выклікае шмат спрэчак, бо хрысьціянства забараняе ахвярапрынашэньне. Дасьледчыкі сьцьвярджаюць, што гэтую падзею трэба ўспрымаць інакш. Што Ефтай прынёс у ахвяру дачку, як паслушніцу. Яна служыла Богу і засталася цнатлівая.

## Самсон

*Ня хопіць мне часу, каб распавядаць пра Гедэона, пра Варака, пра Самсона і Яфая, пра Давіда, Самуіла і (іншых) пракокаў, якія верою перамагалі царствы… (Да Габрэяў 11:32,33)*

Вялікі галяндзкі мастак Рэмбрант прысьвяціў паданьню аб Самсоне пяць карцін, напісаных з 1629 па 1641 гады. Свой любімы матыў — зьяву людзям

анёла — Рэмбрант увасобіў у карціне «Ахвяраваньне Маноя». Бацькі Самсона, прасьветленыя і засяроджаныя, узносяць ахвяру на славу цудоўнага госьця. Анёл уздымаецца над полымем ахвярапрынашэньня. Узрушаныя Маной і жонка сьціскаюць рукі ў знак падзякі. На полі блёку бачым толькі жонку Маноя. Маноя і Анёла закрывае марка.




Ахвярапрынашэньне Маноя (1641). Рэмбрант. Карцінная галерэя, Дрэздэн. Блёк пошты Цэнтральна-Афрыканскай Рэспублікі, выдадзены ў 2011 годзе

Асілак Самсон — адзін з самых каларытных старазапаветных пэрсанажаў. Гісторыя Самсона, які лічыцца Ізраільскім судзьдзёй, на першы погляд, нагадвае грубаватую народную казку аб немудрагелістым разбойніку, якога цікавяць толькі бітвы ды жанчыны. Надзелены звышчалавечай сілай, Самсон у адзіночку змагаўся з ворагамі габрэяў — Філістымлянамі, але рабіў гэта, падобна, не дзеля высокай ідэі, а для ўласнага задавальненьня. Яго выхадкі не пазбаўленыя знаходлівасьці і жорсткага дзікаватага гумару. Каб адпомсьціць жыхарам Філістымскага горада Фімната, ён злавіў трыста лісіц, зьвязаў іх хвастамі, прычапіў да хвастоў паходні «і запаліў паходні, і пусьціў іх на жніво Філістымскае, і выпаліў капіцы і нязжаты хлеб, і вінаградныя сады і аліўкавыя» (Кніга Судзьдзяў 15:5).




Самсон. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1961 годзе

На марцы Самсон трымае ў руках факел і хвост лісы.

«І пайшоў Самсон з бацькам сваім і з маці сваёю ў Тымнату, і калі падыходзілі да вінаграднікаў Тымнаты, вось, малады леў рыклівы ідзе яму насустрач. І сышоў на яго Дух Гасподні, і ён разадраў ільва, бы казьляня; і ў руцэ ў яго нічога ня было. І не сказаў бацьку свайму і маці сваёй, што ён зрабіў» (Кніга Судзьдзяў 14:5,6). Голымі рукамі ён разарваў вялізнага льва, праз некалькі дзён паласаваўся мёдам з сот, якія зьявіліся ў шкуры забітага ім драпежніка, а потым даймаў гасьцей на балі невырашальнай загадкай: «зь

едака выйшла еднае, і з дужага выйшла салодкае».




Самсона, які забівае льва. Марка пошты Гвінэі, выдадзеная ў 2012 годзе

Зьдзяйсьняючы свае небывалыя подзьвігі, Самсон шчыра забаўляўся. Здаецца, што Самсон часта паводзіў сябе непасьлядоўна і нават заганна. Да прыкладу, ён, непрымірымы вораг Філістымлян, да жаху сваіх бацькоў, выварашыў ажаніцца на філістымлянцы.




Самсон і леў. Маляўнічы марачны лісток пошты Ізраілю з сэрыі «Біблейскія гісторыі», выдадзены ў 2010 годзе

Незвычайная перамога Самсонам над львом паслужыла тэмай для розных твораў мастацтва.




Фантан «Самсон, які разьдзірае пашчу льва». Пецяргоф. Марка пошты Расіі, выдадзеная ў 2003 годзе

Загадку пра выпадак з львом Самсон вырашыў выкарыстаць са значнай матэрыяльнай выгадай для сябе. Рэмбрант гэты выпадак абраў для сваёй наступнай карціны «Вясельле Самсона».




Вясельле Самсона (1638). Рэмбрант. Карцінная галерэя, Дрэздэн. Марка пошты Тога, выдадзеная ў 2019 годзе

Самсон, які сядзіць побач з нявестай, ашаламляе гасьцей невырашальнай загадкай аб пчолах і мёдзе ў ільвінай шкуры. Забытая жаніхом аслупянелая нявеста, захоплены задаваньнем загадкі трыццаці жаніхам Самсон і яго зьбянтэжаныя суразмоўцы, балбочуць госьці, цалуецца парачка на пярэднім пляне… Невырашальная загадка задавалася з выгадай. Калі б разгадалі яе, Самсон даў бы ім трыццаць штук прыгожай бя-

лізны і адзеньня, але калі б яны не змаглі разгадаць яе, то павінны былі даць яму трыццаць штук прыгожай бялізны і адзеньня.

Загадка ўяўляла сабой завуаляванае паведамленьне аб двух сустрэчах з львом, на якіх прысутнічаў толькі ён. Філістымляне былі разьюшаныя загадкай. Трыццаць жаніхоў сказалі новай жонцы Самсона, што яны спаляць яе і дом яе бацькі, калі яна не знойдзе адказу на загадку і не скажа ім. Самсон распавёў ёй пра рашэньне і яна паведаміла пра гэта трыццаці жаніхам і на сёмы дзень яны сказалі Самсону разгадку. На што Самсон паехаў у Ашкелон, дзе забіў трыццаць Філістымлянаў: «зьняў зь іх вопратку, і аддаў перамены вопраткі тым, што разгадалі загадку ягоную» (Кніга Судзьдзяў 14:19).

Праставаты рубака Самсон — але такі ж выбраньнік Усявышняга, як прабацькі Абрагам і Ісаак, як Прарок Майсей, як Ісус Навін павінен быў «ратаваць Ізраіля ад рукі Філістымлян» (Кніга Судзьдзяў 13:5), і ён пасьпяхова выконваў сваю місію. Ва ўсіх яго ўчынках меўся схаваны сэнс, бо Самсон быў назарэем (габрэй, якія даў пажыцьцёвае абяцаньне Богу і знаходзіўся пад яго апекаю). Да таго часу, пакуль Самсон захоўваў вернасьць абяцаньням, адно зь якіх — не стрыгчы валасоў, на яго ў вырашальныя моманты жыцьця сыходзіў «Дух Гасподні» і даваў яму цудоўную сілу. Каханая Самсона, Філістымлянка Даліла, тройчы спрабавала гэта выведаць і тройчы Самсон падманваў яе, разумеючы, чаго яна дамагаецца. Адзін з выпадкаў намаляваў Адоніс ван Дэйк. «І сказала Даліла Самсону: скажы мне, у чым вялікая сіла твая, і чым зьвязаць цябе, каб цябе ўпакорыць. Самсон сказаў ёй: калі зьвяжуць мяне сямю сырымі цяцівамі, якія ня высушаны, дык я зраблюся бясьсілы, і буду, як і астатнія людзі. І прынесьлі ёй уладцы Філістымскія сем сырых цяціваў, якія ня высахлі, і яна зьвязала яго імі. Тым часам адзін патайна сядзеў у яе спальні.) І сказала яму: Самсоне! Філістымляне ідуць на цябе. Ён парваў цяцівы, як ірвуць нітку з кудзелі, калі перапаліць яе агонь. І ня выведана сіла ягоная» (Кніга Судзьдзяў 16:6—9).




Самсон і Даліла (1625). Антоніс ван Дэйк (1599 — 1641). Музэй гісторыі мастацтваў, Вена. Блёк пошты Гамбіі, выдадзены ў 2000 годзе

Твары ўдзельнікаў спробы захапіць Самсона перапоўненыя эмоцыямі. У цэнтральнай частцы абуджаны са сну магутны Самсон змагаецца з салдатамі. Вяроўкі, якімі ён быў зьвязаны, рвуцца на мноства аскепкаў. Іх слабасьць кантрастуе з мускулістым целам асілка. Правы бок карціны запоўнены фігурамі салдат. Зьлева на ложку ляжыць Даліла. Самсон з дакорам і больлю глядзіць на каханую. Позірк Далілы лагодны і пяшчотны. Здаецца яна зусім не засмучана, што Самсона ўзяць у палон не ўдалося.

На блёку яшчэ дзьве маркі: эскіз і дэталь карціны Антоніса ван Дэйка

«Самсон і Даліла» (1619), Далвічская карцінная галерэя, Лёндан.

Але ў рэшце рэшт Даліла пераканала Самсона даверыцца ёй, пераканала ў сваёй любові, і Самсон адкрыў ёй, што сіла яго пакіне, калі астрыгчы яму валасы.




Самсон і Даліла. Мікеле Рокка (1666—1752). Музэй выяўленчых мастацтваў, Будапэшт. Марка пошты Вэнгрыі, выдадзеная ў 1970 годзе

Даліла астрыгае і кладзе пасмы валасоў на паднос дзяўчынцы, што супярэчыць запісу ў Бібліі: «І ўсыпіла яго Даліла на каленях сваіх; і паклікала чалавека, і загадала яму абстрыгчы сем кос з галавы ягонай. І пачаў ён слабнуць, і адступіла ад яго сіла ягоная» (Кніга Судзьдзяў 16:19). Нічога драматычнага не назіраецца ў намаляванай дзеі: яркія фарбы, гульня сьвятла на постацях, усьмешка Далілы і можа толькі слупы за плячамі Далілы нагадваюць пра самагубную помсту сьляпога Самсона.

На карціне Рубенса «Самсон і Даліла» нерухомы заснуўшы волат, баяцца зварухнуцца яго ворагі. Асьцярожна рухаюцца толькі гнуткія рукі цырульніка. Мастак напісаў карціну цалкам «бязгучную». Выразна адчуваецца напружаная злавесная цішыня. Хіба што ледзь рыпнуць нажніцы або ўздыхне ў сьне, нічога не падазраючы Самсон.




Самсон і Даліла (1609). Пітэр Паўль Рубенс. Нацыянальная галерэя, Лёндан. Марка пошты Сан-Тамэ і Прынсіпі, выдадзеная ў 1983 годзе

Прыгажуня з точаным профілем і пругкімі аголенымі грудзьмі глядзіць на сваю ахвяру са смуткам, яе далонь з пяшчотай спачывае на плячы Самсона. Нейкім дзіўным чынам Рубенсу ўдалося перадаць усю глыбіню любові Самсона да Далілы: у павароце галавы, у дзіцячай даверлівасьці і ўтульнасьці паставы. Пачуцьцёвасьць, каханьне, шкадаваньне, страх, асьцярожнасьць, падступства, чаканьне, дзелавітасьць — усё пераплялося ў карціне, як майстэрскія пальцы цырульніка і кучаравыя валасы Самсона, як зморшчыны пунсовай тканіны.

Тэма карціны — абсалютная ўлада жаночай прыгажосьці, перад якой

не можа выстаяць мужчына. Трагедыя не набліжаецца, яна ўжо адбылася. Не цырульнік, абстрыгаючы валасы Самсона, пазбаўляе яго сілы, не Філістымляне асьляпляюць яго і бяруць у палон. Даліла зрабіла Самсона слабым, паланіла яго, асьляпіла сваім характвом.

Асьлінaя сківіца ў руцэ Самсона на карціне Лукаса Кранаха Старэйшага «Самсон і Даліла» выклікае пытаньне: Даліла здрадніца ці патрыётка свайго народу? Толькі што гэтай асьлінай сківіцай Самсон забіў тысячу Філістымлян, яе супляменьнікаў.




Самсон і Даліла (528–30). Лукас Кранах Старэйшы (1472—1553). Сталічны музэй мастацтваў, Манхэтэн, Нью-Ёрк. Блёк Грэнады, выдадзены ў 2003 годзе

Самсон сьпіць на каленях каханай Далілы, якая састрыгае пасмы валасоў з яго галавы, каб пазбавіць звышчалавечай сілы. З лесу выходзіць група салдат, якія чакаюць свайго пераможнага часу трыюмфу.

Збылося! Рэмбрант абраў для сваёй наступнай карціны самы трагічны эпізод: Філістымскія воіны адолелі Самсона і выпальваюць яму вочы распаленым жалезам. На гэты фрагмэнт вялікага з фігурамі ў натуральную велічыню палатна немагчыма глядзець без уздрыгу. На зрынутага Самсона навалíліся Філістымляне, цела волата выгінаецца ў пакутах, Даліла ўцякае прэч з нажніцамі і пасмамі валасоў у руках, воін цэліць дзідай Самсону ў грудзі…




Асьляпленьне Самсона (1636). Рэмбрант. Штэдэлеўскі Мастацкі інстытут, Франкфурт на Майне. Блёк пошты Антыгуа і Барбуды, выдадзены ў 1993 годзе

Апісаная ў Бібліі сьлепата Самсона, ёсьць не што іншае, як сымбалічнае апісаньне яго духоўнай сьлепаты. Не зразумела, у які менавіта момант Самсон перастаў ісьці па шляху Госпада, а пайшоў па шляху ўласнай помсты, выкарыстоўваючы тую сілу, якую Гасподзь даў яму, не па прызначэньні.

Філістымляне асьляпілі зьнясіленага ворага, закавалі яго ў ланцугі і прымусілі круціць млынавыя жорны ў вязьніцы Газы. Але Бог даў свайму спатыкнуламу дзіцяці магчымасьць адкупленьня. Валасы Самсона зноў адрасьлі, а разам зь імі вярнулася і сіла. Калі Самсона прывялі на баль у храм паганскага бога Дагона, каб сьляпец забаўляў гасьцей, ён узьнёс малітву Богу і з воклічам, «памры, душа

мая, з Філістымлянамі!», зрушыў з месца калёны храма. Храм паваліўся, Самсон загінуў пад абломкамі разам з тысячамі філістымлянаў, «і было памерлых, якіх забіў Самсон пры сьмерці сваёй, больш, чым колькі забіў ён у жыцьці сваім» (Кніга Судзьдзяў 16:30).




Сьмеласьць. Хасэп Марыя Серт і Бадыя (1874 — 1945). Марка пошты Гішпаніі, выдадзеная ў 1996 годзе

Місія, якую Бог усклаў на яго, стала яго асабістай бітвай, ён ужо змагаўся за сябе, падпарадкоўваючыся свайму ўласнаму гневу, свайму запалу. Помста стала магутнай і ўсёпаглынальнай сілай у сэрца Самсона і зьмяніла напрамак яго жыцьця.

Самсон пачаў супрацьстаяць Філістымлянам ня толькі, каб абараніць Ізраільцян, асабістыя крыўды рухалі ім і яго фізычная сьлепата стала сымбалям духоўнага асьляпленьня і страты арыентыраў.

Гісторыя Самсона і Далілы — гэта гісторыя вечнай барацьбы, якая ідзе паміж дабром і злом за душу чалавека. Гэта гісторыя на працягу многіх гадоў захапіла мастакоў, таму што яна размаўляе з кожным пакаленьнем пра здраду, мужнасьць і каханьне.




Ізраільская Нацыянальная опэра «Самсон і Даліла». Марка пошты Ізраілю, выпушчаная ў 1971 годзе

Бог дае чалавеку вялізарныя мажлівасьці, але, у тым ліку, няўхільнае права і абавязак пастаянна рабіць уласны выбар, як і для чаго выкарыстаць гэтыя, часам нязнаныя, мажлівасьці, каб яны адпавядалі Божаму заданьню... Гэта цяжкая задача, з якой Самсон не даў рады справіцца.

## Гісторыя Рут і Наэміні

*народ твой будзе маім народам, і твой Бог — маім Богам... (Рут 1:16).*

Кніга Рут — перліна сярод Кніг Бібліі. Пачынаецца яна с таго, што ў Віфляеме, што ў перакладзе азначае Дом хлеба, не было хлеба. Таму жыхар Віфляему Элімэлэх са сваёй жонкай і двума сынамі пакінуў родны горад і пасяліўся далёка ў Маавіцкай зямлі на ўсход ад Салёнага Мора. Падчас знаходжаньня ў Мааве Элімэлэх памёр, а сыны Махлон і Хілеон ажаніліся на дзеўчынах Маавіта па імені Рут і Орфа. На працягу дзесяці гадоў абодва браты памерлі без дзяцей, пакі-

нуўшы Наэмінь без сыноў і мужа. У гэты час у Віфляеме зьявіўся хлеб і яна вырашыла вярнуцца на радзіму. Наэмінь сказала Рут і Орфе: «Ідзеце, вярнецеся кожная ў дом маці сваёй; хай даруе Гасподзь вам літасьць, як вы зрабілі з памерлымі і са мною!» (Рут 1:8). Дзьве жанчыны апынуліся перад выбарам, да якога Бога пайсьці? Орфа вырашыла вярнуцца да свайго народу і яна зьнікае са старонак Бібліі. Рут жа сказала Наэміні: «Куды ты пойдзеш, туды і я пайду, і дзе ты жыць будзеш, там і я жыць буду; народ твой будзе маім народам, і твой Бог — маім Богам…» (Рут 1:16).

Гэта цытата з Бібліі надрукавана ў версе марачнага ліста «Гісторыя Рут і Наэміні» пошты Гаяны.

Ліст падзелены на чатыры тэматычныя часткі па шэсьць марак у кожнай. На малюнку левай верхняй часткі бачым побач Рут і Наэмінь і пакідаючую іх Орфу. На правым верхнім малюнку Рут на полі родзіча Ноэміні Ваоза зьбірае каласы і да яе падыходзіць Ваоз які сказаў: «Мне сказалі ўсё, што зрабіла ты сьвякрові пасьля сьмерці мужа твайго, што ты пакінула твайго бацьку і тваю маці і тваю радзіму і прыйшла да народа, якога ты ня ведала ўчора і заўчора; хай дасьць Гасподзь за гэты ўчынак твой, і хай будзе табе поўная ўзнагарода ад Госпада Бога Ізраілевага, да Якога ты прыйшла, каб супакоіцца пад Ягонымі крыламі!» (Рут 2:11,12). Гэта першая, але не апошняя ўзнагарода, якую атрымае Рут за свой учынак.

На наступным малюнку бачым Ваоза і мужчыну насупраць яго, якія таксама пастаўлены перад выбарам: «Ваоз сказаў: калі ты купіш поле ў Наэміні, ты павінен купіць і ў Рут Маавіцянкі, жонкі памерлага, і павінен узяць яе замуж, каб узнавіць імя памерлага ў надзеле ягоным» (Рут 4:5). Чалавек, да якога зьвяртаецца Ваоз, адмовіўся: «І сказаў той родзіч: не магу я ўзяць яе сабе, каб не парушыць свайго надзелу: прымі яе ты, бо я не магу прыняць» (Рут 4:6). І імя яго не ўпамінаецца ў Кнізе. Пра яго напісана «той родзіч». Ён намалёваны з ботам у руцэ. «Раней быў такі звычай у Ізраіля пры выкупе і пры абмене дзеля пацьвярджэньня якой-небудзь справы: адзін здымаў бот свой і даваў другому, і гэта было сьведчаньнем у Ізраіля» (Рут 4:7).




Гісторыя Рут і Наэміні. Марачны ліст пошты Гаяны, выдадзены ў 1994 годзе

На чацьвёртым малюнку шчасьлівая сям'я. Бо «І ўзяў Ваоз Рут, і яна зрабілася яго жонкаю. І ўвайшоў ён да яе, і Гасподзь даў ёй цяжарнасьць, і яна нарадзіла сына» (Рут 4:13).

У нізе на марачным лісьце яшчэ дзьве цытаты з Бібліі: «Дабраславёны Гасподзь, што ён не пакінуў цябе сёньня без нашчадка! і хай славіцца імя яго ў Ізраілі!» (Рут 4:14) і «У Наэміні нарадзіўся сын, і далі імя яму: Авід. Ён бацька Есэя, бацькі Давідавага» (Рут 4:17).

На марцы відарыс Рут і яе мужа Ваоза, якія трымаюць у руках кошыкі з каласамі. На прывесцы фрагмэнт з Кнігі Рут: «прыйшла да народа, якога ты ня ведала» (Рут 2:11).




Рут. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1984 годзе

Дзякуючы таму выбару, што зрабілі Рут і Ваоз, яны апынуліся ў вытоку выратавальнай гісторыі чалавецтва: «Ваоз спарадзіў Авіда ад Руты; Авід спарадзіў Эсэя; Эсэй спарадзіў Давіда цара» (Паводле Мацьвея 1:5,6). Гэта стала тым каналам, праз які прыйшоў Хрыстос, як прарочыў Ісая: «І пойдзе пасынак ад кораня Есэевага, і галіна вырасьце ад кораня ягонага; і спачне на Ім Дух Гасподні, дух мудрасьці і розуму, дух рады і моцы, дух пазнаньня і пабожнасьці; і ўпадабаньне Ягонае тым, у кім страх Божы, і будзе судзіць не з пагляду вачэй Сваіх і не са слыху вушэй Сваіх вырашаць справы» (Ісая 11:1—3).

На марцы пошты Польшчы намалявана дрэва Эсэя. Гэта рэпрадукцыя абраза, намаляванага на дзераве ў 17 веку і захаванага ў трапэзнай манастыра айцоў паўлінаў на Яснай Гарэ ў Чэнстахове.




Дрэва Эсэя. Марка пошты Польшчы, выдадзеная ў 1986 годзе

На малюнку радавод Ісуса Хрыста ў выглядзе магутнага дрэва, якое вырастае з пня, якім ёсьць Эсэй, бацька Давіда. Эсэй адпачывае пад дрэвам. На лапах дзерава вобразы найважнейшых патомкаў Эсэя ад Давіда да Хрыста: першы — Давід з арфаю; вышэй яго Саламон з кнігаю, вышэй Саламона іншыя цары, а на вяршыні — Раство Хрыстова — Маці Божая з Дзіцяткам.

Ізраільцянка Наэмінь і Маавіцянка Рут — гэта таксама праўобраз будучага Новага Запавету, які аб'ядноўвае ўсіх людзей на зямлі, а ня толькі габрэяў, у Свой Абраны народ.

# Пэрыяд адзінага царства (1050 — 940 да Р.Х.)

## Самуіл

*...у Госпада я выпрасіла яго.*
*(Першая Царстваў 1:20)*

Да 15 стагодзьдзя Кнігі Бібліі Першая Царстваў і Другая Царстваў насілі назву Самуіла. Гэта гаворыць аб той ролі, якую адыграў Прарок і апошні судзьдзя ў гісторыі Ізраільскага народу. У самы цяжкі і смутны час, калі адбылося паражэньне ад Філістымлян, якія захапілі найвялікшую сьвятыню — Каўчэг Запавету, ён стаў духоўным кіраўніком і пераўтваральнікам свайго народу.

Самуіл быў сынам Элкана і Ганны. У Ганны доўга не было дзяцей. «І была яна ў скрусе душы, і малілася Госпаду, і горка плакала, і дала абяцаньне, кажучы: Госпадзе Саваоф! Калі Ты ўважыш скрусе рабы Тваёй і спамянеш пра мяне, і не забудзеш рабы Тваёй і дасі рабе Тваёй дзіця мужчынскага полу, дык я аддам яго Госпаду на ўсе дні жыцьця яго, і брытва не кране галавы ягонай» (Першая Царстваў 1:10,11). Першасвятар Ілій палічыў яе п'янай, але, пачуўшы яе журботную гісторыю, дадаў сваю просьбу да Бога, і неўзабаве Ганна атрымала тое, што прасіла.

Калі дзіця нарадзілася, Ганна назвала яго Самуілам, што значыць «вымалены ў Бога». Калі хлопчык падрос, яна павяла яго ў храм і сказала першасьвятару Іліі: «спадару мой! хай жыве душа твая, спадару мой! я — тая самая жанчына, якая тут пры табе стаяла і малілася Госпаду; за гэтае дзіця малілася я, і спраўдзіў мне Гасподзь просьбу маю, чаго я прасіла ў Яго; і я аддаю яго Госпаду на ўсе дні жыцьця ягонага — служыць Госпаду. І пакланілася там Госпаду» (Першая Царстваў 1:26—28).




Ганна і Самуіл. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1984 годзе

На прывесцы маркі словы Ганны: «за гэтае дзіця малілася я» (Першая Царстваў 1:27).

Ганна пакінула Самуіла ў першасьвятара Іліі, а сама выканала Гімн Богу: «Гасподзь сьмерціць і ажыўляе, зводзіць у апраметную і выводзіць; Гасподзь робіць жабраком і ўзбагачае, прыніжае і ўзвышае. З пылу падымае Ён беднага, з гразі ўзвышае ўбогага, садзіць зь вяльможамі, і трон славы дае ім у спадчыну; бо ў Госпада асновы зямлі, і Ён сьцьвердзіў на ім сусьвет. Сьляды сьвятых Сваіх Ён захоўвае, а беззаконьнікі ў цемры зьнікаюць: бо ня сілаю моцны чалавек. Гасподзь сатрэ тых, што спрачаюцца зь Ім; зь нябёсаў загрыміць на іх. Гасподзь будзе судзіць канцы зямлі і дасьць моц цару Свайму і падыме рог памазанца Свайго» (Першая Царстваў 2:6—10).




Ганна і Самуіл ў храме (1650). Школа Рэмбрандта. Нацыянальная галерэя Шатляндыі. Марка пошты Антыгуа і Барбуды, выдадзеная ў 1993 годзе

Ганна кажа «ня сілаю моцны чалавек», на сваім прыкладзе паказваючы, што чалавек моцны можа быць толькі вераю. Яшчэ Ганна прарочыць пра прыход Мэсіі: «Гасподзь будзе судзіць канцы зямлі і дасьць моц цару Свайму і падыме рог памазанца Свайго» (Першая Царстваў 2:10).

Пры храме хлопчык падрастаў і ўзбагачаўся Божаю ласкаю.

## Саўл — цар Ізраілю

*паслушэнства лепшае за ахвяры.*
*(Першая Царстваў 15:22)*

Самуіл стаў вялікім Прарокам Ізраільскага народу. Мінулі гады. Два сына Самуіла сталі ўсё часьцей замяшчаць бацьку. Але сталася так, як з сынамі Ілія: «А сыны Ілія былі людзі нягодныя; яны ня ведалі Госпада» (Першая Царстваў 2:12). Таму старэйшыны Ізраіля прыйшлі да Самуіла і сказалі яму: «вось, ты састарыўся, а сыны твае ня ходзяць шляхамі тваімі; дык вось пастаў над намі цара, каб ён судзіў нас, як у іншых народаў» (Першая Царстваў 8:5). Самуілу не спадабалася гэтае пажаданьне і ён зьвярнуўся да Бога з пытаньнем, што яму рабіць. І сказаў Гасподзь Самуілу: паслухай голасу народу ва ўсім, што яны кажуць табе; бо не цябе яны адхілілі, а адхілілі Мяне, каб Я не валадарыў над вамі; як яны рабілі з таго дня, калі Я вывеў іх зь Егіпта, і да гэтага дня, пакідалі Мяне і служылі іншым багам, так робяць яны з табою; дык вось паслухай голасу іхняга; толькі абвясьці ім і пакажы ім правы цара, які будзе валадарыць над імі» (Першая Царстваў 8:7—9).

Самуіл перадаў народу словы Госпада і папярэдзіў: «самі вы будзеце яму рабамі; і застогнеце тады ад цара вашага,

якога вы выбралі сабе, і ня будзе Гасподзь адказваць вам тады» (Першая Царстваў 8:17,18).

Але народ працягваў патрабаваць цара. І Гасподзь сказаў Самуілу: «заўтра гэтым часам Я прышлю да цябе чалавека зь зямлі Веньямінавай, і ты памаж яго ў кіраўніка народу Майму Ізраілю, і ён уратуе народ Мой ад рукі Філістымлянаў; бо Я ўважыў народу Майму, бо енк ягоны дайшоў да Мяне. Калі Самуіл убачыў Саўла, дык Гасподзь сказаў яму: вось чалавек, пра якога Я казаў табе; ён будзе кіраваць народам Маім» (Першая Царстваў 9:16,17). Калі Саўл прыйшоў да Самуіла, «Узяў Самуіл посуд з алеем і выліў на галаву ягоную, і пацалаваў яго і сказаў: вось, Гасподзь памазвае цябе на кіраўніка спадчыны Сваёй...» (Першая Царстваў 10:1).




Памазаньне Самуіла на царства. Біблія Ота Сэмлера. Пэрсанальная марка, выпушчаная поштай Ізраілю ў 2014 годзе

Саўл — першы цар Ізраіля нарадзіўся каля 1029 г. да Р. Х. у Гіве, Ізраіль. Бацька — Кіс (Кіш) з калена Веньяміна. Загінуў каля 1005 г. да Р. Х.

Біблія адлюстроўвае Саўла незвычайна рослым і прыгожым чалавекам, адважным у бітве і простым у звароце. Аднак некаторыя заганы ў яго характары ў рэшце рэшт прывялі яго да гібелі.




Цар Ізраілю Саўл. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1960 годзе

Народ Ізраілю ў той час ня меў мэталічных вырабаў, бо запісана ў Бібліі: «Таму ў час вайны ня было ні меча, ні дзіды ва ўсяго народу, які быў з Саўлам і Ёнатанам, а толькі знайшліся яны ў Саўла і Ёнатана, сына ягонага» (Першая Царстваў 13:22). На марцы ж Саўл намаляваны з мячом і дзідаю.

Час праўленьня Саўла быў адзначаны цяжкімі войнамі з ворагамі Ізраіля. «І ўцьвердзіў Саўл сваё цараваньне над Ізраілем, і ваяваў з усімі навакольнымі ворагамі сваімі, з Маавам і з Аманіцянамі, і з Эдомам і з царамі Совы і зь Філістымлянамі, і ўсюды, супроць каго ні выступаў, меў посьпех» (Першая Царстваў 14:47). Але Саўл неабачна парушаў наказы Божыя, за што атрымліваў нараканьні Самуіла. У страху перад войскам Філістымлянаў, Саўл узяў на сябе абавязкі першасьвятара, парушаючы Закон. «І сказаў Самуіл Саўлу: кепска зрабіў ты,

што ня выканаў загаду Госпада Бога твайго, што даўно быў табе, бо сёньня ўмацаваў бы Гасподзь цараваньне тваё над Ізраілем назаўсёды; але цяпер ня выстаяць царству твайму: Гасподзь знойдзе Сабе чалавека па сэрцы Сваім і загадае яму Гасподзь быць правадыром народу Свайго, бо ты ня выканаў таго, што было загадана табе Госпадам» (Першая Царстваў 13:13,14).

Пасьля перамогі над Агагам, царом Амаліавым Саўл зноў парушыў Божы загад. І Самуіл абвяшчае прыгавор: «ты зьнікчэмніў слова Госпада, і Гасподзь зьнікчэмніў цябе, каб ты ня быў царом над Ізраілем» (Першая Царстваў 15:26).

У адказ на апраўданьні Саўла Самуіл кажа ключавыя словы: «паслушэнства лепшае за ахвяры» (Першая Царстваў 15:22).

## Памазаньне Давіда

*Гасподзь знойдзе Сабе чалавека па сэрцы Сваім і загадае яму Гасподзь быць правадыром народу Свайго. (Першая Царстваў 13:14)*

«І сказаў Гасподзь Самуілу: дакуль ты будзеш смуткаваць па Саўле, якога Я адхіліў, каб ён ня быў царом над Ізраілем? напоўні рог твой алеем і ідзі; Я пашлю цябе да Ясэя Віфляемляніна, бо сярод сыноў ягоных Я нагледзеў Сабе цара. І сказаў Самуіл: як я пайду? Саўл дачуецца і заб'е мяне. Гасподзь сказаў: вазьмі ў руку тваю цяля са статку і скажы: я прыйшоў дзеля ахвяраваньня Госпаду...» (Першая Царстваў 16:1,2).

Варта заўважыць, што Самуілу для выкананьня Божага заданьня дазволена сказаць не зусім праўду...

Самуіл выбіраў памазаньніка пад непасрэдным кіраўніцтвам Бога. «Я гляджу ня так, як глядзіць чалавек; бо чалавек глядзіць на аблічча, а Гасподзь глядзіць на сэрца» (Першая Царстваў 16:7).

«Так падводзіў Ясэй да Самуіла сямёх сыноў сваіх, але Самуіл сказаў Ясэю; нікога з гэтых ня выбраў Гасподзь. І сказаў Самуіл Ясэю: ці ўсе дзеці тут? І адказаў Ясэй: ёсьць яшчэ маладзейшы; ён пасьвіць авечкі. І сказаў Самуіл Ясэю: пашлі і вазьмі яго, бо мы ня сядзем абедаць, пакуль ня прыйдзе ён сюды. І паслаў Ясэй, і прывялі яго. І быў ён бялявы, з прыгожымі вачыма і прыемным тварам. І сказаў Гасподзь: устань, памаж яго, бо гэта ён. І ўзяў Самуіл рог з алеем і памазаў яго сярод братоў ягоных, і пакоіўся Дух Гасподні на Давідзе з таго дня і пасьля. А Самуіл устаў і адышоў у Раму» (Першая Царстваў 16:10—13).

Памазаньне Давіда Самуілам адлюстраваў на фрэсцы Рафаэля Санці. Вобраз памазаньня Давіда Самуэлем — гэта першая з чатырох сцэн з жыцьця Давіда. Астатнія карціны паказваюць, як Давід забівае Галіяфа; Давід убачыў Вірсавію; і Трыюмф Давіда, які вяртаецца ў калясьніцы з вайны пераможцам. Уся так званая «Біблія Рафаэля» складаецца з пяцідзесяці дзьвюх карцін на трынаццаці арках столі Лоджыі Апостальскага палаца ў Ватыкане.

У цэнтры стаіць столік з начыньнем для памазаньня. Праз адчыненае акно відаць дрэвы і расплывісты пэйзаж удалечыні. Перад акном стаяць Самуіл і Давід. Самуіл працягнуў руку, каб паліць алей з рога на схіленую галаву Даві-

да; маладзенькі Давід, абапіраючыся на пастуховы кій, схіліўся ў пачцівай позе. Зьлева чатыры браты Давіда рыхтуюць ягня для ахвярапрынашэньня. Справа стаіць Ясэй з яшчэ трыма братамі. Карціна ў цэлым прадстаўляе Сьвятое Пісаньне як сакральную гісторыю, якая завяршылася Хрыстом.




Памазаньне Давіда Самуілам. Рафаэль Санці (1483—1520). Музэі Ватыкану. Фрэска. Блёк пошты Бэльгіі, выдадзены ў 1983 годзе

Давід ня скора стане царом Ізраіля. Працягваў цараваць Саўл, але дух Гасподні адышоў ад яго. У сэрцы Саўла пасяліўся дух зла і падбухторваў яго да зла. Вядома больш дзясятка карцін розных мастакоў, якія ілюструюць пакуты Саўла злым духам. Для супакойваньня слугі знайшлі Саўлу музыку, якім апынуўся Давід. Калі злы дух авалодваў Саўлам, Давід граў на гусьлях і злы дух адыходзіў.

На марцы адлюстраваны менавіта момант, калі злы дух авалодваў Саўлам. Пераглядаюцца прыдворныя, паглядаючы на цара, які прыходзіць у сябе. На яго некалькі скажоным твары яшчэ захоўваюцца рысы вар'яцтва, фігура яго бязвольна асядае на троне. І вельмі нечакана Давід выглядае, як праставаты Нідэрляндзкі пастушок. На марцы паказана толькі дэталь гравюры — твар Саўла.




Давід перад Саўлам (1509). Лукас Ван Лейдэн (1494—1533). Дэталь гравюры на медзі. Марка пошты Нідэрляндаў, выпушчаная ў 2000 годзе

Мастак Юліўс Кронберг адлюстраваў маладога Давіда, які грае на сваёй арфе і пазбаўляе цара Саўла ад «д'ябла», які мучыў яго (у зыходным варыянце цытра, але ў тыя часы ўжо была арфа — маленькі музычны струнны інструмэнт, драўляную рамку якога расьпісвалі рознымі ўзорамі).




Давід і Саўл (1885). Юліўс Кронберг (1850—1921). Нацыянальны музэй Стакгольму. Пэрсанальная марка, выпушчаная ў 2014 годзе поштай Ізраілю

«І радасьней і лепей рабілася Саўлу, і дух ліхі адступаўся ад яго» (Першая Царстваў 16:23).

## Давід і Галіяф

*…бо ня сілаю моцны чалавек.*
*(Першая Царстваў 2:10)*

Філістымляне ў які раз уварваліся ў межы зямлі Ізраільскай. Рыхтуючыся да бітвы, войскі праціўнікаў сталі насупроць і ніхто не хацеў пакідаць выгадныя пазыцыі. У войску Ізраільцян знаходзіліся трое старэйшых братоў Давіда. Бацька паслаў Давіда адведаць братоў, занесьці ім правіянт і даведацца пра іх справы. Якраз, калі Давід прыйшоў да братоў, з шэрагаў Філістымскага войска выступіў магутны волат Галіяф. Ён прапанаваў Юдэям вырашыць зыход бітвы адзінаборствам. «І стаў ён і крычаў да палкоў Ізраільскіх, кажучы ім: навошта вы выйшлі ваяваць? ці ж не Філістымлянін я, а вы рабы Саўлавыя? выбераце ў сябе чалавека, і няхай выйдзе да мяне; калі ён можа пабіцца са мною і заб'е мяне, дык мы будзем вашымі рабамі; а калі я адолею яго і заб'ю яго, дык вы будзеце нашымі рабамі і будзеце служыць нам. І сказаў Філістымлянін: сёньня я пасаромлю палкі Ізраільскія; дайце мне чалавека, і мы падужаемся ўдвух» (Першая Царстваў 17:8—10).

Аднак ніхто з Ізраільцян не адважыўся выйсьці на бой з Галіяфам, ваяром вялізнага росту, абмундзіраванага «да зубоў» у мэталічныя латы.

Цар Саўл паабяцаў сьмельчаку, які ўразіць Галіяфа, аддаць у жонкі сваю дачку. Нягледзячы на абяцаную ўзнагароду, ніхто не жадаў пазмагацца зь ім. Ужо саракавы дзень раніцай і ўвечары выступаў Галіяф, сьмеючыся над Юдэямі і паносячы іх войска.

Пачуўшы Галіяфа, які ганіць Ізраільскіх воінаў, Давід абурыўся духам. Давід пайшоў да Саўла. «І сказаў Давід Саўлу: няхай ніхто ня падае духам праз яго; раб твой пойдзе і памерацца з гэтым Філістымлянінам» (Першая Царстваў 17:32).

Але Саўл сказаў яму: «ня можаш ты ісьці супроць гэтага Філістымляніна, каб дужацца зь ім, бо ты яшчэ хлопец, а ён воін з маладосьці сваёй» (Першая Царстваў 17:33).

«Гасподзь, Які выбаўляў мяне ад ільва і ад мядзьведзя, выбавіць мяне і ад рукі гэтага Філістымляніна» (Першая Царстваў 17:37) — адказаў Давід.

Саўл, заражаны адвагай і сілай духу Давіда, сказаў яму: ідзі, і хай будзе Гасподзь з табою. «І апрануў Саўл Давіда ў сваю вопратку, і ўсклаў на галаву ягоную медны шалом, і надзеў на яго браню. І аперазаўся Давід мечам паверх вопраткі і пачаў хадзіць, бо ня прывык да такое зброі; потым сказаў Давід Саўлу: я не магу хадзіць у гэтым, я ня прывык. І зьняў Давід усё гэта зь сябе. І ўзяў кій свой у руку сваю, і выбраў сабе пяць гладкіх камянёў з ручая, і паклаў іх у пастухову торбу, якая была зь ім; і з торбаю і з прашчаю ў руцэ сваёй выступіў супроць Філістымляніна» (Першая Царстваў 17:38—40).

Мармуровая статуя працы Мікеланджэла ўпершыню прадстаўленая зьдзіўленай флярэнтыйскай публіцы на плошчы Сыньёр 8 верасьня 1504 года. З тых часоў пяцімэтровае статуя стала ўспрымацца як адна з вяршыняў не толькі мастацтва Адраджэньня, але і чалавечага генія ў цэлым. У цяперашні час Арыгінал Статуі знаходзіцца ў Акадэміі прыгожых мастацтваў у Флярэнцыі.

Юнак рыхтуецца да бою з непараўнальна пераўзыходзячым яго па сіле ворагам. Праз левае плячо ён перакінуў прашчу, ніжні край якой падтрымлівае яго правая рука. Ён спакойны і засяроджаны, але мышцы яго напружаны, бровы ссунутыя, у іх чытаецца нешта грознае...




Давід (1501—1504). Мікеланджэла (1475—1564). Мармур. Акадэмія, Флярэнцыя. Марка пошты Аджману, выдадзеная ў 1972 годзе

Галіяф сустрэў Давіда насьмешкамі: «што ты ідзеш на мяне зь кіем? хіба я сабака? І прakляў Філістымлянін Давіда сваімі багамі» (Першая Царстваў 17:43).

Давід адказаў яму: «Ты ідзеш супроць мяне зь мечам і дзідай і шчытом, а я іду супроць цябе ў імя Госпада Саваофа, Бога войска Ізраільскага, якое ты ганіў; сёньня аддасьць цябе Гасподзь у руку маю [...} і ўведае ўся зямля, што ёсьць Бог у Ізраілі; [...], што ня мечам і дзідаю ратуе Гасподзь» (Першая Царстваў 17:45—47).

Італьянскі архітэктар і скульптар Бэрніні паказаў Давіда, які рыхтуецца да бою, сабраўшы ўсе сілы і волю. Давід глядзіць на ворага напружаным і ненавісным поглядам. Яго бровы нахмураны, вусны закушаныя, пастава нахіленая, галава трохі адкінутая назад. Давід засьцярожыўся на выкананьні дакладнага ўдару.




Давід (1623). Бэрніні, Джавані Лярэнца (1598—1680). Галерэя Баргезэ, Рым. Марка пошты Італіі, выдадзеная ў 1974 годзе

Давід дастаў камень з пастуховай торбы, уклаў яго ў прашчу і шпурлянуў яго ў Галіяфа. Надзвычайна маляўніча адлюстраваны гэты момант на марачным ліце пошты Гаяны. У версе марачнага ліста надпіс на англійскай мове: «Давід і Галіяф» і цытата з Бібліі: «і ўведае ўвесь гэты гурт, што ня мечам і дзідаю ратуе Гасподзь, бо гэта вайна Госпада, і Ён аддасьць вас у рукі нашыя» (Першая Царстваў 17:47).

Камень ударыў Галіяфа прама ў лоб і той, як падкошаны, рынуў на зямлю. Давід, як маланка, падскочыў да зрынутага суперніка і яго ж мячом адсек яму галаву. Войска Філістымскае, зьдзіўленае цудоўным подзьвігам Давіда, у роспачы

кінулася наўцёкі. Ізраільцяне перасьледавалі іх, выгнаўшы за межы роднай зямлі.




Давід і Галіяф. Марачны ліст пошты Гаяны, выдадзены ў 1992 годзе

Гэтая слаўная перамога падняла дух габрэйскага народа і ўмацавала веру ў Бога жывога, Збаўцу Ізраіля.




Рафаэль Санці (1483—1520). Давід і Галіяф (1519). Музэі Ватыкану, Ватыкан. Марка пошты Грэнады Грэнадынас, выдадзеная ў 1983 годзе

Італьянскі скульптар эпохі Адраджэньня Данатэла паказвае Давіда ў момант трыюмфу, падкрэсьліваючы цуд перамогі. Стройны прыгожы юнак з доўгімі, да плячэй, кучаравымі валасамі, амаль хлопчык — доблесны пераможца. У яго руках — меч, а нагой ён абапіраецца на адсечаную галаву Галіяфа. Але ў позе Давіда няма і намёку на трыюмф ад слаўнай перамогі. Яго сумны і задуменны выраз твару заценены шырокімі палямі капелюша...




Давід (1440–1443). Данатэла (1386—1466). Бронза. Нацыянальны музэй Барджэла, Флярэнцыя. Марка пошты Анцігуа, выдадзеная ў 1980 годзе

«А калі Давід вяртаўся пасьля пагібелі Філістымляніна, дык Авэнір (начальнік войска) узяў яго і прывёў да Саўла, і галава Філістымляніна была ў руцэ ў яго» (Першая Царстваў 17:57).

Мікеланджэла Мэрызі ды Караваджа намаляваў тры карціны з адлюстраваньнем Давіда з галавой Галіяфа ў руцэ. Дзьве зь іх сталі ілюстрацыямі для марак. Давід з торбай за сьпіной трымае ў правай руцэ цяжкі меч, прыхінуты да пляча, а левай ухапіў за валасы адсеча-

ную галаву ворага, з даволі абыякавым выразам твару паказвае свой трафэй гледачам.




Давід з галавою Галіяфа (1610). Каравадджа (1571 — 1610). Галерэя Баргезэ, Рым. Марка пошты Лібэрыі, выдадзеная ў 1976 годзе

Тут Давід не трыюмфуючы пераможца. Твар яго выказвае сумесь смутку і спагады. На мячы ў руцэ Давіда абрэвіятура H-AS OS — скарачэньне ад лацінскай фразы humilitas occidit superbiam (пакора забівае ганарыстасьць).




Давід з галавою Галіяфа (1607). Каравадджа (1571 — 1610). Венскі музэй гісторыі мастацтваў. КПД пошты Італіі, выдадзены ў 1976 годзе

Саўл выканаў абяцаньне. Ён выдаў за Давіда сваю дачку Мэлхолу і зрабіў яго сваім военачальнікам.

## Перасьлед Давіда Саўлам

*І пачаў баяцца Саўл Давіда, бо Гасподзь быў зь ім, а ад Саўла адступіўся. (Першая Царстваў 18:12)*

Калі Саўл і Давід вярталіся з поля бітвы, жанчыны ўсіх гарадоў сустракалі іх сьпевамі і скокамі, з урачыстымі тымпанамі і кімваламі. У вялікай радасьці яны ўсклікалі: «Саўл перамог тысячы, а Давід дзясяткі тысяч!» (Першая Царстваў 18:7). Тады зайздрасьць атруціла цару радасьць перамогі. Ён стаў падазраваць Давіда ў жаданьні заняць яго пасад.

З гэтага моманту і да канца свайго жыцьця Саўл будзе перасьледаваць Давіда, жадаючы забіць яго. Але выбраньнік Божы зойме трон Саўла не падкопамі і інтрыгамі, а разважлівасьцю ва ўсіх справах сваіх. Давід стане другім па ліку і самым слаўным царом Ізраіля дзякуючы сваёй шчырай веры і любові да яго Ізраільцян.

Час ганеньняў стане для яго сапраўднай школай выпрабаваньняў і падрыхтоўкай да вялікага служэньня царом Богаабранага народа. У Давідзе ўмацуецца ўпэўненасьць у тым, што жыцьцё чалавека непадзельна знаходзіцца ў руках Божых.

Запальчывы, схільны прыступам шалёнай лютасьці, Саўл разам з тым быў схільны да мэлянхоліі, раўнівы і падазроны. Усе гэтыя рысы праявіліся ў яго варожым стаўленьні да Давіда, які праславіўся як воін, ажаніўся з дачкой Саўла і быў сябрам яго сына Ёнатана.

Пасьля чарговай спробы Саўла прыбіць Давіда дзідай да сьцяны, яму

прыйшлося бегчы да прарока Самуіла ў Раму.

На марцы знаходзіцца партрэт аўтара опэры «Давід» Дарыуса Мілхада і фрагмэнт гравюры Густава Доры, які ілюструе наступныя радкі з Бібліі: «І хацеў Саўл прыбіць Давіда дзідаю да сьцяны, але Давід адскочыў ад Саўла, і дзіда ўпілася ў сьцяну; а Давід уцёк і ўратаваўся тае начы» (Першая Царстваў 19:10).




Давід. Гравюра Густава Доры (1832—1883). Фрагмэнт. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1995 годзе

Саўл адправіў за ім у пагоню спачатку сваіх слуг, а затым прымчаўся і сам. Змрочная душа ягоная прасьвятлела, дух злосьці адышоў ад яго і зноў сышоў на Яго Дух Божы, так што ён на час супакоіўся. Давід велікадушна дараваў Саўла і прасіў свайго сябра Ёнатана, сына Саўлавага, хадайнічаць за яго. Але, калі Ёнатан успомніў перад бацькам пра свайго сябра, то ледзь і сам не загінуў ад рукі Саўла, у лютасьці кінуўшага дзідай і ў свайго сына. Рызыкуючы жыцьцём, Ёнатан папярэджвае Давіда аб небясьпецы. Яны расстаюцца назаўсёды і нібы прадчуваюць гэта.

На карціне галяндзкага мастака Рэмбрандта ван Рэйна «Давід і Ёнатан» або «Разьвітаньне Давіда з Ёнатанам» паказаны момант разьвітаньня. Юны Давід кідаецца ў гаротным парыве на грудзі сябра, яго валасы раскідаліся па плячах, цела скаланаецца ў плачы. Ёнатан, старэйшы па ўзросту і па грамадзкаму становішчу, ласкава падтрымлівае Давіда і з сумам глядзіць на яго, сваім спакоем уціхамірваючы выбух гаротных пачуцьцяў маладога сябра.




Давід і Ёнатан (1642). Рэмбрант (1606–1669). Дзяржаўны Эрмітаж. Пецярбург. Паштовая марка СССР, выдадзеная ў 1976 годзе

Але многія выпрабаваньні Давіда павінны былі наблізіцца да канца. У роднай зямлі на 88 годзе свайго жыцьця памёр прарок Самуіл і ўрачыста пахаваны быў у Раме, аплакваны яго народам. Пасьля гэтага Давід са сваімі людзьмі пайшоў у пустыню Фаран. Тут адбылася сустрэча Давіда з Авігеяй. Гэта сустрэча зьяўляецца біблейскім прыкла-

дам няўдзячнасьці з аднаго боку і разважлівасьці і сьмеласьці з другога.

Давід у пустыні ўзяў на сябе абавязак па ахове гэтага месца і людзей. Трохі пазьней Давід паслаў да аднаго з вельмі багатых людзей з гэтай мясцовасьці Навала сваіх слуг папрасіць у яго ежы для свайго атрада. «І ўскочыў Навал, і адказваў слугам Давідавым, і сказаў: хто такі Давід, і хто такі сын Ясэеў? сёньня стала многа рабоў, якія ўцякаюць ад гаспадароў сваіх; няўжо мне ўзяць хлябы мае і ваду маю, і мяса, прыгатаванае мною стрыгалям маім, і аддаць людзям, пра якіх ня ведаю, адкуль яны?» (Першая Царстваў 25:10,11). Гэта яскравы прыклад няўдзячнасьці і парушэньня законаў гасьціннасьці.

Давід у гневе, бо ён са сваім атрадам калісьці ахоўваў статкі Навала: «І Давід сказаў: так, дарэмна я ахоўваў у пустыні маёмасьць гэтага чалавека, і нічога не прапала з таго, што належала яму; ён плаціць мне злом за дабро; няхай тое і тое зробіць Бог з ворагамі Давіда, і яшчэ болей зробіць, калі да сьвітаньня з усяго, што належыць Навалу, я пакіну таго, што мочыцца да сьцяны» (Першая Царстваў 25:21,22).

Адзін слуга, які бачыў і чуў, як Навал сустрэў і праводзіў пасланцоў Давіда, пасьпяшаўся да Авігеі, расказаў усё і дадаў: «дык вось, падумай і паглядзі, што рабіць; бо непазьбежна пагражае бяда гаспадару нашаму і ўсяму дому ягонаму, а ён — чалавек ліхі, нельга гаварыць зь ім» (Першая Царстваў 25:17).

Пачуўшы гэта, Авігея вырашаецца на ўчынак, роўнага якому, падобна, няма ва ўсіх Біблейскіх гісторыях. Насуперак волі мужа, употай ад яго, яна зьбірае абоз з харчаваньнем і сьпяшаецца насустрач Давіду з просьбай даравацъ яе неразумнага мужа. Сьпяшаецца, каб апярэдзіць Давіда ў яго намерах: «Тады Авігея пасьпешліва ўзяла дзьвесьце хлябоў і два мяхі зь віном, і пяць авечак падрыхтаваных і пяць мераў сушанага зерня, і сто вязанак разынак і дзьвесьце вязанак смокваў, і наўючыла на аслоў, і сказала слугам сваім: ідзеце паперадзе мяне, вось, я пайду за вамі. А мужу свайму Навалу нічога не сказала» (Першая Царстваў 25:18,19). Гэта вельмі сьмелы ўчынак, бо Авігея рызыкавала і перад мужам і перад незнаёмымі ўзброенымі людзьмі.

«Калі Авігея ўбачыла Давіда, дык пасьпяшалася сысьці з асла і ўпала перад Давідам на твар свой і пакланілася да зямлі...» (Першая Царстваў 25:23).




Сустрэча Давіда і Авігеі (1625—28). Пітэр Паўль Рубенс (1577—1640). Інстытут мастацтваў, Дэтройт. Блёк пошты Грэнады Грэнадынас, выдадзены ў 1990 годзе

Давід у баявым рыштунку, побач яго воіны і слуга зь яго шлемам. Сустрэча адбываецца на ўскрайку лесу, удалечыні бачныя невысокія горы і вёска. Авігея зноў кажа: «І сёньня, гаспадару мой, жывы Гасподзь і жывая душа твая! Гасподзь не дазволіць табе ісьці праліваць кроў і ўтрымае руку тваю ад помсты, і сёньня хай будуць, як Навал, ворагі твае і зла-

мысьнікі гаспадара майго. Вось гэтыя дарункі, якія прынесла рабыня твая гаспадару майму, каб даць іх хлопчыкам, якія служаць гаспадару майму. Даруй віну рабыні тваёй; Гасподзь мусова зладзіць гаспадару майму дом трывалы, бо войны Госпада вядзе гаспадар мой, і ліхое ня знойдзецца ў табе праз усё жыцьцё тваё» (Першая Царстваў 25:26—28).

Авігея дамаглася жаданага, Давід супакоіўся і сышоў з дарамі, дараваўшы Навала. «І сказаў Давід Авігеі: дабраславёны Гасподзь Бог Ізраілеў, Які паслаў цябе сёньня насустрач мне, і дабраславёны розум твой, і дабраславёная ты за тое, што ты цяпер не дазволіла мне ісьці праліваць кроў і помсьціць за сябе» (Першая Царстваў 25:32,33).

Авігея вярнулася дадому і застала мужа за гулянкай. Пасьля аповеду Авігеі Навала паралізавала і праз 10 дзён ён памёр, не прыходзячы ў прытомнасьць. Даведаўшыся пра гэта, Давід паведаміў Авігеі, што ён бярэ яе ў жонкі.

Так скончылася спатканьне Авігеі і Давіда. А карціна Рубенса — помнік сьмеласьці, празорлівасьці, разважлівасьці і розуму жанчыны, якая была яшчэ і адной з чатырох найпрыгажэйшых жанчын, апісаных у Бібліі.

## Сьмерць Саўла

*Моладзі пакіну добры прыклад- ахвотна і доблесна прымаць сьмерць за шануемыя і сьвятыя Законы. (2 Макавея 6: 28)*

Рама пагрузіўся ў глыбокую жалобу, бо памёр вялікі Прарок, настаўнік і суддзя-Самуіл. У асобе Самуіла ізраільскі народ страціў свайго духоўнага кіраўніка. У гэты неспрыяльны для маладой ізраільскай дзяржавы час у яго межы ўварвалася магутная армія аб'яднаных філістымлянскіх князёў. Сотні баявых калясьніц і тысячы закутых у жалеза воінаў разьмясьціліся лягерам у даліне Сонамэ. Саўл расставіў свае войска на схілах гор Гэлвуе, адкуль была бачная ўся даліна. Выгляд вялізнага Філістымскага лягера выклікаў у ім жах. Трэба ўлічваць, што толькі Саул і Ёнатан — двое з усяго ізраільскага войска — мелі жалезную зброю. Цар з глыбокай малітвай зьвярнуўся да Бога па дапамогу, «але Гасподзь не адказваў яму ні ў сьне, ні праз урым, ні праз пракокаў» (Першая Царстваў 28:6). Тады Саўл прыйшоў да чараўніцы і папрасіў яе выклікаць дух Самуіла. Чараўніца пагадзілася і пачала варажбу. «І сказаў ёй цар: ня бойся, што ты бачыш? І адказвала жанчына: бачу як бы бога, які выходзіць зь зямлі. Які ён з выгляду? — спытаўся ў яе Саўл. Яна сказала: выходзіць зь зямлі мужчына вельмі стары, апрануты ў доўгае адзеньне. Тады пазнаў Саўл, што гэта Самуіл, і ўпаў тварам на зямлю і пакланіўся» (Першая Царстваў 28:13,14). На зварот цара Самуіл адказаў: «Навошта ж ты пытаешся ў мяне, калі Гасподзь адступіўся ад цябе і зрабіўся ворагам табе? [...] І аддасьць Гасподзь Ізраіля разам з табою ў рукі Філістымлянаў: заўтра ты і сыны твае будуць са мною, і табар Ізраільскі аддасьць Гасподзь у рукі Філістымлянаў» (Першая Царстваў 28:16,19). Жудасная вестка так патрэсла Саўла, што ён страціў прытомнасьць і ўпаў на зямлю.

Але, нягледзячы на прароцтва, Самуіл з сынамі ідзе на верную пагібель.

На другі дзень разгарэўся бой. Ізраільцяне пацярпелі поўнае паражэньне. Тры сыны Саўла, у тым ліку і адважны Ёнатан, загінулі разам з тысячамі іншых. Паранены стрэламі Саўл папрасіў свайго зброяносца забіць яго. Юнак, аднак, не адважваўся падняць руку на памазанца Божага, і тады Саўл кінуўся сам на свой меч. Верны слуга рушыў усьлед яго прыкладу.




Сьмерць Саўла. Маёліка (1547). Музэй прыкладнога мастацтва і гісторыі. Антвэрпэн. Блёк пошты Бэльгіі, выдадзены ў 1996 годзе

На наступны дзень Філістымляне знайшлі труп ізраільскага цара і павесілі яго на сьцяне Бэт-сана, як знак перамогі.

Калі даведаліся пра гэта жыхары Явіса Галаадзкага (якіх Саўл некалі выратаваў ад ворагаў), яны паслалі людзей да Бэт-сану, каб зьняць са сьцяны цела загіблага цара. Ноччу гэтыя паслы выкралі цела Саўла і «і ўзялі косьці іхнія і пахавалі пад дубам у Явісе, і пасьціліся сем дзён» (Першая Царстваў 31:13).

Давід даведаўся пра гібель Саўла і яго сыноў ад аднаго амалекіцяніна, які прыбег з поля бітвы. Амалекіцянін думаў, што ўзрадуе Давіда такой весткай, і хваліўся нават, што сам забіў ізраільскага цара. Але Давід усклікнуў: «як не пабаяўся ты падняць руку, каб забіць памазанца Гасподняга?» (Другая Царстваў 1:14) і загадаў забіць амалекіцяніна.




Сьмерць цара Саўла (1848). Элі Маркузэ (1817—1902). Тэль-Авіўзкі музэй выяўленчых мастацтваў. Пэрсанальная марка, выпушчаная поштай Ізраілю ў 2014 годзе

Давід у кранальнай песьні аплакваў сьмерць цара Саўла і свайго сябра Ёнатана: «Краса твая, Ізраіль, ляжыць хворая на вышынях тваіх. Як загінулі героі! Не абвяшчайце ў Выніку, не распавядайце на вуліцах Аскалона, каб не радаваліся дачкі філістымскія, каб не радаваліся дачкі іншапляменцаў. Горы Гільбоа! Хай не будзе на вас ні расы, ні дажджу, ні ўрадлівых палёў, бо там заплямлены шчыт герояў, шчыт Саўла, не нашмараваны алеем. (А быў час, калі) лук Ёнатана не спыняўся перад крывёю забітых, перад лукам герояў, і меч Саўла не вяртаўся (у ножны) пустым. О, Саўл і Ёнатан, любімыя і дарагія, неразлучныя і ў жыцьці, і ў сьмерці! Яны насіліся лягчэй Арлоў, яны былі храбрэй львоў. Вы, дочкі Ізраіля, плачце па Саўле, які апранаў вас у пурпуру і тонкія тканіны і пакрываў вашыя адзеньня залатымі ўпрыгожваньнямі. Як загінулі героі ў бітве! Як загінуў Ёнатан на вышынях тваіх! Балюча мне за цябе, брат мой Ёнатан! Ты мне быў так дарог; твая любоў была мне даражэй

каханьня жанчыны. О, як загінулі героі! Як загінула зброя баявая!» (Другая Царстваў 1:19—27).

Разьбіўшы ізраільскую армію, Філістымляне захапілі даліну Езрэель і занялі, такім чынам, выгадную стратэгічную пазыцыю для заваяваньня ўсяго Ханаана. Дзяржава, з такой цяжкасьцю створанае Саўлам, перастала існаваць. Пэрыяд валадараньня Саўла працягваўся трыццаць гадоў-з 1040 па 1010.

Жалобны сьпеў Давіда над Саўлам і яго сынам Ёнатанам да гэтага часу чытаецца ў Ізраілі на розных памятных цырымоніях.

## Давідаў Запавет

### Асоба Давіда

*І прадоўжу навечна семя ягонае, і ягоны трон — як дні неба. (Псалтыр 89:30)*

Давід (імя ў перакладзе з старажытнаяўрэйскай значыць «каханы») другі цар Ізраіля, малодшы сын Ясея з Віфляема. Валадарыў 40 гадоў (1005 — 965 да Р. Х.): сем гадоў і шэсьць месяцаў быў царом Юдэі са сталіцай у Хэўроне, затым 33 года — царом аб'яднанага царства Ізраіля і Юдэі са сталіцай у Ерусаліме.

Давід — пераможца волата Галіяфа, бацька мудрага цара Саламона, аўтар біблейскай Кнігі Псальмаў.

Ні пра аднаго чалавека не напісана столькі ў Старым Запавеце, не складзена столькі легенд і не створана твораў мастацтва, як пра цара Давіда. За свой доўгі жыцьцёвы шлях Юдэйскі цар кім толькі не быў. Пас авечак, паляваў, ваяваў, складаў вершы і сьпяваў іх пад акампанэмэнт арфы, а стаўшы памазаньнікам Божым, правіў аб'яднанай краінай 33 гады. Вобраз Давіда зьяўляецца вобразам ідэальнага ўладара, з роду якога, паводле паданьня, выйдзе Мэсія.




Цар Давід. Марк Шагал (1887—1985). Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1969 годзе

На марцы намаляваны цар Давід — адзін з сэрыі Біблейскіх малюнкаў, напісаных Маркам Шагалам у 1951 годзе. Ля ног цара жанчына корміць грудзьмі дзіця. Збоку ад дарогі сядзіць босы Прарок? Бо абак ляжыць адчыненая кніга. Як бы з кнігі ўзьнікае цэлы сусьвет, на які глядзіць цар Давід. Натоўп, танцуючы, вітае мужчыну, які едзе ў Ерусалім?, над якім узыходзіць сонца. Магчыма гэта Хрыстос? Прама з кнігі выпраменьвае голая жанчына (Вірсавія?). Другая жанчына высьвятляе ноч падсьвечнікам. І яшчэ многа пэрсанажаў: мастак, мужчына з катомкай, жанчына, якая глядзіць

на гледача, курыца, конь і крыху ніжэй музыка са скрыпкай, вышэй — абрысы некаторых дамоў... Магчыма роднага Віцебску? Зьверху Божая? рука, у якой дзіця з букетам. Надпіс на прывесцы: «І цараваў Давід над усім Ізраілем, і тварыў Давід суд і праўду над усім народам сваім» (Другая Царстваў 8:15).

На працягу многіх стагодзьдзяў асоба Давіда і яго подзьвігі служылі невычэрпнай крыніцай натхненьня для мастацкай творчасьці.

**Давід становіцца царом Ізраілю**

*Я склаў запавет з выбранцам Маім, прысягаўся Давіду, рабу Майму... (Псалтыр 89:4)*

Пасьля сьмерці Саўла Ізраіль апынуўся без цара. «Пасьля гэтага Давід спытаўся ў Госпада, кажучы: ці ісьці мне ў якінебудзь горад Юдаў? І сказаў яму Гасподзь: ідзі. І сказаў Давід: куды ісьці? І сказаў Ён: у Хэўрон» (Другая Царстваў 2:1).

У Хэўроне племя Юды на сходзе абвясьціла Давіда царом Юдэйскім, што азначала фактычнае аддзяленьне Юдэі ад Ізраіля, царом якога быў абвешчаны сын Саўла Евастэй. Дзьве габрэйскія дзяржавы ўступілі паміж сабой у міжусобную барацьбу, якая доўжылася два гады (бо Евастэй валадарыў 2 года) і завяршылася перамогай Давіда. Старэйшыны Ізраіля прыйшлі ў Хэўрон і абралі Давіда царом над усім Ізраілем.

Хэўрон. На прывесцы маркі малюнак Пячоры Патрыярхаў — склеп у старажытнай частцы Хэўрона, у якім, паводле Бібліі, пахаваныя габрэйскія прабацькі Абрагам, Ісак і Якаў, а таксама іх жонкі Сара, Рэбэка і Лія. Згодна з габрэйскай традыцыяй, тут таксама спачываюць целы Адама і Евы.




Хэўрон вачамі дзяцей. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1998 годзе

Першым буйным прадпрыемствам Давіда стала вайна зь Евусеямі, у выніку якой ён захапіў Ерусалім і перанёс туды сталіцу сваёй дзяржавы.

«І пайшоў цар і людзі ягоныя на Ерусалім супроць Евусэяў, жыхароў той краіны; але яны казалі Давіду: ты ня ўзыйдзеш сюды; цябе адгоняць сьляпыя і кульгавыя, — гэта азначала: ня ўвойдзе сюды Давід. Але Давід узяў крэпасьць Сіён: гэта — горад Давідаў» (Другая Царстваў 5:6,7).

Гэта было няпростае рашэньне, бо ў Хэўроне была Пячора Патрыярхаў. Але Давід разумеў, што сталіца павінна быць такім месцам, якое аб’ядноўвала бы народ Ізраіля і дзе было бы месца, дзе ўвесь народ аддаваў бы хвалу адзінаму Богу. Тры тысячы гадоў таму Ерусалім стаў сталіцай і палітычным і рэлігійным цэнтрам яўрэйскай нацыі.

На правай марцы блёку пошты Ізраілю «Ерусалім, горад Давідаў — 3000 гадоў» адлюстравана частка мазаічнага пакрыцьця з сынагогі Газа 6 ад Р.Х., на якой кароль Давід грае на арфе.

На ўкладцы выява пячаткі (булы) Біблейскага кніжніка Гемарыі, сына Шафана, знойдзеная пры раскопках горада Давіда, датаваных канцом Першага храма. На фоне ўкладкі — фрагмэнт скрутка з храма ў пустыні Іудзей, датаванага перыядам Другога Храма. Срэбны тэтрадрахм Бар-Кхбы (132—135 ад Р. Х.). На авэрсе — фасад Храма ў Ерусаліме, на рэвэрсе — Скінія. На сярэдняй марцы прадстаўленыя ілюстрацыі Ерусаліма, зьнятыя з карты Эрэц Ізраіля, намаляванага рабінам Піні Сафэдам у 19 ст. У куце маркі разьмешчана выява часткі пячаткі 19 ст., выробленай з літай лятуні з Марока Фес. На заднім пляне — фатаграфія Заходняй Сьцяны ў Іерусаліме, зробленая Дж. Б. Бонфілсам у 19 ст.; уяўная карціна сынагогі Ха-Рамбан у Ерусаліме 17 і 18 стст. (Сынагога была пабудавана ў 13 ст.).




Ерусалім, горад Давідаў — 3000 гадоў. Блёк пошты Ізраілю, выдадзены ў 1995 годзе

На левай марцы — сучасны аэрафотаздымак Кнэсета (Парлямэнту Ізраіля), урадавых будынкаў і Вярхоўнага суда, зробленых Дубі Талам, Моні Хараматы — аэрафотаздымка Альбатроса. На ўкладцы — Мэнора, Герб Дзяржавы Ізраіль, а на заднім пляне — урывак з Дэклярацыі Незалежнасьці.

**Унясеньне Каўчэгу Запавету ў Ерусалім**

*І прынесьлі каўчэг Гасподні і паставілі яго на сваім месцы пасярод скініі. (Другая Царстваў 6:17)*

Пасьля таго, як філістымляне пазбавіліся ад Каўчэгу, каб унікнуць бедзтваў, Каўчэг знаходзіўся ў Кірыятыярыме ў доме Амінадавым, «а Элеазара, сына ягонага, асьвяцілі, каб ён захоўваў каўчэг Госпада. З таго дня, як застаўся каўчэг у Кірыятыярыме, прайшло шмат часу, гадоў дваццаць» (Першая Царстваў 7:2). Цар Давід хацеў разьмясьціць Каўчэг Запавету ў Скініі на гары Сіён. «І прынесьлі Каўчэг Гасподні і паставілі яго на сваім месцы пасярод Скініі, якую зладзіў для яго Давід; і прынёс Давід цэласпаленьні прад Госпадам і ахвяры мірныя» (Другая Царстваў 6:17).




Урачыстае ўнясеньне Каўчэга Запавету ў Ерусалім. Фрэска Мікелонскай царквы Нотр-Дам дэ Ардылье. Дызайн Івет Дэтчэверы. Марка пошты Сен-П’ер і Мікелон, надрукаваная ў 2013 годзе

Перанос Каўчэга адбываўся вельмі ўрачыста. «Давід танцаваў з усёй моцы прад Госпадам; а апрануты быў Давід у льняны наплечнік. Так Давід і ўвесь дом Ізраілеў несьлі Каўчэг Гасподні з

крыкамі і трубнымі гукамі» (Другая Царстваў 6:14,15).

Давід таксама меў намер пабудаваць для Каўчэга Божага дом — Храм. Не Давід, а толькі яго сын ажыцьцявіць будаўніцтва, бо Давід, удзельнічаючы ў войнах, праліў занадта шмат крыві. Хоць Давід і не павінен быў будаваць Храм, ён пачаў падрыхтоўку будаўніцтва, сабраў сродкі і перадаў свайму сыну Саламону будаўнічыя матэрыялы і пляны і пазначыў месца, на якім Саламон пазьней пачаў будаўніцтва Храма. Царства Давіда займала, за выключэньнем вузкіх прыбярэжных палосак, населеных Філістымлянамі і Фінікійцамі, усю прастору паміж морам і Аравійскай пустыняй. Прарок Натан перадаў Давіду Слова Божае: «Я буду яму бацькам, і ён будзе Мне сынам; і калі ён згрэшыць, Я пакараю яго жазлом мужоў і ўдарамі сыноў чалавечых; але ласкі Маёй не адбяру ў яго, як Я адабраў у Саўла, якога Я адкінуў перад абліччам тваім. І будзе непахісны дом твой і царства тваё навек прад абліччам Маім, і трон твой стаяцьме вечна» (Другая Царстваў 7:14—16).

**Гісторыя граху Давіда**

> *Адмый мяне шматкроць ад беззаконьня майго, і ад грэху майго ачысьці мяне: бо беззаконьне маё я ўсьведамляю, і грэх мой заўсёды перада мною. (Псалтыр 51:4,5)*

На вяршыні сваёй магутнасьці, падчас вайны з Аманіцянамі, Давід запаў у грэх. Убачыўшы прыгожую жанчыну, якая купалася, ён ня мог стрымаць сваіх пачуцьцяў.

На фрэсцы Рафаэля намалёвана, што туалет Вірсавіі адбываецца публічна. Мастак як бы намякае на тое, што Вірсавія таксама часткова вінавата, што яна справакавала Давіда.




Давід і Вірсавія (1519). Рафаэль Санці (1483—1520). Музэі Ватыкану, Ватыкан. Марка пошты Грэнады Грэнадынас, выдадзеная ў 1983 годзе

На карціне вэнгерскага мастака Себасьцьяна Рычы Вірсавія ў атачэньні дзеўчын і кабет, якія ёй прыслужваюць. У далечыні на бальконе відаць сылуэт цара Давіда.




Купаньне Вірсавіі (1720). Себасьцьяна Рычы (1659—1734). Дзяржаўны музэй, Бэрлін. Блёк пошты Вэнгрыі, выдадзены ў 1968 годзе

«Ня прагні жонкі блізкага твайго» (Выхад 20:17) патрабуе Дзявятая Запа-

ведзь. Але, даведаўшыся, што гэта Вірсавія, жонка Урыі, аднаго зь яго адважных воінаў, Давід, нягледзячы на гэта, паслаў за ёю.

У левым верхнім куце палатна на даху палаца ледзь прыкметна намаляваная фігура цара Давіда, а Вірсавію Рубенс паказаў за туалетам на пляцоўцы, якая вядзе ў басэйн. Увагу прыцягвае раскошная маладая жанчына. Мастак перадае тонкія эмацыйныя моманты гэтай сцэны: зьдзіўлены погляд Вірсавіі, якая не чакала атрымаць ліст з рук дасланага да яе нэгрыцяняці, рэакцыя сабакі, ашчэранай на пасланца, як бы западозрыла нядобрае… Цудоўна выпісаныя жаночыя фігуры, адзеньні і архітэктурны пэйзаж, струменіцца вада…




Вірсавія ля фантану (1635). Піцер Паўль Рубенс. Карцінная Галерэя Старых Майстроў, Дрэздэн. Марка пошты Рэспкблікі Чад, выдадзеная ў 1972 годзе

На марцы блёку карціна Рубенса «Давід і старэйшыны Ізраіля».

Карціна Рэмбрандта «Купаньне Вірсавіі» напісана ў 1654 годзе. Цар Давід з даху свайго палаца ўбачыў Вірсавію, якая выходзіла з купальні і, зачараваны яе прыгажосьцю, загадаў прывесьці яе да яго, нягледзячы на тое, што яна была замужам. Рэмбрант адлюстраваў Вірсавію сумнай: у яе руках пасланьне ад цара і яна разумее, што нельга ісьці насуперак царскім жаданьням…, і ўжо немагчыма нічога зьмяніць…

Служанка беражліва выцірае ногі сваёй спадарыні, падзяляючы зь ёй прадчуваньне, што хутка адбудзецца непапраўнае.




Купаньне Вірсавіі (1654). Рэмбрант (1606–1669). Музэй Люўр, Парыж. Марка пошты Нікарагуа, выдадзеная ў 1971 годзе

Гэтую сцэну Рэмбрант пераносіць на палатно і канцэнтруе на ім усю цёмную гісторыю аб шлюбнай здрадзе, крывавым злачынстве і Божым гневе. Вірсавія Рэмбрандта «агорнутая ў яе падзеньні такім залатым зьзяньнем, што здаецца ў ёй сабраны ўвесь жар Усходу» (Эміль Верхарн).

Вірсавія была вымушана падпарадкавацца. Калі цару стала вядома, што яна чакае ад яго дзіця, ён выклікаў яе мужа з паходу. Аднак Урыя перад усім дваром адмовіўся ўвайсьці ў свой дом, чым зблытаў пляны Давіда, які спадзяваўся, што з прыбыцьцём Урыі цяжарнасьць Вірсавіі будзе зьвязвацца зь імем яе мужа. Тады Давід загадаў адправіць Урыю ў такое месца, дзе б той загінуў у бітве.




Давід і Урыя (1665). Рэмбрант (1606–1669). Дзяржаўны Эрмітаж, Санкт-Пецярбург. Марка пошты Мадагаскару, выдадзеная ў 1986 годзе

Рэмбрант «вырваў» змрочны твар Урыі з цемры пакоя. Сыход воіна суправаджаецца смуткам у вачах старца на другім пляне і хітрым позіркам Давіда. Гэтыя тры белых плямы ў змроку інтэр'еру скупыя на міміку і красамоўныя адначасова. Па адной са шматлікіх вэрсій, мастацтвазнаўцы лічаць, што старац — гэта прарок Натан, які хацеў паспрабаваць абразуміць Давіда і прадухіліць сьмерць Урыі.

Урыя загінуў у баі. Па заканчэньні часу жалобы Вірсавія афіцыйна зрабілася жонкаю Давіда і нарадзіла яму сына. Учынак Давіда выклікаў гнеў Божы і праклён. Бяда за бядой наганяла дом і сям'ю Давіда, і той раскаяўся ў дзеі. Прабачэньне распаўсюдзілася пасьля і на яго жонак, і родны дом, і на дзяцей, і на шлюб з Вірсавіяй, ад якой нарадзіўся пераемнік Давіда — Саламон.

Эвангельле ад Мацьвея, ды і ўвесь Новы Запавет пачынаецца з радаводу Ісуса Хрыста. Раней радавод у народзе Ізраільскім заўсёды лічыўся па мужчынскай лініі і таму жанчыны, вядома ж, не згадваліся. Але ўважліва ўчытваючыся ў радкі Сьвятога Пісаньня, мы можам заўважыць адну цікавую дэталь, што сярод многіх мужчынскіх імёнаў, у тым ліку Давіда і Саламона, згаданыя і чатыры жаночых: Тамар, Рааў, Рут і «былая за Урыей», гэта значыць Вірсавія.

### Дасягненьні і беды Давіда

*Прынясі Богу ў ахвяру падзяку, і выконвай твае абяцаньні Ўсявышняму, і пакліч Мяне ў дзень смутку; Я ўратую цябе, і ты ўславіш Мяне. (Псалтыр 50:14,15)*

Пасьля сарака гадоў цараваньня Давід атрымлівае канчатковую перамогу над Амацінянамі. «І ўзяў Давід вянок цара іхняга з галавы ягонай, — а ў ім было золата талант і каштоўны камень, — і ўсклаў яго Давід на галаву сваю, і здабычы з горада вынес вельмі многа. А народ, які быў у ім, ён вывеў і паклаў іх пад пілы, пад жалезныя малатарні, пад жалезныя сякеры, і кінуў іх у абпальныя

печы. Так ён зрабіў з усімі гарадамі Аманіцкімі. І вярнуўся пасьля таго Давід і ўвесь народ у Ерусалім» (Другая Царстваў 12:30,31).




Перамога Давіда над Аманіцянамі (1518—1519). Рафаэль Санці (1483—1520). Лёджыі Рафаэля, Апостальскі палац, Ватыкан. Марка пошты Грэнады Грэнадынас, выдадзеная ў 1983 годзе

Але беды Давіда не скончыліся. Сын Давіда Авэсалом абвясьціў сябе царом. Авэсалом пачаў вайну с бацьку і ў лесе Яфрэмавым адбылася вырашальная бітва.




Авэсалом вісіць на дубе. Джэймс Цісот (1867—1868). Пэрсанальная марка, выпушчаная ў 2014 годзе поштай Ізраілю

Давід наказвае воінам не рабіць нічога злога Авэсалому. Але Авэсалом падчас бітвы, скачучы на муле, зачапіўся сваімі шыкоўнымі доўгімі валасамі за галіны дубу і павіс на валасах. У гарачцы бою была забытая просьба Давіда і Авэсалом быў забіты. Нягледзячы на паводзіны сына Давід вельмі яго кахаў і засмуціўся: «сыне мой Авэсаломе! сыне мой, сыне мой Авэсаломе! о, хто даў бы мне памерці замест цябе, Авэсаломе, сыне мой, сыне мой!» (Другая Царстваў 18:33).

«Авэсалом яшчэ пры жыцьці сваім узяў і паставіў сабе помнік у царскай даліне; бо сказаў ён: няма ў мяне сына, каб захаваць памяць імя майго. І назваў помнік сваім імем. І называецца ён „помнік Авэсалома“ да сёньня» (Другая Царстваў 18:18).




Грабніца Авэсалома. Марка пошты Экватарыяльнай Гвінэі, выдадзеная ў 1975 годзе

Грабніца Авэсалома («Яд Авшалом» — памяць Авэсалома) — надмагільле ў Іерусалімскай Кедронскай даліне ля падножжа Алейнай гары. Паводле паданьня яна асацыюецца са стаўпом, узьведзеным Авэсаломам.

У Ізраілі існуе традыцыя, кідаць камень у Грабніцу Авэсалома. Бацькі, калі паказваюць гэтае месца дзецям, кажуць: «Будзеш сябе дрэнна паводзіць, як Авэсалом, і не пачытаць маці і бацьку, то і тваю магілу закідаюць камянямі!».

Пад канец свайго цараваньня Давіду прыйшлося перанесьці яшчэ адно бедзтва. Ён даручыў зрабіць перапіс народу, але парушыў Закон выкананьня перапісу. Тора загадвае лічыць габрэяў апасродкавана: «І наказаў Гасподзь Майсею сказаць: калі будзеш лічыць сыноў Ізраілевых пры пераглядзе іх, дык хай кожны дасьць выкуп за душу сваю Господу пры падліку іх, і ня будзе паміж імі пошасьці згубнай пры падліку іх...» (Выхад 30:11,12). А Давід загадаў лічыць габрэяў непасрэдна, чым парушыў Закон. Калі ён гэта зразумеў, было позна — на краіну абрынулася эпідэмія: «І паслаў Гасподзь пошасьць і паморак на Ізраільцянаў ад раніцы да назначанага часу; і памерла з народу, ад Дана да Вірсавіі, семдзесят тысяч чалавек» (Другая Царстваў 24:15).




Старазапаветнае ахвярапрынашэньне. Пітэр Паўль Рубенс (1577—1640). Музэй мастацтваў, Бостан. Марка пошты Чаду, выдадзеная ў 1978 годзе

Толькі, калі Давід стаў шчыра маліцца і раскайвацца, Прарок Гад перадаў яму волю Божую: «І зладзіў там Давід ахвярнік Госпаду і прынёс цэласпаленьні і мірныя ахвяры. І ўмілажаліўся Гасподзь з краіны, і спынілася пошасьць у Ізраільцянаў» (Другая Царстваў 24:25).

Ахвяру Давіда намаляваў на эскізе для габэлена ў цыкле «Урачыстасьць Эўхарыстыі» Пітэр Паўль Рубенс.

Апошнія дні Давіда былі азмрочаныя суперніцтвам яго сыноў за пасаду. Давід моцна слабеў фізычна і атачэньне спрабавала рознымі спосабамі паляпшаць яго здароўе. «І цар Давід састарыўся, увайшоў у сталы век, дык накрывалі яго вопраткай, але ня мог сагрэцца.




Давід і Авісаг. Пэдра Амэрыка (1843—1905). Марка пошты Бразыліі, выдадзеная ў1993 годзе

І сказалі яму слугі ягоныя: няхай пашукаюць гаспадару нашаму цару маладую дзяўчыну, каб яна стаяла перад царом і хадзіла за ім і ляжала зь ім, — і будзе цёпла гаспадару нашаму цару. І шукалі прыгожую дзяўчыну ва ўсіх межах Ізраільскіх, і знайшлі Авісагу Сунаміцянку, і прывялі яе да цара. Дзяўчына была вельмі прыгожая, і хадзіла яна за царом і прыслужвала яму; але цар не спазнаў яе» (Трэйцяя Царстваў 1:1—4).

У Давіда былі ўсе прычыны славіць Госпада, бо ён быў абавязаны яму ўсім. Калі «Гасподзь выбавіў яго ад рукі ўсіх ворагаў і ад рукі Саўла» Давід склаў Песьню, якую выконваў многа разоў. Вось пачатак гэтай Песьні: «Гасподзь — цьвярдыня мая і моц мая і збаўца мой. Бог мой — скала мая; на Яго я спадзяю-

ся; шчыт мой, рог выратаваньня майго, агароджа мая і прытулак мой; Ратаўнік мой, ад бедаў Ты выбавіў мяне!» (Другая Царстваў 22:2,3). А так Песьня заканчваецца: «За тое я буду славіць Цябе, Гаспадзе, сярод іншапляменцаў і буду сьпяваць імю Твайму, велікадушна ратуючы цара Свайго і творыць міласьць памазанцу Свайму Давіду і нашчадкам ягоным вечна!» (Другая Царстваў 22:50,51).




Давід (2008). Ашэр Калдзерон (1929—2018). Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1960 годзе ў сэрыі, прысьвечанай тром першым царам Ізраілю

Давід намаляваны з арфай, пад акампанэмэнт каторай сьпяваў песьні, славячы Бога.

Яшчэ пры жыцьці Давіда яго старэйшы сын Аданія робіць спробу абвясьціць сябе царом. Але выбар Давіда ўпаў на Саламона, хоць ён быў толькі адзінаццатым ягоным сынам. Прарок Натан падтрымаў выбар Давіда, таму што ведаў волю Божую пра Саламона. «І ўзяў Садок сьвятар рог з алеем з скініі і памазаў Саламона. І затрубілі ў трубу, і ўвесь народ усклікаў: хай жыве цар Саламон! І ўвесь народ праводзіў Саламона, і іграў народ на жалейках і вельмі радаваўся, так што зямля расьсядалася ад крыкаў яго» (Трэйцяя Царстваў 1:39,40).




Памазаньне Саламона (1519). Рафаэль Санці (1483—1520). Музэі Ватыкану, Ватыкан. Марка пошты Грэнады Грэнадынас, выдадзеная ў 1983 годзе

На фрэсцы Рафаэля сьвятар Садок памазвае аліўкавым маслам галаву маладога цара, а сабраны вакол народ выказвае сваю радасьць. У правым ніжнім куце фрэскі відаць чалавека, які не падтрымлівае агульную радасьць. Гэта Аданія, які не пакідае надзеі авалодаць тронам.

### Сьмерць цара Давіда

*Давід мелех Ісраэль хай векаям — Давід, цар Ізраіля, жывы і існуе. Ізраільская народная песьня*

Заканчваецца апавяданьне пра Давіда завяшчаньнем і распараджэньнямі, якія ён пакінуў Саламону: «вось, я адыходжу ў дарогу ўсёй зямлі, а ты будзь цьвёрды і будзь мужны і захоўвай запавет Госпада Бога твайго, ходзячы шляхамі Ягонымі і трымаючыся статутаў Ягоных і Запаведзяў Ягоных, і вызначэньняў Ягоных і пастановаў Ягоных, як

напісана ў законе Майсеевым, каб быў ты разумны ва ўсім, што будзеш рабіць, і ўсюды, куды зьвернешся; каб Гасподзь выканаў слова Сваё, якое Ён сказаў пра мяне, кажучы: калі сыны твае будуць сачыць за шляхамі сваімі, каб хадзіць прад Мною ў ісьціне ад усяго сэрца свайго і ад усёй душы сваёй, дык не перавядзецца муж ад цябе на троне Ізраілевым» (Трэйцяя Царстваў 2:2—4). І кароткім паведамленьнем аб пахаваньні Давіда ў Ерусаліме — горадзе Давіда і ўказаньнем тэрміну яго валадараньня: «І спачыў Давід з бацькамі сваімі і пахаваны быў у горадзе Давідавым. Часу валадараньня Давіда над Ізраілем было сорак гадоў: у Хэўроне цараваў ён сем гадоў і трыццаць тры гады цараваў у Ерусаліме» (Трэйцяя Царстваў 2:10,11).




Месца пахаваньня цара Давіда. Марка Ізраілю. Прыватны выпуск. Філятэлістычная выстава Ерусалімфіл-50 «Славутасьці Ерусаліму»

Давід памёр ва ўзросьце 70 гадоў і быў пахаваны ў Ерусаліме, на гары Сіён, дзе, паводле хрысьціянскага паданьня, праходзіла Таемная вячэра.

Давід — адна з найвялікшых асобаў габрэйскай гісторыі. Ён завяршыў пачатую Саўлам справу аб'яднаньня разрозьненых Ізраільскіх плямёнаў, зьвязаных толькі агульнымі паданьнямі, у адзіны народ і ператварыў царства Ізраіля з няўстойлівага Саюзу каленаў у магутную дзяржаву.

Біблія апавядае аб ім больш падрабязна, чым пра якую-небудзь іншую гістарычную асобу, за выключэньнем Майсея. У гэтым апавяданьні вымалёўваецца складаная і магутная асоба, надзеленая супярэчлівымі рысамі: сьціплы, але перакананы ў сваім вялікім пакліканьні, пяшчотны і жорсткі, пастух і воін, паэт — псальмасьпевец і дыплямат, арфіст і палкаводзец, схільны запалу і жаданьням грэшнік і глыбока рэлігійны праведнік, адданы Богу, які шчыра раскайваецца ў сваіх грахах.




Давід. Дызайнэр Э. Ларэнц. Марка з сэрыі «Ушпізін» — Госьці ў Сукке, выдадзеная поштай Ізраілю ў 1999 годзе

Вера ў аднаўленьне дынастыі Давіда паслужыла адным з фактараў захаваньня габрэйскага народу ў выгнаньні. Вобраз Давіда стаў у стагодзьдзях ідэалам праведнага цара, увасабленьнем мінулай велічы народу і сымбалям спадзяваньня на яго адраджэньне ў будучыні.

Вобраз Давіда шырока прадстаўлены ў Эўрапейскім мастацтве. Найбольш папулярны выгляд Давіда, як пераможцы Галіяфа (плястыка раньнехрысьціянскіх саркафагаў, росьпісы ў рымскіх катакомбах, скульптура сабора ў Рэймсе, 13 ст., пазьней — статуі Донатэла, Верокьё, Мікеланджэла; у жывапісу 15—18 стст. — карціны Палайола, Тынтарэта, Каравадджа, Рэні, Гверчына, Ластмана, Пусэна і інш.). Часта Давіда адлюстроўваюць, як музыка з інструмэнтам (звычайна арфай) у руках (кніжная мініяцюра Псалтыры — т. зв. Хлудаўскай Псалтыры 9 ст., якая захоўваецца ў гістарычным музэі ў Маскве, Парыскай Псалтыры — у Нацыянальнай бібліятэцы ў Парыжы і інш.; каменная разьба фасадаў царквы Пакрова на Нерлі і Дзьмітрыеўскага сабора ва Уладзіміры, 12 ст., вітражы Шартрскага сабора, 13 ст.; карціны «Давід грае на арфе перад Саўлам» Пінтурыкьё, Лукі Лейдэнскага, Рэмбрандта і іншых мастакоў).

Шырока распрацоўваны ў жывапісу і круг сцэн, зьвязаных з каханьнем Давіда да Вірсавіі (карціны Мемлінга, Кранаха Старэйшага, Рубенса, Ластмана, Йорданса, Пуссена, Рэмбрандта, Т’епола і інш.). Сярод іншых сюжэтаў, адлюстраваных у жывапісе, — «Самуіл памазвае Давіда на царства» (Веранэзе, Ларэн, Т’епола), «Авігея перад Давідам» (Мартэн дэ Вос, Бассана, Рэні, Рубенс, Гверчына і інш.), «Давід і Ёнафан» (Рэмбрант) і інш. Ствараюцца цыклы, прысьвечаныя розным эпізодах жыцьця Давіда (Фрэскі Рафаэля і яго вучняў у Ватыканскіх лёджыях, фрэскі Джуліа Рамана ў Палацо дэль Тэ ў Мантуі і інш.). З 42 цароў і царыц толькі пра Давіда габрэі сьпяваюць: «Давідзе, цару Ізраілю…».

## Псальмы Давіда — сад Боскіх песьняў

*Слова Хрыстовае хай усяляецца ў вас шчодра, з усякаю мудрасьцю; вучэце і настаўляйце на розум адзін аднаго псальмамі, славаслоўем і духоўнымі песьнямі, у мілаце апяваючы ў сэрцах вашых Госпада. (Да Каласянаў 3:16)*

У моры песьняў ёсьць песьні прысьвечаныя Богу. Яны запісаныя ў Кнізе Мудрасьці — Псалтыры.




Псалтыр (1686). Кніга Міхала Апафія I, князя Трансыльваніі (1632—1690). Марка Вэнгрыі, выдадзеная ў 2002 годзе

Назва Псалтыр узятая ад назвы музычнага струннага інструмэнта, з гульнёю на якім злучаліся сьпевы псальмаў пры старазапаветным набажэнстве. Аўтарамі псальмаў, верагодна, былі Майсей, Давід, Саламон, і многія іншыя; але 73 псальмы надпісаныя імем Давіда і многія з непадпісаных, верагодна, напі-

саны ім жа, таму ўся Кніга называецца Псалтыр цара Давіда.




Цар Давід. Ілюстрацыя з Роўніцкай Псалтыры 14 ст. Пражскі Град. Марка Чэхаславакіі, выдадзеная ў 1984 годзе

Псалтыр у далёкім мінулым служыў ня толькі настольнай кнігай кожнага адукаванага чалавека, але нярэдка быў і яго неразлучным спадарожнікам у часы розных доўгатэрміновых паездак і падарожжаў.




500-годзьдзе Беларускага кнігадрукаваньня. Псалтыр. Францыск Скарына. Блёк пошты Беларусі, выдадзены ў 2017 годзе

Таму невыпадкова, што Францішак Скарына, улічваючы практычную патрэбу ў гэтай кнізе, пачаў сваю друкарскую дзейнасьць менавіта з Псалтыры і выдаў яго двойчы: у Празе (1517) і ў Вільні (1522) у складзе «Малой падарожнай кніжкі».

Давід быў доблесным чалавекам, ваяром і военачальнікам, музыкаю і сьпеваком з салодкім голасам.




Цар Давід грае на арфе. Ілюстрацыя з манускрыпту 15 ст. Марка Эфіёпіі, выдадзеная ў 1972 годзе

Легенда абвяшчае, што ліра Давіда вісела над ложкам і што з надыходам паўночы дзьмуў паўночны вецер і яго ліра гуляла сама па сабе. Адразу ж Давід уставаў з ложка, каб заняцца вывучэньнем Біблії, як напісана: «Апоўначы падымаўся славіць Цябе за справядлівыя суды Твае» (Псалтыр 119:62).

Давіда называюць «псальмістам Ізраіля» з-за псальмаў, якія ён складаў і сьпяваў падчас смутку і песьні хвалы і падзякі ў часы дабрабыту і выратаваньня.

Псальмы выражаюць радасьць, калі ўсё добра, смутак у час бяды і праслаўля-

юць веру ў Бога, Многія псальмы ўваходзяць у рэгулярныя малітвы ўсіх яўрэйскіх абшчын.




«Псальма Давіда» — сцэна з пастановак Тэатра танца Інбал. Марка Ізраілю, выдадзеная ў 1971 годзе

Псалтыр называюць Садам Боскіх песьняў, які ніколі не вяне і ніколі не перастае прыносіць плён.




Псалтыр (6 ст.). Марка пошты Грэцыі з сэрыі «Элінская мова», надрукаваная ў 1996 годзе

Дзяржава Ізраіль прызначыла два афіцыйныя дні нацыянальнага ўшанаваньня Галакосту і Супраціўленьня — 27-ы Нісан, дзень, калі яўрэі Ізраіля аб'ядноўваюцца ў памяць аб Галакосьце і адвагу юдэйскага Супраціўленьня, і 10-ы Тэвет, які Галоўны Рабінат прызначыў Днём памяці ўсіх тых, чыя дата сьмерці невядомая. Гэтак жа, як яўрэі памятаюць усіх тых, хто прыклаў руку да забойства народа, так памятаюць і тых праведнікаў, якія зрабілі ўсё, што было ў іх сілах, каб выратаваць габрэяў ад фашыстаў. На прывесцы гэтай маркі напісана: «Такіх я памятаю...». (Псальмы 42: 5).




Рука дапамогі. «Такіх я памятаю...». (Псальмы 42: 5). Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1973 годзе

Памежныя паселішчы.




Памежныя паселішчы. Ізраільская марка 1976 года выпуску

Змагаючыся за адраджэньне сваёй дзяржавы, габрэі будавалі на межах па-

селішчы. На Ізраільскай марцы намаляваныя домікі габрэйскага паселішча з чырвонай дахам і зялёныя пасадкі. На пярэднім пляне — калючы дрот — мяжа. На прывесцы маркі зьмешчана вытрымка з псальма: «Ты паклаў мяжу, якой не пяройдуць...» (Псалтыр 104:9).

На наступнай марцы паказана перадаючая антэна на фоне вясёлкі — сымбалю міру. Радыё, тэлебачаньне і іншыя сродкі масавага пераказу могуць і павінны быць інструмэнтам будовы яднаньня і згоды паміж людзьмі і народамі.




Голас міру. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1972 годзе

На прывесцы маркі словы: «Па ўсёй зямлі праходзіць іхні гук...» (Псалтыр 19:5).

Птушаня на пагорках Юдэі — старажытны горад Ерусалім, вечны і ўсеагульны горад, краевугольны камень трох вялікіх рэлігій і аснова тугі габрэйскага народа ў іх незьлічоных пакаленьнях выгнаньня.

На прывесцы маркі зьмешчана вытрымка з псальма: «Ерусалім, пабудаваны як горад, зьліты ў адно...» (Псалтыр 122:3)

На прывесцы другой маркі з гэтай жа сэрыі «Прасеце спакою Ерусаліму...» (Псалтыр 122:6).




Сьцены Старога гораду, сынагогі, храмы, мячэці. Храмавая гара, Яд Аўшалом. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1968 годзе

Для габрэяў ніводнае месца на зямлі не зьяўляецца больш сьвятым і шанаваным, чым Ерусалім. Кожнае сьвята словы «У наступным годзе ў Ерусаліме» горача прамаўляюцца ў габрэйскіх дамах, і за тысячу гадоў выгнаньня габрэйства ўпарта чаплялася за надзею калі-небудзь вярнуцца ў горад.

Можна сьмела сьцьвярджаць — Біблія прасякнутая музыкай. Біблія раскрывае нам эмацыйны лад і музычныя перажываньні чалавека тых далёкіх часоў. Гарачы заклік славіць Госпада, прычым славіць Яго сьпевам, узносіцца ці ледзь не ў кожным псальме! «Пахвальная песьня Давідава. Прыйдзеце, засьпяваем Госпаду» (Псалтыр 95:1). «Псальма Давідава. Пра міласьць і суд буду сьпяваць: Табе, Госпадзе, буду сьпяваць» (Псалтыр 101:1). «Алілуя. Сьпявайце Госпаду песьню новую; слава

Яму на сходні сьвятых» (Псалтыр 150:1).




«Новую песьню сьпявайце Яму…» (Псалтыр 33:3). Марка пошты Маршалавых выспаў, выдадзеная ў 1987 годзе

У часы Давіда быў усталяваны канон музычнага служэньня Госпаду і Біблія называе імёны першых музыкаў: «І загадаў Давід начальнікам лявітаў паставіць братоў сваіх сьпевакоў з музычнымі інструментамі, з псалтырамі і цытрамі і кімваламі, каб яны гучна ўзьвяшчалі голас радаваньня. І паставілі лявіты Эмана, сына Ёілевага, і з братоў ягоных, Асафа, сына Вэрэхііна, а з сыноў Мэрарыных, братоў іхніх, Этана, сына Кушаі; і зь імі братоў іхніх другарадных: Захара, Бэна, Яазііла, Шэмірамота, Ехііла, Унія, Эліява, Ванэю, Маасэя, Мататыю, Эліфлэуя, Мікнэя і Авэд-Эдома і Еэла, брамнікаў. Эман, Асаф і Этан ігралі гучна на медных кімвалах, а Захар, Азііл, Шэмірамот, Ехііл, Уній, Эліяў, Маасэя і Ванэя — на псалтырах, тонкім голасам. А Мататыя, Эліфлуй, Мікнэй, Авэд-Эдом, Еэл і Азазія — на цытрах, каб рабіць пачатак. А Хэнанія, начальнік лявітаў, быў начальнік сьпеваў, бо быў умельскі ў іх» (Першая Летапісаў 15:16—22).

У Бібліі згадваецца вялікая колькасьць музычных інструмэнтаў. Кожны інструмэнт у Бібліі — выразьнік пэўнага настрою, стану. Але ня толькі. У нейкай меры ён функцыянальны: у кожнага інструмэнта свая роля ў набажэнстве, на сьвяце, у паходзе, у жыцьці людзей.

Пошта Ізраілю прысьвяціла Псальмам Давіда і музычным інструмэнтам некалькі сваіх паштовых выпускаў.

Тымпан і кімвал. «Хвалеце Яго тымпанам і танцам… Хвалеце Яго гучнымі кімваламі…» (Псалтыр 151:4,5).




Тымпан і кімвал. Шофар. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1955 годзе

Тымпан — старадаўні ўдарны музычны інструмэнт, род медных талерак або невялікай літаўры. Кімвал — тымпан трохвугольнай формы.

Шофар. «Трубеце ў рог парою маладзіка, у пэўны час, у дзень сьвята нашага…» (Псалтыр 81:4).

Перадапошняя ў Кнізе псальма гучыць як наказ або нават загад: «Хвалеце Яго гукам трубным, хвалеце Яго на псальтыры і арфе. Хвалеце Яго тымпанам і танцам, хвалеце Яго струнамі і арганам. Хвалеце Яго гучнымі кімваламі, хвалеце Яго кімваламі гучнагалосымі. Усё, што дыхае, хай славіць Госпада! Алілуя» (Псалтыр 151:3—6).

«Хвалеце Яго тымпанам і танцам, хвалеце Яго струнамі і арганам» (Псалтыр 151:4) — запрашаюць словы на марцы Маршалавых выспаў. (Нумары не супадаюць у розных перакладах).




Псалтыр 151:4. Марка пошты Маршалавых выспаў, выдадзеная ў 1987 годзе

Труба. «І ў дзень весялосьці вашай, і ў сьвяты вашыя, і ў час маладзікоў вашых трубеце ў трубы...» (Лікі 10:10).

Арфа. «...хвалеце Яго на ліры і арфе» (Псалтыр 151:3).




Труба. Арфа. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1955 годзе

Сістр. «І Давід і ўсе сыны Ізраілевыя гралі [...] і на сістрах і на кімвалах» (Другая Царстваў 6:5). Сістр — ударны музычны інструмэнт, падобны на бразготку, але з мэталічным корпусам, падобным на рамку праколатую шэрагам выгнутых мэталічных стрыжняў; гралі на ім, падтрасаючы яго адной рукой; стрыжні, сьлізгаючы, сутыкаліся з мэталічным корпусам і выдавалі гук.

Ліра. «хвалеце Яго на ліры і арфе» (Псалтыр 151:3).




Сістр. Ліра. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1955 годзе

Прыгожы малюнак раскрытых далоняў з каласамі, поўнымі зерня, разьмешчаны на марцы Ватыкану.




«Гасподзь сілкуе...» Марка пошты Ватыкану, выдадзеная ў 1974 годзе

На марцы цытаты: «Вочы ўсіх спадзя-

юцца на Цябе» (Псалтыр 145:14), «адкрываеш руку Тваю і корміш усіх жывых па добрай волі» (Псалтыр 145:15).

«Псальма Давідава. Дабрашчасны той муж, што ня ходзіць на раду бязбожных, і не стаіць на дарозе грэшных, і не сядзіць на зборні распустаў; а ў законе Гасподнім воля ягоная, і пра закон Ягоны ўдзень і ўначы разважае! І будзе ён, быццам дрэва, над плынямі водаў пасаджанае, што родзіць свой плод у свой час, і ліст у якога ня жухне; і ва ўсім, што ён учыняе, пашчасьціць яму. Ня так у бязбожнікаў; яны — быццам пыл, ветрам падняты. Таму ня ўстояць бязбожнікі на Божым судзе, а грэшнікі — на сходзе праведных. Бо дарогу праведных ведае Гасподзь, а дарога бязбожнікаў прападзе!» (Псалтыр 1:1—6).

## Саламон. Мудрасьць Саламона

*І сеў Саламон на троне Давіда, бацькі свайго, і валадараньне ягонае было вельмі моцнае. (Трэйцяя Царстваў 2:12)*

Саламон, сын Давіда, апошні цар адзінага Ізраільскага царства, пачаў валадарыць прыблізна ў 20-гадовым узросьце. Імя Едыдыя, якое азначае «каханы Богам», было дадзена яму пры нараджэньні Прарокам Натанам (Другая Царстваў 12:25); а імя Саламон (Шлома — «мір») было яго тронным імем, і валадараньне сапраўды было мірным, хоць і пачалося з пакараньня яго брата Аданіі і іншых патэнцыйных супернікаў. З яго імем зьвязана мноства легенд, якія праслаўляюць яго мудрасьць.

На малюнку маркі Ізраілю Саламон трымае ў руцэ вагі, сымбаль справядлівасьці. У правай руцэ цар трымае плян храму, які збудуе Богу ў Ерусаліме.




Саламон. Ашэр Кальдэрон (1929–2018). Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1960 годзе

«У Гаваоне зьявіўся Гасподзь Саламону ў сьне ўначы, і сказаў Бог: прасі, што даць табе» (Трэйцяя Царстваў 3:5).

Саламон сказаў: «я — хлопец малы, ня ведаю ні майго выхаду, ні ўваходу... [...] даруй жа рабу Твайму сэрца разумнае, каб судзіць народ Твой і разьбіраць, што дабро і што ліха; бо хто можа кіраваць гэтым шматлікім народам Тваім?» (Трэйцяя Царстваў 3:7, 9).

«І сказаў яму Бог: за тое, што ты прасіў гэтага і не прасіў сабе доўгага жыцьця, не прасіў сабе багацьця, не прасіў сабе душаў ворагаў тваіх, прасіў сабе розуму, каб умець судзіць, — вось, Я зраблю паводле слова твайго: вось, Я даю табе сэрца мудрае і разумнае, так што падобнага да цябе ня было да цябе, і пасьля цябе не паўстане падобны да цябе; і тое, чаго ты

не прасіў, Я даю табе, і багацьце і славу, так што ня будзе падобнага да цябе сярод цароў ва ўсе дні твае; і калі будзеш хадзіць шляхам Маім, захоўваючы статуты Мае і запаведзі Мае, як хадзіў бацька твой Давід, Я падоўжу і дні твае» (Трэйцяя Царстваў 3:11—14).

## Суд Саламона

*І пачуў увесь Ізраіль пра суд, як рассудзіў цар. (Трэйцяя Царстваў 3:28)*

Праз некаторы час Саламон меў магчымасьць праявіць сваю мудрасьць. Аднойчы на Суд Саламона прыйшлі дзьве жанчыны з двума дзецьмі. Адно было жывое, другое-мёртвае. Распавялі яны Саламону сваю гісторыю.




Суд Саламона (1649). Нікола Пусэн (1594 — 1665). Марка пошты Каралеўства Емэн, выдадзеная ў 1967 годзе

Жылі гэтыя дзьве жанчыны ў адным доме і нарадзілі яны сыноў, дзяцей прыгожых і здаровых. Але ў адну ноч адна з маці прыціснула ў сьне дзіцяці і яно памерла. Яна хутка памяняла мёртвага на жывога. І калі другая маці прачнулася, то ўбачыла, што яе сын мёртвы.

«Але гэта не маё дзіця», — усклікнула яна. «Не, тваё», — запэўніла яе другая.

З гэтым спрэчным пытаньнем яны і прыйшлі да мудрага цара Саламона. І кожная даказвала, што жывое дзіця яе. І тады Саламон сказаў воіну: «Расьсячы гэтага хлопчыка. І аддайце адну палову адной жанчыне, другую-другой. Каб не спрачаліся».




Суд Саламона. Вітраж катэдры ў Стразбургу. Марка пошты Францыі, выдадзеная ў 1985 годзе

Перад царом дзьве кабеты. Адна трымае ў руках дзіця. Слуга з мечам ў руцэ гатовы выканаць загад. «І адказвала тая жанчына, у якое сын быў жывы, цару, бо ўсхвалявалася ўся нутрына ў яе ад жаласьці да сына свайго: о, гаспадару мой! аддайце ёй гэтае дзіця жывое і не забівайце яго. А другая казала: хай жа ня будзе ні мне ні табе, сячэце» (Трэйцяя Царстваў 3:26).

Саламон аддае загад; праўдзівая маці па каленях моліць не забіваць жывое дзіця. Салдат трымае жывое дзіця за нагу і мае намер расьсячы яго мячом.




Суд Саламона (1611—14). Пітэр Паўль Рубенс (1577—1640). Блёк пошты Сэнт-Вінсэнта, выдадзены ў 2000 годзе

Некалькі асобаў з жахам назіраюць за сцэнай.




Суд Саламона. Фрэска Мікелонскай царквы Нотр-Дам дэ Ардылье. Дызайн Івет Дэтчэверы. Марка пошты Сен-П'ер і Мікелон, надрукаваная ў 2013 годзе

І сказаў тады цар Саламон: «Аддайце гэтай жывое дзіця і не забівайце яго: яна — ягоная маці» (Трэйцяя Царстваў 3:27).

Такое было мудрае і справядлівае рашэньне цара Саламона. Жанчына, для якой жыцьцё дзіцяці было важней уласных амбіцый, была прызнана маці. У памяць пра суд Саламона і зьявіўся выраз — «Саламонава рашэньне». Што значыць «мудрае і простае рашэньне цяжкавырашальнага пытаньня».




Суд Саламона. Марка пошты Кот-д'Івуара, выдадзеная ў 1973 годзе

## Храм Божы

*Каб усе народы зямлі ведалі імя Тваё, каб баяліся Цябе, як народ Твой Ізраіль, каб ведалі, што імем Тваім называецца храм гэты, які я пабудаваў. (Трэйцяя Царстваў 8:43)*

Перанёсшы сталіцу царства ў Ерусалім, Давід прыйшоў да высновы, што ён павінен у новай сталіцы пабудаваць сьвятыню, дзе веравызнаўцы адзінага Бога аддавалі бы Яму хвалу. Але наказ ад Бога быў такі: «Калі ж закончацца дні твае, і ты спачнеш з бацькамі тваімі, дык Я пастаўлю пасьля цябе семя тваё, якое пойдзе са сьцёгнаў тваіх, і ўмацую царства ягонае. Ён збудуе дом імю Майму, і Я ўмацую трон царства яго навек» (Другая Царстваў 7:12,13).

Саламон узяўся за будаўніцтва Храма. Яго бацька выкупіў месца для Храма, назапасіў сродкі і матэрыялы, падрыхтаваў архітэктурны праект: «Усё гэта ў пісаньні ад Госпада, казаў Давід, як Ён навёў мяне на розум на ўсе пабудовы» (Першая Летапісаў 28:19). Але матэрыялаў было недастаткова. Саламон уклаў умову з царом Тыру Хірамам. «І даваў Хірам Саламону дрэвы кедравыя і дрэвы

кіпарысавыя, цалкам паводле яго жаданьня. А Саламон даваў Хіраму дваццаць тысяч кораў пшаніцы на прадуктаваньне дома ягонага і дваццаць кораў аліўкавага чаўленага алею: столькі даваў Саламон Хіраму кожны год» (Трэйцяя Царстваў 5:10,11). Работнікі Хірама рабілі для Храма абсталяваньне з мэталяў і косьці за што Саламон «даў Хіраму дваццаць гарадоў у зямлі Галілейскай» (Трэйцяя Царстваў 9:11).




Карабель Саламона. Блёк Ізраілю, выдадзены ў 2016 годзе

Дызайнэр маркі адлюстраваў мноства розных скарбаў, якія былі выгружаныя на прычале ў марскім порце ў Эцыён-Гавэры, што каля Элата, на беразе Чарэмнага мора. Гэтыя скарбы былі адвезены ў палац цара Саламона ў Ерусаліме і выкарыстаны пры будаўніцтве Храма і палаца.

Гандляваў Саламон і зь Егіптам і іншымі краінамі, «бо ў цара быў на моры Тарсіскі карабель з караблём Хірамавым; адзін раз у тры гады прыходзіў Тарсіскі карабель, — прывозіў золата і срэбра, і слановую косьць, і малпаў, і паваў. Цар Саламон пераўзыходзіў усіх цароў багацьцем і мудрасьцю» (Трэйцяя Царстваў 10:22,23).

З малюнку на марцы Фуджэйры вынікае, што Саламон сам непасрэдна кіраваў будаўніцтвам Храму.




Храм Саламона. Марка Фуджэйры з сэрыі «Біблейскія гісторыі», выдадзеная ў 1970 годзе

Пошта Беларусі ў сэрыі «Архітэктура старажытнай Беларусі» выпусьціла блёк на полі якога разьмешчаны фрагмэнт ілюстрацыі Тытульнага ліста Трэцяй Кнігі царстваў з Бібліі Скарыны «Цар Саламон ставіць храм Богу ў Ерусаліме».




Архітэктура Беларусі. Блёк пошты Беларусі, выдадзены ў 2005 годзе

Будаўніцтва самага Храму доўжылася 7 гадоў: з 957 па 950 да Р. Х. Праца была завершана ў восьмым месяцы 11 года валадараньня Саламона. Сьвяткаваньне асьвячэньня Храма было на наступны год у сёмым месяцы перад сьвятам Суккот (Кучак) з найвялікшай урачыстасьцю пры ўдзеле старэйшын Ізраілю, кіраўнікоў каленаў і родаў. Сьвяткава-

ньне асьвячэньня Храма доўжылася 14 дзён і яго апісаньне сьведчыць аб тым, што будаўніцтва Храму было сапраўды найвялікшай важнасьці для ўсяго народа.

Каўчэг Запавету быў урачыста ўсталяваны ў Сьвятая Сьвятых і Саламон прамовіў малітву.

Храм выглядаў як прыгожы будынак, мёртвыя камяні, але за імі хавалася духоўнае, жывое. Уся веліч і значэньне Храму было ў тым, што ён быў месцам прысутнасьці Творцы ў гэтым сьвеце. У сваёй прыгажосьці і велічы храм быў бачнай выявай славы нябачнага Бога.




Храм Саламона. Блёк пошты Ізраілю, выдадзены ў 1998 годзе

Справа намаляваны Храм на аснове кампутэрнай мадэлі, прызначанай для спэцыяльнай выставы ў Музэі Біблейскіх зямель — «Ерусалім — сталіца на ўсе часы; царскія гарады Біблейскага сьвету».

Зьлева малюнак граната з слановай косьці з надпісам з Музэю Ізраіля ў Ерусаліме. На малюсенькім гранаце (вышынёй 43 мм) напісаны старажытнаяўрэйскім шрыфтам словы «Сьвятое ахвяраваньне для жрацоў (у) доме я». Лічылася, што гранат, магчыма, выкарыстоўваўся ў якасьці галоўкі скіпэтра жраца ў храме цара Саламона. Мастацтвазнаўцы ў 2004 г. прыйшлі да высновы, што сам гранат сапраўды старажытны з бронзавага веку, аднак надпіс на ім сучасная.

Храм быў пабудаваны ў тым ліку: «каб усе народы зямлі ведалі імя Тваё…» (Трэйцяя Царстваў 8:43). Народ Ізраіля не «прыватызаваў» свайго Бога, а марыў, што іх Бог стане Богам для ўсіх народаў.

## Саламон і царыца Саўская

*І ўбачыла царыца Саўская ўсю мудрасьць Саламона і дом, які ён пабудаваў… (Трэйцяя Царстваў 10:4)*

Біблейскі тэкст апавядае пра спатканьне Саламона з царыцай Саўскай.

18 студзеня 2018 г. пошта Ірляндыі выпусьціла блёк у памяць сэра Альфрэда Чэстэра Біці. На полі блёку малюнак Жоржа Барбье «Царыца Саўская».




Царыца Саўская (1914). Жорж Барбье (1882–1932). Блёк пошты Ірляндыі, выдадзены ў 2018 годзе

«Царыца Саўская, дачуўшыся пра славу Саламона ў імя Госпада, прыйшла выпрабаваць яго загадкамі. І прыйшла яна ў Ерусалім зь вельмі вялікім багаць-

цем: вярблюды наўючаны былі пахошчамі і вялікім мноствам золата і каштоўнымі камянямі; і прыйшла да Саламона і гутарыла зь ім пра ўсё, што было ў яе на сэрцы» (Трэйцяя Царстваў 10:1,2).

Царыца Саўская ўпэўнілася, што Саламон мудры, убачыла Храм, які ён збудаваў, і не магла ўтрымацца ад пахвалы: «слушна тое, што я чула ў зямлі сваёй пра дзеі твае і пра мудрасьць тваю; але я ня верыла словам, пакуль ня прыйшла, і ня ўбачылі вочы мае: і вось, мне і палавіны ня сказана; мудрасьці і багацьця ў цябе болей, чым як я чула. Шчасныя людзі твае і шчасныя гэтыя слугі твае, якія заўсёды стаяць перад табою і чуюць мудрасьць тваю! Хай будзе дабраславёны Госпадзь Бог твой, які дабраволіў пасадзіць цябе на трон Ізраілеў! Госпадзь, у вечнай любові Сваёй да Ізраіля, паставіў цябе царом — чыніць суд і праўду» (Трэйцяя Царстваў 10:6—9).




Царыца Саўская. Марка пошты Эфіёпіі, выдадзеная ў 1964 годзе

Каралеўствам Емэн выдадзена сэрыя марак «Візыт царыцы Саўскай да цара Саламона»: Цар Саламон, Царыца Саўская, Карабель царыцы Саўскай і маршрут падарожжа, Балдахін царыцы Саўскай, Канвой царыцы Саўскай у Ізраіль, Цар Саламона сустракае царыцу Саўскую, Сьцяна Плачу або Заходняя сьцяна — частка старажытнай сьцяны вакол заходняга схілу Храмавай Гары, ацалелая пасьля разбурэньня Другога Храма рымлянамі ў 70 годзе пасьля Р. Х.




Візыт царыцы Саўскай. Маркі пошты Емэну, выдадзеныя ў 1967 годзе

На марцы Вэнгрыі з партрэтам кампазытара Гольдмарка Карла — сцэна з опэры «Царыца Саўская».




Сцэна з опэры «Царыца Саўская». Марка Вэнгрыі, выдадзеная ў 1953 годзе

Адразу пасьля прэм'еры ў Вене ў 1875 годзе «Царыца Саўская» прынесла свайму аўтару сусьветную вядомасьць.

На знакамітай фрэсцы П'еро дэла Франчэскі паказаны момант сустрэчы Саламона і царыцы Саўскай.




Царыца Саўская. Дэталь фрэскі П'еро дэла Франчэска (1415 або 1420—1492) з базылікі Сан-Франчэска. Марка Італіі, выдадзеная ў 2002 годзе

У 1959 годзе на экраны выйшаў кінафільм рэжысэра Кінга Відора «Саламон і царыца Саўская».




Фільм «Саламон і Шэба» (1959). Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 2010 годзе

У галоўных ролях здымаліся Юл Брынэр і Джына Лалабрыджыда. На марцы будынак тэатру «Арманскія камандас»; экран паказвае назву фільма «Саламон і Шэба» (1959); група людзей перад уваходам у тэатар, кінапраектар; выгляд білету ў кінатэатар.

Гісторыя візіту царыцы Саўскай да цара Саламона працягвае цікавіць і хваляваць чытачоў Бібліі.

## Трагедыя Саламона

*І нічога, чаго вочы мае ні прагнулі, я ім не адмовіў; ад ніводнае радасьці сэрца майго ня ўхіліў... (Эклезіяст 2:10)*

Ня гледзячы на мудрасьць, дадзеную Богам, Саламон не вытрымаў спакусы, ня змог перамагчы прагнасьць і пажаду.

Кампазытар Эрнэст Блох (1880—1959) у 1915 г. злажыў драму «Саламон» — рапсодыю для віялянчэлі і аркестра, якая ўпершыню выканана ў 1917 годзе.

Мнагажонства і роскаш прывялі да падзеньня мудрага Саламона. Адбылася замена каштоўнасьцей і, як вынік, адыход ад Бога і зьнішчэньне Боскіх плянаў. Два разы Бог папярэджваў Саламона, але гэта не дапамагло. Каб парадаваць сваіх жонак, Саламон неўзабаве пабудаваў паганскія храмы, дзе стаў пакланяцца ідалам. Тады «сказаў Гасподзь Саламону: за тое, што так у цябе робіцца, і ты не захаваў запавету Майго і пастановаў Маіх, якія Я наказаў табе, Я адбяру ад цябе царства і аддам яго рабу твайму; але ў дні твае Я не зраблю гэтага дзеля Давіда, бацькі твайго: з рукі сына твайго адбяру яго; і ня ўсё царства адбяру: адно

калена дам сыну твайму дзеля Давіда, раба Майго, і дзеля Ерусаліма, які Я выбраў» (Трэйцяя Царстваў 11:11—13).

Хоць Саламон вярнуўся да Божай мудрасьці яшчэ да сьмерці, наступствы гадоў нявернасьці былі сумнымі.



Саламон пакланяецца ідалу. Пэрсанальная марка, выпушчаная ў 2014 годзе поштай Ізраілю

Пра Саламона складзена мноства легендаў. Напрыклад пра яго пячатку, пры дапамозе якой Саламону ўдалося зьвязаць і запячатаць 72 дэмана-князя зь іх легіёнамі ў меднай пасудзіне. Пасьля ён камандаваў гэтымі духамі па сваім меркаваньні. Паводле легенды Саламону ўдалося выведаць у духаў шмат таемных ведаў, якія Ён ужыў у сваім жыцьці. З дапамогай гэтай пячаткі Саламон набыў увагу і добрае стаўленьне многіх людзей, здолеў выйграваць бітвы і заставацца цэлым ў бітвах.

У сваёй кнізе — Кнізе Выслоўяў — Саламон напісаў, як жыць у гэтым сьвеце пасьпяхова і дабраславёна, каб папярэдзіць іншых не рабіць памылак, якія ён рабіў. У той жа час у другой сваёй кнізе Эклезіяст ён распавёў: «Бо пры многасьці мудрасьці множыцца й скруха; і хто памнажае спазнаньне, той памнажае і боль» (Эклезіяст 1:18). І яшчэ больш безнадзейна: «Наймарнейшая марнасьць, сказаў Эклезіяст, усё — марнасьць!» (Эклезіяст 12:8).

Усё ж канчатковы вынік аптымістычны і аб’ектыўны. Калі за межамі гэтага сьвету для чалавека няма нічога, жыцьцё яго — марнасьць. Расчараваньне ў самадастатковай каштоўнасьці зямных даброт зьявілася драматычным пярэднем да Адкрыцьця аб вечнасьці, падараванай чалавеку. «Выслухаем сутнасьць усяго: бойся Бога і Запаведзяў Ягоных трымайся, бо чалавеку ў гэтым — усё» (Эклезіяст 12:13).




Саламон. Гравюра Густава Доры (1832—1883). Партрэт Эрнэста Блоха. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1995 годзе

Саламон пражыў 83 гады. Цар памёр у той момант, калі назіраў за будаўніцтвам новага алтара ў 928 да Р.Х.

Саламон цараваў у Ерусаліме 40 гадоў пасьлядоўна бацьку. Яго валадарства было мірам пасьля войнаў Давіда, і межы яго царства былі «…над усёю зямлёю па гэты бок ракі, ад Тыпсаха да Газы, над усімі царамі па гэты бок ракі, і быў у яго мір з усімі навакольнымі краінамі» (Трэйцяя Царстваў 4:24), у якіх былі аб'яднаны ўсе плямёны Ізраіля.

# Кнігі Мудрасьці і Паэзіі

## «І прамовіў ён тры тысячы выслоўяў...»

*Шчасны той чалавек, які надбаў мудрасьць, і чалавек, які здабыў розум! (Выслоўі 3:13)*

У самой сярэдзіне Старога Запавету мы знаходзім пяць кніг, якія па сваёй глыбіні, мудрасьці і прыгажосьці належаць да лепшых твораў сусьветнай літаратуры. Тры зь іх традыцыя прыпісвае Саламону: жыцьцёва мудрую Кнігу Выслоўяў, поўную экзыстэнцыяльнага скепсісу Кнігу Эклезіяста, або Прапаведніка і паэму любові — Кнігу Песьня Песьняў.

Пра Саламона напісана: «І прамовіў ён тры тысячы выслоўяў, і песьняў у яго было тысяча і пяць...» (Трэйцяя Царстваў 4:32).

Мудрасьць (на іўрыце «хохма») лічыцца дарам Божым; мудрэц займаў у сьвядомасьці народа месца побач са сьвятаром (аўтарытэт якога спачываў на Законе) і Прарокам, непасрэдна натхнёным Богам. Мудрэц, бо «Я напоўніў яго Духам Божым, мудрасьцю, розумам, ведамі і ўсялякім умельствам» (Выхад 31:3). Ён вучыў ўменьню дасягнуць шчасьця, якое абумоўлена выкананьнем волі Божай.

«Песьня песьняў» набыла асаблівую сьвятасьць у традыцыях нацыі, бо мудрацы трактавалі яе любоўную паэму, як сымбаль любові Бога да Ізраіля. «Кніга прыказак» — альманах мудрых выслоўяў пра розныя аспэкты жыцьця, а «Скрутак Эклезіяста» зьмяшчае разважаньні пра ганарыстасьць і нязначнасьць матэрыяльных каштоўнасьцяў.




Саламон. Пэдра Берругетэ (1450—1502). Бесэрыль дэ Кампас — Царква-музэй Санта-Марыя. Марка пошты Гішпаніі, выдадзеная ў 1999 годзе

У гэтых Кнігах мудрасьць практычнага мастацтва жыцьця ператвараецца ў Мудрасьць Божую, датычную стварэньню гэтага сьвету і якая зьяўляецца чалавеку ў адкрыцьці. Таму і мэта гэтых Кніг, у канчатковым рахунку, перарастае з навучаньня правілам жыцьця, практычнай мудрасьці, у далучэньне да чароўнай Мудрасьці, праведнасьці, у навучэньне шляху, які прыводзіць да асаблівай блізасьці да Бога.

Для пасьпяховай жыцьця на зямлі трэба прытрымлівацца двух прынцыпаў: пачытаць Бога ў трапятаньне перад Ім і разумець людзей.

## Выслоўі

*Пачатак мудрасьці — страх Госпадні, і спазнаньне Сьвятога — розум... (Выслоўі 9:10)*

Кніга Выслоўяў вучыць, як жыць у гэтым сьвеце пасьпяхова і дабраславёна. Дэрэк Кіднер так кажа аб сутнасьці гэтай Кнігі: «Гэта не партрэтны альбом і не кніга пра добрыя манеры: яна прапануе нам ключ жыцьця. Прыклады паводзін, якія яна дэманструе, ацэньваюцца адным крытэрыем, які можна абагульніць пытаньнем: „гэта мудрасьць або глупства?“»

Цытаты з Кнігі Выслоўяў разьмясьціла на марках, прысьвечаных навучаньню, пошта Ізраілю.




Алфавіт. Матэматычныя формулы. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1972 годзе

Першая марка прысьвечана пачатковай адукацыі. На ёй — усе літары габрэйскага алфавіту ад «алеф» да «таў». На прывесцы маркі цытата: «Аснова мудрасьці: набывай...» (Выслоўі 4:7).

Другая марка заахвочвае да атрыманьня сярэдняй адукацыі. На ёй — матэматычныя формулы, якія ўводзяць вучняў у сьвет ведаў і навукі. На прывесцы маркі цытата: «Настаўі юнака на пачатку шляху яго...» (Выслоўі 22:6).

Трэцяя марка прысьвечана вышэйшай адукацыі. На ёй разьмешчаны літары габрэйскія і лацінскія. На прывесцы маркі цытата: «...павучайся ў ёй дзень і ноч...» (Ісус Нав 1:8). Маецца на ўвазе Кніга Закону, бо без веданьня і выкананьня Закону веды ня вельмі важныя.




Літары габрэйскія і лацінскія. Прафэсійная праца. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1972 годзе

Чацьвёртая марка прысьвечана прафэсійнай працы. На прывесцы маркі цытата: «...але ўсякае вывучэньне Закона без працы ў рэшце рэшт зводзіцца на нішто» (Pirkei Aboth 2).

Цытата з Кнігі Выслоўяў разьмешчана на марках пошты Ізраілю, на якіх сем сымбалічных багацьцяў Зямлі Абетаванай: пшаніца, ячмень, вінаград, фігі, гранат, аліўкі і мёд. На прывесцы маркі цытата: «...і напоўняцца засекі твае зь верхам...» (Выслоўі 3:10).

Тут падкрэсьліваецца, што ўмовай паразуменьня і дабрабыту ёсьць ушаноўваньне Запаведзяў Божых.




Сем сымбалічных багацьцяў Зямлі Абетаванай. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1982 годзе

Спасылкі на выслоўі асабліва частыя ў абрадах і жыцьці габрэяў і гэта пацьверджваецца паштовымі выданьнямі.




Карабель Nirit. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1958 годзе

Непасрэдна перад стварэньнем Дзяржавы Ізраіль яўрэйскія ўлады ў Палестыне набылі некалькі судоў, якія перавозілі ў 1948 годзе тысячы «нелегальных» габрэйскіх імігрантаў для барацьбы ў вайне за незалежнасьць. Марка паказвае адно з меншых судоў гэтага флёту, парусны карабель Nirit (карабель імігрантаў). На прывесцы маркі цытата: «...шляхі карабля сярод мора...» (Выслоўі 30:19).

На наступнай марцы намаляваны карабель Шамрон, які атрымаў сваю назву ад старажытнага горада блізу Наблуса, пабудаваны ў Кілі ў 1955 годзе ў рамках пагадненьня аб рэпарацыях паміж Ізраілем і Германіяй, заключанага ў 1952 годзе.




Карабель Шамрон. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1958 годзе

На прывесцы маркі цытата: «...як купецкія караблі...» (Выслоўі 31:14).

Джон Арнотт называе Кнігу Выслоўяў «нябеснымі законамі для жыцьця на зямлі».

Кнігу Прыпавесьцяў Саламонавых складаюць выслоўі, якія сёньня мы маглі б назваць кіраўніцтвам па асэнсаваным, бясьпечным і годным пераймальня жыцьці, кнігай векавой мудрасьці, якая са старажытных часоў была правілам жыцьця самых лепшых з людзей.

Мудрасьць — гэта не тэарэтычныя, абстрактныя веды, а практычнае ўменьне вырашаць жыцьцёвыя задачы.

## Песьня песьняў

*Пякельным пакутай будзе наша няздольнасьць пазнаць Хрыста ў асобе жаніха і палюбоўніка нашых душ. Хрыстос Яннарас*

### Найвышэйшая песьня Саламонава

*Любоў ніколі ня мінаецца, хоць і прароцтвы спыняцца, і мовы змоўкнуць, і веды скасуюцца. (Першае да Карынфянаў 13:8)*

Дзякуючы легендарнай памяці ў народзе пра цара Саламона, як мудрэйшага з мудрых, усталявалася перакананьне, што ён аўтар адной з найпрыгажэйшых кніг Бібліі — Песьня песьняў. Аўтарства Саламона адлюстравана і ў габрэйскай назьве Кнігі, у якой дамінуе падобны да птушынага шчабятаньня гук «шч»: «Szir hoszirim aszer li — Szlomo».




Песьня песьняў. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1975 годзе

Шчабечучая птушачка ўпрыгожыла адну з трох ізраільскіх марак з сэрыі, прысьвечанай пасадцы дрэў і аднаўленьню ўрадлівасьці зямлі. На прывесках зьмешчаны цытаты з Песьні песьняў на габрэйскай і ангельскай мовах.

Птушка выказвае радасьць сваім шчабятаньнем прыходу лета і дажджу. «Кветкамі зацьвітае зямля, час песьняў птушыных настаў...» (Песьня 2:12).

Дзяўчынка і вясёлка вітаюць лета. «Вось, і зіма адышла; дождж перастаў, мінуўся...» (Песьня 2:11).

Хлопчык нясе ў дайнічцы кветку ў падарунак. «Прыйдзі, любасны, выйдзем у поле...» (Песьня 7:12).

«Песьня песьняў» натхняла і натхняе мастакоў да яе ілюстраваньня.




Песьня песьняў. Арык Брауэр (1929). Марка Аўстрыі, выдадзеная ў 2011 годзе

На 6-й марцы малога ліста сэрыі «Марлен Дзітрых (1901 — 1992): «Легенды Галівуду», якую выпусьціла Паштовая служба Ганы, прадстаўлены партрэт актрысы з фільма «Песьня Песьняў» (The Song of Songs), 1933, ЗША.




Марлен Дзітрых (1901 — 1992). Легенды Галівуду. Марка пошты Ганы, выдадзеная ў 2003 годзе

На беларускую мову «Песьню песьняў» пераклаў Васіль Сёмуха. Зьвяртаючыся да чытача, ён напісаў: «Гэта кніга пра Любоў і Каханьне. Калі ты габрэй, — чытай, бо гэта пра любоў Бога да богаабранага габрэйскага народу і пра любоў народу да свайго Бога; калі ты хрысьціянін, — чытай, бо гэта кніга пра духоўны шлюб Хрыста з нябеснай нявестай — Царквою, Сьвятога Духа з Дзевай Марыяй, чалавечай душы з Богам-Любоўю; калі ты атэіст, альбо, крый Божа, „праваслаўны атэіст“ — чытай, бо гэта зборнік старжытнагабрэйскай любоўнай лірыкі пра зямное каханьне мужчыны і жанчыны. І кожны хай знойдзе сваё! І кожнаму хай будзе добра на сэрцы».

**Зачараваны Бібліяй. Песьня песьняў Марка Шагала**

*У жывапісу ёсьць толькі адзін*
*колер — колер каханьня…*
*Марк Шагал*

«Ад юнацтва прыцягвала мяне Біблія. Мне заўсёды здавалася і да гэтага часу здаецца, што яна самая вялікая крыніца паэзіі ўсіх часоў. Біблія падобная на рэзананс прыроды, і гэтую таямніцу я спрабаваў перадаць… але я не чытаў Біблію, я яе сьніў», — казаў Шагал. І працягваў: «Біблія — самы вялікі ў сьвеце твор мастацтва. Біблія ўтрымлівае ў сабе высокі ідэал быцьця чалавека на плянэце Зямля»; «калі б людзі больш уважліва чыталі прарокаў, яны там маглі б знайсьці адказы на самыя розныя пытаньні быцьця, аж да атаясамленьня сьветабудовы з любоўю: „Без любові наш сьвет — крок за крокам — будзе набліжацца да канца“». Гэта зачараваньне Бібліяй Марк Шагал здолеў перадаць у сваіх творах.

Песьня песьняў складаецца з 1250 габрэйскіх слоў, усяго з 1250 слоў, але духмяных каханьнем. Гэта паэма дыхае каханьнем. Дыхаюць каханьнем і карціны Шагала з цыклу «Песьня песьняў».

Песьня Песьняў І. Вечар. У вечары нявеста шукае свайго каханага на вуліцах Ерусаліма.

«Няхай вусны яго мяне пацалуюць! Бо лепшыя за віно твае ласкі» (Песьня 1:2).

Што зашыфраваў Марк Шагал у сваіх палотнах? Напэўна кожны ўбачыць нешта сваё. Кажуць, што дзеці бачаць на гэтых карцінах нашмат больш, чым дарослыя…

Вечар. Пачатак новага дня ў габрэйскай традыцыі. Нявеста прынікла да жаніха: «Пячаткай мяне пакладзі на сэрца сваё…» (Песьня 8:6). Нявеста глядзіць у раскрытую кнігу, у руцэ трымае букет. Над жаніхом белая галубка — сымбаль Сьвятога Духу, міру і любові. «Яго левая — пад маёй галавою, а правай рукою мяне абдымае» (Песьня 2:6). Усё разам — яднаньне народа Ізраілю (нявеста) з Бо-

гам. Ад жаніха і нявесты па дыяганалі ўверх, у будучыню, стромкія лініі вядуць да ўтворанай сям'і, побач зь якой пусты трон для патомкаў Давіда і месяц, і белы голуб.




Песьня Песьняў I. Марк Шагал (7 ліпеня 1887 г., Лёзна, Беларусь — 28 сакавіка 1985 г., Сен-Поль-дэ-Ванс, Францыя). Нацыянальны музэй Марка Шагала, Біблейскае пасланьне, Ніца (Францыя). Марка пошты Грэнады, выдадзеная ў 1986 годзе

У левым верхнім куце ў гаі жаніх грае на флейце. Да яго бяжыць нявеста. Магчыма ўспамін аб страчаным Раі з каляровымі жывёламі. Справа Дрэва Жыцьця з белай жывёлай у яго кроне. Пад дрэвам пастушок грае на флейце і побач пасуцца авечкі. «Ты скажы, каханьне маёй душы, дзе ты пасьвіш? дзе апоўдні ты адпачываеш? навошта бадзяцца мне каля статкаў сяброў тваіх?» (Песьня 1:7). Горад накіраваны вэртыкальна ў неба да Новага Ерусаліму... У горадзе дзяўчына: «Устану, і горад увесь абыду, па вуліцах і па завулках, шукацьму таго, каго сэрцам кахаю, я шукала яго, не знайшла» (Песьня 3:2).

Песьня Песьняў II. Ноч. «Заклінаю вас, Ерусалімскія дочкі, сарнамі ці палявымі ланямі: ня будзеце і ня турбуйце каханай, пакуль не прачнецца сама!» (Песьня 2:7).




Песьня Песьняў II. Марк Шагал (1887 — 1985). Нацыянальны музэй Марка Шагала, Біблейскае пасланьне, Ніца. Францыя. Марка пошты Грэнады, выдадзеная ў 1986 годзе

Каханая сьпіць так моцна, як у мацярынскай утробе. «Мне мой мілы — як ладанка зь мірай; начуе ў мяне на грудзях...» (Песьня 1:13). Але гэта сон прарочы. Не аднойчы напісана ў Бібліі, як Бог прыходзіў да сваіх абранцаў у сьне. «Я сплю, а сэрца маё чувае; вось, голас каханага, які стукаецца: „Адчыні мне, сястрыца, каханая, мая беспахібная, чыстая горлінка, бо галава мая — абрасілася, мае кучары — у начной вільгаці“» (Песьня 5:2). Выгнутая пакручастая лінія злучае два люстрана адбітыя гарады з небам. Верхні горад Сен-Поль-дэ-Ванс, дзе Марк Шагал правёў апошнія гады жыцьця, і люстрана адбіты родны Віцебск, дзе ён нарадзіўся і які ніколі не забываў. З гарадоў рука (Божая?) паказвае на месяц. Справа побач з каханай

лазурны жаніх з крыламі і арфай у руках. Тут жа Дзерава жыцьця, карані якога ў небе, а крона з пладамі накіравана да зямлі. Пад жаніхом пусты трон і гуляюць побач два львяняці…

Песьня Песьняў ІІІ. У дзень шлюбу.

«Выходзьце, дзяўчаты, на цара Саламона зірнеце, дочкі Сіёнскія, на вянок, якім яго маці ў дзень вясельля ўвянчала, у дзень радасьці сэрца ягонага» (Песьня 3:11).




Песьня Песьняў ІІІ. Марк Шагал (1887 — 1985). Нацыянальны музэй Марка Шагала, Біблейскае пасланьне, Ніца. Францыя. Марка пошты Грэнады, выдадзеная ў 1986 годзе

Тры авалы вырысоўваюць мацярынскі жывот і грудзі — сымбаль дзьвюх Скрыжалей Завету. Падобна беласьнежнай камэце, імчыць ад зямлі ў неба пад вясельным балдахінам нявеста, забіраючы з сабою каханага. «Каханы аддадзены мне, я — яму…» (Песьня 2:16). Сплеценасьць фігур закаханых азначае сьвятасьць іх шлюбу як чароўнага спрадвечнага стану чалавека, які дае яму паўнату ў саюзе з іншым і самім Богам. Дабраславеньне закаханым нясе Анёл — слуга Бога і выканаўца Яго волі, ён ляціць і трымае ў руцэ Мэнору. Але рука Анёла ў гэтак ненатуральнай позе, быццам яна належыць самому Богу.

Крыху ніжэй постаць яшчэ аднаго Анёла, які радасна трубіць у рог шчасьця. Над ім белы голуб, падобны да выпушчанага Ноем з каўчэга і які прынёс аліўкавую галінку Дабравесьця жыцьця і зьяўляецца сымбалям Сьвятога Духу. Цыркавы артыст трубіць, апіраючыся рукамі на вялікага пеўня. Ідзе вясельны абрад, які суправаджаецца весялосьцю, сьмехам, гульнёй і танцам, і азначае пачатак новага жыцьця для закаханых. Сіняе дрэва з белымі водблісkамі на кроне, яшчэ ніжэй — зялёнае дрэва з пладамі на ім, а паміж імі — чалавечая постаць з рысамі і мужчыны і жанчыны адначасова — вобраз Раю з Дрэвам жыцьця і Дрэвам пазнаньня дабра і зла і першароднага чалавека.

Два гарады зьмешчаны ў жываце жанчыны. Панарама Сен-Поль-дэ-Ванса з званіцай катэдральнага сабора, як вобраз сучаснага, і перавернуты выгляд роднага Віцебска з зялёным купалам царквы, як зварот да мінулага свайго роду, зямлі запаветнай, якую мастак заўсёды насіў у сабе. Нешта дагары нагамі нясе рабін…

Чырвоны колер, які запаўняе ўсю прастору палатна, льецца патокамі, сымбалічна злучае ў сабе і чалавечую і боскую любоў так, што дзьве волі — зямная і нябесная — аказваюцца сугучнымі.

Песьня Песьняў IV. Поўдзень. Чалавечы саюз — знак Боскага Запавету

«Пакуль не астыў яшчэ дзень, не пасляліся цені, я ўзыду на пагорак міравы, на гару фіміямную» (Песьня 4:6).

На цёмна-чырвоным фоне ружовы сінягрывы конь з рознакаляровымі крыламі і букетам кветак у пярэдніх нагах

імчыць Давіда і Вірсавію. Адценьні чырвонага і ружовага — гэта не толькі сымбаль пачуцьцёвай любові, але і кроў, якая пральецца, калі Давід, каб атрымаць Вірсавію, адправіць яе мужа ў бой, дзе ён памрэ. «Пячаткай мяне пакладзі на сэрца сваё, пакладзі на рукі, як пярсьцёнак: бо каханьне, як сьмерць — моцнае; рэўнасьць, як пекла — лютая; стрэлы яго — стрэлы вогненныя; яно — полымя непагаснае» (Песьня 8:6).




Песьня Песьняў IV. Марк Шагал (1887 — 1985). Нацыянальны музэй Марка Шагала, Біблейскае пасланьне, Ніца. Францыя. Марка пошты Грэнады, выдадзеная ў 1986 годзе

Беласьнежны вэлюм нявесты шлейфам лунае па небе. «...знайшла, каго сэрцам кахаю; прыняла яго ў дом сваёй маці...» (Песьня 3:4). Бог — жаніх на галаве якога карона, сымбаль улады. Нявеста — народ, чыстая душа чалавечая, якая імкнецца да саюзу з Богам.

Народ Ерусаліму вітае маладых. У левым куце Анёл сваёй музыкай падтрымлівае ўрачыстасьць. Справа Дрэва жыцьця і над ім птушка дагары нагамі (ходзіць па небе?). «Вялікія воды ня могуць любоў патушыць, і рэкі яе не затопяць. Калі б хто даваў багацьці дома свайго за любоў, іх адхілілі б з пагардай. « (Песьня 8:7).

Песьня Песьняў V. Сусьветны і вечны запавет паміж людзьмі і Богам.

Перад нявестай у бялюткім адзеньні жаніх, які грае на ліры. «Каханы мой белы, румяны, з тысяч самы найлепшы» (Песьня 5:10). «Ды адна яна, беспахібная, чыстая горлінка...» (Песьня 6:9).




Песьня Песьняў V. Марк Шагал (1887 — 1985). Нацыянальны музэй Марка Шагала, Біблейскае пасланьне, Ніца. Францыя. Марка пошты Грэнады, выдадзеная ў 1986 годзе

Над галавой жаніха дзьве птушкі чырвоная і белая злучаюцца ў адзінае. Пад нагамі два гарады Сен-Поль-дэ-Ванса і Віцебск зьліліся ў адзін. На беразе Ракі жыцьця Дрэва жыцьця і Новы Ерусалім, над якім Божая рука і лятаюць анёлы. У нізе карціны сіні конь у кароне, трон заняты двума ільвянятамі, рука трымае адчыненую Кнігу, якая прачытана і пачута. «Цар мяне ўвёў у харомы свае!» (Песьня 1:4).

Карціны Шагала заварожваюць ня толькі колеравай гамай, але надзвычай-

на насычаныя таямнічым загадкавым зьместам, які заклікае калі не да філязофскага асэнсаваньня, то да звароту ў сваю сутнасьць. Гэтыя карціны падобныя на сон, сон казачны, чароўны і непаўторны...

У Ніцы (Францыя) знаходзіцца Нацыянальны музэй Марка Шагала Біблейскае пасланьне, а ў ім у асьбным пакоі пяць карцін, прысьвечаных Песьні песьняў.

Той, хто ўбачыў карціны Шагала ў музэі Ніццы, выходзіць з музэю іншым чалавекам. Бо немагчыма выйсьці тым самым.

### Прыгажосьць прыроды Сьвятой Зямлі

У Песьні песьняў з вялікай любоўю напісаныя цудоўныя вершы аб прыгажосьці Сьвятой Зямлі. «Выйдзем ранічай у вінаграднікі, падзівімся, як лаза зелянее, як пупышкі покнуліся, як зацьвілі гранаты; там я цябе прыгалублю. Мандрагоры пахнуць духмяна, ля варот нашых многа пладоў: сёлетніх і даўнейшых назапасіла я табе, каханы» (Песьня 7:13,14).

Пошта Ізраіля на сваіх марках стараецца перадаць хоць частку таго, што напісана ў Песьні песьняў пра прыроду Сьвятой Зямлі.

«Я спусьціўся ў арэхавы сад паглядзець на ўсходы ў даліне, паглядзець, ці лаза зелянее, гранаты ці зацьвілі?» (Песьня 6:11).

Лілія. Квітнее яна ў канцы лета і ў пачатку восені, калі халодны вецер з мора дзьме па раўніне і разносіць яе моцны, хмельны водар. «Паўстань, паўстань, вецер сіберны, прыйдзі вецер з поўдня, падзьмі, вецер, на сад мой, хай разьліецца водар яго! — Хай увойдзе мой любасны ў сад свой, хай скаштуе пладоў сакавітых» (Песьня 4:16).

Сярод марак, выпушчаных на Дзень Незалежнасьці ў 1959 годзе, адна прысьвечана нарцысу. «Я — раўнінны нарцыс Саронскі...» (Песьня 2:1).




Лілія. Нарцыс. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1960 годзе

У 1952 годзе пошта Ізраіля выпусьціла чатыры маркі, на прывесках каторых напісаныя цытаты з Песьні песьняў.




Смакоўніца. Лілія. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1952 годзе

На першай марцы паказаны плод смакоўніцы. Дрэва смакоўніцы дасягае некалькі мэтраў вышыні і дарыць людзям вельмі салодкія плады. Восемнац-

цаць разоў успамінаецца смакоўніца ў Бібліі.

На прывесцы маркі цытата: «Налівае смакоўніца пупышкі...» (Песьня 2:13).

Малюнак другой маркі — лілія, якая ў Песьні песьняў упамінаецца пяць разоў. «Каханы аддадзены мне, я — яму; ён пасьвіць сярод лілеяў» (Песьня 2:16).

На прывесцы маркі цытата: «... я — лілея з даліны!» (Песьня 2:1).

На трэцяй марцы горлінка — сымбаль міру і любові. На прывесцы маркі цытата «Горлінка ў горнай цясьніне...» (Песьня 2:14).




Горлінка. Арэх. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1952 годзе

Дрэва арэха лічыцца сымбалем блаславенства, знакам вялікага патомства і вобразам сям'і, якае чакае нараджэньня дзіцяці. На прывесцы маркі цытата: «Я спусьціўся ў арэхавы сад...» (Песьня 6:11).

Імкненьне да жыцьця пасеянае ў нашай прыродзе Богам. І гэта імкненьне патрабуе, каб мы сталі адным цэлым з сутнасьцю сьвету, адным цэлым з прыгажосьцю зямлі, бязьмежнасьцю мора, саладосьцю пладоў, духмянасьцю кветак. Адным целам з каханым (каханай) і з Богам. Бог ёсьць адзіная магчымасьць да таго, каб наша сувязь з сьветам мела ўзаемнасьць.

## Эклезіяст — Прапаведнік (Коэлет — Сабранае)

*Вось гэта знайшоў я, сказаў Эклезіяст, выпрабоўваючы адно за адным. (Эклезіяст 7:26)*

Кніга Эклезіяста шмат у чым уяўляе сабой унікальную зьяву ў складзе Бібліі, прыкметна адрозьніваючыся ад усіх астатніх яе Кніг супярэчлівым і таямнічым сэнсам зьместу.

Наўрад ці можна назваць у складзе Старога Запавету кнігу, якая аказала б большы ўплыў на розум чытачоў на працягу стагодзьдзяў, якія прайшлі з моманту яе напісаньня. Гэта паэма пра чалавека, пра яго тленнае, дзіўнае і чароўнае жыцьцё, бессэнсоўнае і насычанае схаваным сэнсам адначасова. Паўстае ў ёй карціна духоўнага і сацыяльнага быцьця чалавека, якая дзівіць жорсткасьцю прысудаў нашага сьвету, які паўстае тленным, зьменлівым, дарэмным, абсурдным і з прызнаньнем крохкасьці, марнасьці і дарэмнасьці зямнога быцьця. «Пустая марнасьць сказаў Эклезіяст, пустая марнасьць, — усё марнасьць!» (Эклезіяст 1:2). З другога боку важна ўбачыць, што ў ёй паказваецца стаўленьне мудрага да сьвету.

На мой погляд найбольш прыдатнымі да ілюстраваньня Эклезіяста зьяўляюцца маркі з рэпрадукцыямі карцін флямандзкага мастака Ераніма Босха (1450—1516). «Я ўсе дзеі пабачыў, якія

пад сонцам чыняцца, і вось, усё — марнасьць і пагоня за ветрам!» (Эклезіяст 1:14).




Сад зямных асалодаў. Еранім Босх (1450—1516). Музэй дэль Прада ў Мадрыдзе. Блёк Цэнтральна — Афрыканскай Рэспублікі, выдадзены ў 2013 годзе

У трыптыху «Сад зямных асалодаў» Еранім Босх намаляваў чалавечы досьвед, прычым, у паралельных сьветах — рэальным і замагільным.




Сад зямных асалодаў. Еранім Босх (1450—1516). Музэй дэль Прада ў Мадрыдзе. Блёк Гамбіі, выдадзены ў 2017 годзе

На левай частцы палатна — Рай, на правай — пекла, а ў цэнтры той самы «сад асалодаў». Можна толькі здагадвацца, які сэнс укладаў мастак у гэтую сымбалічную разнаітасьць яго «саду». «Усё Ён цудоўным зрабіў сваёю парою і вечнасьць паклаў ім у сэрца, хоць ня кемяць яны ў тых справах, што Бог учыніў, ад пачатку і да канца» (Эклезіяст 3:11).

Здаецца, што Босх кажа нам, глядзіце, якімі бачыць вас Бог. Ён бачыць ваша нутро, усе вашыя патаемныя думкі і памкненьні і, калі гэта ўсё становіцца бачным, то так вы выглядаеце ў вачах Божых!

На сярэдняй панэлі ўсе гэтыя дзіўныя галышы, якія займаюцца ўсялякімі легкадумнымі заняткамі — на самай справе звычайныя грэшнікі.




Сад зямных асалодаў. Еранім Босх (1450—1516). Музэй дэль Прада ў Мадрыдзе. Блёк Нідэрляндаў, выдадзены ў 2016 годзе

Кветкі і садавіна на карціне сымбалізуюць задавальненьня плоці, а разглядаць трыптых варта зьлева направа, рухаючыся ад Біблейскага стварэньня чалавека ў Эдэмскім садзе да сучаснага жыцьця, зь яго пажадлівасьцю і суцэльнай распустай і, у выніку, трапляючы ў пекла. «Няма чалавека справядлівага на зямлі, які ра-

біў бы дабро і не грашыў...» (Эклезіяст 7:19).

Карціны Босха напоўнены незьлічонымі дэталямі. Яны творчыя, пазнавальныя; некаторыя зь іх нават сьмешныя. Варта падкрэсьліць, што пры наяўнасьці такіх жахаў, іншыя людзі ідуць па жыцьці, як быццам нічога асаблівага не адбываецца. Хіба гэта не самыя трагічныя вобразы? «Ня будзь лішне строгі, і не выстаўляйся залішне мудрым; навошта табе нішчыць сябе? Не ўпадай у грахі і ня будзь шалёны; навошта табе паміраць заўчасна?» (Эклезіяст 7:15,16).

Назва наступнай карціны «Сем сьмяротных грахоў і чатыры апошнія рэчы» Ераніма Босха гавораць аб яе зьмесьце. Цэнтральная частка, якая складаецца з чатырох канцэнтрычных колаў, сымбалізуе Усёвідушчае вока Божае, у зрэнцы якога ўваскрэслы Хрыстос паказвае свае раны. У другім крузе бачны лацінскі надпіс Cave, cave, d [omi] n [u] s videt — «Бойся, бойся, бо Гасподзь усё бачыць». Надпіс адсылае да вершу «Бо ў мроіве сноў, як і ў мроіве слоў — марнасьці шмат; а ты бойся Бога» (Эклезіяст 5:6). Трэці круг адлюстроўвае прамяні, падобныя на сонечныя, а чацьвёрты, у сэктарах, — Сем сьмяротных грахоў. Пад выявай кожнага з сямі сьмяротных грахоў дадзены яго лацінскі назоў.

Кругі сымбалізуюць ідэю вечнага кругазвароту: «Што было, тое і будзе; што рабілася, тое й рабіцьмецца, і нічога новага пад сонцам няма» (Эклезіяст 1:9).

«Толькі гэта знайшоў я, што Бог стварыў чалавека праведнага, а людзі кінуліся ў вымудры ўсякія» (Эклезіяст 7:28).

Апісаньне кожнага сэктара ідзе па гадзіньнікавай стрэлцы: абжорства, лянота, распуста, пыха, гнеў, зайздрасьць, сквапнасьць. «І зноў я пабачыў, што ўсякая праца і посьпех усякі ў справах узаемную зайздрасьць паміж людзьмі спрычыняюць. І гэта — марнасьць і пагоня за ветрам!» (Эклезіяст 4:4).




Сем сьмяротных грахоў і чатыры апошнія рэчы (1475—1480). Еранім Босх. Прада, Мадрыд. Блёк пошты Тога, выдадзены ў 2014 годзе

«Ад гультайства і столь прасядае; і як апусьцяцца рукі, дык дом пацячэ» (Эклезіяст 10:18).

На блёку пошты Тога добра відаць на правай ніжняй марцы гнеў у выглядзе бойкі, справа вышэй — пыха ў выглядзе жанчыны перад люстэркам і яшчэ вышэй — распуста ў выглядзе закаханай пары ў намёце. Астатнія малюнкі закрываюць відарысы трох марак: «Узыходжаньне блажэнных», «Хрыстос, увянчаны цярновым вянком» і «Выманьне каменя глупства».

Тэма загразласьці людства ў грахах працягваецца ў карціне Босха «Воз сена».

На фоне бязьмежнага пэйзажу сьледам за велізарным возам сена рухаецца кавалькада, і сярод яе — імпэратар і па-

па, сяляне, гараджане, клірыкі і манашкі... — хапаюць бярэмямі сена з воза або б'юцца за яго. За ліхаманкавай людзкой мітусьнёй зьверху назірае Хрыстос. Ніхто, акрамя анёла, які моліцца на версе воза, не заўважае ні Боскай прысутнасьці, ні таго, што воз цягнуць дэманы.




Воз сена. Трыптых. Еранім Босх (1450—1516). Музэй дэль Прада ў Мадрыдзе. Блёк Лібэрыі, выдадзены ў 2017 годзе

Род людзкі паўстае загразлым у граху. Сквапнасьць прымушае людзей хлусіць і падманваць: унізе зьлева хлопчык вядзе за руку мужчыну ў нейкім падабенстве цыліндру на галаве, які прыкідваецца сьляпцом, вымагаючы міласьць. Лекар-шарлатан у цэнтры выклаў на стол свае дыплёмы, склянкі і ступку, каб уразіць уяўленьне легкавернай ахвяры; справа некалькі манашак накладваюць сена ў мяшок пад наглядам манаха з вялізным жыватом, які сядзіць за сталом. Закаханая пара на версе воза ўвасабляе грэх распусты. «Бо хто ведае, што чалавеку добра ў жыцьці, у безьлічы дзён марнага веку яго, якія праходзяць, бы цень? І хто чалавеку скажа, што будзе пад сонцам пасьля яго?» (Эклезіяст 6:12).

Калі прыгледзецца, ці ня знойдзем мы сябе ў гэтым натоўпе, што ідзе за возам, каб і сабе ўрваць трохі сена?

«Хто любіць срэбра, той не насыціцца срэбрам, і хто любіць багацьце, ня мае карысьці зь яго. І гэта — марнасьць!» (Эклезіяст 5:9).



Воз сена (дэталь). Еранім Босх (1450—1516). Музэй дэль Прада ў Мадрыдзе. Блёк Нідэрляндаў, выдадзены ў 2016 годзе

Марачны ліст пошты Нідэрляндаў складаецца з 10 марак, выдадзеных з нагоды 500-годзьдзя з дня сьмерці Босха. На марках фрагмэнты карціны Босха «Воз сена» з кароткімі тлумачэньнямі да кожнай з дзесяці сцэн, адлюстраваных на марках, так што кожная марка распавядае асобную гісторыю, а разам утвараюць цэлае.

«Ёсьць зло, якое я ўбачыў пад сонцам, і багата яго між людзьмі...» (Эклезіяст 6:1). Гэта цытата пацьвярджаецца наступным трыптыхам Босха. У пэрыяд паміж 1490 і 1500 гг. Босх — у самым разгар свайго таленту — стварае гэты трыптых. Уверсе зьлева «Карабель дурняў». Унізе зьлева — «Алегорыя аб абжорства і пажадлівасьці». Панэль справа — «Сьмерць скнары». На задняй частцы панэлі разь-

мешчаны Падарожнік. Цэнтральная панэль страчана.

З караблём Босха нешта ня так. Яго пасажыры сьпяваюць, п'юць... Яны нават не заўважаюць, што іх карабель ужо нікуды не плыве. Прычым так даўно, што праз дно прарасло дрэва. «Смутак лепшы за сьмех; а сэрца бязглуздых — у доме вясёлым» (Эклезіяст 7:3). Яны дурні, таму што яны атрымліваючы асалоду ад усіх пачуцьцёвых задавальненьняў гэтага сьвету, ня ведаюць, куды гэта ўсё вядзе. «Неразумны сядзіць, склаўшы рукі свае, і жарэ сваё цела» (Эклезіяст 4:5).




Карабель дурняў. Сьмерць скнары 1495—1500). Еранім Босх. Люўр, Парыж. Блёк пошты Сэнт — Вінсэнту і Грэнадынаў, выдадзены ў 2016 годзе

Капітан, які кіруе гэтым шляхам, — гэта сьмерць. «Вось гэта ёсьць ліха ва ўсім, што пад сонцам робіцца, што адна доля ўсім, і сэрца сыноў чалавечых напоўнена злом, і неразумнасьць у сэрцы ў іх, у жыцьці іхнім; а потым яны адыходзяць да мёртвых» (Эклезіяст 9:3).

На панэлі справа — «Сьмерць скнары». У руцэ ў багацея — ружанец, на поясе вісіць ключ ад куфра. Скупы стаіць перад выбарам: застацца пры грошах, узяць мех з манэтамі, якія яму працягвае сквапнасьць-д’ябал, або паслухацца Анёла-ахоўніка і зьвярнуць свой позірк да расьпяцьця і Бога. «Уся праца людзкая — для рота, а душа чалавека — не насычаецца» (Эклезіяст 6:7). За чалавекам уважліва сочыць яшчэ адзін д'ябал, які зьвісае з палога над ложкам, а худая сьмерць у дзьвярным праёме чакае рашэньня багацея — ад яе яму ўжо ў любым выпадку не схавацца. «Ёсьць нядоля балючая, якую я пад сонцам бачыў: багацьце, якое ўласьнік пільнуе на шкоду сабе» (Эклезіяст 5:12).

Гэта яшчэ адзін фантастычны трыптых. Сярод кучы монстраў і пачвар — чатыры сюжэты з жыцьця пустэльніка.




Спакуса Сьвятога Антонія (1505—1506). Еранім Босх (1450—1516). Нацыянальны музэй старажытнага мастацтва, Лісабон. Блёк пошты Партугаліі, выдадзены ў 2016 годзе

Левая створка — «Палёт і падзеньне Сьвятога Антонія». Спачатку Сьвятога ў небе разьдзіраюць дэманы. Іх паслаў Сатана. Не давала яму спакою, што Сьвяты змагаецца з зямнымі спакусамі. Змучанага Сьвятога дэманы кінулі на зямлю. Мы бачым, як яго зьнясіленага вядуць пад рукі.

У цэнтральнай частцы Сьвяты стаіць на каленях сярод загадкавых пэрсанажаў. Гэта алхімікі спрабуюць спакусіць яго эліксірам вечнага жыцьця. Але нічога ў іх не выйшла.

Правая створка — «Уявы Сьвятога Антонія». Сьвятога Антонія спакушае самая спакусьлівая з усіх спакусьніц.

«Вас апанавала спакуса не якая, а чалавечая; і верны Бог, Які не дапусьціць, каб вас спакушалі звыш сілы, але пры спакушэньні дасьць і палёгку, каб вы маглі ператрываць» (Першае да Карынфянаў 10:13).

Прыклад Сьвятога Антонія кажа аб тым, што ня ўсё так безнадзейна, што чалавек здольны на правільны выбар.

Наступная праца Босха кажа аб тым, што калі чалавек паддаўся спакусам, то і тады яшчэ ня ўсё згублена.

Прыкладна ў 1510 годзе Еранім Босх напісаў «Блуднага сына», але гэта не вяртаньне ў бацькаву хату і горкі і радасны плач і абдымкі, а сцэна абдуманага і ўвасобленага сыходу з грахоўнага жыцьця. Галоўны пэрсанаж рана састарэўся і пасівеў, у вачах яго — стомленасьць, расчараваньне, горкая ўсьмешка... надзея? «Няскора ўчыняецца суд над благімі справамі; таму не баіцца сэрца сыноў чалавечых чыніць ліхату» (Эклезіяст 8:11). Гэты намёк на ўсьмешку і прыўзьнятыя бровы кажуць пра тое, што нягоды лёсу не да канца пагасілі яго дух і імкненьне да лепшага. Цяпер ён многае зразумеў. «І ўбачыў я, што мудрасьць пераважае над дурасьцю так, як сьвятло над цемраю» (Эклезіяст 2:13).

Так мог бы сымбалічна выглядаць любы чалавек — знойдзенае, заробленае, выпадковае, атрыманае ў дар або скрадзенае... у дзірах і ў той жа час з моцным кошыкам за плячыма... дарога па доўгім жыцьцёвым шляху — ад граху да радасьці, ад карчмы, дзе незаўважна для гаспадароў бурыцца дах, да Айца Нябеснага.

«Уведаў я, што няма ім нічога лепшага, як весяліцца і ў жыцьці сваім добрае толькі ўчыняць. І калі які чалавек есьць і п'е і бачыць дабро ва ўчынках сваіх, дык гэта — дар Божы. Уведаў я, што ўсё, што робіць Бог, застаецца навекі; Ён робіць так, каб багавейна ступалі перад абліччам Яго» (Эклезіяст 3:12—14).




Блудны сын (1510). Еранім Босх. Марка з блёку Саламонавых выспаў, выдадзеным у 2016 годзе

«І сказаў я ў сэрцы маім: „Судзіць будзе Бог праведнага і грэшнага; бо на кожную справу прызначана пара і суд на кожную дзею тваю“» (Эклезіяст 3:17). Цэнтральная панэль трыптыху Ераніма Босха «Страшны суд» уяўляе сабой апошні суд і сем сьмяротных грахоў.

На марках адлюстраваныя зьнешнія створкі трыптыху і на іх Сьвяты Апостал Якаў і Сьвяты Бавон.

Ні адзін мастак ні да, ні пасьля Босха не валодаў такой творчай энэргіяй і здольнасьцю ўвасабляць палохаючае невядомае ў гэтак фантастычныя вобразы.

Унутраная панэль зьлева адлюстроўвае падзеньне анёлаў з нябёсаў, стварэньне Евы, грэхападзеньне і выгнаньне, у той час як правае крыло паказвае пекла і князя цемры. Асуджаных Богам — а на думку Босха, яны складуць вялікую частку роду людзкога — чакаюць пякельны агонь, мукі, стогны і скрыгат зубоў. Такую страшную долю падрыхтаваў Бог чалавецтву. На гэтую тэму Босх стварыў нямала ўражлівых карцін, але самая моцная па ўзьдзеяньні, мабыць, тая, што на правай створцы гэтага трыптыху. І, ня гледзячы на гэта, людзі грашаць. «Няскора ўчыняецца суд над благімі справамі; таму не баіцца сэрца сыноў чалавечых чыніць ліхату» (Эклезіяст 8:11).




Страшны суд (1504). Акадэмія выяўленчых мастацтваў, Вена. Еранім Босх. Блёк пошты Лібэрыі, выдадзены ў 2016 годзе

Чым жа тлумачыцца непераможная грахоўнасьць чалавека? Магчыма грэх у чалавечым родзе адбыўся пад уплывам спакусы з боку д'ябла, з свабоды чалавека і права і абавязку выбіраць? Але д'ябал складае толькі зьнешнюю прычыну паходжаньня граху: ён толькі зводзіць, схіляе чалавека да граху. Галоўную ж, унутраную прычыну паходжаньня граху складае свабода чалавека, а зь ёй права і абавязак выбару: з прычыны свабоды чалавек выбірае грэх, не вытрымаўшы спакусы. І вырашальным момантам у такім выбары — сумнеў у любові Божай да людзей і скептыцызму адносінах да веры ў замагільнае жыцьцё. «Усё Ён цудоўным зрабіў сваёю парою і вечнасьць паклаў ім у сэрца, хоць ня кемяць яны ў тых справах, што Бог учыніў, ад пачатку і да канца» (Эклезіяст 3:11). Ў якім бы кірунку думка ні разьвівалася, яна ў рэшце рэшт натыкаецца на ґэвэль — марнасьць, і гэта не проста перашкода, а прама-ткі пастка.

«Пустая марнасьць сказаў Эклезіяст, пустая марнасьць, — усё марнасьць!» — гаворыцца ў кнізе цара Саламона «Эклезіяст» (Коэлет). І ты прыходзіш у адчай. Але давайце пачуем Міхаэля Лайтмана (імя пры нараджэньні — Міхаіл Лейтман; нарадзіўся 31 жніўня 1946 года, Віцебск) — члена «Сусьветнага савета мудрацоў».

«„Пустая марнасьць, — усё марнасьць“ — такі даслоўны пераклад зь іўрыту, без тлумачэньня ўнутранай сутнасьці сказанага, на тысячагодзьдзі накіраваў чалавецтва па няслушным шляху. Справа ў тым, што „марнасьць марнасьці“ — гэта няправільны пераклад зь іўрыту выразу „эвель авалім“, які пацьвярджае ў чарговы раз, наколькі немагчыма чытаць Тору ў перакладзе. Там гаворыцца, што ўсё ў сьвеце адбываецца з таго, што называецца „эвель“ — адлюстраванае сьвятло. І вывучэньне кнігі Эклезіяста заключаецца не ў разуменьні прачыта-

нага. Кніга Эклезіяста — гэта не кніга, гэта мэханізм прыцягненьня вышэйшага сьвятла, які запускаецца праз чытаньне Кнігі тваім жаданьнем. І гэта не пустая, а вельмі сур'ёзная ўнутраная праца, цалкам супрацьлеглая таму, што мы маем на ўвазе ў нашым сьвеце, чытаючы Біблію ў перакладзе».

«Усё мае сваю пару, і гадзіна кожнае дзеі — пад небам. Ёсьць пара нарадзіцца, і пара памерці, пара насаджаць, і пара вырываць пасаджанае. Пара забойства, і пара гаеньня; пара разбураць, і пара будаваць; пара плачу, і пара весялосьці; пара бедаваць, і пара танцаваць; пара раскідаць камяні, і пара зьбіраць камяні; пара абдымаць, і пара ўхіляцца абдоўмаў; пара шукаць, і пара губляць; пара ашчаджаць, і пара выкідаць; пара разьдзіраць, і пара зашываць; пара маўчаць, і пара прамаўляць; пара кахаць, і пара ненавідзець; пара вайне, і пара міру» (Эклезіяст 3:1—8).




Час (1931). Сальвадор Далі (1989—1904). Марка пошты Мальдзіваў, выдадзеная ў 2004 годзе

На палатне прысутнічаюць любімыя для Далі сымбалі: яйка, увасабляе жыцьцё; мора, як сымбаль неўміручасьці; аліва, прыкмета мудрасьці і мурашы на цыфэрблаце старадаўняго кішэннага гадзіньніка — паказчыкі тлену і раскладаньня, завяршаюць адзіную кампазыцыю.

Гэтая карціна, мне здаецца, гаворыць са мной — крычыць мне — што час проста растае на нашых вачах! І чым я старэй, тым хутчэй ляціць час! Праблема, вядома, у тым, што Божы плян нашага жыцьця не заўсёды адпавядае нашым плянам, і часам гэта можа быць пакутлівай барацьбой. Але калі Бог «кіруе», то з гэтага вынікае, што Ён сапраўды мае час і мэту на ўсё. Але гэта не фаталізм і не пазбаўляе нас свабоды і адказнасьці. Гэта мудры провід любячага Айца, які абяцае зрабіць усё добра.

«Ёсьць толькі два спосабы пражыць жыцьцё: першы — быццам цудаў не існуе, другі — быццам вакол адны цуды», — казаў Эйнштэйн. Выбераш першы і «пустая марнасьць, — усё марнасьць», выбераш другі і аказваецца; што «шчасьце — у «марнасьць марнасьці», аддачы бліжняму! Калі мы будзем аддаваць адзін аднаму, калі пабудуем такое жыцьцё, што ўсе будзем станоўча зьвязаны ў грамадзтве, то напоўнім адзін аднаго шчасьцем, а не рэчамі.

Гісторыя, якая стаіць за маркамі Carry Us Through (Перанясі нас праз гэта) тычыцца гісторыі пандэміі каранавірусу 2020 года і таго, як яна зьмяніла наша жыцьцё, магчыма, назаўсёды. Хтосьці страціў сяброў, хтосьці страціў працу і бізнэс, хтосьці страціў жыцьцё. Усе мы пацярпелі. Але ўсіх уразіла, як зьдзяйсьнялася незьлічоная колькасьць дабрыні, адзінства, клопату і пазытыву, уразіла тое, як людзі зноў пачалі размаўляць, пісаць адзін аднаму, размаўляць з суседзямі, наглядаць уразьлівых людзей. Мы ведаем, што гэты крызіс пройдзе, як і ўсё, і ў нас застанецца пэрыяд аднаўленьня.

Шмат каму, хто страціў сяброў і сваякоў, спатрэбіцца спачуваньне і разуменьне. Але жыве надзея, заснаваная толькі на некалькіх рэчах, якія «правядуць нас праз» крызіс да нашага выздараўленьня, як фізычнага, так і духоўнага. Маркі «2020 Каханьне будзе # CarryUsThrough» распрацавала дызайнэр Эма Ньютан.




Каханьне будзе, Вера будзе, Сыход будзе, Спачуваньне будзе, Праца будзе, Супольнасьць будзе, Словы будуць, Навука будзе. Маркі Адзьдзяленьне паштовай сувязі вострава Мэн, выдадзеныя ў 2020 годзе

Любоў да бліжніх — гэта тое, што дапаможа нам перамагчы страх, гора і аднавіць жыцьцё. Усё што нам трэба — гэта любоў.

«Выслухаем сутнасьць усяго: бойся Бога і Запаведзяў Ягоных трымайся, бо чалавеку ў гэтым — усё. Бо ўсякі ўчынак Бог прывядзе на суд і ўсё таемнае, ці яно добрае, а ці благое» (Эклезіяст 12:13,14).

Сьвятое Пісаньне не кажа аб праўдзе, якая павінна быць на зямлі. Але праз Эклезіяста яно папярэджвае нас: поўную стаўку на зямны сьвет рабіць нельга. У чалавека ёсьць іншае памкненьне і іншыя высокія задачы, якія пераўзыходзяць той узровень, да якога чалавек прывык раней.

Як ні парадаксальна, аўтар Эклезіяста праз свой тэкст, які здаецца дэпрэсіўным, падводзіць нас да паўнаты і шчасьця.

«А што звыш усяго гэтага, сыне мой, таго асьцерагайся: складаць многа кніг — канца ім ня будзе, і многа чытаць — стамляецца цела» (Эклезіяст 12:12).

Эклезіяст сказаў загадкавую фразу: «Добрая мудрасьць — як і добрая спадчына, асабліва ж бо тым, што сонца бачаць...» (Эклезіяст 7:10).

Мудрасьць — гэта дар Бога, спадчына — дабрачыннасьць, а сонца — Сам Гасподзь, і пабачыць Яго магчыма толькі духоўнымі вачыма веры і любові.

Але пакора — гэта прымірэньне з Богам, а не з сьветам, які ляжыць у зьле, яно прадугледжвае свабоду духу і духоўны высілак — барацьбу з сусьветным злом.

«... ня ведаеце, якога вы духу; бо Сын Чалавечы прыйшоў ня губіць душы чалавечыя, а ратаваць» (Паводле Лукаша 9:55,56).

## Пакуты нявіннага Ёва

*Няўжо добрае мы будзем прымаць ад Бога, а благога ня будзем прымаць? (Ёв 2:10)*

Яшчэ ў адной з Біблейскіх Кніг Мудрасьці кнізе Ёв разглядаецца адзіная глябальная праблема рэлігіі — чаму Бог дапускае зло ў Сусьвеце. Чаму зло распаўсюджваецца на людзей нявінных? Пакуты злых і грэшных можна растлумачыць пакараньнем за грахі, але чаму пакутуюць нявінныя? Кніга Ёв апісвае прыклад такога пакараньня і пакутаў нявіннага Ёва.

На марцы Нідэрляндаў паказана старонка Бібліі, надрукаванай у 1477 годзе, з тэкстам з Кнігі Ёва: «О, калі б запісаны былі словы мае! калі б накрэсьлены былі яны ў кнізе разцом жалезным з волавам, — на вечныя часы на камені выразаны былі!» (Ёв 19:23,24).




Біблія Дэльфт. Марка пошты Нідэрляндаў, выдадзеная ў 1977 годзе

На небе перад Богам сабраўся савет з жыхароў неба, дзе ад зямлі прыйшоў сатана і заявіў, што абышоў усю зямлю, як бы намякаючы, што на зямлі ўсё пад яго ўладай. Але Бог зьвярнуў яго ўвагу на тое, што гэта далёка не так, бо ёсьць, напрыклад, такі чалавек як Ёв.

Але сатана запярэчыў, што Ёв такі бездакорны, пакуль Бог яму спрыяе і ўсё зьменіцца, калі Ёв страціць усё, што мае. «Ці ня Ты вакол асланіў яго і дом ягоны і ўсё, што ў яго? Дзеі рук ягоных Ты дабраславіў, і статкі ягоныя шырацца па зямлі; але працягні руку Тваю і дакраніся да ўсяго, што ў яго, — ці дабраславіць ён Цябе?» (Ёв 1:10,11). І вось Ёв страціў усё, што меў: маёмасьць, дзяцей, здароўе і ляжыць у непераносных пакутах. Гледзячы на мукі мужа, жонка дапускае, што вера ў Бога нічога не дала, і кажа: «ты ўсё яшчэ цьвёрды ў беззаганнасьці тваёй! згань Бога і памры» (Ёв 2:9). На што Ёв адказвае: «Ты гаворыш, як неразумная. Няўжо добрае мы будзем прымаць ад Бога, а благога ня будзем прымаць? Ва ўсім гэтым не зграшыў Ёв вуснамі сваімі» (Ёв 2:10).

«І пачулі трое сяброў Ёва пра ўсе гэтыя нягоды, што спасьціглі яго, і пайшлі кожны з свайго месца: Эліфаз Фэманіцянін, Вілдад Савхэянін і Сафар Нааміцянін, і сышліся, кабісьці разам бедаваць зь ім і суцяшаць яго» (Ёв 2:11). Гэты эпізод намаляваў Мація Прэці (Mattia Preti) на карціне «Наведваньне Ёва прыяцелямі».




Ёва наведваюць яго сябры. Мація Прэці (1613—1699). Каралеўскі музэй прыгожых мастацтваў у Бэльгіі. Марка пошты Руанды, выдадзеная ў 1967 годзе

На малюнку мастак намаляваў Ёва, які «сеў у попел», змучаны хваробай, да якога прыбылі яго заможныя і разумныя прыяцелі, засмучаныя, як гэта магло здарыцца з такім справядлівым і добрым чалавекам. Збоку стаіць жонка Ёва, надалей верная мужу, але, якая ўжо сумняваецца ў Божай справядлівасьці.

Сем дзён моўчкі спачувалі сябры Ёву, толькі пасьля нараканьняў Ёва на свае няшчасьці пачалі гаварыць. «Згадай жа, ці гінуў хто невінаваты, і дзе праведных выкарчоўвалі б? Як я бачыў, дык тыя, што аралі бязбожнае і сеялі ліхое, жнуць яго...» (Ёв 4:7,8). Яны перакананыя, што нявінныя не караюцца Богам, што, напэўна, Ёв зграшыў і, магчыма, проста ня хоча гэтага прызнаць, чым дадаюць яш-

чэ больш болі Ёву. Ёв выслухваў абскарджваньні, але не пагаджаўся і шукаў адказ, спасылаючыся на мудрасьць Бога, якая відавочная ў сьвеце Ім створаным. Гэты матыў адлюстраваны на марках пошты Ізраілю, дзе каляровыя малюнкі ілюструюць разважлівыя адказы Ёва сябрам, у якіх паказвае мудрасьць Бога прысутная ў прыродзе.

«...спытайся [...] у птушкі нябеснай, і абвесьціць табе...» (Ёв 12:7).

«...спытайся ў быдла, і навучаць цябе...» (Ёв 12:7).

«...і скажуць табе рыбы марскія» (Ёв 12:8).




Адказы Ёва сябрам. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1996 годзе

«Хто ва ўсім гэтым ня ўведае, што рука Госпада стварыла гэта. У Ягонай руцэ душа ўсяго жывога і дух усякі чалавечай плоці» (Ёв 12:9,10).

Дыялёг Ёва з сябрамі перарывае Бог, бо бачыць, што дагаварыцца яны ня могуць і Ёв пачынае абвінавачваць Бога. Але Бог не дае прамога адказу, а задае пытаньні так, каб Ёв сам прыйшоў да высновы. Сваімі пытаньнямі Бог паказвае, што Ён зладзіў сьвет таямнічы і дасканалы, і што чалавеку недаступна пракрасьціся ва ўсе найвялікшыя таямніцы чароўнай задумы аб сьветабудове. Але мы заўсёды ўпэўненыя, што ведаем адказ на тое, што не мае адказу. Насуперак нашаму перакананьню, што пакуты — вынік граху, існуюць мукі нявінных. Мукі нявінных у таямнічы спосаб упісаныя ў дасягненьне дасканаласьці гэтага сьвету.

Ёва напаткалі выпрабаваньні, не з тым, каб загубіць яго, але каб увянчаць, не з тым, каб пасароміць, але каб праславіць... Ёв вытрымлівае тыя спакусы, якія некалі не вытрымаў Адам у Раі. І гэта вельмі важны крок для Ёва, які прывёў да яго сустрэчы з Богам і да вяртаньня яму ўсяго што меў удвая.




Бічаваньне Ёва. Тытульны ліст. Гравюра Скарыны (1517). Праект маркі (2017)

Варта сказаць, што ўнікальна сама пабудова кнігі: гэта дзіўнае спалучэньне прозы і паэзіі, маналёгу і дыялёгу. Пралог (главы1—2) і эпілёг (42:7—17) складаюць яе празаічную частку. Але ўсё, што паміж імі, зьяўляецца паэтычнай часткай (у габрэйскім арыгінале).

Ангельскі паэт, пісьменьнік, мастак, друкар, гравёр Уільям Блэйк (1757—1827) стварыў 21 ілюстрацыю да Кнігі Ёва.




Сатана лье кіпень на Ёва (1825). Уільям Блэйк (1757—1827). Каляровая манатыпія. Музэй вытанчаных мастацтваў Бостана. Капэрта пошты Гішпаніі, выдадзеная ў 2013 годзе

Над выявай карціны разьмешчана цытата, якая падкрэсьлівае падпарадкаваньне Ёва ягоным выпрабаваньням. «І сказаў Гасподзь сатане: вось, ён у руцэ тваёй, толькі душу ягоную ашчадзі. І адышоў сатана ад аблічча Гасподняга і пабіў Ёва праказаю лютаю ад падэшвы нагі ягонай па самае цемя ягонае» (Ёв 2:6,7).




Ёв і яго дачкі (1825). Уільям Блэйк. Каляровая манатыпія. Музэй вытанчаных мастацтваў Бостана. Капэрта пошты Гішпаніі, выдадзеная ў 2013 годзе

«Ёв і яго дачкі» пасьля вяртаньня Ёву ўсяго, што меў удвая — ілюстрацыя Уільяма Блэйка да главы 42 (13—15) Кнігі Ёва. Усе яны бачацца на фоне, які адлюстроўвае некаторыя выпрабаваньні, якія прайшоў Ёў. Зьлева — зьнішчэньне халдэямі яго слуг: «Халдэі сталі трыма атрадамі і кінуліся на вярблюдаў і забралі іх, а хлопчыкаў пабілі вастрыём меча; і ўратаваўся толькі я адзін, каб абвясьціць табе» (Ёв 1:17). Справа — зьнішчэньне аратых Ёва: «Валы аралі, і асьліцы пасьвіліся каля іх, як напалі Савэяне і забралі іх, а хлопчыкаў пабілі вастрыём меча; і ўратаваўся толькі я адзін, каб абвясьціць табе» (Ёв 1:15).

«І вярнуў Гасподзь страту Ёва, калі ён памаліўся за сяброў сваіх; і даў Гасподзь Ёву ўдвая больш за тое, што ён меў раней. Тады прыйшлі да яго ўсе браты ягоныя і ўсе сёстры ягоныя і ўсе ранейшыя знаёмыя ягоныя, і елі зь ім хлеб у доме ягоным, і смуткавалі зь ім, і суцяшалі яго за ўсё ліха, якое Гасподзь навёў на яго і далі яму кожны па кесіце і па залатым пярсьцёнку. І дабраславіў Бог апошнія дні Ёва болей, чым ранейшыя: у яго было чатырнаццаць тысяч дробнага быдла, шэсьць тысяч вярблюдаў, тысяча пар валоў і тысяча асьліц. І было ў яго сем сыноў і тры дачкі. І даў ён першай імя Эміма, імя другой — Касія, а імя трэцяй — Керэнгапух. І ня было на цэлай зямлі такіх прыгожых жанчын, як Ёвавы дачкі, і даў ім бацька іхні спадчыну паміж братамі іхнімі. Пасьля таго Ёў жыў сто сорак гадоў, і бачыў сыноў сваіх і сыноў сыноўніх да чацьвёртага роду. І памёр Ёў у старасьці насычаны днямі» (Ёв 42:10—17).

## Падзел царстваў

*І сказаў Гасподзь Саламону: за тое, што так у цябе робіцца, і ты не захаваў запавету Майго […] Я адбяру ад цябе царства і аддам яго рабу твайму; і ня ўсё царства адбяру: адно калена дам сыну твайму дзеля Давіда, раба Майго, і дзеля Ерусаліма, які Я выбраў. (Трэйцяя Царстваў 11:11, 13)*

Царства Саўла, Давіда і Саламона праіснавала 120 гадоў. Пасьля сьмерці Саламона, як было абяцана Богам (Трэйцяя Царстваў 11:11–13), царства падзялілася на Ізраільскае і Юдэйскае. Дзесяць кален, выслухаўшы сына Саламона Раваама: «бацька мой наклаў на вас цяжкае ярмо, а я павялічу ярмо ваша; бацька мой караў вас бічамі, а я буду караць вас скарпіёнамі» (Трэйцяя Царстваў 12:14), адзьдзяліліся і ўтварылі Царства Ізраільскае ці Паўночнае са сталіцай спачатку Сіхем, пасьля Фірца, а затым Самарыя. Ізраільскае царства праіснавала прыблізна 200 гадоў і зьнішчана было ў 721 годзе да Р.Х. асырыйскім царом Саламасарам.

Каляровая карта Палестыны галяндзкага картографа Вільлема Блау (поўная назва «Terra Sancta quae ў Sacris Terra Promissionis olim Palestina») арыентавана на Захад і паказвае Сьвятую Зямлю па абодва бакі Ярдана ад Трыпалі да дэльты Ніла. На карце адлюстраваны плямёны Ізраіля і шлях Ізраіля зь Егіпта праз Сінай у Ханаан. У моры намаляваны марскія пачвары, у Міжземным моры паказаны Ёна і кіт. Войска Фараона тоне ў Чырвоным моры. Тытульны картуш, драпіраваны садавіной, ахоўваюць дзьве сабакі. На адным баку картуша — Майсей, які трымае Дзесяць Запаведзяў, а на другім — Аарон.




Карта Палестыны — Сьвятой Зямлі (1629). Блёк пошты Ватыкану, выдадзены ў 1999 годзе

Равааму, сыну Саламона, засталіся вернымі толькі род Іуды і частка роду Веньяміна. Утварылі яны Юдэйскае царства ці Юду або Паўднёвае царства са сталіцай у Ерусаліме.




Карта Мадабы. Марка пошты Ярданіі з сэрыі «Мазаіка ў Ярданіі», выдадзеная ў 1989 годзе

Мазаічная карта Мадабы зьяўляецца часткай падлогавай мазаікі ў раньняй бі-

зантыйскай царкве Сьвятога Георгія ў Мадабе, Ярданія, датуецца 6 стагодзьдзем нашай эры. Карта Мадабы — гэта карта Блізкага Ўсходу і яе частка ўтрымлівае найстарэйшае захаванае арыгінальнае картаграфічнае адлюстраваньне Сьвятой Зямлі і асабліва Ерусаліма.

Іудзейскае царства існавала 300 гадоў і было ў 586 годзе да Р.Х. зьнішчана Вавілонам.

## Прарок Ільля — першаадкрывальнік «веяньня ціхага ветру» — духу любові Божай

*...ня ў ветры Гасподзь; пасьля ветру землятрус, але ня ў землятрусе Гасподзь; пасьля землятрусу агонь, але не ў агні Гасподзь; пасьля агню веяньне ціхага ветру, і там Гасподзь. (Трэйцяя Царстваў 19:11,12)*

Пасьля сьмерці цара Саламона адзіная дзяржава, якая аб'ядноўвала дванаццаць каленаў габрэйскага народу, падзялілася на два царства: Юдэйскае і Ізраільскае. Неўзабаве пасьля гэтага ізраільскія цары адпалі ад шанаваньня праўдзівага Бога і сталі пакланяцца ідалам, разбэшчваючы свой народ.

Але Гасподзь не бывае зьняважаным, і падчас кіраваньня Ахава і яго жонкіязычніцы Езавэлі, падпарадкоўваючыся Божай волі, на прарочае служэньне выйшаў прарок Ільля (Элійя́ -«Бог мой Яхве»). А цяпер уявіце, што па нашых асфальтаваных вуліцах ходзіць не зусім адэкватна апрануты чалавек і выкрывае ўсіх грамадзян у грахах і бязбожнасьці. Дапусьцім, што нейкім дзіўным чынам яго не паклалі ў псыхіятрычную бальніцу, не пасадзілі, таму што баяцца... і паважаюць. Вядома, ён «ненармальны», але лепш яго не чапаць.




Пакланеньне залатому цяльцу. Джэры Харстан (1943 — 2009). Пэрсанальная марка, выпушчаная ў 2014 годзе поштай Ізраілю

Джэры Харстан нарадзіўся ў Бейсіне, Штат Ваёмінг, і скончыў Унівэрсытэт штата Юта па спэцыяльнасьці графічны дызайн. Джэры працаваў у графічным аддзеле Царквы Ісуса Хрыста Сьвятых апошніх дзён у якасьці ілюстратара больш трынаццаці гадоў і праілюстраваў больш за трыццаць дзіцячых кніг.

Калі беззаконьне стала ўсеагульным, Бог пакараў Ізраільцян засухай. «І сказаў Ільля Фэсьвіцянін, з жыхароў Галаадскіх, Ахаву: жывы Гасподзь Бог Ізраілеў, прад Якім я стаю! у гэтыя гады ня будзе ні расы, ні дажджу, хіба толькі па маім слове» (Трэйцяя Царстваў 17:1).

Калі пачалася засуха і наступіў голад і недахоп вады, Ільля, па Божага загаду, накіраваўся да крыніцы Харафа на ўсходзе Палестыны. Там крумкачы кармілі Сьвятога, прыносячы яму хлеб і мяса. «Ідзі адгэтуль і абярніся на ўсход і схавайся каля патока Харата, што насу-

праць Ярдана; з гэтага патока ты будзеш піць, а крумкачам Я загадаў карміць цябе там» (Трэйцяя Царстваў 17:3,4).




Ільлю корміць крумкач. Фрэска 13 ст. Манастыр Марака. Марка пошты Югаславіі, выдадзеная ў 1990 годзе

Пошта Лібэрыі выпусьціла сэрыю блёкаў «Жывёлы ў Бібліі». На першым блёку ў левым ніжнім куце ангельскі надпіс: «Крумкачы кормяць Ільлю» і малюнак Ільлі і крумкача.




Крумкачы кормяць Ільлю. Блёк пошты Лібэрыі, выдадзены ў 2006 годзе

Калі крыніца высахла, Госпадзь загадаў Ільлю ісьці на захад у Фінікійскае паселішча Сарэпту блізу горада Сідона да нейкай набожнай удавы. «Па праўдзе кажу вам: шмат удоваў было ў Ізраілі ў дні Ільлі, калі замкнута было неба тры гады і шэсьць месяцаў, так што зрабіўся вялікі голад па ўсёй зямлі; і да ніводнай зь іх ня быў пасланы Ільля, а толькі да ўдавы ў Сарэпту Сідонскую...» (Паводле Лукаша 4:25,26). Гэта значыць, не знайшлося ва ўсім богаабраным народзе досыць набожнага чалавека, каб накіраваць да Яго Прарока.

Як сустрэла жанчына з чужога народу незнаёмага ізраільцяніна? «Яна сказала: жывы Гасподзь Бог твой, у мяне нічога няма печанага, а толькі ёсьць прыгаршчы мукі ў кадушцы і крыху алею ў збанку; і вось, я зьбяру палена-другое дроў, і пайду, і прыгатую гэта сабе і сыну майму; зьямо гэта і памром» (Трэйцяя Царстваў 17:12). «І сказаў ёй Ільля: ня бойся, ідзі, зрабі, што сказала; але раней з гэтага зрабі невялікі праснак мне і прынясі мне; а сабе і сыну свайму зробіш пасьля; бо так кажа Гасподзь Бог Ізраілеў: мука ў кадушцы ня кончыцца, і алей у збанку ня ўбудзе да таго дня, калі Гасподзь дасьць дождж на зямлю» (Трэйцяя Царстваў 17:13,14).




«Глядзі, сын твой жывы». Карціна Джэры Харстона. Пэрсанальная марка пошты Ізраілю, выпушчаная ў 2014 годзе

Нечакана захварэў і памёр удовін сын. «І сказала яна Ільлю: што мне і табе, чалавеча Божы? ты прыйшоў да мяне нагадаць грахі мае і ўсьмерціць сына

майго» (Трэйцяя Царстваў 17:18). Тады Ільля зьвярнуўся да Бога: «Госпадзе Божа мой! няўжо Ты і ўдаве, у якой я жыву, зробіш благое, усьмерціўшы сына яе? І схіліўшыся над хлопчыкам тры разы, ён зьвярнуўся да Госпада і сказаў: Госпадзе Божа мой! хай вернецца душа хлопчыка гэтага ў яго! І пачуў Гасподзь голас Ільлі, і вярнулася душа хлопчыка гэтага ў яго, і ён ажыў. І ўзяў Ільля хлопчыка, і адвёў яго з сьвяцёлкі ў дом, і аддаў яго маці ягонай, і сказаў Ільля: глядзі, сын твой жывы» (Трэйцяя Царстваў 17:20—23).

«Як прайшло шмат дзён было слова Госпадняе Ільлю ў трэці год: ідзі і пакажыся Ахаву, і Я дам дождж на зямлю» (Трэйцяя Царстваў 18:1). Ахаву данесьлі, што прарок Ільля жадае бачыць яго. «І пайшоў Ахаў насустрач Ільлю» (Трэйцяя Царстваў 18:16). Святар Сергій Бегіян такім чынам апісвае гэту падзею: «Уявім, як бы гэта выглядала цяпер. На вялікай хуткасьці рухаецца картэж з мігалкамі, наперадзе і ззаду-паліцэйскія матацыклы, у цэнтры-браніраваны лімузін з таніраваным шклом. Пасярод дарогі вырастае самотны сілуэт Ільлі. І працэсія спыняецца! Хто з сучасных духоўных аўтарытэтаў можа сваім з'яўленнем спыніць прэзідэнцкі картэж? Я не маю на ўвазе царкоўных іерархаў. Я маю на ўвазе аўтарытэт духу. Я, на жаль, не ведаю такіх. З лімузына выходзіць... Ахаў. „Ці ты гэта, хто бянтэжыць Ізраіля?“ (Трэйцяя Царстваў 18:17) — кажа Ахаў, а яго целаахоўнікі ў пінжаках і гальштуках глядзяць на прарока азлоблена і баязьліва. „Ня я бянтэжу Ізраіля, а ты і дом бацькі твайго, тым, што вы пагардзілі загадамі Госпаднімі і ідзяце сьледам за Вааламі...“ (Трэйцяя Царстваў 18:18), — адказвае прарок».

Сьвяты прапанаваў цару ўсенародна «на тэрыторыі Ваала» высьветліць: «Хто есьць сапраўдны Бог»? Няхай на гары Карміл прарокі Ваала прынясуць ад сябе ахвяру, а Ільля ад сябе. «І паклічце вы імя бога вашага, а я паклічу імя Госпада Бога майго. Той Бог, Які дасьць адказ праз агонь, ёсьць Бог» (Трэйцяя Царстваў 18:24).




Заліў Хайфы і Гара Карміл. Афорт Ольферта Дапэра (1635—1689). Блёк пошты Ізраілю, выдадзены ў 1980 годзе

З ранку да вечара прарокі Ваала рознымі спосабамі малілі Ваала прыняць ахвяру. Дарэмна. Тады Ільля паклікаў народ падысьці да яго. «І ўзяў Ільля дванаццаць камянёў, па колькасьці каленаў сыноў Якава, якому Гасподзь сказаў так: Ізраіль будзе імя тваё. І пабудаваў з гэтых камянёў ахвярнік у імя Госпада, і зрабіў вакол ахвярніка роў, ёмістасьцю ў дзьве саты зерня, і паклаў дровы, і расьсек цяля, і паклаў яго на дровы, і сказаў: напоўніце чатыры вядры вады і вылівайце на ўсепальную ахвяру і на дровы. Потым сказаў: паўтарэце. І яны паўтарылі. І сказаў: зрабеце тое самае трэці раз. І зрабілі трэці раз, і вада палілася вакол ахвярніка, і роў напоўніўся вадою. У час ахвярапрынашэньня вечаровай ахвяры падышоў Ільля прарок — і ска-

заў: Госпадзе Божа Абрагамаў, Ісакаў і Ізраілеў! Хай спазнаюць у гэты дзень, што Ты адзін Бог у Ізраілі, і што я раб Твой і зрабіў усё паводле слова Твайго. Пачуй мяне, Госпадзе, пачуй мяне! Хай спазнае народ гэты, што Ты, Госпадзе, Бог, і Ты павернеш сэрца іхняе да Цябе. І апаў агонь Гасподні і зжор цэласпаленьне і дровы, і камяні і пыл, і паглынуў ваду, якая ў рове. Убачыўшы гэта, увесь народ упаў на аблічча сваё і сказаў: Гасподзь ёсьць Бог, Гасподзь ёсьць Бог!» (Трэйцяя Царстваў 18:31—39).




Ільля на гары Карміл. С. Хізэр Эдвардс (1973). Пэрсанальная марка пошты Ізраілю, выпушчаная ў 2014 годзе

«І сказаў ім Ільля: схапеце пракокаў Ваалавых, каб ніводзін зь іх не схаваўся. І схапілі іх, і завёў іх Ільля да патока Кісона і закалоў іх там» (Трэйцяя Царстваў 18:40). Напэўна з-за гэтага ўчынку Ільлю-Прарока на іконах малююць з мячом у руцэ. Ільля быў бязьмерна рады, ён выканаў адну з сваіх галоўных задач: паказаў народу, «Хто есьць сапраўдны Бог!» У радасьці «Ён аперазаў сьцёгны свае і бег перад Ахавам да самага Ізрэеля» (Трэйцяя Царстваў 18:46). А гэта больш за 30 кілямэтраў! Але жонку Ахава — ідалапаклоньніцу Езавэль — цуд не пераканаў, і, ратуючыся ад яе гневу, Ільля схаваўся ў суседнюю Юдэю, «…у пустыню на дзень дарогі і прыйшоўшы сеў пад карчом ядлоўцу, і прасіў сьмерці сабе і сказаў: даволі ўжо, Госпадзе; вазьмі душу маю, бо я ня лепшы за бацькоў маіх» (Трэйцяя Царстваў 19:4).




Ільля. Ікона (1668). Дзяржаўны мастацкі музэй Рэспублікі Беларусь. Марка пошты Беларусі, выдадзеная ў 1996 годзе

Сумнеў і адчай ахапіў Ільлю… «І лёг і заснуў пад карчом ядлоўцу» (Трэйцяя Царстваў 19:5). Але Бог не пакінуў Ільлю ў хвіліну роспачы. «І вось, анёл дакрануўся да яго і сказаў яму: устань, еж і пі» (Трэйцяя Царстваў 19:5). «І зірнуў Ільля, і вось, каля ўзгалоўя ягонага печаны праснак і збанок вады. Ён паеў і напіўся і зноў заснуў. Анёл вярнуўся другі раз, дакрануўся да яго і сказаў: устань, еж і пі, бо далёкая дарога перад табою» (Трэйцяя Царстваў 19:6,7). Бо будзе дадзена Ільле заданьне: «Іуя, сына Намэсіінага, памаж за цара над Ізраілем; а Елісея, сына Сафатавага, з Авэль-Мэхолы, памаж за прарока замест сябе…» (Трэйцяя Царстваў 19:16).

На карціне Філіпа дэ Шампаня мясцовасьць ніяк не выглядае на пустыню.

Сцэна адбываецца сярод лесу, дзе Анёл паставіў для Ільлі каравай і збан.




Сон Прарока Ільлі (1650—55). Філіп дэ Шампань (1602 — 1674). Марка пошты Рас-эль-Хаймы, выдадзеная ў 1970 годзе

Мясцовасьць, намаляваная Дырыкам Бутсам больш нагадвае пустэчу. Побач з галавой Ільлі кубак накрыты хлебам.




Прарок Ільля ў пустыні (1464—68). Dieric Bouts (Дырык Бутс (1415—1475)). Касьцёл Сьвятога Пятра, Лювэн. Марка Камбоджы, выдадзеная ў 1998 годзе

Удалечыні Ільлю можна ўбачыць яшчэ раз, калі ён ужо ідзе ў горы. «І ўстаў ён, паеў і напіўся, і, падсілкаваўшыся тою ежаю, ішоў сорак дзён і сорак начэй да гары Божай Харыва» (Трэйцяя Царстваў 19:8). Іншыя назвы гэтай гары-Сінай і Божая гара, дзе Майсей атрымаў ад Госпада Скрыжалі Запавету.




Гара Сінай. Марка Егіпту з сэрыі «Скарбы Егіпту», выдадзеная ў 2004 годзе

Тут з размовы Ільлі з Богам атрымліваем адказ на пытаньні: які ёсьць Бог і ў чым Бог? Ільля скардзіцца Богу: «...сыны Ізраілевыя пакінулі запавет Твой, разбурылі Твае ахвярнікі і прарокаў Тваіх забілі мечам; застаўся я адзін, але і маёй душы шукаюць, каб адабраць яе» (Трэйцяя Царстваў 19:10). І атрымлівае адказ: «...і вось, Гасподзь пройдзе, і вялікі і моцны вецер, які разьдзірае горы і крышыць скалы прад Госпадам, але ня ў ветры Гасподзь; пасьля ветру землятрус, але ня ў землятрусе Гасподзь; пасьля землятрусу агонь, але не ў агні Гасподзь; пасьля агню веяньне ціхага ветру, і там Гасподзь» (Трэйцяя Царстваў 19:11,12).

Пасьля гары Харыва служэньне Сьвятога Ільлі працягвалася яшчэ некалькі гадоў. Пасланы Богам, ён пайшоў у Дамаск памазаць Азаіла на царства ў Сірыі, а Іуя — у Ізраілі. Па волі Божай Ільля адправіўся ў шлях і знайшоў Елісея ў па-

селішча Авэль-Мэхолы і памазаў яго ў Прарокі.

Хоць галоўнай прычынай барацьбы Ільлі з Ахавам і Езавэль было заахвочваньне імі ідалапаклонства, аднак не яно, але несправядлівасьць і беззаконьне, праяўленыя імі ў няправедным судзе і пакараньні Навутэя, прысваеньне яго ўгодзьдзяў, выклікалі гнеў Прарока і, менавіта, за гэты грэх прадказаў Ільля ганебную сьмерць Езавэлі.




Навутэй у вінаградніку (1856). Джэймс Сьметэм (1821—1889). Нацыянальная Галерэя, Лёндан. Марка пошты Нікарагуа з сэрыі «Дзесяць Запаведзяў», выдадзеная ў 1971 годзе

Ахаў захацеў набыць вінаграднік Навутэя. Калі Навутэй не пагадзіўся, то Езавэль абылгала яго перад старэйшынамі і Навутэй быў забіты камянямі. «І было слова Гасподняе Ільлю Фэсьвіцяніну: устань, ідзі насустрач Ахаву, цару Ізраільскаму, які ў Самарыі, — вось, ён цяпер у вінаградніку Навутэя, куды прыйшоў, каб узяць яго ў валоданьне, і скажы яму: так кажа Гасподзь: ты забіў, і яшчэ ўступаеш у спадчыннасьць? і скажы яму: так кажа Гасподзь: на тым месцы, дзе сабакі лізалі кроў Навутэя, сабакі будуць лізаць і тваю кроў» (Трэйцяя Царстваў 21:17—19).

У дзень, калі Бог захацеў узьнесьці Свайго Прарока на неба, перад Ільлёй і Елісеем расступіліся воды Ярдану. У Ярданіі, у раёне Вадзі Харар, дзе прыняў хрышчэньне Ісус Хрыстос, можна ўбачыць плоскі невысокі «Пагорак Сьвятога Ільлі», зь якога Прарок узышоў на нябёсы: «Калі яны ішлі і па дарозе гутарылі, раптам зьявілася калясьніца вогненная і коні вогненныя, і разлучылі іх абодвух, і панёсься Ільля ў віхуры на неба» (Чацьвёртая Царстваў 2:11).




Фелікс Мендэльсон (1809—1847). Марка Ізраілю з сэрыі Габрэйскія музыкі, выдадзеная ў 1996 годзе

На правым баку маркі разьмешчаны фрагмэнт гравюры Дзюрэра, які паказвае ўздым прарока Ільлі на неба ў вогненнай калясьніцы. Над гравюрай урывак з партытуры араторыі Ільля, опус 70, №38. Тэкст араторыі ўзяты з Кнігі царстваў і апісвае ўздым Ільлі на неба.

У космасе існуе мноства сьветаў, і мы хочам залезьці ў вогненную калясьніцу, як прарок Ільля і наведаць іх.




Касьмічны палёт. Марка Ізраілю з сэрыі «Навуковая фантастыка ў Ізраілі», выдадзеная ў 2000 годзе

Біблейскі аповед пра вогненную калясьніцу паслужыў асновай для народнага ўяўленьня пра Прарока Ільлю, які разьяжджае па небе на калясьніцы падчас летняй навальніцы.




Вогненная калясьніца і прарок Ільля. Гравёр Карада Меццана. Марка Ватыкану, выдадзеная ў 1938 годзе

У кнізе Прарока Малахіі гаворыцца пра тое, што перад надыходам дня Гасподняга, г. зн. канца Сьвету, Бог пашле Ільлю: «Вось, я пашлю да вас Ільлю прарока перад наступленьнем дня Гасподняга, вялікага і страшнага. І ён паверне сэрцы бацькоў да дзяцей і сэрцы дзяцей да бацькоў іхніх, каб Я, прыйшоўшы, не пакараў зямлю праклёнам» (Малахія 4:5,6).

## Прарок Елісей

*І пры жыцьця сваім ён зьдзяйсьняў цуды, і па сьмерці былі цудоўныя справы яго. (Кніга Прамудрасьці Ісуса, сына Сірахава 48:15)*

Пракокі Ільля і Елісей засяродзілі свае намаганьні на пэўных патрэбах навакольных людзей. Палымяны Ільля супрацьстаяў і ідалапаклонству, дапамагаючы стварыць атмасфэру, дзе людзі маглі свабодна і публічна пакланяцца Богу. Яго дзейнасьць дала адказ на пытаньні: «Хто ёсьць сапраўдны Бог?» і «Які ёсьць сапраўдны Бог?» Затым Елісей прыйшоў, каб прадэманстраваць магутную, але клапатлівую прыроду Бога ўсім, хто прыйшоў да яго па дапамогу. Ён адпраўляў менш часу ў канфліктах са злом і больш на міласэрны клопат пра людзей. У Бібліі зафіксавана 18 сустрэч Елісея і малазабясьпечаных людзей. Бо толькі справядлівасьць, калі няма міласэрнасьці не забясьпечвае ўстойлівасьць сьвету.

Цуды Елісея ўключалі ў сябе ачышчэньне вады ў Ерыхоне, множаньне ўдовінага алею, вяртаньне да жыцьця сына Санаміцянкі (якое нагадвае цуд Ільлі), ачышчэньне атрутнай поліўкі і множаньне хлябоў (прадвесьціць цуд Ісуса).

Першы цуд адбыўся адразу пасьля ўзьнясеньня Ільлі на беразе Ярдану. Елісей «ўзяў аўчыну Ільлі, якая ўпала зь яго, і ўдарыў ёю па вадзе і сказаў: дзе Гасподзь, Бог Ільлі, — Ён Самы? І ўдарыў па вадзе, і яна расступілася туды і сюды, і перайшоў Елісей» (Чацьвёртая Царстваў 2:14).




Ярдан. Марка Ярданіі, выдадзеная ў 1952 годзе з нагоды аб'яднаньня Ярданіі і Арабскай Палестыны

Гэта была дэманстрацыя пераемнасьці прароцтва ад Ільлі. «І ўбачылі яго сыны пракокаў, якія ў Ерыхоне, здалёк і сказалі: спачыў дух Ільлі на Елісею. І пайшлі напярэймы яму, і пакланіліся яму да зямлі...» (Чацьвёртая Царстваў 2:15).

Тады жыхары Ерыхону паскардзіліся Елісею: «вось, стан гэтага горада добры, як бачыць гаспадар мой; але вада нядобрая і зямля неўрадлівая» (Чацьвёртая Царстваў 2:19). Елісей сказаў палажыць у новую чару солі і даць яму. «І выйшаў ён да вытоку вады, і кінуў туды солі, і сказаў: так кажа Гасподзь: Я зрабіў ваду гэтую здароваю, ня будзе ад яе наперад ні сьмерці, ні неўрадлівасьці. І вада зрабілася здароваю да сёньня, паводле слова Елісея, якое ён сказаў» (Чацьвёртая Царстваў 2:21,22).




Елісей ачышчае воды Ярдану. Пэрсанальная марка, выпушчаная ў 2014 годзе поштай Ізраілю

Паломнікі ня толькі могуць убачыць раку Ярдан, упэўніцца, што вада «зрабілася здароваю да сёньня», але таксама могуць «паглыбіцца» у гісторыю: «І было ў тыя дні, прыйшоў Ісус з Назарэта Галілейскага і хрысьціўся ў Яна ў Ярдане» (Паводле Марка 1:9).




Пагружэньне ў гісторыю. Рака Ярдан. Марка Ізраілю, выдадзеная ў 2019 годзе

Адной з самых запамінальных дзей Прарока Елісея было вылячэньне палкаводца сірыйскай арміі Нэемана ад пракязы. Нэеман быў паважаны царом

рыяй, акрыяй, паўстань, Ерусаліме, ты, які з рукі Госпада выпіў келіх лютасьці Ягонай, выпіў да дна келіх ап'яненьня, асушыў» (Ісая 51:17).

Птушаня на пагорках Юдэі — старажытны горад Ерусалім, вечны і ўсеагульны горад, краевугольны камень трох вялікіх рэлігій і аснова тугі габрэйскага народа ў іх незьлічоных пакаленьнях выгнаньня.




Ерусалім — 40 гадоў узьяднаньня. Блёк пошты Ізраілю, выдадзены ў 2008 годзе

Ісая прадказвае гістарычны лёс і іншых суседніх Юдэям народаў і значэньне для іх Ерусаліма. «І прыйдуць народы да сьвятла твайго, і цары — да зьзяньня, якое ўзыходзіць над табою» (Ісая 60:3).

**Ісайя — Прарок міру**

*...і перакуюць мячы свае*
*на аралы, і дзіды свае —*
*на сярпы; не падыме народ*
*на народ меча, і ня будуць болей*
*вучыцца ваяваць. (Ісая 2:4)*

Ісайя жыў у вельмі складаны пэрыяд гісторыі яго народа. Асырыя захапіла Ізраільскае царства і пагроза захопу навісла над Юдэяй. Войны прыносілі страшныя бедзтвы і спусташалі край. Але Ісайя быў прарокам міру. Словы, якія ўпрыгожваюць сьцяну будынка Арганізацыі Абьяднаных Нацый у Нью-Йорку, узятыя з Кнігі Прарока Ісайі: «і перакуюць мячы свае на аралы, і дзіды свае — на сярпы; не падыме народ на народ меча, і ня будуць болей вучыцца ваяваць» (Ісая 2:4). Некалькі дзесяцігодзьдзяў пад гэтым надпісам не была паказаны крыніца, зь якой узятая цытата. І гэта сябе апраўдала. Бо гэту цытату ўключыла ў сваю «прапаганду міру» краіна непрымірыма ваяўнічага атэізму.

Народны мастак СССР, ляўрэат пяці Сталінскіх і Ленінскай прэмій Яўген Вучэціч, напэўна ня ведаючы крыніцы цытаты, вырабіў у 1957 годзе постаць каваля, які ўдарамі молата ператварае меч на плуг. (Толькі ў 1975 годзе на сьцяне будынку ААН пад надпісам было высечана імя Ісаі.) Скульптура называецца «Перакуем мячы на аралы». Цяпер яна ўсталяваная каля будынка ААН у Нью-Ёрку.




Перакуем мячы на аралы. Яўген Вучэціч (1908 — 1974). Марка пошты СССР, выдадзеная ў 1970 годзе. Канвэрт Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, выдадзены ў 1967 годзе

На канвэце марка з словамі: «Яны павінны ператварыць свае мячы ў аралы».

Бачаньню Ісаі аб вечным міры прысьвечаны набор з трох вялікіх вітражоў (памерам 6,5 × 17 мэтраў) Мардэхая Ардона, якія ўпрыгожваюць Нацыянальную бібліятэку ў Ерусаліме.

На левай панэлі па пакручастых дарогах людзі сьвету ідуць да Ерусаліму, да Гары Гасподняй. На кожнай з гэтых дарог напісана цытата з Кнігі Ісаі на розных мовах сьвету: «І пойдуць многія народы, і скажуць: прыйдзеце, і ўзыйдзем на гару Гасподнюю, у дом Бога Якаўлевага, і навучыць Ён нас Сваім шляхам; і хадзіцьмем па сьцежках Ягоных. Бо ад Сіёна выйдзе Закон, і Слова Гасподняе — зь Ерусаліма. І будзе Ён судзіць народы, і выкрые многія плямёны; і перакуюць мячы свае на аралы, і дзіды свае — на сярпы; не падыме народ на народ меча, і ня будуць болей вучыцца ваяваць» (Ісая 2:3,4).



Бачаньню Ісаі аб вечным міры. Вітраж Мардэхая Ардона (1896 — 1992). Блёк пошты Ізраілю, выдадзены ў 1990 годзе

На цэнтральнай панэлі горад Ерусалім, Сьвяты горад з гарадзкой сьцяной са скруткаў Кнігі Ісаі, якія былі знойдзены сярод скруткаў Мёртвага мора. Тым самым каменная сьцяна, якая атачае горад, пераўтвараецца ў духоўную сьцяну.

Над сьцяной кавалак пэргамэнту, а на ім яшчэ адна цытата з Кнігі Ісаі: «...і перакуюць мячы свае на аралы». Побач з пэргамэнтам відаць сетку сініх кругоў — Дрэва жыцьця — сымбаль Боскай прысутнасьці, якая злучае зямны і нябесны Ерусалімы. Але яно на чырвоным фоне вайны...

На правай панэлі чырвоны сымбаль вайны зрынаецца ўніз і зброя «перакоўваецца» і ператвараецца. І ўверсе лунаюць толькі рыдлёўкі... Зброя сёньняшняга дня ператвараецца ў рыдлёўку.

Бачаньне Ісаі аб вечным міры найпрыгажэй апісана наступнымі вершамі: «Тады воўк будзе жыць разам зь ягнём, і барс будзе ляжаць разам з казьлянём; і цяля, і малады леў, і вол будуць разам, і малое дзіця будзе вадзіць іх. І карова будзе пасьвіцца зь мядзьведзіхаю, і дзеці іх будуць ляжаць разам; і леў, як вол, будзе есьці салому. І немаўля будзе бавіцца над нарою асьпіда, і дзіця працягне руку сваю на гняздо зьмяі. І ня будуць рабіць ліха і шкоды на ўсёй сьвятой гары Маёй, бо зямля будзе напоўнена спазнаньнем Госпада, як воды напаўняюць мора» (Ісая 11:6—9).




Бачаньне Ісаі вечнага міру. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1962 годзе

Прыгожа зьмест гэтага прароцтва адлюстраваны на сэрыі марак Ізраілю. На першай марцы паказаны воўк і ягня,

на другой — пантэра і казьляня, на трэцяй — немаўля, якое гуляе са зьмяёй. Гэта вобразы Ўсеагульнага міру ў Каралеўстве Божым. Толькі час Вечнага міру не прыйдзе сам па сабе. Людзі павінны адвярнуцца ад граху і стаць вернымі Богу. І тады, прагалошваў Ісайя, прыйдзе Мэсія, які прынясе адпушчэньне грахоў і верне мір і згоду. Людзі, якія пойдуць за Ім, стануць саўдзельнікамі Бога ў стварэньні гэтага новага жыцьця.



Перакуем мячы на аралы. Прарок Ісая. Картмаксімум пошты Ватыкану, выпушчаны ў 1986 годзе

«Але ня ўсе паслухаліся зьвеставаньня. Бо Ісая кажа: „Госпадзе! хто паверыў пачутаму ад нас?“» (Да Рымлянаў 10:16).

Прыёмную залю будынку Генэральнай Асамблеі ААН упрыгожвае Peace Window — велізарнае, вышынёй амаль 3,5 мэтра, «Акно міру» — вітраж Марка Шагала. Вітраж, усталяваны ў 1964 годзе і быў створаны ў памяць аб генэральным сакратары ААН Дагу Хамаршэльду, які загінуў у авіякатастрофе разам з яшчэ 15-ю людзьмі падчас чарговай місіі міру і ўяўляе сабой ілюстрацыю прароцтва Ісаі аб будучай садружнасьці ўсіх зямных істот. Поўны біблейскіх уяўленьняў сад Эдэма, зьмяя, табліца з 10 запаведзямі, багацьце формаў і нябесных тонаў зьмешваюцца ў гэтай працы, натхнёнай тэкстамі Ісаі. У цэнтры блакітнага акна ў сьвет райскае дрэва. Каля дрэва — голы хлопчык. Магчыма, што Марк Шагал намаляваў свой дзіцячы партрэт. Вылучаюцца ў вітражы фігуры, афарбаваныя ў чырвоны колер, дзеці, цалуючы немаўля анёл, вядучыя чалавецтва да міру прарокі, вобразы мацярынства, міру і любові, кветкі, чалавечыя сустрэчы... і музычныя сымбалі, зьвязаныя з дзявятай сымфоніяй Бэтховэна, любімай Хамаршэльдам. «Чаго ён сапраўды хацеў? Не разгадкі кожнага з матываў [...], а таго, каб мы адчулі. Бо для яго заўжды было самым галоўным, убачыць нешта і ўвабраць гэта ў сябе ўсім сваім сэрцам» — кажа ўнучка Марка Шагала Бэла Мэер.



Акно міру (1964). Вітраж Марка Шагала. Канвэрт, выдадзены Паштовай адміністрацыяй ААН у 1967 годзе

На вялікі жаль, Арганізацыя Абьяднаных Нацый, галоўнай мэтай якой з’яўляецца ўсталяваньне міру і справядлівасьці ў сьвеце, нягледзячы на шматлікія ініцыятывы, не можа яго дасягнуць. Замест таго, каб жыць у гармоніі, мы бачым праявы несправядлівасьці, падзелы, войны і тэрарыстычныя акты.

Такім чынам, сэнс і мэта гісторыі — увасабленьне ў рэальнае жыцьцё Слова Божага і Яго Запаведзяў у сусьветным маштабе. Па гэты дзень гэта бачаньне Ісаі служыць ідэалам чалавецтва. Таму словы Ісаі аб вечным міры працягваюць друкавацца на марках розных краін.




Марка пошты Гібральтару з цытатай: «Не падыме народ на народ меча, і ня будуць болей вучыцца ваяваць» (Ісая 2:4), выдадзеная ў 1995 годзе

У наша стагодзьдзе такая надзея можа здавацца нязбытнай, бо сучасны сусьветны парадак, які базуецца на бездухоўным гуманізьме, не працуе. Але і ў дні Ісаі войны бушавалі паўсюдна. І ўсё ж Прарок абвясьціў гэта адкрыцьцё аб будучыні і верыў у канчатковую імпрэзу Дабра.




Ісая 2:4. Марка пошты Кеніі, выдадзеная ў 1986 годзе

«Толькі Валадарства Хрыста ў сэрцах людзей можа прынесьці мір і справядлівасьць у наш сьвет. Чалавечых высілкаў не дастаткова. Іх неабходна падмацоўваць духоўнымі. Мір і справядлівасьць у сьвеце немагчымы без міру ў нашых сэрцах». Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

**Ісая — прарок на ўсе часы**

*Гора тым, якія зло называюць дабром, і дабро — злом. (Ісая 5:20).*

У прароцтваў звычайна бывае не менш двух сэнсаў: адзін зьвязаны з непасрэднай гістарычнай сытуацыяй, а іншы адводзіць нас у далёкую будучыню. Таму прароцтвы называюць найважнейшым мостам паміж Старым і Новым Запаветамі, а таксама паміж імі і нашай сучаснасьцю. Вучэньне Прарока Ісаі застаецца актуальным у нашыя часы.

У Новым Запавеце зьмяшчаецца больш за 40 спасылак на Кнігу Прарока Ісаі і больш за 60 прамых цытат зь яе, сьвятыя напісалі шэраг камэнтароў на гэтую Кнігу, а словы зь яе часта гучаць у набажэнстве. Усё гэта сьведчыць аб высокім аўтарытэце і значэньні, якія мае гэты твор, як у яе старазапаветнай гісторыі, так і ў нашы дні.

Калі Хрыстос вярнуўся ў Галілею, пра Яго разьнесьліся чуткі.

«Ён вучыў у сынагогах іхніх, і ўсе Яго ўслаўлялі. І прыйшоў у Назарэт, дзе быў выхаваны, і ўвайшоў, па звычаі Сваім, у дзень суботні ў сынагогу, і ўстаў чытаць. Яму падалі кнігу прарока Ісаі; і Ён, разгарнуўшы кнігу, знайшоў месца, дзе было напісана: „Дух Гасподні на Мне; бо Ён памазаў Мяне зьвеставаць убогім і паслаў Мяне ацаляць зламаных сэрцам, прапаведаваць палонным вызваленьне, сьляпым празарэньне, адпусьціць спаку-

таваных на свабоду, абвяшчаць год Гасподняга спрыяньня“. І загарнуўшы кнігу і аддаўшы слузе, сеў; і вочы ўсіх у сынагозе былі скіраваныя на Яго. І Ён пачаў гаварыць да іх: сёньня спраўдзілася пісаньне гэтае, чутае вамі» (Паводле Лукаша 4:15—21).




Спас Уседзяржыцель (1678). Абраз з Мікольскай царквы ў Пінску. Калекцыя Нацыянальнага мастацкага музэя Рэспублікі Беларусь. Марка пошты Беларусі, выдадзеная ў 2008 годзе

У штодзённым жыцьці людзі зьвяртаюцца да прароцтваў Ісаі і назіраюць іх зьдзяйсьненьне. Ізраільцяне, якім удалося ў 1948 годзе стварыць сваю краіну і пасьпяхова яе разьвіваць, бачаць у гэтым зьдзяйсьненьне запаведзяў Прарокаў, у тым ліку Ісаі. Сувязь сучасных падзей з прароцтвамі Ісаі адлюстравана на многіх на паштовых марках Ізраілю.

Сэрыя паштовых марак была прысьвечана піянэрам, якія першыя прыклалі намаганьні да будовы сваёй краіны. На кожнай марцы паказаныя фатаграфіі працаўнікоў, дзякуючы якім сапляменьнікі, якія засяліліся ў Палестыне, атрымлівалі ежу і рэчы, неабходныя для жыцьця.

На прывесцы маркі цытата з Кнігі Ісаі: «…і зямлю тваю ня будуць называць „пустыняю“…» (Ісая 62:4).




Праца сялян. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1976 годзе

На прывесцы маркі цытата: «…падымайце, падымайце, раўняйце дарогу…» (Ісая 57:14).




Будова дарогі. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1976 годзе

На прывесцы маркі цытата: «...Раўняйце, раўняйце дарогу, прымайце каменьне...» (Ісая 62:10).




Загаспадарваньне зямлі. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1976 годзе

Пасажырскі карабель «Сіён», зьмяшчаючы па-над 300 пасажыраў і 4 тыс. тон грузу.




Карабель «Сіён». Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1958 годзе

На прывесцы маркі цытата: «...ператтварыла глыбіні мора ў дарогу, каб прыйшлі адкупленыя» (Ісая 51:10).

Яшчэ адна марка прысьвечана адраджэньню сучаснай габрэйскай мовы.




Сябры Савета па раньнім іўрыце. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1976 годзе

На прывесцы цытата: «...і гаркавыя будуць гаварыць выразна» (Ісая 32:4).

Над уваходам у Ракфелераўскі цэнтар у Нью-Ёрку знаходзіцца барэльеф Мудрасьць.




Мудрасьць. Марка пошты Злучаных Штатаў Амэрыкі, выдадзеная ў 2003 годзе

Паміж ножкамі цыркуля, які трымае ў руках Бог, разьмясьцілася цытата з

Кнігі Ісаі на англійскай мове: «І мудрасьць і веды будуць цьвёрдасьцю часоў тваіх...» (Ісая 33:6).

«Гора тым, якія зло называюць дабром, і дабро — злом, цемру лічаць сьвятлом, і сьвятло — цемраю, горкае лічаць салодкім, і салодкае — горкім! (Ісая 5:20). Маецца на ўвазе зьмешваньне паняцьцяў дабра і зла, заганы і цноты, чорнага і белага.

Гэта было актуальнай праблемай больш двух тысяч гадоў таму, актуальна і сёньня.

**Прарок Ісайя — Эвангеліст**

*А Бог так учыніў, як прадвяшчаў вуснамі ўсіх Сваіх пракаў — пацярпець Хрысту, так і выканаў. (Дзеі 3:18)*

Прарок Ісая абвясьціў людзям пра Хрыста так, нібы гаворка ішла пра ўжо зьдзейсьненыя падзеі. Яго прароцтва пра Збаўцу дзівяць сваёй дакладнасьцю і яснасьцю. За гэта Ісаю называюць Старазапаветным Эвангелістам. Блажэнны Еранім тлумачыць: «бо да такой ступені падрабязна выклаў сакрамэнт Хрыста і яго царквы, што як быццам не пра будучыню прарочыць, а складае гісторыю пра мінулае».

Самым вядомым прароцтвам зьяўляецца прароцтва аб нараджэньні Мэсіі. «Дык вось Сам Гасподзь дасьць вам азнаку: вось, Дзева ва ўлоньні зачне і народзіць Сына, і дадуць імя Яму: Эмануіл» (Ісая 7:14). Прарок Ісая называе Мэсію яшчэ імем — Пасынак. Гэта сымбалічнае імя пацьвярджае больш раньнія прароцтва аб цудоўным і незвычайным нараджэньні Мэсіі, а менавіта, што яно адбудзецца без удзелу мужа, падобна таму, як галіна, без насеньня, нараджаецца прама з кораня расьліны. «І пойдзе пасынак ад кораня Эсэевага, і галіна вырасьце ад кораня ягонага; і спачне на Ім Дух Гасподні, дух мудрасьці і розуму, дух рады і моцы, дух пазнаньня і пабожнасьці...» (Ісая 11:1,2). Ісая кажа аб уласьцівасьцях Немаўляці Эмануіла: «Бо дзіця нарадзілася нам; Сын дадзены нам; уладарства на плячах у Яго, і дадуць імя Яму: Дзівосны, Дарадца, Бог Моцны, Бацька Вечнасьці, Князь Міру» (Ісая 9:6).




Богаяўленьне (1320—25). Дэталь. Джота Ды Банданэ (1266/7 — 1337). Музэй Метрапалітэн, Флярэнцыя. Блёк пошты Ганы, выдадзены ў 1995 годзе

Але, як не вялікае будзе духоўнае сьвятло, узыходзячае ад Мэсіі, Ісая прадбачыў, што не ўсе габрэі гэтае сьвятло ўбачаць па прычыне свайго духоўнага агрубеньня: «А Ён сказаў: ідзі і скажы гэтаму народу: слыхам пачуеце, і не ўразумееце; і вачыма глядзецьмеце, і ня ўбачыце. Агрубела бо сэрца ў людзей гэтых, і цяжка чуюць вушыма, і зьмежылі вочы свае, хай ня ўгледзяць вачыма, і не пачуюць вушыма, і сэрцам не ўразумеюць, і не навернуцца, каб Я ацаліў іх» (Ісая 6:9,10).

Самым яркім і падрабязным прадказаньнем пра пакуты Мэсіі зьяўляецца прароцтва Ісаі, якое займае канец 52-га і ўвесь 53-ці разьдзелы яго Кнігі. Гэта прароцтва ўтрымлівае ў сабе такія падрабязнасьці пакут Хрыста, што ствараецца ўражаньне, быццам прарок Ісая пісаў яго ля самага падножжа Галгофы.




Зьдзек над Хрыстом (1503–1505). Маціяс Груневальд (1470—1528). Старая Пінакатэка, Мюнхэн. Блёк пошты Выспаў Кука, выдадзены ў 2015 годзе

«Ён быў пагарджаны і прыніжаны перад людзьмі, Муж скрухі і дасьведчаны ў хваробах, і мы адварочвалі ад Яго твар свой; Ён быў пагарджаны, і мы ані ў што ня ставілі Яго. Але Ён узяў на Сябе нашыя немачы і забраў нашыя хваробы; а мы думалі, што Ён быў паранены, пакараны і зьнішчаны Богам. Але Ён паранены быў за грахі нашыя і пакутаваў за беззаконьні нашыя; кара міру нашага была на Ім, і ранамі Яго мы ацаліліся. Усе мы блукалі, як авечкі, зьвярнулі кожны на сваю дарогу, — і Гасподзь усклаў на Яго грахі ўсіх нас. Ён катаваны быў, але цярпеў з добрай волі і не размыкаў вуснаў Сваіх; як авечку, вялі Яго на закол, і як ягня перад стрыгалём ягоным, маўчыць, так Ён не размыкаў вуснаў Сваіх» (Ісая 53:3—7).

Сьветлая фігура Ісуса Хрыста, які сядзіць са зьвязанымі рукамі і завязанымі вачыма, акружаная сапраўднымі пачварамі. Гэтыя зласьлівыя стварэньні з скажонымі пачварнымі тварамі зьбіваюць безабароннага чалавека і літаральна ўпіваюцца сваёй жорсткасьцю.

На блёку яшчэ зьмешчаныя маркі з дэталямі карцін «Зьняцьце з крыжа» Рубенса, «Зьняцьце з крыжа» Жана Жувенэ і «Таемная вячэра» Джампетрына.

Словы з Кнігі Ісаі малююць жудасную карціну Галгофы: «Бо ён узышоў перад Ім, як атожылак і як росьцік з сухой зямлі; няма ў Ім ні выгляду, ні велічы; і мы бачылі Яго, і ня было ў Ім выгляду, які вабіў бы нас да Яго» (Ісая 53:2). Сьвядомасьць вучняў запоўніла толькі адна страшная карціна: Ісус, іх настаўнік, схоплены і асуджаны, і яго зьнявечанае цела, якое ня мела «ні выгляду, ні велічы», сьцякала крывёю ў страшных пакутах на крыжы.

Тры крыжы — адзін з самых знакамітых афортаў Рэмбрандта. На афорце намаляваны драматычны момант сьмерці Хрыста на Галгофскім крыжы, апісаны ў Эвангельлях. Хрыстос, укрыжаваны паміж двума разбойнікамі. «Пасьля гэтага Я дам Яму долю паміж вялікімі, і з моцнымі будзе дзяліць здабычу, за тое, што аддаў душу Сваю на сьмерць, і да зладзеяў залічаны быў, тады як Ён панёс на Сабе грахі многіх і за злачынцаў зрабіўся хадайнікам» (Ісая 53:12).

Рэмбрант выбірае ў «Трох крыжах» момант кульмінацыі Эвангельскай дра-

мы, калі нібы ўся зямля прыходзіць у стан жаху і адчаю. Сьвятло, якое льецца зьверху, факусуецца на Хрысьце, двух разбойніках, укрыжаваных зьлева і справа ад яго і натоўпе. Пярэдні плян запоўнены шакаванымі відовішчам пакут Хрыста людзьмі. Зьлева бачныя рымскія салдаты верхам на конях, сьпешыўся і ўстаў на калені толькі зьдзіўлены сотнік. «А сотнік, бачачы, што адбылося, уславіў Бога і сказаў: сапраўды Чалавек Гэты быў праведнік» (Паводле Лукаша 23:47). Справа разьмешчаныя пасьлядоўнікі Хрыста. Дзева Марыя страціла прытомнасьць, Ян падняў уверх сьціснутыя кулакі, ахопленая горам Марыя Магдаліна хапаецца за крыж...




Тры крыжы (1653). Рэмбрант. Гравюра. Рейксмузэум, Амстэрдам. Блёк пошты Тонга, выдадзены ў 2015 годзе

У дзявятым вершы прарок кажа, што Раб Гасподні будзе пахаваны ў магіле багатага: «Яму выраклі магілу са зладзеямі, але Ён пахаваны ў багатага, бо ня ўчыніў грэху, і ня было маны ў вуснах Ягоных» (Ісая 53:9). Выкананьне гэтага прароцтва засьведчана Эвангельлем: «Калі ж зьвечарэла, прыйшоў багаты чалавек з Арыматэі, імем Язэп, які таксама вучыўся ў Ісуса; ён, прыйшоўшы да Пілата, прасіў Цела Ісусавага. Тады Пілат загадаў аддаць Цела. І ўзяўшы Цела, Язэп абгарнуў яго чыстым палатном і паклаў яго ў новай сваёй магіле, якую высек у скале; і прываліўшы вялікі камень да дзьвярэй магілы, адышоў» (Паводле Мацьвея 27:57—60).




Палажэньне Хрыста ў труну (1576). Эль Грэка (1541—1614). Музэй Аляксандра Суцоса, Афіны. Блёк пошты Грэнады, выдадзены ў 2015 годзе

Ісайя прадбачыў нават канец сьвету і Страшны суд, пра які прарочыў 700 гадоў пазьней у сваёй кнізе Ян Багаслоў.

«Ён будзе судзіць бедных па праўдзе, і дзеі пакутнікаў зямлі рашаць паводле

ісьціны; і жазлом вуснаў Сваіх заб'е бязбожніка» (Ісая 11:4).

З невялікага ліку жывапісных твораў Лукі Лейдэнскага, якія захаваліся, адным з самых вядомых зьяўляецца трыптых Страшны Суд. Страшны або Апошні суд, гэта апакаліптычнае бачаньне, у якім Хрыстос вяртаецца на зямлю, каб судзіць над жывымі і мёртвымі.

На алтары намалявана, як мёртвыя паўстаюць са сваіх магіл у Судны дзень, каб сустрэць свой прысуд. Па абодва бакі ад Хрыста два Анёлы, якія трубяць у трубы; унізе на зямлі жывыя і ўваскрэслыя людзі: па правую руку Хрыста Анёлы адводзяць праведнікаў у Рай, па левую — дэманы зрыньваюць грэшнікаў у пекла.



Страшны суд. Лукас Ван Лейдэн (1494—1533). Гарадзкі музэй, Лейдэн. Картмаксімум пошты Нідэрляндаў, выдадзены ў2015 годзе

Пасьля Страшнага Суда, прарочыць Прарок Ісайя, Бог канчаткова ўсталюе на зямлі справядлівасьць і ўсеагульны мір. «Высокі Гасподзь, Які жыве ў вышынях; Ён напоўніў Сіён судом і праўдаю. І настануць бясьпечныя часіны твае, надмернасьць ратунку, мудрасьці і веданьня; страх Гасподні будзе скарбам тваім» (Ісая 33:5,6).

## Подзьвіг Юдзіф і... Скарына

*Юдзіф, любячы край, дзе калісьці*
*на сьвет нарадзілася,*
*не шкадавала самое сябе, каб*
*адвесьці ад краю айчыннага*
*небясьпеку. Францыск Скарына. З*
*прадмовы да «Кнігі Юдзіф»*

Подзьвіг Юдзіф выклікаў небывалае натхненьне ў жывапісцаў і скульптараў, пісьменьнікаў і паэтаў, кампазытараў і рэжысэраў... Толькі карцін намалёвана вялікімі мастакамі больш за паўсотні.



Юдзіф з галавою Алаферна (1530). Лукас Кранах Старэйшы (1472—1553). Музэй Вены, Аўстрыя. Картмаксімум пошты Парагваю, выдадзены ў 1972 годзе

Што казаць, калі захавалася больш за дзясятак карцін Юдзіф, створаных толькі Лукасам Кранахам Старэйшым

(1472—1553), нямецкім жывапісцам і графікам эпохі Адраджэньня.

Можна падумаць, што Юдзіф прынесла галаву Алаферна прама ў майстэрню Кранаха! Так дэталёва яна вымаляваная... І на гэтым фоне непарушны твар прыгожай маладой жанчыны ў раскошным адзеньні, выпісаным вельмі падрабязна. На карцінах Кранаха намаляваная Юдзіф Пераможца. Яе твар адлюстроўвае прыгажосьць і рашучасьць, якія дапамаглі ёй зьдзейсьніць місію па выратаваньні народа Вецілуі ад заваёвы непераможнай арміяй Алаферна.

Чаму Юдзіф выклікала такую ўвагу творцаў?

Подзьвіг Юдзіф апісаны ў старазапаветнай Біблейскай Кнізе Юдзіф.

Галоўны царскі военачальнік Алаферн, атрымаўшы загад свайго гаспадара, рушыў з вялікай арміяй да Юдэі.

Першым горадам на шляху заваёўнікаў была Вецілуя. Варожае войска абклала горад з усіх бакоў і захапіла крыніцу, з якой бралі ваду жыхары горада. Прайшло крыху больш за месяц, і запасы вады ў горадзе скончыліся. Змардаваныя гараджане сталі патрабаваць здаць горад Алаферну. З цяжкасьцю начальнік горада Озія ўпрасіў іх пацярпець яшчэ пяць дзён і пакляўся, што калі не прыйдзе дапамога, ён выканае іх патрабаваньне.

У Вецілуі жыла маладая і багатая ўдава Юдзіф. Юдзіф славілася сваёй мудрасьцю, шанаваньнем Бога і яе вельмі паважалі. Даведаўшыся аб маючай адбыцца здачы горада ворагам, яна зьвярнулася да гарадзкіх старэйшын, дакарала іх у маладушнасьці і ўзяла зь іх абяцаньне не перашкаджаць ёй у выкананьні задуманай справы. Тыя адказалі: «Ідзі зь мірам, і Гасподзь Бог перад табою на помсту ворагам нашым».

Юдзіф моліцца Богу, просіць яго дапамагчы ажыцьцявіць сваю задуму, мыецца, умошчваецца пахошчамі, апранае сьвяточную сукенку — упрыгожвае сябе, «каб увесьці ў зман вочы мужчын, якія ўбачаць яе» (Юдзіф.10:4).

Такой убачыў прыгажосьць Юдзіф Аўстрыйскі мастак Густаў Клімт. Не гледзячы на старажытнасьць сюжэту, яго Юдзіф — жанчына пачатку XX стагодзьдзя. Доўгая тонкая шыя ўпрыгожана высокім залатым калье-каўняром, візуальна адлучаюць галаву Юдзіфі ад яе раскошнага белага цела. Дзякуючы залатому ўпрыгожваньню і фону вобраз Юдзіф выглядае азораным незямным зьзяньнем.




Юдзіф з галавою Алаферна (1901). Густаў Клімт (1862—1918). Галерэя Бэльвэдэр, Вена. Картмаксімум пошты Аўстрыі, выдадзены ў 2003 годзе

Юдзіф у суправаджэньні служанкі, якая несла ежу і віно, адправілася да ва-

рожых пастоў. Паставым сказала, што яна габрэйка, бяжыць з асуджанага на гібель горада і папрасіла адвесьці яе да галоўнага военачальніка, якому яна скажа, як хутка і лёгка перамагчы габрэяў. Воіны павялі Юдзіф па лягеры і ўсіх дзівіла яе прыгажосьць. Юдзіф паведаміла Алаферну, што абложаныя, зьнемагаючы ад голаду і смагі, вырашылі харчавацца ежай, якую габрэям Бог забараніў, і чакаюць толькі дазволу зь Ерусаліма. Як толькі дазвол будзе атрыманы і яны накінуцца на забароненую ежу, Бог аддасьць горад на вынішчэньне асырыйцам, якія пры гэтым не страцяць ніводнага ваяра. Юдзіф папрасіла ў Алаферна дазволу застацца ў Асырыйскім лягеры і па начах выходзіць у даліну маліцца пакуль Бог не адкрые ёй, што час надышоў. Гаворка яе спадабалася Алаферну і ўсяму яго атачэньню.

Так прайшло тры дні. Юдзіф сілкавалася прынесенай з сабой ежай, а кожную ноч у суправаджэньні служанкі на час пакідала лягер. На чацьвёрты дзень Алаферн зладзіў баль і паслаў свайго кіраўніка запрасіць на яго Юдзіф, так як з першага імгненьня быў асьлеплены яе прыгажосьцю. Юдзіф надзела самую прыгожую вопратку і «усё жаночае ўпрыгожваньне» (Юдзіф 12:15) і зьявілася перад Алафернам ва ўсім бляску. Алаферн, любуючыся ёю, непрыкметна для сябе паглынаў адзін келіх віна за другім. Нарэшце ўсе запрошаныя і слугі разышліся і засталіся толькі Юдзіф з Алафернам. Той быў да таго п'яны, што адразу паваліўся на ложак і заснуў.

Юдзіф зьвяртаецца да Бога з малітвай: «Госпадзе, Божа ўсякай сілы! паглядзі ў гэту гадзіну на справы рук маіх да ўзвышэньня Ерусаліма, бо цяпер час абараніць спадчыну Тваю і выканаць мой намер, уразіць ворагаў, якія паўсталі на нас» (Юдзіф 13:4—5).

Джорджа Вазары фіксуе на карціне наступны верш Кнігі Юдзіф: «Потым, падышоўшы да слупка ложка, што стаяў у галовах у Алаферн, яна зьняла зь яго меч яго і, наблізіўшыся да ложка, схапіла валасы галавы яго і сказала: Госпадзе Божа Ізраіля! умацуй мяне ў гэты дзень. і з усёй сілы двойчы ўдарыла па шыі Алаферна і зьняла зь яго галаву» (Юдзіф 13:6—8).

Меч занесены для ўдару. Лёс Алаферна вырашаны.




Юдзіф адсякае галаву Алаферну (верхняя левая марка). Джорджа Вазары (1511 — 1574). Мастацкі музэй Сэнт-Луіса, ЗША. Марачны ліст пошты Саламонавых Выспаў, выдадзены ў 2017 годзе

Калі ў Кранаха, як і ў іншых яго сучасьнікаў, моманту забіцьця на карцінах не было, то праз 100 гадоў пасьля яго Караваджа апісаў саму расправу. Зусім нясьмелая і нерашучая Юдзіф адхіляецца ад неўласьцівага для яе дзейства. Нахмураныя бровы, далікатны, але рашучы твар... Кропля гідлівасьці. Алаферн сьцякае крывёй, паміраючы, дарэмна

спрабуе супрацiўляцца. Юдзiф у Караваджа — сымбаль пераможцы над злом.




Юдзiф забiвае Алаферна (1598). Караваджа (1573—1610). Палацо Барберынi, Рым. Блёк Сэнт-Вiнсэнт i Грэнадыны, выпушчаны ў 2015 годзе

Валянцен дэ Булонь намаляваў сваю карцiну прыкладна праз 30 гадоў пасьля Караваджа. Яна больш спакойная, менш крывi i больш дзелавiтасьцi…




Юдзiф i Алаферн (1628). Валянцен дэ Булонь (1591 — 1632). Нацыянальны музэй выяўленчых мастацтваў, Ла Валета, Мальта. Марка пошты Мальты, выдадзеная ў 1962 годзе

«Жывы Гасподзь, якi захаваў мяне ў шляху, якiм я iшла! бо аблiчча Маё прывабiла Алаферна на пагiбель яго, але ён не зрабiў са мною кепскага i ганебнага граху» (Юдзiф 13:16) — кажа Юдзiф. Але Тон Крал напэўна ёй ня верыць…




Юдзiф i Алаферн (1934). Тон Крал (Tone Kralj) (1900 -1975). Галерэя Божыдара Якача — каштанаў на Крке. Марка пошты Славенii, выдадзеная ў 2000 годзе

Тыцыян прысьвяцiў Юдзiф дзьве працы. На марцы адна зь iх.




Юдзiф з галавою Алаферна (1570). Тыцыян (1480/85—1576). Iнстытут мастацтваў, Дэтройт. Марка пошты Дамiнiкi, выдадзеная ў 1988 годзе

Гісторыю Юдзіф Кранах паказвае на фоне прыдворнага жыцьця пры саксонскім двары. Гэта ён паказвае пальцам на стол, дэманструючы сваю прысутнасьць.




Юдзіф абезгалоўлівае Алаферна (1531). Фрагмэнт. Лукас Кранах Старэйшы (1472—1553). Музэй замку Фрыдэнштайн. Марка пошты Грэнады Каррыаку і Петыт Марцінікі, выдадзеная ў 2003 годзе

Юдзіф, маладая сьветлавалосая жанчына, апранутая па-венецыянску ў XVI стагодзьдзі.




Юдзіф з галавою Алаферна (1580). Паола Веранезе (1528–1588). Музэй гісторыі мастацтваў, Вена. Марка пошты Манамы, выдадзеная ў 1972 годзе

На карціне Веранезе Юдзіф, якая толькі што забіла Алаферна, зьбіраецца аддаць галаву сваёй пакаёўцы.

«Яна выйшла і аддала сваёй служанцы галаву Алаферна, а гэтая паклала яе ў мяшок з ежай, і абедзьве разам выйшлі, па звычаю свайму, на малітву. Прайшоўшы табар, яны абышлі вакол цясьніну, падняліся на гару Ветылуі і пайшлі да брамы яе» (Юдзіф 13:9—10).




Юдзіф і Алаферн (1508). Мікельанжэла Буанароці (1475 — 1564). Фрэска Сыкстынскай капэлы (фрагмэнт). Марка пошты Грэнады, выдадзеная ў 1975 годзе

На фрэсцы Юдзіф і служанка, якая трымае на падносе адсечаную галаву. Зьлева за дзьвярыма сьпіць стражнік, абняўшы шчыт, а справа ў прыцемку ложак з целам Алаферна ў агоніі.

Менавіта момант вяртаньня дадому адлюстраваў Сандра Батычэлі. Дзяўчына рашуча і хутка рухаецца да роднага горада. Вочы і выраз твару Юдзіф задуменны і сумны. За ёй, ледзь пасьпяваючы, ідзе служанка. На галаве ў яе кошык з жахлівым трафэем — галавой забітага

палкаводца. Юдзіф — пераможца, але Батычэлі адлюстраваў яе зусім не гераіняй без страху і папроку. Гэта тонкая, далікатная дзяўчына, валасы і сукенка якой разьвявае ветрык. Здаецца, можна адчуць, якімі лёгкімі, бязважкімі крокамі нясецца Юдзіф, каб перадаць гараджанам радасную вестку. У яе руцэ далікатная, як яна сама, аліўкавая галінка, сымбаль перамогі.




Вяртаньне Юдзіф у Вецілую (1470). Сандра Батычэлі (1445—1510). Галерэя Уфіцы, Флярэнцыя, Італія. Марка пошты Саудаўскай Аравіі, выдадзеная ў 1968 годзе

Яны падышлі да гарадзкой брамы. На голас Юдзіфі зьбегліся ўсе гараджане, хоць была глыбокая ноч. «Яна ж сказала ім гучным голасам: хваліце Госпада, хваліце, хваліце Госпада, што Ён не выдаліў міласьці Сваёй ад дома Ізраілевага, але ў гэтую ноч скрышыў ворагаў нашых маёю рукою. і, выняўшы галаву з мяшка, паказала яе і сказала ім: вось галава Алаферна, правадыра Асырыйскага войска» (Юдзіф.13:15—16).




Юдзіф з галавой Алаферна (1613). Крыштафана Алоры (1577–1621). Галерэя палаца Піцьці, Флярэнцыя. Марка пошты Емэну, выдадзеная ў 1968 годзе

Юдзіф у Алоры чароўна прыгожая. Пад пышнай вопраткай адгадваецца крохкае цела вельмі маладой жанчыны, якая адважылася на гераічны ўчынак. Адсечаная цёмная галава вылучаецца на фоне парчовага ўбору Юдзіф. Твар служанкі, поўны зьдзіўленьня і пашаны.

Назаўтра па загадзе Юдзіф галаву Алаферна павесілі на гарадзкой сьцяне. Затым расчыніліся гарадзкія вароты, хрыпла зараўлі баявыя трубы і з горада насустрач ворагу выйшла жменька абаронцаў. Падначаленыя Алаферна адправіліся за сваім военачальнікам, і, знайшоўшы яго забітым, прыйшлі ў жах. Асырыйцы кінуліся ва ўцёкі і былі разьбітыя войскамі Ізраільцян.

Незвычайная і прыгожая Юдзіф Джарджоне. Юдзіф выканала сваю місію, яна спакойная, пад нагой — галава зрынутага ворага.



Юдзіф з галавою Алаферна. 1504 г. Джарджоне (1478 –1510). Эрмітаж, Санкт-Пецярбург. Картмаксімум пошты СССР, выдадзены ў 1975 годзе

Юдзіф так і засталася ў родным горадзе. Захоўваючы вернасьць свайму памерламу мужу, яна больш не выйшла замуж, хоць многія сваталіся да яе. Памерла яна, пражыўшы 105 гадоў, і ўся краіна аплаквала яе скон сем дзён. Пахавалі Юдзіф побач з мужам.

Кніга Юдзіфі не ўваходзіць у склад кананічных, але Францыск Скарына ўключыў яе ў сваё пражскае выданьне («Книги Иудифъ вдовици»).

Праект марачнага ліста, падрыхтаванага да 500-годзьдзя перакладу Бібліі Скарынам і 500-годзьдзя Беларускага кнігадрукаваньня ў 2017 годзе з відарысамі 30 гравюр Белпошта не прыняла да выданьня і ён быў выдадзены ў выглядзе налепак Міжнародным грамадзкім аб’яднаньнем «Згуртаваньне Беларусаў сьвету Бацькаўшчына» і Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва (Нью-Ёрк).




«Иудифъ вдовица отсече главу Олферну воеводе». Скарына. Гравюра з Тытульнага ліста кнігі «Юдзіф» (1519). Праект маркі

Францыск Скарына трымае ў руках кнігу «Юдзіф». Побач надрукаваная цытата з яго прадмовы да гэтага выданьня.




525 гадоў з дня нараджэньня Францыска Скарыны. Блёк пошты Рэспублікі Беларусь, выдадзены ў 2015 годзе

«Як зьвяры, што блукаюць у пушчы, ад нараджэньня ведаюць сховы свае, як

птушкі, што лётаюць у паветры, помняць гнёзды свае, як рыбы, што плаваюць у моры і ў рэках, чуюць віры свае і як пчолы бароняць вульлі свае — гэтак і людзі да месца, дзе нарадзіліся і ўзгадаваны ў Бозе, вялікую ласку маюць» — гэты знакаміты ўрывак з прадмовы Францыска Скарыны да Кнігі «Юдзіф» цяпер можна прачытаць і пачуць на 70 мовах народаў сьвету.

## Ерамія — Прарок гневу і надзеі

*Я асьвяціў цябе: прарокам*
*народам паставіў цябе.*
*(Ерамія 1:5)*

Ерамія (655—586 да Р.Х.) — вялікі правазьвесьнік асабістай рэлігіі «рэлігіі сэрца», які прыадчыніў людзям сьвет свайго ўнутранага малітоўнага жыцьця. Ерамія блізкі па духу псальмапеўцам. Ён агаляе схованкі сваёй душы, кахаючай і пакутуючай, душы, якая вядзе пастаянны дыялёг з Богам. Яму наканавана быць сьведкам і прадракальнікам нацыянальнай катастрофы. І ён жа першы вымавіць словы «Новы Запавет» больш чым за пяць стагодзьдзяў да зьявы Хрыста Збавіцеля.

Прарок Ерамія зьяўляецца аўтарам Кнігі ў першай частцы якой апісваецца пакліканьне Ераміі да прароцкага служэньня і два былых яму пры гэтым бачаньня (міндальнага жазла і катла, падпаленага з поўначы), якія вызначылі прадмет яго прароцкай пропаведзі. «І было слова Господняе мне: што бачыш ты, Ерамія? Я сказаў: бачу посах зь міндальнага дрэва» (Ерамія 1:11).

Па-габрэйску міндальнае дрэва называюць «дрэва, якое ня сьпіць». Назва сваё дрэва міндаля атрымала таму, што ў Палестыне заквітае першым і кветкі зьяўляюцца на ім перш лісьця; першым прыносіць яно і плён. Адсюль «жазло» — сымбаль «пільнага пастыра». Галіна квітнеючага міндаля сымбалізуе Бога, Які ня сьпіць над словам Сваім, каб яно хутка споўнілася.




Посах зь міндальнага дрэва. Праект маркі Іда Міхаэлі з сэрыі «Гарадзскія легенды». Ізраіль, 2005 год.

На прывесцы маркі напісана: «Уладальніца міндальнага дрэва» — самае доўгае ў краіне імя дзяўчынкі.

Ерамія быў пакліканы Богам ў часы цара Ёсіі (648–609 да Р.Х.), пра якога сказана: «І рабіў ён добрае ў вачах Господніх...» (Чацьвёртая Царстваў 22:2).

У 622 годзе да Р.Х. пры аднаўленьні Храма быў знойдзены скрутак з Зако-

нам. «І сказаў Хэлкія першасьвятар Шафану пісцу: кнігу Закона я знайшоў у доме Госпаднім» (Чацьвёртая Царстваў 22:8). Калі скрутак прачыталі цару, то ён «падраў вопратку сваю і плакаў» (Чацьвёртая Царстваў 22:17). Плакаў перад Богам. Цар не ідзе па тлумачэньні да вялікага Прарока Ераміі, а адсылае скрутак да Прарочыцы Алдамфы. У рабінскай літаратуры гаворыцца, што Алдамфа і Ерамія былі ў роднасьці і што яны прапаведавалі пакаяньне і навяртаньне да Бога; ён для мужчын, а яна для жанчын. Згодна з габрэйскай традыцыяй, яна была і адной з «сямі прарочыц», якімі былі Сара, Мірыям, Дэбора, Ганна, Абігайль і Эстэр. Ад Алдамфы атрымаў цар тлумачэньне: «так кажа Гасподзь: навяду ліха на месца гэтае і на жыхароў яго — усе словы кнігі, якую чытаў цар Юдэйскі. За тое, што пакінулі Мяне, і дымяць іншым багам, каб раздражняць Мяне ўсімі дзеямі рук сваіх, загарэўся гнеў Мой на месца гэтае, і не патухне» (Чацьвёртая Царстваў 22:14,15). Словы Закону і тлумачэньне зьявы яго адналязеньня спавадавалі зразуменьне народам і царом граху і неабходнасьць навяртаньня.

«Потым устаў цар на ўзвышанае месца і даў перад домам Госпадні Запавет — трымацца Госпада і захоўваць наказы Ягоныя і адкрыцьці Ягоныя, і пастановы Ягоныя, ад усяго сэрца і ад усёй душы, каб выканаць словы запавету гэтага, напісаныя ў кнізе гэтай. І ўвесь народ уступіў у Запавет» (Чацьвёртая Царстваў 23:3). Упершыню ў гісторыі Ізраілю Тора набыла дзяржаўны статус, што адыграла вырашальную ролю ў духоўным і сацыяльным фарміраваньні габрэйскага народа пры вяртаньні з вавілонскага палону.

Алдамфа трымае скрутак Закону. На прывесцы паведамляецца, што «жыла яна ў Ерусаліме...» (Чацьвёртая Царстваў 22:12).




Алдамфа. Марка Ізраілю, выдадзеная ў 1984 годзе

Але неўзабаве цар Ёсія загінуў.




Ёсія з сынам. Фрэска (1511—12). Мікеланджэла Буанароці (1475—1564). Сікстынская Капэла, Ватыкан. Марка Ватыкану, выдадзеная ў 1991 годзе

«У дні ягоныя пайшоў фараон Нэхаа, цар Егіпецкі, супроць цара Асырыйскага на раку Еўфрат. І выйшаў цар Ёсія насустрач яму, і той забіў яго ў Мэгідоне, калі ўбачыў яго» (Чацьвёртая Царстваў 23:29).




Біблейскія гарадзішчы. Мегідон, Хацор, Бер Шэба. Марка Ізраілю, выдадзеная ў 2008 годзе

У крузе — пячатка «Шэма слуга Еравоама», знойдзеная пры раскопках Мэгідона. Горад Хацор быў зьнішчаны асырыйцамі ў 732 да Р.Х.

Параза і сьмерць Ёсіі былі трагічным момантам для Юдэі і для Прарока Ераміі. Ёсія быў апошнім праведным царом Юдэі. Ерэмія зразумеў, што, калі гэты верны правадыр сыдзе, жахлівыя прароцтвы падзеньня Юдэі ўжо не адкладуцца. Існуе думка, што Кніга Плач была напісана ў выніку сьмерці цара Ёсіі, што пацьвярджаецца наступным: «Аплакаў Ёсію і Ерамія ў песьні жалобнай; і гаварылі ўсе сьпевакі і сьпявачкі пра Ёсію ў жалобных песьнях сваіх, вядомых да сёньня, і перадалі іх на ўжытак у Ізраіля; і вось яны ўпісаны ў кнігу жалобных песьняў» (Другая Летапісаў 35:25).

Стомлены стары сядзіць, бясьсільна апусьціўшы адну руку, прыкрываючы твар іншай. Ерамію па традыцыі малявалі сумным, але Мікеланджэла зрабіў свайго прарока ўвасабленьнем смутку. Нельга без сардэчнага трапятаньня глядзець на гэтага скамянелага ў пакуце старца.




Прарок Ерамія. Мікеланджэла Буанароці (1475—1564). Фрэска столі (1508—1512). Сікстыская капэла, Ватыкан. Марка Аджману, выдадзеная ў 1970 годзе

Ерамія лічыць сябе пакліканым Богам «выкараняць і пустошыць, нішчыць і разбураць», і толькі затым зноў «ствараць і садзіць». Суворасьць яго прароцтваў, жахлівыя карціны разбурэньняў, бедзтваў і голаду, угатаваных Юдэі, выклікаюць да яго нянавісьць навакольных нават у яго родным горадзе. Ерамія горка наракае на адзіноту і асуджанасьць: «Гора мне, маці мая, што ты нарадзіла мяне чалавекам, які спрачаецца і сва-

рыцца з усёю зямлёю! нікому не даваў я на ліхву, і мне ніхто не даваў на ліхву, а ўсе клянуць мяне» (Ерамія 15:10). Бывае, што ён прыходзіць у адчай: «Пракляты дзень, у які я нарадзіўся; дзень, у які нарадзіла мяне маці мая, хай ня будзе дабраславёны! Выкляты чалавек, які прынёс вестку бацьку майму і сказаў: „у цябе нарадзіўся сын“ і тым вельмі парадаваў яго» (Ерамія 20:14,15).




Сымфонія «Ерамія» на тэкст з Бібліі. Леанард Бэрнштэйн (1918—1990). Марка Ізраілю, выдадзеная ў 1995 годзе ў сэрыі «Габрэйскія музыкі»

На марцы бачым партрэт кампазытара і дэталь гравюры Густава Дарэ «Ерамія».

Нездарма яго называюць «плачучым прарокам». Ён плача і над сваёй доляй, хоць ён абранец Бога, і над лёсам свайго народу і Ерусаліму, аднак лічыць, што ня мае права адступіцца ад выкананьня ўскладзенай на яго Богам місіі.

Каля брамы Храма Ерамія выступае з палымянымі абвінавачваньнямі, не выключаючы нават цара, і ўсенародна аб'яўляе аб небясьпецы. Ерамія ўступае ў канфлікт з іншымі Прарокамі, якія не падзялялі яго поглядаў аб немінучай гібелі царства і Храма і аб іх аднаўленьні толькі пасьля таго, як народ, прыняўшы заслужаную кару, зьвернецца да пакаяньня.

«У чацьвёрты год Ёакіма, сына Ёсііна-га, цара Юдэйскага, было такое слова Ерамію ад Госпада: вазьмі сабе кніжны скрутак і напішы на ім усе словы, якія Я казаў табе пра Ізраіля і пра Юду і пра ўсе народы з таго дня, як Я пачаў гаварыць табе, ад дзён Ёсіі — да гэтага дня; можа быць, дом Юдаў пачуе пра ўсе бедзтвы, якія Я думаю зрабіць ім, каб яны адвярнуліся кожны ад благога шляху свайго, каб Я дараваў няпраўду іхнюю і грэх іхні. І паклікаў Ерамія Варуха, сына Нірыі, і напісаў Варух у кніжны скрутак з вуснаў Ераміі ўсе словы Госпада, якія Ён казаў яму» (Ерамія 36:1—4).




Пачатковая літара з Кнігі Варуха. Марка пошты Люксэмбургу, выдадзеная ў 1983 годзе

Калі цару Ёакіму чыталі «словы Госпада» «цар адразаў іх пісцовым ножы-

кам і кідаў на агонь у жароўні, пакуль ня зьнішчаны быў увесь скрутак на агні, які быў у жароўні» (Ерамія 36:23). Цар і народ не пабаяліся засьцярогі Прарока і іх лёс быў вырашаны. Варух жа напісаў новы скрутак.

У 605 г. да Р. Х. Вавілонія авалодвае ўсёй тэрыторыяй Асырыйскай імпэрыі і становіцца самай магутнай дзяржавай на Блізкім Усходзе. Ерамія прыходзіць да перакананьня, што ўступіўшы на вавілонскі трон Навуходаносар II (605–562 да Р.Х.) зьяўляецца прыладай Божай кары. Ён прадказвае заваёву Ерусаліма Вавілоніяй.

У сьнежні 598 г. да Р. Х. Навуходаносар уварваўся ў Юдэю і асабіста вёў аблогу Ерусаліму. На другі дзень месяца адар-16 сакавіка 597 да Р. Х. Вавілонскі цар авалодаў Ерусалімам, захапіў у палон цара Ёакіма і паставіў царом яго дзядзьку Сэдэкію.




Вавілонскі цар Навуходаносар са сьвітай і палоннымі. Паштовая марка Баўгарыі з сэрыі Хроніка Канстанціна Манасіі (II) (другая палова XIV — XVI ст.), выпушчаная ў 1969 годзе

Юдэя заплаціла цяжкую кантрыбуцыю і павінна была выплачваць даніну. Вавіланяне захапілі скарбы царскага палаца і частку скарбаў і богаслужэбных прадметаў Іерусалімскага Храма. Цар Ёакім з сям'ёй, маці, набліжанымі і 10 тысячамі воінаў і рамесьнікаў быў дэпартаваны ў Вавілонію. «І сьсяліў увесь Ерусалім, і ўсіх князёў, і ўсё адважнае войска, — дзесяць тысяч было пераселеных, — і ўсіх цесьляроў і кавалёў; нікога не засталося, апрача беднага люду зямлі» (Чацьвёртая Царстваў 24:14).

Ерамія адпраўляе выгнаньнікам пасланьне, у якім абвяшчае аб будучым вызваленьні, але разам з тым раіць ім абжыцца ў Вавілоніі: «будуйце дамы і жывеце ў іх, і разводзьце сады і ежце плады зь іх; бярэце жонак і раджайце сыноў і дачок; і сынам сваім бярэце жонак і дачок сваіх аддавайце ў замужжства, каб яны нараджалі сыноў і дачок, і множцеся там, а не змаляйцеся...» (Ерамія 29:5,6), так як выгнаньне будзе працяглым, Ерусалім будзе разбураны і тэрмін пакараньня вызначаны ў 70 гадоў.

Прыкладна 8 гадоў Юдэйскі цар Сэдэкія падпарадкаваўся вавіланянам, але затым, паспадзяваўшыся на дапамогу егіпецкага фараона падняў паўстаньне.

Увосень 589 года да Р. Х. Навуходаносар на чале свайго войска зьявіўся на мяжы Юдэі. Вавіланяне спустошылі Юдэю і 15 студзеня 588 года да Р. Х. аблажылі Ерусалім. Ерамія голасна заявіў, што сам Бог змагаецца за вавіланян. У самы разгар аблогі ён заклікаў народ і воінаў здацца ворагу. Нядзіўна, што ў вачах народа Ерамія здаваўся ворагам; ён быў кінуты спачатку ў цямніцу, а затым апушчаны ў сухі калодзеж. «А ў адзінаццаты год Сэдэкіі, у чацьвёртым месяцы, у дзявяты дзень месяца горад быў узяты» (Ерамія 39:2). «Зроблена была праломіна ў горад, і пабеглі ўсе ваенныя з горада ўначы праз браму, што была паміж дзьвюма сьценамі каля царовага саду, і пайшлі стэпавай дарогаю; а Халдэі

былі вакол горада. Войска Халдэйскае пагналася за царом, і дагнала Сэдэкію на раўнінах Ерыхонскіх, і ўсё войска ягонае разьбеглася ад яго. І ўзялі цара і прывялі яго да цара Вавілонскага ў Рыўлу, у зямлі Эмат, дзе ён учыніў над ім суд. І закалоў цар Вавілонскі сыноў Сэдэкіі на вачах у яго, і ўсіх князёў Юдэйскіх закалоў у Рыўле; а Сэдэкію выкалаў вочы і загадаў закаваць яго ў медныя аковы; і завёў яго цар Вавілонскі ў Вавілон і пасадзіў яго ў дом варты да дня сьмерці яго» (Ерамія 52:7—11).

Пошта Беларусі ў сэрыі «Архітэктура старажытнай Беларусі» выпусьціла блёк на полі якога разьмешчаны фрагмэнт ілюстрацыі Тытульнага ліста 183 чацьвёртай Кнігі царстваў з Бібліі Скарыны «Навахуданосар цар Вавілонскі дабывае Ерусалім».




Архітэктура старажытнай Беларусі. Блёк пошты Беларусі, выдадзены ў 2005 годзе

Падчас паходу Навуханоносара на Юдэйскае царства ў 586 годзе да Р. Х. быў захоплены і разбураны Лахіш. «Тым часам войска цара Вавілонскага ваявала супроць Ерусаліму і супроць усіх гарадоў Юдэйскіх, якія яшчэ заставаліся, супроць Лахіса і Азэкі; бо з гарадоў Юдэйскіх толькі гэтыя заставаліся, як гарады ўмацаваныя» (Ерамія 34:7).

На марцы бачым гарадзішча Лахіш і астракон — гліняны чарапок з напісаным данясеньнем камандзіра.




Лахіш. Астракон (589 г. да Р.Х.). Марка Ізраілю, выдадзеная ў 2008 годзе

Праз месяц пасьля ўзяцьця Ерусаліма начальнік целаахоўнікаў Навузардан пачаў яго плянамернае разбурэньне: «і спаліў дом Господні і дом цара, і ўсе дамы ў Ерусаліме, і ўсе дамы вялікія спаліў агнём; і сьцены вакол Ерусаліма разбурыла войска Халдэйскае, якое было ў начальніка целаахоўцаў» (Чацьвёртая Царстваў 25:9,10). Маштабы разбурэньняў былі гэтак вялікія, што і праз 150 гадоў Нээмія не здолеў аднавіць усе гарадзкія кварталы і быў вымушаны частку іх пакінуць за межамі збудаванай ім гарадзкой сьцяны.

Здаецца, што пасьля мікеланджэляўскага Ераміі ўжо немагчыма па-іншаму ўявіць сабе біблейскага пакутніка, але карціна Рэмбрандта «Ерамія аплаквае гібель Ерусаліма» (1630 г.) пераконвае нас у адваротным. Самотны, ахоплены горам старац сядзіць ля падножжа велічэзных, ахутаных дымам калён Ерусалімскага

Храму. Фігура прарока дзеліць карціну на дзьве часткі, сьветлую і цёмную. Мы бачым не цёплае рэмбрандтаўскае сьвячэньне, якое адухоўвае матэрыю. Тут пагібельны, нядобры водбліск пажарышча, яшчэ больш безнадзейны, чым цемра, якая ахінае ніжнюю частку палатна.




Ерамія аплаквае гібель Ерусаліму (1630). Рэмбрант ван Рэйн (1606—1669). Амстэрдам, Рейксмузэум. Марка пошты Цэнтральна — Афрыканскай Рэспублікі, выдадзеная ў 1981 годзе

«Які асамотнены горад, людны калісьці! ён нібы аўдавеў; вялікі паміж народамі, уладца краін адрабляе даніну. Горка плача ён уначы, і сьлёзы яго па шчоках бягуць. Ня мае суцешніка сярод тых, што любілі яго; усе сябры яму здрадзілі, яму сталіся ворагамі. Юда ў выгнаньні, у цярпеньнях і ў цяжкай няволі, пасяліўся сярод язычнікаў, і не знаходзіць спакою сабе; усе, хто яго перасьледаваў, дагналі яго ў цясьнінах. Шляхі да Сіёна ў жалобе, не пасьпяшае ніхто на сьвята; усе апусьцелі брамы; сьвятары яго енчаць, дзяўчаты ягоныя ў смутку, горка й самому яму. Ворагі апанавалі яго, непрыяцелі шчасьцяцца ў дабрадзенстве, бо наслаў на яго Гасподзь бядоту за многія беззаконьні ягоныя; дзеці яго пайшлі ў палон паперадзе ворага» (Плач 1:1—5).

«Так кажа Гасподзь: голас чуцен у Раме, лямант і горкае галашэньне: Рахіль плача па дзецях сваіх і ня хоча суцешыцца ў дзецях сваіх, бо іх няма. (Ерамія 31:15).




Маці рэагуюць на забойства сваіх дзяцей салдатамі Ірада. Марка пошты Фарэрскіх выспаў, выдадзеная ў 2001 годзе

На марцы цытата (Паводле Мацьвея 2:18), які паўтарае словы Ераміі (Ерамія 31:15).

У той жа час Ерамія падкрэсьліваў, што гэта яшчэ не канец, не поўнае зьнішчэньне, што наступіць шчасьлівы час, калі Бог заключыць Новы Запавет з народам. Тады Законы будуць запісаныя не на скрыжалях, а ў сэрцы кожнага верніка. Ерамія першы з прарокаў кажа пра Новы Запавет. Нездарма на блёку з карцінай Рэмбрандта «Плач Ераміі» аўтар блёку разьмясьціў партр-

эты Апосталаў: Якава, Барталамея, Мацьвея і Пятра.




Ерамія аплаквае разбурэньне Ерусаліма. Рэмбрант ван Рэйн (1606—1669). Рейксмузэум, Амстэрдам. Блёк пошты Гаяны, выдадзены ў 2004 годзе

У супрацьлегласьць велічнай грознасьці выкрыцьцяў Ераміі яго прароцтвы суцяшэньня далікатныя і прасякнуты любоўю да свайго народу. Гэтыя прароцтвы і па гэты дзень застаюцца адныමі з лепшых узораў лірычнай паэзіі на іўрыце, а некаторыя вобразы гэтых прароцтваў — абяцаньне вяртаньня сыноў, якіх аплаквае прамаці Рахіль: «Так кажа Гасподзь; утрымай голас твой ад галашэньня і вочы твае ад сьлёз, бо ёсьць узнагарода за працу тваю, кажа Гасподзь, і вернуцца сыны твае ў межы свае» (Ерамія 31:16) і зварот Бога да Ізраіля, як да каханага: «Ці не дарагі ў Мяне сын Яфрэм? ці ня любае дзіця? бо, як толькі загавару пра яго, заўсёды зь любоўю ўспамінаю пра яго; нутроба Мая абураецца за яго; умілажалюся зь яго, кажа Гасподзь» (Ерамія 31:19), — сталі ў народзе знакамі надзеі на будучыню.

Вавілонскія заваёўнікі вызвалілі Ерамію з цямніцы і дазволілі яму застацца ў краіне. Аднак пасьля таго, як быў забіты Вавілонскі намесьнік Гадолія, прыхільнікі Ераміі з-за страху перад рэпрэсіямі зьбеглі ў Егіпет, забраўшы з сабою Прарока. Ўцекачы знайшлі прытулак ва ўсходняй частцы Егіпецкай дэльты; там былі вымаўленыя апошнія прароцтва Ераміі, запісаныя ў яго Кнізе (43:8—13; 44). Аб абставінах яго жыцьця і сьмерці ў Егіпце нічога не вядома.




Падвеска паўночнаафрыканская. Марка Ізраілю, выдадзеная ў 1973 годзе

Прайшоў час і суцяшальныя прароцтвы Ераміі спраўдзіліся. З усталяваньнем дзяржавы Ізраіль пераважная большасьць паўночнаафрыканскіх габрэяў пакінула свае дамы і эмігравала на сваю старажытную радзіму. Менавіта гэтай падзеі прысьвечана марка пошты Ізраілю. Паказана на ёй прыгожая падвеска, якую насілі ў краінах, адкуль прыйшлі. На прывесцы маркі напісаныя словы на габрэйскай і англійскай мовах з Кнігі

Ераміі: «Хто расьсеяў Ізраіля, Той і зьбярэ яго…» (Ерамія 31:10). Іх далейшы працяг гучыць: «і будзе ахоўваць яго, як пастух статак свой».

Запаведзь Ераміі аб вяртаньні з палону зьмешчана на двух марках пошты Ізраіля, выданых з нагоды пяцідзесяцігодзьдзя Дэклярацыі Бальфура. Бальфур — брытанскі міністар спраў заграцічных, які ў 1917 годзе выдаў афіцыяльны ліст, дэкляруючы падтрымку Вялікай Брытаніі ў справе стварэньня ў Палестыне Ізраільскай Дзяржавы.




Першы прэзыдэнт Ізраіля Хаім Вэйцман (1874—1952). Марка Ізраілю, выдадзеная ў 1967 годзе

На адной марцы бачым партрэт першага прэзыдэнта Ізраілю Хаіма Вэйцмана (1894—1952), на другой — падабенства лорда Бальфура.

На прывесках марак знаходзяцца словы «і вернуцца сыны твае ў межы свае» (Ерамія 31:16).

Поўны тэкст верша наступны: «Так кажа Гасподзь; утрымай голас твой ад галашэньня і вочы твае ад сьлёз, бо ёсьць узнагарода за працу тваю, кажа Гасподзь, і вернуцца сыны твае ў межы свае» (Ерамія 31:16).




Лорд Бальфур (1848—1930). Марка Ізраілю, выдадзеная ў 1967 годзе

У Шатляндыі існуе легенда пра Камень лёсу.




Трон з Каменем лёсу. Спэцыяльная марка Каралеўскай пошты Вялікабрытаніі, выдадзеная ў 1970 годзе з нагоды юбілею дэклярацыя Арброта

У Эдынбургзкім замку сярод іншых рэліквій і каранацыйных рэгалій шатляндзкіх каралёў знаходзіцца Камень Запавету, званы таксама «падушкай Якава, які Якаў паклаў сабе ў падгалоўе і ўбачыў у сьне лесьвіцу з неба.

Традыцыя абвяшчае, што Прарок Ерамія прывёз Камень Запавету ў Ірляндыю разам з арфай Давіда і дачкой цара Седэкіі Фамар пасьля падзеньня Ерусаліма ў 534 годзе да

Р. Х. Камень быў закладзены ў каралеўскі трон.

Царэўна Фамар выйшла замуж за Вярхоўнага караля Ірляндыі і з той пары на працягу цэлага тысячагодзьдзя ўся цырымонія каранацыі складалася ў пасадцы прэтэндэнта на гэты магічны камень.

Усе верылі ў Камень лёсу, у яго звышнатуральную здольнасьць адрозьніваць сапраўднага караля ад фальшывага, сумленнага ад ашуканца.

## Прарок Езэкііль — «Вартаўнік дома Ізраілевага»

*Ці будуць яны слухаць, альбо ня будуць, бо яны мяцежны дом; але няхай ведаюць, што быў Прарок сярод іх. (Езэкііль 2:5)*

У жыцьці Прарока Езэкііля вельмі шмат дзівацтваў. Яго сьведчаньні парадаксальныя, яго жыцьцё незвычайнае, у яго апісаньнях вельмі шмат загадкавасьці.

Аднойчы Езэкііль бярэ звычайную цэглу і пасярод Юдэйскага паселішча насыпае вакол цэглы вал, устанаўлівае «сьценабітныя машыны» і «вядзе штурм»... Ён дэманструе аблогу Ерусаліму. Затым кладзецца на бок і ляжыць на ім, не ўстаючы і нікуды не сыходзячы, 390 дзён, а потым яшчэ 40 — на іншым баку. «...дзень за год, дзень за год» (Езэкііль 4:6) — такая будзе працягласьць палону ў Вавілоне. Пячы хлеб Гасподзь наказвае яму на каровіным памёце, бо настануць дні, у Ерусаліме, калі ня будзе добрага хлеба і людзям прыйдзецца есьці нячыстае.

Нарэшце Прарок брые галаву і бараду, а паголеныя валасы раскладвае на тры часткі: адну спальвае пасярод «горада», які ён збудаваў, іншую рассыпае вакол гэтага горада і сячэ нажом, а трэцюю разьвейвае па ветры, кажучы, што гэтак жа будзе і з жыхарамі Ерусаліма. Частка іх загіне ў горадзе, частка — у акрузе, а частка будзе расьсеяная сярод іншых народаў.

Вядома, з боку ўсё гэта выглядала як паводзіны вар'ята. Ці ёсьць гэтым паводзінам разумнае тлумачэньне?

Мікеланджэла намаляваў Езэкііля як прыстойнага старца ў прыгожым адзеньні, які горача некага ў нечым пераконвае, трымаючы ў левай руцэ скрутак, а правай — падаючы мнагазначны жэст.




Прарок Езэкііль (1508—1512). Мікеланджэла Буанароці (1475 — 1564). Фрэска. Сікстынская капэла, Ватыкан. Марка Цэнтральна — Афрыканскай Рэспублікі, выдадзеная ў 2011 годзе

«І гэтыя сыны з агрубелым абліччам і з жорсткім сэрцам, — да іх Я пасылаю цябе, і ты скажаш ім: так кажа Гасподзь

Бог! Ці будуць яны слухаць, альбо ня будуць, бо яны мяцежны дом; але няхай ведаюць, што быў Прарок сярод іх» (Езэкііль 2:4,5). Езэкііль вельмі хоча, каб ня толькі слухалі, але каб пачулі і зразумелі. Ён становіцца голасам Госпада людзям, якія жывуць у цемры. Ён вартаўнік народа ў месцы выгнаньня. «Сыне чалавечы! Я паставіў цябе вартаўніком дому Ізраілевага, і ты будзеш слухаць слова з вуснаў Маіх і будзеш наводзіць іх на розум да Мяне» (Езэкііль 3:17). Езекііль пагаджаецца і дакладна выконвае ўказаньні Бога. Ён не спрачаецца, як Маісей, і не ўцякае, як Ёў.

Адзін з чатырох Вялікіх Пракаў Езэкііль быў сучасьнікам Прарока Ераміі. Ён быў сярод узятых у палон у Вавілон у 579 годзе да Р. Х. Будучы ў палоне Вавілонскім, яшчэ да канчатковага разбурэньня царства Юдэйскага, ён быў прызваны Госпадам да прароцкага служэньня. «І я бачыў: і вось буйны вецер ішоў з поўначы, вялікая хмара і палымяны агонь, і зьзяньне вакол яго, а зь сярэдзіны яго як бы сьвятло полымя зь сярэдзіны агню; і зь сярэдзіны яго відаць было як бы падабенства чатырох жывёлін, — і такі быў выгляд у іх: аблічча ў іх было, як у чалавека; і ў кожнага чатыры твары, і ў кожнага зь іх чатыры крылы; а ногі ў іх простыя, і ступакі ног іхніх як ступак нагі ў цяляці, і зьзялі, як бліскучая медзь (і крылы ў іх лёгкія). І рукі чалавечыя былі пад крыламі ў іх, па чатырох баках іх; і твары ў іх і крылы ў іх — ва ўсіх чатырох; крылы ў іх прылягалі адно да аднаго; у час шэсьця свайго яны не азіраліся, а ішлі кожны перад сабою. Падабенства аблічаў іхніх — аблічча чалавека і аблічча ільва з правага боку ва ўсіх чатырох; а зь левага боку — аблічча цяляці ва ўсіх чатырох і аблічча арла ва ўсіх чатырох» (Езэкііль 1:4—10).

Зьмест карціны адпавядае Біблейскаму апісаньню гэтага бачаньня. Хрысьціянская традыцыя атаясамлівае чатырох крылатых стварэньняў сымбалямі чатырох Эвангелістаў: Марка, Яна, Мацьвея і Лукаша. Памер бачаньня кантрастуе з пэйзажам унізе і самім Езэкіілем, які намаляваны малюсенькім чалавечкам, выхапленым з ценю яркім промнем сьвятла ў левым ніжнім куце.




Бачаньне Прарока Езэкііля (1518). Рафаэль Санці (1483—1520). Галерэя Палацо Піцьці, Флярэнцыя. Блёк пошты Анцігуа і Барбуды, выдадзены ў 1983 годзе

Гэта бачаньне жывёл паўтараецца ў 4-й главе Апакаліпсісу: «І перад тронам мора шкляное, падобнае да крышталю; і пасярод трона і навокал трона чатыры жывыя істоты, поўныя вачэй сьпераду і

ззаду: I першая жывая істота была падобная да льва, і другая жывая істота падобная да цяляці, і трэцяя жывая істота мела аблічча, як у чалавека, і чацьвёртая жывая істота, падобная да арла лятучага» (Адкрыцьцё 4:6,7).




Бачаньне Прарока Езэкііля (1518). Рафаэль Санці (1483—1520). Галерэя Палацо Піцці, Флярэнцыя. Марка пошты Мазамбіку, выдадзеная ў 2011 годзе

«I я глядзеў на жывёлін, — і вось, на зямлі каля гэтых жывёлін па адным коле перад чатырма іхнімі лапамі. Выгляд колаў і будова іхняя — як выгляд тапаза, і падабенства ва ўсіх чатырох — адно; і з выгляду іх і з будовы іх здавалася, быццам кола было ў коле» (Езэкііль 1:15,16). «Над галовамі ў жывёлін было падабенства скляпеньня, як выгляд дзівоснага крышталю, расхінутага зьверху над галовамі ў іх. А пад скляпеньнем прасьціраліся крылы іхнія проста адно да аднаго, і ў кожнага было два крылы, якія пакрывалі іх, у кожнага два крылы пакрывалі целы іхнія» (Езэкііль 1:22,23). Усё ўбачанае Езэкііль успрымае, як уяву «падабенства славы Госпадняй». Тэтраморфы сталі малявацца на іконах розных канфэсій.




Бачаньне Прарока Езэкііля (копія Фрэскі Рафаэля) (1605—1608). Пітэр Паўль Рубенс (1577—1640). Флярэнцыя, Музей Хорн. Блёк пошты Сьера Леонэ, выпушчаны ў 2015 годзе

Крылатае кола стала сымбалям у многіх праявах людзкога жыцьця, як прыклад руху беспамылковага, руху вакол вышэйшага дабра.




Крылатае кола. Марка Чылі, выдадзеная ў 1897 годзе

Галоўны грэх, у якім Гасподзь абвінавачвае Юдэяў вуснамі Езэкііля — ідалапаклонства, адступленьне ад самай першай запаведзі Старога Запавету: «хай ня будзе ў цябе іншых багоў перад аблічча Маім» (Выхад 20:3). Ідалапаклонства аказалася вельмі жывучым і існуе да нашага часу. Езэкііль падымае пытаньне пра ідалапаклонства, але не фармаль-

ным (аб гэтым казалі і да яго), а пра ідалаў у сэрцы. Дзякуючы такой пастаноўцы пытаньня гэтая тэма зьяўляецца да гэтага часу вельмі актуальнай.




Падзеньне залатога цяляці. Дэталь. Фернанд Алар'ер Олівэр (1883 — 1933). Паштовая марка Бэльгіі, выдадзеная ў 1994 годзе да стагодзьдзя Сацыялістычнага палітычнага маніфэсту Статуту Куарэньёна.

Залатое цяля — бліскучая жывёла хістаецца на сваім пастамэнце, бо яе цягнуць за вяроўкі рабочыя з моцнымі рукамі і мускулістымі сьпінамі.

Стыхіра з службы Прароку абвяшчае: «О, Езэкііль, улюбёны Богам! Як пераймальнік Хрыстоў, ты цярпліва панёс на сабе цяжар чужога абавязку і, цяжка пакутуючы, адлюстраваў сабою выратаваньне сьвету, збаўленьне і зьяву Бога праз хросныя пакуты».

Але калі надышла вестка пра гібель Ерусаліма, пропаведзь Прарока набывае новы кірунак. Ён заклікае народ да веры ў адраджэньне.

Бог Сам будзе свайму народу пастырам: «Бо так кажа Гасподзь Бог: вось Я Сам знайду авечак Маіх і агледжу іх. Як пастух правярае статак свой у той дзень, калі ён сярод статку свайго расьсеянага, так Я перагледжу авечак Маіх і вызвалю іх з усіх мясьцінаў, у якія яны былі расьсеяны ў дзень хмарны і змрочны. І выведу іх з народаў і зьбяру іх з краін, і прывяду іх у зямлю іхнюю і буду пасьвіць іх на горах Ізраілевых, каля патокаў і на ўсіх населеных мясьцінах зямлі гэтай» (Езэкііль 34:11—13).




Добры пастыр. Вітраж у царкве Сен-Мішэль-дзю-Вале. Картмаксімум пошты Гэрнсі, выдадзены ў 1973 годзе

Менавіта да гэтай тэмы зьвяртаецца Хрыстос у прыпавесьці пра Добрага Пастыра: «Я — Пастыр Добры: Пастыр Добры аддае жыцьцё сваё за авечкі...» (Паводле Яна 10:11).

Наступяць дні, калі будзе дадзена прабачэньне і Сьвятая зямля расквітнее, нібы сад Эдэмскі. Людзі не маглі паверыць у абяцаньне. Катастрофа 587 года здавалася непапраўнай: Сьвятая зямля адабрана, народ расьсеяны, дзяржава язычнікаў непераможная. І, галоўнае, Храма няма! Значыць Бог пакінуў свой народ. Ніякія зямныя разьлікі не маглі

апраўдаць надзей на будучыню. Езэкііль пераконвае зьняверaны народ сваім наступным бачаньнем. Прароку паўстала поле, усеянае чалавечымі парэшткамі — даўно высахлымі косткамі.




Бачаньне Прарока Езэкііля. Скульптура. Ніжняя частка катэдры ў Саборы Цвіфальтэн, Германія. Ёган Крысьціян (1706—1777). Блёк пошты Замбіі, выдадзены ў 1997 годзе

Бог размаўляе зь Езэкіілем: «І сказаў мне: сыне чалавечы! ці ажывуць косьці гэтыя? Я сказаў: Госпадзе Божа! Ты ведаеш гэта. І сказаў мне: вымаві прароцтва на косьці гэтыя і скажы ім: «косьці сухія! слухайце слова Госпадняе!»» (Езэкііль 37:3,4). Па загадзе Бога Езэкііль кажа касьцям, што яны апрануцца зноў целам і дух зноў будзе ўкладзены ў іх. Ледзь прагучалі гэтыя словы, як пачуўся шум і косткі самі сабой сталі зьбліжацца і злучацца. «І я вымавіў прароцтва, як Ён загадаў мне, і ўвайшоў у іх дух, — і яны ажылі і сталі на ногі свае — досыць, вялікае полчышча. (Езэкііль 37:10). «І сказаў Ён мне: сыне чалавечы! косьці гэтыя — увесь дом Ізраілеў. Вось, яны кажуць: «высахлі косьці нашыя, і загінула надзея нашая: мы адарваныя ад кораня»» (Езэкііль 37:11).




Уваскрасеньне памерлых (1630). Фрагмэнт. Кальянтэс, Франсіска (1599—1656). Музэй Прада. Марка пошты Тэркс і Кайкас, выдадзеная ў 1992 годзе

Уваскрасеньне памерлых...




Уваскрасеньне памерлых (1630). Фрагмэнт. Кальянтэс, Франсіска (1599—1656). Музэй Прада. Марка пошты Тэркс і Кайкас, выдадзеная ў 1992 годзе

«Таму вымаві прароцтва і скажы ім: так кажа Гасподзь Бог: вось, я адчыню труны вашыя і выведу вас, народзе Мой, з трунаў вашых і ўвяду вас у зямлю Ізраілевую» (Езэкііль 37:12).

У дні дваццаціпяцігодзьдзя палону Дух Божы перанёс Прарока ў Ерусалім, ён бачыць ідэальны Град будучыні.




Бачаньне Ерусаліму. Сьвяты Францішак у «Тэра Санта». Марка пошты Італіі, выдадзеная ў 1926 годзе

«А імя гораду з таго дня будзе: Гасподзь-там» (Езэкііль 48:35). «І горад ня мае патрэбы ні ў сонцы, ні ў месяцы на асьвятленьне сваё; бо слава Божая асьвятліла яго, і сьветач ягоны — Ягня» (Адкрыцьцё 21:23).




Слава Новаму Ерусаліму. Стэйсі Лі (1970). Марка фірмы ZAZZLE, выдадзеная ў 2014 годзе

«Я падзяляю свой шлях веры праз свае мастацкія творы і пісаньні, які натхняе іх. Усё, што я ствараю, — гэта сапраўды малітва альбо размова з Богам» Стэйсі Лі.

Народу, які ляжаў мёртвы ў нетрах Вавілону, Езэкііль нагадваў пра жыцьцё. Голас Бога дрыжыць голасам Езэкііля і грыміць і заклікае памерлых, забытых, пакінутых, закінутых. Гасподзь кліча дзяцей сваіх дамоў. Ён зьбірае іх у сваю любоў. Уласна гэтая думка стала зьместам маркі Ізраіля, прысьвечаная пешым пасяленцам на Сьвятой зямлі.




Араты. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1976 годзе ў сэрыі «Піянэры»

На прывесцы маркі словы: «...і дам вам зямлю Ізраілевую» (Езэкііль 11:17).

Езэкііль прарочыў словамі Бога: «І будзеце жыць на зямлі, якую Я даў бацькам вашым, і будзеце Маім народам, і Я буду вашым Богам. І вызвалю вас ад усіх нечысьцяў вашых, і наклічу хлеб і памножу яго, і ня дам вам цярпець голад» (Езэкііль 36:28,29). Апошнія словы знайшлі месца на прывесцы маркі Ізраіля на габрэйскай і французскай мовах. Марка выдадзена з нагоды Сусьветнай кампаніі «Свабода ад голаду». На марцы сымбалічны малюнак далоні, якая пра-

пануе ежу маленькай птушцы і надпіс на габрэйскай мове: «Не голаду».




Свабода ад голаду. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1963 годзе

Больш за шэсьцьдзесят разоў Езэкііль у Кнізе Езэкііля выкарыстоўвае габрэйскае слова yadah (ведаць). Ведаць Бога. Для яго адна з прычын палону і ўсіх няшчасьцяў — гэта няведаньне народам свайго Бога. Гэта застаецца актуальным.

## Прарок Данііл — Прарок прадказальнік і тлумач

*...дух Божы ў табе і сьвятло і розум, і высокая мудрасьць выяўлена ў табе. (Данііл 5:1)*

### Юнацкія гады пры двары Навухаданосара

Прарок Данііл («бог мой судзьдзя») на ўсе гады стаў для габрэяў маральным аўтарытэтам, прыкладам паводзін у самых складаных і неспрыяльных абставінах.

У Вавілонскіх заваёўнікаў быў звычай, забіраць у заваяваных краінах у палон самых здольных юнакоў, але ў палоне забясьпечваць ім магчымасьць атрымаць найлепшую адукацыю, веды і ўменьні, авалодаць халдэйскай мовай (некалькі соцень знакаў), і самых здольных ставіць на кіруючыя пасады ў сваім царстве. Кадравая палітыка! Такі лёс спаткаў Данііла, які быў забраны ў палон у 7 ст. да Р. Х. Там яго чакала поўнае і жудасных і цудоўных падзей жыцьцё, там ён будзе займаць важныя пасады пры дварах некалькіх паганскіх цароў, але заставацца верным Адзінаму Богу і звычаям сваёй Радзімы.



Прарок Данііл (1508—1512). Мікеланджэла Буанароці. Фрэска. Сікстынская капэла, Ватыкан, Рым. Картмаксімум пошты Ватыкану, выдадзены ў 2008 годзе

На фрэсцы прарок намаляваны прыгожым, золатавалосым юнаком. Ён сядзіць на мармуровых прыступках, на ка-

ленях у яго велізарны фаліянт, які падтрымлівае маленькі хлопчык. Данііл усім корпусам нахіліўся ў бок, адной рукой прытрымліваючы кнігу, а другою нешта запісваючы на драўляным пюпітры.

Пры двары Навухананосара Даніілу даюць новае імя — Валтасар. «І цар гаварыў зь імі, і з усіх хлопчыкаў не знайшлося падобных на Данііла, Сэдраха, Місаха і Аўдэнага, і пачалі яны служыць перад царом. І ў кожнай справе мудрага ўразуменьня, пра што ні пытаўся ў іх цар, ён знаходзіў у іх дзесяць разоў вышэй за ўсіх чарадзееў і заклінальнікаў, якія былі ва ўсім яго царстве» (Данііл 1:19,20). Разам з трыма іншымі юнакамі Данііл устрымліваецца ад нячыстай ежы з царскага стала, але цудоўным чынам атрымлівае прыгажосьць і цялеснае здароўе.

«І даў Бог чатыром гэтым падлеткам веданьне і разуменьне ўсякай кнігі і мудрасьці, а Даніілу яшчэ даў разумець і ўсякія ўявы і сны» (Данііл 1:17).

### Незвычайны сон Навухананосара

Аднойчы Навухананосар (Навухананосар II (605–562 да Р.Х.) — Вавілонскі цар) убачыў незвычайны сон, але, прачнуўшыся раніцай, забыўся яго зьмест. Ён склікаў усіх мудрацоў і загадаў ім нагадаць яго сон і растлумачыць яго значэньне. Але ніхто не мог гэтага зрабіць. Навухананосар разгневаўся і хацеў пакараць сьмерцю мудрацоў, але Данііл запэўніў цара, што зможа выканаць яго загад. Праз некаторы час Данііл казаў цару: «Таямніцы, пра якую пытаецца цар, ня могуць адкрыць цару ні мудрацы, ні заклінальнікі, ні чарадзеі, ні вешчуны. Але ёсьць на нябёсах Бог, Які адкрывае таямніцы...» (Данііл 2:27,28).

Цару прысьніўся балван, у якога галава была Залатая, грудзі і плечы сярэбраныя, ніжняя частка цела ў яго была медная і ногі жалезныя, і ступні — упераметку жалеза з глінай.




Навухананосар. Блёк пошты Нігеру з сэрыі «Цуды сьвету. Вісячыя сады Вавілону», выдадзены ў 2012 годзе

Данііл тлумачыць, што гэта чатыры царствы, якія зьменяць адно на адно, але будуць разьбітыя. «І ў дні тых царстваў Бог Нябесны паставіць царства, якое вавек ня зруйнуецца, і царства гэтае ня будзе перададзена другому народу; яно струшчыць і разбурыць усе царствы, а самое будзе стаяць вечна, бо ты бачыў, што камень адарваўся ад гары сам, не рукамі, і струшчыў жалеза, медзь, гліну, срэбра і золата. Вялікі Бог даў знак цару, што станецца пасьля гэтага. І гэты сон пэўны, і разгадка яго правільная!» Тады цар Навухананосар упаў на аблічча сваё і пакланіўся Даніілу і загадаў прынесьці яму дарункі і ўсякія пахошчы; і сказаў цар Даніілу: «сапраўды ваш Бог ёсьць Бог над багамі і Валадар над царамі, Які адкрывае таямніцы, калі ты здолеў адкрыць гэтую таямніцу!»» (Данііл 2:44—47). Але ўслаўленьне і прызнаньне перавагі Адзінага Бога над

усімі астатнімі не прыводзіць Навуходаносар да адмовы ад сваіх багоў.

### Тры юнакі ў вогненнай печы

Цар Навуходаносар робіць залатога ідала і загадвае ўсім пакланяцца яму. Але сябры Данііла Сэдрах, Місах і Аўдэнага адмовіліся, кажучы, што будуць пакланяцца Адзінаму Богу. За гэта яны павінны быць кінутыя ў распаленую печ. Але гэта не палохае юнакоў: «Бог наш, Якому мы служым, мае сілу ўратаваць нас ад распаленай вогненнай печы, і ад тваёй рукі, цару, выбавіць» (Данііл 3:17).

«Тады мужы гэтыя былі зьвязаны ў сваім сподні і верхнім адзеньні, у галаўных павязках і ў іншым убраньні і ўкінуты ў распаленую вогненную печ» (Данііл 3:21).




Тры юнакі ў вогненнай печы. Арнамэнт на саркафагу 5 ст. Музэі Ватыкану. Марка пошты Ватыкану, выдадзеная ў 1977 годзе

Але зьдзіўлены цар убачыў «чатырох мужоў нязьвязаных, якія ходзяць сярод агню, і шкоды ім няма; а чацьвёртага выглядам падобнага да сына Божага. Тады Навуходаносар падышоў да вусьця распаленай вогненнай печы, і сказаў: „Сэдрах, Місах і Аўдэнага, рабы Бога Ўсявышняга! выйдзіце і падыдзеце!“ Тады Сэдрах, Місах і Аўдэнага выйшлі зь сярэдзіны агню» (Данііл 3:25,26).

### Вар’яцтва Навуходаносара

Наступны эпізод апавядае пра вар’яцтва Навуходаносара ў форме ўказа або ліста самога Навуходаносара, дзе ён кажа аб тым, што зь ім адбылося. Яму было нейкае бачаньне, сон, які ён не мог зразумець, і тады ён заклікаў Данііла, каб той яму патлумачыў.

У сьне цар бачыў велізарнае дрэва, пакрытае лісьцем, пад якім знаходзілася месца ўсякай птушцы і жывёле. Голас з нябёсаў загадвае сьсекчы гэтае дрэва і раскідаць плады, «але галоўны корань яго пакіньце ў зямлі, і няхай ён у кайданах жалезных і медных сярод польнай травы аброшваецца нябеснаю расою, і з жывёламі няхай будзе частка яго ў траве зямной. Сэрца чалавечае адымецца ў яго і дасца яму сэрца зьвярынае, і сем часінаў пройдуць над ім. Загадам Чувальнага гэта пастаноўлена, і паводле прыгавору Сьвятога назначана, каб ведалі жывыя, што Ўсявышні валадарыць над царствам чалавечым і дае яго, каму хоча, і становіць над ім нізкага зь людзей» (Данііл 4:12—14).

Данііл кажа цару: «Дрэва, якое ты бачыў, якое было вялікае і моцнае, вышынёю сваёю сягала да нябёсаў і відно было на ўсю зямлю, а лісьце было цудоўнае, і мноства пладоў і ежа на ўсіх, а пад ім жыла зьвярына польная і ў гольлі гнездаваліся птушкі нябесныя, гэта — ты, цару, які ўзьвялічаны і магутны, і веліч твая вырасла і сягнула да нябёсаў і ўлада твая — да краёў зямлі. А што цар бачыў Чувальнага і Сьвятога, Які сыходзіў зь нябёсаў і Які сказаў: сьсячэце дрэва і зьнішчыце яго, толькі галоўны корань яго

пакіньце ў зямлі, і няхай ён у кайданах жалезных і медных сярод польнай травы арашаецца расою нябеснаю, і з польнай зьвярыною няхай будзе частка яго, пакуль ня пройдуць над ім сем часінаў, дык вось сутнасьць гэтага, цару, і вось вызначэньне Ўсявышняга, якое спасьцігне гаспадара майго, цара: цябе адлучаць ад людзей, і пражываньне тваё будзе з польнай зьвярыною; травою карміцьмуць цябе, як вала, расою нябеснаю ты будзеш аброшаны, і сем часінаў пройдзе над табою, пакуль уведаеш, што Ўсявышні валадарыць над царствам чалавечым і дае яго, каму хоча. А што загадана было пакінуць галоўны корань дрэва, гэта азначае, што царства тваё застанецца пры табе, калі ты спазнаеш над сабою ўладу нябесную. Таму, цару, хай будзе даспадобы табе парада мая: акупі грахі твае праўдаю і твае правіны мілажалем да бедных; вось, чым можа падоўжыцца мір твой»» (Даніiл 4:17—24).




Апельсінавае дрэва. Марка пошты Іраку, выдадзеная ў 1959 годзе

Але цар не прыслухаўся да гэтых слоў. Праз год, абыходзячы свае раскошныя палацы, ён кажа: «Ці ня гэта велічны Вавілон, які пабудаваў я домам царства моцай маёй магутнасьці і на славу маёй велічы!» (Даніiл 4:27).

Як толькі гэтыя словы былі вымаўленыя, спраўдзілася прароцтва Даніiла. «Адлучаны быў ён ад людзей, еў траву, як вол, і аброшвалася цела ягонае расою нябеснаю, так што валасы ў яго вырасьлі як у льва, і пазногці яго — як у птушкі» (Даніiл 4:30).



Навухананосар. Уільям Блэйк (1757 — 1827). Манатыпія. Музэй вытанчаных мастацтваў Бостана. Капэрта пошты Гішпаніі, выдадзеная ў 2013 годзе

Сем гадоў быў Навахуданосар у такім стане. «А як скончыліся тыя дні, я, Навухананосар, узьвёў вочы мае да неба, і мой розум вярнуўся да мяне; і дабраславіў я Ўсявышняга, пахваліў і праславіў Вечнаіснага, валадарства Якога — валадарства вечнае і царства Якога — у роды і роды. І ўсе жывыя на зямлі ня значаць нічога; па волі Сваёй Ён чыніць як у нябесным войску, так і сярод жывых на зямлі, і няма нікога, хто мог бы ўсупрацівіцца Ягонай руцэ і сказаць Яму: што Ты зрабіў? У той час вярнуўся да мяне мой розум, і я вярнуўся да славы царства свайго, і вярнуліся да мяне самавітасьць і ранейшы мой выгляд; і знайшлі мяне мае радцы і вяльможы мае, і я быў зноў пастаўлены на царства маё, і веліч мая

яшчэ больш узвысілася» (Данііл 4:31—33).




Навухаданосар у агні падае над вадаспадам (1966—1968). Артур Бойд (1920 — 1999). Марка пошты Аўстраліі, выдадзеная ў 1999 годзе

У сваім творы Артур Бойд хіба нагадаў пра Ікара, які занадта наблізіўся да сонца і ў полымі ўпаў на зямлю.

Трагічныя падзеі з жыцьця Навуханосара сталі зьместам знакамітай опэры Джузэпэ Вердзі «Набука», або «Навуханосар « (італ.: Nabucco).




«Набука» — опэра Джузэпэ Вердзі. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 2013 годзе

На марцы прадстаўлены партрэт Вердзі на фоне Масады, дзе адбываецца опэрны фэстываль ізраільскай опэры. На калясьніцы Абігайль, прыёмная дачка Набука, цара Вавілонскага, якая пляные адабраць трон у бацькі і пакараць сьмерцю ўсіх палонных габрэяў.

### Валтасараў баль

Наступная гісторыя, зьвязаная зь імем Данііла, узбагаціла літаратуру і выяўленчае мастацтва захапляльным сюжэтам, вядомым як «Валтасараў баль».

Апошні Вавілонскі цар Валтасар учыніў баляваньне, на якім пасілкі сталі падаваць у посудзе, захопленым у Ерусалімскім храме.

Раптам у разгар весялосьці таямнічая рука накрэсьліла на сьцяне незразумелыя словы. Іх змог вытлумачыць толькі Данііл, які прадказаў хуткую гібель Вавілонскага царства. Увесь драматызм той хвіліны, калі на сьцяне з’яўляецца надпіс, па-майстэрску перадаў Рэмбрант у карціне «Валтасараў баль» (1635 г.).



Баль Валтасара (1635). Рэмбрант (1606 -1669). Нацыянальная галерэя. Лёндан. Картмаксімум пошты Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі, выдадзены ў 1987 годзе

Карціна прасякнутая адчуваньнем надыходзячай катастрофы. Пахіліўся

каштоўны посуд з зьняважанага Храму; нібы абараняючыся, бездапаможна выставіў наперад руку раскошна апрануты, але ўжо бясьсільны і варты жалю Валтасар. Ад напісанага на старажытнагабрэйскай мове прамяністага надпісу зыходзіць невядомая пагроза, і госьці ў жаху адхінаюцца ад яго. «Цар Валтасар над меру ўстрывожыўся, і выгляд ягонага твару зьмяніўся, і вяльможы ягоныя сумеліся» (Даніїл 5:9).

Зноў ніхто ня змог расшыфраваць таямнічы надпіс. Паклікалі Даніїла і ён сказаў: ты «узьнёсься супроць Госпада нябёсаў, і посуд храма Яго прынесьлі табе, і ты і твае вяльможы і наложніцы твае пілі зь яго віно, і ты славіў багоў срэбраных і залатых, медных, жалезных, драўляных і каменных, якія ня бачаць, і ня чуюць, і не разумеюць; а Бога, у руцэ ў Якога душа твая і ў Якога твае ўсе шляхі, ты не праславіў. За гэта і паслана ад Яго пясьць рукі, і накрэсьлена гэта пісаньне.

І вось што накрэсьлена: мэнэ, мэнэ, тэкэл, упарсін. Вось і разгадка слоў: мэнэ — вылічыў Бог царства тваё і паклаў канец яму; тэкэл — ты ўзважаны на вагах і важыш вельмі мала; пэрэс — падзелена царства тваё і аддадзена Мідзянам і Пэрсам»» (Даніїл 5:23—28).

Тае самае ночы Валтасар быў забіты.

**Даніїл у яме зь ільвамі**

Пасьля сьмерці Валтазара Даніїл стаў паднявольным Пэрсыдзкага цара Дарыя, які таксама паставіў яго на высокую пасаду кіраўніка. Зайздросныя вяльможы, ведаючы вернасьць Даніїла Адзінаму Богу, знайшлі спосаб пазбавіцца ад яго. Яны дамагліся, каб Дарыем быў «выдадзены загад, каб, хто трыццаць дзён будзе прасіць якога-небудзь іншага бога альбо чалавека, акрамя цябе, цару, таго кінуць у львіную яму» (Даніїл 6:7).

Даніїл парушыў забарону, ён як маліўся свайму Богу, так і працягваў маліцца. «Тады адказвалі яны і сказалі цару, што „Даніїл, які — з палонных сыноў Юдэі, не зважае ні на цябе, цару, ні на ўказ, табою падпісаны, а тры разы на дзень моліцца сваімі малітвамі“» (Даніїл 6:13). Засмучаны цар ня мог не выканаць свой указ і Даніїл быў кінуты ў яму зь ільвамі.

Здаецца Даніїл у жаху, што не адпавядае зьместу ў Біблії.




Даніїл у яме зь ільвамі (1616). Пітэр Паўль Рубенс (1577—1640). Нацыянальная галерэя, Вашынгтон. Спэкулятыўны блёк неіснуючай краіны Тонга, выдадзены ў 2010 годзе

Усю ноч Дарый не мог заснуць, перажываючы за Даніїла, «Раніцай цар устаў на сьвітаньні і пасьпешліва пайшоў да львоўніка і, падышоўшы да рова, жаласным голасам клікнуў Даніїла, і сказаў цар Даніїлу: „Даніїле, рабе Бога жывога! Бог твой, Якому ты заўсёды служыш, ці мог цябе ўратаваць ад ільвоў?“ Тады Даніїл сказаў цару: „цару, вавекі жыві! Бог мой паслаў Свайго анёла і замкнуў пашчы львам, і яны не пашкодзілі мне, бо я быў перад Ім чысты, ды і перад та-

бою, цару, я не зрабіў злачынства“» (Данііл 6:19—22).

На блёку пошты Лібэрыі Данііл спакойна размаўляе з львом без ніякіх праяваў страху.




Данііл у яме зь ільвамі. Блёк Лібэрыі, выдадзены ў 2006 годзе

На маляўнічым лісьце Гаяны намаляваны Анёл, які ўратаваў Данііла.




Данііл у яме зь ільвамі. Марачны ліст пошты Гаяны, выдадзены ў 1994 годзе

Дарый загадаў вызваліць Данііла і кінуць у яму даносчыкаў. Як толькі гэтыя людзі апынуліся ў яме, галодныя львы адразу іх разадралі. Пасьля гэтага гаворыцца, што Дарый выдаў указ аб тым, каб ва ўсіх абласьцях пачыталі Бога Данііла. Але гэты ўказ ніяк не адмяніў ідалапаклонства.




«Старажытнапэрсыдзкі цар Дарый, Камбіс і Гігес з посахамі ў руках». Хроніка Манасіі 14 ст. Марка пошты Баўгарыі, выдадзеная ў 1969 годзе

**Сын Чалавечы**

Першае запісанае Даніілам бачаньне адбылося ў першы год праўленьня Валтасара. Данііл бачыць чатыры зьвера, якія сымбалізуюць зямныя царствы, што губяць род чалавечы, як зьвяры. Гэта бачаньне канчаецца бачаньнем вечнага Царства Сына, дзе гаворыцца: «Бачыў я нарэшце, што пастаўленыя былі троны, і сеў Спрадвечны днямі; адзеньне на Ім было белае, як сьнег, і валасы на галаве Яго — як чыстая воўна, трон Яго — як вогненнае полымя, колы ў ім — палымяныя агонь. Агнявая рака плыла і праходзіла перад Ім; тысяча тысяч служылі Яму і цьма цьмоў стаялі перад Ім; судзьдзі селі, і разгарнуліся кнігі. Бачыў я тады, што за маўленьне пагардлівых слоў, якія гаварыў рог, зьвер быў забіты на маіх ва-

час, і цела ягонае струшчана і аддадзена на спаленьне агню. І ў астатніх зьвяроў адабрана ўлада іхняя, і абсяг жыцьця дадзены ім толькі на час і на гадзіны» (Даніїл 7:9—12).




Сьвятая Троіца. Бізантыйская мініятура 12 ст. Марка пошты Аўстрыі, выдадзеная ў 1981 годзе

«Бачыў я ў начных уявах, вось, з аблокамі нябеснымі ішоў як бы Сын Чалавечы, дайшоў да Спрадвечнага днямі і падведзены быў да Яго. І Яму дадзена ўлада, слава і царства, каб усе народы, плямёны і роды служылі Яму; валадарства Ягонае — валадарства вечнае, яно ня мінецца, і царства Ягонае не разбурыцца» (Даніїл 7:13,14).

Хто такі «як бы Сын Чалавечы» у бачаньні Даніїла? Ва ўсіх Эвангельлях Ісус называў сябе «Сынам Чалавечым». Ніхто больш у Эвангельлях не называў яго «Сынам Чалавечым», толькі перад пабіцьцём камянямі Сьвяты Сьцяпан сказаў: «вось, бачу я нябёсы расчыненыя і Сына Чалавечага, Які стаіць праваруч Бога» (Дзеі 7:56). (Выраз «Сын чалавечы» з'яўляецца 81 раз у Эвангельляў і ў Старым запавеце больш за сто разоў).




Сын Чалавечы Ісус Хрыстос. Марка пошты Балівіі, выдадзеная ў 1939 годзе

**Прароцтва аб сямідзесяці тыднях**

Трэцяе бачаньне называецца прароцтвам аб сямідзесяці тыднях.




Архангел Гаўрыіл. Картмаксімум пошты Люксэмбургу, выдадзены ў 1986 годзе

Данііл маліўся Богу аб народзе Ізраільскім і аб тым, каб Ён выканаў абяцанае і ў гэты 70-ы год вывеў народ з палону і дараваў яму прабачэньне. Яму зьяўряецца Архангел Гаўрыіл і кажа: «Данііле! цяпер я прыйшоў, каб умудрыць цябе ў разуменьні. На пачатку маленьня твайго выйшла слова, і я прыйшоў абвясьціць яго табе, бо ты — муж жаданьняў; дык вось, пранікні ў слова і ўразумей уяву. Семдзесят тыдняў вызначана твайму народу і сьвятому гораду твайму, каб пакрыта было злачынства, мера грахоў перапоўнілася і спакутавана віна, і каб прыведзена была вечная праўда і спраўдзіліся ўява і прарок і каб памазаны быў Сьвяты Сьвятых» (Данііл 9:22—24).




Ізенгэймскі алтар. Нікалаус Гагенаўэр (1445 — 1538), Маціяс Груневальд (1512–1516). Блёк пошты Лесота, выдадзены ў 1985 годзе

Перад намі малюнак жудаснай агоніі змардаванага цела Хрыста, якое курчыцца ад болю ад цьвікоў, убітых у Яго рукі і ногі. Гэта цела, пакрытае язвамі і спаласаванае шыпамі бізуна, павінна было выклікаць жах у хворых, але таксама не пакідала сумненьняў у пакутах Хрыста, такім чынам суцяшаючы іх у зносінах з Збаўцам, чый боль яны падзялялі. «Хрыстос цярпеў і нас заклікаў». Пабожнаму Даніілу адкрываюцца ва ўявах карціны будучыня свайго народа і ўсяго чалавецтва. «Дык ведай і разумей: ад часу, як выйдзе загад, каб адбудаваць Ерусалім, да Хрыста Ўладара сем тыдняў і шэсьцьдзесят два тыдні; і вернецца народ і адбудуюцца вуліцы і муры, але ў цяжкія часіны. І як скончацца шэсьцьдзесят два тыдні, аддадзены будзе на сьмерць Хрыстос, і ня будзе; а горад і сьвятыню разбурыць народ правадыра, які прыйдзе, і канец яго будзе як ад паводкі, і да канца вайны будуць спусташэньні» (Данііл 9:25,26).

Ерусалім і Храм былі разбураны рымлянамі, тысячы Юдэяў — забітыя.



Арка Ціта (81 ад Р.Х.). Барэльеф. Рым. Картмаксімум пошты Ізраілю, выдадзены ў 2018 годзе

Арка Ціта была ўзьведзена ў Рыме пасьля таго, як рымляне разграмілі Вялікае паўстаньне і разбурылі Другі храм. На арцы знаходзіцца барэльеф, які паказвае пераможнае шэсьце рымскіх салдат, якія нясуць Храмавую Мэнору, сымбаль разгромленай юдэйскай дзяржавы.

**Адкрыцьцё**

Апошняе бачаньне наведала Данііла на трэцім годзе праўленьня Кіра, цара

Пэрсыдзкага ў 536 годзе да Р. Х. шмат Юдэяў ужо вярнулася ў той час з палону на радзіму і пачало да аднаўленьня храма. Сам Данііл заставаўся ў Вавілоне. Яму аб'явіўся «чалавек, апрануты ў ільняную вопратку, і сьцёгны яго перапяразаны золатам з Уфаза. Цела яго — як тапаз, твар яго — як выгляд маланкі; вочы яго — як запаленыя сьвяцільні, рукі яго і ногі яго з выгляду — як бліскучая медзь, і голас слоў ягоных — як голас мноства людзей» (Данііл 10:5,6). Анёл прыйшоў да Данііла, каб паведаміць яму аб будучых лёсах габрэйскага народу. Ён прынёс яму адкрыцьцё аб будучых войнах паміж Ізраілем і блізкімі народамі і адносна далёкімі, якія працягнуцца, пакуль народу Данііла не будзе дадзены сьвет Князем сьвету, Які прыйдзе. Напрыканцы Анёл сказаў: «Рэштаю я абвяшчу табе, што накрэсьленае ў кнізе праўды; і няма нікога, хто падтрымаў бы мяне ў гэтым, акрамя князя нашага Міхаіла» (Данііл 10:21).




Анёл. Ірэн фон Трэскоў. Марка пошты Вялікабрытаніі, выдадзеная ў 1998 годзе

11 і 12 главы Кнігі Данііла — гэта старазапаветны Апакаліпсіс. Самая складаная, але дзіўная 11 глава кнігі Прарока Данііла — самае доўгае бесьперапыннае прароцтва ва ўсёй Бібліі, якое пакрывае бесьперапынную чараду падзей больш чым на дзьве з паловай тысячы гадоў наперад! Кніга прарока Данііла блізкая да Адкрыцьця Яна Багаслова і ёсьць зьвяном, якое злучае паміж сабой Стары Запавет і Новы Запавет.




Архангел Міхаіл. Картмаксімум пошты Францыі, выдадзены ў 1966 годзе

«І паўстане ў той час Міхаіл, вялікі князь, які будзе стаяць за сыноў свайго народу; і настане цяжкі час, якога ня бывала з тых часоў, як існуюць людзі, да гэтага часу; і ўратуюцца ў гэты час з народу твайго ўсе, якія знойдзены будуць запісанымі ў кнізе. І многія, якія сьпяць у пыле зямлі, прачнуцца, адны на жыцьцё вечнае, другія на вечнае паганьбеньне і пасаромленьне. І разумныя будуць зьзяць, як сьвяцілы на цьвердзі, і тыя, што павярнулі людзей да праўды, — як зоркі, вавекі, назаўсёды. А ты, Данііле, захавай гэтыя словы і запячатай гэтую кнігу да апошняга

часу; многія прачытаюць яе, і памножацца веды» (Данііл 12:1—4).

«Дабрашчасны, хто чытае і слухае словы прароцтва гэтага і выконвае напісанае ў ім; бо час блізкі» (Адкрыцьцё 1:3).

## Абарона Даніілам нявіннай Зузаны

*І Данііл стаў вялікі перад народам з таго дня і потым. (Данііл 13:64)*

У апавяданьні аб Зузане і старцах не адбываецца нічога цудоўнага. Абараняе невінаватых і карае няправедных не сам Бог, а Яго Прарок Данііл.




Зузана ў купальні (1526). Альбрэхт Альтдорфер (1480–1538). Старая пінакатэка, Мюнхэн. Блёк пошты Емэну, выдадзены ў 1971 годзе

Зузана (іўр. Шошана — «лілея») была праведнай і сьціплай жонкай багатага габрэя Ёакіма, які жыў у Вавілоне. Яна адрозьнівалася прыгажосьцю і веданьнем законаў рэлігійнай практыкі юдаізму. Калі мужа не бывала дома, у доўгія гарачыя паўдзённыя гадзіны Зузана праводзіла вольны час у сваім садзе.

Альтдорфер намаляваў маладую жанчыну апранутай: служанкі прычэсваюць ёй валасы і абмываюць ногі. Зьлева за кустамі бачныя падгледачы. Справа па прыступках падымаецца служанка з гарлачом і лілеямі — сымбалям чысьціні і бязгрэшнасьці. Большую частку прасторы карціны займае малюнак нейкага грандыёзнага архітэктурнага збудаваньня, якое, верагодна, зьяўляецца палацам Ёакіма, мужа Зузаны.

Тэма перасьледу нявіннай Зузаны была любімым сюжэтам мастакоў, пачынаючы з эпохі Адраджэньня.

Двое старцаў падпільнавалі падчас купаньня прыгажуню Зузану і падглядаюць за ёю.




Зузана і старцы (1955). Якопа Тынтарэта (1518/1519—1594). Музэй гісторыі мастацтваў, Вена. Блёк пошты Манамы, выдадзены ў 1971 годзе

Зузана выходзіць з купальні сузіраючы фантастычна прыгожую прыроду. За ёй, выглядаючы са сваіх хованак,

у недарэчных позахназіраюць два старцы. Не ў стане стрымацца, яны вылазяць з хованкі і вырашылі рашуча дамагацца сваёй мэты.




Зузана ў лазьні (каля 1636/39). Пітэр Рубенс (1577 — 1640). Калекцыі жывапісу Баварыі, Альтэ Пінакатэк, Мюнхэн. Марка пошты Нікарагуа, выдадзеная ў 1971 годзе

На карціне Франца фон Штука Зузана убачыла старцаў і засланяе сябе ад іх.




Зузана і два старцы (1913). Франц фон Штук (1863—1928). Прыватная калекцыя. Марка пошты Самалі, выдадзеная ў 2003 годзе

Рубенс не аднойчы зьвяртаўся гісторыі Зузаны. На гэта карціне Зузана засьпетая зьнянацку. Адзін з старых зрывае з жанчыны пакрывала, іншы, нагнуўшыся, угаворвае яе. Пастава і выраз твару Зузаны перадаюць сорам і страх. Кантраст пажадлівай старасьці і квітнеючай маладосьці дае адчуць перамогу цноты над нікчэмнымі інстынктамі. Унутраная чысьціня выказана праз фізычную прыгажосьць.




Зузана і старэйшыны (1601—1602). Пітэр Паўль Рубенс (1577—1640). Італія, Рым, Галерэя Боргезэ. Спекулятыўны блёк неіснуючай краіны Тонга, выдадзены ў 2010 годзе

На карціне Брэйгеля Зузана як бы яшчэ не зразумела ўсёй небясьпекі, успрыняла ўчынак старцаў, як недарэчны жарт і ветліва прапануе пакінуць яе ў спакоі. Але яны кажуць: «Вось дзьверы саду зачынены, ніхто нас не бачыць.

А мы прагнем цябе, таму згадзіся з намі і аддайся нам» (Данііл 13:20).




Зузана і старцы. Ян Брэйгель Малодшы (1601—1678). Прыватная калекцыя. Картмаксімум пошты Парагваю, выпушчаны ў 1983 годзе

Але намеры ў старэйшын зусім не жартаўлівыя.




Зузана і старцы (1620—1625). Гвіда Рэні (1575 — 1642). Нацыянальная галерэя, Лёндан. Марка пошты Экватарыяльнай Гвінэі, выдадзеная ў 1978 годзе

Гвідо Рэні ілюструе эпізод, калі адзін старац юрліва стараецца зьняць з Зузаны покрыва і прыкладвае пальцы ды вуснаў, загадваючы ёй маўчаць, а другі дрыготка падымае руку, гатовы дакрануцца ды яе. Яна хапаецца за сваю драпіроўку, спрабуючы прыкрыцца, не разумеючы, што адбываецца.

Зузана нэрвова сьціскае чырвоную драпіроўку і адхіляецца, павярнуўшыся тварам да надаедлівых старых, якія ўжо пачалі пагражаць: «Калі ж адмовішся, мы засьведчым супраць цябе, што ты была з юнаком і пагэтаму загадала служанкам выйсці» (Данііл 13:21). А не паверыць нам ня могуць — мы ж судзьдзі! — і цябе пакараюць сьмерцю.




Зузана і старэйшыны (1958). Якаў ван Ло (1614—1670). Музэй Кельвінгроў, Глазга. Марка пошты Сан-Томе і Прынсэп, выдадзеная ў 2015 годзе

Для Зузаны зьдзейсьніць грэх у вачах Бога страшней любога людзкога суда і пакараньня. «Зузана ўздыхнула і сказала: Я ў цалкам безвыходным становішчы. Калі зраблю гэта, то сьмерць мне, калі не зраблю, то не ўцяку з рук вашых. Аднак лепей, калі я не зраблю гэтага

і патраплю ў вашыя рукі, чым зграшу перад абліччам Бога» (Данііл 13:22—23).



Зузана і старэйшыны (1713). Себасьцьян Рычы (1659 −1734). Дэваншырская Калекцыя, Чатсворт (Дэрбішыр). Марка пошты Малаві, выдадзеная ў 2010 годзе

І стала клікаць на дапамогу — але куды ёй, слабой жанчыне, было перакрычаць двух, хай і пажылых, але цалкам яшчэ моцных дзядзькаў! Старцы склікалі народ і абвясьцілі, што яны застукалі перaлюбніцу — яна, маўляў, адаслала служанку зачыніць вароты, а сама аддалася граху пад дрэвам (вось гэта яны дарма сказалі!) з нейкім юнаком, які, убачыўшы іх, сігануў праз плот і быў такі. Народ быў абураны, і па ўсім выходзіла — быць Зузане забітай камянямі. Але адразу гэтага зрабіць было нельга, трэба было выканаць усе фармальнасьці, правесьці суд, вынесьці прысуд. Таму Зузану павялі па вуліцах да месца правядзеньня суда і меркаванага пакараньня. Падчас суда Зузана нічога не кажа, не абараняецца, не спрабуе растлумачыць, не крычыць, а толькі моліцца. Суд паверыў старэйшынам і вынес жанчыне сьмяротны прысуд. Тады «Залямантавала Зузана гучным голасам і сказала: Божа вечны, які загадвае патаемнае і дасьведчаны ўсё раней быцьця яго! Ты ведаеш, што яны ілжыва сьведчылі супраць мяне, і вось, я паміраю, не зрабіўшы нічога, што гэтыя людзі злосна выдумалі на мяне. І пачуў Гасподзь голас яе (Данііл 13:42—44). Бог паслаў Данііла, які засумняваўся ў справядлівасьці абвінавачваньня. Ён пачаў дапытваць старцаў кожнага паасобку, і неўзабаве стала відавочна, што іх паказаньні не супадаюць. Хлусьлівых абвінаваўцаў прысудзілі да сьмерці, а Зузану апраўдалі. «і нявінная кроў была захавана ў той жа дзень. Але Хілкія і яго жонка хвалілі Бога за дачку, Сусанна, з Ёакім, яе муж, і ўсе яе сваякі, бо ў ёй не знайшлося ганьбы. І таму Данііл стаў выдатным у вачах людзей з таго дня, і пасля гэтага» (Данііл 13:62—64).

Малюнак Зузаны можна знайсьці ў раньнім хрысьціянскім мастацтве рымскіх катакомбаў. З той пары зьявілася больш за сотню мастацкіх палотнаў пра кранальную гісторыю Зузаны.

Можа паказацца, што гэта, мабыць, самы эратычны сюжэт Бібліі пра пажадлівасьць. Але не. Ён не пра шаленства старшынь, і нават не пра крыважэрнае жаданьне помсты, не пра мудрасьць Прарока Данііла, упершыню ў гісторыі ўжыўшага перакрыжаваны допыт, нават не пра чысьціню і вялікую веру Зузаны... Усё глыбей. Неўміручы сюжэт «Зузана і старцы», упадабаны жывапісцамі, аб перамозе праўды над хлусьнёй. А яшчэ гісторыя прыгажуні Зузаны адказвае на адно з самых фундамэнтальных пытаньняў сьветабудовы: «хто ж нас усё ж такі бачыць, калі не бачыць ніхто?» Важна зразумець, што ёсьць той, ад каго нічога не схаваеш. І важней быць справядлівым у вачах Госпада, чым у вачах людзей. Праўда рана ці позна пераможа. Як і здарылася з Зузанай. А выразная фармулёўка гэтага духоўнага закону прагучыць ужо ў Эвангельлі з вуснаў Хрыста: «Няма

нічога таемнага, што ня выйшла б на яву; і нічога няма схаванага, што ня выйшла б наверх» (Паводле Марка 4:22).

## Перамога Данііла над бажаством Бел і драконам

Бажаство Бел (Віл) займаў цэнтральнае месца ў пантэоне багоў Вавілоніі, таму Данііл валодаў немалой мужнасьцю і верай, калі адважыўся на барацьбу супраць яго.

«Быў у Вавілонцаў ідал, па імя Віл, і трацілі на яго кожны дзень дваццаць вялікіх мер пшанічнай мукі, сорак авечак і віна шэсьць мер. Цар шанаваў яго і хадзіў кожны дзень пакланяцца яму; а Данііл пакланяўся Богу свайму. І сказаў яму цар: чаму ты не пакланяешся Вілу? Ён адказваў: бо я не пакланяюся ідалам, зробленым рукамі, але пакланяюся жывому Богу, Які стварыў неба і зямлю і валадарыць над усякім целам» (Данііл 14:3—5).

Дакладна гэты эпізод адлюстраваў Рэмбрант на карціне Данііл і цар Кір ля ідала Віла. На карціне Данііл схіліўшыся слухае цара. Кір стаіць ля ідала, паказваючы на на яго жэзлам. На другім пляне стаяць занепакоеныя сьвятары. Цар настаяў, што Віл жывы бог і паказваў на прынашэньні ежы і віна, якія спажываў кожны вечар Віл і кожную ноч. «Данііл, усміхнуўшыся, сказаў: не ашуквайся, цар; бо ён унутры гліна, а звонку медзь, і ніколі ні еў, ні піў. Тады цар, угневаўшыся, заклікаў жрацоў сваіх і сказаў ім: калі вы не скажаце мне, хто зьядае ўсё гэта, то памраце. Калі ж вы дакажаце мне, што зьядае гэта Віл, то памрэ Данііл, таму што вымавіў блюзьнерства на Віла. І сказаў Данііл цару: хай будзе паводле слова твайго» (Данііл 14:3—5). На марцы мы бачым толькі дэталь карціна з царом Кірам.

Жрацы, якіх было семдзесят чалавек, не лічачы іх жонак і дзяцей, сказалі цару, што яны ўсе сыходзяць, а ён павінен пакінуць ахвяраваньні, замкнуць дзьверы і запячатаць іх сваёй пячаткай.




Данііл і цар Кір ля ідала Віла (1633). Дэталь. Рэмбрант ван Рэйн (1606—1669). Музэй Дж. Пола Гэці, Лос-Анджэлес, Злучаныя Штаты Амэрыкі. Марка пошты Лібэрыі, выдадзеная ў 2006 годзе

І калі ён раніцай знойдзе дары, то яны згодныя памерці, а калі бажаство іх забярэ — Данііл узьвёў паклёп на іх. Хітрасьць жрацоў заключалася ў тым, што яны мелі таемны ход і кожную ноч усе разам траплялі ў храм і зьядалі дары. Ведаючы пра гэта Данііл загадаў Сваім слугам прынесьці попелу і расьсеяць па ўсім храме ў прысутнасьці аднаго толькі цара. Пасьля гэтага дзьверы былі зачыненыя і змацаваныя царскай пячаткай. Ноччу прыйшлі, як звычайна, жрацы з жанчынамі і дзецьмі і ўсё паелі і павыпі-

валі. Раніцай цар у суправаджэньні Данііла праверылі цэласнасьць пячаткі на дзьвярах і адчынілі дзьверы храму. «І як хутка адчыненыя былі дзьверы, цар, зірнуўшы на стол, усклікнуў гучным голасам: вялікі ты, Віл, і няма ніякага падману ў табе! Данііл, усьміхнуўшыся, утрымаў цара, каб ён не ўваходзіў унутр, і сказаў: паглядзі на падлогу і заўваж, чые гэта сьляды. Цар сказаў: бачу сьляды мужчын, жанчын і дзяцей. І, угневаўшыся, цар загадаў схапіць жрацоў, іх жонак і дзяцей, і яны паказалі патайныя дзьверы, якімі яны ўваходзілі і зьядалі, што было на стале. Тады цар загадаў забіць іх і аддаў Віла Даніілу, і ён разбурыў яго і храм ягоны». (Даніїл 14:18—22).

Наступная справа аб лютым цмоку, якога кармілі і якому пакланяліся вавіляняне.




Цмок. Блёк пошты Гвінэі, выдадзены ў 2012 годзе

«І сказаў цар Даніілу: не скажаш і пра гэта, што ён медзь? вось, ён жывы, і есьць і п'е; ты не можаш сказаць, што гэты бог нежывы; такім чынам пакланіся яму. Данііл сказаў: пакланяюся Госпаду Богу майму, таму што Ён Бог жывы. Але ты, Цар, дай мне дазвол, і я заб'ю дракона без мяча і жазла. Цар сказаў: даю табе. Тады Данііл узяў смалы, тлушчу і валос, зварыў гэта разам і, зрабіўшы з гэтага ком, кінуў яго ў пашчу цмоку, і цмок расьсеўся. І сказаў Данііл: вось вашыя сьвятыні!» (Данііл 14:24—27). Абураныя гэтым учынкам вавіляняне запатрабавалі пакараньня Данііла. «І калі цар убачыў, што яны моцна настойваюць, прымушаны быў аддаць ім Данііла, яны ж кінулі яго ў роў ільвіны, і ён прабыў там шэсьць дзён» (Данііл 14:30—31). Так Данііл другі раз апынуўся ў рове зь ільвамі.




Дарый паслаў Данііла ў львіны роў. Апакаліпсіс. Ілюстрацыя Беатуса з Льебаны 11 ст. Нацыянальная Бібліятэка. Мадрыд. Марка пошты Гішпаніі, выдадзеная ў 1975 годзе

«Быў у Юдэі прарок Абакум, які, зварыўшы поліўку і накрышыўшы хлеба ў страву, ішоў на поле, каб аднесьці гэта жнеям. Але Анёл Гасподні сказаў Абакуму: занясі гэты абед, які ў цябе, у Вавілон да Данііла, у роў ільвіны. Абакум сказаў: гаспадару! Вавілона я ніколі не бачыў і рова ня ведаю. Тады Анёл Гасподні ўзяў яго за цемя і, падняўшы яго

за валасы галавы ягонай, паставіў яго ў Вавілоне над ровам сілаю Духа Свайго. І паклікаў Абакум і сказаў: Данііл! Данііл! вазьмі абед, які Бог паслаў табе» (Данііл 14:33—37). На марцы бачым, як Анёл, узяўшы за валасы, нясе Прарока Абакума ў Вавілон да Данііла.

«На сёмы дзень прыйшоў цар, каб паскарбець пра Данііла і, падышоўшы да рова, зірнуў у яго, і вось, Данііл сядзеў. І ўсклікнуў цар гучным голасам, і сказаў: Вялікі Ты, Гасподзь Бог Даніілаў, і няма іншага апрача Цябе! І загадаў выняць Данііла, а вінаватых у яго погубе кінуць у роў, — і яны адразу былі зьедзены ў прысутнасьці яго» (Данііл 14:40—42).




Дарый паслаў Данііла ў львіны роў. Марка пошты Кюрасаа, выдадзеная ў 2019 годзе

На гэтым заканчваецца Кніга Данііла. «У кнізе мы знаходзім асаблівую апакаліптычную біблейскую філязофію гісторыі: сьвет не паляпшаецца а працэсе гісторыі і не хіліцца да заняпаду (як думалі язычнікі); але павялічваецца палярызацыя — узрастаюць абодва полюса, якія дабраславенны Аўгустын называў градам Божым і градам зямным. Па меры іх росту барацьба паміж імі становіцца ўсё больш жорсткай» Аляксандар Мень.

Жыцьцю Сьвятога і тлумачэньню яго пісаньня прысьвечаны дзясяткі кніг і дасьледаваньняў. Аб ім пішуць багасловы-біблеісты і гісторыкі на працягу многіх гадоў. У 2013 годзе амэрыканскі рэжысэр Ганна Цалінскі зьняла паўтарагадзінны мастацкі фільм «Кніга Данііла», прысьвечаны біяграфіі Прарока. Гістарычная драма беражліва трактуе Біблейскі сюжэт і ставіць акцэнт на маральным выбары героя паміж служэньнем цару і вернасьцю Богу.

Данііл правёў апошнія гады жыцьця ў прароцкіх сузіраньнях лёсу свайго народу і вылічыў час вызваленьня юдэяў з вавілонскага палону. У 536 да Р. Х. Прарок Данііл памёр у Вавілоне.




Вавілон. Архітэктурныя помнікі. Марка пошты Іраку, выдадзеная ў 2009 годзе

«Многія ачысьцяцца, адбеляцца і ператоплены будуць у спакушэньні; несправядлівыя будуць несправядлівымі, і не зразумее гэтага ніхто з несправядлівых, а мудрыя зразумеюць" (Данііл 12:10).

# Вавілонскі палон

## Вавілон

*І Вавілон, акраса царстваў, гонар Халдэяў, будзе зруйнаваны Богам, як Садома і Гамора... (Ісая 13:19)*

У 78 вершах успамінаецца Вавілон у Бібліі. Але дзьвесьце гадоў таму навукоўцы сумняваліся, ці існаваў калі-небудзь у рэчаіснасьці Вавілон. Аднак, у 1898 г. Вавілон быў адкрыты і вернуты з небыцьця. Раскопкі, якія рабіліся нямецкім археолягам Робертам Ёганам Калдэвевым дазволілі аднавіць аблічча старажытнага горада і яго гісторыю. Археолягі даказалі, што першыя камяні ў яго падставы былі закладзены шумерамі і заснаваны Німродам, праўнукам Ноя (Быцьцё10:9,10), ў пачатку III тысячагодзьдзя да Р.Х., але сталіцай дзяржавы горад стаў у XVIII ст. да Р.Х.

На першай марцы: Руіны амфітэатру ў Вавілоне; Статуя Гудэя — кіраўніка Мэсапатамскай цывілізацыі (2141 па 2122 год да Р.Х.), прысьвечаная богу Нінгішыда. Люўр.

На другой марцы: Вароты багіні Іштар, 575 да Р.Х.; Кінжал, узяты з каралеўскіх могілак у Уры каля 2400 да Р.Х.

На трэцяй марцы: Зіггурат у Уры, 2400 да Р.Х.; Каралеўская гульня з Ура, 2600—2400 да Р.Х.

На чацьвёртай марцы: Шумерская мазаіка — леў на варотах Вавілону; Адміністрацыйны пляншэт з цыліндрычнай пячаткай, якая паказвае мужчынскую постаць, паляўнічых сабак, дзікоў. 3100—2900 да Р. Х. Блізкі Усход, Мэсапатамія;

На полі блёку: карта Мэсапатаміі і рака Еўфрат; Зігурат у Уры, 2100 да Р.Х., Мэсапатамская Стэла з сьвятаром бога Шара Ушумгалам, 2900—2600 да Р.Х.




Старажытныя Мэсапатамскія цывілізацыі. Блёк пошты Цэнтральна — Афрыканскай Рэспублікі, выдадзены ў 2012 годзе

Цяпер мы ведаем, што Вавілон — старажытны горад у Паўднёвай Мэсапатаміі — быў адным з першых гарадоў у сьвеце. Пры цары Хамурапі (1792 — 1750 да Р.Х.) Вавілон ператварыўся ў найбуйнейшы палітычны і культурны цэнтр усёй пярэдняй Азіі. Археолягі знайшлі яго назву на многіх надпісах і таблічках. Праз паўтары сотні гадоў пасьля Хамурапі Вавілонская дынастыя пала. Вавілон зноў падняўся ў XIII — XI да Р. Х. Ён змагаецца супраць новых магутных ворагаў: Асырыі і Элама, неаднаразова атрымлівае страшнае спусташэ-

ньне, зьнемагае, нарэшце, трапляе ў VIII да Р.Х. пад уладу асырыйцаў. У 612 годзе да Р.Х. на Асырыю напалі суседзі — Вавілон і Мідыя, — і панаваньню Асырыі быў пакладзены канец. Пачаўся новы пэрыяд уздыму Вавілона.




Цар Хамурапі (зьлева) і сонечны бог Шамаш (рэльеф верхняй часткі слупа Зводу Законаў), Люўр. Марка пошты Іраку, выдадзеная ў 2019 годзе

У 626 да Р.Х. ён становіцца сталіцай Вавілонскай імпэрыі. Вавілон дасягае піка свайго росквіту ў часы праўленьня Навуходаносара II, стаўшы цудам старажытнага сьвету.




Вавілон. Марка пошты Іраку, выданая ў 2019 годзе з нагоды ўключэньня Вавілону ў Сьпіс ЮНЭСКА

Горад стаў магутнай крэпасьцю, акружанай некалькімі радамі сьцен 26 мэтраў у шырыню і 62 мэтры ў вышыню і 18 км у акружнасьці, празь які працякала рака Еўфрат. Назва горада стала сымбалізаваць усю імпэрыю. У пэрыяд праўленьня Навуходаносара тысячагадовы Вавілон ператварыўся ў найбуйнейшы горад старажытнага Усходу з насельніцтвам каля двухсот тысяч чалавек. Вавілон набыў цудоўны выгляд. Вонкавая цагляная абліцоўка будынкаў была пакрытая глазурай і размаляваная ў розныя колеры. Вонкавыя сьцены былі жоўтыя, вароты — блакітныя, палацы — ружова — чырвоныя, а храмы — белыя з залатымі купаламі. Па загадзе цара было ўзьведзена мноства новых збудаваньняў; тры зь іх сталі сапраўды легендарнымі: Вісячыя сады Семіраміды, Зіккурат Этэменанкі («Вавілонская вежа») і Вароты Іштар, з вядучай да іх дарогай для працэсій. Апошні помнік дайшоў да нас калі не ў арыгінале, то ў выглядзе, дастаткова да яго блізкім, убачыць яго можна ў Пэргамскім музэі Бэрліна.




Вісячыя сады Семіраміды. Марка пошты Малі, выдадзеная ў 1997 годзе

«Вісячыя сады Вавілона» — адно з сямі цудаў старажытнага сьвету. Яны былі пабудаваны царом для сваёй жонкі, як успамін аб яе радзіме. Сады на фундамэнце з арачнымі зводамі і падымаліся ўвышыню на 75 мэтраў.

На другі пляне відаць храм бога Мардука і Зіккурат (Вавілонская вежа). Пер-

шы зікурат на месцы Этэменанкі быў узьведзены яшчэ ў часы цара Хамурапі. Пры Навухананосары II грандыёзнае будаўніцтва было завершана. Як сьведчаць клінапісныя таблічкі, цар сам удзельнічаў у будаўніцтве вежы, падымаючы наверх кошыка з цаглінамі.

Вежа падымалася гіганцкімі тэрасамі, пастаўленымі адна на адну; чым вышэй, тым памер паверха быў меншы. Шырыня ніжняга паверха складала 90 мэтраў, агульная вышыня Зіккурата таксама была роўная 90 мэтрам. Каля Зіккурата разьмяшчаўся галоўны храм бога Мардука, дзе стаяла яго залатая статуя вагою больш за 20 тон. Сюды сьцякаліся тысячы людзей для пакланеньня свайму вярхоўнаму боству.




Вісячыя сады Семіраміды. Гравюра 16-га стагодзьдзя Марціна Хэмскерка (1498—1574). Марка пошты Кубы з сэрыі Сем цудаў Старажытнага сьвету, выданая ў 1997 годзе

Будынак парлямэнту Эўрапейскага зьвязу ў Страсбургу спэцыяльна распрацаваны, як копія Вавілонскай вежы. Пасьля таго, як праект выйграў конкурс, у 1995 годзе пачалося будаўніцтва. Падчас узьвядзеньня комплексу тут знаходзілася самая вялікая будоўля ў сьвеце! На марцы будынак парлямэнту Эўрапейскага зьвязу на заднім пляне.




Марка пошты Вэнгрыі, выдадзеная ў 2004 годзе з нагоды ўступленьня ў Эўразьвяз

Сьцены Вавілону былі абліцаваныя паясамі фрэсак з блакітных і зялёных паліваных плітак, арнамэнтам і шматлікімі фігурамі львоў, газэляў, драконаў і воінаў са зброяй у руках.



Вароты багіні Іштар. Рэканструкцыя. VI стагоддзе да Р. Х. Пэргамскі музэй, Бэрлін. Картмаксімум пошты Германіі, выдадзены ў 2013 годзе

Найбольш багатае дэкаратыўнае аздабленьне мелі двайныя вароты багіні каханьня і ўрадлівасьці Іштар, разьмеш-

чаныя ў паўночнай частцы горада паміж царскім палацам і храмам Нін-Мах. Вышыня варот — 26 мэтраў. Зьверху данізу яны пакрытыя блакітнымі, сінімі і зялёнымі паліванымі пліткамі. Быкі і цмокі, сымбалі бога Мардука, упрыгожвалі вароты.

Сьвятой жывёлай і сымбалям Мардука зьяўляўся сірруш — цмок, які меў галаву зьмяі з раздвоеным языком на тонкай выгнутай шыі, лускаватае цела, ільвіныя пярэднія і арліныя задзнія ногі і хвост з атрутным джалам скарпіёна. Мардук быў галоўным богам і заступнікам Вавілона, менавіта яму былі прысьвечаныя храмы, якія стаялі ля падножжа і на вяршыні «Вавілонскай вежы».




Цмок (сірруш, мушруш) з варот багіні Іштар (эмаляваная цэгла). VI стагодзьдзе да Р. Х. Пэргамскі музэй, Бэрлін. Марка пошты Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, выдадзеная ў 1997 годзе

Старажытны Вавілон быў цэнтрам перадавой навукі, мастацтва, культуры і індустрыі. Гліняная таблічка, якая захоўваецца ў Брытанскім музэі, зьяўляецца адзінай вядомай захаванай картай з VI стагодзьдзя да Р.Х., дзе ў цэнтры сьвету нанесены тры краіны — Вавілон, Асырыя і Армэнія. Справа на марцы графічны малюнак карты: зорка, якая складаецца з цэнтральнага круга і навакольных трыкутнікаў на фоне сучаснай карты і варот багіні Іштар.




Вавілонская карта сьвету (6 ст. да Р.Х.). Марка пошты Армэніі, выдадзеная ў 2016 годзе

У той жа час Вавілон — гэта біблейскі сымбаль распусты і заганы. Таму ў Кнізе Ісаі запісана: «І Вавілон, акраса царстваў, гонар Халдэяў, будзе зруйнаваны Богам, як Садома і Гамора...» (Ісая 13:19). Прароцтва спраўдзілася. 29 кастрычніка 539 г. да Р.Х. у горад уступіў Пэрсыдзкі цар Кір.




Пэрсыдзкі воін. Барэльеф з Персепаля. Сумесны выпуск Ірану і Мэксыкі. Марка, выдадзеная ў 2016 годзе

Вавілонія ўвайшла ў склад дзяржавы Ахеменідаў. «Упаў Вавілон, горад вялікі, бо ён шалёным вінам распусты свае напаіў усе народы» (Адкрыцьцё 14:8).

## Над рэкамі Вавілона, там сядзелі і плакалі мы…

*Калі забуду цябе, Ерусаліме, хай забудзе мяне правіца мая…*
*(Псалтыр 137:5)*

Паўночнае габрэйскія царства або царства Ізраільскае загінула пад ударамі Асырыі ў 722 годзе да Р. Х. Тады былі выведзеныя ў палон дзясяткі тысяч Ізраільцян і расьселеныя ў аддаленых абласьцях Асырыйскай імпэрыі. А праз сто з невялікім гадоў тая ж доля спасьцігла Юдэю. Навуходаносар, разбурыўшы ў 586 г. да Р. Х. Ерусалім, зладзіў некалькі перасяленьняў непакорлівых габрэяў. Ён адвёў у Вавілон усіх жыхароў Юдэі, якія займалі больш ці менш значнае грамадзкае становішча, пакінуўшы толькі частку ніжэйшых клясаў народа для апрацоўкі зямлі.

Першае перасяленьне адбылося ў 597 г. да Р. Х. Вавілонскі палон працягваўся ад гэтай даты да дазволу выгнаньнікам вярнуцца, якое даў у 537 г. да Р. Х. Кір.

Абыходжаньне з выгнаньнікамі ў Вавілоне не было суровым, некаторыя зь іх дасягнулі там не толькі багацьця, але і высокага грамадзкага становішча. Але гэта жыцьцё адбывалася ва ўмовах чужой веры, культуры і звычаяў, ужываньня іншай мовы, другімі былі паводзіны і праца. Падзеньне Юдэйскага царства, разбурэньне Храма, немагчымасьць зьдзяйсьняць малітвы ў традыцыйных формах, цяжкае становішча асобных выгнаньнікаў, насьмешкі і пыха пераможцаў, — усё гэта моцна дзейнічала на габрэяў, бо яшчэ былі жывыя ўспаміны пра бляск ранейшага Ерусаліма і службу ў Храме. Гэта народнае гора знайшло сабе выраз у многіх псальмах, Плачы Ераміі, прароцтвах Езэкііля.




Над рэкамі Вавілону (1910). Ліліен (1874—1925). Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1977 годзе

На прывесцы маркі цытата: «Над рэкамі Вавілона, там сядзелі і плакалі мы, калі згадвалі пра Сіён. На вербах пасярод яго павесілі мы свае арфы» (Псалтыр 137:1,2).

Аб пануючых настроях сьведчыць знакамітая Псальма: «Над рэкамі Вавілона, там сядзелі і плакалі мы, калі згадвалі пра Сіён. На вербах пасярод яго павесілі мы свае арфы. А тыя, што нас паланілі, песьняў ад нас патрабавалі, а нашыя прыгнятальнікі — весялосьці: „пасьпявайце нам зь песьняў Сіёна“. Як нам сьпяваць Гасподнюю песьню на чужынскай зямлі? Калі забуду цябе, Ерусаліме, хай забудзе мяне правіца мая; хай прыліпне язык мой да паднябеньня, калі помніць цябе я ня буду, калі не пастаўлю Ерусаліма на чале весялосьці маёй» (Псалтыр 137:1—6).

«Va, pensiero» (Ляці, думка) — хор з трэцяга акта опэры «Набука» (1842)

Джузэпэ Вердзі, найбольш вядомы музычны фрагмэнт гэтай опэры як «Хор рабоў-габрэяў». Словы «Va, pensiero» належаць Тэмістоклу Салеры — аўтару лібрэта «Набука», але зьяўляюцца парафразам Біблейскага Псальма 137 «На рэках Вавілонскіх». Выканаўцы «Va, pensiero» прадстаўляюць габрэйскіх выгнаньнікаў, якія плачуць у Вавілонскім палоне па страчанай Радзіме і разбураным Першым Храме.




«Va, pensiero» — хор з трэцяга акта опэры «Набука» (1842) Джузэпэ Вердзі. Марка пошты Сан Марына, выдадзеная ў 2001 годзе

Ляці, думка, на залатых крылах;
ляці, адпачываючы на горах і пагорках,
туды, дзе паветра напоены цяплом і пяшчотай,
салодасным водарам роднай зямлі!
Будуць вітаць берагі Ярдана,
разбураныя вежы Сіёна…
О, выдатная страчаная радзіма!
Дарагія, ракавыя ўспаміны!
Залатая арфа старажытных прарокаў,
чаму, нямая, ты вісіш на вярбе?
Абудзі памяць у сэрцы,
раскажы аб мінулым часе!
Хай прагучыць твой стогн,
гэтак жа горкі, як лёс Ерусаліма,
хай Гасподзь агучыць табе мэлодыю,
якая дасьць нам сілы пакутаваць!

З іншага боку, аднак, Вавілонскі палон было пэрыядам нацыянальнага і рэлігійнага адраджэньня габрэйскага народу. Сутыкненьне з пераможным паганствам, якое выраджалася ўзмацніла нацыянальнае і рэлігійнае пачуцьцё, народ з натхненьнем прыслухоўваўся да прадказаньняў і суцяшэньняў прарокаў, уплыў якіх узрастаў; іх рэлігійныя гледжаньні зрабіліся здабыткам усяго народу.




Кніжнік. Барэльеф. Барыс (Барух) Шац (1862—1932). Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1977 годзе

Каб адзначыць пэрыяд абуджэньня яўрэйскай нацыі для аднаўленьня Абяцанай зямлі, Ліліен распрацаваў для Пятага сіяністкага кангрэса ў 1901 г. малюнак, які сымбалізуе палон са сваімі марамі пра вяртаньне на радзіму. Анёл Надзеі заклікае ўзьняць вочы і паглядзець у будучыню. Сонца сьвеціць на абуджанай Сьвятой Зямлі, якую габрэй сваёй працай вызваліў ад путаў мінулага. На прывесцы верш з штодзённай ранішняй малітвы: «… і хай нашы вочы

ўбачаць, калі ты вернешся на Сіён у спагадзе».

Падчас палону вельмі важным было захаваньне традыцый рэлігійных, якія да гэтага часу ў большасьці перадаваліся вусна «людзьмі Кнігі» — настаўнікамі і мудрацамі. Палон быў для іх вельмі небясьпечным, а сьмерць кожнага з іх была вялікай стратай. У гэтых умовах зьявіліся першыя Сьвятыя Кнігі, якія ўвайшлі ў склад канону Сьвятога пісьма. Першым зборам стала Тора — першыя пяць кніг Старога Запавету, вядомых як Пяцікніжжа Майсея. Запісвалі таксама вучэньне Вялікіх Прарокаў — Ісаі, Ераміі, Езекііля, другіх Прарокаў.




Кніжнік. Барэльеф. Барыс (Барух) Шац (1862—1932). Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1977 годзе

Марка Ізраіля паказвае барэльеф Барыса Шаца з відарысам кніжніка. Як бы ўслухоўваецца ён у нябачны голас, старанна запісваючы тэкст, які паўтарае шэптам. Старанна хаваныя і перапісваныя, Кнігі прыпаміналі аба ўсім, што зрабіў Бог, а таксама аб нявер'і, заахвочваючы, каб больш ніколі яно не паўтарылася. А калі людзкая слабасьць станавілася большаю за добрую волю, чытаньне Сьвятых Кніг ставала заклікам і абавязкам да павяртаньня і да вернасьці Богу.



Над рэкамі Вавілону (1910). Ліліен (1874—1925). Марка фірмы Рохлін, выдадзеная ў 1937 годзе

Усьведамленьне неабходнасьці захаваньня традыцый зрабіла магчымым малітоўныя і-шырэй-богаслужбовыя сходы, незалежныя ні ад якіх алтароў, нават ад Ерусалімскага Храма. Так у палоне зьявіліся першыя сынагагальныя сходы, дзе, вядома, не зьдзяйсьнялася ніякіх ахвярапрынашэньняў, але была магчымая агульная малітва, пропаведзь і чытаньне сьвятых тэкстаў, першым і самым раньнім зь якіх стала Тора. Так ва ўлоньні яхвізму зарадзілася новая рэлігія-юдаізм, якой было наканавана перажыць сваю калыску. Менавіта сынагога стала той формай, якая дазволіла канчаткова сфармавацца народу-суполцы, і менавіта яна зрабіла духоўна магчымым вяртаньне габрэяў на зямлю сваіх бацькоў.

# Дэклярацыя Незалежнасьці і Аднаўленьне Храма

## Вяртаньне з палону

*...і весялосьць Ерусаліма далёка было чуваць. (Нээмія 12:43).*

У 586 годзе да Р.Х. цар Вавілонскі Навухаданосар заваяваў горад Ерусалім, разбурыў Храм і адправіў многіх жыхароў Юдэі ў выгнаньне. Канца палону не было відаць, але пасьля аб'яднаньня Пэрсыдзкага і Мідыйскага царстваў пад уладай цара Кіра II, ён у 539 годзе да Р.Х. падпарадкаваў Вавілонскую імпэрыю.

Неўзабаве пасьля гэтага ў 538 г. да Р.Х. цар Кір апублікаваў Дэклярацыю, зьмест якой захаваўся ў Кнізе Эзры: «У першы год Кіра, цара Пэрсыдзкага, дзеля выкананьня слова Госпадняга з вуснаў Ераміі, абудзіў Гасподзь дух Кіра, цара Пэрсыдзкага; і ён загадаў абвясьціць па ўсім царстве сваім, словамі і пісьмова. Так кажа Кір, цар Пэрсыдзкі: усе царствы зямлі даў мне Гасподзь Бог нябесны, і Ён загадаў мне пабудаваць Яму дом у Ерусаліме, што ў Юдэі. Хто ёсьць з вас, з усяго народу Яго, — хай будзе Бог яго зь ім, — і хай ён ідзе ў Ерусалім, што ў Юдэі, і будуе дом Госпада Бога Ізраілевага, таго Бога, Які ў Ерусаліме» (Эздра 1:1—3).

Многія сучасныя дасьледчыкі Бібліі скептычна ставіліся да фармулёвак Дэклярацыі, апісаных у Кнізе Эзры. Яны сьцьвярджалі, што неверагодна, каб Пэрсыдзкі цар прыняў Дэклярацыю на іўрыце альбо заявіў, што выступае ў ролі пасла Бога Ізраіля.

Але, пры археалягічных раскопках, праведзеных у старажытным горадзе Вавілоне ў 1879 годзе, быў знойдзены гліняны цыліндар з доўгім тэкстам. Зьмест тэксту — гэта зварот цара Кірам да вавіланян, у якім ён заявіў, што дзейнічаў ад імя вавілонскага бога Мардука. «Я, Кір, Вавілонскі цар... Вялікі Пан Мардук... дабраславіў мяне... і я пабудаваў для іх пастаянны храм. Сабраў усіх іх жыхароў і аднавіў месца жыхарства».




Цыліндар Кіра. Брытанскі музэй. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 2015 годзе

Прынцэса Ашраф Пехлеві падарыла ААН копію гэтага цыліндру. Копія выстаўленая ў ААН з перакладам на ўсе шэсьць афіцыйных моў ААН. Дэклярацыю Кіра называюць першай Хартыяй правоў чалавека. Яе пасланьне аб пра-

вах чалавека зноў гучыць ва ўсім сьвеце.

Гэта археалягічнае адкрыцьцё ўзмацніла думку пра тое, што Кір выказваў прыхільнасьць і падтрымку ўсім народам, якія знаходзіліся пад яго ўладай, і што Дэклярацыя, якая зьявілася ў Бібліі, была дакладным адлюстраваньнем гісторыі. Пасьля Дэклярацыі Кіра некаторыя з вавілонскіх палонных вярнуліся ў Ерусалім, аднавілі Храм і заснавалі аўтаномную габрэйскую правінцыю пад назвай Егуд Медыната. На ўкладцы маркі прадстаўлены манэты, адчаканеныя ў гэтай аўтаномнай правінцыі ў сярэдзіне 4 стагодзьдзя да Р.Х., падчас Пэрсыдзкага праўленьня. На пярэдняй частцы манэты выгравіравана лілея, на адваротным баку — шыракакрылы сокал, а таксама слова «Іегуд» на старажытным іўрыце і ўрывак з Кнігі Эзры: «Хто ёсьць з вас, з усяго народу... і хай ён ідзе ў Ерусалім» (Эздра 1:3).

У адрозьненьне ад папярэднікаў, Кір быў уладаром талерантным, дазваляючы падданым практыкаваць сваю рэлігію. Быў зацікаўлены ў разьвіцьці вялікіх камунікацыйных шляхоў, якія ў пэўным сэнсе захаваліся да сёньня.

У Кнізе Эздры пералічаны роды, якія вярнуліся. «Усё супольства разам складалася з сарака двух тысяч трохсот шасьцідзесяці чалавек, акрамя рабоў іхніх і рабыняў іхніх, якіх было сем тысяч трыста трыццаць сем; і пры іх сьпевакоў і пясьнярак дзьвесьце» (Эздра 2:63,64). У іх ліку былі Пракокі Агей і Захар, кіраўнік Зараваўэль з роду цара Давіда, і першасьвятар Ісус. Але многія засталіся ў Пэрсыдзкіх краінах.

На марцы на пярэднім пляне крылатая жывёла з тварам чалавека (захоўваецца ў Музэі Тэгерану), знойдзеная пра раскопках Цэнтральнага палацу горада Пэрсэполіс, імпэрскай сталіцы Старажытнай Пэрсіі. На заднім пляне лесьвіца Цэнтральнага палаца з групамі пэрсыдзкай шляхты.




Пэрсэполіс. Марка, выдадзеная ў памяць 2500 — годзьдзя Дэклярацыі Кіра Вялікага поштай Індыі ў 1971 годзе

Пасьля вяртаньня ізраільцяне вырашылі адбудаваць разбураны Храм. «На другі год пасьля прыходу свайго да дома Божага ў Ерусалім, на другім месяцы Зараваўэль, сын Салатыілаў, і Ісус, сын Ёсэдэкаў, і астатнія браты іхнія, сьвятары і лявіты, і ўсе прышлыя з палону ў Ерусалім паклалі пачатак і паставілі лявітаў ад дваццаці гадоў і вышэй дзеля нагляду за працаю пры доме Гасподнім» (Эздра 3:8). Але народы, якія пасяліліся там, дзе раней жылі ізраільцяне, ненавідзелі тых, хто вярнуўся з палону, і рабілі перашкоды пры пабудове Храму. Яны запалохвалі і вінавацілі габрэяў перад Пэрсыдзкім царом Камбізам ІІ.

Кіраваў пабудовай Зараваўэль, які знаходзіцца ў сьпісе зямных продкаў Ісуса Хрыста. Фігуры ў люнэце па ўсёй бачнасьці малюнкі сем'яў, але сем'яў падзеленых, як у літаральным сэнсе — таблічкай з імёнамі продкаў Ісуса: Зараваўэль, Авіуд, Эліякім, так і ў перанос-

ным, прадстаўляючы сабой увесь спэктар чалавечых эмоцый.




Люнэт Зарававэля. Мікеланджэла Буанароці (1475—1564). Сыкстынская капэла. Маркі пошты Ватыкану, выдадзеныя ў 1991 годзе

Аднаўленьне храма прыпынілася амаль на 16 гадоў, і аднавілася толькі з ушэсьцем на трон цара Дарыя I (522—486 да Р. Х.).




Пэрсэполіс. Цар Дарый на сваім троне. Марка пошты Ірану, выдадзеная ў 1948 годзе

На другім годзе яго праўленьня ў 520 годзе Бог паслаў Прарока Аггея падбадзёрыць суграмадзян і заклікаць іх да працягу будаўніцтва. «І было слова Гасподняе праз Агея прарока...» (Агей 1:3). Агей прамаўляе перад Юдэямі чатыры пропаведзі, на працягу чатырох месяцаў. «Тады Агей, весьнік Гасподні, пасланы ад Госпада, сказаў люду: „Я з вамі! кажа Гасподзь“. І абудзіў Гасподзь дух Зарававэля, сына Салавіілевага, упраўцы Юдэі, і дух Ісуса, сына Ясэдэкавага, вялікага яўрэя, і дух усёй рэшты людзей — і яны прыйшлі і пачалі рабіць працу ў доме Госпада Саваофа, Бога свайго...» (Агей 1:13,14).

Праз два месяцы пасьля гэтага прыступіў да прароцкага служэньня Захарыя. Ён казаў народу аб неабходнасьці духоўнага абнаўленьня. Адкрываючы ім Божыя пляны пра будучыню Ізраілю, ён заклікаў іх аднавіць будаўніцтва Храму.




Прарок Захарыя. Дэталь. Мікеланджэла Буанароці (1475—1564). Сыкстынская капэла. Марка пошты Аджману, выдадзеная ў 1972 годзе

«Таму так кажа Гасподзь: Я зьвяртаюся да Ерусаліма зь міласэрнасьцю; у ім пабудуецца дом Мой, кажа Гасподзь Саваоф, і землямерная вяроўка працягнецца па Ерусаліме. Яшчэ абвясьці і скажы: так кажа Гасподзь Саваоф: зноў перапаўняюцца гарады Мае дабром, і суцешыць

Госпадзь Сіён і зноў выбера Ерусалім» (Захарыя 1:16,17).

Прарок Захарыя запэўнівае: «І было мне слова Госпадняе: рукі Зарававеля паклалі аснову Дому гэтаму; ягоныя рукі і закончаць яго, і даведаешся, што Госпадзь Саваоф паслаў Мяне да вас» (Захарыя 4:8,9).

Пракрокі дасягнулі посьпеху: дзякуючы іх намаганьням габрэі завяршылі аднаўленьне Дому Божага ў 515 годзе да Р. Х. «І закончаны дом гэты да трэцяга дня месяца Адара, на шостым годзе валадараньня цара Дарыя. І ўчынілі сыны Ізраілевыя, сьвятары і лявіты і іншыя, што вярнуліся з палону, асьвячэньне гэтага дома Божага з радасьцю. (Эздра 6:15,16). Але гэты Храм значна саступаў, як па велічыні, так і па прыгажосьці Храму Саламона.




Сьвяты. Блёк пошты Ізраілю, выдадзены ў 2013 годзе. Пэрсанальны выпуск

На полі блёку (дэкаратыўны спэцыяльны ліст з маркамі дванаццаці габрэйскіх сьвятаў) габрэі перад адбудаваным Храмам у Ерусаліме.

Адзін Ізраільцянін вярнуўся з Ерусаліму ў Пэрсію і расказаў габрэю Нээміі: «…пазасталыя, якія засталіся ад палону, там, у краіне сваёй, у вялікім бедзтве і ў прыніжэньні; і сьцяна Ерусаліма разбурана і брамы яго спалены агнём» (Нээмія 1:3). Нээмія быў чашнікам пры двары Пэрсыдзкага цара Артаксеркса І у Сузах. Пачуўшы гэта Нээмія плакаў, доўга пасьціўся і маліўся ў вялікім смутку, што заўважыў цар. На пытаньне цара Нээмія сказаў: «…хай жыве цар вавекі! Як ня быць засмучаным твару майму, калі горад, дом магіл бацькоў маіх, у запусьценьні, і брама яго спалена агнём!» (Нээмія 2:3).




Пэрсыдзкі лучнік. Дэкаратыўная панэль з палацу Дарыя І у Сузах. Марка пошты Ірану, выдадзеная ў 1971 годзе

І дазволіў цар Артаксеркс Нээміі пайсьці ў Ерусалім і даў, як піша Нээмія, «ліст да Асафа, ахоўцы царскіх лясоў, каб ён даў мне дрэва на браму крэпасьці, якая пры доме Божым, і на гарадзкую сьцяну, і на дом, у якім мне жыць. І даў мне цар, бо ж дабрадзейная рука Бога майго была над мною» (Нээмія 2:8).

Вярнуўшыся ў Ерусалім, Нээмія і ізраільцяне пачалі аднаўляць у Ерусаліме разбураныя сьцены і браму. Каб засьцерагчы ад небяспекі будаўніцтва з боку

ворагаў Нээмія ўзброіў будаўнікоў. «Будаўнікі сьцяны і насільшчыкі цяжару, якія накладвалі на іх, адною рукою рабілі працу, а другою трымалі дзіду» (Нээмія 4:17). Праца не спынялася ні днём, ні ноччу. «Сьцяна была закончана на дваццаць пятым дні месяца Элула, за пяцьдзесят два дні» (Нээмія 6:15).

Лесьвіца Хульды вяла да галоўнага ўваходу на Храмавую гару. У шырыню яны не менш за 65 мэтраў і сьведчаць пра дзясяткі тысяч паломнікаў, якія сьцякаліся ў Храм падчас Сьвята.

«Тое што я стаю цяпер на гэтай лесьвіцы для мяне важней, чым тое, што я хадзіў па Месяцы» казаў Ніл Армстранг.




Лесьвіца Хульды (Алдамфы) з часоў другога Храму. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1976 годзе

На прывесцы маркі гліняны посуд, што выкарыстоўваўся ў Ерусаліме ў часы Другога Храму.

«Калі настаў сёмы месяц, і сыны Ізраілевыя жылі ў гарадах сваіх, тады сабраўся ўвесь народ, як адзін чалавек, на пляц, які перад Вадзяною брамаю, і сказалі кніжніку Эздру, каб ён прынёс Кнігу Закона Майсеевага, які запавядаў Гасподзь Ізраілю. І прынёс сьвятар Эздра Закон на сход мужчын і жанчын і ўсіх, якія маглі разумець, у першы дзень сёмага месяца; і чытаў зь яго на пляцы, які перад Вадзяною брамай, ад сьвітаньня да полудня, перад мужчынамі і жанчынамі і ўсімі, якія маглі разумець; і вушы ўсяго народу былі прыхілены да Кнігі Закона» (Нээмія 8:1—3).




Ём Кіпур. Малітва Коля Нідрэя. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 2012 годзе

Малітва Коля Нідрэя прамаўляецца ў сынагогах напярэдадні Сьвята Ём Кіпур. Ём-Кіпур («Дзень адкупленьня») — у юдаізме самае важнае са Сьвятаў, дзень посту, пакаяньня і адпушчэньня грахоў. Існуе вэрсія, што малітва Кол Нідрэй была напісана ў 8 стагодзьдзі і яе крыніцай зьяўляецца Вавілонскі Талмуд.

Масавая эміграцыя ірацкіх габрэяў 1951 па 1952 год — адна з самых кульмінацыйных падзей зыходу габрэяў з арабскіх і мусульманскіх краін — названа ў гонар Эзры і Нээміі, якія прывялі габрэйскі народ з выгнаньня з Вавілону.




Апэрацыя Эзры і Нээміі. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1970 годзе

На прывесцы маркі тэкст: «...і вясялосьць Ерусаліма далёка было чуваць» (Нээмія 12:43).

## Пэрсыдзкая імпэрыя

*Бачыў я, як гэты баран бароў*
*на захад і на поўнач і на поўдзень,*
*і ніякі зьвер ня мог устояць*
*супроць яго, і ніхто ня мог*
*уратавацца ад яго; і ён рабіў,*
*што хацеў і стаў велічны.*
*(Даніїл 8:4)*

Памяць аб магутнай старажытнай імпэрыі Пэрсыдзкай, якая 8 разоў успамінаецца ў Бібліі, перажыла да сёньня. Яна жывая ў легендах і ў гісторыі, узьнятай і разьвітай праз дзяржаву Іран.

Аб падзеях тых гадоў паведамляецца ў шэрагу Біблейскіх кніг. У прарока Даніїла Пэрсія — гэта «баран», супраць якога ніхто «ня мог устояць» (Даніїл 8:4). Народ Юдэі знаходзіўся пад уладай Пэрсыдзкіх цароў больш за 200 гадоў: пачынаючы з падзеньня Вавілону ў 539 годзе да Р.Х. і заканчваючы часам, калі Пэрсыдзкая імпэрыя была заваяваная Грэцыяй у 331 годзе да Р.Х.

У 550 годзе да Р. Х. Пэрсыдзкі цар Кір II, заваяваўшы Мідыю, заснаваў Пэрсыдзкую імпэрыю, межы якой распасьціраліся ад Эгейскага мора да Егіпта і да Паўночна-Заходняй Індыі.




Партрэт Кіра II Вялікага (правая ніжняя марка). Рэканструкцыя на аснове рэльефу ў Пасаргадзе. Нелегальны блёк, выданы ад імя пошты Нігеру ў 2012 годзе

Споўнілася прароцтва Ісаі: «Так кажа Гасподзь памазанцу Свайму Кіру: Я трымаю цябе за правую руку, каб упакорыць табе народы, і здыму паясы з паясьніц цароў, каб адчыніліся табе дзьверы і брама не зачынялася...» (Ісая 45:1). Адной з яе падуладных абласьцей была Юдэя.

Наступнае прароцтва Ісаі: «Я ўзьвёў яго ў праўдзе і спрастую ўсе дарогі яго.

Ён збудуе горад Мой і адпусьціць палонных Маіх, не за выкуп і не за дары, кажа Гасподзь Саваоф» (Ісая 45:13) споўнілася ў 538 годзе да Р.Х.

У 538 годзе да Р. Х. Кір апублікаваў дэклярацыю, якая дазволіла габрэям вярнуцца ў Ерусалім і зноўку пабудаваць Храм: «А на першым годзе Кіра, цара Пэрсыдзкага, дзеля спраўджаньня слова Госпадняга, сказанага вуснамі Ераміі, абудзіў Гасподзь дух Кіра, цара Пэрсыдзкага, і ён загадаў абвясьціць па ўсім царстве сваім словамі і пісьмова, і сказаць: так кажа Кір, цар Пэрсыдзкі: усе царствы зямлі даў мне Гасподзь Бог нябесны, і Ён загадаў мне пабудаваць Яму дом у Ерусаліме, што ў Юдэі. Хто ёсьць з вас — з усяго народу Ягонага, Гасподзь Бог яго зь ім, і хай ён туды ідзе» (Другая Летапісаў 36:22,23).




Цыліндар Кіра (538 да Р. Х.). Блёк пошты Сэнт-Вінсэнт і Грэнадыны «Старажытны надпіс», выдадзены ў 2015 годзе

На марцы блёку знаходзіцца відарыс Цыліндра Кіра і надпіс: «Дата: 539—538 да Р. Х. Мова: акадзкая. Матэрыял: гліна. Памеры 22 х 10 см. Гэты цыліндар зьяўляецца Дэклярацыяй ад імя Кіра Вялікага імпэрыі Ахемэнідаў. Ён апісвае Кіра як велікадушнага кіраўніка Вавілонскага народу пасьля перамогі над дэспатычным царом Набанідам».

Кір пабудаваў выдатную сталіцу імпэрыі — горад Пасаргады. Незвычайна было стаўленьне Кіра да будаўнікоў. Ён не карыстаўся імі, як рабамі, хоць і мог, але плаціў ім за працу годную плату. Кір Вялікі загінуў у баі каля 530 г. да Р.Х. і пахаваны ў Пэрсэполісе, сталіцы Пэрсіі. Яго грабніца захавалася да нашых дзён.




Грабніца Кіра. Пасаргады. (Іран). Марка пошты Ірану, выдадзеная ў 1948 годзе

Працягнуў справы Кіра Дарый І.




Цар Дарый Вялікі. Марка пошты Ірану, выдадзеная ў 1948 годзе

Пад яго кіраўніцтвам абнавілі царскія палацы ў Сузах. У гэтым горадзе адбываліся падзеі, апісаныя ў Кнізе Эстэр.

Дарый I пабудаваў новую сталіцу Парса, вядомую грэкам як Пэрсэполіс. Горад атачалі сьцены пяцімэтровай таўшчыні і вышынёй больш за дзесяць мэтраў, увайсьці ў яго можна было праз вароты, да якіх вяла шырокая лесьвіца, якая налічвала 106 прыступак, высечаных з суцэльнага каменя.

Пэрсэполіс захоплены Аляксандрам Македонскім у 330 годзе да Р.Х., быў зьнішчаны пажарам. Руіны палацаў і царскіх грабніц — бездапаможныя рэшткі былой велічы, багацьця і моцы Пэрсыдзкай імпэрыі. У Пэрсэполісе захаваліся руіны многіх збудаваньняў старажытнага пэрыяду, найбольш знакаміты палац Ападана з цырыманіяльным заляй з 72 калёнамі. ЮНЭСКО абвясьціла руіны Пэрсэполіса аб'ектам сусьветнай спадчыны ў 1979 г.




Пэрсэполіс. Палац Дарыя Вялікага. Марка пошты Ірану, выдадзеная ў 1948 годзе

Ападана — самы вялікі будынак у Пэрсэполісе. Калёны дасягалі 20 м у вышыню і мелі складаныя капітэлі ў форме быкоў або львоў. Тут вялікі цар атрымліваў даніну ад усіх народаў імпэрыі Ахемэнідаў і наўзамен уручаў падарункі. Доступ да залі забясьпечвалі дзьве манумэнтальныя лесьвіцы — на поўначы і на ўсходзе. Яны ўпрыгожаны рэльефамі, на якіх дэлегаты 23 падначаленых дзяржаў Пэрсыдзкай імпэрыі аддаюць даніну Дарыю I, які прадстаўлены ў цэнтры. Дэлегаты прадстаўлены вельмі падрабязна. Можна разгледзець касьцюмы і убранства розных народаў Пэрсіі ў V стагодзьдзі да Р. Х. Надпісы выкананы на старапэрсыдзкай і эламскай мовах.




Ападана. Марка пошты Ум Аль Квайну, выдадзеная ў 1971 годзе з нагоды 2500 — годзьдзя Пэрсыдзкай манархіі

На поўнач ад Ападаны ўзвышаліся ўражлівыя вароты Ксеркса, ад якіх спускалася шырокая лесьвіца. Вароты называлі «Брамай усіх народаў», бо ўсе наведвальнікі павінны былі прайсьці праз гэты, адзіны ўваход на тэрасу, па дарозе ў Тронную залю, каб аддаць даніну павагі каралю. Пара калясальных быкоў ахоўвала заходні ўваход; ля ўсходняга ўваходу стаялі два быкі ламасу. Над кожным з чатырох калосаў выгравіраваны трохмоўны надпіс, які сьведчыць пра тое, што Ксеркс пабудаваў гэтую канструкцыю і браму. Быкі служылі сымбалям нечалавечых намаганьняў, якія вытрым-

ліваў цар, злучаючы неба і зямлю сваёй уладай і адорваючы сваіх падданых.




Брама ўсіх народаў. Марка пошты Ірану, выдадзеная ў 1978 годзе

Другім велічным будынкам была Заля 100 Калён. Будаўніцтва Залі было пачата царом Ксерксам і дабудавана яго сынам і пераемнікам Артаксерксам I (466—424 да Р.Х.). Гэты тронны зал быў другім па велічыні будынкам Пэрсэполіса, памерамі 68,5 х 68,5 мэтра.




Уваход у Залю 100 Калён. Марка пошты Ірану, выдадзеная ў 1971 годзе з нагоды 2500 — годзьдзя Пэрсыдзкай манархіі

Грандыёзны будаўнічы праект Дарыя — канал, які злучае Чырвонае і Міжземнае мора. Ён цяпер называецца Суэцкі. Захаваўся надпіс з нагоды адкрыцьця канала: «Кажа Дарый — цар: я пэрс. З Пэрсіі я заваяваў Егіпет. Я загадаў пракапаць гэты канал, і караблі пайшлі з Егіпту праз гэты канал у Пэрсію, бо была мая воля».




Суэцкі канал. Марка пошты Егіпту, выдадзеная ў 1994 годзе

Дарый Вялікі даў загад на заканчэньне будаўніцтва Храма ў Ерусаліме, аб чым сьведчыць запіс у Кнізе Эздры: «Ня спыняйце працы пры гэтым доме Божым; хай Юдэйскі начальнік вобласьці і Юдэйскія старэйшыны будуюць гэты дом Божы на месцы яго»... «І Бог, імя Якога там жыве, хай скіне любога цара, які працягнуў бы руку сваю, каб зьмяніць гэта на шкоду гэтаму дому Божаму ў Ерусаліме. Я, Дарый, даў гэты загад: хай выконваецца ён дакладна» (Эздра 6:7,12).

Апошнім з кіраўнікоў Пэрсыдзкай імпэрыі быў Дарый III (336—331 да Р. Х.). Але побач набрала сілу Грэцыя, а яе скарыць пэрсы не змаглі. Прыйшла чарга валадарства Грэцыі.

Аляксандр на сваім кані Буцэфале нанёс удар па Пэрсыдзкаму салдату падчас бітвы пры Ісе. Гэтая сцэна зьяўляецца часткай «Аляксандраўскага саркафага», каменнай труны, упрыгожанай скульп-

турай 325—300 гадоў да Р.Х., якая была выяўлена ў Сідоне, Фінікія, і знаходзіцца ў Археалягічным музэі ў Стамбуле.




Бітва пры Ісе. Барэльеф (325—300 да Р.Х.). Марка пошты Грэцыі, выдадзеная ў 1937 годзе

Падзеньне Пэрсіі адбылося імкліва і было выклікана імклівым надыходам войска Аляксандра Македонскага — чалавека, які марыў дасягнуць краю сьвету. Збылося прароцтва Данііла: «казёл», які пазначае Грэцыю, «… дабегшы да барана, разьятрыўся на яго і ўдарыў барана і зламаў яму рогі; і ня стала сілы ў барана ўстояць супроць яго, і той паваліў яго на зямлю і патаптаў яго, і ня было нікога, хто мог бы адратаваць барана ад яго» (Данііл 8:7). Гэта адбылося ў 332 годзе да Р.Х., калі Грэцыя перамагла Пэрсію і стала новай сусьветнай імпэрыяй.

## Прарок Захарыя — Серпавідзец

«І скажу ім: калі заўгодна вам, дык дайце Мне плату Маю; калі ж не, — не давайце; і яны наважаць як плату Мне трыццаць срэбранікаў» (Захарыя 11:12). «І сказаў: што вы дасьце мне, і я вам выдам Яго? Яны прапанавалі яму трыццаць срэбранікаў…» (Паводле Мацьвея 26:15).

Дзьве цытаты з Бібліі, якія апісваюць здраду Юды. Але першая — прароцтва Прарока Захарыі яшчэ за 500 гадоў да Раства Хрыстова. Словы пра трыццаць срэбранікаў і іншыя, гэтак жа дакладныя прароцтвы Захарыі знаходзяцца ў яго Кнізе, перадапошняй у сьпісе Кніг Старога Запавету.

Пацалункам Юда паказвае салдатам, хто з людзей у Гефсіманскім садзе яго гаспадар. Затым рымляне арыштоўваюць Ісуса. Усе вучні Хрыста ў разгубленасьці пачынаюць уцякаць. Толькі Пётр робіць спробу бараніць Настаўніка.




Пацалунак Юды. Марка пошты Бапутатсваны, выдадзеная ў 1988 годзе

Захарыя (Гасподзь успомніў) — адзін з дванаццаці Старазапаветных малых Прарокаў.

Кніга Захарыі зьяўляецца самай мэсіянскай, самай апакаліптычнай і эсхата-

лягічнай з усіх Кніг Старога Запавету. У Новым Запавеце існуе больш за 40 спасылак на яе.

Нарадзіўшыся падчас Вавілонскага палону, Захарыя перажыў яго і па вяртаньні з палону шмат садзейнічаў маральнаму адраджэньню народу. Прарочая кар'ера Захарыі пачалася на другі год Дарыя (520 да Р.Х.), прыблізна шаснаццаць гадоў пасьля вяртаньня першай групы габрэяў з Вавілону. Кніга яго прароцтваў — поўная складаных вобразаў. У ёй дзьве часткі. У першай частцы, напісанай прозай, бачаньні. Думка Прарока сканцэнтравана на пабудове Храма. Другая частка напісана паэтычным мовай і зьмяшчае малюнак будучых лёсаў сьвету і Царства Божага. На жаль філятэлістычнага матэрыялу вельмі мала для ілюстрацыя Кнігі Захарыі.



Прарок Захарыя. Фрэска Мікеланджэла ў Сыкстынскай капэле (1508–1512). Картмаксімум пошты Бурундзі, выдадзены ў 1975 годзе

Вось адно з бачаньняў Прарока «...бачу, вось сьвяцільня ўся з золата і чашачка пад алей наверсе яе, і сем лямпад, на ёй і па сем трубачак у лямпадах, якія наверсе яго; і дзьве масьліны на ёй, адна з правага боку чашачкі, другая зь левага боку яе» (Захарыя 4: 2,3) Выгляд Дзяржаўнага Герба Ізраіля грунтуецца на бачаньні Прарока.




Герб Дзяржавы Ізраіль. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1955 годзе

Прарок Захарыя мае мянушку Серпавідзец з-за наступнага бачаньня: «І зноў узьвёў я вочы мае і ўгледзеў: вось ляціць скрутак» (Захарыя 5:1). Справа ў тым, што словы скрутак і серп па-габрэйску пішуцца аднолькава.




Лятучы скрутак. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1948 годзе

Дызайн маркі «Лятучы скрутак» засонаваны на старажытных пячатках,

знойдзеных на ручках збанкоў, якія датуюцца 700—600 да Р.Х.

Прарок узвышана гаворыць аб будучыні: «І будуць прыходзіць многія плямёны і моцныя народы, каб знайсьці Госпада Саваофа ў Ерусаліме і памаліцца аблічча Госпада» (Захарыя 8:22).




Сьвятыя Каўчэгі. Ерусалім. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 1953 годзе

Надпіс на прывесцы: «...радасьцю і вясёлым сьвятам; толькі любеце праўду і мір» (Захарыя 8:19).

Далей прарок Захарыя кажа аб далёкай будучыні. Убачанае ўражвае яго, і ён усклікае: «Весяліся ад радасьці, дачка Сіёна: радуйся, дачка Ерусаліма: вось, Цар твой ідзе да цябе, праведны і ратавальны, лагодны, седзячы на асьліцы і на маладым асьле, сыне пад'ярэмнай» (Захарыя 9:9). А гэта вершы з Эвангельля Мацьвея: «Вучні пайшлі і зрабілі так, як загадаў ім Ісус, прывялі асьліцу і маладога асла і паклалі на іх вопратку сваю, і Ён сеў паверх яе. Мноства людзей пасьцілалі вопратку сваю на дарозе, а іншыя рэзалі вецьце з дрэў і пасьцілалі на дарозе...» (Паводле Мацьвея 21:6—8). Час, у які ўсё гэта павінна адбыцца, Прарок называе «днём Госпаднім».




Уезд Ісуса ў Ерусалім. Старонка з Эвангельля (каля 1420 г.). Манрэальскі музэй выяўленчых мастацтваў. Марка пошты Канады, выдадзеная ў 2001 годзе

Захарыя кажа пра габрэяў: «І выратуе іх Гасподзь Бог іхні ў той дзень, як авечак, народ Свой» (Захарыя 9:16).




Саркафаг Добрага Пастыра (IV да Р.Х.). Марка пошты Харватыі, выдадзеная ў 2020 годзе

І гэтыя словы накіроўваюць нас да Прыпавесьці пра Добрага Пастыра: «Я — Пастыр Добры, і ведаю Маіх, і Мае ведаюць Мяне: як Айцец ведае Мяне, так і Я ведаю Айца, і жыцьцё

Маё кладу за авечкі» (Паводле Яна 10:14,15).

Апісваючы арышт Хрыста, Эвангеліст Мацьвей піша: «А ўсё гэта было, каб збыліся пісаньні Прарокаў. Тады ўсе вучні, пакінуўшы Яго, паўцякалі» (Паводле Мацьвея 26:56).

«Каб збыліся пісаньні» — гэта пра «пісаньні» у Кнізе Захарыі: «О, меч! падыміся на пастыра Майго і на блізкага Майго, кажа Гасподзь Саваоф: пакараю пастыра, і расьсеюцца авечкі!» (Захарыя 13:7).




Здрада Юды. Марка пошты Ангілы, выдадзеная ў 1973 годзе

Захарыя піша аб тым, што ў будучыні народ пакаецца ў сваіх грахах, але непапраўнае ўжо зьдзейсьніцца: «А на дом Давіда і на жыхароў Ерусаліма вылью дух мілаты і замілаваньня, і яны паглядзяць на Яго, Якога пранізалі, і будуць галасіць па Ім, як галосяць па адзінародным сыне, і смуткаваць, як смуткуюць па першынцы» (Захарыя 12:10). Гэта прароцтва ўсе дасьледчыкі аднагалосна адносяць да Хрыста, грудзі якога пракалолі на крыжы дзідай, каб пераканацца ў яго сьмерці: «а адзін воін кап'ём праціў Яму рэбры, і адразу выцекла кроў і вада» (Паводле Яна 19:34).




Ісус памірае на крыжы. Марка пошты Аману, выдадзеная ў 1976 годзе

Апостал Ян напамінае: «Гэтак сама і ў іншым месцы Пісаньне кажа: „пагледзяць на Таго, Каго працялі“» (Паводле Яна 19:37).

Прайшло пяць стагодзьдзяў, а Юдэі ўсё чакалі Збавіцеля. Але словы Захарыі аб тым, што Ён злучыць у Сабе і царскае, і сьвятарскае служэньне, спрычыніліся да таго, што людзі чакалі вялікага Праводыра, Цара, які вызваліць народ не столькі ад грахоў, колькі ад акупантаў. Таму, калі вясной на дарозе да Ерусаліму зьявіўся чалавек верхам на асле, яму крычалі «Асанна!» у надзеі, што рымскаму прыгнёту прыйшоў канец. Але Ён чамусьці раіў па — ранейшаму плаціць падаткі кесару, ды і ніякага войска зь ім

не было — толькі жменька вучняў... І Юдэі не змаглі даравацъ яму сваіх нязьдзейсьненых надзеяў. І аддалі Яго на сьмерць. «І будзе ў той дзень: ня стане сьвятла, сьвяцілы аддаляцца. Дзень гэты будзе адзіны, вядомы толькі Госпаду: ні дзень, ні ноч; толькі аб вечаровым часе зьявіцца сьвятло» (Захарыя 14:6,7).




Цемра апусьцілася на зямлю. Марка пошты Ангілы, выдадзеная ў 1991 годзе

«А на шостай гадзіне настала цемра па ўсёй зямлі аж да гадзіны дзявятай» (Паводле Марка 15:33).

«Ад шостай жа гадзіны цемра настала па ўсёй зямлі да гадзіны дзявятай» (Паводле Мацьвея 27:45).

«Было ж каля шостай гадзіны дня, і зрабілася цемра па ўсёй зямлі да гадзіны дзявятай...» (Паводле Лукаша 23:44).

«Аднойчы чацьвёра найвялікшых мудрацоў, сярод якіх быў і рабі Аківа, убачылі, як па Храмавай гары прабегла лісіца — па месцы, дзе раней разьмяшчалася Сьвятая Сьвятых. Трое мудрацоў расплакаліся, а рабі Аківа засьмяяўся. „Чаму ты сьмяешся?“- спыталі ў яго астатнія. Рабі Аківа патлумачыў сваім спадарожнікам, што ўзяў сабе ў верныя сьведкі двух Прарокаў: Урыю і Захарыю. Урыя прадказваў: „... з-за вас нібы поле, будзе ўзараны Сіён і Ерусалім ператворыцца ў руіны, а Храмавая гара стане лясістым узгоркам“. А Захарыя прадракаў, кажучы пра больш позьнюю будучыню: „І вуліцы горада гэтага напоўняцца хлопчыкамі і дзяўчаткамі, якія гуляцьмуць на вуліцах яго“ (Захарыя 8:5). Пакуль не спраўдзілася прароцтва Урыі, я баяўся, што можа не споўніцца і прароцтва Захарыі. Але цяпер, калі словы Урыі спраўдзіліся, няма сумневу, што і прадказаньне Захарыі ажыцьцявіцца. У адказ мудрацы сказалі: „Аківа, ты нас суцешыў!“»




Прарок Захарыя. Драўляная скульптура (1642—1646). Нацыянальны мастацкі музэй. Марка пошты Рэспублікі Беларусь, выдадзеная ў 1998 годзе

У нашыя дні спраўджваецца прароцтва Прарока Захарыі: «Потым усе астатнія з усіх народаў, якія прыходзілі супроць Ерусаліма, будуць прыходзіць год у год на пакланеньне Цару, Госпаду Саваофу, і на сьвяткаваньне сьвята кучак» (Захарыя 14:16).




Пілігрымка Папы Яна Паўла II у Ерусалім. Сувэнірнае выданьне пошты Ізраілю ў 2000 годзе

На марцы Храм Гроба Гасподняга ў Іерусаліме — літаграфія (1842), заснаваная на творах Дэвіда Робертса ў Сьвятой Зямлі. На малюнку ліста бачым мноства людзей ля Храмавай Сьцяны ў Ерусаліме. Пілігрымкі — паломніцкія падарожжы да Сьвятых месцаў — ахопліваюць людзей з усіх слаёў грамадзтва, ад каралёў і прэзыдэнтаў да бедных і слабых, ад сьвятароў, навукоўцаў, дасьледчыкаў і пісьменьнікаў да самых простых людзей. Паломнікі прыбываюць самастойна альбо групамі з усяго сьвету. Так спаўняецца прароцтва Прарока Захарыі.

## Эстэр

*Столькі Аманаў, і толькі адзін Пурым. Габрэйская прымаўка*

«Пастанавілі Юдэі і прынялі на сябе і на дзяцей сваіх і на ўсіх, хто далучыўся да іх, каб сьвяткаваць гэтыя два дні, паводле прадпісанага пра іх і ў свой для іх час, кожны год, і каб гэтыя дні былі вякапомныя і сьвяткаваліся ва ўсе роды ў кожным племені, у кожнай вобласьці і ў кожным горадзе; і каб дні гэтыя Пурым не адмяняліся ў Юдэяў, і памяць пра іх каб ня зьнікла ў дзяцей іхніх» (Эстэр 9:27,28).

Эстэр — адна з дзьвюх Біблейскіх жанчын, імем якіх названыя кнігі ў Бібліі (другая — Рут). Эстэр — габрэйская дзяўчынка, якая жыла ў Пэрсыдзкім горадзе Сузы, стаўшая адной з чатырох самых прыгожых жанчын Бібліі (Вавілонскі Талмуд, Мегілла 15а), якую Пэрсыдзкі цар выбраў сабе ў жонку і якая, выкарыстаўшы ў поўнай меры сваё становішча, пераадолела страх быць забітай, каб уратаваць свой народ ад зьнішчэньня. Кніга Эсфір зьяўляецца адной з найбольш папулярных кніг сярод сучасных габрэяў, якую чытаюць незалежна ад Торы на кожны Пурым. Але ня толькі ў габрэяў карыстаецца Эстэр павагай і захапленьнем. Эстэр прысьвячалі свае палотны мастакі італьянскага Адраджэньня Батычэлі, Мантэнья і Тынтарэта. Яе пісалі Рубенс і Рэмбрант, ёй прысьвяціў сваю араторыю Гендэль, а вялікі францускі драматург Расін напісаў трагедыю «Эстэр». Гэтак жа Ёган (Яган) Готфрыд Грэгары напісаў і паставіў п'есу для рускага тэатра: «Артаксерксава дзейства».

Па матывах Біблейскай гісторыі пра Эстэр было зьнята прыкладна паўтара дзясятка фільмаў, сярод якіх:

1960 — «Эстэр і цар», рэжысэра Раўль Уолш

1986 — «Эстэр», ізраільскага кінарэжысэра Амоса Гітая

1993 — «Эстэр», мультфільм

1999 — «Біблейская калекцыя: Эстэр Цудоўная»

2006 — Адна ноч з каралём

У яе гонар названы астэроід (622) Эстэр, адкрыты ў 1906 годзе.

Кніга Эстэр пачынаецца словамі: «І было ў дні Артаксэркса...» (Эстэр 1:1). Царыца Астынь не захацела выканаць загад цара і выйсьці да гасьцей з адкрытым тварам. За непадпарадкаваньне «царскую годнасьць яе цар перадасьць іншай, якая лепшая за яе» (Эстэр 1:19). З усіх абласьцей дзяржавы былі сабраны самыя прыгожыя дзяўчыны. Адной з гэтых дзяўчат была Эстэр, сваячка Мардахэя, які служыў пры палацы і быў ёй замест бацькі. Дзяўчат рыхтавалі на працягу цэлага году да спатканьня з царом.

«Калі абвешчаны быў загад цара і ўказ ягоны, і калі сабраныя былі многія дзяўчаты ў сталічны горад Сузы пад нагляд Гегая, тады ўзялі і Эстэр у царскі дом пад нагляд Гегая, ахоўцы жонак. І спадабалася гэтая дзяўчына вачам ягоным і здабыла ў яго ўпадабаньне, і ён пасьпяшаўся выдаць ёй масьці і ўсё, назначанае ёй, і прыставіў да яе сем дзяўчат, вартых быць пры ёй, з дома царскага, і перамясьціў яе і дзяўчат у лепшае аддзяленьне жаночага дома» (Эстэр 2:8,9).

La Toilette d'Esther- сцэна ў гарэме з пакаёўкай у палацы цара Артаксэркса, які шукаў новую нявесту з таго часу, як адмовіўся ад непакорлівай Вашці. Упадабаная эўнухам Эгейскім (які тут пад выглядам маўра), Эстэр упрыгожвае сябе, каб зьявіцца ва ўсёй сваёй прыгажосьці падчас прэзэнтацыі. Эстэр рыхтуецца заняць ролю жонкі цара Артаксэркса. На яе твары задуменьне і пэўнае прадчуваньне. Яна ўжо дастаткова ведае асобу караля, каб усьвядоміць небясьпеку, у якой яна знойдзецца, і цяжкую дарогу, якая яе чакае.




Эстэр рыхтуецца да сустрэчы з царом Артаксерксам або Туалет Эстэр (La toilette d'en Esther). Тэадор Шассэрыо (1819 — 1856). Галерэі Сюлі ў Люўры. Блёк пошты Сэнт-Вінсэнт і Грэнадыны, выдадзены ў 1993 годзе

Убачыўшы Эстэр, Артаксеркс выбірае яе ў жонкі.

Прысутнасьць Эстэр пры двары становіцца справай вельмі важнай для яе народа, калі Аман, прыдворны чыноўнік, складае плян зьнішчэньня ўсіх габрэяў у імпэрыі, бо ўсе кланяліся Аману, акрамя Мардахэя.

Мардахэй кажа Эстэр, што ёй і ўсяму габрэйскаму народу пагражае сьмярот-

ная небясьпека. Ён заклікае яе дзейнічаць. Яна адна можа іх выратаваць. Мардахэй просіць Эстэр пайсьці да цара і прасіць аб ратаваньні яе народа. Мардахэй ведае, што Бог паставіў Эстэр у гэтым становішчы, як і Язэпа ў Егіпце, каб выратаваць яго сям'ю.

Заказчык маркі пошты Украіны палічыў, што Эстэр была такой прыгожай, на яго погляд, як індыйская акторка Каджол Дэўган, выгляд якой разьмешчаны на марцы.




Царыца Эстэр. Прыватная марка, выпушчаная поштай Украіны ў 2017 годзе

Эстэр знаходзіцца ў цяжкім становішчы, бо ўваход у тронны пакой без выкліку быў цяжкім злачынствам, якое караецца сьмерцю: «...толькі той, каму падасьць цар свой залаты скіпетр, застанецца жывы. А я ня клікана да цара вось ужо трыццаць дзён» (Эстэр 4:11). Але Мардахэй пераканаў Эстэр. «І сказала Эстэр ў адказ Мардахэю: ідзі, зьбяры ўсіх Юдэяў, якія ў Сузах, і пасьцецеся дзеля мяне, і ня ежце і ня пеце тры дні ні ўдзень, ні ўначы, і я з служанкамі маімі буду таксама пасьціцца і потым пайду да цара, хоць гэта супроць закона, і калі загіну — загіну» (Эстэр 4:15,16).




Царыца Эстэр (1878 г.). Эдвін Лонг (1829—1891). Нацыянальная галерэя Вікторыі, Мэльбурн. Пэрсанальная марка, выпушчаная поштай Ізраілю ў 2014 годзе

Пасьля трох дзён пошуку Бога Эстэр набралася рашучасьці ісьці да цара.




Пурым. Праект маркі Аарона Шэвы. Ізраіль

На арыгінальным малюнку праекту маркі Пурым, падпісаным аўтарам Ааронам Шэва, намалявана царыца Эст-

эр, якая прымае важнае рашэньне, парушыць усталяваны Пэрсыдзкі Закон і, маючы вялікую асабістую рызыку для свайго жыцьця, прасіць караля Артаксеркса адмяніць загад Амана, забіць усіх габрэяў. На ўкладцы зьмешчаны прыгожы верш з Кнігі Эстэр (4:16): «І калі я загіну, я загіну».

«Яна была прыгожая ў цьвеце сваёй прыгажосьці, і твар яе радасны, як бы напоўненае любоўю, але сэрца яе было сьціснута ад страху» (Эстэр 5:1b).




Эстэр рыхтуецца да ўступленьня да Артаксеркса (16330). Дэталь. Рэмбрант (1606 — 1669). Нацыянальная галерэя Канады, Атава. Марка пошты Тувалу, выдадзеная ў 2006 годзе

Рэмбрант паказвае момант прыняцьця рашэньня. Эстэр узважвае небясьпеку, з якой яна сутыкнецца, калі пойдзе і калі гэтага ня зробіць: і ўласную будучыню і будучыню габрэйскага народу. Яна пасьцілася і малілася, і цяпер апранутая ў самае прыгожае адзеньне, гатовая дзейнічаць. Малінавы колер сукенкі Эстэр і яе бледная скура зьзяюць на цёмным фоне. Нягледзячы на прысутнасьць пакаёўкі (пакаёўка не паказана на марцы), Эстэр, здаецца, лунае ў прасторы. Яна адзінокая ў цэлым сьвеце... Ніхто не можа дапамагчы ёй, альбо выканаць заданьне. Але рашэньне прынятае. Яна ўвайшла ў тронны пакой...

У 2007 годзе пошта Ізраілю выпусьціла сэрыю паштовых марак «Жанчыны ў Бібліі». Марка пад нумарам 1914 прысьвечана Эстэр. Малюсенькая жанчынка, больш падобная на безабаронную дзяўчынку, застыла перад велічным царом. Гэта самы трагічны момант, калі вырашаецца лёс як самой Эстэр, так і ўсяго ізраільскага народу. Усё вырашыць адзін рух цара...




Эстэр перад Артаксерксам. Марка пошты Ізраілю з сэрыі «Жанчыны ў Бібліі», выдадзеная ў 2007 годзе

На прывесцы маркі надпіс: «і калі загіну — загіну». (Эстэр 4:16)

Падчас набліжэньня да цара Эстэр зьнікае ад жаху. «Дрыжыць ад страху прад Табою цела маё, і судоў Тваіх баюся я» (Псалтыр 119:120). «Павярнуўшы аблічча сваё, што палымнела славаю, ён зірнуў з моцным гневам; і царыца ўпала духам і зьмянілася ў твары сваім ад паслабленьня і схілілася на галаву служанкі, якая суправаджала яе» (Эстэр 5:1d).

Рашучасьць пакідае Эстэр. Яна траціць прытомнасьць і падае ў абдымкі сваіх служанак.




Эстэр перад Артаксерксам (каля 1640). Нікаля Пусэн (1594—1665). Дзяржаўны Эрмітаж. Марка пошты Грэнады Каррыаку і Петыт Марцінікі, выдадзеная ў 2003 годзе

Артаксеркс трымае ў руцэ каралеўскі залаты скіпэтар — ці апусьціць ён яго, каб дакрануцца да галавы Эстэр, і так выратуе яе ад сьмерці?

Эстэр падае, страчваючы прытомнасьць. Дзьве яе служанкі падтрымліваюць абвіслае цела, і Артаксеркс нахіляецца наперад, каб дакрануцца да яе, бо «зьмяніў Бог дух цара на лагоднасьць, і пасьпешліва ўстаў ён з пасаду свайго і прыняў яе ў абдымкі свае, пакуль яна не прыйшла ў сябе» Эстэр 5:1ё).

«І працягнуў цар да Эстэры залаты скіпэтар, які быў у руцэ ў яго, і падышла Эстэр і дакранулася да канца скіпэтра» (Эстэр 5:2). Цар запытаў, што ён можа забіць для Эстэр. Эстэр не раскрывае прычыну свайго ўчынку, а зьвяртаецца з просьбай: «І сказала Эстэр: калі цару заўгодна, хай прыйдзе цар з Аманам сёньня на гасьціну, якую я прыгатавала яму» (Эстэр 5:4). Але нічога не адбылося, акрамя запрашэньня на наступную гасьціну. А Аман пасьля гасьціны аддаў загад, падрыхтаваць дрэва, на якім будзе павешаны Мардахэй.




Эстэр перад Артаксерксам (1620). Пітэр Паўль Рубенс (1577—1640). Акадэмія выяўленчых мастацтваў у Вене. Марка пошты Грэнады Грэнадынас, выдадзеная ў 1991 годзе да 350-годзьдзя з дня сьмерці Пітэра Паўля Рубенса

Паміж двума гасьцінамі адбылася яшчэ адна знакавая падзея. Яна знайшла адлюстраваньне на маляўнічым блёку пошты Ізраілю з трыма маркамі, прысьвечанымі Сьвяту Пурым.

Малюнак на першай марцы «Музыканты сьпяваюць сэрэнаду цару Артаксерксу» заснаваны на словах з Кнігі Эстэр: «І было ў дні Артаксеркса, — гэты Артаксеркс валадарыў над ста дваццацьцю сямю вобласьцямі ад Індыі і да Эфіопіі, у той час, як цар Артаксеркс заступіў на царскі трон свой, што ў Сузах,

горадзе сталічным, на трэцім годзе свайго валадараньня ён зладзіў гасьціну ўсім князям сваім і тым, што служылі пры ім, галоўным начальнікам войска Пэрсыдзкага і Мідыйскага і кіраўнікам вобласьцяў сваіх...» (Эстэр 1:1—3).

Малюнак на другой марцы «І ён паклаў царскі вянок на галаву яе» заснаваны на словах з Кнігі Эстэр: «І ўзялі Эстэр да цара Артаксеркса, у царскі дом ягоны, на дзясятым месяцы, гэта значыць, у месяцы Тэбэце, на сёмым годзе яго валадараньня. І пакахаў цар Эстэр больш за ўсіх жонак, і яна здабыла ягонае ўпадабаньне і прыхільнасьць больш за ўсіх дзяўчат; і ён паклаў царскі вянок на галаву яе і зрабіў яе царыцаю замест Астынь» (Эстэр 2:16,17).

Пасьля першай гасьціны ў Эстэр цару чыталі «памятную кнігу дзённых запісаў», у якой было запісана, як Мардахэй уратаваў цара. Цар запытаў: «якая дадзена пашана і адрозьненьне Мардахэю за гэта? І сказалі хлопчыкі царовыя, якія служылі пры ім: нічога ня зроблена яму» (Эстэр 6:3). Тады цар загадаў паклікаць Амана. «І ўвайшоў Аман. І сказаў яму цар: што зрабіў бы таму чалавеку, якога цар хоча вылучыць пашанай? Аман падумаў у сэрцы сваім: каму іншаму захоча цар зрабіць пашану, акрамя мяне? І сказаў Аман цару: таму чалавеку, якога цар хоча вылучыць пашанаю, хай прынясуць вопратку царскую, у якую апранаецца цар, і прывядуць каня, на якім езьдзіць цар, пакладуць царскі вянок на галаву яму, і хай пададуць вопратку і каня ў руку аднаму зь першых князёў царскіх, — і апрануць таго чалавека, якога цар хоча вылучыць пашанаю, і выведуць яго на кані на гарадзкі пляц, і абвесьцяць перад ім, так робіцца таму чалавеку, якога цар хоча вылучыць пашанай! І сказаў цар Аману: зараз жа вазьмі вопратку і каня, як ты сказаў, і зрабі гэта Мардахэю Юдэю, які сядзіць каля царскае брамы; нічога не прапусьці з таго, што ты казаў» (Эстэр 6:6—10). Аман вымушаны быў выканаць загад цара і ўласнаручна аддаць пашану свайму галоўнаму ворагу, якога заплянаваў павесіць.

«Так робіцца таму чалавеку, якога цар хоча вылучыць пашанаю» заснаваны на гэтых словах з Кнігі Эстэр малюнак на трэцяй марцы.




Пурым. Блёк пошты Ізраілю, выдадзены ў 1976 годзе

Толькі падчас другой гасьціны Эстэр выказвае просьбу, спасьці яе народ. Рэмбрант адлюстраваў момант маўчаньня. Ніхто з удзельнікаў сцэны не глядзіць адзін на аднаго. Эстэр скончыла сваю прамову і дрыгатліва чакае царскага прысуду. Асьляпляльным, загадкавым, залатым сьвятлом азораная яе грацыёзная фігурка. Бліжэй за ўсіх да Эстэр знаходзіцца велічны Артаксеркс, ад якога залежыць усё. Артаксеркс задумаўся над пачутым. Ён жорстка стуліў вусны і ўладна сьціснуў бліскучы золатам царскі скіпэтар, пераадольваючы ў сабе пачуцьці, каб прыняць адзінае справядлівае рашэньне. Аман жахаецца таго, што пачуе, бо ведае, што не можа аспрэчыць абвінавачаньне. Самотны, скурчыўшыся і абліва-

ючыся потам і страхам, разумее, што прысуд Артаксеркса прадвызначаны.




Артаксеркс і Аман на гасьціне ў Эстэр (1660). Рэмбрант (1606–1669). Дзяржаўны музэй выяўленчых мастацтваў ім. Аляксандра Пушкіна (Масква). Блёк пошты СССР, выдадзены ў 1976 годзе

Аман, другі па магутнасьці чалавек у Пэрсыдзкай імпэрыі, страціў пачуцьцё годнасьці і кінуўся пад ногі Эстэр, просячы літасьці.




Аман просіць міласьці ў Эстэр (1655). Рэмбрант (1606–1669). Нацыянальны музэй мастацтва. Бухарэст. Марка пошты Румыніі, выдадзеная ў 1967 годзе

Правая рука Эстэр узьнятая ў знак адмовы. Здаецца, Артаксеркс хоча апусьціць царскі скіпэтар на свайго старога сябра — што будзе знакам прабачэньня. Але скіпэтар застыў. Не будзе літасьці. Аман памрэ на тым самым дрэве, на якім ён плянаваў павесіць Мардахэя.

Амана асуджаюць на сьмерць, а потым голым нацягваюць на драўляную шыбеніцу, якую ён пабудаваў, каб забіць свайго ворага, стрыечнага брата Эстэр Мардахэя. На фрэсцы тры сцэны: зьлева — Артаксеркс і Аман на гасьціне Эстэр, справа — Артаксеркс у момант бессані цара, калі ён кажа чытаць яму кнігі і паказвае на неабходнасць ўшанаваньня Мардахэя, у цэнтры — Аман на шыбеніцы. Мікеланджэла змяніў спосаб пакараньня: Аман прыбіты да драўлянай крыжавіны ў выглядзе распяцьця з цвікамі праз рукі і ногі, а не вісіць на дрэве «вышынёю ў пяцьдзясят локцяў» (Эстэр 7:9).

(Каляровая накладка зроблена Л.К., бо на блёку толькі схэма малюнку).



Пакараньне Амана (1511). Кутняя фрэска столі Сыкстынскай капэлы. Мікеланджэла Буанароці (1475—1564). Блёк пошты СССР, выдадзены ў 1975 годзе

Цар не адмяніў свайго ўказу пра зьнішчэньне Юдэяў. Царскае слова не магло быць зьменена. Цар толькі дазволіў Юдэям абараняцца. «Цар дазваляе Юдэям, якія ў любым горадзе, сабрацца і стаць на абарону жыцьця свайго, зьнішчыць, забіць і загубіць усіх моцных у на-

родзе і ў вобласьці, якія ў варожасьці зь імі, дзяцей жонак, і маёмасьць іхнюю зрабаваць» (Эстэр 8:11).

І гэта было вялікім цудам. Усе вакол убачылі, як учорашнія рабы раптам ператварыліся ў свабодных і годных, як яны давалі адпор ворагам, як яны славілі Бога, як яны дапамагалі адзін аднаму. Бог даў Юдэям шанец зноў паверыць у Яго і ў саміх сябе, як Яго воінаў. Яны зноў моцныя і сьмелыя, яны зноў верацъ і верныя, яны зноў радуюцца і весяляцца. Яны зноў усьвядомілі сябе Божым народам. Цудам было і тое, што яны «на рабунак не працягнулі рукі сваёй» (Эстэр 9:10,15,16).

У гонар перамогі Эстэр над Аманам і выратаваньня яўрэяў у Ізраілі па гэты дзень сьвяткуюць радаснае Сьвята Пурым. «Як Аман, сын Амадата, Вугэянін, вораг усіх Юдэяў, намышляў загубіць Юдэяў і кідаў пур, жэрабя, пра зьнішчэньне і загубеньне іх...» (Эстэр 9:24). Згодна з гэтым вершам і паўстала назва сьвята Пурым. «У дванаццаты месяц, гэта значыцца, у месяцы Адар, на трынаццаты дзень яго, калі настаў час спраўдзіцца загаду цара і ўказу ягонаму, у той дзень, калі спадзяваліся непрыяцелі Юдэяў узяць уладу над імі, а выйшла наадварот, што самі Юдэі ўзялі ўладу над ворагамі сваімі...» (Эстэр 9:1).

Выраз «выйшла наадварот» стаў адной з цэнтральных тэм Пурыма. Таму маркі, выдадзеныя ў Ізраілі і прысьвечаныя Пурыму, перавернутыя, тэт-бэш (фр. tête-bêche — «валетам», значыць «галава да ног»), і ўпершыню ў гісторыі пошты Ізраілю прывескі прымацаваныя да верхняй часткі марак, а не да ніжняй.

У Кнізе Эстэр напісана, што Мардахэй вучыў габрэяў па ўсім Пэрсыдзкім царстве сьвяткаваць Пурым кожны год, «каб зрабілі яны іх днямі гасьціны і весялосьці, пасылаючы дарункі адзін аднаму і дарункі бедным» (Эстэр 9:22). Грунтуючыся на гэтым вершы, габрэйскія мудрацы сфармулявалі чатыры Пурым — міцвы (законы), і яны прадстаўлены на марках чатырма пэрсанажамі з кнігі Эстэр.

Першая марка — Чытаньне Кнігі Эстэр. У Кнізе Эстэр наказваецца: «каб гэтыя дні былі векапомныя і сьвяткаваліся ва ўсе роды ў кожным племені, у кожнай вобласьці і ў кожным горадзе; і каб дні гэтыя Пурым не адмяняліся ў Юдэяў, і памяць пра іх каб ня зьнікла ў дзяцей іхніх» (Эстэр 9:28). Габрэйскія мудрацы зрабілі выснову з гэтага верша, што ўсе габрэі, як мужчыны, так і жанчыны, абавязаны чытаць Кнігу Эстэр. Яе можна чытаць у адзіноце або чытаць услых ў сынагозе. На марцы гэта сымбалізуецца выявай цара Артаксеркса, якому чыталі кнігу ўспамінаў, калі ён не мог спаць па начах.



Сьвята Пурым. Блёк пошты Ізраілю, выдадзены ў 2019 годзе

Другая марка — Сьвяточны Пурым — Бяседа. Пышныя гасьціны, уладкаваныя царом Артаксерксам і царыцай Эстэр, добра апісаны ў кнізе Эстэр. Падзеі, якія прывялі да выратаваньня габрэяў, адбыліся падчас гэтых банкетаў.

На марцы гэта сымбалізуецца выявай царыцы Эстэр.

Трэцяя марка — Мішлоач Манот. Людзі ходзяць з маленькімі торбачкамі, напоўненымі арэхамі, цукеркамі і іншымі слодычамі, дораць і атрымліваюць гэтыя маленькія падарункі згодна з вершам: «пасылаючы дарункі адзін аднаму» (Эстэр 9:19). На марцы гэта сымбалізуецца выявай вершніка цара Артаксеркса, які разносіў царскія ўказы па ўсім царстве, з чашай азьнёў Амана ў руках, адной з сымбалічных страў Пурыму («Вушы Амана» — печыва «Пурым» трохкутнай формы. Калі Амана павесілі, яго вушы былі абрэзаны па тагачаснаму звычаю, як ваенны трафэй).

Чацьвёртая марка — Падарункі для маючых патрэбу. «У дзень сьвяточны, каб зрабілі яны іх днямі гасьціны і весялосьці, пасылаючы дарункі адзін аднаму і дарункі бедным» (Эстэр 9:22).

Кампанія Зазл (ZAZZLE) прысьвяціла «вушам Амана» дзьве свае маркі.




Пурым. Марка кампаніі ZAZZLE (US), выдадзеная ў 2013 годзе

«Вушы Амана» служаць, як кветкі ў букеце.

На наступнай марцы «вушы Амана» маюць нейкае сымбалічнае значэньне.




Пурым. Марка кампаніі ZAZZLE, выпушчаная ў 2017 годзе

Марк Шагал намаляваў сьвяткаваньне Пурыму ў Лёзна (Беларусь) — мястэчку яго дзяцінства, дзе ён нарадзіўся ў 1887 годзе. Хлопчык і дзяўчынка нясуць пачастункі ў чырвоным колеры Сьвята.




Пурым (1917). Марк Шагал (1887—1985). Мастацкі музэй Філадэльфіі. Блёк пошты Дамінікі, выдадзены ў 1987 годзе

Вось карціна яшчэ аднаго мастака Янкеля Адлера.

Творчасьць Адлера можна параўнаць з плавільным катлом — са сплаву розных стыляў, культур ён «здабываў» свой «філязофскі камень», тварыў свае карціны — узоры. У пошуках свайго стылю ён вельмі шмат экспэрымэнтаваў.




Пурым. Янкель Адлер (1895—1949). Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1975 годзе

Янкель Адлер пайшоў з жыцьця 25 красавіка 1949 года: яго сэрца не вытрымала, калі ён даведаўся, што ўся яго сям'я, уключаючы 10 братоў і сясьцёр, загінулі ў Галакосьце. На гэты раз не знайшлося Эстэр, каб ўратаваць габрэяў.

Першыя маркі, прысьвечаныя Пурыму, былі выдадзены яшчэ да ўтварэньня краіны Ізраіль Габрэйскім нацыянальным фондам. Габрэйскі нацыянальны фонд (KKL-JNF) быў заснаваны ў 1901 годзе для пакупкі і забудовы зямлі ў Асманскай Палестыне для габрэйскага пасяленьня. Маркі KKL-JNF — адна з найстаражытнейшых і маляўнічых хронік раньняй сіянісцкай гісторыі. Першая марка, марка «Сіён», была выпушчана ў Вене ў 1902 годзе.

Надпіс на скрутку маркі, выдадзенай Габрэйскім нацыянальным фондам, «Падарункавая марка Пурымы». Надпіс у версе маркі — «Для мэліярацыі зямель».




Падарункавая марка Пурымы, выдадзеная Габрэйскім нацыянальным фондам

Наступная марка мае такую асаблівасьць, што малюнак маркі не адпавядае Сьвяту Пурым, але мае адпаведны надпіс і год 5710, які адпавядае 1949 году ад Н.Х.




Марка, выдадзеная Габрэйскім нацыянальным фондам у 1949 годзе

Кніга Эстэр павучальная ў многіх праявах. Але, хіба, самае галоўнае — падзеі вакол Пурыма паказваюць, што Бог абавязкова ажыцьцяўляе свае пляны праз учынкі людзей, якія заслужылі Яго абраньне. Менавіта вера і вернасьць Богу Мардахэя і Эстэр, іх мудрасьць і рашучасьць, паслужылі выканьню Божага пляну ўратаваньня Юдэяў.

# Грэцкі пэрыяд (333—165 да Р.Х.)

## Аляксандр Македонскі

Час паміж апошняй Кнігай Старога Запавету і зьявай Хрыста вядома як «Міжзапаветны пэрыяд», бо прароцкага словы ад Бога на працягу гэтага пэрыяду не было. Гэта пэрыяд паміж напісаньнем апошняй кнігі Старога Запавету (Кніга прарока Малахіі, V да Р.Х.) і разбурэньнем Ерусалімскага Храма (70 ад Р.Х.).

Прыблізна ў 532—332 да Р. Х. Ізраіль знаходзіўся пад кантролем Пэрсыдзкай імпэрыі. Пэрсы дазвалялі габрэям вызнаваць сваю рэлігію, толькі зрэдку ўмешваючыся ў іх жыцьцё. Яны нават дазволілі аднавіць Храм і пакланяцца ў ім.




Прарок Данііл. Фрэска (1508—1512). Мікеланджэла Буанароці. Сыкстынская капэла, Ватыкан, Рым. Марка пошты Аджману, выдадзеная ў 1972 годзе

Многае з таго, што адбылося далей было прадказана прарокам Даніілам. «Баран, якога ты бачыў з двума рагамі, гэта цары Мідыйскі і Пэрсыдзкі. А казёл кашлаты — цар Грэцыі, а вялікі рог, які паміж вачэй у яго, гэта — яе першы цар; ён зламаўся, і замест яго вырасьлі іншыя чатыры: гэта — чатыры царствы паўстануць з гэтага народу, але не зь яго сілаю» (Данііл 8:20—22).

Аляксандр Македонскі, або Вялікі («вялікі рог, які паміж вачэй у яго») перамог Дарыя, цара Пэрсіі, у выніку грэкі ахапілі панаваньнем тагачасны сьвет.




Бітва пры Ісе (100 да Р.Х.). Ананім і Філаксен з Эрэтрыі. Фрагмэнт мазаікі. Нацыянальны археалягічны музэй, Нэапаль. Марка пошты Грэцыі з сэрыі «Македонія», выдадзеная ў 1992 годзе

Мазаіка адлюстроўвае бітву паміж Аляксандрам Македонскім і Пэрсыдзкім царом Дарыем III. У цэнтры карціны Дарый. Погляд яго шырока раскрытых ад жаху вачэй накіраваны налева, дзе дзіда Аляксандра пранізвае аднаго з целаахоўнікаў Пэрсыдзкага цара. (На марцы не адлюстравана). Аляксандр без шлему,

у раскошным ільняным дасьпеху, верхам на сваім Буцэфале ён пранізвае цела ворага дзідай, не кінуўшы нават погляду на сваю ахвяру. Погляд яго шырока адкрытых вачэй засяроджаны на Дарыі.

Аляксандр зьяўляўся вучнем Арыстоцеля і быў добра адукаваны ў грэцкай філязофіі і палітыцы. Ён патрабаваў, каб грэцкая культура распаўсюджвалася ва ўсіх землях, заваяваных ім. Аляксандр даў габрэям свабоду веравызнаньня, хоць па-ранейшаму актыўна ўкараняў грэцкі лад жыцьця. Гэта было не самым лепшым паваротам падзей для Ізраіля, так як грэцкая культура зьяўлялася сьвецкай, гуманістычнай і бязбожнай.

Ці сапраўды Аляксандр Вялікі быў вялікім? Хіба Данііл не казаў: «Тады казёл над меру ўзьвялічыўся; але калі ён узмацніўся, дык зламаўся вялікі рог, і замест яго вырасьлі чатыры, павернутыя на чатыры вятры нябесныя» (Данііл 8:8). Дык Аляксандр павінен быў выканаць прароцтва? Калі Аляксандр Македонскі памёр (323 год да Р.Х.), на месцы яго імпэрыі ўзьніклі чатыры царства і ўзначалілі іх военачальнікі Аляксандра. Палестына аказалася пад уладай цароў Егіпта з дынастыі Пталямеяў.

Пталямей I захапіў Ерусалім і вывез частку юдэяў на пасяленьне ў Александрыю. Час праўленьня Пталямеяў быў, у асноўным, мірным пэрыядам для юдэйскага народу. Важным дасягненьнем стаў пераклад Торы — Сэптуагінта, які быў замоўлены Пталямеем II Філядэльфам (285—246 да Р.Х.) для Вялікай Александрыйскай бібліятэкі. Першасьвятар Елеазар паслаў да цара семдзесят двух навукоўцаў — тлумачальнікаў. Яны, кожны самастойна, працуючы ў асобнай кельлі, ня толькі скончылі пераклады ў адзін і той ж час, але ўсе атрыманыя тэксты былі абсалютна аднолькавымі. Адсюль назва «Сэптуагінта», што значыць «семдзесят». Часта пазначаецца як LXX. Многія старазапаветныя цытаты ў Новым Запавеце ўзятыя з Сэптуагінты.




Тытульны ліст Бібліі Марціна Лютэра (1541). Лукас Кранах. Блёк пошты ГДР з сэрыі «Македонія», выдадзены ў 1983 годзе з нагоды 500-годзьдзя з дня нараджэньня Марціна Лютэра

Поўнае выданьне Бібліі на нямецкай мове ў перакладзе Марціна Лютэра надрукаванае ў Вітэнбэргу Гансам Люфтам у 1541 годзе. Выкарыстоўваўся грэцкі тэкст-Textus Receptus у выданьні Эразма Ратэрдамскага 1516 года, які, у сваю чаргу, выкарыстоўваў Сэптуагінту.

Зацікавіўшыся лёсам габрэйскага народу, Пталямэй загадаў вызваліць 100 000 палонных, выведзеных яго бацькам з Юдэі. Аднак найбольшую славу, якая не згасала і ў наступны пэрыяд, прынесла яму будаўніцтва Фароскага маяку (каля 280 да Р.Х.), які неўзабаве быў далучаны да аднаго з сямі цудаў сьвету. Маяк дасягаў у вышыню да 120 м і лічыўся самай высокай канструкцыяй у сьвеце. Вандроўцы захоплена апісвалі незвычайныя статуі. Адна статуя паказвала рукой на сонцы, але апускала яе

ўніз толькі тады, калі яно сыходзіла за гарызонт, іншая служыла гадзіньнікам і штогадзіны паведамляла бягучы час. А трэцяя статуя паказвала кірунак ветру.




Фароскі маяк і Пталямэй II. Марка пошты Егіпту, выдадзеная ў 1998 годзе

## Селяўкіды (198—165 да Р. Х.)

Селяўкіды — дынастыя кіраўнікоў эліністычнага дзяржаўнага ўтварэньня, заснаванага дыядохам Аляксандра Македонскага Сялеўкам Нікатарам (312–83 да Р.Х.). Паміж Егіптам Пталямеяў і Сірыяй Селяўкідаў увесь час адбывалася барацьба.

У 176 годзе да Р. Х. карысьлівец Сялеўк IV (Сялеўк IV Філапатар, кіраўнік эліністычнай імпэрыі Селяўкідаў, валадарыў з 187 г. па 175 г. да Р.Х.), уведзены ў спакусу расповедам аб незьлічоных багацьцях у Храме, адразу ж паслаў у Ерусалім з войскам захавальніка царскіх скарбаў Іліядора, каб вывезьці згаданыя скарбы ў царскае сховішча. «Калі ж ён з узброенымі людзьмі ўвайшоў ужо ў скарбніцу, Гасподзь бацькоў і Уладыка ўсякай улады явіў вялікую азнаку: усе, якія адважваліся ўвайсьці зь ім, і былі зьдзіўлены страхам сілы Божай, прыйшлі ў зьнямогу і жах, бо зьявіўся ім конь са страшным вершнікам, пакрыты прыгожым покрывам: хутка несучыся, ён пабіў Эліадора пярэднімі капытамі, а вершнік на ім, здавалася, меў залатую зброю. Зьявіліся яму і яшчэ два юнакі, квітнеючыя сілаю, выдатныя выглядам, прыстойна апранутыя, якія, стаўшы з таго і іншага боку, бесьперапынна бічавалі яго, накладаючы яму шматлікія раны» (2 Маккавейская 3:24—26).




Выгнаньне Эліядора (1511—1512). Рафаэль (1483—1520). Апостальскі палац, Ватыкан. Марка пошты Аджману, выдадзеная ў 1972 годзе

У глыбіні цэнтральнага нефа на фоне трывожнага неба першасьвятар Онія на каленях перад алтаром і запаленым сямісьвечнікам моліць аб дапамозе, даведаўшыся пра небясьпеку. Ззаду яго прававерныя Юдэі абмяркоўваюць страшную вестку. Малітва пачутая, і справа паказана выгнаньне Эліядора, а зьлева — хваляваньне натоўпу, абура-

нага апаганеньнем Храму. З глыбіні падыяганалі вылятаюць два нябесныя Пасланцы з розгамі ў руках, якія гоняцца за злодзеем. Першым даганяе яго Нябесны воін верхам на ўздыбленым белым кані, чые пярэднія капыты ужо над Эліядорам. Вершнік гатовы ўразіць булавой ворага, але той падае, выпусьціўшы скрадзены посуд з залатымі манэтамі, сабранымі на ахвяраваньне ўдовам і сіротам. Два хлопцы сьпяшаюцца падняцца вышэй, чапляючыся за калёну, каб зьверху ўбачыць пакараньне Эліядора і яго саўдзельнікаў. Рафаэль паказвае на фрэсцы ня толькі суд Божы, але і зямны, адлюстраваўшы ў профіль галоўную палітычную фігуру і грознага судзьдзю папу Юлія II, які сядзіць у крэсьле на палянкіне, які нясуць насільшчыкі. Сябе Рафаэль намаляваў збоку.




Хвароба Антыёха альбо Стратоніка і Антыёх (1840). Фрагмэнт. Дамінік Эндж. Музэй Кандэ ў Шантыйі. Марка пошты Аджману, выдадзеная ў 1972 годзе

У паданьнях апавядаецца рамантычная гісторыя пра каханьне сына Сялеўка І Нікатара Антыёха да маладой жонкі бацькі Стратонікі.

Уражаны загадкавай хваробай, Антыёх, паміраючы, ляжыць у ложку. Лекар нечакана робіць адкрыцьцё, што выгляд маладой жонкі бацькі пачашчае пульс Антыёха і гэта выклікае яго хваробу. Доктар апісвае становішча юнака перад бацькам. Каб выратаваць жыцьцё свайго сына Сялеўк аддаў сваю жонку Стратоніку ў жонкі сыну, будучаму цару Антыёху I Сотэру (294−261 да Р.Х.).

У рэшце рэшт, каля 198 да Р.Х., Палестына перайшла пад сірыйскае праўленьне Селяўкідаў. Пэрыяд сірыйскага праўленьня быў самым змрочным у гісторыі юдаізму. Найбольш гвалтоўным быў час пры Антыёху IV, вядомым як Антыёх Епіфан. Некалькі прароцтваў у кнізе Данііла ставяцца да тыранічнага праўленьня Антыёха Епіфана (Данііла 8: 9—11). Антыёх адмяніў рэлігійную свабоду для габрэяў. Каля 167 да Р.Х. ён зрынуў законную лінію сьвятарства і апаганіў Храм нячыстымі жывёламі і паганскім ахвярнікам. Ён прадаў тысячы габрэяў у рабства і забіў яшчэ больш. Ён забраў усе каштоўнасьці з Храму, а на алтары прынёс у ахвяру сьвіньню. «Яны, па дадзеным загадзе, забівалі жонак, якія абрэзалі дзяцей сваіх, а немаўлят вешалі за шыі іхнія, дамы іхнія раскрадалі і зьдзяйсьняўшых над імі абразаньне забівалі» (1 Макавейская 1:60—61). Страшная гісторыя адбылася з Ханнай і яе сямю сынамі. Антыёх Епіфан прымушаў іх адрачыся ад сваёй веры. Браты, бясстрашна прызнаўшы сябе пасьлядоўнікамі сапраўднага Бога, адмовіліся прынесьці ахвяру паганскім багам. Былі па калеі адданы жахлівым катаваньням на вачах у астатніх братоў і іх маці і ўсе забітыя.

# Пэрыяд незалежнасьці (165—63 да Р.Х.)

## Паўстаньне Макавеяў

Злачынствы Антыёха Епіфана сталі каталізатарам паўстаньня габрэяў (166—142 да Р.Х.) пад правадырствам старога сьвятара Матафіі. У яго было пяцёра адважных і ваяўнічых сыноў, адзін зь якіх — Юда ўзначаліў паўстаньне. Барацьба Юдэяў супраць тыраніі Селяўкідаў адлюстравана ў першых двух Макавейскіх кнігах, а таксама ў сачыненьні «Юдэйскія старажытнасьці» Язэпа Флавія.




Юда Макавей. Марка пошты Ізраілю з сэрыі «Нацыянальныя героі», выдадзеная ў 1961 годзе

Юда атрымаў мянушку «Юда-молат». «Молат» па-грэчаску азначае «Макавей», таму гэты пэрыяд габрэйскай гісторыі называюць Макавееўскім. У 165 годзе да Р. Х. Юда Макавей адваяваў Ерусалім. Храм, які быў апаганены ідаласлужэньнем, быў ачышчаны і зноў прысьвечаны Госпаду, у памяць чаго ўсталявана было асаблівае Сьвята аднаўленьня Храму — Ханука. Паводле паданьня, калі Юда Макавей і яго воіны ачысьцілі Храм, яны не змаглі знайсьці рытуальна чысты алей для таго, каб запаліць Мэнору і асьвяціць Храм. Пасьля працяглых пошукаў усё ж быў знойдзены адзін невялікі збан з чыстым алеем, але ён быў так малы, што яго магло хапіць толькі на адзін дзень гарэньня Мэноры.




Ханука. Алейная лямпа. Музэй Рувіма і Эдыт Гехт Хайфскага ўнівэрсытэту. Марка пошты Ізраілю з сэрыі «Ханука», выдадзеная ў 1993 годзе

Аднак Макавеі ўсё ж вырашылі запаліць Мэнору, паколькі Храм павінен быў быць асьвечаны, і тады адбыўся цуд: алею хапіла роўна на восем дзён, гэта значыць дакладна на той час, які патрабаваўся для падрыхтоўкі новага чыстага алею для Мэноры. У памяць аб гэтым цудзе Сьвята Ханукі з тых часоў адзна-

чаецца на працягу васьмі дзён. «І ўсталяваў Юда і браты ягоныя і ўвесь сход Ізраіля, каб дні абнаўленьня ахвярніка сьвяткаваныя былі з весялосьцю і радасьцю ў свой час, кожны год восем дзён, ад дваццатага дня месяца Хасьлева» (1 Макавейская 04: 59).

«На другі дзень былыя з Юдам пайшлі, як патрабаваў абавязак, перанесьці целы загінуўшых і пакласьці іх разам з родзічамі ў бацькоўскіх магільнях. І знайшлі яны ў кожнага з памерлых пад хітонамі прысьвечаныя Ямнійскім ідалам рэчы, што Закон забараняў Юдэям: і зрабілася ўсім відавочна, зь якой прычыны яны загінулі. Такім чынам, усе ўславілі праведнага судзьдзю Госпада, Які адкрывае патаемнае, і зьвярнуліся да малітвы, просячы, хай будзе зусім загладжаны зроблены грэх; а доблесны Юда маліў народ захоўваць сябе ад грахоў, бачачы на свае вочы, што здарылася за правіну загінуўшых» (2 Макавейская 12: 39—42).



Трыюмф Юды Макавея (1634—1636). Рубенс (1577—1640). Музэй мастацтваў, Нант. Пэрсанальная марка, выдадзеная ў 2014 годзе поштай Ізраілю

Рубенс намаляваў Юду Макавея, які моліцца за памерлых; карціна ілюструе эпізод з 2 Макавейскай 12: 39—48, у якім войскі Юды знаходзяць схаваныя паганскія амулеты на трупах габрэйскіх воінаў, забітых на поле бітвы. Таму ён узносіць малітвы і адкупленчую ахвяру за гэтых воінаў, якія памерлі ў стане граху.

У бітве Юда Макавей загінуў, але справа яго працягвалася іншымі яго братамі, якіх таксама сталі называць Макавеямі.



Кветка «Кроў Макавеяў». Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 1954 годзе

Вайна з Сірыяй працягвалася з 163 па 143 год да Р. Х. У 135 годзе было ўстаноўлена праўленьне Яна Гіркана, які паклаў пачатак габрэйскай дынастыі. Пасьля падзеньня Селеўкідзкага царства (129 год да Р.Х.) габрэі нарэшце здабылі сваю незалежнасьць. У гэты пэрыяд узьніклі габрэйскія сэкты, такія як фарысэі і садукеі. Апошнія гады гэтага пэрыяду былі гадамі грамадзянскай вайны. Розныя члены сям'і Яна Гіркана аспрэчвала сваё права на трон. Былі замовы і палітычныя забойствы. Нарэшце, Гіркан II папрасіў рымскага палкаводца Пампэя аб дапамозе ў сваім канфлікце паміж ім і Арыстабулам II за трон Хасманейскага Царства. У выніку захоп Ерусаліма Пампеем паклаў канец Юдэйскай Незалежнасьці. Юдэя стала пратэктаратам Рымскай рэспублікі.

# Рымскі пэрыяд (63 да Р.Х. — 3 ад Р.Х.)

## Ірад

У 63 годзе да Р.Х. рымскі палкаводзец Пампей Вялікі выкарыстаў суботнія дні для ваенных падрыхтовак, такіх, як узьвядзеньне земляных валаў ля сьцен Ерусаліма, і, пасьля трохмесячнай аблогі, ён увайшоў у горад таксама ў суботу.




Рымскі афіцэр ля слупа Авэсалома ў Ерусаліме. Марка пошты Гамбіі, выдадзеная ў 1996 годзе

Рымляне далі хасманейскаму цару Гіркану II абмежаваную ўладу, прымусіўшы яго падпарадкоўвацца рымскаму губэрнатару ў Дамаску. Габрэі былі варожа настроены да новага рэжыму і нярэдка бунтавалі супраць яго. Апошняя спроба аднавіць былую веліч дынастыі Хасманеяў, прадпрынятая Маттатыягу Антыгонам, завяршылася правалам і паклала канец хасманейскаму праўленьню (40 год да Р.Х.). Ізраіль стаў яшчэ адной правінцыяй магутнай Рымскай імпэрыі. У 37 годзе да Р.Х. рымляне прызначылі царом Юдэі зяця Гіркана II Ірада. Надзелены практычна неабмежаванай уладай ва ўсіх унутраных справах сваёй краіны, ён стаў адным з самых магутных манархаў ва ўсходняй частцы Рымскай імпэрыі. Ірад, гарачы прыхільнік грэка-рымскай культуры, актыўна заняўся будаўніцтвам. Пры ім былі ўзьведзены гарады Кейсарыя і Себасцья, крэпасьці Ірадыён і Масада.




Кейсарыя і Масада. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 2011 годзе

Ён перабудаваў Храм, ператварыўшы яго ў адзін з самых цудоўных будынкаў свайго часу. Але нягледзячы на ўсе свае дасягненьні, Іраду так і не ўдалося заваяваць давер і падтрымку сваіх габрэйскіх падданых.

Для перабудовы Другога Храму Ірад выкарыстаў велізарныя камяні падмурка, некаторыя больш за 40 футаў даўжынёй і вагай 600 тон. Тысяча сьвятароў была навучаная будаўнічаму майстэрству для таго, каб яны маглі вырабіць усю неабходную працу ва ўнутранай частцы

Храму, куды дазволена ўваходзіць толькі сьвятарам. Работы па перабудове самога Храму працягваліся 1,5 года, пасьля чаго ён быў асьвечаны; на працягу яшчэ 8 гадоў Ірад з вялікім энтузіязмам займаўся пераробкай двароў, увядзеньнем галерэй і ўпарадкаваньнем зьнешняй тэрыторыі. Храм Ірада стаў архітэктурным шэдэўрам.




Ірадыён і Храм. Маркі пошты Ізраілю, выдадзеныя ў 2011 годзе

На прывесках марак надпіс: «Будаўнічы праект Ірада».

«Зьнешні выгляд Храму ўяўляў усё, што толькі магло захапляць вока і душу. Пакрыты з усіх бакоў цяжкімі залатымі лістамі, ён бліскаў на ранішнім сонцы яркім вогненным бляскам, асьляпляльным для вачэй, як сонечныя прамяні. Чужынцу, які прыбываў на пакланеньне ў Ерусалім, ён здалёк здаваўся пакрытым сьнегам, бо там, дзе ён ня быў пазалочаны, ён быў асьляпляльна белы». — Язэп Флавій, «Юдэйская Вайна» V, 5:6.

Рэшткі гэтага Храму — Заходняя Сьцяна (Western Wall) — самае Сьвятое месца юдаізму... Збудаваная з каменных блёкаў, змацаваных без якога-небудзь раствору — здавалася, што яна не прастаіць доўга. Але прарок Ерамія прадказаў, што Заходняя Сьцяна (яна ж Сьцяна Плачу) будзе стаяць стагодзьдзя, — так і выйшла: Храм быў разбураны, а Сьцяна засталася да гэтага часу. Сваю незвычайную назву Сьцяна атрымала за тое, што тут Юдэі ўжо дзьве тысячы гадоў аплакваюць гібель сваёй галоўнай Сьвятыні.

Частка Сьцяны ў 60 мэтраў даўжынёй і 22 вышынёй ператварылася для габрэйскага народа ў знак веры і надзеі.




Габрэі ля Сьцяны Плачу (першая зьлева марка). Блёк пошты Панамы «Тройчы Сьвяты горад. Ерусалім 3000 гадоў», выдадзены ў 1997 годзе

Тысячы паломнікаў прыходзяць сюды, каб памаліцца аб сваіх патаемных марах і верацьь, што іх маленьні, а таксама запіскі, пакінутыя паміж камянямі, не застануцца без адказу, і абавязкова споўняцца... На працягу многіх стагодзьдзяў сам абрад застаецца нязьменным: жанчыны, у сьціплай вопратцы, падыходзяць да Сьцяны Плачу справа, а мужчыны ў галаўных уборах — кіпах — зьлева. Тут ніколі не бывае ціха — шум малітваў, на розных мовах, зьліваецца ў музыку, і людзі разгойдваюцца ў такт гэтай мэлёдыі. У адну з расколін паміж

камянямі кожны пакідае сваю запіску з просьбай, дадаўшы яшчэ адну кроплю ў велізарны акіян чалавечых жаданьняў...




Макет Другога Храму ў Музэі Ізраілю. Блёк пошты Антыгуа і Барбуды, выпушчаны ў 1996 годзе

Ірад быў таленавітым кіраўніком, але яго заганы засланялі яго навыкі кіраваньня. Ён выклікаў нянавісьць Юдэяў, многімі справамі, у тым ліку ўвёўшы спаборніцтва калясьніц і бітвы глядыятараў.




Бітва глядыятараў зь ільвом на арэне ў Бейт-Гуврын. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 2017 годзе

На прывесках марак намалёваныя разваліны арэн у гэтых гарадах у іх сучасным стане.




Гонкі калясьніц на гіпадроме ў Кейсарыі. Марка пошты Ізраілю, выдадзеная ў 2017 годзе

## Прыход Мэсіі

Ірад, названы Вялікім, кіраваў у Юдэі ў 37—3 гадах да Р. Х. У гэты час адбылася найвялікшая падзея ў гісторыі чалавецтва — нарадзіўся Ісус Хрыстос. А Ірад «праславіўся» забіцьцём немаўлят. Забіцьцё немаўлятак апісваецца ў Эвангельлі ад Мацьвея. Вешчуны, якія прыйшлі пакланіцца новананароджанаму Ісусу, не выканалі просьбу цара Ірада Вялікага і не паведамілі яму месцазнаходжаньне немаўляці. «Тады Ірад, убачыўшы, што мудрацы ашукалі яго, разгневаўся надта і паслаў пазабіваць усіх дзетак у Віфлееме і ва ўсіх межах яго, ад двух гадоў і ніжэй, паводле часу, які выведаў у мудрацоў» (Паводле Мацьвея 2:16).

Ірад з каронай і скіпэтрам назірае зьверху за дзетазабойствам, якое ён прызначыў. Злавесныя, апранутыя ў Чорнае салдаты ўрываюцца ў арку, раз-

махваючы чорнымі кінжаламі супраць дзяцей. Маці, намаляваныя ў самых разнастайных спалоханых позах і з выразам жаху на тварах, спрабуюць абараніць сваіх дзяцей, але беспасьпяхова.




Масакра нявінных (1451 — 1452). Фра Анджэліка (1395 — 1455). Дэталь з першай панэлі Срэбнай скарбніцы Сантысімы Аннунцыяты (Базыліка Найсьвяцейшага Зьвеставаньня Найсьвяцейшай Багародзіцы). Базыліка Сан-Марка, Флярэнцыя. Марка пошты Антыгуа і Барбуды, выпушчаная ў 1991 годзе

І Юдэі і язычнікі з іншых краін усё больш расчароўваліся ў рэлігіі. Язычнікі пачыналі сумнявацца ў шматбожжы. Рымляне і грэкі зьвярталіся ад сваёй міфалёгіі да габрэйскім пісаньняў, якія зараз можна было лёгка чытаць на грэцкай ці лацінскай мовах. Габрэі, аднак, знаходзіліся ў маркоце. Іх нацыя зноў была заваяваная, прыгнечаная і забруджаная. Надзея была на зыходзе, вера — тым больш. Яны былі перакананыя, што адзіным, што магло выратаваць іх і іх веру, было зьяўленьне Мэсіі. Гэтая чарада падзей падрыхтавала глебу для прыходу Хрыста.

Давайце завершым наш агляд сьвету, у каторы прыйшоў Ісус, прароцтвам, што Мэсія павінен быў узысьці, «як атожылак і як росьцік з сухой зямлі; няма ў Ім ні выгляду, ні велічы; і мы бачылі Яго, і ня было ў Ім выгляду, які вабіў бы нас да Яго» (Ісая 53:2). Бог усё падрыхтаваў да Яго прыходу: «калі споўніўся час, Бог паслаў Сына Свайго (Адзінароднага), Які нарадзіўся ад жанчыны і хадзіў пад законам…» (Да Галятаў 4:4). Але сэрцы людзей былі ўсе яшчэ, як сухая, запечаная зямля. З такога вось няветлага асяродзьдзя і павінен быў «узысьці» Хрыстос. Але ў канчатковым выніку рэлігія Ісуса мелася вырасьці і распаўсюдзіцца па ўсім сьвеце. Надышоў час Новага Запавету.




Нараджэньне Хрыста (1920). Антон Вольленек. Марка пошты Аўстрыі, выдадзеная ў 1994 годзе

Новы Запавет распавядае пра тое, як прыйшла надзея не толькі для габрэяў, але і для ўсіх народаў. Выкананьне Хрыстом прароцтваў было чаканым і прызналася многімі, хто шукаў Яго. «400 гадоў маўчаньня» былі парушаныя найвялікшай калі-небудзь расказанай гісторыяй — Эвангельлем Ісуса Хрыста!

# Пасьляслоўе

Біблія выступае ў форме анталёгіі, зборніка тэкстаў розных формаў, якія ўсе зьвязаны паміж сабой верай у тое, што яны разам утрымліваюць Слова Божае. Гэтыя тэксты ўключаюць тэалягічна арыентаваныя гістарычныя зьвесткі, гімны, прыпавесьці, дыдактычныя лісты, эротыку, пропаведзі, паэзію і прароцтвы... «У гэтай кнізе ўсёй прыроднай мудрасьці пачатак і канец: праз яе пазнаецца Бог Уседзяржыцель. У гэтай кнізе напісаны ўсе законы і правы, якімі людзі на зямлі павінны кіравацца. У гэтай кнізе ўсе лекі для душы і цела ў поўнай меры знойдзеце. Тут навучаньне філязофіі добрых паводзін, што мы павінны любіць Бога дзеля самога сябе і бліжняга дзеля Бога. Тут кіраваньне ўсякай грамадой людзкой і ўсякім горадам, каб вераю, узаемнай прыязнасьцю і згодаю памнажалася агульнае дабро» (Францыск Скарына). Спэцыфічная тэма гэтай кнігі не дазваляе ахапіць увесь зьмест Бібліі, бо не ўсё адлюстравана на паштовых марках. Таксама дыктуе форму паданьня зьместу. У выніку форма і зьмест упадаюць у супярэчнасьць і нараджаюць недасканаласьць. Ды і ўзьнікла яна першапачаткова, як прымяненьне мною мэтаду паралельнага вывучэньня, калі вывучэньню Бібліі дапамагае філятэлія, а стварэньне філятэлістычнай выставы немагчыма без вывучэньня Бібліі. Але, калі кагосьці з чытачоў мая кніга падштурхне да чытаньня Бібліі, ці да стварэньня філятэлістычнай выставы, я буду лічыць сваю працу не дарэмнай.

Наступная кніга прысьвечана зьместу Новага Запавету, гісторыі чалавецтва ад Нараджэньня Хрыста і да зьяўленьня Эвангельля — Добрай весткі. Запрашаю да чытаньня і другой кнігі, бо гэта толькі па форме дзьве кнігі, але па зьместу яны апіраюцца на адну Кнігу — БІБЛІЮ.

Прыслухайцеся да слоў Абрагама Лінкальна: «Я перакананы, што Біблія зьяўляецца найлепшым падарункам, якім Бог калі-небудзь надзяліў чалавека. Усё найлепшае ад Збавіцеля сьвету перадаецца нам праз гэтую Кнігу».

І вельмі важна прынізіць сябе і пазнаць Бога на самой справе, а не толькі ў тэорыі. Мы павінны зьмірыцца з тым, хто Ён ёсьць, а не толькі з тым, кім мы хочам, каб Ён быў...

«Будзь мне трывалым прыстанішчам, куды я заўсёды мог бы схавацца; Ты наказаў ўратаваць мяне, бо цьвярдыня мая і моцнасьць мая — Ты» (Псалтыр 71:3).



# Крыніцы


Біблія. Кнігі Сьвятога пісаньня Старога і Новага Запавету. Кананічныя. У беларускім перакладзе Васіля Сёмухі.

Библия пересказанная детям старшего возраста. Сост. София Дустунис. ТОО МП «А-Я», 1993

Библейские сюжеты в искусстве. DirectMedia. ООО Питлэнд. Москва, Зеленоград, 2007.

Араповіч Барыслаў і Маццёлмякі Вера. Дзіцячая Біблія. Інстытут перакладу Бібліі, Стакгольм, 1992.

Бутромеев Владимир. Чудеса Господа Бога нашего Иисуса Христа. Москва, 2010.

Величайшие шедевры мировой культуры. Автор сценария: Тим Марлоу. Диск.1994.

Музеи Ватикана. Москва — Санкт-Петербург, 2007.

Культуралогія. Энцыклапедычны даведнік. Дубянецкі Э. С. Мн.: БелЭн, 2003

Популярная Библейская энциклопедия. Под редакцией Тима Даули. Российское Библейское общество, Москва, 2006

Святая земля Иисуса. Дон Ахен. Доко Медиа. 2008

Священная история Нового Завета в шедеврах мирового искусства в пересказе священника И. С. Виноградова. Москва — Санкт-Петербург, 2004.

Электронная Библейская энциклопедия. «ДиректМедиа» Москва, 2005.

Юлиус Шнорр фон Карольсфельд. Библия в иллюстрациях. Карнталь: «Свет на Востоке», 2002.

Albrecht Dürer. Życie Maryi. Opracował ks. Michał Janocha. OVO CARITAS

Archidiecezji Warszawskiej, 1991.

Biblia w malarstwie. Warszawa, 1990.
Comlete GUIDE to the BIBLE. Reader's

Digest. New York/Monreal 1998

Jezus historii a Chrystus wiary. Ks/ Józef Kudasiewicz. Redakcja Wydawnictw

Katolickiego Uniwersytetu Lubelskiego, Lublin 1987

Uświęceni w prawdzie. Georges Cottierop. «W drodze» Poznań 1996

Wielkie Muzea. Pinakoteka Brera, Mediolan. Rzeczpospolita HPS 2007

Библейские сюжеты в искусстве:

https://vk.com/wall-43760121?own=1&offset=360

Библейский Израиль Библейские сюжеты на почтовых марках.

http://myisrael.at.ua/index/0-583

Біблія Онлайн: https://www.bibleonline.ru/bible/bel/

Каталог StampWorld: https://www.stampworld.com/ru/

Лопухин Александр Павлович. Толковая Библия.

https://azbyka.ru/otechnik/Lopuhin/tolkovaja_biblija_nz/

Мировая живопись — библейские сюжеты:

https://www.liveinternet.ru/community/1726655/post263768242/

Obrazy o tematyce biblijnej: https://biblia.wiara.pl/doc/422837

# Зьмест

